# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ПРЫ АЛЬГЕРДЗЕ (1377 г.)




Аўтары карты: Сцяпан і Віктар Цемушавы

Аляксандр Краўцэвіч

# Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага

## 1248 - 1377 г.



АЛЯКСАНДР КРАЎЦЭВІЧ

# ГІСТОРЫЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

## АД ПАЧАТКУ ГАСПАДАРСТВА ДА КАРАЛЕЎСТВА ЛІТВЫ І РУСІ (1248 – 1341 г.)

## ДУУМВІРАТ АЛЬГЕРДА І КЕЙСТУТА ГЕДЫМІНАВІЧАЎ (1341 – 1377 г.)



ГАРОДНЯ-УРОЦЛАЎ 2015




*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся. Дзякуем усім, хто з намі.*

**facebook: knihizhrodna**
**twitter @KnihiZhrodna**

---

**Каардынатар кніжнай серыі «ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»:**
Павал Мажэйка
**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

---

**"Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248-1377 г." Аляксандра Краўцэвіча** – чарговае выданне кніжнай серыі ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА.

Кніга 1: **Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 – 1341 г.)**
Першыя этапы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (1248 – 1341 г. – стварэнне дзяржавы, змаганне за выжыванне, пачатак тэрытарыяльнага росту) прадстаўленыя ў еўрапейскім і беларускім гістарычным кантэксце. Тэкст навуковы, дапоўнены даведкавым апаратам, разлічаны на гісторыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх зацікаўленых гісторыяй.
**Навуковы рэдактар:** доктар гістарычных навук Валянцін Голубеў
**Рэцэнзенты:** доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук,
кандыдат гістарычных навук Васіль Варонін
**Карэктар:** Валянціна Жук

Кніга 2: **Дуумвірат Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў (1341 – 1377 г.)**
Працяг дзеяў Вялікага Княства Літоўскага прысвечаны гаспадаранню дуумвірата Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў. Тэкст забяспечаны навуковым апаратам, разлічаны не толькі на гісторыкаў, але і на настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх аматараў гісторыі.

**Рэцзнзенты:** доктар гістарычных навук Валянцін Голубеў
доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук
старшы выкладчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Андрэй Радаман
**Карэктар:** Кася Крот
**Дызайн вокладкі:** Іван Паўлёнак
**Вёрстка:** Іван Паўлёнак
**Шрыфт на вокладцы:** Statut, аўтар Дзяніс Серабракоў (www.dsgn.by)
**На вокладцы:** рэканструкцыя пячаткі Міндаўга; пячатка Кейстута; пячатка Альгерда

ISBN 978-83-7893-121-8
Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego we Wrocławiu
www.kew.org.pl
Друкарня: Wrocławska Drukarnia Naukowa PAN im. Stanisława Kulczyńskiego Sp. z o.o.


Rzeczpospolita Polska
Ministerstwo
Spraw Zagranicznych

З'яўленне кнігі сталася магчымым у выніку супрацы «ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ» з Калегіумам Усходняй Еўропы імя Яна Новака-Езяраньскага ва Уроцлаве і Дэпартаментам публічнай і культурніцкай палітыкі Міністэрства замежных справаў Польшчы ў межах конкурсу «Сумесная польска-беларуская дзейнасць». Кніга прадстаўляе погляды аўтара і не з'яўляецца афіцыйнай пазіцыяй Міністэрства замежных справаў Польшчы.

# Змест



# Кніга 1

## Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 – 1341 г.)

**II. “КАРАЛЕЎСТВА ЛІТВЫ І РУСІ”. ГАСПАДАРАННЕ ГЕДЫМІНА (1316 – 1341 г.)**

# Кніга 2

## Дуумвірат Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў (1341 – 1377 г.)

# Уступ

Вялікае Княства Літоўскае (скарочаная назва "Літва", больш поўная – "Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае і іншых"[*]) дзейнічала на еўрапейскай палітычнай арэне амаль пяць з паловай стагоддзяў – ад высокага сярэднявечча да навейшага часу (1248 – 1795 г.).

[*] Назва "**Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае**" адлюстроўвае тры асноўныя тэрытарыяльныя складнікі дзяржавы, а чарговасць іх пераліку – храналагічны парадак далучэння да ядра, цэнтральнай вобласці дзяржавы – **Літвы** (складалася з Наваградчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны і заходняй часткі Меншчыны): **Русі,** г. зн. Беларускага Падзвіння, Падняпроўя, Палесся – у 13 – 14 ст., **Жамойці** – у 15 ст. Пад акрэсленне "Рускае" траплялі таксама ўкраінскія землі, далучаныя ў 14 ст.

Пасля ліквідацыі – у выніку падзелаў канфедэрацыйнай Рэчы Паспалітай – ВКЛ не знікла цалкам з міжнароднай палітыкі. У 19 ст. неаднойчы ствараліся праекты яго адраджэння, некалькі мадэрных[1] нацыянальных дзяржаў у навейшы час выводзілі з яго свае пачаткі і абгрунтаванне тэрытарыяльных прэтэнзій.

Сёння ВКЛ складае эпоху ў гісторыі некалькіх народаў і займае адметнае месца ў агульнаеўрапейскім дзеяпісанні. У беларускай гістарычнай традыцыі ВКЛ выступае прадаўжальнікам дзяржаўнасці Полацкага, Тураўскага княстваў і адным з важнейшых чыннікаў нацыянальнага будаўніцтва.

У доўгай і складанай гісторыі дзяржавы, багатай як на буйныя перамогі, так і цяжкія паразы, добра відная храналагічная цэзура – 1569 г. У тым годзе была прынятая Люблінская унія ВКЛ з Польскім каралеўствам, названая польскай гістарыяграфіяй "рэальнай", у адрозненне ад папярэдніх "персанальных" уній. Гэтая падзея аказалася важнейшым рубяжом не толькі ў палітычнай гісторыі краіны, але і ў яе культурным, канфесійным і нацыянальным жыцці.

Люблінская унія падзяліла гісторыю ВКЛ на два буйныя перыяды:

1. **ВКЛ – незалежная дзяржава** (сярэдзіна 13 – сярэдзіна 16 ст.). Нараджэнне, умацаванне, уладкаванне ўстрою гаспадарства. Перыяд самастойнасці.

2. **ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай** (сярэдзіна 16 – 18 ст.). Канфедэрацыя з Польшчай, нарастанне польскага палітычнага і культурнага ўплыву. "Пагоня ў цені белага арла".

У далюблінскі "самастойны" перыяд жыцця ВКЛ адбывалася нараджэнне, сталенне і росквіт дзяржавы. Па аналогіі з чалавечым жыццём то былі часы "дзяцінства", "маладосці" і "сталасці". Пасля Люблінскага акту пачалася доўгая "старасць", у якой ужо не здараліся імклівыя ўздымы, а заставалася толькі падтрыманне ранейшага ладу і павольнае, але няўхільнае згасанне.

[1] "*Мадэрная ідэя нацыі як супольнасці носьбітаў адной мовы*" – Снайдэр Т. Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569 – 1999. Мн.: Медысонт, 2010. С. 45.

Названы рубеж, як і любая храналагічная цэзура, дастаткова ўмоўны, бо новыя з'явы і тэндэнцыі ў гісторыі рэдка праяўляюцца знянацку, найчасцей яны выводзяцца з папярэдніх эпохаў. Умоўнасці дадае яшчэ адна акалічнасць – перыяды палітычнага жыцця ВКЛ не цалкам супадалі з эканамічнымі і дэмаграфічнымі цыкламі, якія мелі больш універсальны агульнаеўрапейскі характар. Напрыклад, у першай палове 16 ст. дзяржава перажывала сур'ёзны крызіс, выкліканы маскоўскімі войнамі (што і змусіла яе да уніі з Польшчай), а гаспадарка і культура ў той самы час былі на ўздыме (як і па ўсёй Еўропе).

* * *

Гэтая праца – частка большай сінтэзы палітычнай гісторыі ВКЛ, яна ахоплівае прамежак часу ад узнікнення дзяржавы да пачатку яе тэрытарыяльнага росту пры вялікіх князях Віцені і Гедыміне. Тэкст створаны на аснове вывучэння, галоўным чынам, апублікаваных пісьмовых крыніц, а таксама спецыяльных прац, прысвечаных асобным аспектам тэмы.

У Беларусі ў апошнія дзесяцігоддзі назіраецца рост цікавасці да гісторыі ВКЛ і попыту на адпаведную літаратуру. На жаль, па прычыне маладосці і слабасці прафесійнага асяродку даследчыкаў ВКЛ гэты попыт задавальняецца не творамі спецыялістаў-гісторыкаў, а папулярнай літаратурай, часта створанай на аснове падыходаў і прыёмаў, далёкіх ад акадэмічных.

Найбольш грунтоўнай сінтэзнай працай акадэмічнага характару з'яўляецца другі том шасцітомнай гісторыі Беларусі пад назвай "Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага", напісаны прафесійнымі гісторыкамі (Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: "Экаперспектыва", 2008).

Мая праца, пры пэўнай розніцы атрыманых вынікаў з вышэйназванай, таксама прэтэндуе на акадэмічны падыход, чаму мае служыць, акрамя іншага, навуковы апарат: спасылкі на працы іншых даследчыкаў, спіс выкарыстанай літаратуры, імянны і геаграфічны паказальнікі, карта тэрыторыі ВКЛ. Фармальна гэтая праца – першая ў краіне навуковая сінтэза гісторыі ВКЛ, але яна таксама ўкладаецца ў кантэкст гісторыі Беларусі, як адзін з важнейшых яе этапаў.

Выказваю глыбокую ўдзячнасць за парады і дапамогу пры падрыхтоўцы працы прафесару Юрасю Бохану, дызайнеру Юрыю Кубараву.

## ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫІ ВКЛ ЭПОХІ САМАСТОЙНАСЦІ (1248 – 1569 г.)

Далюблінскую гісторыю ВКЛ можна падзяліць, паводле крытэрыю значнасці пераменаў, на чатыры этапы:

**І этап: 1248 – 1315 г. Стварэнне і станаўленне ВКЛ.** Працягваўся ад узнікнення дзяржавы пры Міндаўгу да канца гаспадарання Віценя.

Гаспадарства імкнулася выжыць ва ўмовах войнаў з Галіцка-Валынскім княствам і Інфлянцкім ордэнам; потым – унутранага крызісу, выкліканага забойствам Міндаўга; пазней – у супрацьстаянні з аб'яднаным Тэўтонскім ордэнам. Адносная стабілізацыя была дасягнутая пры Трайдэне, наступных за ім, невядомых па імёнах гаспадарах, потым пры Пукуверы і Віцені. З пачатковым ядром дзяржавы – гістарычнай Літвой, паступова "зліваліся" палітычна і адміністрацыйна Тураўская, Пінская і Берасцейская землі.

**ІІ этап: 1316 – 1422 г. Тэрытарыяльны і палітычны рост.** Распачаўся ад гаспадарання Гедыміна, закончыўся з далучэннем Жамойці.

Кіраванне Гедыміна стала пераломным у гісторыі дзяржавы. Пры ім непасрэдная тэрыторыя ВКЛ павялічылася больш чым утрая; яшчэ шырэй сягнула зона палітычнага ўплыву – на Пскоўскую, Смаленскую, Кіеўскую землі, Севершчыну, Вярхоўскія княствы. Пры дуумвіраце Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў тэрыторыя гаспадарства

павялічылася на Падолле і Валынь. Вітаўт Кейстутавіч далучыў Смаленскую зямлю і Жамойць, ажыццявіў цэнтралізацыю дзяржавы шляхам ліквідацыі буйных удзелаў князёў Гедымінавічаў; пры ім ВКЛ дасягнула зеніту палітычнай моцы, стаўшы гегемонам Усходняй Еўропы. Агульную тэндэнцыю ўздыму істотна не парушыў часовы падзел краіны Гедымінам між сынамі, гэтаксама, як змаганне за вярхоўную ўладу між Вітаўтам і Ягайлам (1380 – 1392 г.) ды часовая унія з Польскім каралеўствам (Крэва – 1385 – 1392 г.).

**III этап: 1422 – 1492 г. Стабілізацыя і стагнацыя.** Працягваўся ад далучэння Жамойці да першай вайны з Маскоўскай дзяржавай.

Пасля непрацяглых унутраных звадаў, звязаных з барацьбой за ўладу паміж Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам, наступіў доўгі спакойны перыяд унутранай стабілізацыі і спаду актыўнасці ў міжнароднай палітыцы. Пры гаспадаранні Казіміра Ягайлавіча (1440 – 1492 г.) стабілізацыя перайшла ў стагнацыю, ВКЛ пaступова страціла дамінуючую пазіцыю ва Усходняй Еўропе на карысць Масквы. Змену гегемона ў рэгіёне зацвердзілі вынікі першага буйнога маскоўска-ліцвінскага збройнага сутыкнення – вайны 1492 – 1494 г., распачатай Маскоўскай дзяржавай.

**IV этап: 1492 – 1569 (1582) г. Супрацьстаянне з Маскоўскім княствам.** Пачаўся ад першай буйной вайны з Масквой, закончыўся Люблінскай уніяй з Польскім каралеўствам. Таксама ў канцы 1560-х гадоў была дасягнутая раўнавага сілаў у Інфлянцкай вайне, якая закончылася ў 1582 г. паразай Масквы.

Дамінантай палітычнага жыцця краіны стала арганізацыя абароны перад маскоўскай агрэсіяй. Серыя войнаў, пры агульнай перавазе Масквы, прывяла да вымушанай уніі з Польскім каралеўствам, у выніку якой ВКЛ страціла Украіну і Падляшша, а таксама значную частку дзяржаўнага суверэнітэту.

* * *

Як звычайна бывае ў гісторыі, палітычная храналогія не тоесная перыядызацыі эканамічнага і культурнага жыцця. Напрыклад, у адрэзак часу паміж 1240 г. (напад манголаў на Русь) і 1385 г. (Крэўская унія) адбывалася пераарыентацыя земляў Украіны, Беларусі і Летувы з візантыйскай на заходнееўрапейскую цывілізацыю[2]. Найперш змены сталі заўважнымі ў матэрыяльнай культуры (будаўніцтва гатычных абарончых вежаў, з'яўленне новых еўрапейскіх катэгорый матэрыяльнай культуры: узораў узбраення, кафлі, дахоўкі, манеты – пражскага гроша), потым – у ідэалогіі (хрышчэнне ў каталіцтва першага гаспадара ВКЛ Міндаўга, дэкларацыя прыняцця каталіцтва Віценем, Гедымінам, Альгердам, урэшце – хрышчэнне і дзяржаўная пратэкцыя каталіцтву Ягайлы з 1387 г.).

У другой палове 14 – першай палове 15 ст. у Еўропе разгортваўся буйны дэмаграфічны крызіс (эпідэмія бубоннай чумы – "Чорная смерць", спад вытворчасці сельскай гаспадаркі), які не абмінуў і земляў ВКЛ. З матэрыялаў археалагічных даследаванняў вядома пра істотнае змяншэнне колькасці сельскіх паселішчаў (напрыклад, на Беларусі выяўлена вельмі мала селішчаў 14 ст.) і значна меншую інтэнсіўнасць гарадскога жыцця[3].

У 16 ст. на культурнае і мастацкае жыццё істотна паўплывалі Рэфармацыя і Контррэфармацыя (з канца стагоддзя), а на гаспадарку – аграрная рэформа – Валочная памера.

Важным рубяжом не толькі ў рэлігійным жыцці краіны, але і ў іншых сферах грамадскай дзейнасці стала Берасцейская царкоўная унія 1596 г.

---

[2] Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс: ЕГУ, 2011. С. 33 – 52.

[3] Соболь В.Е. О хронологии культурного слоя Минска позднефеодального периода [в:] Древнерусское государство и славяне. Мн.: Наука и техника, 1983. С. 75; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст.: планіроўка, культурны слой. Мн.: Навука і тэхніка, 1991. С. 149.

У першай палове 16 ст., калі дзяржава перажывала крызіс, звязаны з маскоўскімі войнамі, гаспадарка і культура знаходзіліся на стадыі ўздыму, што дазволіла сучасным даследчыкам назваць 16 ст. "залатым векам" Беларусі.

Толькі пазней, у сярэдзіне 17 ст., крызіс стаў усеагульным – ахапіў усе сферы грамадскага жыцця (знішчальныя войны з казакамі, Масквой, Швецыяй, Турцыяй; контррэфармацыя, дэградацыя палітычнай сістэмы "шляхецкай дэмакратыі" і фальваркова-паншчыннай гаспадаркі, узмоцненая ваеннымі спусташэннямі, паланізацыя сацыяльных вярхоў), працягнуўся праз усё 18 ст., давёўшы краіну да пагібелі.

## ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ ЗАЎВАГІ

Развіццё гістарыяграфіі ВКЛ у 19 – 20 ст. праходзіла пад мацнейшым уплывам нацыянальных ідэалогій – расейскай, польскай, летувіскай, беларускай і ўкраінскай. Ва ўмовах фармавання ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе сучасных нацыянальных рухаў, якія імкнуліся абаперці праграмы будовы ўласнай дзяржавы на традыцыі ранейшай сярэднявечнай дзяржаўнасці, ішло змаганне за спадчыну ВКЛ. Поліэтнічная дзяржава прадстаўлялася як нацыянальная – у кожнай краіне па-свойму.

Адным з наступстваў "нацыяналізацыі" спадчыны ВКЛ стала пэўная тэрміналагічная блытаніна. Галоўнае непаразуменне – неадэкватнае выкарыстанне паняцця "**Літва**", менавіта, неправамернае атаясамленне гэтага гістарычнага тэрміна з сучаснай краінай – паўночнай суседкай Беларусі, якая мае саманазву Летува (Lietuva). Па розных ненавуковых, найчасцей ідэалагічных, прычынах, усе згадкі ў гістарычных крыніцах тэрміна "Літва" часта адносяць да сучаснай Летувы, хоць у большасці выпадкаў яны датычыліся этнічных беларускіх (а часткова і ўкраінскіх) земляў. Адпаведна, гісторыя даўняй Літвы, як і ўсяго ВКЛ, часам разглядаецца як выключна летувіская гістарычная спадчына, што не адпавядае рэчаіснасці.

**Літва.** Тэрмін паходзіць ад назвы сярэднявечнага балцкага племя (літва, літоўцы), якое займала тэрыторыю ў басейне правых прытокаў Нёмана, пераважна ракі Віліі. Назвай гэтага памежнага племя ўсходнія славяне акрэслівалі іншыя роднасныя літве плямёны, размешчаныя далей ад памежжа са славянамі. Надаванне назвы краіне па імю пагранічнай зямлі – распаўсюджаная ў гісторыі з'ява (гл. Лингвистический энциклопедический словарь. Москва, 1990. С. 598), у тым ліку ў Прыбалтыцы. Бліжэйшыя прыклады – Прусія і Лівонія (Інфлянты). Апошні выпадак найбольш паказальны, бо пераважна балцкая краіна атрымала назву ад вугра-фінскага племя ліваў, якое нямецкія каланісты першым спаткалі падчас высадкі ў вусці Дзвіны.

**У 11 – 13 ст. назва "Літва" распаўсюдзілася на ўсё Верхняе і Сярэдняе Панямонне (сённяшнія Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына, заходняя частка Меншчыны) – вобласць са змешаным балта-славянскім насельніцтвам**. У гэтым рэгіёне, называным у сучаснай навуковай гістарыяграфіі **"Літва ў вузкім сэнсе"**, **"уласна Літва"**, **"гістарычная Літва"**, у 13 ст. утварылася ВКЛ. Да канца існавання дзяржавы "Літва ў вузкім сэнсе" ("уласна Літва") заставалася галоўнай, цэнтральнай яе вобласцю. На працягу 2-га тыс. н. э. тэрмін "Літва" выступаў у трох значэннях:

1. **Палітонім**, ці абазначэнне ўсёй дзяржавы – ВКЛ; 2. **Харонім**, ці "Літва ў вузкім сэнсе" (тэрмін уведзены Мацеем Любаўскім) – гістарычны цэнтр дзяржавы; 3. **Літва ў сэнсе этнаграфічным** (этнаграфічна балцкім) (гл.: Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Seria II. T. 59. Kraków, 1916. S. 215 – 216; Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: Выш. школа публічнай адміністрацыі, 2008. С. 97.)

За час існавання ВКЛ на працягу 13 – 18 ст. **"уласна Літва"** праз працэс балта-славянскіх кантактаў набыла пераважна беларускі этнічны характар. У сучаснай Беларусі выдзяляецца як асобны гісторыка-этнаграфічны рэгіён "Панямонне" (Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994. С. 258 – 279.)

Найбольш дакладнае геаграфічнае акрэсленне "ўласна Літвы" зрабіў Міхаіл Спірыдонаў: "*Выкладзеныя даныя дазваляюць сцвярджаць, што ў 16 ст. сучаснікі адносілі да Літвы перш за ўсё этнічна летувіскія Віленскі, Вількамірскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы, а таксама поўнасцю ці часткова "беларускія" паветы ВКЛ: Браслаўскі, Віленскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, заходнюю частку Менскага, большую частку Наваградскага, амаль увесь Ашмянскі і Слонімскі*". Мяжу між Літвой і Руссю "ў найбольш агульным выглядзе", на думку Спірыдонава, можна правесці па 28 мерыдыяне ад Грынвіча (Спиридонов М.Ф. "Литва" и "Русь" в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 208 – 209.)

Паняцце "Літва" прайшло доўгую і складаную эвалюцыю, якая заняла амаль тысячагоддзе – ад 11 ст. (першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах – 1009 г.) да 20 ст. Напачатку так называлася тэрыторыя балцкага племя, гэтаксама, як і само племя ("Літва" – паводле Галіцка-Валынскага летапісу; "littowen" – у Старэйшай інфлянцкай рыфмаванай хроніцы) на пагранiччы з Полацкай зямлёй (Менскім княствам). Па меры разгортвання славянскай каланізацыі ў 12 – 13 ст. назва "Літва" распаўсюдзілася на ўсё Верхняе і Сярэдняе Панямонне, дзе жыло мешанае балта-славянскае насельніцтва, якое праз працэсы культурнага ўзаемадзеяння эвалюцыянавала ў беларускі этнас. Менавіта гэтая тэрыторыя (у агульных рысах то сённяшнія Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына і заходняя частка Меншчыны) стала месцам утварэння ВКЛ, пазней заставалася галоўнай, цэнтральнай вобласцю дзяржавы (іншыя вобласці: Русь, Жамойць, Палессе, Падляшша, Валынь, Кіеўшчына і Падолле[4]). Пасля яе ліквідацыі ўспрымалася як рэгіён у Расейскай імперыі (напрыклад, гарады Мінск-Літоўскі, Брэст-Літоўскі), а потым – як гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі[5]. У навуковай гістарыяграфіі яна выступае як **уласна Літва, Літва ў вузкім сэнсе, Гістарычная Літва**.

За межамі ВКЛ **Літвой** называлі ўсю дзяржаву, а літоўцамі ці ліцвінамі (літвінамі) звалі ўсіх яе жыхароў, незалежна ад этнічнай прыналежнасці і месцажыхарства (ад Жамойці да Падолля і ад Падляшша да Смаленшчыны).

У другой палове 19 – пачатку 20 ст. гэтую назву пераняў для сваёй краіны (Lietuva) нацыянальны рух, які сфармаваўся галоўным чынам на этнічнай аснове Жамойці. На працягу міжваеннага дваццацігоддзя гістарыяграфія незалежнай летувіскай дзяржавы манапалізавала гістарычную спадчыну ВКЛ (у якім яе землі складалі каля 10%

[4] Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1. С. 9.

[5] Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994. С. 258 – 279.

тэрыторыі, а летувіская мова не мела дзяржаўнага статусу). Беларуская і ўкраінская гістарыяграфіі ў той час не маглі свабодна развівацца па прычыне адсутнасці ўласных незалежных дзяржаваў, таму ў дыскусіі не ўдзельнічалі. Навуковая гістарыяграфія ВКЛ у гэтых краінах пачала актыўна фармавацца толькі пасля здабыцця імі незалежнасці ў 90-я гады 20 ст. На сённяшні дзень па ўсім свеце надалей мае шырокае распаўсюджанне (у тым ліку дзякуючы высілкам сучаснай летувіскай гістарыяграфіі) памылковае стэрэатыпнае атаясамленне гістарычнай Літвы з сучаснай Летувай, а гісторыі ВКЛ (у першую чаргу палітычнай) – з гісторыяй гэтай краіны.

Каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны і забяспечыць чытачу адэкватнае ўспрыманне гістарычнай інфармацыі, у гэтай працы прынятыя тэрміны:

– **літоўцы** – адносіцца выключна да прадстаўнікоў сярэднявечнага балцкага племя 12 – 13 ст. (летапісная “Літва”, у нямецкіх хроніках – “littowen”);

– **ліцвіны** (літвіны) – гістарычная назва жыхароў цэнтральнай вобласці ВКЛ, а таксама ўсіх насельнікаў дзяржавы, незалежна ад іх этнічнага паходжання;

– **русіны** – жыхары ўсходнеславянскіх земляў ВКЛ, а таксама праваслаўныя ва ўсёй дзяржаве;

– **летувісы** (lietuviai), іх краіна – **Летува** (Lietuva) – адпаведнік аўтаэтноніма (саманазвы[6]) гістарычных нашчадкаў сярэднявечных літоўцаў, сучасных паўночных суседзяў беларусаў.

Апошнія паняцці, як і сучасныя тэрміны “**беларусы”, “Беларусь”** ужываюцца таксама ў выпадку іх праекцыі на папярэднія эпохі (напрыклад, “летувіскія/беларускія землі ў сярэднявеччы”).

Паралельна выкарыстоўваюцца тэрміны “Лівонія” і “Інфлянты”. Першы перайшоў да нас з расейскай гістарыяграфіі, другі ўжываўся ў летапісах і дакументах ВКЛ і сёння прысутнічае ў спецыяльных працах.

У дакументах ВКЛ часта сустракаецца тэрмін “гаспадар”, як тытул вялікага князя літоўскага, і выводныя з яго: “гаспадарства”, “гаспадарскія землі”, “гаспадарскія замкі” і г.д., таму гэтыя паняцці выкарыстоўваюцца і ў маёй працы.

---

[6] *“Сучасныя Л. называюць сваю краіну Летувай, а сябе – летувісамі, і гэтыя назвы з’яўляюцца больш дакладнымі і гістарычна апраўданымі, чым “Літва” і “літоўцы”, якія на працягу некалькіх вякоў ужываліся ў адносінах да Беларусі”* – Народная культура Беларусі: Энцыкл. даведнік. Мн.: БелЭн, 2002. С. 222.

# Кніга 1

## Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 - 1341 г.)

# I. ПАЎСТАННЕ І МАЦАВАННЕ ДЗЯРЖАВЫ НА ПАНЯМОННІ (1248 – 1315 г.)

# Глава 1. Пачатак гаспадарства. Узнікненне Вялікага Княства Літоўскага

### 1.1. ЕЎРАПЕЙСКІ КАНТЭКСТ

Сучасную Еўропу запачаткавала **Вялікае перасяленне народаў**, асноўныя падзеі якога разгортваліся ў 5 – 10 ст., але пачаткі сягалі ў Антычнасць. Сярод непарыўных перамяшчэнняў і перасяленняў розных плямёнаў вылучаліся тры вялікія міграцыйныя хвалі: германцаў (5 – 6 ст.), славян і арабаў (7 – 9 ст.), вікінгаў і венграў (канец 8 – 10 ст.). Германская міграцыя, між іншым, закранула землі будучага ВКЛ, а славянская непасрэдна прычынілася да стварэння самой дзяржавы і сфармавала яе этнічную аснову. Германская прысутнасць (помнікі Вельбарскай культуры – галоўныя носьбіты готы, а таксама гепіды, вандалы, бургунды і інш.[7]) на Беларусі расцягнулася ад апошняй чвэрці 2-га да 4-га ст. уключна, і пакінула пасля сябе не толькі матэрыяльныя помнікі, але і сляды ў этнаніміі Заходняга Палесся[8].

**Вялікае перасяленне народаў**. Буйнейшая еўрапейская міграцыя (асноўныя яе падзеі адбываліся ў 5 – 10 ст.), пачалася па нявысветленых прычынах, кардынальна змяніла этнічную мапу Еўропы і запачаткавала яе сучасны нацыянальны і палітычны кшталт.

Зафіксаваныя тры буйныя і некалькі меншых міграцыйных хваляў. Спачатку ў 5 – 6 ст. праз Еўропу з поўначы на поўдзень ад Скандынавіі да Паўночнай Афрыкі прайшлі германскія плямёны ды заваявалі большую частку Італіі, Іспаніі, брытанскіх выспаў і Паўночную Афрыку. Пад іх націскам у 5 ст. загінула Заходняя Рымская імперыя.

У 6 – 7 ст. пачалася вялікая міграцыя славянаў з іх прарадзімы, якую даследчыкі акрэсліваюць у басейне Віслы, у трох галоўных кірунках: на захад, поўдзень і ўсход, што прывяло да фармавання трох галінаў славянскай моўнай сям'і.

У пачатку 8 ст. увесь Іберыйскі паўвостраў трапіў пад арабскае панаванне.

Рэгулярныя напады (потым перасяленні) нарманаў – вікінгаў (варагаў) ад канца 8-га да 10-га ст. сягалі ад Волгі да Атлантыкі.

Апошнімі ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе ў другой палове 10 ст. пасяліліся венгры, прывандраваўшыя сюды з-пад Урала.

Пяць стагоддзяў ад 476 г. (падзенне Заходняй Рымскай імперыі) да 1000 г. (канец 1 тыс.) склалі рашаючы перыяд фармавання новага этнічнага і палітычнага аблічча Еўропы. На яе тэрыторыі на стала пасяліліся плямёны, якія далі пачатак новым дзяржавам і сучасным еўрапейскім народам. Вялікае перасяленне прывяло да падзелу Еўропы

[7] Godłowski K. Przemiany kulturowe i osadnicze w południowej i środkowej Polsce w młodszym okresie przedrzymskim i okresie rzymskim. Wrocław, 1985.

[8] Клімчук Ф. Заходнепалескі этнонім гідуны // Беларусь у сістэме трансеўрапейскіх сувязяў у I тысячагоддзі н.э. Мн., 1996. С. 43 – 45.

на раздроблены Захад, пад дзеяннем германізацыі і ўплыву лацінскай культуры, і на пановаму выкшталтаваны Усход, пад уплывам славянскіх і грэцкай (Візантыі) культураў. У выніку, традыцыйная еўрапейская канфрантацыя: **Паўднёвая** (міжземнаморская, грэка-рымская) – **Паўночная** (варварская) Еўропа паступова замянілася супярэчнасцю: **Усход – Захад**[9].[*]

[*] *"Захад паглядае ў бок Рыма, Усход – у бок Канстанцінопаля. Багаты на наступствы падзел быў зроблены ў 9 ст. н.э. у выніку евангелізацыйнай дзейнасці святых Кірылы і Мяфодзія, якія такім спосабам акрэслілі будучы кшталт усходняга свету, свету праваслаўнага.*

*З часам на гэты падзел накладзецца падзел паміж Поўначчу і Поўднем, выкліканы пратэстанцтвам, якое, на што варта звярнуць увагу, "раэдзярэ" хрысціянства амаль дакладна ўздоўж ліній даўніх рымскіх limes* (умацаваных межаў – А.К.)".

Braudel Fernand. Gramatyka cywilizacji. Warszawa: Oficyna naukowa, 2006. S. 332.

Украінскія, беларускія, а праз іх і летувіскія землі трапілі ў зону візантыйскага ўплыву. Потым, пачынаючы ад сярэдзіны 13 ст. і пазней у складзе ВКЛ, будучыя Украіна, Беларусь і Летува паступова сталі часткай Захаду, менавіта рэгіёну **"Цэнтральна-Усходняя Еўропа"**, пры гэтым захоўваючы даўнюю ўласную традыцыю, сфармаваную пад візантыйскім уплывам.

**Цэнтральна-Усходняя Еўропа**. Рэгіён Еўропы, усходняя частка заходнееўрапейскага цывілізацыйнага арэалу, дзе развіццё гістарычнага працэсу праходзіла з уласнымі адметнасцямі. У мінулым абшар ЦУЕ складаўся з каралеўстваў: Чэшскага, Венгерскага, Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Сёння тут размешчаны краіны: Польшча, Летува, Беларусь, Украіна – на поўначы ад горнай лініі Судэтаў і Карпатаў; Чэхія, Славакія, Венгрыя, Харватыя, Славенія, значная частка Румыніі (Сяміграддзе) – на поўдзень ад названых гор.

Historia Europy Środkowo-Wschodniej. /red. Jerzy Kłoczowski. Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2000. T. 1. S. 7 – 10.

* * *

Пачаткі ВКЛ прыйшліся на сярэдзіну 13 ст., а месцам дзеі стала Верхняе і Сярэдняе Панямонне (Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына). Узнікненне тут новай дзяржавы было выклікана супадзеннем у часе і прасторы розных чыннікаў як мясцовага, так і агульнаеўрапейскага значэння. У 13 ст. дасягнуў вяршыні еўрапейскі дэмаграфічны ўздым – самая значная тагачасная з'ява і адначасова этап аднаго з **дэмаграфічных цыклаў Еўропы**.

**Дэмаграфічныя цыклы Еўропы**. Заўважана, што пасля працяглых перыядаў дэмаграфічнага росту ў Еўропе заўсёды надыходзіў перыяд стагнацыі або зніжэння колькасці насельніцтва. Усяго даследчыкі выдзелілі чатыры еўрапейскія цыклы (ранейшыя вызначыць не ўдаецца па прычыне адсутнасці крыніц):

[9] Carpentier J., Lebrun F. Historia Europy. Warszawa, 1994. S. 95.

**першы** – 10 – 14 ст. (10 ст. – пачатак росту, 13 ст. – вышэйшы пункт уздыму, першая палова 14 ст. – стагнацыя, другая палова 14 ст. – спад); **другі** – 15 – 17 ст. (сярэдзіна 15 ст. – пачатак росту; 16 ст. – вяршыня; 17 ст. – спад); **трэці** цыкл – сярэдзіна 18 ст. – Другая ўсясветная вайна (рост колькасці насельніцтва, запачаткаваны каля сярэдзіны 18 ст., затрыманы Першай і Другой усясветнымі войнамі); **чацвёрты** цыкл, ужо ў глабальным маштабе, пачаўся пасля Другой усясветнай вайны.

Cameron Rondo. Historia gospodarcza świata. Warszawa, 1996. S 24.

Рост колькасці насельніцтва распачаўся ў 10 ст., калі заканчвалася Вялікае перасяленне народаў і выкліканыя ім забурэнні ды спусташэнні. Потым сітуацыя стабілізавалася, што паспрыяла дэмаграфічнаму ўздыму, які працягваўся тры стагоддзі – ад 10 да пачатку 14 ст.

Каля 1000 г. колькасць насельніцтва ў Заходняй Еўропе складала недзе 12 – 15 млн., а ва ўсёй хрысціянскай Еўропе (без Візантыйскай імперыі) – гэта значыць з Нарвегіяй, Швецыяй і большай часткай Усходняй Еўропы – прыблізна 18 – 20 млн. У пачатку 14 ст. на тэрыторыі Заходняй Еўропы жыло ўжо 45 – 50 млн. чалавек, а ва ўсёй Еўропе – 60 – 70 млн. З прыведзеных лічбаў відаць, што Заходняя Еўропа была заселеная нашмат шчыльней, чым рэшта кантыненту[10].

У развітым сярэднявеччы міграцыі еўрапейскага насельніцтва (часам масавыя) працягваліся. Галоўнай прычынай была перанаселенасць краінаў Заходняй Еўропы, выкліканая хуткім дэмаграфічным ростам. У параўнанні з Вандроўкай народаў тыя перасяленні мелі лакальны характар, аднак істотна ўплывалі на сітуацыю ў некаторых рэгіёнах Еўропы. Да значных міграцый можна залічыць: крыжовыя паходы ў Палестыну (канец 11 – 13 ст.), выгнанне маўраў і хрысціянскую каланізацыю іх зямель на Іберыйскай паўвыспе, нямецкую мілітарную экспансію на ўсход, а таксама г. зв. **каланізацыю на нямецкім праве** краінаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Апошняя міграцыя пашырылася пасля таго, як вычарпаліся рэсурсы г. зв. унутранай каланізацыі ў самой Заходняй Еўропе. Тая ўнутраная каланізацыя 11 – 12 ст. была менш заўважальнай для сучаснікаў (бо мела дыфузны характар), але нашмат буйнейшай за іншыя міграцыі па колькасці ўдзельнікаў і дасягнутых выніках. Заходнееўрапейцы актыўна засвойвалі і прыстасоўвалі пад гаспадарку лясныя масівы, лугі і пусткі (у Нідэрландах новую зямлю адваёўвалі ў мора – плыткія прыбярэжныя ўчасткі адгароджвалі дамбамі і асушвалі).

Каланізацыя на нямецкім праве, якая працягвалася ад канца 12-га да сярэдзіны 14 ст., прывяла да значных зменаў у рэгіёне, а яе вынікі непасрэдна паўплывалі на гісторыю ВКЛ.

**Каланізацыя на нямецкім праве.** Урэгуляванае перасяленне заходнееўрапейцаў у канцы 12 – 14 ст. у менш населеныя краіны Цэнтральна-Усходняй Еўропы (Чэхію, Венгрыю, Польшчу, Прусію). Асноўная маса каланістаў наплывала з найбліжэйшых нямецкіх земляў і прыносіла з сабой свае прававыя нормы і звычаі (адсюль назва з'явы) – больш распрацаваныя, чым мясцовыя. У выніку была рэалізаваная аграрная рэформа – упарадкаванае шляхецкае і сялянскае землеўладанне і падаткавая сістэма (г.зв. Ланавая рэформа); гарады атрымалі самакіраванне ў 13 – 14 ст. (найбольш вядомая яго форма – Магдэбургскае права).

[10] Cameron Rondo. Historia gospodarcza świata. Warszawa 1996. S. 66.

(У ВКЛ першыя прывілеі гарадам на самакіраванне па Магдэбургскім праве былі выданыя ў 14 ст., а да аграрнай рэформы справа дайшла толькі ў 16 ст. – Валочная памера).

У першай чвэрці 14 ст. мелі месца спробы прыцягнення нямецкіх каланістаў у Літву (пасланні вялікага князя Гедыміна з 1323 г.[11]), аднак прыкметных вынікаў гэтая ініцыятыва не прынесла. Нямецкая прысутнасць у Цэнтральна-Усходняй Еўропе павялічвалася і праз мілітарную экспансію (Drang nach Osten). Узнікшыя ў канцы 12 – першых дзесяцігоддзях 13 ст. нямецкія калоніі ў Прыбалтыцы (Інфлянты і Прусы) мелі непасрэднае дачыненне як да працэсу ўзнікнення ВКЛ, так і ўсёй гісторыі гэтай дзяржавы.

Найбольшы ўплыў на фармаванне і дзейнасць новага гаспадарства аказала буйная рэгіянальная міграцыя, менавіта славянская (усходнеславянская) каланізацыя земляў сучасных Беларусі і Летувы. У гістарыяграфіі яна атрымала назву “працэс балта-славянскіх кантактаў” (гл. раздзел “Этнічная сітуацыя”).

* * *

Дэмаграфічны рост сярэднявечнай Еўропы суправаджаўся росквітам гаспадаркі і культуры. Гісторыкі даўно адмовіліся ад стэрэатыпных поглядаў на сярэднявечча (запачаткаваных яшчэ дзеячамі Рэнесансу) як на эпоху цемрашальства і застою – храналагічны прамежак між дасканалай Антычнасцю і яе адраджэннем. Развіццё тэхнікі ў сярэднія вякі праходзіла нашмат хутчэй, чым у часы антычнасці. У сельскай гаспадарцы пачалі ўжывацца больш дасканалыя севазвароты (трохпалёўка), палепшаныя прылады працы (калёсны жалезны плуг[12]), пашырылася выкарыстанне коней у якасці цяглавай сілы. Усё гэта значна павялічыла прадукцыйнасць працы на раллі. Развіццё металургіі, найперш шырокае выкарыстанне мясцовай руды, зрабіла нашмат таннейшым найважнейшы ў гаспадарцы метал – жалеза. З яго ва ўсё большых колькасцях выраблялася не толькі зброя, але і прылады працы. Якраз у 13 ст., калі ствaралася ВКЛ, з’явіліся першыя прататыпы сучасных металургічных печаў.

Дзякуючы разнастайным вынаходніцтвам і ўдасканаленням, у некалькі разоў вырасла вытворчасць працы ў ткацтве. Тканіна выраблялася амаль у кожнай хатняй гаспадарцы, але ўжо ад 11 ст. некаторыя краіны пачалі спецыялізавацца ў гэтым рамястве.

Надзвычай шырокае выкарыстанне (як колькасна так і функцыянальна) па ўсёй Еўропе атрымалі вадзяныя млыны, вядомыя яшчэ з антычнасці, а ад 13 ст. – і ветракі. Апошнія будаваліся пераважна ў нізінных мясцовасцях з невялікім перападам цячэння рэк. У Цэнтральна-Усходняй Еўропе яшчэ ў другой палове 12 ст. вадзяны млын быў рэдкасцю, а ў 13 ст. ён шырока распаўсюдзіўся і выкарыстоўваўся не толькі для памолу зерня, але і ў кавальстве (вадзяное кола прыводзіла ў рух мяхі, молаты), сукнаробстве (фолюшах), шклярстве і інш.

У гэтым рэгіёне Еўропы ў 13 ст. ураджайнасць галоўных зерневых культур павялічылася амаль у чатыры разы. У выніку прыспешылася развіццё жывёлагадоўлі, у тым ліку для гаспадарчых патрэбаў, што паскарала працэс узворвання і вываз ураджаю з палеткаў, а таксама павялічвала магчымасці ўгнойвання палёў.

Багатая практыка ў вырабе шасцернявых перадач дапамагла еўрапейцам у канструяванні механічнага гадзінніка, які быў удасканалены ў 13 ст. і хутка стаў

[11] Gedimino laiškai– Послания Гедимина. Vilnius: Минтис, 1966. С. 28 – 35.

[12] На беларускіх, больш лёгкіх глебах, такі плуг не прымяняўся, але з’явіліся жалезныя насошнікі і наральнікі.

неад'емным атрыбутам кожнага еўрапейскага горада. Людзі пачалі выразней усведамляць бег часу: "...*пераварот адбыўся дастаткова глыбокі, каб Дантэ, гэты абаронца былога, адчуў, што ранейшы спосаб вымярэння часу адыходзіць у мінулае, а разам з ім і ўсё грамадства.*"[13].

Большая частка еўрапейскіх тэхнічных навінак мела кітайскае паходжанне. З Кітая ў Еўропу, часам цягам некалькіх стагоддзяў, прывандравалі: папера, друк, порах (апошні ў Еўропе з'явіўся ад 13 ст.), компас, акуляры (вядомыя ў Кітаі з 10 ст., а ў Еўропе – з 13 ст.) і шмат іншага (толькі вятрак быў запазычаны з Ірана). Аднак еўрапейцы, у адрозненне ад кітайцаў, здолелі прыдумаць спосабы нашмат больш эфектыўнага выкарыстання засвоеных вынаходніцтваў, што на стагоддзі забяспечыла ім панаванне над рэштай свету.

Да нашых земляў гэтыя вынаходніцтвы даходзілі з пэўным апазненнем, аднак атрыбуты матэрыяльнай культуры, паводле археалагічных даных, перамаліся, як на той час, хутка – на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Напрыклад, пячная кафля з'явілася ў Германіі ў другой палове 13 ст, а ўжо ў пачатку 14 ст. яна выкарыстоўвалася ў Беларусі. Дзякуючы дэндрахраналогіі (вызначэнне даты спілавання дрэва праз вывучэнне шырыні гадавых кольцаў на зрэзе), выяўлена, што першая кафляная печка ў драўлянай прыбудове да палаца полацкага князя зроблена ў 1304 г. Пачаткам – першай паловай 14 ст. датуюцца першыя кафліны ў Лідскім замку[14].

13 ст. было вяршыняй не толькі дэмаграфічнага, але і эканамічнага развіцця сярэднявечнай Еўропы. Тады сфармавалася г.зв. еўрапейская **свет-гаспадарка**, цэнтрам якой стала французская правінцыя Шампань, дзе амаль непарыўна круглы год адбываліся буйныя міжнародныя ярмаркі-кірмашы[15].

**Свет-гаспадарка** – паняцце, выдзеленае французскім гісторыкам Фернанам Брадэлем. Гэты даследчык адрознівае паняцце "свет-гаспадарка" ад "усясветнай гаспадаркі". Апошняя распаўсюджваецца на ўвесь свет, а свет-гаспадарка "*закранае толькі частку сусвету, эканамічна самастойны кавалак планеты, здольны быць самадастатковым, такім, якому ягоныя ўнутраныя сувязі і абмены надаюць пэўнае арганічнае адзінства*" – Бродель Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV – XVIII вв. Москва, 1992. С. 14.

Свет-гаспадарка складаецца з шэрагу канцэнтрычна размешчаных зонаў. Найперш, яна мае полюс, **цэнтр**, прадстаўлены пануючым горадам. **Сярэднюю зону** стварае вобласць, размешчаная вакол цэнтра, за ёй ідуць **прамежкавыя зоны**, далей – вялікая **перыферыя**. У цэнтры ўтвараецца аазіс перадавой эканомікі, які апярэджвае іншыя рэгіёны: "*цэны тут высокія, але высокія і даходы, тут вы знойдзеце банкі і лепшыя тавары, самыя выгадныя рамесныя ці прамысловыя вытворчасці і арганізаваную на капіталістычны лад сельскую гаспадарку: адсюль разыходзяцца і тут сыходзяцца дальнія гандлёвыя шляхі, сюды сцякаюцца і каштоўныя металы, моцная валюта, каштоўныя паперы. Тут звычайна развіваюцца самыя перадавыя тэхналогіі і іх неад'емная спадарожніца – фундаментальная навука*". У цэнтры найбольшая асабістая свабода.

[13] Cameron Rondo. Historia gospodarcza świata. S. 81 – 84; Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. Москва: Прогресс, Прогресс-Академия, 1992. С. 172.

[14] Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии IX – XVII вв. Мн.: Наука и техника, 1988. С. 132 – 133.

[15] Бродель Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV – XVIII вв. Москва, 1992. С. 107 – 111.

Гэтая высокая якасць жыцця прыкметна зніжаецца ў краінах прамежкавай зоны. Там большасць сялян пазбаўленая свабоды, там увогуле мала свабодных людзей; абмен слабей развіты, арганізацыя банкаўскай і фінансавай сістэмы недасканалая, прамысловасць і рамёствы адносна традыцыйныя. Яшчэ большай беднасцю і меншай ступенню свабоды вызначаецца перыферыя. *"Каля 1650 г. цэнтрам свету з'яўляецца маленькая Галандыя, ці, дакладней, Амстэрдам. Прамежкавую, другасную зону складае рэшта жыццёва актыўнай Еўропы, г. зн. краіны ўзбярэжжа Балтыйскага і Паўночнага мораў, Англія, землі Германіі, размешчаныя ў далінах Рэйна і Эльбы, Францыя, Партугалія, Іспанія, Італія на поўнач ад Рыма. Да* ***перыферыі адносяцца*** *– Шатландыя, Ірландыя, Скандынавія на поўначы,* ***уся частка Еўропы, размешчаная на ўсход ад лініі Гамбург – Венецыя*** (выдзелена мною – А.К., землі ВКЛ – перыферыя), *частка Італіі на поўдзень ад Рыма (Неапаль, Сіцылія), нарэшце, па той бок Атлантычнага акіяна ўся еўрапеізаваная Амерыка... Гэтаксама ўся Усходнееўрапейская перыферыя, якая ўключае Польшчу і размешчаныя за ёй землі..."*. Расея да Пятра I уяўляла сабой асобную свет-гаспадарку, замкнутую ў сабе, якая жыла сваім жыццём.

У 13 ст. Еўропа ўжо была светам-гаспадаркай і мела сваю структурную арганізацыю. Цэнтрам яе сталі кірмашы Шампані (Францыя). У 14 – 18 ст. цэнтрамі еўрапейскай гаспадаркі па чарзе былі: Венецыя, Антверпен, Генуя, Амстэрдам. У 18 ст. такім цэнтрам стаў Лондан, а пасля вялікага крызісу 1929 г. цэнтр еўрапейскай гаспадаркі-свету перамясціўся ў Нью-Йорк.

Бродель Фернан. Динамика капитализма. Смоленск: «Полиграмма», 1993. С. 86 – 87, 88, 95 – 96, 101.

У 13 ст. у Цэнтральна-Усходняй Еўропе развілося манументальнае мураванае будаўніцтва з цэглы. Культавыя будынкі і замкі ўзводзіліся ў вялікай колькасці і патрабавалі ўсё больш цагельняў і вапнярак[16]. Найдалей на ўсход гэтае будаўніцтва сягнула якраз да земляў Літвы, дзе ў другой палове 13 ст. былі ўзведзеныя мураваныя вежы г. зв. валынскага тыпу ў Навагрудку і Гародні (ды яшчэ на Палессі ў Камянцы, Бярэсці і Тураве). У першай палове 13 ст. быў збудаваны гатычны, хутчэй за ўсё, мураваны касцёл інфлянцкіх немцаў у Полацку[17]. Узвядзенне гэтых аб'ектаў, выкарыстанне будаўнічых тэхнікаў і матэрыялаў заходнееўрапейскага ўзору дало падставу спецыялістам для высновы пра пачатак адыходу ад візантыйскай будаўнічай традыцыі, менавіта, *"стылістычную пераарыентацыю архітэктуры Беларусі, якая пачалася ў другой палове 13 ст."*[18].

У 1300 г. у Чэхіі пачалася чаканка срэбнай манеты – пражскага гроша (GROSSI PRAGENSES – легенда на рэверсе), якая пачала паступаць на беларускія землі, відавочна, ужо ў першай трэці 14 ст. і хутка зрабілася асновай грашовага абароту ў ВКЛ[19]. Гэта таксама была праява еўрапейскай арыентацыі, доказам якой і сёння служыць назва плацёжнага сродку ў беларускай мове – "грошы" (падобна, як тэрмін "деньги" ў расейскай мове паходзіць ад ардынскай манеты).

У 13 ст. у Еўропе была вынайдзеная спецыфічная форма адукацыі дарослых – універсітэт[20]. Новыя вучэльні ствараліся па прынцыпе рамесных цэхаў, як карпарацыі

[16] Historia Europy Środkowo-Wschodniej. T. 1. S. 75.

[17] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI ст.: Гіст. і архіт.-археал. даслед. Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 20 – 21; Ткачев М.А. Замки Беларуси. Мн.: Беларусь, 2002. С. 6 – 10.

[18] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі ... С. 23.

[19] Рябцевич В.Н. Нумизматика Беларуси. Мн.: Полымя, 1995. С. 149, 151.

[20] Orłowski Bołesław. Technika. Wrocław, Warszawa, Kraków, 1999. S. 50 – 51.

майстроў-выкладчыкаў і вучняў-студэнтаў. Яны хутка сталі папулярнымі, і колькасць універсітэтаў імкліва расла. Да шэрагу найслыннейшых належалі Кембрыджскі (1209 г.), Оксфардскі (1214 г.) Падуанскі (1222 г.), а таксама Сарбона (1253 г.)[21].

Буйнейшы сярэднявечны філосаф і тэолаг Томаш Аквінскі (1225 – 1274 г.) на падставе тэалагічнага асэнсавання вучэння Арыстоцеля стварыў філасофскую канцэпцыю гармоніі веры і розуму, якая стала важнай асновай ідэалогіі каталіцтва.

Ангельскі філосаф Роджэр Бэкан (каля 1214 – 1292 г.) прапанаваў выкарыстанне эксперымента як метаду пазнання[22], чым заклаў асновы сучаснай навукі. Бэкан ужо ў 13 ст. пісаў пра магчымасць пабудовы павозак, якія рухаюцца без цяглавой сілы жывёл; пра лятаючыя машыны, якімі кіруе чалавек, седзячы ў іх нутры; пра невялікія прыстасаванні, якія могуць падымаць агромністы цяжар; пра прылады для хаджэння па вадзе і плавання пад вадой…[23].

* * *

13 ст. было часам вялікіх пераменаў, дакладней, выспявання вялікіх пераменаў у палітычным жыцці ўсёй Еўропы.[*]

*[*]"Большасць зменаў, якія вызначылі надыход эпохі Новага часу, пачала прарастаць ужо ў другой палове 13 ст., хоць выразна выявіліся яны толькі на рубяжы 14 і 15 ст. Перш за ўсё ствараліся ўсё большыя дзяржавы, у тым ліку дзяржавы нацыянальныя – найбольш поўна гэты працэс рэалізоўваўся ў Англіі, але быў таксама відочны ў Францыі. У межах нямецкай імперыі стабілізаваліся дзяржавы імперскіх князёў, а ў Італіі буйныя гарадскія асяродкі – такія, як Мілан, Венецыя і Фларэнцыя – анексавалі суседнія цэнтры."*

Mundy John H. Europa średniowieczna. 1150 – 1309. Warszawa, 2001. C. 285.

У 13 ст. падышла да бясслаўнага канца вялікая еўрапейская прыгода – крыжовыя паходы ў Святую зямлю. Пад націскам мусульманаў адна за другой распадаліся "лацінскія" дзяржавы ў Палесціне. У 1187 г. туркі-сельджукі на чале з султанам Саладзінам здабылі Іерусалім. Крыжаносцам удалося вярнуць горад святыняў у 1229 г. (імператар Фрыдрых II), але толькі на паўтара дзесяцігоддзі. У 1244 г. яны зноў страцілі Іерусалім, тым разам – назаўжды. Недалёка ўжо было да поўнага выгнання крыжаносцаў са Святой Зямлі – у 1291 г. мусульмане здабылі Акку – апошні апорны пункт еўрапейцаў у Палесціне. Затое хрысціяне мелі поспех на Іберыйскай паўвыспе, дзе пасля слыннай бітвы 1212 г. каля Навас дэ Талоса пачалася прыспешаная ліквідацыя мусульманскіх уладанняў у Іспаніі[24].

Паміж **папамі рымскімі** і **германскімі імператарамі** наноў разгарэлася барацьба за дамінацыю ў Заходняй Еўропе. Асновай канфлікту было імкненне аб'яднаць у адным інстытуце дзве ўлады – духоўную і свецкую: "*Злучыўшы абедзве ўлады ў сваёй асобе, папа станавіўся імператарам, кароль станавіўся святаром*".[25] Канфрантацыя праходзіла з пераменным поспехам, але да канца 13 ст. пазіцыю імператараў моцна аслабіла міжусобная барацьба ў імперыі, і перавагу здабыло папства[26].

[21] Mantueffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. Warszawa: PWN, 1995. S. 275 – 276.
[22] Новейший философский словарь /Сост. А.А.Грицанов. Мн.: Изд. В.М.Скакун, 1998. С. 772, 575.
[23] Orłowski Bołesław. Technika. S. 53.
[24] Mantueffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 194, 199, 229.
[25] Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. С. 250 – 251.
[26] Гуревич А.Я., Харитонович Д.Э. История средних веков. Москва, 1995. С. 121.

**Папа рымскі** – кіраўнік каталіцкай царквы і дзяржавы-горада Ватыкана. Поўны тытул: *“біскуп Рыма, наменік Ісуса Хрыста, пераемнік князя апасталаў, вярхоўны пантыфік усяленскай царквы, патрыярх Захаду, прымас Італіі, архібіскуп і мітрапаліт Рымскай правінцыі, манарх дзяржавы-горада Ватыкана, раб рабоў божых.*”* У пачатках хрысціянства “папа” – тытул усіх значнейшых біскупаў; ад 6 ст. належыць выключна біскупам Рыма. Ад 11 ст. папа рымскі выбіраецца канклавам – зборам кардыналаў.

У сярэдзіне 8 ст. на землях сярэдняй Італіі (Рымскае княства, экзархат Равены, Умбрыя) узнікла папская дзяржава, на чале якой стаў папа ў якасці свецкага манарха. У 1929 г. яна праз канкардат з Італіяй пераўтворана ў дзяржаву-горад Ватыкан.

У 11 ст. папы ўступілі ў адкрыты канфлікт з імператарамі.

Ад самых пачаткаў ВКЛ папы рымскія выяўлялі да яго цікавасць, менавіта, імкнуліся ўключыць гэтую дзяржаву ў заходнееўрапейскі кантэкст праз хрышчэнне ліцвінскіх гаспадароў у каталіцтва, арганізацыю іх інаўгурацыі ў каралеўскую годнасць.

* Христианство: Словарь. Москва: Республика, 1994. С 336.

**Германскі імператар** – галава сярэднявечнай дзяржавы – Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі, якая ўключала германскія, італьянскія, чэшскія землі, Нідэрланды і інш. Створана ў 962 г. як Рымская імперыя, у 12 ст. пачала называцца С.Р. імперыя, потым – С.Р. імперыя германскай нацыі. Фармальна праіснавала да 1806 г.

Германскія імператары падтрымлівалі Тэўтонскі ордэн у ягоных планах пакарэння Прыбалтыкі. Браты-рыцары неаднаразова заранёў бралі ад іх прывілеі на валоданне Жамойцю, Літвой і іншымі землямі, якія яшчэ трэба было заваяваць.

Смирнова Е.Д. и др. Средневековый мир в терминах, именах и названиях: Словарь-справ. Мн.: Беларусь, 1999. С. 301.

У пачатку 13 ст. паглыбіўся эканамічны і палітычны крызіс Візантыйскай імперыі. Заходнія крыжаносцы, падчас чацвёртага крыжовага паходу ў 1204 г., замест змагання з мусульманамі захапілі і разрабавалі Канстанцінопаль. Візантыя распалася на некалькі частак. Створаная на яе землях “Лацінская імперыя” праіснавала да 1261 г. Адноўленая ў тым годзе візантыйская дзяржава ўяўляла сабой толькі цень некалі магутнай імперыі і ўжо ніколі не дасягнула ранейшай велічы. Аслабленне Візантыі паспрыяла аднаўленню моцы суседніх сербскай і балгарскай дзяржаў.

Палітычны крызіс агарнуў таксама асноўныя краіны Цэнтральна-Усходняй Еўропы: Чэхію, Венгрыю і Польшчу. Чэшскае каралеўства (ад 929 г. – у складзе Нямецкага каралеўства) цярпела ад дынастычных войнаў і бунтаў магнатаў супраць цэнтральнай улады. Венгрыя і асабліва Польшча цяжка перажывалі перыяд удзельнай раздробленасці, якія суправаджаўся пастаяннымі міжусобнымі войнамі.

У першыя дзесяцігоддзі 13 ст. падобныя працэсы праходзілі на ўсходнеславянскіх землях – Русі. У паўднёвай і паўночна-ўсходняй частках Русі (будучыя Украіна і Расея) некалькі дзясяткаў княстваў розных памераў змагаліся між сабой за пагранічныя землі, а некаторыя яшчэ і за кіеўскі стол, які па традыцыі лічыўся самым прэстыжным.

Два буйнейшыя феадальныя дзяржаўныя ўтварэнні на тэрыторыі сучаснай Беларусі – Полацкае і Турава-Пінскае княствы – таксама распаліся на шматлікія ўдзелы. У 12 ст. з Полацкага княства выдзеліліся: Полацкае, Ізяслаўскае, Віцебскае, Друцкае, Лагож-

скае, Менскае княствы[27]. Тураўская зямля падзялілася на княствы: Тураўскае, Пінскае (было адным з важнейшых, што дало падставу для ўзнікнення ў гістарыяграфіі тэрміна "Турава-Пінская зямля"), Клецкае, Дубровіцкае, Слуцкае, Берасцейскае, Драгічынскае (апошнія два трапілі ў залежнасць ад **Галіцка-Валынскай дзяржавы**)[28].

У 12 ст. летапісы зафіксавалі існаванне на Панямонні Гарадзенскага княства, звязанага кроўнымі і палітычнымі сувязямі з дынастыяй, якая кіравала ў Кіеве. Да 13 ст. адносяцца ўрыўкавыя звесткі пра Наваградскае, Ваўкавыскае, Слонімскае, Свіслацкае княствы, якія знаходзіліся пад палітычным уплывам Галіцка-Валынскай дзяржавы[29].

**Галіцка-Валынская дзяржава**. Узнікла на мяжы 12 – 13 ст. (найверагодней у 1199 г.) на заходнеўкраінскіх землях у выніку аб'яднання Галіччыны (галоўны цэнтр – Львоў) і Валыні (сталіца – Уладзімір-Валынскі). У 13 ст. было наймацнейшай дзяржавай ва ўсходнеславянскім свеце. Падтрымлівала цесныя кантакты з заходнееўрапейскай цывілізацыяй; праводзіла актыўную палітыку ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе. У першай палове 13 ст. распаўсюдзіла свой культурны і палітычны ўплыў на Верхняе і Сярэдняе Панямонне. Актыўна змагалася за захаванне тут сваіх уплываў з новаўтвораным ВКЛ амаль да канца 13 ст. Пасля мангола-татарскага нашэсця прызнала сюзерэнітэт Залатой Арды. У першыя дзесяцігоддзі 14 ст. аслабела і ўрэшце была падзеленая між ВКЛ (далучыла Валынь) і Польшчай (забрала Галіччыну) пасля працяглага збройнага змагання (пачатак 40 – х – пачатак 80-х гадоў 14 ст.)

У паўднёвай і ўсходняй Прыбалтыцы жылі апошнія ў Еўропе паганцы: плямёны балцкія (прусы, жамойты, аўкштайты, яцвягі, куры, латгалы, семігалы) і фіна-ўгорскія (лівы, эсты) – продкі сучасных летувісаў, латышоў і эстонцаў. У сваім грамадскім развіцці яны праходзілі перыяд ваеннай дэмакратыі – апошнюю стадыю першабытнага грамадства перад утварэннем дзяржавы. Іх пастаянныя рабаўнічыя напады даваліся ў знакі як паганскім суседзям, так і навакольным хрысціянскім краінам. У канцы 12 – пачатку 13 ст. узнікла першая нямецкая калонія ва ўсходняй Прыбалтыцы – Інфлянты (Лівонія); ад канца 20-х гадоў 13 ст. распачала сваю гісторыю нямецкая калонія ў Прусах.

У 13 ст. узмацніўся мілітарны ціск на балцкія плямёны з боку іх хрысціянскіх суседзяў. У выніку былі разбітыя і пакораныя плямёны прусаў і яцвягаў. Каланізацыя (нямецкая і мазавецкая ў Прусах, беларуская і мазавецкая ў Яцвягіі) дакончыла справу асіміляцыі і праз некалькі стагоддзяў прывяла да поўнага заняпаду тамтэйшых этнасаў.

## 1.2. ПАНЯМОННЕ НАПЯРЭДАДНІ НОВАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Месца, дзе нарадзілася ВКЛ, менавіта Верхняе і Сярэдняе Панямонне, у эпоху Сярэднявечча знаходзілася на еўрапейскай перыферыі. Яго абміналі галоўныя гандлёвыя дарогі, якія лучылі Паўночную і Паўднёвую Еўропу. Нёман як гандлёва-транспартная артэрыя меў другаснае значэнне. Знакаміты "шлях з варагаў у грэкі", дакладней адно з яго важных адгалінаванняў, праходзіў у некалькіх сотнях кіламетраў на ўсход – па рэках басейна Заходняй Дзвіны і Дняпра. Менавіта там развіліся буйныя гарадскія асяродкі, стаўшыя цэнтрамі вядомых дзяржаў-княстваў: Полацак, Віцебск, Смаленск.

Гісторыкі ў 19 і першай палове 20 ст. лічылі Панямонне глыбокім захалусцем, дзе ў сярэднявеччы ішло сваё, амаль ізаляванае ад рэшты свету і даволі прымітыўнае жыццё.

[27] Штыхаў Г. Полацкае княства [у:] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: Т. 5. Мн., 1999. С. 525.

[28] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. Мн., 2000. С. 193.

[29] Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9–13 вв. Мн., 1989. С. 75.

Нечаканасцю сталі адкрыцці археолагаў пасля Другой усясветнай вайны ў панямонскіх гарадах Гародні, Ваўкавыску, Слоніме і, асабліва, Наваградку[30]. Выявілася, што ў 11 – 13 ст. (час уздыму ўсёй Еўропы) тут буяла жыццё, развілася багатая і рафінаваная матэрыяльная і духоўная культура. Найбольшае ўражанне на даследчыкаў зрабілі: квартал багачоў на наваградскім вакольным горадзе (з двухпавярховымі дамамі, фрэскамі на сценах і шклянымі вокнамі) і гарадзенская архітэктурная школа 12 ст. (невялікая па колькасці помнікаў, але самая арыгінальная ва ўсходнеславянскім свеце).

Пасля публікацыі матэрыялаў археалагічных раскопак стала зразумелым, што прычынай недаацэнкі ўзроўню цывілізацыі на Панямонні была амаль поўная адсутнасць пісьмовых звестак 10 – 14 ст. пра гэты рэгіён. Даследчыкі не сумняваюцца ў наяўнасці ўласнага летапісання на Панямонні і Падзвінні, помнікі якога да нас, аднак, не дайшлі.

Сапраўды, першае пісьмовае ўпамінанне Наваградка, Ваўкавыска, Слоніма ў пісьмовых крыніцах адносіцца да 1249/50 г.[31], хоць названыя гарады да таго часу існавалі ўжо два з паловай стагоддзі! Адзіным выключэннем стала Гародня, якая некалькі разоў згадвалася ў кіеўскіх летапісах 12 ст. З тых узгадак вынікала, што гэты горад быў цэнтрам мясцовай дзяржавы – Гарадзенскага княства.

З усяго комплексу інфармацыі (скупыя пісьмовыя звесткі і багаты археалагічны матэрыял) вынікала, што ў 11 – 13 ст. панямонскі рэгіён (дакладней, Верхняе і Сярэдняе Панямонне – будучае ядро ВКЛ), хоць і месціўся на ўскрайку Еўропы, захалусцем не быў. Наадварот, вызначаўся арыгінальнай культурай высокага ўзроўню, меў уласную дзяржаўную арганізацыю (ці арганізацыі – Гарадзенскае і, па ўсёй верагоднасці, Наваградскае княствы). Археолагі прасачылі таксама надзвычай шырокія гандлёвыя сувязі панямонскіх месцічаў, якія сягалі ад славянскага ды балцкага наваколля да Заходняй Еўропы, Скандынавіі, Візантыі і Блізкага Усходу. Несумненна, мясцовы вопыт дзяржаўнай арганізацыі, як і багацце тутэйшых гарадоў, адыгралі не апошнюю ролю ў стварэнні ВКЛ.

Асновай гаспадаркі насельнікаў Панямоння, як і жыхароў усёй сярэднявечнай Еўропы, з'яўлялася земляробства. Адной з адметнасцяў рэгіёна было працяглае, аж да навейшых часоў, захаванне вялікіх лясных масіваў. У тых краінах Заходняй Еўропы, якія ў раннім сярэднявеччы таксама былі пакрытыя густымі лясамі (як Англія, Францыя, Германія), дэмаграфічны рост і звязаная з ім унутраная каланізацыя прывялі да хуткага змяншэння лясных плошчаў. Каля 1000 г. лясы пакрывалі дзве трэці тэрыторыі Францыі і Англіі. У Францыі найбольш лесу было высечана ад канца 10 да канца 13 ст., а ў Англіі ўжо ад 9 ст. значныя абшары ператварыліся ў неўраджайныя зарослыя вераскам пусткі[32].

У часы ўзнікнення ВКЛ у 13 ст. большую частку Верхняга Панямоння займалі лясы – каля 70% усёй плошчы[33]. Клімат Панямоння, як і ўсёй тэрыторыі сучасных Летувы і Беларусі, ад сярэднявечча да нашага часу змяняўся адносна мала. Недалёкае Балтыйскае мора, а таксама марское паветра з Атлантычнага акіяна прыносілі цяпло і вялікую колькасць ападкаў, што спрыяла развіццю земляробства.

---

[30] Воронин Н.Н. Древнее Гродно. Москва, 1954; Зверуго Я.Г. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 248–289; ён жа: Древний Волковыск. Мн., 1975; ён жа: Верхнее Понеманье в 9–13 вв. Мн., 1989; Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. Ленинград, 1981; яна ж: Летапісны Новгородок (Старажытнарускі Наваградак) Санкт-Пецярбург, 2003.

[31] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 816: Галіцка-Валынскі звод у складзе Іпацьеўскага летапісу (недакладная храналогія летапісу, у тым ліку першая звестка пра панямонскія гарады – 1252 г., выпраўленая Міхайлам Грушэўскім: Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41.С. 1–72.).

[32] Miśkiewicz M. Europa wczesnego średniowiecza V – XIII wiek. Warszawa: TRIO, 2008. S. 102.

[33] Холев С.Б. Физико-географические условия Верхнего Понеманья в прошлом по данным топонимики [в:] Топонимика на службе географии. М., 1979. С. 33–34.

Па прычыне адсутнасці пісьмовых крыніц, асноўную інфармацыю пра тагачасную гаспадарку здабылі археолагі. Па матэрыялах раскопак выявілася, што асноўнай зернявай культурай Панямоння ад 11 ст. было азімае жыта. На другім месцы па колькасці знаходзілася пшаніца. Вырошчвалі таксама ячмень, проса, значна менш – авёс, грэчку; бабовыя культуры: конскія бабы, віку, гарох, сачавіцу; тэхнічныя культуры: лён, каноплю. З агародных культур вядомыя капуста, цыбуля, рэпа, буракі, агуркі; з садовых: слівы, вішні, грушы і інш.

Найбольш старажытным спосабам управы раллі ў лясной зоне было ляда. Аднак паступова распаўсюджвалася папаравая сістэма земляробства. Як больш стабільная, яна становіцца дамінуючай ужо з пачатку 2-га тыс. н.э. Ужываліся таксама пераходныя да папаравай формы – такія, як: пералог, стракатаполле, аднагадовы пар. Найчасцей папаравую сістэму (у форме двух - або трохполля) спалучалі з ляднай, што дазваляла захоўваць стабільнасць паселішча. Ураджаі складалі сам-2,5 – 3. Першыя гады на новым лядным полі ўраджай быў высокім – сам-8, сам-12 і вышэй. Лясное багацце стала прычынай яшчэ адной асаблівасці Панямоння – перавагі палявання над жывёлагадоўляй. Як паказаў астэалагічны аналіз, косці дзікіх жывёлаў у Гародні, Турыйску, Ваўкавыску складаюць больш за палову ад усіх сабраных археолагамі[34].

З лесам быў звязаны і такі важны для дзяржаўнай гаспадаркі промысел, як бортніцтва, прадукты якога (мёд і воск) з'яўляліся каштоўным экспартным таварам і адной з важнейшых формаў сялянскага падатку – даніны.

Дэмаграфічны і эканамічны рост панямонскага рэгіёна прывёў да ўзнікнення і актыўнага развіцця гарадоў – гандлёва-рамесных і адміністрацыйных цэнтраў.[*]

[*] **Пачаткі панямонскіх гарадоў.** Археалагічныя даследаванні выявілі, што сённяшнія важнейшыя цэнтры Панямоння (Наваградак, Гародня, Ваўкавыск і, падобна, Слонім) узніклі ў канцы 10 ст. Заснавальнікамі новых паселішчаў былі ўсходнія славяне-язычнікі. Якраз у канцы 10 ст. на тэрыторыі Кіеўскай Русі ўводзілася хрысціянства па ўсходнім (візантыйскім) узоры. Па ўсёй верагоднасці, гвалтоўныя метады ўвядзення новай веры ("агнём і мечам") выклікалі адыход часткі незадаволенага насельніцтва ў разведаную ўжо панямонскую вобласць. Археолагі заўважылі, што першыя прадметы, звязаныя з хрысціянскім культам (каменныя абразкі, нацельныя крыжыкі: літыя, каменныя, бурштынавыя, касцяныя), з'явіліся на Панямонні амаль на стагоддзе пазней – у другой палове – канцы 11 ст. (Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн.: Полымя, 1982. С. 19: "*Насельніцтва, якое заснавала гарады Панямоння, было язычніцкім і такім заставалася да канца 11 ст.*"; гл. таксама: Гуревич Ф.Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. R. VI; Гуревич Ф.Д. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956 – 1977 гг. // Советская археология. 1980. № 4. С. 88 – 89; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9 – 13 вв. С. 196; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст.: Планіроўка, культурны слой. С. 60 – 61).

Нешматлікія звесткі пісьмовых крыніц 12 – 13 ст. датычаць пяці гарадоў: Гародні, Наваградка, Ваўкавыска, Слоніма, Турыйска. Да іх даследчыкі дадаюць яшчэ: Здзітаў (геаграфічна да Панямоння не належыць, бо знаходзіцца ў басейне Прыпяці), Нясвіж, Свіслач, Вевярэск, Астрэю.

Найбольш значнымі і буйнымі (на той час мелі па некалькі тысяч жыхароў) былі першыя чатыры, што пацвердзілі шматгадовыя археалагічныя раскопкі. Іншыя дас-

[34] Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (9 – 13 ст.) Мн.: "Беларуская навука", 2000. С. 155, 160.

ледаваныя значна горш або не даследаваліся зусім. Летапісны Турыйск, лакалізаваны археолагамі ля сучаснай вёскі Турэйск Шчучынскага раёна, інтэрпрэтуецца як невялікі горад[35]. Дакладна не вызначана месцазнаходжанне сярэднявечных Нясвіжа і Свіслачы, пра Вевярэск і Астрэю невядома, ці яны ўвогуле знаходзіліся на Панямонні. Тры безназоўныя добра ўмацаваныя гарадзішчы 12 – 13 ст. даследчыкі адносяць да феадальных сядзібаў-замкаў: каля вёскі Мсцібава пад Ваўкавыскам; каля вёскі Кульбачы Шчучынскага раёна; каля вёскі Збочна Слонімскага раёна[36].

## 1.2.1. Этнічная сітуацыя

Археалагічныя і мовазнаўчыя (найперш тапанімічныя) даследаванні дапамаглі аднавіць этнічны воблік Панямоння напярэдадні ўзнікнення ВКЛ. Выявілася, што ў часы сярэднявечча ў Верхнім і Сярэднім Панямонні актыўна развівалася буйнейшая з'ява не толькі панямонскай, але і ўсёй беларускай і летувіскай гісторыі – **працэс балта-славянскіх кантактаў.**

**Працэс балта-славянскіх кантактаў.** Буйнейшая з'ява ў гісторыі Беларусі. Распачаўся каля трэцяй чвэрці 1-га тыс. н.э., працягваўся праз усё 2-е тыс. н.э., ахапіў тэрыторыю сучаснай Беларусі, а таксама прылеглыя раёны Польшчы, Летувы, Латвіі, Расеі і Украіны. Сучасная навука лічыць названы працэс важнейшым чыннікам этнагенезу беларусаў. (Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны 13 ст. С. 324 – 326; Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970. С. 162 – 192; Ён жа. Балты и славяне в древности по данным археологии // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980. С. 20; Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 59 – 60; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9 – 13 вв. С. 15 – 17; Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992. С. 106 – 107.)

Галоўны змест працэсу – каланізацыйны рух славян (той іх часткі, якая пазней стала ўсходнімі славянамі) на землі, занятыя балтамі, кантакт з тубыльцамі, асіміляцыя апошніх і, як вынік, кардынальная змена этнічна-культурнай сітуацыі ў зоне кантакту – беларусізацыя. Характэрнай рысай працэсу даследчыкі лічаць **мірны характар кантактаў**. (Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9 – 13 вв. С. 15; Звяруга Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі /Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Вып. 10. Мн.: ДНУ "Інстытут гісторыі НАН Беларусі", 2005. С. 140 – 142; Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 192; Ён жа. Литовские племена // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. Москва, 1987. С. 417; Tyszkiewicz J. Proces slawizacji ziem dorzecza Niemna w 6 – 11 w. // PH. 1973. T 64. S. 6, 16 – 18, 20 (мара 2); Катонова Е.М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере Белоруссии // Материалы. Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. Москва, 1978. С.85; Штыхаў Г.В. Крывічы. С. 95, 106)

[35] Археалогія Беларусі. У 4 Т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (9 – 13 ст.). С. 319.

[36] Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн.: Полымя, 1982. С. 23.

Працэс разгортваўся нераўнамерна як у храналагічным, так і геаграфічным вымярэннях. Напачатку (ад 6 – 7 ст. н.э.) яго актыўным участкам было Верхняе Падняпроўе і Падзвінне. Славянізацыя мясцовага балцкага насельніцтва тут была ў асноўным завершана ўжо ў 12 – 13 ст. (Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 191, 162; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9 – 13 вв. С. 14 – 15; Штыхаў Г.В. Крывічы. С. 106 – 107). У басейне Нёмана працэс актывізаваўся ў канцы 10 ст. і працягваўся да пачатку – сярэдзіны 20 ст.

Міжэтнічны кантакт адбываўся ў г.зв. **кантактнай зоне** з мешаным насельніцтвам. Зона мела тэндэнцыю паступовага перамяшчэння з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, г.зн. углыб балцкай тэрыторыі. На прылеглых да яе тэрыторыях балцкае насельніцтва засвойвала беларускую мову і станавілася двухмоўным, а ў самой зоне балцкая (летувіская) мова паступова саступала свае пазіцыі беларускай (Климчук Ф.Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 214).

Этнографы фіксавалі праявы працэсу ўздоўж мяжы між Беларуссю і Летувай яшчэ ў сярэдзіне 20 ст. (Гринблат М.Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 90 – 91).

У храналагічныя рамкі гэтага працэсу ўклаўся ўвесь перыяд існавання ВКЛ – пяць з паловай стагоддзяў ад моманту ўзнікнення ў сяр. 13 ст. і да ліквідацыі ў канцы 18 ст. падчас трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Дзейнасць ВКЛ у кантактнай балта-славянскай зоне не змяніла характару працэсу – моўнай беларусізацыі мясцовых балтаў; а праз прыняцце беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай спрыяла фармаванню беларускага народа і яго культуры.

Панямонне ў пачатку 2-га тыс. было занятае рэдкім балцкім насельніцтвам, якое належала да плямёнаў яцвягаў (вобласць левых прытокаў Нёмана[37]) і аўкштайтаў (археалагічная культура ўсходнелітоўскіх курганоў у басейне Віліі, да іх належала племя "літва"). Суседзі-славяне назвы "Аўкштота" не ўжывалі, а звалі ўсіх яе насельнікаў па імю бліжэйшага племя – "літва". Славянскі рух на гэтую тэрыторыю распачаўся з 7 – 9 ст. Тут сустрэліся з мясцовымі балтамі некалькі славянскіх каланізацыйных плыняў: крывіцкая – з усходу, дрыгавіцкая і валынская – з паўднёвага ўсходу і поўдня[38]. Нетаропкі славянскі рух, які праходзіў галоўным чынам уздоўж рэк, быў на нейкі час затрыманы натуральнай перашкодай – водападзелам паміж Дняпром (менавіта, буйнейшым яго прытокам Прыпяццю) і Нёманам.

Славянская каланізацыя актывізавалася ў канцы 10 ст., і тады выхадцамі з розных усходнеславянскіх земляў былі заснаваныя паселішчы, якія сталі пазней галоўнымі панямонскімі гарадамі: Наваградак, Ваўкавыск, Гародня (самы старажытны горад над Нёманам)[39] і, магчыма, Слонім. Напэўна, трохі пазней над ракой Віліяй была закладзеная Вільня[*], якая разам з Гародняй аказалася найдалей заглыбленым у балцкі этнічны абшар усходнеславянскім горадам[40]. Археалагічныя матэрыялы засведчылі таксама ўдзел у фармаванні гарадоў выхадцаў з заходнеславянскіх земляў і мясцовых балтаў. У 12 – 13 ст. у панямонскіх гарадах сфармавалася аднароднае насельніцтва, якое мела выразнае ўсходнеславянскае аблічча: *"Зліццё славянскіх выхадцаў з поўдня, поўначы*

[37] Седов В.В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 36–51.

[38] Гринблат М.Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 90–91. З паўднёвага эахаду да Панямоння даходзілі таксама мазавецкія каланісты.

[39] Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст. С. 60.

[40] Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. Москва, 1945. Вып. 11. С.114 – 125.

*і захаду, а таксама нешматлікіх прадстаўнікоў мясцовых балтыйскіх плямёнаў утварае адзінае насельніцтва гарадоў Заходняй Русі”*[41].

[*] **Вільня**. Археалагічныя раскопкі на Верхнім віленскім замку (дзядзінцы) у міжваенны перыяд прывялі іх аўтараў Алену і Уладзіміра Галубовічаў да высновы, што тут на месцы балцкага паселішча (1 тыс. н.э.) пасля перапынку, магчыма, у некалькі стагоддзяў, з'явілася іншае паселішча – славянскае. Над культурным пластом першага паселішча (слой VI), у верхняй частцы слою Vi ў слоі Vd даследчыкі зафіксавалі амаль выключна кераміку, характэрную для славянскіх магільнікаў 11 – 13 ст. (Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР (КСИИМК). Москва, 1945. Вып. 11. С. 124)

*“Сляды новага паселішча, зусім іншага характару, чым першае, з'яўляюцца большай часткай у пачатку феадальнай эпохі і характарызуюцца інвентаром, тыповым для старажытнарускіх гарадзішчаў. Калі ўзнікла новае паселішча, дакладна сказаць немагчыма.”* – Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно. С. 125.

Летувіскія археолагі, якія праводзілі раскопкі пасля Другой усясветнай вайны, славянскія матэрыялы, на жаль, не акцэнтавалі.

Наяўнасць шырокай кантактнай зоны, захаванне балцкіх тапонімаў на абшарах славянскай каланізацыі прывялі даследчыкаў да высновы пра **агульны мірны характар балта-славянскіх кантактаў** як на Панямонні, так і па ўсёй тэрыторыі будучай Беларусі[42]. Гэтая важнейшая рыса названага працэсу мела істотнае значэнне ў фармаванні ВКЛ. Вынікам супрацоўніцтва стала перамешванне прышлых славян з мясцовымі балтамі і ўтварэнне новай этнічнай агульнасці – беларусаў. Актыўным і культурна дамінуючым бокам былі ўсходнія славяне, і таму новы этнас стаў славянамоўным.

**У 13 ст., напярэдадні і ў часы ўтварэння ВКЛ, Панямонне ў этнічным сэнсе ўяўляла сабой кантактную зону паміж балцкім і ўсходнеславянскім этнічнымі масівамі. Яна размяшчалася ў прасторы прыблізна паміж Менскам і Вільняй і была занятая змешаным балта-славянскім насельніцтвам**. У паўночнай частцы зоны пераважалі балцкія, у паўднёвай – славянскія пасяленні. Гарады былі славянскімі, а іх вясковая ваколіца складалася са славянскіх, балцкіх, а таксама этнічна змешаных паселішчаў. Найдалей заглыбленымі ў балцкую прастору славянскімі анклавамі заставаліся Гародня на Нёмане і Вільня на Віліі.

Праблема балта-славянскіх кантактаў на землях Беларусі, на першы погляд, можа падацца непасрэдна не злучанай з генезісам ВКЛ. Аднак два працэсы, звязаныя з арганізацыяй жыццядзейнасці буйных чалавечых супольнасцяў, у пэўны гістарычны момант супалі ў часе і прасторы, і адно гэтае пераканаўча сведчыць аб іх узаемасувязі. Названы міжэтнічны кантакт аказаўся самай значнай гістарычнай з'явай на Панямонні за апошнія паўтара тысячагоддзя. Адсюль вынікае непазбежнасць яго ўплыву на іншы гістарычны працэс – стварэння і фармавання ВКЛ[43].

Менавіта ў балта-славянскай кантактнай зоне, між тымі старажытнымі гарадамі, дакладней – у прасторы паміж Менскам, Вільняй, Гародняй, Ваўкавыскам ды Слонімам – утварылася ядро новай дзяржавы – Літва (потым засталася яе цэнтральнай вобласцю). Яна захоўвала сваю назву яшчэ ў 19 – 20 ст. – праз два стагоддзі пасля ліквідацыі ВКЛ.

---

[41] Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. С. 45.

[42] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: Выш. школа публічнай адміністрацыі, 2008. С. 90 – 95.

[43] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 10.

Да пачаткаў ВКЛ усходнія славяне і балты мелі на Панямонні ўжо больш чым двухвекавы вопыт мірнага супрацоўніцтва. Высокі ўзровень эканамічна-культурнага жыцця панямонскіх гарадоў, які ўразіў нават спецыялістаў-археолагаў, у пэўнай меры, быў выкліканы менавіта гэтым супрацоўніцтвам. Хаця ўдзел у гарадскім жыцці балтаў даследчыкі ацэньваюць як намнога меншы за славянскі, самі панямонскія гарады (Навагрудак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім і інш.) выступалі як эканамічна-адміністрацыйныя і ваенна-абарончыя цэнтры ўсёй змешанай балта-славянскай ваколіцы. У той жа час анклавы славянскага сельскага насельніцтва маглі ўваходзіць у склад балцкай тэрытарыяльна-племяннай арганізацыі[44].

## 1.2.2. Палітычны стан

Напярэдадні ўтварэння ВКЛ – у пачатку 40-х гадоў 13 ст. – у Верхнім і Сярэднім Панямонні актыўна праходзіў працэс балта-славянскіх кантактаў – славяне працягвалі перамешвацца з мясцовымі балтамі: яцвягамі і аўкштайтамі (у першую чаргу – з найбліжэйшымі геаграфічна літоўцамі). На паўночным захадзе і поўначы ад Панямоння ўмацоўваліся дзяржаўныя арганізацыі нядаўна сфармаваных нямецкіх анклаваў: Інфлянты (падзеленыя на ўладанні Інфлянцкага ордэна, рыжскага архібіскупа, мясцовых біскупаў і горада Рыгі) і Прусы (дзяржава Тэўтонскага ордэна). Ад Літвы іх аддзялялі племянныя тэрыторыі жамойтаў і семігалаў.

На захад ад Панямоння ляжала палітычна падзеленая Мазовія, князі якой, дзеля захавання незалежнасці, праводзілі палітыку лавіравання паміж мацнейшымі суседзямі.

З усходу, поўдня і паўднёвага захаду Панямонне атачалі раздробленыя на ўдзелы беларускія Полацкая, Менская, Тураўская, Пінская і Берасцейская землі. Апошнія тры ўваходзілі ў палітычную сістэму Галіцка-Валынскага княства, якое на той час было наймацнейшай дзяржавай усходнеславянскага свету. Землі Беларускага Панямоння ў 13 ст. таксама знаходзіліся ў сферы ўплываў Галіцка-Валынскай дзяржавы. Добра відочны культурны ўплыў, напрыклад, будаўніцтва мураваных абарончых вежаў г.зв. валынскага тыпу (гатычных) у Гародні і Наваградку. Ускоснае, але даволі пераканаўчае сведчанне пра палітычную залежнасць Наваградчыны і Гарадзеншчыны ад Галіцка-Валынскага княства знаходзім у лісце каталіцкага першасвятара да Міндаўга ад 6 сакавіка 1255 г. папа Аляксандр IV пісаў, што Міндаўг праз змаганне з "*каралеўствам Русі*" (галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч каранаваўся ад папы рымскага ў 1253 г.) "*падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства*"[45]. Паводле іншых крыніц вядома, што тымі землямі маглі быць толькі Наваградчына і Гарадзеншчына.

За некалькі папярэдніх стагоддзяў балта-славянскага ўзаемадзеяння ў рэгіёне ўсталявалася адносна стабільная этна-культурна-палітычная сістэма, спецыфіка якой выяўлялася ў яе біэтнічнай аснове. Галоўнымі палітычнымі сіламі ў рэгіёне былі **ўсходнеславянскія гарады-дзяржавы** і **група моцных балцкіх кунігасаў** – вайсковых і племянных правадыроў тутэйшых балтаў. Дынамічная раўнавага ў сістэме трымалася на мірным суіснаванні гэтых дзвюх сілаў.

Названы сімбіёз у сваю чаргу быў часткай буйной палітычнай сістэмы Усходняй Еўропы. У рэгіёне дамінавала ўсходнеславянская культура і адбывалася паступовая асіміляцыя балцкага насельніцтва, якая з пазіцыі сённяшняга дня ацэньваецца як праява этнагенезу беларусаў. Менавіта гэтая тэрыторыя (балта-славянская кантактная зона)

---

[44] Łowmiański H. Początki Polski. Warszawa, 1967. T. 3. S. 82.

[45] Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях = Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimonies / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі; уклад., пер. на бел. мову, камэнт. А. Жлуткі. Мн.: Тэхналогія, 2005. С. 77.

стала ядром ВКЛ – гістарычнай Літвой, утрымлівала назву "Літва" да пачатку 20 ст. і захоўвае пэўную адметнасць да сённяшняга дня[46].

Стабільнасці панямонскай сістэмы не парушыў усплёск ваяўнічасці балцкіх плямёнаў, названых у летапісах "літвой", зафіксаваны, пачынаючы ад 80-х гадоў 12 ст. Раўнавага захавалася найперш па той прычыне, што ваяўнічы рух балтаў быў накіраваны за межы сваёй панямонскай сістэмы. Пісьмовыя крыніцы (усходнеславянскія летапісы, польскія і нямецкія хронікі) зафіксавалі дзясяткі рабаўнічых паходаў літоўцаў амаль ва ўсіх кірунках: на польскія, галіцка-валынскія, чарнігаўскія, смаленскія, ноўгарадскія, пскоўскія землі, на Лівонію і землі эстаў. Аднак даследчыкам не ўдалося знайсці прамога ці вартага даверу ўскоснага сведчання пра напад летапісных літоўцаў на Наваградак, Гародню, Ваўкавыск, Менск, Полацак ці іншыя гарады будучай Беларусі. І наадварот, маюцца прамыя сведчанні крыніц аб полацка-літоўскім, пінска-літоўскім, наваградска-літоўскім супрацоўніцтве. Суседзі-славяне бесперашкодна прапускалі літоўскія атрады праз сваю тэрыторыю, а пры зручным выпадку і самі былі не супраць да іх далучыцца. Так, напрыклад, зрабілі палачане ў 1198 г. і ў 1258 г., калі хадзілі ваяваць разам з літоўскімі атрадамі супраць свайго суперніка – Смаленска. У 1203 г. васал Полацка князь Усевалад з Герцыке з саюзным літоўскім атрадам нечакана з'явіўся каля Рыгі, забраў жывёлу з пашы і захапіў двух святароў, якія разам з пілігрымамі секлі лес. У 1245 г. пінскі князь патаемна паслаў ганца папярэдзіць літоўскі атрад пра надыход валынскага войска. Усе вядомыя выпадкі прыходу літоўскіх кунігасаў на княжанне ва ўсходнеславянскія гарады ў 13 ст. адбыліся праз запрашэнне[47].

Да Аўкштоты амаль з усіх бакоў (з захаду, поўдня, усходу) прылягалі "мірныя" тэрыторыі. Яны складаліся як з балцкіх (Яцвягія, Прусія), так і бліжэйшых усходнеславянскіх земляў: Наваградчына, Гарадзеншчына, Полацкая, Тураўская, Пінская землі. У выніку племянная тэрыторыя летапісных літоўцаў была аточаная нібыта "поясам бяспекі". Вораг не мог лёгка дабрацца да літоўскіх паселішчаў – трэба было прайсці як мінімум пару сотняў кіламетраў праз гэтыя заміраныя з літоўцамі землі.

Тым не менш, сам факт мілітарнай актыўнасці сярэднявечных літоўцаў стаў важнейшай падставай для ўзнікнення тэзы аб заваёве Беларускага Панямоння (як і ўсёй Беларусі) летувісамі і ацэнкі ВКЛ як балцкай дзяржавы (летувацэнтрысцкая канцэпцыя генезісу ВКЛ). Зыходзячы з рэальнага факту літоўскіх паходаў на ўсходнеславянскія землі, некаторыя гісторыкі прапанавалі тэзу пра перарастанне рабаўнічых нападаў на Русь у тэрытарыяльна-захопніцкія[48].

Аднак маўчанне пісьмовых крыніцаў пра балта-славянскую канфрантацыю на землях Беларусі і даказаны даследаваннямі мовазнаўцаў і археолагаў мірны характар балта-славянскіх кантактаў абвяргае версію пра заваёву летувісамі беларускіх земляў (гэтаксама, як беларусацэнтрысцкую гіпотэзу Міколы Ермаловіча пра заваёву балцкай Літвы Наваградкам[49]). Выраз з цытаванага вышэй ліста папы рымскага да Міндаўга "*падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі…*" не азначае, што землі, пра якія ідзе гаворка (Наваградчына і Гарадзеншчына), былі захопленыя ці падпарадкаваныя супраць волі іх жыхароў. Наадварот, яны ваявалі на баку Міндаўга ды яго наступнікаў Войшалка і Трайдэна.

Другой не менш важнай часткай летувацэнтрысцкай канцэпцыі з'яўляецца тэза пра

[46] Цітоў В.С. Народная спадчына: матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. С. 258 – 279.

[47] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 132 – 135.

[48] Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981. S. 24.

[49] Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991. С. 58 – 60; ён жа: Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 316–318; ён жа: Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн.: "Беллітфонд", 2000. С. 65 – 69.

утварэнне яшчэ ў канцы 12 – пачатку 13 ст. папярэдніцы ВКЛ – раннефеадальнай літоўскай (летувіскай) дзяржавы на балцкай тэрыторыі (саюз ці канфедэрацыя). Гісторыкі паклалі шмат намаганняў, каб выявіць сляды той дзяржавы. Аднак пошукі гэтыя нельга прызнаць удалымі. Надзейна ўстаноўлены толькі факт сацыяльнай дыферэнцыяцыі балцкіх плямёнаў, у тым ліку літоўцаў. Яе паскарала ваенна-рабаўнічая дзейнасць. Асобныя ўдачлівыя правадыры-арганізатары рабаўнічых паходаў засяроджвалі ў сваіх руках значныя матэрыяльныя багацці. Выдзелілася праслойка г. зв. нобіляў, што пацвярджаюць археалагічныя матэрыялы. Аднак з'яўленне племяннной арыстакратыі – яшчэ не доказ існавання дзяржавы. Несумненна, ваенна-рабаўнічая актыўнасць паскарала сацыяльную дыферэнцыяцыю балцкага познеродавага грамадства і з'яўлялася прадвеснікам новага ладу – дзяржаўнага. Аднак на эвалюцыю патрабаваўся час, якога якраз не было.

Паводле класічнай дэфініцыі дзяржавы, сфармуляванай Георгам Еллінекам, саюз ці канфедэрацыя плямёнаў яшчэ не з'яўляецца дзяржавай. Часовае аб'яднанне некалькіх племянных дружынаў у ваенным паходзе, дамовы іх правадыроў з суседнімі князямі (як вядомая дамова групы балцкіх кунігасаў з галіцка-валынскімі князямі ў 1219 г.) нельга дэфініяваць як дзяржаву.

Для дзяржаўнай арганізацыі неабходна наяўнасць трох кампанентаў: **насельніцтва**, **тэрыторыі**, **публічнай улады**. "Як прававое паняцце дзяржава ёсць, такім чынам, *карпарацыя, насяляючага пэўную тэрыторыю народа, якая валодае першаснай вярхоўнай уладай*, ці, ужываючы пашыраны ў навейшы час тэрмін, *тэрытарыяльная карпарацыя, якая валодае першаснай уладай*"[50]. А вось разгорнутая дэфініцыя: **Дзяржава – гэта палітычная, прымусовая, тэрытарыяльная, забяспечаная спецыяльным апаратам арганізацыя, якая ахоплівае ўсё грамадства і выконвае акрэсленыя функцыі**[51]. Гэтая арганізацыя канцэнтруецца на кіраванні грамадствам, таму яна – **палітычная**; прымае рашэнні і выконвае іх, ужываючы пры неабходнасці апарат прымусу, адсюль яна **прымусовая**; валодае пэўнай тэрыторыяй (**тэрытарыяльная**); забяспечана **спецыяльным апаратам**, створаным з людзей, якія прафесійна займаюцца кіраваннем і ўжываннем прымусу. Функцыі дзяржавы: **унутраная** – падтрыманне прававога парадку – і **знешняя** – абарона перад знешняй небяспекай.

## 1.3. СТВАРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

### 1.3.1. Славяна-балцкі саюз

Даследчыкі неаднаразова звярталі ўвагу на сувязь генезы ВКЛ са знешнепалітычнай сітуацыяй ва Усходняй Еўропе. Мясцовая панямонская палітычная сістэма знаходзілася ў стане дынамічнай раўнавагі да моманту, пакуль раўнавага не была парушаная звонку праз надзвычайныя знешнія пагрозы. Іх было дзве:

1. **З'яўленне і актыўная экспансія нямецкіх анклаваў ва Усходняй Прыбалтыцы ў канцы 12 – першых дзесяцігоддзях 13 ст. (у Інфлянтах і Прусіі).**

2. **Пагром паўднёвай і ўсходняй Русі мангола-татарамі ў 1238 – 1240 г.**

Немцы з пачатку 13 ст. трывала ўсталяваліся ў ніжнім цячэнні Дзвіны (Livland – Лівонія, або **Інфлянты**). Яны паспяхова спаборнічалі з Полацкам за дамінаванне ў ніжнім Падзвінні і паступова падпарадкоўвалі мясцовыя плямёны.

---

[50] Еллинек Г. Право современного государства. Т. 1. Общее учение о государстве. Санкт-Петербург, 1903. С. 114; гл. таксама: Jellinek G. Ogólna nauka o państwe. Warszawa, 1921. S. 19–20.

[51] Bohdanowicz J., Dzięcielski M. Zarys geografii historycznej i politycznej cywilizacji. Gdańsk, 1994. S. 42 - 46.

**Інфлянты** (**Лівонія**). Гістарычная краіна, заселеная балцкімі і фіна-ўгорскімі плямёнамі. Уключала тэрыторыі сённяшніх Латвіі і Эстоніі. Назва паходзіць ад спольшчанай нямецкай – Livland (краіна ліваў – фіна-ўгорскага племя). У сярэднявеччы І. былі аб'ектам беларускай (полацкай), скандынаўскай і нямецкай экспансіі. Нямецкая калонія тут паўстала ў канцы 12 – пачатку 13 ст. (у 1201 г. немцы заснавалі горад Рыгу). У 1202 г. для больш эфектыўнай каланізацыі краіны і хрысціянізацыі мясцовых паганцаў створаны рыцарскі ордэн мечаносцаў, вядомы як **Інфлянцкі ордэн**. Тэрыторыя І. была падзеленая паміж ордэнам, горадам Рыгай, рыжскім архібіскупствам і чатырма біскупствамі. Ордэн змагаўся з біскупамі за вярхоўную ўладу ў краіне, але ні адзін з бакоў не здабыў поўнай перавагі.

У сувязі з маскоўскай агрэсіяй магістр І. ордэна ў 1559 – 1561 г. прыняў пратэктарат ВКЛ, што выклікала Інфлянцкую вайну між Масковіяй і ВКЛ (ад 1569 г. разам з Польшчай у складзе Рэчы Паспалітай). У 17 ст. большую частку І. забрала Швецыя, у 1721 г. ад шведаў адабрала Расея.

**Інфлянцкі (Лівонскі) ордэн** заснаваны ў 1202 г. у Інфлянтах дзеля спраўнейшай барацьбы з мясцовымі язычнікамі. Рыцары І.о. насілі белыя плашчы з выявай чырвонага крыжа і меча (адсюль пашыраная назва "мечаносцы"). Атрымліваў адну трэць здабытых земляў у І. (астатнія даставаліся біскупам). У 1237 г. фармальна аб'яднаўся з Тэўтонскім ордэнам і стаў ягонай філіяй, але захоўваў значную самастойнасць. Падчас І. вайны 1558 – 82 г. ордэнская дзяржава перайшла пад пратэктарат ВКЛ (Віленскія дамовы 31.08.1559 і 28.11.1561).

Усё часцей інфлянцкія немцы ўступалі ў канфлікты з летапіснымі літоўцамі. Тыя прыходзілі ў рабаўнічыя паходы пад самую Рыгу. У 1205 г. рыжане разам з семігаламі разбілі буйны атрад літоўцаў, якія вярталіся з нападу на землі эстаў[52]. У 1236 г. інфлянцкія рыцары пацярпелі буйную паразу ад літоўцаў і семігалаў пад Шаўламі. Загінулі амаль усе рыцары-мечаносцы, у тым ліку іх магістр. У выніку распачалося антынямецкае паўстанне ў Семігаліі і Куроніі, а Ордэн мечаносцаў у 1237 г. стаў філіяй Тэўтонскага ордэна[53].

**Тэўтонскі ордэн** ад канца 20-х гадоў 13 ст. на працягу паўстагоддзя падпарадкоўваў Прусію, потым (ад 1283 г.) распачаў актыўную экспансію на Панямонне. На чатыры дзесяцігоддзі раней, у 1245 г., Ордэн атрымаў ад германскага імператара прывілей на валоданне будучымі тэрытарыяльнымі набыткамі ў Літве[54]. Хоць крыжацка-ліцвінская вайна яшчэ не распачалася, адгалоскі вайны ў Прусіі даходзілі і да Літвы, тут шукалі паратунку ад тэўтонаў прускія ўцекачы.

---

[52] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. Москва, Ленинград: Издательство АН СССР, 1938. С. 73, 77 – 79.

[53] Mantueffel T. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. Kraków: Universitas, 2007. S. 27.

[54] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten /Ed. F.G.Bunge. Reval, 1853. Bd. 1 (1093–1300). N 185.

**Тэўтонскі ордэн**. Арганізацыя манахаў-рыцараў, створаная ў 12 ст. у Палесціне дзеля эфектыўнага змагання з мусульманамі. Папаўняўся амаль выключна немцамі. Пасля выгнання крыжаносцаў з Палесціны асноўную сядзібу перанёс у Прыбалтыку (Прусы). Пачаткі ордэнскай дзяржавы ў Прусах сягаюць у 1228 г., калі мазавецкі князь Конрад запрасіў іх дзеля дапамогі ў вайне з прускімі плямёнамі. Ордэн збудаваў у Прусах невялікую, але добра арганізаваную дзяржаву, якая пакарыла тубыльцаў, прыцягнула каланістаў з нямецкіх і суседніх польскіх, беларускіх і летувіскіх земляў.

У 13 – 14 ст. Ордэнская дзяржава паспяхова ваявала з ВКЛ і Польскім каралеўствам, пакуль не была разбітая пад Грунвальдам 15.07.1410 г. Параза ў вайне з Польшчай 1454 – 1466 г. прывяла да страты г.зв. Каралеўскіх Прусаў (увайшлі ў склад Польшчы); Ордэнская дзяржава (са сталіцай у Кёнігсбергу) стала леннікам Польскага каралеўства.

У 1525 г. гросмайстар Ордэна Альбрэхт Гогенцолерн секулярызаваў ордэнскую дзяржаву: прыняў лютэранства і абвясціў сябе свецкім уладаром – прускім герцагам; прынёс ленную прысягу польскаму каралю (ад таго часу ў польскай гістарыяграфіі Прускае герцагства называецца Княскімі Прусамі). У 1701 г. Прускае герцагства, аб'яднаўшыся з Брандэнбургам, стварыла Прускае каралеўства.

Мангола-татары зруйнавалі ўсю паўднёвую і ўсходнюю частку ўсходнеславянскага арэалу. Былі пакораныя існуючыя там дзяржавы, перасекліся традыцыйныя гандлёвыя шляхі. Пагроза з паўднёвага ўсходу пастаянна адчувалася і на Панямонні. Усведамленне неабходнасці яднання дзеля абароны мусіла праявіцца найвыразней пасля 1240 – 1241 г., калі мангола-татарская небяспека стала блізкай рэальнасцю. Мангольскія войскі спустошылі Паўднёвую Русь, захапілі Кіеў. Пад удар трапіла таксама беларускае Падняпроўе, у тым ліку Гомельшчына і, магчыма, Магілёўшчына[55], а таксама Берасцейшчына. Як паведаміў летапіс, ля Бярэсця галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька "*не возмогоста ити в поле, смрада ради множьства избьеных*"[56].

Перад фактам знешніх пагрозаў **наступнай ступенню эвалюцыі балта-славянскага сімбіёзу на Панямонні стала стварэнне дзяржаўнай арганізацыі дзеля абароны сваёй жыццёвай прасторы (новая дзяржава атрымала назву Вялікае Княства Літоўскае)**. Менавіта ваенная пагроза звонку справакавала пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Іншымі словамі, панямонская палітычная сістэма атрымала штуршок, імпульс звонку. Выглядае цалкам лагічным, што на чале настворанай арганізацыі стаў мацнейшы, правераны ў баях і паходах ваенны правадыр. Яго этнічнае паходжанне істотнага значэння не мела, асабліва ў рэгіёне, дзе два этнасы вякамі жылі ўперамешку.

Паводле тэрміналогіі, уведзенай ангельскім гісторыкам Арнольдам Тойнбі, гісторыя ставіць перад людскімі супольнасцямі выклік, на які неабходна знайсці адказ. Канцэпцыю **Выкліку – Адказу** Тойнбі выкарыстаў у даследаванні генезісу цывілізацый[57]. У сваёй глабальнай па ахопе працы Тойнбі звярнуўся і да нашага прыкладу з 13 ст., менавіта нападу на землі Русі азіяцкіх качэўнікаў: "*Гэты нечаканы ціск, які пачаўся ў 1237 г. знакамітым паходам на Русь мангольскага хана Батыя, аказаўся вельмі моцным і працяглым. Гэты выпадак яшчэ раз даводзіць, што, чым мацнейшы выклік, тым больш арыгінальны і стваральны адказ*"[58].

---

[55] Макушников О.А. Гомель с древнейших времён до конца 18 в. Историко-краеведческий очерк. Гомель, 2010. С. 67; Марзалюк І.А. Магілёў у 12 – 18 ст. Людзі і рэчы. Магілёў-Мінск, 1998. С. 18.

[56] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 788.

[57] Тойнби А. Дж. Постижение истории. Москва: Прогресс, 1991. С. 108.

[58] Тойнби А. Дж. Постижение истории. С. 140.

Калі нейкая цывілізацыя (супольнасць) не здолее знайсці адказу на выклік, то, верагодна, яна трапіць у крызіс або нават у заняпад (напрыклад, паўднёваамерыканскія або бліжэйшыя да нас лакальныя супольнасці яцвягаў і прусаў у Прыбалтыцы).

Нас найбольш цікавяць панямонскія **ўнутрысістэмныя працэсы, якія ў гістарычнай літаратуры выступаюць пад назвай "генезіс ВКЛ".** Ведаючы вытокі знешняга штуршка (Выкліку гісторыі), заканамерна паставіць наступнае пытанне: што было самым пачаткам, адпраўным пунктам новага ўнутрысістэмнага працэсу? Ці канкрэтней, што парушыла дынамічную раўнавагу на Панямонні і прывяло мясцовую палітычную сістэму ў рух?

Аналіз наяўных пісьмовых звестак у комплексе з данымі археалогіі і лінгвістыкі дазваляе адказаць на гэтыя пытанні наступным чынам: **пачаткам ВКЛ стаў палітычны саюз двух галоўных рэгіянальных сілаў – усходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў з некаторымі найбольш моцнымі правадырамі балцкіх плямёнаў.** Больш канкрэтна – **пачаткам Вялікага Княства Літоўскага быў саюз важнейшага горада рэгіёна – Наваградка, з мацнейшым з суседніх кунігасаў Міндаўгам.** Менавіта гэты саюз парушыў дынамічную раўнавагу сілаў на Панямонні, даў саюзнікам перавагу і пры адпаведных знешніх абставінах паклаў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Калі род Міндаўга перарваўся, аналагічны саюз Наваградак стварыў з іншым моцным правадыром – Трайдэнам.

У дэфініцыі названага саюза не ўжыты тэрмін "беларуска-летувіскі", бо на той час не існавалі беларускі і летувіскі народы ў сучасным іх разуменні. Аднак несумненная эвалюцыйная сувязь яго ўдзельнікаў – балтаў – з сённяшнімі летувісамі, а ўсходніх славян – з беларусамі, дазваляе акрэсліць яго, з пункту гледжання сённяшняга дня, як беларуска-летувіскі, а дзяржаву на момант яе ўтварэння – як беларуска-летувіскую.

Абодва этнасы зрабілі свой унёсак у будову дзяржавы. На чале яе стаў князь балцкага паходжання, балты складалі значную частку насельніцтва. Разам з тым, у гэтай саюзнай балцка-славянскай дзяржаве відочная перавага славянскага чынніку як больш моцнага матэрыяльна і больш развітага цывілізацыйна. У 13 ст. летувісы, у адрозненне ад беларусаў, былі язычнікамі, не мелі пісьмовасці, вопыту дзяржаўнай арганізацыі, не стваралі гарады і мураваную архітэктуру. Таму новая дзяржава кшталтавалася на ўсходнеславянскі капыл. Галоўнай яе апорай былі ўсходнеславянскія (беларускія) гарады; пры стварэнні ВКЛ выкарыстоўваліся мясцовыя ўзоры ўсходнеславянскай дзяржаўнасці, а старабеларуская мова стала афіцыйнай. Пануючая дынастыя балцкага паходжання прыняла назву дзяржавы па славянскім падабенстве – "княства", племянная балцкая арыстакратыя стала часткай феадальнага класа – баяраў (у летувіскай мове нават не ўзнік уласны тэрмін для абазначэння ваенна-служылага саслоўя, а быў прыняты беларускі – баяры – bajorai); урадавай мовай стала старабеларуская і г.д.

Выснова: **ВКЛ з самага пачатку было біэтнічнай (балта-ўсходнеславянскай) дзяржавай з дамінаваннем усходнеславянскага элемента**[59].

## 1.3.2. Наваградак і Міндаўг

Мангола-татарская пагроза з паўднёвага ўсходу і крыжацкая – з поўначы і паўночнага захаду – прыспешыла арганізацыю новай дзяржавы са сталіцай у Наваградку. У якасці арганізацыйнага ўзору яна прыняла мясцовыя дзяржаўныя арганізмы (Гарадзенскае і Наваградскае княствы), а афіцыйнай мовай – беларускую (старабеларускую).

Пачаткам новай дзяржавы (ВКЛ) на Панямонні стаў прыход на княжанне ў Наваградак балцкага князя Міндаўга каля 1248 г. Са сціслай інфармацыі, змешчанай у **Галіцка-Валынскім летапісе** (найважнейшая крыніца), вядома, што каля 1248 г. Міндаўг сілай

[59] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 160.

забраў уладанні ў сваіх пляменнікаў Таўцівіла ды Эрдзівіла ў Літоўскай зямлі (знаходзілася на правых прытоках Нёмана).

**Галіцка-Валынскі летапіс**. Галоўная пісьмовая крыніца па пачатковай гісторыі ВКЛ. Складае трэцюю частку вядомага Іпацьеўскага летапісу і вядзе аповед пра падзеі ад пачатку да канца 13 ст. Захаваўся, па ўсёй верагоднасці, у пінскім спіску ці рэдакцыі. Адсюль надзвычай дакладныя геаграфічныя апісанні Палесся і блізкіх геаграфічна Наваградчыны і Гарадзеншчыны. Летапіс не меў падзелу на гадавыя запісы, пазнейшая разбіўка па гадах аказалася недакладнай і была скрупулёзна выпраўленая Міхайлам Грушэўскім (Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1 – 72).

Пляменнікі ўцяклі ў Галіцка-Валынскае княства, тамтэйшыя князі, браты Даніла і Васілька Раманавічы, насуперак просьбе Міндаўга прынялі іх і ў 1249/50 г. выправіліся супраць яго ў паход на Наваградак[60]. Гэты запіс у асноўнай крыніцы па пачатковай гісторыі ВКЛ – першы зафіксаваны выпадак атаясамлення (г.зн. саюза) Міндаўга з Наваградкам[61]. [*] З яго вынікае, што **саюз Наваградка і Міндаўга аформіўся каля 1248 г., і гэтую дату можна лічыць пачаткам ВКЛ**.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

“Въ то же лѣто* изгна Миндогъ сыновца своего Тевтевила и Едивида, пославшю ему на войну ею со уемъ своимъ (пославшому на войну со воемъ своими на войну) со Выконтомъ (со выконотомъ), на Русь воевать ко Смоленьску, и рече: «што кто пріемлеть, собѣ держить (одрьжить (одержить))» враждбою бо за ворожьство съ ними Литву заня (занѣ), поимана (повина) бѣ вся земля Литовьская и бесчисленое имѣніе ихъ, притрено (притрано) бѣ богатьство ихъ; и посла на нѣ вои своѣ, хотя убити я. Онѣма же увѣдавшима, и бѣжаста ко князю Данилу и Василкови, и пріѣхаша во Володимерь. Миндогови же приславшю слы (послы) своя, река: «не чини има милости;» не послушавшима има Данилови и Василкови, зане сестра бѣ ею за Даниломъ. Потомъ же Данило сгада съ братомъ си, и посла въ Ляхы ко княземъ Лядьскымъ, река: яко время есть хрестьяномъ на поганѣѣ (на поганыа(я)), яко сами имѣють рать межи собою;» Ляхове же обѣщашася, нъ не исполниша (и не исполниша). Данилу же и Василку пославшима Выкыньта во Ятвязѣ и во Жемоитѣ (и в жемоить (и во жмоть)), ко Нѣмцемъ въ Ригу: и Викинть же убѣди я серебромъ и дарми многими Ятвязѣ и полъ Жемоити. Нѣмцемъ же (онѣмъ же) отвѣщавшимъ Данилу, яко «тебе дѣля миръ створимъ со Выкынтомъ, зане братью нашу многу погуби;» обѣщашажеся Нѣмци братья ити на помощь Тевтивилу. Данило же и Василко поидоста къ Новугороду**. Данилъ же и Василко, братъ его, розгадавъ со сыномъ, брата си посла на Волковыескъ, а сына на Услонимъ (на слонимъ), а самъ идее ко Здитову: и поимаша грады многы и взвратишася въ домы.”

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

---

[60] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 815–816.

[61] Акрамя таго, гэта першае сведчанне пашырэння хароніма “Літва” на славянскія землі. Летапісец піша пра Літоўскую зямлю і беларускія гарады Панямоння як пра адзінае цэлае.

Ипатьевская летопись [у:] Полное собрание русских летописей. Т.2. Санкт-Петербург, 1842. С. 187; Санкт-Петербург, 1908. Стб. 815 – 816.

**Каментары**. *У летапісе пададзена недакладная дата – 1251 г. Паводле М. Грушэўскага, падзея мела месца, верагодна, у 1248 г.: Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи. С. 35, 67.

**Вельмі важнае сведчанне крыніцы, бо паказвае на саюз Наваградка з Міндаўгам. Той заняў "Літоўскую зямлю", у адказ галіцка-валынскія князі пайшлі вайной на Міндаўга, а канкрэтна – на Наваградак і іншыя беларускія гарады Панямоння.

Невядома дакладна, якім чынам Міндаўт усталяваўся ў Наваградку. Ад адказу на гэтае, здавалася б, не самае важнае пытанне, залежыць агульная інтэрпрэтацыя далейшай гісторыі ВКЛ: ацэнка этнічнага характару дзяржавы, узаемаадносінаў між літоўцамі (летувісамі) і русінамі (беларусамі), урэшце, вызначэнне ролі ВКЛ у фармаванні беларускага і летувіскага народаў.

Паводле бліжэйшых аналогій (у крыніцах апісаныя факты прыходу іншых князёў балцкага паходжання на сталы ўсходнеславянскіх гарадоў-княстваў: Даўмонта ў Пскоў – 1265 г., Таўцівіла ў Полацак – між 1258 – 1262 г.), можна меркаваць, што мела месца запрашэнне Міндаўга на наваградскі стол ў якасці служылага князя. Адбылося гэта каля 1248 г. (да гэтага года адносіцца першае сведчанне летапісу пра існаванне саюзу Наваградка з Міндаўгам)[62].

Пісьмовыя крыніцы не зафіксавалі фармальны акт гэтага саюзу, гэтаксама, як і час яго ўтварэння. Вельмі верагодна, што па прычыне адсутнасці традыцыі складання падобных дакументаў, названы акт увогуле не быў аформлены пісьмова. Яшчэ ў 14 і пачатку 15 ст. пісаны дакумент у ВКЛ выкарыстоўваўся амаль выключна пры міжнародных кантактах. Вельмі рэдка вялікія князі карысталіся ім у адносінах з прадстаўнікамі сваёй дынастыі[63]. На жаль, не захаваліся тагачасныя ўласна панямонскія і полацкія летапісы.

Тым не менш, наяўныя хронікі, летапісы і актавыя матэрыялы выразна адлюстравалі дзейнасць наваградска-літоўскага саюзу, паколькі гэтая дзейнасць выходзіла далёка за рамкі рэгіянальных маштабаў.

Па шэрагу летапісных звестак можна вывесці, што ў саюзе з Наваградчынай была не ўся Аўкштота і нават не ўся Літоўская зямля, а толькі яе частка, падуладная Міндаўгу, а пазней, у 70-х гадах – літоўскае ўладанне Трайдэна. Агульная плошча дзяржавы складала каля 90 тыс. кв. км.

Нам невядома, хто быў ініцыятарам, у чыёй галаве саспела рашэнне як адказ на надзённыя патрэбы і трывогі часу. Ці сам Міндаўт прыслаў да наваградчанаў прапанову злучыць свае сілы, ці наваградскія моцныя людзі, усвядоміўшы раптоўны абрыў усіх багатых гандлёвых сувязяў на паўднёвым усходзе, паслухаўшы ўцекачоў, паслалі запрашэнне мацнейшаму з суседніх кунігасаў да сябе на княжанне.

На Панямонні ў той час склаліся спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення новай дзяржаўнасці. Гэтая зямля не была спустошаная татарамі і некалькі дзясяткаў гадоў ёй не пагражала сур'ёзная знешняя небяспека. Манголы ў пачатку 40-х гадоў 13 ст. шчасліва прайшлі ўзбоч па паўднёвай Русі далей у Еўропу[*].

[62] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 131 – 132.

[63] Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieka. Poznań, 1995. S. 13.

[*] Вясной 1241 г. мангольскія войскі на чале з Бату-ханам рушылі ў Еўропу трыма карпусамі. Галоўныя сілы прайшлі праз карпацкі перавал і напалі на Венгрыю. Другая частка арміі ўдарыла на Сяміграддзе з боку Малдовы. Трэці корпус пайшоў на Польшчу, каб не дапусціць адтуль падмогі венграм. Спаліўшы Кракаў, Сандомір, Аполе і Ўроцлаў, манголы сутыкнуліся ў бітве пад Легніцай з сіламі ўроцлаўска-кракаўскага князя Генрыка Пабожнага, узмоцненымі вайсковымі аддзеламі з Германіі. 9 красавіка 1241 г. польскае войска было разгромленае, князь Генрык загінуў, а мангольскі корпус пайшоў праз Маравы ў Венгрыю на злучэнне з асноўнымі сіламі.

Галоўны корпус манголаў 11 красавіка разграміў войска венгерскага караля Бэлы IV, які ўцёк за Дунай. Гэтая буйная рака да зімы стрымлівала пераможцаў. Бэла IV дарэмна стараўся аб дапамозе ад іншых еўрапейскіх дзяржаў. Зімой манголы перайшлі Дунай па лёдзе, занялі рэшту Венгрыі, у пагоні за венгерскім каралём дайшлі да Далмацыі, а той схаваўся на адным з астравоў Адрыятычнага мора.

Вясной 1242 г. манголы нечакана пакінулі Венгрыю, па прычынах да канца не вядомых. Звычайна прымаецца, што Бату-хана змусіла вярнуцца ў стэп смерць вялікага хана Угедэя і праблема выбараў новага ўладара мангольскай імперыі.

Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. Warszawa, 2008. S. 278 – 279.

Тэўтонскі ордэн ажно да пачатку 80-х гадоў быў заняты цяжкай заваёвай прускіх земляў. Нямецкая калонія ў Інфлянтах змагалася больш з Полацкам, Віцебскам, Ноўгарадскай ды Пскоўскай купецкімі рэспублікамі.

Гісторыя падаравала Літве трохі часу (каля чатырох дзесяцігоддзяў), неабходнага для арганізацыі дзяржавы (фармулёўкі адказу на Выклік гісторыі) ды пераадолення непазбежных у такіх справах унутраных праблемаў і канфліктаў.

* * *

Комплекснае вывучэнне гістарычных крыніц прыводзіць да наступных высноваў адносна стварэння ВКЛ:

- ВКЛ узнікла ў сярэдзіне 13 ст. у балта-славянскай кантактнай зоне (басейн Верхняга і Сярэдняга Нёмана – "уласна Літва").
- Штуршком да пачатку працэсу дзяржаваўтварэння стала знешняя пагроза з боку Залатой Арды і Тэўтонскага ордэна (найперш, яго інфлянцкай філіі).
- Існаванне раннефеадальнага балцкага дзяржаўнага ўтварэння (саюза ці канфедэрацыі) – папярэдніка ВКЛ нельга лічыць даказаным, яно, па ўсёй верагоднасці, – міф.
- Пачаткам ВКЛ стаў утвораны каля 1248 г. саюз усходнеславянскага горада Наваградка з балцкім нобілем Міндаўгам.
- ВКЛ з самага пачатку было біэтнічнай балта-ўсходнеславянскай дзяржавай з дамінаваннем усходнеславянскага элемента[64].

[64] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 160.

# Глава 2. Выпрабаванне на трываласць (1248 – 1270 г.)

У першыя два дзесяцігоддзі ад пачатку ВКЛ да смерці вялікага князя Шварна Данілавіча (1248 – 1270 г.) галоўнай задачай было выжыванне дзяржавы ў актыўна варожым атачэнні. У гэты час выдзяляецца некалькі асноўных кірункаў знешняй палітыкі, якія часам перакрываліся між сабой храналагічна:

- 1248 – 1264 г. Змаганне з Галіцка-Валынскім княствам;
- 1251 – 1260 г. Саюз з Лівонскім ордэнам;
- 1264 – 1270 г. Саюз з Галіцка-Валынскай дзяржавай.

Ва ўнутраным палітычным жыцці надзвычай важнай і пагрозлівай для маладой дзяржавы падзеяй стаў крызіс 1263 – 1264 г., выкліканы забойствам першага гаспадара – Міндаўга.

## 2.1. ЗМАГАННЕ З ГАЛІЦКА-ВАЛЫНСКІМ КНЯСТВАМ (1248 – 1264 г.)

### 2.1.1. Першая вайна (1248 – 1254 г.)

З'яўленне новага дзяржаватворчага цэнтра выклікала натуральную негатыўную рэакцыю галоўных гульцоў рэгіянальнай палітычнай сцэны. Сярод іх наймацнейшым быў паўднёвы сусед – Галіцка-Валынская дзяржава. Выгнаныя са сваіх уладанняў у Літве пляменнікі Міндаўга накіраваліся менавіта туды, дзе папрасілі вайсковай дапамогі. Тамтэйшы ўладар Даніла Раманавіч распачаў энергічныя дзеянні, скіраваныя на захаванне сваіх уплываў на Панямонні. Як вопытны дзяржаўны дзеяч ён выдатна разумеў важнасць панямонскіх падзеяў і небяспеку, якую яны неслі для яго краіны. Таму князь Даніла зрабіў захады, каб задушыць новую дзяржаву ў самым зародку. Насуперак прамой просьбе свайго даўняга саюзніка Міндаўга ён прыняў і збройна падтрымаў ягоных пляменнікаў. Такім чынам былі разарваныя прыязныя адносіны з Міндаўгам, якія складваліся на працягу некалькіх дзясяткаў гадоў (вядомыя факты ўзаемнай вайсковай дапамогі ў 1219, 1238, 1245 г.)[65] Больш за тое, Даніла Раманавіч стварыў супраць новай дзяржавы (паводле фармулёўкі летапісу – супраць Міндаўга) шырокую вайсковую кааліцыю. У яе склад, акрамя Галіцка-Валынскага княства (з дапаможнымі палавецкімі атрадамі), увайшлі: яцвяжскія і жамойцкія кунігасы ("и Викинть же убѣди я серебромъ и дарми многими Ятвязѣ и полъ Жемоити") і Інфлянцкі ордэн. Новы дзяржаўны асяродак быў атачоны ворагамі амаль з усіх бакоў, за выключэннем усходу, дзе ляжала традыцыйна мірная Полацкая зямля (Менскае княства).

Ужо праз некалькі месяцаў у 1249/1250 г. адбыўся першы ваенны паход кааліцыянтаў супраць Міндаўга, канкрэтнай мэтай якога быў Навагрудак. Летапісны запіс пра гэты паход з'яўляецца першым у гісторыі дакументальна зафіксаваным сведчаннем саюза паміж Навагрудкам і Міндаўгам (пачатак ВКЛ). Удар наносіўся па славянскай частцы дзяржавы Міндаўга – гарадах Навагрудку, Слоніму, Ваўкавыску, Здзітаву. Узначалілі па-

---

[65] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 131.

ход асабіста галоўныя галіцка-валынскія князі – браты Даніла і Васілька Раманавічы. Названы запіс з'яўляецца таксама першай вядомай згадкай у пісьмовых крыніцах панямонскіх гарадоў: Наваградка, Ваўкавыска, Слоніма, Здзітава[66].

Паводле тагачаснай ваеннай тактыкі, баявыя дзеянні праводзіліся як серыя паходаў на тэрыторыю варожай дзяржавы з мэтай здабыцця гарадоў і замкаў, разгрому ворага ў палявой бітве, апусташэння варожай тэрыторыі, захопу палону (мірнае насельніцтва, якое выводзілі ў сваю краіну).

Наступны паход супраць Літвы ў 1250 г. праходзіў ужо з двух процілеглых кірункаў пры ўдзеле інфлянцкіх рыцараў. З поўдня рушыла галіцка-валынскае войска пад камандай Таўцівіла, падмацаванае палавецкім атрадам. З поўначы войска Інфлянцкага ордэна вёў праз Нальшаны на **замак (burg** – паводле **Старэйшай рыфмаванай інфлянцкай хронікі) Міндаўга** магістр Андрэй фон Сцірланд. Дэталі выправы невядомыя. Маюцца звесткі, што пасля заканчэння паходу Таўцівіл накіраваўся ў Рыгу, дзе быў прыняты з пашанай і хрысціўся ў каталіцтва.

**Замак (burg) Міндаўга** (паводле Галіцка-Валынскага летапісу [у:] Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. 1842. С. 188; 1908. Стб. 818): "Миндъвгъ (на миндога, миндогъ і *інш.*) же собрался бѣ и умысливъ же собѣ не битися съ ними полкомъ, нъ вниде во градъ, именемъ Ворута, и высла шурина своего нощь (нощію): и розгнаша ӥ Русь (руша) и Ятвязѣ. Наутрѣя же выѣхаша (на ня) Нѣмцѣ со самострѣлы, и ѣхаша на нѣ Русь съ Половци и стрѣлами, и Ятвязѣ со сулицами, и гонишася на поли подобно игрѣ; оттуда же вратишася во Жемоить."

У гістарыяграфіі выказваліся меркаванні, што сталіцай дзяржавы мог быць родавы замак Міндаўга, месцазнаходжанне якога дакладна не ўстаноўлена. На гэтую ролю прапаноўваўся названы аднойчы ў Галіцка-Валынскім летапісе "град" Варута (ці па іншай версіі – Рута), дзе Міндаўг у 1251 г. бараніўся ад валынска-яцвяжска-жамойцкага войска. Магчыма, гэтая назва паходзіць з балцкай (яцвяжскай/летувіскай) мовы, ад слова *vará*, што азначае – "горад" ("град") (Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T. 1: Litwa a Moskwa w 13 – 14 wieku. S. 83). У гістарыяграфіі прадстаўлена некалькі (каля дзесяці) варыянтаў лакалізацыі Варуты, аднак ніводзін з іх не абгрунтаваны надзейнымі крыніцамі. Адно пэўна, што яна не знаходзілася ў Жамойці, бо нападнікі ад яе "вярнуліся ў Жамойць". (Гістарыяграфію аб пошуках Варуты гл.: Zabiela G. Kur stovėjo Vorutos pilis? // Lietuvos istorios metraštis. 1991. Vilnius, 1993. P. 5 – 22; Ён жа, Lietuvos medinės pilys. Vilnius, 1995. P. 171 – 175.)

Частка летувіскіх даследчыкаў прызнае верагоднай сталіцай Міндаўга Вільню. Некаторыя даследчыкі лічаць, што хрышчэнне і каранацыя Міндаўга маглі адбывацца і не ў сталіцы (аналогія – каранацыя Данілы Раманавіча ў Драгічыне). Беларускія і польскія гісторыкі схільныя бачыць сталіцай, месцам хрышчэння і каранацыі Міндаўга Наваградак, важнейшы на той час горад Панямоння (Гл., напрыклад: Kosman M. Pompa funebris w Wilnie doby przedrozbiorowej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. VI. 1994. S. 131; Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław-Warszawa-Kraków: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1990. S. 48; Rachuba A. Historia Litwy [w:] Rachuba A., Kiaupienė J., Kiaupa Z. Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski. Warszawa: DiG, 2009. S. 14.)

[66] Пазнейшая за час напісання летапісу ўстаўка даты паходу – 1252/1253 – недакладная; хоць удакладненне М. Грушэўскага (1249/1250 г.) было зроблена ў пач. 20 ст., у беларускай і расейскай гістарыяграфіі памылковая дата выступала амаль да канца 20 ст.

**Старэйшая рыфмаваная інфлянцкая (лівонская) хроніка** – другі па часе стварэння лівонскі твор наратыўнага характару (першым была знакамітая "Хроніка Лівоніі" Генрыха Латвійскага). Напісаная каля 1290 г. на сярэдненямецкім дыялекце і складаецца з 12017 рыфмаваных радкоў. Імя аўтара невядомае, толькі па некаторых указаннях з тэксту і асаблівасцях мовы ўстаноўлена, што ён быў рыцарам Інфлянцкага ордэна. Доўгі час на падставе пазнейшага допісу на адным з рукапісаў хронікі аўтарства памылкова прыпісвалі Дзітлебу фон Альнпеке.

Хроніка ўяўляе сабой твор г. зв. рыцарскай паэзіі і акцэнтуе ўвагу найперш на апісанні ваенных дзеянняў. Аповед пачынаецца ад сярэдзіны 12 ст. і даводзіцца да 1290 г. Аўтар дэталёва распавядае пра войны Лівонскага ордэна з курамі, семігаламі, эстамі і адносна шмат увагі ўдзяляе Літве і Русі.

У пачатковай частцы хронікі шмат памылак і недакладнасцяў. Больш верагоднай інфармацыя становіцца пачынаючы ад першых дзесяцігоддзяў 13 ст. і асабліва дакладна апісваюцца падзеі ад канца 70-х гадоў да 1290 г. – храналагічна блізкія да часу жыццядзейнасці самога аўтара. Даследчыкі заўважылі, што часам аўтар у імкненні да зграбнай рыфмы мог не датрымліваць вернасці фактам. Ён мала зважаў на храналогію – ва ўсім яго творы ёсць толькі тры гадавыя даты: 1143, 1279, 1290. Тым не менш, названы твор утрымлівае разнастайную інфармацыю палітычнага і геаграфічнага характару і лічыцца важнай крыніцай па пачатковай гісторыі ВКЛ. Даволі шмат у ім інфармацыі аб унутраных справах Літвы. Напрыклад, аўтар паведамляе, што бацька Міндаўга быў "вялікім каралём" (ein könig gros), сам Міндаўг – "багаты кароль", які жыве ва ўласным умацаваным паселішчы (burg) і можа выставіць вялікае войска.

Scriptores rerum livonicarum. Riga; Leipzig, 1853. B. 1. Найлепшае асобнае выданне: Livländische Reimchronik (далей – LR) / Ed. Meyer. Padeborn, 1876.

Першая вайна ВКЛ, справакаваная самім фактам узнікнення дзяржавы, стала для яе цяжкім выпрабаваннем. Справа магла скончыцца ліквідацыяй дзяржаватворчага асяродка і трывалым падпарадкаваннем Панямоння Галіцка-Валынскаму княству. Уратавацца гаспадарству ўдалося дзякуючы нестандартнаму дыпламатычнаму ходу, які дапамог пераўтварыць аднаго з ворагаў у саюзніка. Міндаўг выкарыстаў ідэалагічную матывацыю дзейнасці нямецкіх ордэнаў у Прыбалтыцы – хрышчэнне мясцовых язычнікаў. Ён выслаў пасольства да магістра Інфлянцкага ордэна, якое ад імя вялікага князя дэкларавала яго гатоўнасць прыняць разам з падданымі хрысціянства па каталіцкім абрадзе.

Хрышчэнне першага гаспадара ВКЛ адбылося ў пачатку 1251 г. Калі ў тым годзе войскі кааліцыі на чале з Таўцівілам у складзе галіцка-валынскіх, палавецкіх, жамойцкіх (ад князя Вікінта) і яцвяжскіх аддзелаў узялі ў аблогу Міндаўга ў ягоным замку, то інфлянцкае войска змагалася ўжо на ліцвінскім баку. Аблога закончылася беспаспяхова, а Міндаўг у адказ арганізаваў паход на замак Вікінта ў Жамойці.

Найбольш зацята Панямонне было атакаванае з боку Галіцка-Валынскага княства. У 1251 – 1252 г. браты Раманавічы з полаўцамі зноў рушылі на Наваградак. Па дарозе яны прыпыніліся ў Пінску і змусілі да ўдзелу ў паходзе мясцовых князёў. Паход гэты выглядаў хутчэй як рабаўнічы набег, валыняне разлічвалі з'явіцца на Панямонні нечакана, але дзесьці на мяжы Піншчыны і Наваградчыны сутыкнуліся з ліцвінскім дазорам (ля возера З'ята). Прайшоўшы ў пагоні за ім хуткім маршам праз балоты да ракі Шчары, галіцка-валынскія воі правялі ваенны савет. Войска не хацела ісці далей, бо ў Наваградку ўжо было вядома аб яго прыходзе. Аднак Данілу Раманавічу ўдалося дамагчыся працягу паходу[67].[*]

[67] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 819.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

"(...) и приде къ Пиньску; князи же Пинсцѣи имѣяху лесть, и поя ѣ со собою неволею на войну. И послаша сторожѣ Литва на озерѣ Зъятѣ (зятѣ), и гнаша (ихъ) черезъ болота до рѣкы Щарьѣ (щари), совокупившимъжеся воемъ всимъ, съвѣтъ створиша, рекуще: яко "вѣсть уже есть на насъ;" прящимъжеся имъ, не хотящимъ ити воевать, Данилъ же мудростью рѣчь створи: яко "срамоту имѣемъ (имѣешь) отъ Литвы и отъ всихъ земль, аще не дойдемъ и вратимся; наутрѣя же" рече "съвѣтъ створимъ;" тоѣ нощи пославъ по всимъ воем, рекый: "пойдѣте, да разумно будетъ всимъ не хотящимъ ити на войну" – и зрѣвше же воѣ пошедшіе, и сами нужею поидоша иніи же вси. Наутрѣя же плѣниша всю землю Новогородьскую, оттуда же возвратишася въ домъ свой;"

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. 1842. Т. 2. С. 188; 1908. Стб. 818 – 819.

У 1251 – 1252 г. Даніла Раманавіч арганізаваў чатыры паходы, падчас аднаго з якіх валынянам удалося захапіць Гародню. У адказ Міндаўг у 1252 г. выслаў сына (напэўна, Войшалка) з войскам ваяваць Турыйск на Валыні. У тым жа годзе Міндаўг спрабаваў дамагчыся згоды Данілы Раманавіча на заключэнне міру, папярэдне подкупам вывеўшы з кааліцыі ягоных яцвяжскіх і жамойцкіх саюзнікаў. Таўцівіл тады быў вымушаны ўцякаць з Жамойці на Валынь.[*] Аднак ліцвінскае пасольства поспеху не дасягнула і стан вайны працягваўся.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

"Того же лѣта* присла Миндовгъ кь Данилу, прося миру и хотя любви о сватьствѣ. Тогда же Тевтивилъ прибѣже къ Данилу изъ Жемоить и Ятвезь, река, яко Миндовгъ убѣди я серебромъ многимъ; Данилу же гнѣвъ имѣющю на нѣ."

*(1252 г.)

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. 1842. Т. 2. С. 188 – 189; 1908. Стб. 819 – 820.

Пад 1252 г. летапісец упамінае пра нейкі раскол на Літве, чым скарыстаўся Даніла, арганізаваўшы чарговы паход на Наваградак. Такім чынам, Галіцка-Валынская дзяржава была ў стане працягваць вайну ў адзіноце і пасяхова яе закончыла ў 1254 г.

## 2.1.2. Залежнасць ад Галіцка-Валынскага княства (1254 – 1258 г.)

Мірную дамову з Галіцка-Валынскім княствам заключыў, па даручэнні вялікага князя Міндаўга, ягоны сын Войшалк у 1254 г. Летапісец паведаміў, што Войшалк аддаў валынскім князям "*Новогородъкъ отъ Миндога и отъ себе Вослонимъ и Волковыескъ, и всѣ городы*"[68].

Праз апісанне ўмоваў гэтага пагаднення, а таксама на аснове іншых звестак летапісу, можна прааналізаваць палітычную сітуацыю на Панямонні напярэдадні міру 1254 г. Пачатковая тэрыторыя дзяржавы складалася з Наваградскай і Гарадзенскай земляў (разам з гарадамі Слонімам, Ваўкавыскам, Здзітавам і інш.) і часткі Літоўскай зямлі

[68] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 830–831.

(у сярэднім цячэнні Віліі), падпарадкаванай Міндаўгу. Першы вялікі князь Міндаўг княжыў у Наваградку і непасрэдна валодаў сваёй часткай Літоўскай зямлі. Ягоны сын Войшалк, прыняўшы праваслаўе, як васал Міндаўга кіраваў іншымі славянскімі гарадамі Панямоння.

Вынікі пяцігадовай вайны значна змянілі палітычны расклад на Панямонні. Раманавічам не ўдалося зліквідаваць мясцовы дзяржаватворчы цэнтр, аднак свае ўплывы на Панямонні яны не толькі аднавілі, але і ўзмацнілі. Па ўмовах пагаднення сын Данілы Раман атрымаў у валоданне Наваградак, Слонім, Ваўкавыск і іншыя землі на Панямонні, акрэсленыя летапісцам як "всѣ городы". Войшалк адышоў ад свецкага жыцця, прыняў манаскі сан і накіраваўся ў паломніцтва на Святую Гару (Афон). Мірная дамова была замацаваная шлюбам другога сына Данілы Раманавіча Шварна з дачкой Міндаўга (імя невядомае). Рэдкае імя Шварна Данілавіча выводзіцца з чэшскай і старапольскай мовы і перакладаецца як "прыгожы, чысты"[69].

На Панямонні ўстанавілася складаная, але дастаткова тыповая для сярэднявечча сістэма феадальных адносінаў. Раман стаў уладальнікам славянскай часткі Панямоння, пад яго вяршэнствам знаходзіліся ўдзельныя князі-славяне. Князі гэтыя, па ўсёй верагоднасці, паходзілі з мясцовых дынастый, здаўна звязаных з Валынню, потым адсунутых ад кіравання ў выніку балта-славянскага саюза і цяпер вернутых на ранейшыя месцы. Летапіс называе разам з Глебам Ваўкавыскім, цесцем Рамана Данілавіча, яшчэ Ізяслава Свіслацкага. Міндаўг захоўваў вяршэнства над усім Верхнім Панямоннем, у тым ліку над уладаннямі Рамана Данілавіча, хоць залежнасць Рамана ад ліцвінскага гаспадара мела хутчэй намінальны характар. Напрыклад, Даніла зімой 1254/55 г., сабраўшыся ў паход на яцвягаў, наўпрост звязаўся з сынам, і той прыйшоў з наваградцамі і названымі вышэй князямі[70]. Але праз паўгода ў падобнай сітуацыі Рамана і наваградцаў да Данілы прысылаў ужо Міндаўг. У лісце папы рымскага Аляксандра IV да Міндаўга ад 6 сакавіка 1255 г. гаворыцца пра тое, што ліцвінскі гаспадар праз змаганне "*супроць каралеўства Русі* (Галіцка-Валынскага княства – *А.К.*) *ды яго насельнікаў, падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства*"[71]. Гэта яшчэ адно ўскоснае сведчанне, што Раман Данілавіч кіраваў Панямоннем не як часткай Галіцка-Валынскай дзяржавы, а ў якасці васала Міндаўга. Поўнай інкарпарацыі Панямоння ў склад Галіцка-Валынскай дзяржавы не адбылося, але можна казаць пра ўмацаванне тут валынскага ўплыву.

У наствoранай, ці, дакладней, адноўленай палітычнай сістэме не знайшлося месца сыну Міндаўга – Войшалку. Прыняўшы манаскі сан, Войшалк, паводле тагачаснага светапогляду, выключаўся з палітычнага жыцця і не мог быць прэтэндэнтам на княскую пасаду. Аднак гэты нестандартна арганізаваны адыход, як высветлілася, не перашкодзіў яму праз некалькі гадоў вярнуцца да актыўнай палітычнай дзейнасці, каб працягнуць справу бацькі.

## 2.1.3. Аднаўленне і ўмацаванне незалежнасці ВКЛ (1258 – 1263 г.)

Мірныя адносіны Літвы з Галіцка-Валынскай дзяржавай працягваліся ад 1254 да 1258 г. і былі парушаныя ўмяшаннем магутнай знешняй сілы – татараў.

Арда (**Залатая Арда**) свядома і разлікова разбурала сістэму знешняй палітыкі Галіцка-Валынскай дзяржавы, прымушаючы яе ўдзельнічаць у ваенных паходах на су-

[69] Дубоніс А. Шварн Данілавіч і папяровыя ілюзіі праваслаўнай Літвы [у:] Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі. Вільня – Мінск, 2009. С. 99.

[70] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 831. .

[71] Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях. С. 77.

седзяў. На гэты раз вялікае татарскае войска пад камандай Бурундая нечакана з'явілася на Валыні і змусіла Данілу Раманавіча да нападу на Літву: *"иду на Литву; оже еси миренъ, пойди со мною"*[72]. Даніла не хацеў гэтага паходу і напачатку ўхіліўся ад асабістага ўдзелу ў ім, паслаўшы замест сябе брата Васільку.

**Залатая Арда**. Пачатковае значэнне слова "Арда" – ханская вандроўная стаўка, як бы перасоўны цэнтр дзяржавы. На Русі Ардой называлі часцей усю татарскую дзяржаву, якой кіравалі нашчадкі старэйшага сына Чынгісхана Джучы. Ва ўсходнеславянскіх крыніцах 13 ст. для яе азначэння выкарыстоўваўся тэрмін "татары". Тэрмін "Залатая Арда" з'явіўся толькі ў другой палове 16 ст., калі дзяржава ўжо не існавала. У 15 ст. татарская дзяржава распалася на Вялікую Арду (лічылася галоўным спадкаемцам Залатой Арды), Нагайскую арду, Крымскае, Казанскае, Астраханскае ханствы.

Горский А.А. Москва и Орда. Москва: Наука, 2001. С. 3.

Апасенні галіцка-валынскіх князёў мелі сур'ёзныя падставы. У выніку татарскай ініцыятывы разбурыўся выгадны для іх палітычны расклад на Панямонні. Даніла панёс асабістую страту – яго сын Раман быў схоплены Войшалкам пасля пачатку ваенных дзеянняў. Васілька Раманавіч з войскам беспаспяхова шукаў пляменніка па ўсёй Літве. З таго часу пра Рамана Данілавіча больш невядома нічога, што наводзіць на сумныя думкі адносна яго лёсу.

Татарска-галіцка-валынскі паход на Панямонне вялікіх вынікаў не прынёс, а галіцка-валынскі ўплыў тут быў моцна аслаблены. На наступны 1259 г. той жа Бурундай змусіў Раманавічаў знішчыць умацаванні гарадоў амаль па ўсёй іхняй дзяржаве, што зрабіла іх бездапаможнымі перад татарскай конніцай. Галоўнай мэтай татарскіх паходаў 1258 г. і 1259 г. было палітычнае падпарадкаванне Галіцка-Валынскага княства, якое да гэтага знаходзілася па-за сферай ардынскага ўплыву[73]. Ад таго часу галіцка-валынскія войскі калі і хадзілі на Панямонне, то толькі сумесна з татарамі. Цікава, што летапісы Вялікага Ноўгарада паведамляюць пра два напады літоўцаў на ўсходнеславянскія землі ў тым жа 1258 г., калі адбыўся валынска-татарскі паход на Літву. Разам з палачанамі літоўцы хадзілі на Смаленск, а восенню таго ж года правялі напад на Таржок.

Пры Міндаўгу пад палітычны ўплыў ВКЛ трапіў Полацак. Полацкія дружыны не бралі ўдзелу ні ў адной выправе, скіраванай супраць панямонскай дзяржавы. Між 1258 г. і 1262 г. палачане запрасілі на княжанне пляменніка Міндаўга Таўцівіла. Восенню 1262 г. ноўгарадскае войска пайшло пад Юр'еў, і сярод яго саюзнікаў называецца полацкі князь Таўцівіл, *"с нимъ полочанъ и Литвы 500"*[74]. У пачатку 50-х гадоў Таўцівіл разам з жамойцкім князем Вікінтам ваяваў супраць дзядзькі (Міндаўга), потым замірыўся і, стаўшы полацкім князем, працягваў традыцыйную мясцовую палітыку саюзу з Літвой.

Ліцвінскія паходы на ноўгарадскія і іншыя землі Паўночна-Усходняй Русі выходзілі з Таропца – паўночнага ўдзела Смаленскай зямлі, што было звязана з ягоным надзвычай выгодным стратэгічным палажэннем на водападзелах вялікіх рэк Зах. Дзвіны, Дняпра, Волгі, Ловаці. Адсюль можна было кіраваць выправу ў розныя бакі, хутка і нечакана дабрацца для аб'екта нападу. Даследчыкі лічаць Таропец ліцвінскім плацдармам

[72] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 846, 849.

[73] Греков И.Б. О характере ордынско-русских отношений второй половины 13 – начала 14 в. [в:] Древности славян и Руси. Москва: Наука, 1988. С. 127 – 128.

[74] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов (далей НПЛ). Москва-Ленинград, 1950. С. 83, 312.

для нападаў ужо з сярэдзіны 13 ст., а замацаванне тут Літвы звязваюць з ліцвінска-ноўгарадскай мірнай дамовай 1262 г.[75]

На пачатку 60-х гадоў 13 ст. сітуацыя ў Літве выглядала стабільнай. Галіцка-Валынскае княства па-ранейшаму не мірнае, спрабавала наступаць, але смяротнай пагрозы панямонскай дзяржаве ўжо стварыць не магло. У 1262 г. у адказ на напад валынянаў войска Міндаўга пустошыла ваколіцы Каменя. У тым жа годзе Міндаўг арганізаваў дзве далёкія выправы: у Мазовію і ў Інфлянты. Сам факт іх правядзення сведчыць, што стан вайны з Галіцка-Валынскай дзяржавай ужо не вымагаў канцэнтрацыі і напружвання ўсіх сілаў ВКЛ. У чэрвені 1262 г. ліцвінскае войска выправілася ў далёкі паход на Мазовію. Прайшоўшы каля 300 км, ліцвіны знянацку захапілі ў горадзе Яздаве (будучая Варшава) князя Земавіта і ягонага сына Конрада. Земавіт быў забіты, а Конрад вывезены ў палон[76]. Другі паход у саюзе з жамойцкім князем Транятай быў скіраваны на сталіцу Інфлянцкага ордэна Вендэн[77].

## 2.2. КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ КАРАЛЕЎСТВА ЛІТВА (1253 – 1260 г.)

Праз два гады пасля хрышчэння Міндаўга адбылося санкцыянаванае рымскім папам узвядзенне яго ў каралеўскую годнасць[78] (не пазней за ліпень 1253 г.). Цырымонію **каранацыі Міндаўга** правёў афіцыйны папскі прадстаўнік – хельмінскі біскуп Генрых. Кароны для наваспечанага караля і ягонай жонкі падрыхтаваў інфлянцкі ландмайстар[79]. Месца каранацыі ў крыніцах не называецца, але, па ўсёй верагоднасці, яна прайшла ў буйнейшым горадзе краіны, дзе меўся адпаведны храм, г зн. у Наваградку.

**Каранацыя Міндаўга.** Абрад каранацыі адбываўся ў храме, магчыма, у царкве (каталіцкіх касцёлаў на Панямонні тады яшчэ не існавала). Верагодна, гэтым храмам была мураваная царква Барыса і Глеба ў Наваградку, збудаваная ў 12 ст. Яна захавалася да сённяшняга дня, хоць і ў значна змененым выглядзе пасля перабудоваў у 16 ст. і 17 ст. (Наваградак, вуліца Паштовая). Летувіскі гісторык Зянонас Івінскіс звярнуў увагу, што цырымоніі каранацыі, санкцыянаваныя папам рымскім, былі падобнымі нават у дэталях па ўсёй каталіцкай Еўропе. (гл. Ivinskis Z. Mindaugas und seine Krone // Zeitschrift für Ostforschung. 3. Jahrgang. 1954. Heft 3. S. 376 – 383). Вось рэканструкцыя дзеі паводле даследавання З.Івінскіса (Цытуецца па: Краўцэвіч А. Міндаўг – Mindauh: Пачатак гаспадарства:нарыс. Мн.: Маст. літ., 2005. С. 121 – 123.): "Можна ўявіць сабе, што адбывалася тут у той летні дзень 1253 г. ад Раства Хрыстовага... Уся плошча перад царквой і прылеглая вуліца запоўнены шматлікім шумлівым натоўпам. Узброеныя воі-дружыннікі двума шэрагамі трымаюць калідор сярод народу ад вуліцы да ўваходу ў храм.

[75] Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. Москва: Изд-во Московского университета, 1998. С. 52 – 53; Цемушаў В.М. Таропецкая воласць // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2: Кадэцкі корпус–Яцкевіч. Мн.: БелЭн., 2006. С. 659 – 670.

[76] Giejsztor A. Działania wojenne Litwy w roku 1262 i zdobycie Jazdowa // Studia Historyczne Stanisławowi Herbstowi na sześćdziesięciolecie urodzin. Warszawa, 1967. S. 5 – 14.

[77] LR. S. 148, 150, 158–159. V. 6471, 6528–6535, 6891–6945.

[78] Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях. С. 23 – 26.

[79] LR. S. 81-82. V. 3535-3543.

Вось паказалася ўрачыстая працэсія. Доўгім ланцужком яна працягнулася ад вуліцы да самых дзвярэй храма. Вышытыя срэбрам і золатам харугвы і строі святароў, манахі ў доўгіх балахонах з капюшонам – карычневыя ў францысканаў і белыя ў дамініканцаў. Наперадзе ў поўным ўрачыстым строі, належным яго сану, выступае біскуп Генрых. За ім два яго памочнікі – куронскі і эзэльскі біскупы – пад рукі вядуць будучага караля. Калі галава працэсіі наблізілася да брамы храма, да неба паляцелі ўзнёслыя і таямнічыя гукі ўрачыстага лацінскага спеву. За дзвярыма ў паўзмроку храма пераліваецца і таямніча зіхаціць ад мноства палаючых свечак шматколерная маёлікавая падлога*.

Міндаўга праводзяць па ёй да самага алтара, ён укленчвае, потым кладзецца на дыван, пасцелены ля самых алтарных прыступак. Зямны ўладар паказвае сваю пакору перад Царом Нябесным, лежачы ніцма пад яго тронам. Біскуп Генрых уздымае над ліцвінам рукі і голасна прамаўляе: “Божа, уратуй караля!” Міндаўг павольна падымаецца і ўссядае на каралеўскі трон, злева ад яго сядае каралева. Пачынаецца ўрачыстая каранацыйная імша. Усё прадумана і адпрацавана да найменшых дробязяў. Кожны яе ўдзельнік знаходзіцца на сваім, зараней вызначаным месцы. Каралева на працягу ўсёй цырымоніі застаецца на сваім троне злева ад каралеўскага крэсла.

Вось Міндаўг павольна ўстае са свайго трона, яго плечы ахінаюць каралеўскай мантыяй і падводзяць да алтара, ён зноў кладзецца перад ім на падлогу, яго цела з выпрастанымі ў бакі рукамі ўтварае выяву крыжа. Хор без перапынку спявае літургічныя спевы, заканчваючы кожны верш падзякай-маленнем да Бога: “Дзякуем Табе, пачуй нас!” Міндаўг просіць біскупа блаславіць яго і пасвяціць на каралеўскую годнасць. Тут спевы сціхаюць, Міндаўг устае, і біскуп перад алтаром задае яму шэсць урачыстых пытанняў: ці будзе ён памяркоўным уладаром, ці будзе бараніць хрысціянскую веру, ці будзе справядлівым манархам, ці будзе клапаціцца аб дзяржаве, ці будзе апекавацца беднымі і сіротамі і, нарэшце, ці будзе да канца паслухмяны Папе і святой Рымскай царкве. Паводле звычаю, на кожнае пытанне патрэбна было тройчы адказваць згодай па-латыні: “fiat, fiat, fiat”, аднак асобы, якія не валодалі латынню, маглі адказваць на сваёй, мясцовай мове. Па ўсёй верагоднасці, так было і з Міндаўгам.

Пасля бласлаўляльнай малітвы пачалася самая важная частка цырымоніі – памазанне асвечаным алеем (адсюль манархаў называюць часам “памазаннікамі Божымі”)**. Біскуп Генрых намазаў галаву, грудзі і плечы караля святым алеем. Затым пачалося ўбранне Міндаўга ў каралеўскі строй.

Пасля ўручэння каралеўскага меча, зашпількі для каралеўскай мантыі, божаму памазанніку перадалі атрыбуты каралеўскай улады: берла і дзяржаву, а на галаву ўсклалі каралеўскую карону.”

* Падчас раскопак у 1961 – 1962 г. археолагі выявілі сцены пачатковай царквы 12 ст. і знайшлі рэшткі тагачаснай падлогі, выкладзенай з рознакаляровых маёлікавых плітак.

** Што Міндаўг прайшоў гэты абрад, можна лічыць устаноўленым дакладна, бо ў адным са сваіх дакументаў паведамляў, што ён памазаны на Літоўскае каралеўства і ўвянчаны каралеўскай каронай.

Падрыхтоўка да хрышчэння і каранацыі, а таксама саюзныя адносіны з Інфлянцкім ордэнам выклікалі з'яўленне шэрагу актаў на лацінскай мове, якія паходзяць ад само-

га Міндаўга, а таксама з канцылярыі папы рымскага[80]. Значную частку названых актаў складаюць запісы зямельных дараванняў Міндаўга Інфлянцкаму ордэну. У якасці ўзнагароды за саюз і падтрымку вялікі князь надаў інфлянцкім рыцарам некалькі земляў у Заходняй Жамойці. Некаторыя з актаў-дараванняў лічацца падробкамі, створанымі самім Ордэнам. Сапраўды, названыя ў актах землі былі надзвычай патрэбныя крыжакам, бо забяспечвалі рэалізацыю важнейшай стратэгічнай задачы Тэўтонскага ордэна – злучэнне па сушы яго прускай і інфлянцкай філій. Падобная практыка фармальнага ўступлення ў валоданне яшчэ непакоранымі землямі была для Ордэна звычайнай справай. Напрыклад, у 1245 г. ён атрымаў ад германскага імператара права валодаць яшчэ не набытымі землямі ў Літве. Часам крыжакі не спыняліся перад фальсіфікацыяй такіх дакументаў. Справай іх рук лічыцца падроблены прывілей 1260 г. пра пераход да Ордэна ўсёй Літвы ў выпадку адсутнасці ў Міндаўга нашчадкаў[81].

Інфлянцкія рыцары скарысталі цяжкую знешнепалітычную сітуацыю маладой дзяржавы, якая апынулася сам-насам з буйной варожай кааліцыяй. Яны пайшлі на сепаратны мір з Міндаўгам, выціснулі з яго ўсё, што маглі, потым яшчэ самі сфабрыкавалі некалькі дараванняў. Праўда, як заўважылі гісторыкі, Міндаўг не застаўся ў пройгрышы. Праз саюз з Ордэнам і хрышчэнне ў каталіцтва яму ўдалося разваліць варожую кааліцыю, а большасць падораных інфлянцам земляў увогуле не належалі да яго дзяржавы.

Аддаючы Ордэну жамойцкія землі, вялікі князь не мог не разумець, што іх чакае. Міндаўг выдатна ведаў, як крыжакі абыходзіліся з непакорнымі жыхарамі суседняй Прусіі. Акрамя таго, кароль Літвы, паводле Рыфмаванай хронікі, абавязаўся адмовіцца ад падтрымкі жамойтаў супраць Ордэна. Фактычна Міндаўг першым выкарыстаў Жамойць як разменную манету ў палітычнай гульні з крыжакамі, даўшы пачатак і прыклад аналагічным дзеянням наступным кіраўнікам ВКЛ.

Саюзныя адносіны з Інфлянцкім ордэнам і навязванне кантактаў з ідэалагічным цэнтрам Захаду – папскім Рымам – закончыліся ў 1260 г. Прычынай стала сур'ёзная параза крыжакоў у бітве з жамойтамі ля возера Дурбе. Разгром ордэнскага войска выклікаў буйное паўстанне прускіх плямёнаў, якое працягвалася паўтара дзесяцігоддзі (1260 – 1274 г.) і пагражала самому існаванню ордэнскай дзяржавы. Магчыма, пасля Дурбенскай бітвы Жамойць трапіла пад ўплыў ВКЛ: "*Жамойты прызналі ўладу Міндаўга ўзамен за адмову ад хрысціянства і разрыў саюзу з крыжакамі.*"[82]

Пасля 1260 г. Міндаўг адышоў ад саюзу з Інфлянцкім ордэнам, спыніў кантакты з Ватыканам і вярнуўся ў паганства. [*]

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

"Крещеніе же его льстиво бысть: жряше богомъ своимъ вътайне, первому Нънадѣеви (нонадѣеви) и Телявели, и Диверикъзу (и девикзу), Заеячему (заечему) богу и Мѣидѣину (и медѣину); егда выѣхаше на поле и выбѣгняше заяць на поле, въ лѣсъ рощенія не вохожаше (не вхожаше) вну (вону) и не смѣяше ни розгы уломити, и богомъ своимъ жряше, и мертвыхъ тѣлеса сожигаше, и поганьство свое явѣ творяше."

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. 1842. Т. 2. С. 188; 1908. Стб. 817.

[80] Міндаў, кароль Літовії, у дакументах і сведчаннях.

[81] Maleczyński K. W sprawie autentyczności dokumentów Mendoga z lat 1253–1261 // AW. Wilno, 1936. R. 11. S. 1 – 60.

[82] Państwo zakonu krzyżackiego w Prusach. Władza i społeczeństwo /red. Marian Biskup, Roman Czaja. Warszawa: Wyd-wo naukowe PWN, 2008. S. 87.

Як цвярозы палітык, ён дзейнічаў адпаведна рэальнаму раскладу сілаў у рэгіёне, які выразна змяніўся не на карысць Ордэна – перадавога атраду Захаду ў Прыбалтыцы. Першы гаспадар Літвы не ведаў (не мог ведаць), што паклаў пачатак найважнейшай з'яве ў гісторыі сваёй дзяржавы і некалькіх народаў, да стварэння якіх яна прычынілася. Аднак сучасны гісторык мае магчымасць ацаніць дзейнасць Міндаўга ў агульным кантэксце гістарычнага працэсу. **Дзесяцігадовы перыяд саюзных адносінаў Міндаўга з Захадам стаў першай палітычнай праявай арыентацыі ВКЛ на заходнееўрапейскую цывілізацыю.** Заходнееўрапейскія ўплывы паступова ўзмацняліся ў краіне ад сярэдзіны 13 ст., але пры Міндаўгу, як і пазней, у часы Гедыміна, яны яшчэ не былі дастаткова моцнымі, каб выбар на карысць Захаду акрэсліўся канчаткова. Тым не менш, пачаткі заходнееўрапейскай арыентацыі былі закладзеныя, а давяршыў справу праз стагоддзе з чвэрцю ўнук Гедыміна Ягайла Альгердавіч.

Вынайдзены Міндаўгам дыпламатычны прыём у змаганні з крыжакамі – дэкларацыю прыняцця каталіцтва – у 14 ст. выкарыстоўваў амаль кожны вялікі князь (Віцень, Гедымін, Альгерд, Ягайла[83] – апошні яе рэалізаваў у 1386 г.). Рабілася гэта заўжды з адной і той жа мэтай – аслабленне мілітарнага націску Ордэна. Невыкананне дэкларацыі кожны раз тлумачылася інтрыгамі крыжакоў. Хрысціянскі эпізод з жыцця Міндаўга добра памяталі ў Літве і ў наступным 14 ст. Праз семдзесят з лішкам гадоў пасля яго хрышчэння гэтая падзея згадвалася ў лісце Гедыміна ад 1322 г.[84]

Пасля дасягнення сваіх бліжэйшых мэтаў і паразы Ордэна ля возера Дурбе (1260 г.) Міндаўг пакінуў хрысціянства і не перадаў нашчадкам каралеўскі тытул. Гаспадарства, да стварэння якога ён выбітна прычыніўся, назаўжды засталося Вялікім Княствам.

## 2.3. ПЕРШЫ ЎНУТРАНЫ КРЫЗІС (1263 – 1264 г.)[*]

[*]"Заратишася Литва межю собою, яко же и всегда бывает княземь межю ими брани многы и кровопролития о суетнемь царствии света сего" –

Пскоўскі 2 летапіс [у:] Охотникова В.И. Повесть о Довмонте (Исследование и тексты). Ленинград: Наука, 1985. С. 193.

Крызіс пачаўся ў 1263 г. забойствам Міндаўга. Змову супраць яго арганізаваў нальшанскі князь Даўмонт па асабістых прычынах. Паводле інфармацыі летапісу, Міндаўг забраў у Даўмонта жонку. Кабета прыехала на пахаванне сваёй сястры – папярэдняй жонкі Міндаўга – па запрашэнні вялікага князя. Той затрымаў швагерку, матывуючы тым, што яна найлепей дагледзіць ягоных малалетніх дзяцей – сваіх пляменнікаў. Даўмонт не меў дастаткова сілаў, каб выступіць супраць Міндаўга адкрыта, і вонкава захаваў пакорнасць. Патаемна ўступіўшы ў змову з жамойцкім князем Транятам (былым саюзнікам Міндаўга), дачакаўся зручнага выпадку, напаў на двор гаспадара і забіў таго разам з малымі дзецьмі.[*]

[83] Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // PH. 1914. T. 18. S. 215 – 319.

[84] У пасланні да папы з 1322 г. ён узгадаў хрышчэнне Міндаўга (у 1251 г.), які, аднак, "*адпаў*" ад хрысціянскай веры з-за "*абуральных крыўдаў і безлічы здрадаў магістра братоў Тэўтонскага ордэна*". – гл. Gedimino laiškai – Послания Гедимина. С. 22 – 23.

[*] Галіцка-Валынскі летапіс:

"Въ то же веремя умре княгини Миндовговоя, и поча карити по ней. Бяшеть бо сестра еи за Домонтомъ за Нальщанскимъ княземъ; и посла Миндовгъ до Нальщанъ по свою свѣсть, тако река: "се сестра твоя мертва (река: сестра ти мертва), а поѣди карить по своей сестрѣ». Оной же приѣхавши карить, Миндовгъ же восхотѣ пояти свѣсть свою за ся, и нача ей молвити: «сестра твоя умираючи велѣла ми тя пояти за ся; тако рекла, ать иная дѣтій не цвѣлить;» и поя ю за ся. Довъмонтъ же се услышавъ печаленъ бысть велми о семъ, мышляшеть бо, абы како убити Миндовга, но не можаше, зане бысть сила его мала, а сего велика; Довъмонтъ же искашеть собѣ, абы съ кимъ мочи убити ему Миндовга, изнайде собѣ Треняту сестринича Миндовгова, и съ тѣмъ думашеть убити Миндовга. Тренята же бяшеть тогда въ Жомоти (у жемоити).

Въ лето 6771*. Послалъ бяшеть Миндовгъ всю свою силу за Днѣпръ, на Романа на Бряньского (на дебрянского) князя; Довъмонтъ же бяшеть съ ними же пошелъ на войну, и усмотри время подобьно собѣ и воротися назадъ, тако река: «кобь ми не дасть съ вами пойти;» воротивъжеся назадъ и погна вборзѣ, изогна Миндовга, ту же и уби его и оба сына его съ нимъ уби, Рукля же и Репекья (рукля же репекъя; рукля же репьскея, рукля же и рескея). И тако бысть конець Миндовгову убитью."

*1263 г., восень

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. 1842. Т. 2. С. 201; 1908. Стб. 860.

Змову супраць Міндаўга не выпадае разглядаць як выключна асабісты канфлікт. У ёй прасочваецца выразны палітычны складнік. Калі Даўмонт меў матывацыю асабістай помсты, то Транята кіраваўся найперш палітычнымі разлікамі, скіраванымі на здабыццё ўлады ў Літве.

Вялікакняскі стол у Наваградку заняў Транята – пляменнік (сын сястры) Міндаўга. Адзіны ацалелы сын Міндаўга Войшалк пакінуў Панямонне і знайшоў прытулак у недалёкім Пінску. Выбар месца ўцёкаў быў яўна прадуманым. Тут Войшалк пачуваўся бяспечна і, галоўнае, заставаўся блізка ад месца падзеяў, каб у адпаведны момант умяшацца ў іх ход.

Да гэтага Транята лічыўся саюзнікам Міндаўга. Незадоўга да замаху яны разам хадзілі ў вайсковы паход на сталіцу Інфлянцкага ордэна Вендэн. Афіцыйна Транята не меў дачынення да забойства гаспадара (забіваў Даўмонт). На падставе сваёй прыналежнасці да роду Міндаўга (сын загінуўшага гаспадара – Войшалк, лічыўся выключаным са свецкага жыцця, бо пайшоў у манахі) Транята мог законна ўехаць у сталічны Наваградак. Ягоным надзейным заплеччам заставалася родавае ўладанне ў Жамойці – матэрыяльная ды вайсковая апора, а таксама месца адступлення на выпадак няўдачы.

Кароткае княжанне Траняты было занятае ў асноўным намаганнямі захаваць здабытую ўладу. Смерць Міндаўга, паводле логікі працэсу, пацягнула за сабой чарговыя палітычныя забойствы. Транята яшчэ паспеў расправіцца з полацкім князем Таўцівілам (сваім стрыечным братам). Па інфармацыі летапісу, Таўцівіл сам намерваўся забіць Траняту, але яго выдаў прыбліжаны полацкі баярын.[*]

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

"По Миндовгови же убитьи, Воишелкъ убоявъся того же, и бѣжа до Пиньска и ту живяшеть, а Тренята нача княжити во всей землѣ Литовьской и въ Жемоти. И посла по брата своего по Товтивила до Полотьска, река тако: «брате! прiѣди сѣмо, роздѣливѣ землю (роздѣлимъ собѣ землю; раздѣлимо землю собѣ) и добытокъ Миндовъговъ.» Оному же прiѣхавшу къ нему, и поча думати Товтивилъ, хотя убити Треняту, а Тренята собѣ думашеть на Товтивла пакъ; и пронесе думу Товтивилову бояринъ его Прокопiй Полочанинъ, Тренята же попередивъ и убивъ Товтивила и нача княжити одинъ."

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. 1842. Т. 2. С. 201 – 202; 1908. Стб. 860 – 861.

У Ноўгарадскім летапісе ёсць указанне, што Таўцівіл быў прыняты на княжанне самімі палачанамі, а не навязаны ВКЛ. Па ўсёй верагоднасці, ён быў запрошаны на полацкі стол у якасці г.зв. служылага князя паводле старажытнай традыцыі – па рашэнні веча. Калі ў 1263 г. Транята забіў Таўцівіла і пажадаў ("просиша", – піша летапісец) ад палачанаў выдачы яго сына, то апошні ўцёк са сваімі прыбліжанымі ў Ноўгарад (не мог бы таго зрабіць без спрыяння палачанаў). На полацкі сталец быў узведзены стаўленік ВКЛ[85].[*]

[*] "Того же лѣта роспрѣвшеся убоици Миндовгови о товаръ его, убиша добра князя Полотьского Товтивила, а бояры полотьскыя исковаша, и просиша у полочанъ сына Товтивилова убити же; и онъ вбѣжа в Новъгородъ с мужи своими. Тогда Литва посадиша свои (своего) князь в Полотьскѣ; а полочанъ пустиша, которыхъ изъимали с княземь яхъ, а миръ взяша."

НПЛ. С. 84, 313.

Гэта азначае, што пра трывалы ўваход Полацка пад палітычны ўплыў ВКЛ можна гаварыць толькі ад 1263 г.

У грамаце-дамове з інфлянцкімі немцамі ад снежня 1263 г. сюзерэнам Полацка выступаў нальшанскі князь Гердзень[86].[*]

[*]Грамата князя Гердзеня. Самая старажытная з захаваных полацкіх грамат

№ 1.

**[1263 г.] декабря 28, – Договорная грамота кн. лит. Герденя с ливмагистром (Конрадом фон Мандерном) и гг. Ригой,» «Полоцком и Витебском .**

Княз(ь) Герденъ кланяетьс(я) всем темь, кто видить | сую грамот(у), тие люд(и), што ныне живи суть, а темь, кто напосле приидуть, тѣмь вѣдомо буди, какъ миръ есмы створил(и) промежи местеря и | с ратьманы рижьскыми, и с полочаны и видьбляны тако, како грамот(а) написано, тако имъ на|до всею землею ѡтступит(и), што есть Лотыгольская земля , какъ не въступатися на тую землю, што княз(ь) Костянтинъ дал местерю съ своею брат(ь)ею, съ своею грамот(ои)и съ печатью, како боле того на ту землю | не поискывати,

[85] НПЛ. С. 84, 313.

[86] Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. /состав. А.Л.Хорошкевич. Москва, 1977. Вып. 1. № 1; Москва, 1980. Вып. III. С. 115 - 116, 122.

Верху того, про ту* пакость, што ся в ро|змирьи створило, какъ имъ ѡт ѡбою сторону ѡтсту|пити, што Руськая земля словеть Полочькая , ѡт тое зе|мли местерю в брат(ь)и его ѡтступит(и) с всею правдою.

Верху того, немечькому гостю в Полочьскую волно ехат(и) торгозат(и), купити и продат(и). Тако ж полочаном а видиблянину** волно гостити в Ригу и на Готьскы берегъ.

А где будет(ь) кто кому виноват, в томъ городе правит(и), где тотъ ч(е)л(о)в(е)кь живеть, инде суд(а) ему не искати, которой волости ч(е)л(о)в(е)|къ извиниться(я), ту ему правда дат(и), и.и вина его.

А старо|му миру стояти княз(я) Герденя, княз(ь) тыих***, кто по нем I будет(ь).

Што поклепани**** на рѣзне а што словеть Лоты|гольская земля, ѡт того ся отступили с всею правдою, Местерь, также брат(ь)я его, ѡтступили, што словет(ь) Полочь'ская земля, со всею правдою.

Сию грамот(у) тогды нписана в Ризе, коли б(ог)ъ быль а лѣт и с лѣтъ и длѣ(т) по рожен(ьи) б(о)жии дни за три дни.

* исправлено нечётко из “и”

** “б” исправлено из “д”

*** можно прочитать иначе: “тых и” , “х” вынесено наверх и непонятно, куда она относится

**** “а” написано над строкой

ЦГИА Латв. Ссp, ф. 673, оп. 4, ящ.18, №4

Копия начала 15 в.

**Перг., 21,5x60 см. На этом же пергамене «слово Изяслава» (см. №2). Внизу 15 см. свободно. Полуустав.**

Публ. : Напьерский .Грамоты № 2 а, здесь же факсимиле, Напьерский . Акты №25 а. LECUB, Bd 6 ,№3036, 440-441. Витебская старина. Т. 1, №4, стр. 19 – 20. Боголюбова и Таубенберг. Стр.10. Хрэстаматыя, стр. 39-40.

Упом.:HuB, Bd. 1, №595.

Друкуецца паводле: Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. /состав. А.Л.Хорошкевич. Москва, 1977. Вып. 1. № 1.

Іншая грамата ад 1265 г. сведчыць пра сюзерэнітэт над Полацкам Войшалка.

У тым жа 1264 г. Траняту забілі слугі Міндаўга[*]. Паводле інфармацыі польскіх хронік, арганізатарам замаху быў Войшалк[87]. Ад смерці Траняты пачаўся найвышэйшы ўзлёт палітычнай кар'еры таго нібыта князя, нібыта чарняца-манаха.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

“Посемъ же почаша думати конюси (конюшіи) Миндовгови, 4 паробци, како бы лзѣ имъ убити Треняту; оному же идущу до мовници (до милници) мыться, они же усмотрѣвше собѣ веремя таково, убиша Треняту;

[87] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 861; LR. S. 164; Rocznik kapitulny krakowski // MPH. Warszawa, 1961. T. 2. S. 808; Rocznik Krasińskich // MPH. Lwów, 1873. T. 3. S. 133.

и тако бысть конець убитья Тренятина. Се же услышавъ Воишелкъ, пойде съ Пиняны къ Новугороду (къ новъгородку) и оттолѣ поя со собою Новгородцѣ и пойде въ Литву княжить; Литва же вся пріяша и съ радостью (великою) своего господичица (господичича).

Въ лето 6772* Воишелкъ же нача княжити во всей (въ своей) земли Литовьской, и поча вороги своѣ избивати, изби ихъ бесчисленое множество, а друзіи розбѣгошася, камо кто видя; и оного Остафья уби оканьного, проклятаго, безаконьного, о немъ же передѣ псахомъ (напреди (напереди) списахомъ (восписахомъ).”

* 1264 г.

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т.2. С. 202; 1908. Стб. 861.

**Каментар**. Застаецца толькі канстатаваць спрадвечную гістарычную заканамернасць – той, хто выпусціў на волю дэмана забойства, урэшце сам стаў ягонай ахвярай.

Усе галоўныя ўдзельнікі барацьбы за вярхоўную ўладу ў дзяржаве знаходзіліся між сабой у роднасных сувязях. Вядома, што Таўцівіл і Эрдзівіл былі пляменнікамі (сынамі брата) Міндаўга. Братам Міндаўга (невядома ці адзіным) быў Даўспрунк. Адсюль даследчыкі прынялі, што Таўцівіл і Эрдзівіл з’яўляліся сынамі Даўспрунка, г.зн. пляменнікамі Міндаўга. Вораг Міндаўга, жамойцкі князь Вікінт, названы ў летапісе дзядзькам Таўцівіла і Эрдзівіла. Адсюль гісторыкі вывелі, што ён быў жанаты з сястрой Даўспрунка і Міндаўга. Жонка валынскага князя Данілы Раманавіча таксама паходзіла з гэтага ж роду – была сястрой Таўцівіла і Эрдзівіла, г. зн. дачкой Даўспрунка. Транята названы ў летапісе сынам сястры Міндаўга і братам Таўцівіла[88]. На падставе гэтай інфармацыі ўзнікла дапушчэнне, што Транята мог быць сынам Вікінта[89][*] і г.д.

[*] Ордэнскі храніст Пётра Дусбург занатаваў паход углыб Прусіі “Трайната, сына літоўскага караля”. Той: “Наблізіўшыся да Прускай зямлі, падзяліў сваё войска на тры аддзелы, з якіх адзін выслаў супраць Мазоўша, другі супраць Памезаніі, і рабункам і агнём спустошыў абедзве зямлі. Астатнія наехалі на Хэльмінскую зямлю ды, апроч таго, што нарабілі там шмат шкоды, то яшчэ здабылі замак Бежглава, ды забралі жывёлу і маёмасць братоў (рыцараў ордэна – А.К.) і людзей, якія хаваліся ў замку. Браты і людзі, якія бараніліся ў адной вежы, ацалелі”.*

Петр из Дюсбурга. Хроника земли Прусской. Москва: Ладомир, 1997. С. 117, 306; Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. Toruń: Wydawnictwo Uniwersytetu Mikołaja Kopernika, 2004. S. 135.

***Каментар.** У сучасных расейскім і польскім выданнях хронікі Дусбурга каментатары прыпісалі гэты паход Траняту, але, верагодна, памылкова. Храналагічна звестка не адпавядае панаванню Траняты – яна змешчаная сярод пазнейшых запісаў, якія прыходзяцца на час гаспадарання Трайдэна. Транята, пэўна, не мог арганізаваць такі буйны і далёкі (каля 400 км) паход, бо зусім нядоўга кіраваў, не чуўся пэўна ў Літве, заняты быў унутранымі справамі, у тым ліку канфліктам з Таўцівілам. Дусбург напісаў “сын ліцвінскага караля”, Транята ж быў “каралём”. Найверагодней, гаворка пра сына Трайдэна і паход адбываўся ў 70-я гады 13 ст.

[88] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 815; Стб. 735; Стб. 815, 817; Стб. 815; Стб. 860–861.

[89] Дэталёва пра сваяцтва гл.: Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T.1: Litwa a Moskwa w 13–14 wieku. S. 55 – 58.

## 2.4. ПЕРШЫ ДУУМВІРАТ. ВОЙШАЛК (1264 – 1267 г.) І ШВАРН (1264 – 1270 г.).

Атрымаўшы вестку пра смерць Траняты, Войшалк часова скінуў манаскія строі і ўступіў у барацьбу за бацькоўскі трон. Поспех яму забяспечыла падтрымка Пінска і Наваградка. Пінчукі далі яму войска, і Войшалк накіраваўся ў Наваградак, дзе да яго далучылася мясцовая дружына. На чале аб'яднаных пінска-наваградскіх сілаў Войшалк уступіў у Літоўскую зямлю. Гэты прыклад свядомай і рашучай падтрымкі князя-ўцекача сведчыць пра актыўны ўдзел усходніх славянаў у пабудове ВКЛ. Аднак паколькі ён не зусім, мякка кажучы, адпавядае даўняму ўяўленню пра мясцовых славян як пасіўным аб'екце летувіскай экспансіі, то гэты эпізод генезы ВКЛ у гістарыяграфіі звычайна ўпамінаецца мімаходзь і толькі ў найноўшай беларускай літаратуры яму даецца належная ацэнка[90].

Са звестак Галіцка-Валынскага летапісу вынікае, што Пінск стараўся захоўваць мірныя адносіны з насельнікамі Панямоння і падтрымліваў мясцовы дзяржаватворчы асяродак. Відавочна, імкненне Пінска да ВКЛ тлумачылася жаданнем выйсці з-пад залежнасці ад Галіцка-Валынскай дзяржавы. Аднак пінчукі мусілі дзейнічаць асцярожна, каб не ствараць для сябе лішняй пагрозы. Валынскі летапіс выразна паказвае гэтую дваістасць пінскай палітыкі. Каля 1245 г. пінскі князь патаемна папярэдзіў літоўскі атрад аб надыходзе валынскага войска[91]. Аднак пінскія князі некалькі разоў "няволяю" былі змушаныя прымаць удзел у паходах супраць Літвы.

Па ўсёй верагоднасці, Войшалк меў моцную апазіцыю ў балцкай частцы дзяржавы, бо, каб разбіць яе, карыстаўся вайсковай падтрымкай з боку галіцка-валынскіх князёў. Па некаторых звестках, ён таксама адправіў паслоў да магістра Інфлянцкага ордэна, якое павезла заклік дапамагчы, як хрысціянін хрысціяніну, супраць язычнікаў (пасля перамогі Войшалк адразу выслаў новае пасольства з просьбай ужо не турбавацца)[92].

Падтрыманы ў Літоўскай зямлі паплечнікамі і прыхільнікамі бацькі, Войшалк заняўся фізічнай ліквідацыяй ворагаў. Сярод ягоных апанентаў былі не толькі балты, бо адной з ахвяраў стаў былы ваявода Міндаўга – разанскі выхадзец Астафі Канстанцінавіч.

Відавочна, скарыстаўшы ранейшы досвед, Войшалк імкнуўся навесці парадак і замацаваць свае пазіцыі ў дзяржаве з дапамогай фармальнага падпарадкавання паўднёваму суседу. Ён, па сутнасці, вярнуўся да сістэмы, якая існавала перад 1258 г. Войшалк прызнаў сябе васалам Васількі Раманавіча (назваў яго бацькам) і прыняў на княжанне ў Літву Шварна Данілавіча (жанатага з яго сястрой) ужо як свайго васала (назваў яго сынам)[93]. Атрымаўшы ў дапамогу валынскую дружыну, Войшалк разам са Шварнам у 1265 г. прывёў да пакоры Дзяволтву і Нальшаны[94].

Сярод уцекачоў, якія ратаваліся ад помсты Войшалка, быў забойца ягонага бацькі нальшанскі князь Даўмонт.[*] Ён выехаў з Літвы ў Пскоў разам са сваім родам, хрысціўся ў праваслаўе (прыняў імя Цімафей) і праславіўся на новай радзіме як служылы князь (1266 – 1299 г.).

---

[90] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 149; Насевіч В. Роля беларускіх зямель ва ўтварэнні і ўмацаванні ВКЛ [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 88.

[91] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 798.

[92] Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 1. Z. 2. S. 90 – 91.

[93] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 863, 867.

[94] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 863.

[*] "В лето 6773*. Заратишася Литва межю собою, яко же и всегда бывает князем ь межю ими брани многы и кровопролития о суетнемь царствии света сего, и взя Въишегл землю Литовскую. Тогда блаженый князь Домонт съ дружиною своею и съ всем домом своим оставль отечьство свое землю Литовскую и прибеже въ Псков"

* 1265 г.

(Псковская 2-ая летопись) Охотникова В.И. Повесть о Довмонте (Исследование и тексты). Ленинград: Наука, 1985. С. 193.

Асабліва зацята Даўмонт атакаваў сваю былую радзіму. У ягоных родных Нальшанах валадарыў васал Войшалка і даўні супернік Даўмонта князь Гердзень. Менавіта туды вадзіў новаахрышчаны князь Цімафей пскоўскае войска ў 1266 і 1267 г. Летам 1266 г. ён нават паланіў дзяцей і жонку Гердзеня – сваю цётку. Гердзень арганізаваў пагоню, якая была Даўмонтам разбітая. Зімой 1266 – 1267 гадоў напад паўтарыўся[95].

Такім чынам, у ВКЛ стварыўся першы дуумвірат – гаспадарылі два князі: Войшалк Міндаўгавіч, прадстаўнік мясцовай дынастыі, і адзін з галіцка-валынскіх князёў – Шварн Данілавіч. Хоць фармальна Шварн з'яўляўся васалам Войшалка, але ягоны родны дзядзька Васілька Раманавіч лічыўся сеньёрам ліцвіна. Некаторыя гістарычныя звесткі дазваляюць меркаваць, што галоўным усё ж быў Войшалк. Напрыклад, полацкі князь Ізяслаў у 1265 г. у грамаце-дамове з рыжскімі немцамі напісаў: "*Полацак і Віцебск адно ёсць, а мы ў волі Божай і Войшалкавай*"[96][*].

Фармальнай падставай прысутнасці Шварна ў Літве быў ягоны шлюб з дачкой Міндаўга ў 1254 г., які меў на мэце замацаваць мірную дамову, што закончыла вайну між дзвюма дзяржавамі. Праз розныя палітычныя перыпетыі гэты чалавек апынуўся на Панямонні ў Літве, каб пільнаваць інтарэсы Галіцка-Валынскай дзяржавы і дзе, падобна, адчуваў сябе чужым (пасля смерці быў перавезены на радзіму і пахаваны побач з бацькам). Ён захоўваў свае ўладанні ў Галіцка-Валынскай дзяржаве, якія атрымаў у спадчыну пасля смерці бацькі – Холмскую і Бельзскую землі. Міхайла Грушэўскі вывеў, што камбінацыя са Шварнам "*абапіралася толькі на распараджэнні Войшалка і ненадоўга яго перажыла*"[97].

[*] [Каля 1265 г.] – Договорная грамота кн. пол. Изяслава с лив. Магистром и г. Ригой.

Слов(о) Изяслав(а), княз(я) полочькоr(о), къ еп(иско)пу и къместерю и къ все|мь вельневицем и.ратъ-маном, всемь горожанам: Полоте|скъ Видьбескъ одно есть, а воли есми б(о)жии и вь | Молшелгове. А Изяславъ со мною однъ. На семь къ мне целовати крестъ въ правду, любовь имѣти и миръ, какъ было при первыхъ кня(ья) хъ полочьскы полочаномъ 1 видьбляномъ волное торгованье въ Ризе, на Го|тьскомь Бере* и въ Любьце.

А рубежа не дѣяти.

А ко|му с кымъ тяжа, суд дати безъ перевода.

А суженого не посуживати.

А где кому годно, ту тяжеться |.

[95] НПЛ. С. 85.

[96] Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. Москва, 1977. Вып. 1. № 2; Москва 1980. Вып. III. С. 122.

[97] Грушевський М. Історія України-Руси. Київ. Т. 3. С. 94.

Поручник(и), и долъжникы и холопы выдати.

А што ся I въ рать дѣяло и въ рубежехь, про то вамъ не мѣщати, ни намъ вамъ мещати.

Чего ся есмы ѡтступили въ | Ризе, к тому вамъ не приискывати ни людей ни зе|мли , ни воды, ни борти.

На семь же целуйте ко мнѣ кр(е)стъ, по любьви вправду без всякого извѣта.

*Так следует читать «береге»

ЦГИА Латв. ССр, ф. 673, оп. 4, ящ.18, №4

Копия начала 15 в.

**Перг., 21,5х60 см. На том же пергамене, что и № 1.**

Публ. : Напьерский .Грамоты №_2, 6,_здесь же_факсимиле, Напьерский . Акты №25 б. LECUB, Bd 6 ,№3036, 441-442. Витебская старина. Т1,№5, стр. 21.

Публикация немецкого перевода.:HuB, Bd. 1, №616.

Друкуецца паводле: Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. /состав. А.Л.Хорошкевич. Москва, 1977. Вып. 1. № 2.

Пра наяўнасць дуумвірату і цесную сувязь ВКЛ з Валынню ў гэты час сведчыць канфлікт між Шварнам і мазавецкім князем Баляславам Сарамлівым. Той прыслаў паслоў да Шварна з крыўдай: *“навошта ваяваў маю зямлю без прычыны?”*. Шварн адпіраўся: *“не ваяваў я цябе, але Літва ваявала”* (паход 1265 г.). Пасол мазавецкага князя адказаў, паводле летапісца, так: *“Не крыўдую на Літву, бо ваяваў мяне не заміраны са мной..., а на цябе крыўдую”*. У першай палове 1266 г. Баляслаў пайшоў у паход на Холмскую зямлю, і Шварн мусіў тэрмінова выехаць з Навагрудка на радзіму, каб арганізаваць адпор[98].

Годам раней Войшалк разам з галіцка-валынскімі князямі правёў паход на Малапольшчу. Выправа была адказам на паход малапалянаў у Яцвягію ў чэрвені 1264 г., калі ў рашаючай бітве аб’яднаныя сілы яцвягаў пацярпелі страшную паразу, што прыспешыла заняпад гэтага этнасу[99].

Як глыбока асабістае рашэнне выглядае чарговы (і апошні) адыход Войшалка ад улады ў 1267 г. і вяртанне ў манастыр. Паводле летапісу, на ўгаворы Шварна застацца Войшалк адказаў: *“земля ти опасена”*[100]. Войшалк пасяліўся ў манастыры не ў сябе на Панямонні (мог бы ў заснаваным ім *“паміж Літвой і Навагрудкам”* ці ў Барысаглебскім пад Гародняй), а на Валыні, паблізу рэзідэнцыі Васількі Раманавіча, што было дадатковым выражэннем яго лаяльнасці да валынскіх князёў.

Жыццё гэтага незвычайнага чалавека абарвалася ў 1267 ці ў 1268 г. на Валыні падчас велікодных святаў. Летапісец паведаміў, што Леў Данілавіч, будучы нападпітку пасля сумеснага піру, уласнаручна забіў Войшалка быццам за тое, што той перадаў княжанне ў ВКЛ не яму, Льву, а Шварну. Войшалк адчуваў небяспеку і прыехаў на сустрэчу ва Уладзімір-Валынскі толькі на паруку старэйшага князя ў родзе Раманавічаў, Васількі Раманавіча, які даводзіўся Льву дзядзькам. Пасля сустрэчы Войшалк вярнуўся ў манастыр святога Міхаіла, у якім спыніўся. Аднак Леў прыехаў следам, прапанаваў пра-

[98] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 864.

[99] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 115.

[100] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 867.

цягнуць піраванне, падчас якога справа дайшла да забойства. Войшалка пахавалі там жа, у Міхайлаўскім манастыры. На думку Міхайлы Грушэўскага: *“Для Шчварна смерць Войшалка, які быў яго маральнай апорай у Літве, была моцным ударам”*[101]. Галіцка-валынскі ўплыў утрымаць на Літве не ўдалося.

Шварн Данілавіч княжыў пасля смерці Войшалка каля чатырох гадоў. Звестак пра ягонае гаспадаранне засталося вельмі мала. З надзвычай скупой інфармацыі крыніцаў можна вывесці, што гэты вялікі князь быў больш абаронцам палітычных інтарэсаў Галіцка-Валынскага княства ў Панямонні, чым незалежным ліцвінскім гаспадаром. Прынамсі, з апісання канфлікту з мазавецкім князем вынікае, што так яго ўспрымалі сучаснікі.

У летувіскай гістарыяграфіі заўважаная спроба ўвогуле выдаліць Шварна Данілавіча з шэрагу вялікіх князёў літоўскіх. Па прычыне адсутнасці звестак пра Шварна ў Галіцка-Валынскім летапісе пасля 1267 г. прынятае дапушчэнне, што ён памёр у другой палове гэтага года, а ў 1268 г. на літоўскі трон адразу пасля Войшалка сеў Трайдэн. Канкрэтная інфармацыя летапісу пра праўленне Шварна ў ВКЛ на працягу некалькіх гадоў пасля смерці Войшалка аб’яўленая непраўдзівай пазнейшай устаўкай агіяграфічнай версіі жыцця Войшалка, рэдактары якой нібыта прыдумалі *“праваслаўны праект Літвы”*, не адпаведны *“літоўскай рэчаіснасці таго часу”*[102]. Прамых ці істотных доказаў на такую рэканструкцыю біяграфіі Шварна Данілавіча яе аўтар не прадставіў.

З адыходам Шварна ў лепшы свет закончыўся чарговы, тым разам апошні, перыяд залежнасці ВКЛ ад Галіцка-Валынскага княства. Неўзабаве пасля забойства Міндаўга і ягоных сыноў наваградска-літоўскі саюз аднавіўся, толькі ўжо з іншым балцкім удзельнікам – Трайдэнам.

У сучаснай гістарыяграфіі кароткі перыяд кіравання Войшалка і Шварна часам разглядаецца як спроба пераўтварэння ВКЛ у праваслаўную дзяржаву[103].

---

[101] Грушевський М. Історія України-Руси. Київ: Наукова думка, 1993. Т. 3. С. 94.

[102] Дубоніс А. Шварн Данілавіч і папяровыя ілюзіі праваслаўнай Літвы. С. 103 – 104.

[103] Goldfrank D.M. The Lithuanian prince-monk Vojšelk: a study of competing legends // Harvard Ukrainian studies. 1987. Vol. 11. N. 1 – 2. P. 46; Дубоніс А. Шварн Данілавіч і папяровыя ілюзіі праваслаўнай Літвы. С. 96 – 104.

# Глава 3. Пад знакам Пагоні (1270 – 1315 г.)

Наступныя паўстагоддзя пасля смерці Войшалка – найменш даследаваны перыяд гісторыі ВКЛ. Недахоп інфармацыі аб унутраным жыцці дзяржавы выглядае амаль катастрафічна. Толькі прыблізна ўдаецца акрэсліць дату смерці вялікага князя Шварна Данілавіча, час гаспадарання Трайдэна і Віценя. Увогуле невядома, хто кіраваў краінай пасля Трайдэна ў 80-я гады 13 ст. Пакрытыя змрокам пачаткі новай дынастыі. Нават імя яе заснавальніка, бацькі Віценя і Гедыміна, нельга лічыць дакладна ўстаноўленым. Пра ўнутраны стан дзяржавы ў тыя часы можна рабіць высновы толькі на падставе інфармацыі пра знешнепалітычную дзейнасць. Галіцка-Валынскі летапіс заканчваецца канцом 13 ст. Далей важнейшай крыніцай звестак пра ВКЛ становяцца крыжацкія хронікі.

## 3.1. СТАБІЛІЗАЦЫЯ ПРЫ ТРАЙДЭНЕ (1270 – 1282 г.)

Пасля забойства Войшалка і смерці Шварна, які не нашмат яго перажыў, на чале дзяржавы стаў вялікі князь Трайдэн. Адбылося гэта каля 1270 г.[104] Гісторыя захінула асобу Трайдэна пакрывалам таямнічасці, не пакінуўшы пра яго якой-небудзь дакладнай інфармацыі. Невядома паходжанне вялікага князя, няма датаў нараджэння і смерці; не ведаем, якое ён меў аблічча і якія рысы характару. Адзіная характарыстыка, пакінутая летапісцам варожай Галіцка-Валынскай дзяржавы, занадта непрыязная ды катэгарычная, каб быць дакладнай: *"акаянны і беззаконны, пракляты, нялітасцівы Трайдэн"*.[105] [*] У той жа летапіснай згадцы падаецца, што ён жыў яшчэ 12 гадоў, г.зн. кіраваў дзяржавай да 1282 г. Таксама па ўскосных даных можна вывесці, што паганец Трайдэн праяўляў цярпімасць да хрысціянства – ягоныя браты, якія бралі ўдзел у войнах з Галіцка-Валынскім княствам (за іх смерць ён помсціў валынянам), былі праваслаўнымі хрысціянамі.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

"Нача княжити въ Литвѣ оканьный и безаконьный, прокляты, немилостивый Тройденъ (Троиден(і)й), его же беззаконья не могохомъ псати (списати) срама ради: такъ бо бяшеть безаконьникъ, яко и Антиохъ Сурьскый, Иродъ Ерусалимъскый и Нерон Римъскый, и ина многа злѣйша того беззаконья чиняше. Живъ же лѣтъ 12, и тако преставися безаконьникъ. Бяхуть же въ него братья борза (борзыи): Сурьпутій, Лѣсій, Свелкеній (Свелкелій); бяхуть же живуще во святѣмъ крещеніи, сіи же живяхуть въ любви, во кротости и во смиреньи, держаще правую вѣру крестьяньскую, преизлиха любяще вѣру и нищая. Си же преставишася при животѣ Тройденевѣ"

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. СПб. Т. 2. 1843. С. 204; 1908. Стб. 871.

---

[104] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 871; Грушевський М. Хронольогія подій ... С. 47, 70.

[105] беззаконны – бязбожны, г.зн. паганец ці чалавек, які не ведае хрысціянскага закону.

На месца паходжання Трайдэна ўказвае інфармацыя са Старэйшай Лівонскай (Інфлянцкай) рыфмаванай хронікі – у 1279 г. лівонскія рыцары ішлі паходам на Кернава, якое *"было зямлёй Трайдэна"* (*"Stolß zu Kernowen. Das was leit den Lettowen; Do wart kuniges Thoreiden lant..."*[106]). Адсюль гісторыкі выводзяць, што, магчыма, там знаходзілася ягонае родавае ўладанне, з якога Трайдэн і прыйшоў на вялікае княжанне літоўскае ў Наваградак.

ВКЛ у часы Трайдэна выступала як моцная, унутрана стабільная дзяржава, здольная весці актыўную знешнюю палітыку. Асноўныя яе кірункі заставаліся нязменнымі ад часоў Міндаўга. Галоўныя ворагі таксама: Інфлянцкі ордэн на поўначы (Ордэнская дзяржава ў Прусах пакуль не лічылася – была занятая пакарэннем мясцовых плямёнаў) і Галіцка-Валынская дзяржава – на поўдні. Апошнюю аддзялялі ад Панямоння Тураўская і Пінская землі, якія знаходзіліся ў залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў, але імкнуліся яе пазбавіцца і праводзілі прыхільную да ВКЛ палітыку.

Полацкая зямля на ўсходзе, не падпарадкаваная татарам, але палітычна раздробленая, усё больш збліжалася з памацнеўшай панямонскай дзяржавай на глебе супольных інтарэсаў у Інфлянтах. На паўночных, паўночна-заходніх і заходніх рубяжах ВКЛ жылі прыязныя семігальскія, жамойцкія і яцвяжскія плямёны, якія цяжка бараніліся ад крыжакоў і шукалі апоры ў ВКЛ. Яцвягі адначасова мусілі супрацiўляцца экспансіі мазаўшанаў і валынянаў, якая ўрэшце і стала галоўнай прычынай знікнення гэтага народу з палітычнай ды этнічнай мапаў Еўропы.

Знешняя палітыка Трайдэна грунтавалася на двух галоўных прынцыпах:

- **Утрыманне "пояса бяспекі" вакол краіны**;
- **Недапушчэнне рэгулярнай вайны на два фронты**.

Трайдэн не вёў войнаў блізка межаў сваёй дзяржавы. Яму да канца гаспадарання ўдалося захаваць вакол Літвы "пояс бяспекі", складзены з мірных ці саюзных земляў. Такая стратэгія мела даўнюю традыцыю, якую можна прасачыць ад 80-х гадоў 12 ст. Яе стараўся прытрымлівацца Міндаўг, атрымаўшы добрую навуку падчас першай вайны ВКЛ (1248 – 1254 г.), калі на баку Галіцка-Валынскага княства выступілі, акрамя Інфлянцкага ордэна, бліжэйшыя суседзі Літвы – яцвягі і жамойты. Пояс бяспекі быў прарваны толькі пасля смерці Трайдэна, калі прускія крыжакі з баямі выйшлі на ліцвінскую мяжу і распачалі рэгулярную вайну з Літвой.

Дзейнасць Трайдэна вызначалася актыўнасцю, угрунтаванай на цвярозым разліку. Вялікі князь імкнуўся валодаць ініцыятывай і апярэджваць ворагаў. Ён некалькі разоў крута змяняў галоўны кірунак знешнепалітычнай актыўнасці і амаль заўсёды ягоныя разлікі аказваліся правільнымі. Выключэннем стала вайна з галіцкім князем Львом Данілавічам (пачалася нечаканым нападам гарадзенцаў на Драгічын у 1275 г.), калі рэакцыя ў адказ аказалася больш гвалтоўнай і моцнай, чым прадбачыў вялікі князь.

Паводле галоўнага кірунку знешняй палітыкі Трайдэна можна выдзеліць тры этапы дзейнасці ягонай дзяржавы:

1. 1270 – 1274 г. Змаганне з Інфлянцкім ордэнам у Прыбалтыцы.
2. 1275 – 1277 г. Барацьба з Галіцка-Валынскім княствам на поўдні.
3. 1277 – 1282 г. Аднаўленне вайны з Інфлянцкім ордэнам.

На першым і трэцім этапах паралельна з інфлянцкай вайной вялікі князь арганізоўваў рэгулярныя напады на аддаленыя польскія землі.

[106] LR. S. 191.

### 3.1.1. Ад абароны да наступу

**1270 – 1274 г. Вайна з Інфлянцкім ордэнам. Напады на Польшчу. "Малая" вайна з Валынскім княствам.** На гэтым этапе галоўным ворагам Літвы лічыўся Інфлянцкі ордэн. Адначасова ліцвіны праводзілі паходы на раздробленыя і аддаленыя ад межаў ВКЛ польскія землі, адкуль не выпадала чакаць сур'ёзнага адпору і паходаў у адказ.

У пачатку 1270 г. войскі ВКЛ рушылі на Інфлянты і дайшлі да эстонскага вострава Эзэль. Інфлянцкі магістар Ота фон Лютэнберг спрабаваў іх затрымаць, але пацярпеў паразу і сам загінуў у баі. Летам таго ж года ліцвіны зноў пустошылі Інфлянты[107]. Віцэмагістар Ордэна скардзіўся ў адным з лістоў, што з-за ліцвінскага рабаўніцтва ў ваколіцах Дзвіны нямецкія купцы не могуць весці гандаль па гэтай рацэ[108]. У 1272 г. яцвяжскі кунігас Скуманд з дапамогай русінаў з ВКЛ пустошыў галоўнае апірышча Тэўтонскага ордэна ў Прусіі – Хэльмінскую зямлю. Вясной і летам таго ж 1273 г. года ліцвіны два разы нападалі на землі Інфлянцкага ордэна. Рыцары адказвалі тым жа. Актыўным удзельнікам іх паходаў супраць ВКЛ быў варожы Трайдэну аўкштоцкі кунігас Суксэ, які загінуў у баі з былымі суайчыннікамі ў тым жа 1273 г.[109]

На поўдні вялікі князь вёў "малую" вайну (напады на прыгранічныя землі) з валынскім князем Уладзімірам Васількавічам[110] і нейкі час падтрымліваў добрыя адносіны са стрыечным братам Уладзіміра Львом Данілавічам – князем галіцкім. Варожасць Трайдэна да Уладзіміра летапісец тлумачыў тым, што бацька апошняга *"забіў на войнах трох братоў Трайдэна"*[111].[*]

[*] Галіцка-Валынскі летапіс:

"Въ лѣто 6782 (1274 – *А.К.*). Тройденеви же еще княжащу въ Литовьской землѣ, живяше со Львомъ во велицѣ любви, шлючи многы дары межи собою; а съ Володимеромъ не живяше въ любви про то, оже бяшеть отець Володимеровъ князь Василко убилъ на войнахъ 3 браты Тройденеви, про то не живяше съ нимъ въ любви, но воевашеться съ ним, но не великыми ратми (но воеваша съ нимъ великими ратми);"

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 205. 1908. Стб. 871.

У той час Галіцка-Валынская дзяржава была падзеленая на тры часткі. Уладзімір Васількавіч валодаў Валынскім княствам (атрымаў яго пасля смерці бацькі каля 1270 г.), галіцкім князем быў Леў Данілавіч, асобным меншым удзелам кіраваў яшчэ адзін сын Данілы – Мсціслаў[112]. Паміж князямі не было адзінства, і Трайдэн гэта ўмела выкарыстоўваў.

Ахвярай ваяўнічых ліцвінаў неаднаразова станавіліся польскія землі, аддаленыя ад межаў ВКЛ. Ліцвінскія войскі хадзілі паходамі на Ленчыцкую, Добжыньскую, Куяўскую, Люблінскую землі і нават у далёкую Малапольшчу. Выправы мелі як рабаўнічы, так і палітычны характар. Выключэннем у польска-ліцвінскіх адносінах таго часу быў су-

[107] LR. S. 181; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 127 – 128.

[108] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 123.

[109] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 129 – 131.

[110] Грушевський М. Хронольогія подій… 49, 70.

[111] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 871.

[112] Грушевський М. Хронольогія подій… С. 92.

месны паход у Сілезію ў 1271 г. Тады малапольскае, серадскае і ленчыцкае рыцарства разам з русінскай і ліцвінскай дапамогай спустошыла ўсходнюю частку Уроцлаўскай зямлі, якая была галоўнай апорай чэшскага ўплыву ў Сілезіі. Летам 1273 г. Трайдэн, скарыстаўшы міжусобную вайну ў Малапольшчы, вадзіў свае войска ў Люблінскую зямлю[113]. Пасля гэтай выправы ліцвіны на чатыры гады пакінулі Польшчу ў спакоі, бо ў іх пачалася цяжкая вайна з Галіцка-Валынскім княствам і татарамі.

**1275 – 1277 г. Змена галоўнага кірунку мілітарнай актыўнасці ВКЛ. Мірная дамова з інфлянцкімі немцамі і пачатак актыўнай вайны з Галіцка-Валынскай дзяржавай.** У свой час Міндаўг меў вялікія клопаты з-за вайны на два фронты – з лівонцамі на поўначы і валынянамі на поўдні. Трайдэн улічыў ягоны вопыт і пастараўся не дапусціць падобнай сітуацыі. На час вайны з Галіцка-Валынскай дзяржавай ён заключыў мір з усімі трыма галоўнымі сіламі ў Інфлянтах: рыжанамі, рыжскім архібіскупам і Лівонскім ордэнам. Як заўсёды ў ліцвінска-лівонскіх дамовах, гаворка ў першую чаргу ішла пра бяспечны гандаль па Дзвіне. Вялікі князь дбаў такім чынам і пра эканамічныя інтарэсы палачанаў і віцьбічаў, якія здаўна тым гандлем карміліся.

У 1275 г. па загадзе Трайдэна гарадзенская дружына напала на Драгічын, захапіла горад і расправілася з яго жыхарамі.[*]

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

(1275 г. – *А.К.*) "Посемъ же Тройденій, забывъ любви Львовы, пославъ Городняны велѣ взяти Дорогичинъ, и Тридъ (Тріедъ) съ ними же бяшеть; се же (сей же) вѣдашеть о городѣ, како моцно (мочно) взятии, излѣзъ же и ночью (въ ночи) и тако взяша й на самы великъ день, избиша й отъ мала и до велика."

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу)

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 205; 1908. С. 871

Леў Данілавіч звярнуўся па дапамогу да свайго сюзерэна – Арды. Татары не толькі прыслалі ўласнае войска, але і паднялі супраць Літвы падуладных ім рускіх князёў, у тым ліку бранскага і смаленскага. Адначасова (у канцы 1275 г.) на Панямонне рушылі галіцка-валынскія князі, якія па дарозе забралі з сабой пінскую і тураўскую дружыны. Саюзныя войскі рознымі дарогамі скіраваліся ў бок Наваградка, спусташаючы ўсё на сваім шляху. Паводле плана кампаніі, яны павінны былі злучыцца і ўдарыць на Наваградак. Аднак Леў Данілавіч не стаў чакаць рускіх саюзнікаў, а напаў на ліцвінскую сталіцу разам з татарамі, захапіў і знішчыў вакольны горад[114] (сённяшні Малы замак). Сучасныя археалагічныя даследаванні паказалі, што жыццё ў гэтай частцы горада ніколі ўжо не дасягнула такой інтэнсіўнасці і багацця, якое мела перад пагромам 1275 г. Дзядзінец[115] (сённяшняя Замкавая гара), дзе сабраліся ацалелыя гараджане, утрымаўся. Іншыя князі – удзельнікі паходу, якія падышлі неўзабаве, наракалі на Льва за паспешлівасць і адмовіліся працягваць выправу.

Летапісная інфармацыя пра гэты паход вызначаецца надзвычайнай дакладнасцю ў апісанні геаграфіі Палесся і Панямоння, што ў чарговы раз пацвярджае высокую вартасць Галіцка-Валынскага летапісу як гістарычнай крыніцы.[*]

[113] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1: Trudne początki. Poznań, 1998. S. 46 – 47.

[114] вакольны горад — умацаваная частка рамесна-гандлёвага пасаду — асноўная тэрыторыя горада.

[115] дзядзінец — найлепш умацаваная частка – цэнтар горада, дзе жыў князь з сям'ёй і дружынай.

[*] Галіцка-Валынскі летапіс:

Апошні начны прывал войскі зрабілі на рацэ Сервяч (каля Карэлічаў). На наступны дзень татарскія разведчыкі, якія падабраліся пад самы Наваградак, убачылі над пагоркам марозную пáру ад незамярзаючай крыніцы пад замкавай гарой і вырашылі, што там стаіць коннае войска. Крыніца, якая не замярзае ў моцныя маразы, і сёння выцякае з-пад падэшвы Замкавай гары ў Наваградку:

"Татари же прислаша ко Львови и къ Володимерови, тако рекуче: "дѣти нашѣ видѣлѣ, оже рать стоить за горою, пара идеть изъ коней; а пошлѣте люди добрыи съ нашими Татары, ать усмотрять што будеть." Они же послаша съ ними добрыи люди, и тако ѣхавше осмотрѣша, оже нѣтути рати, но пара идяшеть со истоковъ текущихъ изъ горъ, зане морозѣ бяхуть велицѣ."

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 205; 1908. Стб. 872 – 873.

Адметнасцю выправы было тое, што яе арганізатарам выступаў не гаспадар Прычарнаморскага ўлуса эмір Нагай, а хан Волжскай Арды Менгу-Цемір. У 60-я гады 13 ст. татарская дзяржава ва Усходняй Еўропе (улус Джучы) страціла адзінства. Утварыліся два ардынскія ўлусы і, адпаведна, дзве зоны татарскіх уплываў на рускіх землях. Волжская Арда са сталіцай у Сараі кантралявала Паўночна-Усходнюю Русь. У сярэдзіне 60-х гадоў 13 ст. цёмнік Нагай замацаваўся ў вусці Дуная і стварыў уласны г.зв. Дунайскі, ці Прычарнаморскі ўлус. Нагай здолеў падпарадкаваць Галіцка-Валынскую дзяржаву і здабыць уласную сферу ўплыву на Балканах. Паходам на Літву ў 1275 г. сарайскі ўладар Менгу-Цемір імкнуўся распаўсюдзіць свой уплыў на землі Панямоння. Як вядома, гэтай мэты ён не дасягнуў. Наступны паход супраць Літвы ў 1277 г. арганізоўваў ужо Нагай[116].

Вайна ВКЛ з Галіцка-Валынскай дзяржавай цягнулася яшчэ пару гадоў у выглядзе ўзаемных рабаўнічых нападаў. У 1276 г. галіцка-валынскія войскі прыходзілі да Слоніма і захапілі Турыйск; брат Трайдэна Сірпуцій вадзіў ліцвінскае войска на Валынь (ваяваў ваколіцы Каменя) а валыняне зноў напалі на Панямонне, на гэты раз на Турыйск з ваколіцамі. Дзесьці ў 1276/77 г. праціўнікі замірыліся[117].

Аднак вельмі хутка мір зноў быў парушаны праз умяшанне знешняй сілы – татараў. Эмір Нагай загадаў усім тром галіцка-валынскім князям прыняць удзел у сумесным паходзе супраць ВКЛ. У якасці матывацыі вайны Нагай прыводзіў інтарэсы валынянаў і галічанаў, маўляў, тыя ўвесь час скардзяцца яму на Літву.

У сапраўднасці, татары рэалізоўвалі ўласную стратэгію, не дазваляючы падуладным ім краінам узмацняцца ды весці самастойную знешнюю палітыку. У сувязі з гэтым паходам напрошваецца яшчэ адна аналогія з гаспадараннем Міндаўга, менавіта выправай у 1258 г., калі татары такім жа чынам парушылі мір паміж ВКЛ і Галіцка-Валынскай дзяржавай, насуперак волі кіраўнікоў апошняй, таксама змусіўшы іх да сумеснага нападу на Літву.

Паход распачаўся зімой у канцы 1277 г. і Леў Данілавіч, як ягоны бацька ў падобных абставінах 20 гадоў раней, ухіліўся ад асабістага ў ім удзелу ды выслаў на чале войска свайго сына Юрыя. Галоўнай мэтай выправы, як заўжды ў вялікіх татарска-валынскіх паходах супраць ВКЛ, быў Наваградак. Другім важным, але незапланаваным пунктам паходу стала Гародня. На маршы каля Бярэсця галіцка-валынскіх князёў заспела вестка, што татары іх апярэдзілі і ўжо знаходзяцца пад Наваградкам. На вайсковай нарадзе было вырашана змяніць кірунак паходу, каб не ісці па ўжо зрабаванай тэрыторыі, і рушыць на Гародню. Аднак горад узяць не ўдалося. Дэталёвае апісанне ў Галіцка-Валынскім

[116] Греков И.Б. О характере ордынско-русских отношений второй половины 13 – начала 14 в. С. 128 – 130.

[117] Грушевський М. Хронольогія подій... С. 49, 70.

летапісе гэтай выправы ўтрымлівае важную гістарычную інфармацыю пра найстаражытнейшы горад Панямоння і прускіх эмігрантаў, якія бралі ўдзел ў яго абароне.[*]

[*] Галіцка-валынскі летапіс:

"В лѣто 6785. Присла оканьный и безаконый Ногай (поганый) послы своя съ грамотами, Тегичага, Кутлубугу и Ешимута ко Львови и Мьстиславу и Володимеру, тако река: «всегда ми жалуете на Литву; осе же вы (вам) далъ есмь рать и воеводу съ ними Мамъшѣя (Матшія), пойдѣте же съ нимъ на вороги своѣ.» Зимѣ же приспѣвше, и тако поидоша князи Русціи на Литву, Мьстиславъ, Володимеръ, а Левъ не иде, но посла сына своего Юрья; и тако поидоша вси къ Новугородъку. князи же начаша думати собѣ, Мьстиславъ, Володимеръ, Юрьи, тако рекуще: «оже пойдемъ къ Новугородъку, а тамо уже Татарове извоевали все; поидемъ кдѣ къ чѣлому (цѣлому) мѣсту;» и тако сдумавше поидоша къ Городну, и бысть минувшимъ имъ Волковыескъ далече, сташа на ночь. Ту Мьстиславъ и Юрьи, утаивъшеся Володимера, посласта лутьшѣи своѣ бояре и слуги воевать со Тюимою (Туимою, Тiомою); они же воеваша тамо и легоша на ночь, а ко рати своей не шедше, и безъ сторожѣ (ибесторожѣ), и доспѣхы своѣ (съ себе) соимавше. Тогда же утече отъ нихъ бѣглецъ единъ до города, и нача повѣдати горожаномъ тако: «онамо людье лежать на селѣ безъ ряду;» Пруси же и Бортеве (Бортове, Буртове) выѣшавше изъ города, удариша на нѣ ночь (на ночь) и избиша ѣ всѣ, а другіе изоимаша и въ городъ ведоша, а Тюима на санехъ везоша, бѣ бо раненъ велми. Завътра же полкомъ пришедшимъ къ городу, а прибѣже Ратиславко Мьстиславль (къ рати мстиславской) нагъ и босъ, и начатъ повѣдати о бывшемъ, оже избитѣ боярѣ вси Мьстиславлѣ и Львовѣ, слугы вси избиты, а друзіи поимани; и печална быста о семъ велми Мьстиславъ и Юрьи за свое безумье, а Володимереви бысть на нею нелюбо, оже утаивъшеся его тако учинила; и начаша собѣ промышляти о взятьи города. Столпъ бо бѣ каменъ высокъ стоя передъ вороты города, и бяху въ немъ заперлися Прузи (Пруси(ы)), и не бысть имъ мимо онь пойти къ городу, побивахуть бо со столпа того; и тако приступиша къ нему и взяша и, страхъ же великъ и ужасть паде на городѣ, и быша аки мертвѣ стояще на заборолѣхъ города, о взятьи столпа, зане то бысть упованіе ихъ. И начаша думати о своихъ боярехъ, како бы ихъ мочно добыти, но не могоша никакоже. Мьстиславъ же, и Володимеръ, и Юрьи и доконцаша (докончаша) съ горожаны тако (како): города имъ не имати, своѣ бояры выимати; бояры своѣ поимаша, а городу не въспѣша ничего же, тако возвратишася восвояси."

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу)

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 207; 1908. Стб. 876 – 878.

Пасля гэтага паходу доўга не было чутно пра якія-небудзь збройныя сутыкненні ВКЛ і Галіцка-Валынскай дзяржавы. Наадварот, маюцца звесткі пра супрацоўніцтва. Летапісец паведаміў пад 1280 г., што Трайдэн прыслаў вайсковую падмогу Льву, калі той увязаўся ў вайну за Малапольшчу. Адначасова брат вялікага князя Сірпуцій рушыў у паход на Люблінскую зямлю. Тым не менш, Трайдэну, як і наступным гаспадарам ВКЛ, увесь час даводзілася пільна сачыць за паўднёвым суседам, браць пад увагу ягоныя справы і намеры ды старацца падтрымліваць мір нават цаной тэрытарыяльных саступак.

**1277 – 1282 г. Замірэнне з галіцка-валынскімі князямі. Саюз з мазавецкім князем. Аднаўленне вайны з Інфлянцкім ордэнам. Новыя паходы ў Польшчу і Прусы.** Неўзабаве пасля наладжвання міру з галіцка-валынскімі князямі (1276/7 г.) адбыўся чарговы напад ліцвінаў на Польшчу (на Ленчыцкую зямлю ў 1277 г.) пад асабістым кіраўніцтвам вялікага князя, скаардынаваны з паходам яцвягаў на Хэльмінскую зямлю ў Прусію. Вайсковыя выправы ў Польшчу працягваліся і ў наступныя гады. Не спыніла

іх і параза ліцвінскага войска падчас паходу на Сандомірскую зямлю ў 1282 г., гэтаксама, як і смерць вялікага князя Трайдэна[118].

Перад аднаўленнем атакі на Інфлянты Трайдэн у 1279 г. наладзіў трывалы мір і саюз з мазаўшанамі – бліжэйшым суседам, які стратэгічна не нёс вялікай пагрозы гаспадарству. Гэткім чынам Трайдэн забяспечыў частку “поясу бяспекі” вакол Літвы. Сусед мог прыдацца як дапаможная, ці, прынамсі, нейтральная сіла. Саюз паміж хрысціянскім князем і паганскім манархам быў замацаваны шлюбам у 1279 г. плоцкага князя Баляслава II з Гаўдэмундай Трайдэнаўнай. Ліцвінка хрысцілася пад імем Соф’я, але адзін з яе сыноў у гонар дзеда-паганца атрымаў імя Трайдэн. Год 1279 лічыцца пераломнай датай у ліцвінска-мазавецкіх адносінах[119]. Сямейныя сувязі мазавецкіх князёў з ліцвінскімі сталі традыцыяй, якая працягвалася і ў 14 ст.[120] Унук Трайдэна прычыніўся да развіцця будучай польскай сталіцы – Варшавы, пераўтварыўшы яе з вёскі ў горад[121].

Пры Трайдэне ВКЛ не праводзіла паходаў на чарнігаўскія, смаленскія, ноўгарадскія землі, як тое здаралася ў часы Міндаўга. Напэўна, новы гаспадар не жадаў абвастраць адносіны з Залатой Ардой, ад якой залежалі тыя рускія княствы. Добрай навукай ліцвінам быў удзел татарскага войска ў паходах на Панямонне галіцка-валынскіх князёў у 1275 і 1277 г.

Апошнія гады гаспадарання Трайдэна прайшлі ў актыўнай барацьбе з інфлянцкімі рыцарамі. Упартае змаганне разгарнулася за замак Дзюнабург (сённяшні латвійскі Даўгаўпілс), збудаваны магістрам Эрнстам Разбургам у 1275 – 1276 г. пры мяжы з Аукштотай і Полаччынай. Урэшце Трайдэну ўдалося захапіць Ерсіку, размешчаную ніжэй па цячэнні Дзвіны. Дзюнабург аказаўся адрэзаным ад Лівоніі, таму браты-рыцары абмянялі яго на Ерсіку ды яшчэ мусілі заплаціць выкуп.

У 1279 г. інфлянцкія рыцары арганізавалі вялікі паход на Літву, у якім узяў удзел яшчэ атрад датчанаў з Рэвеля (быў тады ў валоданні Даніі). Лівонцы дайшлі да родавага ўладання Трайдэна ў Кернаве, але на зваротнай дарозе ліцвінскія войскі іх дагналі і перамаглі ў цяжкай бітве, у якой загінулі кіраўнікі паходу – магістар Эрнст Разбург і камандзір дацкага атрада Эйлард Хобетц[122].

Параза інфлянтцаў абярнулася для іх яшчэ адной непрыемнасцю – вайной з **семігаламі**, якія на пачатку 70-х гадоў сілай зброі былі змушаныя прызнаць уладу Ордэна. Семігальскія воі бралі ўдзел у тым нешчаслівым паходзе лівонцаў на Літву, але ў вырашальны момант пакінулі поле бітвы, чым аблегчылі ліцвінам разгром крыжакоў.

**Зэмгалэ**, **Земгалія**, або **Семігалія** (лат.: *Zemgale*) – адна з пяці гістарычных абласцей Латвіі, названая па старажытным балтыйскім племяні земгалаў. Размешчаная на поўдні краіны па левым беразе Заходняй Дзвіны і мяжуе з Селіёй, Аўкштотай і Курляндыяй. У 13 ст. захопленая нямецкімі рыцарамі, стала часткай Лівоніі (Інфлянтаў). З 1561 у Курляндскім герцагстве (у 1596 – 1617 г. самастойнае Земгальскае герцагства), у 1795 – 1917 г. усходняя частка Курляндскай губерні Расейскай імперыі.

Неўзабаве семігалы распачалі вызваленчае паўстанне, падтрыманае Трайдэнам. У 1279 – 1280 г. паўстанцы з ліцвінскай падмогай здабылі шэраг перамогаў у бітвах

[118] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... S. 47 – 50.
[119] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... S. 89.
[120] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Historia 26. Toruń, 1992. S. 60.
[121] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... S. 108.
[122] LR. S. 188 – 194.

з ордэнскімі войскамі. Князь семігалаў Намэйсэ перадаў Трайдэну частку палонных немцаў, у тым ліку магістра ордэна. Вядома, што ў 1281 г. вялікі князь літоўскі імкнуўся не дапусціць замірэння немцаў з семігаламі[123]. Канчаткова задушыць іхняе паўстанне Інфлянцкаму ордэну ўдалося толькі ў 1290 г.

Адносіны ВКЛ з ордэнскай дзяржавай у Прусіі таксама нельга назваць мірнымі, хоць прускія крыжакі дзяржаву Трайдэна не атакавалі. Аднак здараліся выправы ліцвінаў на землі, падуладныя Ордэну. У час гаспадарання Трайдэна крыжакі прыступілі да падпарадкавання апошніх незалежных прускіх плямёнаў, якія непасрэдна межавалі з ВКЛ. Пасля падаўлення паўстання 1260 – 1274 г., узнятага на, здавалася б, ужо пакораных тэрыторыях, Ордэн распачаў планавую заваёву ўсходнепрускіх земляў Надровіі, Скаловіі і Судавіі (Яцвягіі), якая цягнулася да 1283 г.[124] Занятыя гэтай важнай і цяжкай справай, прускія крыжакі да часу не думалі пра паходы на Літву. Не чапалі яны і Жамойці, якая да 1283 г. была аддзеленая ад ордэнскіх уладанняў незалежнай Скаловіяй. Трайдэн падтрымліваў мясцовыя плямёны, якія баранілі сваю незалежнасць, і прымаў у гаспадарстве прускіх эмігрантаў. У 1276 г. вялікі князь пасяліў прусаў, якія пакінулі сваю зямлю пад націскам крыжакоў, у ваколіцах Гародні і Слоніма[125]. Галіцка-Валынскія князі падчас вайны з ВКЛ правялі спецыяльны паход на Слонім, каб іх адтуль сагнаць[126]. Пад канец свайго гаспадарання Трайдэн правёў прынамсі два паходы на тэрыторыю Ордэнскай дзяржавы ў Прусіі. Ордэнскія храністы занатавалі напад яцвягаў і ліцвінаў на Самбію ў 1279 ці 1280 г. і паход Трайдэна на Прусы восенню 1281 г.[127] Гэтая інфармацыя аказалася апошняй занатаванай у крыніцах згадкай пра дзейнасць вялікага князя Трайдэна.

### 3.1.2. Унутраны стан дзяржавы Трайдэна

Непасрэдных звестак пра ўнутраныя справы ВКЛ часоў Трайдэна практычна не захавалася, таму інфармацыю пра стан дзяржавы даводзіцца выцягваць з апісанняў паходаў, бітваў, аблогаў і іншых вайсковых ды дыпламатычных акцыяў. Ужо адзначалася, што тыя акцыі сведчылі пра еднасць і цэласнасць дзяржавы ды наяўнасць моцнага кіруючага цэнтра, які без сумневу можна атаясамліваць з асобай вялікага князя.

Становішча Трайдэна як кіраўніка ВКЛ нагадвае сітуацыю з Міндаўгам. Падмуркам дзяржавы, яе этнічнай асновай заставаўся балта-славянскі саюз. Памяняліся толькі дзеючыя асобы, але паўтарылася, ці, дакладней, працягнулася ранейшая схема: **Вялікае Княства Літоўскае = славянскія (беларускія) землі Панямоння + родавыя ўладанні моцнага балцкага князя.** Улічыўшы тое, што за вярхоўную ўладу ў ВКЛ змагаліся князі, звязаныя паходжаннем ці шлюбам з родам Міндаўга, можна са значнай доляй верагоднасці меркаваць, што Трайдэн таксама меў пакрывенства з гэтым родам.

Межы дзяржавы Трайдэна практычна не змяніліся ад часоў Міндаўга. На поўначы яна суседзіла з Семігаліяй, на паўночным усходзе – з Полацкай зямлёй, а на ўсходзе – з Менскай, на поўдні – з Тураўскай, Пінскай і Берасцейскай землямі (належалі да Галіцка-Валынскай дзяржавы), на паўднёвым захадзе зусім блізка было да Мазовіі, на захадзе ВКЛ межавала з землямі яцвягаў, на паўночным захадзе – з Жамойцю.

---

123 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 138 – 139.

124 Państwo zakonu krzyżackiego w Prusach. Władza i społeczeństwo. S. 88.

125 Факт перасялення пацвярджаецца дзвюма рознымі крыніцамі: Галіцка-Валынскім летапісам (ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 206; 1908. Стб. 874.) і ордэнскай Хронікай Прускай зямлі Пятра Дусбурга (Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 150).

126 ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 206; 1908. Стб. 874; Грушевський М. Хронольогія подій… С. 49.

127 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 139.

На жаль, яшчэ і сёння ў гістарычнай навуцы не пераасэнсаваны даўні гістарыяграфічны пастулат з 19 ст. пра пастаянную барацьбу ўнутры дзяржавы паміж балтамі-язычнікамі і славянамі-хрысціянамі. Зыходзячы з гэтага пастулата, ВКЛ аб'яўляецца летувіскай, або беларускай дзяржавай, у якой адзін народ дамінаваў над другім. Такія погляды, перанесеныя на сярэднявечча з эпохі народзінаў сучасных нацыяналізмаў, не знаходзяць пацвярджэння ў крыніцах. Гістарычныя факты сведчаць якраз пра адваротнае, менавіта пра мірнае суіснаванне балцкіх і славянскіх насельнікаў Панямоння і іхняе агульнае зацікаўленне ў дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ як дзейсным сродку абароны ад знешніх ворагаў. Напэўна, не меншае значэнне мела і эфектыўнае выкананне дзяржавай іншай важнейшай функцыі – падтрыманне ўнутранага правапарадку.

Тыя ж крыніцы сведчаць, што справа веравызнання, гэтаксама, як і этнічнага паходжання, не мела прынцыповага значэння для ўзаемаадносінаў між грамадзянамі ВКЛ. Сам вялікі князь Трайдэн быў балтам-паганцам, але ягоныя браты вызнавалі праваслаўе. Хрысціянскі валынскі князь Васілька прычыніўся да гібелі трох братоў Трайдэна, сярод якіх, напэўна, былі і пералічаныя летапісцам пайменна хрысціяне, а паганец Трайдэн помсціў за іх смерць. (Ацалеў, падобна, адзін Сірпуцій, які згадваецца ў летапісе і пасля смерці Васількі.)

Жыхары беларускай Гародні – славяне і хрысціяне – падтрымлівалі балта ды паганца Трайдэна і па ягоным загадзе захапілі і разбурылі славянскі і хрысціянскі Драгічын. Гэтаксама наваградцы актыўна ваявалі супраць аднаверцаў і этнічна блізкіх галічанаў ды валынянаў. У той жа час, сярод скупых дакументальных звестак захавалася інфармацыя пра аднаго з балцкіх праціўнікаў Трайдэна – кунігаса Суксэ, які перайшоў на бок лівонскіх рыцараў і браў удзел у іх паходах супраць ВКЛ.

Рэлігійная ды этнічная талерантнасць на Панямонні ў эпоху сярэднявечча не павінна выклікаць здзіўлення, бо ў 13 ст. славяне і балты тут мелі багаты вопыт мірнага суіснавання, пачынаючы прынамсі ад канца 10 ст. Тады ў панямонскую вобласць, заселеную рэдкім балцкім насельніцтвам, якое вызнавала паганства, прыйшлі славяне – таксама паганцы. Хрысціянства нагнала іх толькі праз стагоддзе.

* * *

Нягледзячы на значны недахоп крыніцаў, наяўная ў іх інфармацыя дазваляе вызначыць агульную ацэнку кіравання Трайдэна. Гэты гаспадар карыстаўся значным міжнародным аўтарытэтам, пра што сведчыць шлюб ягонай дачкі з мазавецкім князем. Трайдэн працягваў палітычны курс папярэдніх вялікіх князёў – умацоўваў саюз балцкага і славянскага складнікаў дзяржавы. Праводзіў прагматычную і эфектыўную знешнюю палітыку. Наладжваў саюзныя адносіны са слабейшымі суседзямі (мазаўшанамі, семігаламі, яцвягамі, прусамі) і паспяхова змагаўся з галоўнымі ворагамі дзяржавы – крыжакамі і валынянамі. Умеў выкарыстаць унутраныя канфлікты ў варожых краінах. У Прусіі і Лівоніі падтрымліваў мясцовыя плямёны ў іх барацьбе супраць Тэўтонскага ордэна. Сябраваў з некаторымі галіцка-валынскімі князямі і адначасова ваяваў з іншымі. Вывеў сваю дзяржаву з залежнасці ад Галіцка-Валынскага княства і ўмацаваў яе міжнароднае становішча. Не павялічыў дзяржаўнай тэрыторыі, але нічога з яе не страціў. Пакінуў дзяржаву мацнейшай, чым атрымаў.

## 3.2. "ЦЁМНЫЯ ГАДЫ" (1283 – 1292 г.)

Дзесяцігоддзе ад 1282 да 1292 г. – самы "цёмны" перыяд унутранай гісторыі ВКЛ. Інфармацыя крыніц настолькі няпоўная і ўрыўкавая, што дакладна невядома нават, хто быў на чале дзяржавы. Усё, што мы ведаем пра жыццё краіны ў гэты час – амаль выключна звесткі пра яе знешнепалітычную дзейнасць. Значна бяднейшай стала інфармацыя Галіцка-Валынскага летапісу, што звязана са спадам актыўнасці галіцка-валынскіх князёў

на Панямонні (сам летапіс быў закончаны на пачатку 90-х гадоў 13 ст.). Затое вырасла ўвага да Літвы з боку прыбалтыйскіх нямецкіх храністаў. Прычына тут таксама відавочная: барацьба з ВКЛ стала адной з важнейшых задач знешняй палітыкі Тэўтонскага ордэна.

Тым не менш, увесь комплекс інфармацыі пра знешнепалітычныя акцыі Літвы сведчыць, што дзяржава захоўвала ўнутранае адзінства. Яна не толькі паспяхова баранілася, але і ўвесь час атакавала. Краіна палітычна раздробленая без моцнай улады не магла б праяўляць такую актыўнасць у знешніх адносінах.

Крыніцы не ўзгадваюць імя наступніка Трайдэна, але адназначна сведчаць, што ў краіне надалей функцыянавала моцная цэнтральная ўлада ў асобе вялікага князя. Прускі храніст Пётра Дусбург паведаміў пад 1286 г., што "*нейкі ліцвін, называны Пелюсэ, пакрыўдзіўся на свайго пана, пэўнага кунігаса, які ў каралеўскай іерархіі стаяў на другім месцы, адразу пасля **караля***". У запісе пад 1289 г. Дусбург паінфармаваў, што "***літоўскі кароль*** (абодва выдзяленні мае – *А.К.*) *з васьмю тысячамі вершнікаў наехаў на Самбійскую зямлю...*"[128]. На падставе наяўных крыніцаў сёння немагчыма дакладна адказаць на пытанне, хто быў гэтым каралём.

Паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, у 1285 г. падчас паходу ліцвінаў на воласць цверскага епіскапа загінуў нейкі "*вялікі князь Даўмонт*", па інфармацыі іншага летапісу – не вялікі, а проста князь Даўмонт трапіў у палон[*].

[*] "Воѥвали . Литва Тфѣрьского влдк҃ы волость . Ѡлешню и совкупившесѧ Тфѣричи . Москвичи .Волочане . Новоторжьци . Зубчане . Рожевичи . и шедше биша Литву на лѣсъ . в канунъ Спс҃ву дн҃и . и поможе Бъ҃ хрс҃ьꙗном҃ . великого кнѕ҃ѧ ихъ Домонта оубиша . а иных҃ изъимаша . а ѡвых҃ избиша . полонъ весь ѿꙗша а инии розбѣжашасѧ"

ПСРЛ. Т. 1. Лаврентьевская летопись. Ленинград, 1927. Стлб. 483.

"Тогоже лѣта Литва воеваше тверскаго владыки церковную власть Олешку и протчая. Совокупившежеся Тверичи, и Москвичи, и Волочане, и Новоторжцы, и Дмитровцы, и Зубчане, и Ржевичи, и угонивше ихъ, биша и полонъ отьяша, и Князя ихъ Доманта яша."

Русская летопись по Никонову списку. Санкт-Петербург, 1786. С. 85.

Між 1289 і 1291 г. у крыніцах прысутнічаюць упамінанні пра некалькіх ліцвінаў з тытулам "кароль" (rex) і "князь" (у рускіх летапісах). У нямецкіх хроніках і актавых дакументах на лаціне тэрмін "кароль" ужываўся адносна ўладароў розных земляў, незалежна ад таго, ці мелі яны афіцыйны каралеўскі статус, у нашым выпадку ён быў ідэнтычны з паняццем "князь"[129]. Пад 1289 г. у Галіцка-Валынскім летапісе згаданыя ліцвінскія князі-браты **Будзікід** і Будзівід (Литовьскій князь Будикидъ и братъ его Будивидъ (буивидъ, бувидъ)). Лівонскі ландмайстар у сваім лісце з лістапада 1290 г. упамянуў караля **Бутэгейдэ** ("terram regis Butegeyde"). З Рыфмаванай хронікі, таксама каля 1290 г., вядомы кароль Масэке ("Maseke ir kunic hiez"). Нарэшце, Пётр Дусбург паведаміў у запісе пад 1292 г. пра караля Літвы **Пукувера** – бацьку Віценя. ("Pucuwerus rex Lethowie... filium suum Vithenum")[130].

Захаванне адзінства дзяржавы сведчыла пра пераемнасць цэнтральнай улады і пераход яе да наступнага гаспадара, найверагодней, па праве спадчыннасці. Таму гісторыкі

[128] Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 167, 171.

[129] Adamus J. O tytule panującego i państwa litewskiego parę spostrzeżeń // KH. 1930. R. 44. T. 1. Zeszyt 1. S. 314.

[130] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 933; Preußisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2. ed. A. Seraphim. Königsberg, 1909. N 568. P. 355–365; Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. Varsoviae, 1930. T. 1. № 693; LR. S. 273; Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae // Scriptores rerum Prussicarum. Leipcig, 1861. Bd. 1. S. 156.

лічаць магчымым працяг дынастычнай лініі ад Трайдэна да Пукувера – бацькі Віценя і Гедыміна[131]. Шляхам шэрагу філалагічных аналогій і дапушчэнняў, з улікам таго, што балцкія імёны скажаліся ў славянскіх і нямецкіх крыніцах, некаторыя даследчыкі вывелі з імя Пукувер форму **Бутумер** (Butumer)[132]. У гістарыяграфіі прапаноўвалася лічыць названых вышэй Пукувера (Бутумера), Бутэгейдэ і Будзікіда адной і той жа асобай – вялікім князем літоўскім[133].

А вось яшчэ адна такая ж абстрактная рэканстукцыя: Бутэгейдэ - то Будзікід, а Будзівід (па-летувіску Бутвідас) атаясамліваецца з Пукуверам[134]. Масэке мог быць адным з моцных кунігасаў – памочнікам і дарадцам вялікага князя[135].

Сапраўды, даволі праўдападобна выглядае меркаванне пра атаясамленне **Будзікіда** з Галіцка-Валынскага летапісу і **Бутэгейдэ** з ліста інфлянцкага магістра – падобнае гучанне імёнаў і ўпамінаюцца блізка па часе. Менш верагодная тоеснасць Будзікіда/Бутэгейдэ або Будзівіда (Бутвідаса) і **Пукувера**. Супраць падобнай рэканструкцыі сведчыць значная розніца ў нямецкім (лацінскім) і славянскім напісанні (Pukuverus і Будзікід/Будзівід), у той час як вялікай розніцы няма ў напісанні імёнаў іншых ліцвінскіх князёў 13 – 14 ст. Напрыклад, імёны Міндаўг (Mendowe – Миндог), Трайдэн (Thoreide, Traydene – Тройден, Тройденій), Віцень (Vithene, Vithenus – Віцень), Гедымін (Gedeminne – Гедымін) у славянскіх і заходніх крыніцах гучаць падобна ці амаль ідэнтычна.[*]

[*] За некалькі гадоў да святкавання тысячагоддзя Літвы (ад першага вядомага ўпамінання ў крыніцах у 1009 г.) у летувіскай гістарыяграфіі, найперш у папулярных выданнях, было прапанавае "ўпарадкаванне" шэрагу вялікіх князёў літоўскіх, у прыватнасці, выдаленне з яго Шварна Данілавіча і запаўненне лакуны паміж Трайдэнам і Віценем. На падставе вышэйпрыведзеных адрыўкавых звестак выбудаваная наступная лінія: **Даўмантас** (загінуў 24 сакавіка 1285 г.) – **Буцігедзіс** (памёр прыблізна ў 1290 – 1292 г.) – **Бутвідас** (Будзівідас, Путавірас, Пукуверас; памёр у 1294 ці 1295 г.).

Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 г. Т. 1. Москва: Baltrus, 2005. С. 73 – 74; Великие Князья Литовские. Vinius: Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutes, 2006. С. 36 – 37, 42 – 45.

На жаль, адсутнасць больш дакладных звестак не дазваляе пайсці далей здагадак і дапушчэнняў. Рэальна мы маем толькі адну канкрэтную згадку імя бацькі Віценя і Гедыміна – Пукувера - у вартай даверу крыніцы – хронікі Дусбурга.

## 3.2.1. Тварам у твар з Ордэнам

У 1283 г. адбылася падзея, з якой распачаўся адзін з важнейшых этапаў у гісторыі ўсёй Прыбалтыкі. Гаворка пра супрацьстаянне ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам на працягу больш чым ста з чвэрцю гадоў (1283 – 1410 г.). У 1283 г. браты-рыцары закончылі пакарэнне апошніх, размешчаных па суседстве з Літвой, прускіх плямёнаў, выйшлі да

[131] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 142, 143, 145, 152.

[132] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 13. Спас. 3.

[133] Zajączkowski S. rec.: Puzyna Józef. Kim był i jak się naprawdę nazywał Pukuwer, ojciec Gedymina // AW. Wilno, 1935. R. 10. S. 1 – 43// KH. 1936. R. 50. S. 311.

[134] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 151–152; Гудавичюс Э. По поводу так называемой "диархии" в Великом княжестве Литовском // Feodalisms Baltijas regiona. Riga, 1985. L. 36; Ochmański J. Historia Litwy. S. 52.

[135] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 152.

межаў ВКЛ ды Жамойці і з ходу заатакавалі гэтыя краіны. Як занатаваў у сваёй хроніцы Пётр Дусбург, "Explicit bellum Prussie. Incipit bellum Lethowinorum" ("Закончылася вайна пруская. Пачалася вайна літоўская")[136]. Такім чынам быў небяспечна парушаны традыцыйны ліцвінскі "пояс бяспекі" на паўночна-заходнім участку.

Заваёва чарговых паганскіх (а пры нагодзе і хрысціянскіх) земляў з'яўлялася натуральным працягам знешняй палітыкі дзяржавы Тэўтонскага ордэна. Галоўнай задачай і сэнсам існавання Ордэна было збройнае змаганне з паганцамі і прывядзенне іх да хрысціянства. У гэтай справе яму дапамагалі г.зв. рыцары-госці з краінаў Заходняй Еўропы, якія рэгулярна збіраліся ў Прусах дзеля ўдзелу ў святой вайне з нявернымі. Выправы ў Прыбалтыку папа рымскі прыраўняў да паходаў у Палесціну. Еўрапейскае рыцарства было істотным чыннікам крыжацкіх перамогаў у Прусіі.

У ходзе барацьбы з паганцамі Ордэну ўдалося збудаваць уласную, хоць невялікую, але добра арганізаваную і багатую, дзяржаву. Кіраўніцтва Ордэна праводзіла актыўную каланізацыю заваяваных тэрыторый, завабліваючы сялянаў, гараджанаў і рыцараў з густанаселеных нямецкіх земляў. Галоўная яе плынь прыйшлася на апошнія дзесяцігоддзі 13 – першыя – 14 ст. – пік дэмаграфічнага ўздыму ў Заходняй Еўропе. Нямецкія каланісты засялілі і грунтоўна загаспадарылі новыя землі, чым адыгралі галоўную ролю ў пераўтварэнні балцкай краіны ў нямецкую.

Паступова жыццёвыя дзяржаўныя інтарэсы пачалі дамінаваць над ідэалогіяй рэлігійнай вайны. Сведчанне таму – канфлікты і войны братоў-рыцараў з хрысціянамі, у прыватнасці, з суседняй каталіцкай дзяржавай – Польскім каралеўствам. Адным з важных аб'ектаў крыжацкага наступу пасля 1283 г. была хрысціянская (што праўда, праваслаўная – схізматычная) Гародня.

Пасля заваёвы Прусіі галоўнай стратэгічнай задачай ордэнскай дзяржавы стала злучэнне з інфлянцкай філіяй праз Жамойць. Таму менавіта сюды быў скіраваны галоўны націск крыжаноснага войска. Адначасова Ордэн вёў вайну з Літвой, і тут першачарговай тактычнай задачай стала здабыча Гародні – самага старажытнага і буйнога горада на Нёмане, размешчанага блізка ордэнскай мяжы. Магутныя гарадзенскія замкі (Верхні і Ніжні, ранейшыя дзядзінец і вакольны горад) прыкрывалі дарогу на сталічны Наваградак і былі стратэгічна дасканалым пунктам збору войскаў і рыштунку для паходаў на ордэнскую Прусію.

Ужо зімой 1283 г. крыжацкі атрад перайшоў па лёдзе Нёман і захапіў жамойцкі замак Бісена. Умацаванні былі спаленыя, а насельнікі пазабіваныя ці выведзеныя ў палон. Той жа зімой атрад ліцвінаў колькасцю ў восемсот чалавек рабаваў і пустошыў землі ў Самбіі. У 1284 г. прускія рыцары ўпершыню правялі атаку на Гародню[137]. У крыжацкім войску знаходзіўся былы саюзнік Трайдэна – яцвяжскі князь Скуманд з зямлі Судавія. Раней ён актыўна змагаўся з Ордэнам, атрымліваючы вайсковую падтрымку ад вялікага князя літоўскага. Потым, не могучы стрымаць крыжацкі націск, *"пакінуў сваю зямлю разам з усёй службай і сябрамі і пайшоў на Русь"*. Але праз некаторы час Скуманд, *"замучаны выгнаннем, вярнуўся на сваю родную зямлю. Калі пра гэта даведаліся браты, зноў аб'явілі яму вайну і нападалі на яго столькі разоў, што ўрэшце ён з усёй сваёй сям'ёй і службай аддаўся ў ярмо веры і братоў"*[138]. Цяпер Скуманд стаў правадніком крыжакоў у іх паходзе на Гародню і ваколіцу, якую добра вывучыў, калі з ласкі вялікага князя літоўскага знайшоў тут прытулак у выгнанні. Лёс гэтага племяннога правадыра даволі тыповы для карэнных жыхароў Прусіі, пасля таго як гэтую зямлю Тэўтонскі ордэн абраў сваёй галоўнай сядзібай. Браты-рыцары дамагаліся ад тубыльцаў двух рэчаў – хрышчэння ў каталіцтва і скарэння

[136] Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae. S. 146.

[137] Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 165; Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. T. 1. № 617.

[138] Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 158.

Ордэну. Хто пагаджаўся – захоўваў жыццё ды дабро і нават мог яго памножыць. Напрыклад, прусы, якія не ўдзельнічалі ў паўстаннях супраць Ордэна, атрымлівалі зямлю, адабраную ў паўстанцаў, і маглі са звычайных сялянаў пераўтварыцца ў нобіляў на васальнай ордэнскай службе. Непакорныя мелі іншы выбар – смерць у баі або сыход з родных мясцінаў.[*]

[*] "Бясконца шмат войнаў вялося з судовамі, якія тут абміну для сцісласці. Потым, калі Йэдэтус, адзін муж шляхетнага роду і звычаяў, можны і багаты правадыр судоваў з Кіменаў не мог ужо больш паўстрымліваць частых і гвалтоўных атакаў братоў, з усёй сваёй сям'ёй і службай і з тысячай пяцьсот людзей абодвух палоў прыбыў да братоў і ахрысціўся. Але Скарда, правадыр другой часткі Судовіі, пагрэбаваў прызнаннем веры і са сваімі людзьмі пайшоў у Літву. І па той прычыне зямля Судовія да сённяшняга дня застаецца бязлюднай".

Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 163.

**Каментар**. Дарэчы, падчас першага паходу на Гародню крыжакі паймалі і забілі аднаго пруса, які выбраў сабе другі шлях – не скарыўся і адышоў у Літву: "У той акрузе забілі аднаго барта, які ўцёк з Пагезаніі і падчас апошняга адступлення ад веры ўзяў у няволю комтураў Дзежгоня і Эльблёнга разам з іх службай."

Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 165.

Пачатак вялікага процістаяння не быў належным чынам ацэнены сучаснікамі. Дусбург упамінае пра яго як пра будзённую справу: маўляў, заваявалі мы Прусы, а цяпер на чарзе Літва. Ліцвіны таксама на працягу некалькіх гадоў не надта пераймаліся ордэнскімі нападамі, тым больш што тыя кіраваліся найперш на Жамойць. Пра гэта сведчыць мілітарная актыўнасць войскаў ВКЛ на іншых кірунках. Ліцвінскія атрады не пакідалі ў спакоі Інфлянты, а таксама правялі дзве выправы ў Паўночна-Усходнюю Русь (на Цверскую і Ноўгарадскую землі – 1285 – 1286 г.). У 1282 – 1285 г. ліцвінскія войскі пустошылі ўладанні Інфлянцкага ордэна над Дзвіной.

Паводле шматгадовай традыцыі трымання "поясу бяспекі" вялікія князі літоўскія сябравалі з суседнімі мазавецкімі князямі і ахвотна рабавалі аддаленыя польскія землі. Нападам падвяргаліся Люблінская, Сандомірская, Добжыньская землі, а таксама аддаленыя ад мяжы часткі Мазоўша. З гэтых паходаў ліцвіны прыводзілі шматлікі палон. Толькі аднойчы яны атрымалі сур'ёзны адпор. Кракаўскі князь Лешак Чорны ў 1282 г. дагнаў нападнікаў, перамог у бітве і адабраў палон[139]. Штогадовыя паходы ліцвінаў на польскія землі працягваліся ад 1282 да 1287 г. Потым наступілі тры гады перапынку[140], калі Ордэн актывізаваў ваенныя дзеянні супраць Літвы.

Рабаванне Польшчы аблягчалася наладжанымі адносінамі з Галіцка-Валынскай дзяржавай. З летапісу вядома, што ў 1282 г. на службе валынскага князя Уладзіміра Васількавіча знаходзіўся слонімскі князь Васілька. ВКЛ падтрымлівала мірныя адносіны з Галіцка-Валынскай дзяржавай, нават коштам тэрытарыяльных саступак. У 1289 г., як паведамляе тая ж крыніца, літоўскія князі Будзікід і Будзівід аддалі валынскаму князю Мсціславу Уладзіміравічу свой горад Ваўкавыск, "*каб з імі мір трымаў*"[141].[*]

[139] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... S. 49.

[140] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... S. 50 – 52.

[141] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 933.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

"Тогда же Литовьскій князь Будикидъ и братъ его Будивидъ (буивидъ, бувидъ) даша князю Мьстиславу городъ свой Волковыескъ, абы съ ними миръ держалъ".

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись. ПСРЛ. 1843. Т. 2. С. 225.

Ліцвінскія напады на раздробленыя польскія землі часта адбываліся ў паразуменні з галіцка-валынскімі князямі, а то і па ініцыятыве апошніх. Праўда, жыла яшчэ памяць пра былую варожасць. Падчас аднаго з такіх паходаў (у 1285 г.) галіцкі князь Леў Данілавіч папярэдзіў свайго сына, каб не хадзіў разам з ліцвінамі, бо тыя могуць адпомсціць за забойства Войшалка (Юры Львовіч прыслухаўся да перасцярогі бацькі, адправіў войска, а сам застаўся дома).

Як рэдкія выпадкі можна ацаніць два паходы ліцвінаў ва ўсходнім кірунку: на Цверскую (сакавік 1285 г. – воласць цверскага епіскапа) і Ноўгарадскую землі (зіма 1285/86 г. – воласці каля ракі Ловаць)[142]. Падчас паходу на ўладанне цверскага епіскапа адбылася першая ў гісторыі збройная сутычка Літвы з Масквой – у той час мала каму вядомым удзельным княствам. Бараніць воласць біскупа (*"біць Літву на лес"*) пайшлі дружыны навакольных земляў (тады і загінуў ці трапіў у палон нейкі ліцвінскі князь Даўмонт). Разам з цверычамі, валачанамі, насельнікамі Новага Таржка, Ржэвы летапісец назваў і масквічоў. Да наступнага ліцвінска-маскоўскага збройнага канфлікту, на гэты раз тэрытарыяльнага, справа дайшла толькі праз пяцьдзясят гадоў, а да пачатку першай поўнамаштабнай вайны – амаль праз два стагоддзі.

У Інфлянтах ВКЛ падтрымлівала семігалаў супраць Інфлянцкага ордэна. Падчас адной з сутычак (у сакавіку 1287 г. з земгаламі, па другой крыніцы – з ліцвінамі) загінуў чарговы інфлянцкі ландмайстар[143]. Змусіць семігалаў да пакоры інфлянцкім рыцарам удалося толькі ў 1290 г.

На пруска-ліцвінскім і пруска-жамойцкім пагранiччы праходзіла непарыўная разбойная вайна. Яе на ўласную рызыку вялі невялікія атрады (дакладней, банды) з абодвух бакоў, якія рабавалі варожую тэрыторыю паблізу граніцы.[*]

[*] Памежная ліцвінска-крыжацкая вайна.

У 1286 г. адзін з такіх прускіх бандытаў па імю Марцін разам з хаўруснікамі пайшоў па здабычу:

"Той самы Марцін з некалькімі прыяцелямі рушыў у Літву, і калі тройчы перайшоў праз мясцовасці, залітыя вадой, дайшоў да ракі, якая называецца Буг. На ёй убачыў карабель, напоўнены таварамі, які плыў па цячэнні. Хаваючыся, пайшоў за ім, а калі матросы, паеўшы, паснулі, напаў на іх са сваімі таварышамі і ўсіх пазабіваў. З вялікай радасцю ўзышлі на карабель і паплылі да горада Торуня. Там прадалі карабель і тавары, а як узнагароду кожны атрымаў па дваццаць грыўняў."

Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 168.

На мяжы паміж ВКЛ і Ордэнскай дзяржавай у Прусах утварылася пустка – амаль не заселеная паласа зямлі, шырынёй у некалькі дзясяткаў кіламетраў.

[142] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 146–147; ПСРЛ. Т. 1. Стб. 483; НПЛ. С. 326.
[143] LR. S. 237–245.

Эскалацыя крыжацка-ліцвінскага і крыжацка-жамойцкага супрацьстаяння пачалася ў 1289 г. У тым годзе прускія рыцары збудавалі на левым беразе Нёмана замак Рагнету, які на доўгія гады стаў галоўнай ордэнскай базай у вайне з Літвой і Жамойцю і адначасова стратэгічным пунктам абароны свайго памежжа. Не выпадкова ў той самы год ліцвінамі быў перададзены валынянам Ваўкавыск (забяспечваўся спакой на паўднёвым кірунку) і на некалькі гадоў перапыніліся ліцвінскія напады на Польшчу.

У першыя месяцы 1289 г., як паведамляе Галіцка-Валынскі летапіс, "*ходиша Литва вся и Жемоть вся на Нъмцъ къ Ризи*" (Рыфмаваная хроніка ўдакладняе: жамойты і земгалы). Ордэнскія войскі скарысталі зручны момант і правялі паспяховую атаку на землі земгалаў і жамойтаў[144].

Буйныя паходы арганізоўваліся на вышэйшым дзяржаўным узроўні, іх нярэдка ўзначальвалі самыя кіраўнікі. У 1289 г. невядомы па імю вялікі князь (кароль, паводле хронікі) "*наехаў на самбійскую зямлю з васьмю тысячамі вершнікаў*".

У 1290 – 1292 г. з пераменным поспехам вяліся ўпартыя баі над Нёманам. У 1290 г. прускі магістар Мэйнхард на чале атрада ў пяцьсот вершнікаў і дзвюх тысяч пяхоты атакаваў замак Калайна. "*Кроў лілася са сценаў, нібы дождж*", ад залогі засталося жывымі толькі дванаццаць чалавек, але крыжакі змушаныя былі зняць аблогу і адступіць[145].

У 1290 г. загінуў рагнецкі комтур, які купіўся на вайсковую хітрасць ліцвінаў.[*]

[*] "У тым самым годзе (1290 – *А.К.*) каля Узнясення Божага [12.IV.] брат Эрнека, комтур Рагнеты, па загадзе магістра рушыў у Літву ладдзёй, бо хацеў здабыць якія-небудзь новыя звесткі. Разам з ім быў брат Ян з Вены і дваццаць пяць збройных. Калі плылі да замка Калайна, Сурмін – ягоны кіраўнік, склікаў залогу замка і размаўляў з імі наконт таго, як абхітрыць братоў. Пасля абмеркавання многіх спосабаў урэшце ўсе пагадзіліся, каб адзін з іх, які ведае польскую мову, апрануўся ў жаночае адзенне і стаў на беразе Нёмана, каб, калі браты будуць там праплываць, умольваў іх узяць яго на карабель і ўратаваць ад палону ў няверных. Тады адзін ліцвін па імю Надам – муж дасведчаны ў валоданні зброяй, які пазней прыняў веру Хрыста і шчасліва пратрываў у ёй да канца жыцця, для выканання памянёнага задання ўзяў з сабой 60 мужоў, прыбыў на ўказанае месца і вырашыў, што ён сам, пераапрануты ў кабету, будзе сядзець на беразе ракі, а іншыя схаваюцца непадалёк. Неўзабаве, калі комтур, ужо выканаўшы заданне, зблізіўся да берагу, гэты подлы здраднік пачаў плаксівым голасам крычаць і ўмольваць забраць яго на карабель і ўратаваць ягоную душу, акропленую кроўю Хрыста, ад няволі ў д'ябла. Калі брат Эрнека тое пачуў, то зжаліўся і прыстаў да берага, а тады той хутка схапіў ладдзю і моцна трымаў яе, потым паклікаў сваіх таварышаў, якія рынуліся на братоў і іх пазабівалі."

Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 172 – 173.

З апісання гэтага ваеннага эпізоду, а таксама паводле іншых звестак, можна меркаваць, што палонная полька не была рэдкасцю ў Літве і Жамойці. З рэгулярных паходаў на Польшчу ліцвіны і жамойты прыводзілі шматлікі палон.

Перад зімой 1291/92 г. ордэнскае камандаванне рыхтавала вялікую выправу адначасова з Прусіі і Лівоніі, ход якой нам застаўся невядомы. Рыфмаваная хроніка паведаміла

[144] ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 896–897; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 149; LR. S. 253–254,256–258.

[145] Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 172.

пра буйны паход крыжакоў на Літву (напэўна, на Жамойць) дзесьці ў тыя ж гады і два напады ў адказ з боку ВКЛ[146].

### 3.2.2. Кшталт знешнепалітычнай дактрыны

З усяго комплексу наяўнай гістарычнай інфармацыі вымалёўваецца знешняя палітыка ВКЛ "цёмнага перыяду". Дзяржава актыўна змагалася з крыжакамі, як лівонскімі, так і прускімі, у саюзе з прыбалтыйскімі плямёнамі жамойтаў і семігалаў. Падтрымлівала мір з бліжэйшымі землямі Мазовіі і ў хаўрусе з валынянамі і яцвягамі атакавала польскія землі. Можна з пэўнасцю казаць і пра працяг саюзных ліцвінска-полацкіх адносінаў.

У "цёмны перыяд" канчаткова сфармавалася праграма знешняй палітыкі гаспадарства, актуальная ў наступнае без малога паўстагоддзе (да прыходу Гедыміна). Яна пачала складвацца ўжо ад часоў Міндаўга, паступова, эвалюцыйна, праз рэагаванне на бягучыя падзеі, пагрозы і праблемы, пакуль не набыла выразныя абрысы ў 80-я гады 13 ст. Асноўныя яе задачы, напрамкі і метады рэалізацыі былі акрэсленыя вялікім князем Трайдэнам. Пасля Трайдэна адбылася толькі адна істотная змена, звязаная з пачаткам супрацьстаяння ВКЛ з дзяржавай Тэўтонскага ордэна ў Прусах.

Прыярытэтнымі задачамі знешняй палітыкі ВКЛ у апошнія дзесяцігоддзі 13 і першыя дзесяцігоддзі 14 ст. былі: 1. **Абарона ад Тэўтонскага ордэна**; 2. **Захаванне status quo на Русі.**

Прускі напрамак разам з інфлянцкім надоўга стаў найважнейшым у знешняй палітыцы ВКЛ. Адначасова працягваліся наладжаныя Трайдэнам мірныя і саюзныя адносіны з паўднёвым суседам – Галіцка-Валынскай дзяржавай. Цяжкі досвед першага этапа існавання гаспадарства, калі кааліцыя Галіцка-Валынскага княства з Інфлянцкім ордэнам пагражала ВКЛ адначасова з поўначы і поўдня, не прайшоў марна. Ад таго часу ліцвінскія гаспадары стараліся не дапускаць вайны на два фронты. Мір з валынска-галіцкімі князямі забяспечваўся нават цаной тэрытарыяльных саступак.

На землях Русі, якія знаходзіліся ў залежнасці ад татараў, ВКЛ вяло палітыку асцярожнага пашырэння ўплыву, не правакуючы ханаў залішняй актыўнасцю. Выключэннем былі стратэгічна надзвычай важныя паўночныя ўдзелы Смаленскага княства (толькі фармальна залежнага ад Арды), найперш Таропец, дзе ліцвіны ўмацаваліся, падобна, яшчэ пад канец гаспадарання Міндаўга[147].

Другарадным накірункам знешняй палітыкі быў польскі. Ліцвіны рэгулярна рабавалі польскія землі, размешчаныя за "поясам бяспекі". Штогадовыя выправы, аднак, перарываліся на два – чатыры гады, калі сітуацыя вымагала канцэнтрацыі сілаў на інфлянцкім кірунку.

Супрацьстаянне з Тэўтонскім ордэнам, якое цягнулася амаль паўтары стагоддзі, аказала важкі ўплыў на далейшы лёс ВКЛ, у тым ліку – на фармаванне ўнутранага ладу. Папярэднія тры з паловай дзясяткі гадоў адносна спакойнага часу аказаліся для Літвы падарункам Гісторыі. Гэтага часу дзяржаве якраз хапіла, каб не толькі выжыць, але і атрымаць належную загартоўку.

## 3.3. ПАЧАТКІ ДЫНАСТЫІ ГЕДЫМІНА (1292 – 1295 г.)

У 90-я гады 13 ст. на чале дзяржавы надоўга ўмацаваўся род, па ўсёй верагоднасці, балцкага паходжання, вядомы ў гісторыі як "дынастыя Гедыміна". Не высветленыя да канца яго пачаткі, а першы вядомы прадстаўнік толькі аднойчы выступае ў пісьмовых крыніцах – у "Хроніцы Прускай зямлі" Пятра Дусбурга ён названы Пукуверам.[*]

---

[146] LR. S. 270, 273; Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. T. 1. № 696–697.
[147] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 52.

[*] "Pucuwerus rex Lethowie...filium suum Vithenum cum magno exercitu misit versus Poloniam ad terram Bristensem..." – Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. № 707; Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae ... S. 156. )

(пераклад поўнага запісу паводле: Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 178): "Таксама ў тым самым годзе (1292 г. – *А.К.*) **літоўскі кароль Пукувер паслаў свайго сына Віценя з вельмі вялікім войскам у Польшчу ў Брэсцкую** (Брэст у Куявах – *А.К.*) **зямлю** (выдзелена мною – *А.К.*). Пасля вялікай шкоды, зробленай праз забойствы, захоп людзей, пажары і рабаванні, польскія князі Казімір (Казімір II 1262/1265 – 1294, гнеўкаўскі і ленчыцкі князь – *А.К.*) і Лакетак (Уладзіслаў Лакетак 1260 – 1333, брэсцкі, ленчыцкі, серадзскі, кракаўскі князь, польскі кароль – *А.К.*) у клопаце пра ўратаванне сваіх падданых, звярнуліся з просьбай аб дапамозе да брата Майнхарда, прускага магістра. Тыя (маецца на ўвазе магістар з братамі-рыцарамі – *А.К.*) прыбылі з вялікім войскам, але, калі намерваліся ўступіць у бітву з памянутымі паганамі, названыя князі з усімі сваімі палякамі ўцяклі. Настрашаныя тым браты, якія не мелі дастаткова сілаў, каб супрацiўляцца шматлікім ворагам, таксама адступілі, але з вялікімі стратамі ў людзях, бо многа братоў і іншых хрысціянаў былі цяжка параненыя, перш чым маглі з гонарам выйсці з бою."

Пераемнікамі Пукувера сталі сыны – спачатку Віцень (1295 – 1315 г.), потым Гедымін (1316 – 1341 г.). Менавіта ад Пукувера крыніцы дазваляюць прасачыць прамую лінію роду, аднак дынастыя была названая не яго імем, а Гедыміна па той прычыне, што пра Пукувера ў крыніцах захавалася толькі адзіная згадка. Даследчыкі не могуць дамовіцца нават пра дакладнае гучанне ягонага імя (гл. раздзел "Цёмныя гады"). Віцень меў, прынамсі, аднаго сына, якога звалі Свалегот (Swalegote) ці Гвалезут (Gwalezute)[148], але ўладу яму не перадаў, і ягоная лінія роду згубілася ў поцемках гісторыі. Іншая справа Гедымін, які вырас на сапраўды вялікага дзяржаўнага дзеяча і пакінуў не толькі трывалы след у пісьмовых крыніцах, але і шматлікае патомства. Бывае, што і ў наш час паўтараецца даўняя версія, што Гедымін быў не братам, а сынам Віценя[149]. Аднак большасць гісторыкаў лічыць пераканаўчым доказам ліст рыжанаў да Гедыміна, дзе ён названы братам Віценя[150].

У 15 – 16 ст. у двух варожых да ВКЛ дзяржавах, менавіта ў Ордэнскай і Маскоўскай, былі сфабрыкаваныя версіі пра сумнеўнае паходжанне слаўнай ліцвінскай дынастыі[151]. Аднак, па-першае, тыя версіі не маюць пацвярджэння ў ранейшых крыніцах. Па-другое, іх ідэалагічны падтэкст і антыліцвінская скіраванасць настолькі відавочныя, што гісторыкі не даюць веры змешчаным там звесткам пра ўзурпацыю Гедымінам вялікакняскай улады або пра паходжанне яго ад дробнага баярына ці увогуле паспалітага чалавека. У часы жыцця Гедыміна ні ў самой дзяржаве, ні за яе межамі ніхто не выказваў сумневу ў легітымнасці ліцвінскага гаспадара. Наадварот, навакольныя княскія ды каралеўскія дамы лічылі за гонар з ім парадніцца.

Гісторыкі шмат дыскутавалі пра магчымае паходжанне дынастыі з Жамойці, Аукштоты ці з Белай Русі. Меліся спробы вывесці радавод Гедыміна наўпрост ад полацкіх князёў[152]. Падставай для версіі пра жамойцкія карані дынастыі стала ўпамінанне

[148] Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. T. 1. S. 167. Nr 809; Wolf J. Ród Gedymina. Kraków, 1886. S. 6.

[149] Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 138.

[150] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 250.

[151] Wolf J. Ród Gedymina. S. 4 – 6.

[152] ПСРЛ. Т. 17. Санкт-Петербург, 1908. С. 593 – 595; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 133.

ў крыніцах града (замка) Гедыміна (castri Jedemine) у Жамойці[153]. Як контраргумент выказвалася меркаванне, што гэта не родавае ўладанне, а замак у Жамойці, куды бацька выслаў Гедыміна арганізоўваць абарону ад крыжакоў. Як сведчыць хроніка Дусбурга і іншыя крыніцы, у абароне Жамойці, акрамя саміх жамойтаў, непасрэдны ўдзел прымала ВКЛ. Таму Гедымін, таксама як і Віцень, мог быць пастаўлены вялікім князем на чале залогі пагранічнага замка, што адпавядала прынятай у гэтай дзяржаве практыцы[154].

Даўнюю гістарыяграфічную традыцыю мае гіпотэза пра прамое паходжанне дынастыі Гедыміна ад вялікага князя Трайдэна. Яна абапіраецца на некалькі ўскосных сведчанняў. Па-першае, заўважальная мірная, а не канфліктная пераемнасць улады ў ВКЛ ад часоў Трайдэна да Гедыміна. Ні славянскія, ні нямецкія крыніцы (у тым ліку важнейшыя – ордэнскія) не згадваюць пра ўнутраную барацьбу за ўладу ў Літве, а толькі пра знешнепалітычныя акцыі ліцвінскай дзяржавы. Па-другое, у знешняй палітыцы дзяржавы відочная пераемнасць, прасочваецца адзіная лінія. Па-трэцяе, Гедымін у адным са сваіх лістоў пісаў, што ягоныя продкі panавалі ў Літве (праўда, невядома, у якасці вялікіх ці ўдзельных князёў). Можна прыняць, што наяўная інфармацыя не супярэчыць версіі пра Гедымінавічаў як нашчадкаў Трайдэна, але і не пацвярджае яе[155]. Вядомыя даследчыкам крыніцы надзвычай нешматлікія, і з іх немагчыма здабыць дакладны адказ на гэтае пытанне.

Меркаванне пра ўсходнеславянскія (беларускія) карані дынастыі выклікае сумнеў. У адных і тых жа летапісах вельмі адрозна гучаць імёны вялікіх князёў літоўскіх – Міндаўг, Войшалк, Віцень – ад звыклых на Русі Ізяславаў, Уладзіміраў, Усяславаў, Усеваладаў, Данілаў, Васількаў і г. д. Акрамя таго, прысутнасць балцкіх князёў на пасадах усходнеславянскіх княстваў у 13 – 14 ст. не з'яўлялася нечым незвычайным.

Найбольш праўдападобным выглядае балцкае паходжанне заснавальніка дынастыі, як і ўсіх папярэдніх вялікіх князёў літоўскіх, пачынаючы ад Міндаўга. З асяроддзя ваяўнічых балцкіх правадыроў часоў ваеннай дэмакратыі выходзіла нямала выбітных асобаў, якія ахвотна прымаліся на княскія сталы ў хрысціянскіх рускіх землях, як, напрыклад, Міндаўг у Наваградку, Даўмонт у Пскове, Таўцівіл у Полацку і інш. Цяжка вызначыць, з якога менавіта адгалінавання балтаў паходзіў гедымінаў бацька Пукувер – прусаў, яцвягаў, жамойтаў ці аўкштайтаў.

У польскай гістарыяграфіі род Гедыміна/Пукувера вядомы пад назвай "дынастыя Ягелонаў", бо менавіта Ягайла першым з Гедымінавічаў узышоў на польскі трон. У гісторыі Беларусі гэты род з'явіўся на некалькі пакаленняў раней, таму ў беларускай гістарыяграфіі ўжываецца назва "дынастыя Гедыміна" як адносна самога Ягайлы, так і ягоных дзяцей ды ўнукаў на віленскім пасадзе.

Гедымінавічам належыць асаблівае месца ў гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Гедымін і яго нашчадкі больш за два з паловай стагоддзі займалі манаршыя троны – былі вялікімі князямі літоўскімі, каралямі польскімі, чэшскімі ды венгерскімі. Сам Гедымін пачаў гаспадарыць у ВКЛ каля 1316 г., а апошні Гедымінавіч на манаршай пасадзе – кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст – памёр у 1572 г., не пакінуўшы нашчадкаў.

Гаспадаранне вялікага князя Пукувера (першая палова 90-х гадоў 13 ст.) вызначалася вялікай ваеннай актыўнасцю Ордэна. З 1292 па 1295 г. рыцары-крыжакі кожны год нападалі на Жамойць, а ў 1295 г. хадзілі яшчэ і на Гародню. Гэты горад быў перадавым пунктам абароны цэнтральнай вобласці дзяржавы – Літвы – і важнейшай базай ВКЛ для арганізацыі паходаў на Прусію.

---

[153] Chodynicki K. Geneza dynastii Giedymina // KH. 1926. S. 561–564; Zajączkowski S. Przyczynki do hipotezy o pochodzeniu dynastii Giedymina ze Żmudzi // AW. 1927. S. 409–412.

[154] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 153–155.

[155] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 142, 143, 145.

Як можна меркаваць на падставе інфармацыі з хронікі Дусбурга, Пукувер кіраваў моцнай дзяржавай – нягледзячы на непарыўны стан вайны з Ордэнам, яна мела дастаткова сілы, каб праводзіць рабаўнічыя паходы на польскія землі.

Пра сына Пукувера Віценя захавалася трохі болей звестак; найбольш верагодныя паходзяць з крыжацкіх хронік: Пятра Дусбурга, закончанай на 1326 г., і ордэнскага герольда Віганда з Марбурга, аповед якой ахоплівае перыяд ад 1293 да 1394 г. Вядома, што пасля смерці Віценя гаспадарства пераняў другі Пукуверавіч – Гедымін.

## 3.4. ВІЦЕНЬ. "РЫЦАР ЗБРОЙНЫ НА КАНІ...[156]" (1295 – 1315 г.)

### 3.4.1. Ваяр, сын ваяра

У запісе пад 1296 г. Дусбург упершыню назваў Віценя каралём, адсюль вынікае меркаванне, што апошні стаў на чале дзяржавы каля 1295 г.[157] Хоць пра Віценя пісьмовыя крыніцы захавалі значна больш інфармацыі, чым пра ягонага бацьку, аднак невядомы дакладны час нараджэння, пачатку гаспадарання, а таксама абставіны смерці гэтага гаспадара каля 1315 г.

Паводле легенды, змешчанай у беларуска-літоўскіх летапісах 16 ст., Віцень паходзіў з Айраголы з роду Калумнаў. Ён нібыта быў каморнікам Трайдэна, а пасля яго смерці выбраны на вялікага князя.[*] Іншая версія ў летапіснай традыцыі 16 ст. выводзіць Віценя з роду полацкіх князёў[158].

[*] "Паны, не хочучы пераступіць рады і волі гаспадара свайго прыроджанага, сына вялікага князя Тройдзеня, так і ўчынілі. Бачачы мужа мудрага і годнага Віценя, які паходзіў з роду ды з пакалення Калюмнаў, з маёнтка Айрагола ў Жамойці, узялі яго сабе вялікім князем літоўскім і жамойцкім."

Хроніка Быхаўца [у:] Беларускія летапісы і хронікі. Мн. "Беларускі кнігазбор" 1997. С. 88.

Аднак гэтыя пазнейшыя легенды не знаходзяць пацвярджэння ў аўтэнтычных крыніцах канца 13 – 14 ст.

Акрамя твора Пятра Дусбурга чыны Віценя паспелі трапіць і ў хроніку Віганда з Марбурга, аповед якой пачынаецца ад канца 13 і працягваецца да канца 14 ст. Упершыню Віцень узгаданы пад 1292 г. у хроніцы Дусбурга як сын гаспадара ВКЛ, якому бацька даручыў кіраваць вайсковым рэйдам углыб Польшчы супраць Ленчыцкай і Куяўскай земляў. Мясцовыя князі, даведаўшыся пра паход, папрасілі дапамогі ў хохмайстра Тэўтонскага ордэна, але нават злучаныя польска-нямецкія сілы не змаглі стрымаць ліцвінаў. Палякі пакінулі поле, не распачаўшы бітвы, а крыжакі адступілі з боем, панёсшы значныя страты.

Другі паход на Ленчыцы пад началам Віценя ў пачатку чэрвеня 1294 г. быў яшчэ больш удалым дзякуючы добрай арганізацыі. Удалося захаваць у таямніцы падрыхтоўку выправы. Ліцвінская дружына пераадолела адлегласць у 400 км (па дамове з Баляславам II мазавецкім без перашкод прайшла праз яго землі) і нечакана выйшла да горада. Напад на Ленчыцы прыйшоўся на час набажэнства, калі мясцовы люд сабраўся ў касцёлах, і здабыча аказалася

[156] Густынскі летапіс [у:] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 346.

[157] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 190; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 157.

[158] ПСРЛ. Т. 17. Санкт-Петербург 1908. С. 593 – 595; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 133.

такой вялікай, што, паводле храніста, на кожнага ліцвінскага воя прыходзілася па 20 палонных. Добра быў арганізаваны адыход войска, абцяжаранага лупамі і палонам, таму маруднага на маршы. Калі ленчыцкі князь Казімір сабраў дружыну і кінуўся ў пагоню за ворагам, то быў разбіты колькасна меншым ліцвінскім войскам і сам загінуў у баі[159].

Такія далёкія выправы былі магчымымі пры ўмове добрых адносінаў з мазавецкімі князямі, бо большая частка шляху ліцвінскіх войскаў пралягала праз іх уладанні. З сярэдзіны 90-х гадоў маюцца сведчанні пра захаванне прыязных кантактаў ВКЛ з мазавецкім князем Баляславам. Пра мір паміж ВКЛ і Мазовіяй (як працяг саюзу ад часоў Трайдэна) сведчыць тая акалічнасць, што апошняя ў гэты час не была аб'ектам ліцвінскіх нападаў. Праўда, мазаўшане не адчувалі сябе ў бяспецы пры пераходзе праз іх землі ліцвінскіх аддзелаў. Напрыклад, падчас маршу ліцвінаў у 1294 г. яны пахаваліся ва ўмацаваных паселішчах[160].

З даволі скупых звестак ордэнскіх храністаў можна зразумець, што, займаючы вялікакняскі пасад, Віцень меў за сабой добрую школу кіравання і немалы досвед ваеннага правадыра. Разам з гаспадарскай пасадай Віцень атрымаў у спадчыну ад бацькі прыярытэты знешняй палітыкі, сутнасць якой можна перадаць адной тэзай: "**Вайна на Захадзе, мір на Усходзе**". Гаспадарства па-ранейшаму мусіла вырашаць дзве найважнейшыя задачы: 1. **Абарона ад Тэўтонскага ордэна**; 2. **Захаванне status quo на Русі**. Гэтая дактрына адпавядала даўняй традыцыі, якую Віцень працягваў – трымаў, па меры магчымасці, "пояс бяспекі" вакол Літвы (саюз з галіцка-валынскімі і мазавецкімі князямі, Полацкай і Віцебскай землямі) і не дапускаў сур'ёзнай вайны на два фронты. У часы кіравання Пукувера і Віценя не чуваць пра паходы ліцвінаў на землі Паўночна-Усходняй Русі, залежнай ад татараў, што таксама ўкладалася ў агульны кантэкст знешнепалітычнай дактрыны. Аднак гаварыць пра поўную пасіўнасць Літвы ў гэтым рэгіёне не выпадае. ВКЛ прасоўвалася там асцярожна, у кірунках, дзе не чакала сур'ёзнага супраціву ці гвалтоўнай татарскай рэакцыі.

## 3.4.2. Пагоня на Прусы

Нарастала напруга на паўночна-заходнім напрамку, дзе ўжо амаль два дзесяцігоддзі вялася ўпартая барацьба з Тэўтонскім ордэнам. Крыжакі на той час ужо цвёрдай нагой стаялі ў Прусах: падпарадкавалі ўсе мясцовыя плямёны, пакрылі краіну сеткай-павуцінай малых і вялікіх замкаў ды пачалі яе загаспадарваць. Тэўтонскі ордэн у гэты час канчаткова звязаў свой лёс з Прыбалтыкай – у 1309 г. вялікі магістар перанёс галоўную рэзідэнцыю з Венецыі ў Мальбарк. Па запрашэнні ордэнскіх уладаў у Прусы праз тэрыторыю Польшчы з перанаселеных нямецкіх земляў бесперапынна прыбывалі каланісты: сяляне, гараджане і шляхта[161]. Усе атрымлівалі зямлю і часовую падаткавую палёгку. Ордэн карпатліва разбудоўваў гаспадарку краіны – матэрыяльную аснову свайго існавання.

Манахі-рыцары, паводле статуту, мелі галоўнай задачай хрышчэнне паганцаў, аднак у Прусах яны займаліся найперш будовай уласнай феадальнай дзяржавы, у якой з'яўляліся калектыўным сюзерэнам. Ордэн усё яшчэ моцна залежаў ад фінансавай і вайсковай падтрымкі каталіцкай Еўропы, але мог атрымліваць яе толькі для вайны супраць паганцаў, калі тыя не хацелі прыняць хрысціянства добраахвотна. Адсюль вынікала, здавалася б, парадаксальная зацікаўленасць Ордэна ў існаванні ў Прыбалтыцы паганства. Абвінавачванні супраць рыцараў у занядбанні хрысціянскай місіі, якія не раз выказваліся іх ворагамі, хоць і перабольшаныя, пэўна, мелі пад сабой падставы.

---

[159] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... S. 53 – 54.

[160] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 158.

[161] Państwo zakonu krzyżackiego w Prusach. Władza i społeczeństwo. S. 203 – 221.

Паступова выпрацоўваліся стратэгія і тактыка ордэнска-ліцвінскай барацьбы. Браты-рыцары арганізоўвалі рэгулярныя паходы, мэтай якіх было перш за ўсё спусташэнне варожай зямлі: знішчэнне жылля і пасеваў, захоп і вывад у палон жыхароў, здабыча і разбурэнне замкаў і гарадзішчаў. Пасля аслаблення ворага наступным этапам мела быць засваенне чарговых земляў – будова там уласных замкаў, падпарадкаванне навакольнага насельніцтва і пасяленне каланістаў (тыя прыходзілі ўжо на надзейна заміраныя тэрыторыі). Паходы праводзіліся часам па некалькі разоў на год. Іх арганізоўвалі як цэнтральныя ўлады (буйныя выправы), так і комтуры пагранічных замкаў. Нярэдкасцю былі чыста рабаўнічыя напады звыклых бандытаў.

Ордэн актыўна эксплуатаваў ідэю крыжовых паходаў, што прыцягвала да ўдзелу ў выправах на Літву шматлікае заходнееўрапейскае рыцарства[162]. Апошняе было важным чыннікам ордэнскіх перамогаў, таму кіраўніцтва братоў-рыцараў старанна дбала аб падтрыманні ў краінах Заходняй Еўропы сваёй рэпутацыі змагароў за хрысціянскую веру. А ворагі крыжакоў не менш старанна імкнуліся гэтую рэпутацыю пахіснуць.

Ліцвіны карысталіся падобнай тактыкай малых і вялікіх спусташальных паходаў на варожую тэрыторыю, але агулам іх выправы былі шмат радзейшымі. На пруска-ліцвінскім пагранiччы дзейнічала служба выведкі з абодвух бакоў, галоўнай задачай якой было ранняе папярэджванне пра надыход варожага войска. Для збору інфармацыі пра варожую краіну выкарыстоўваліся гандляры, вандроўныя манахі. Хронікі паведамляюць пра ліцвінскіх разведчыкаў, якія пільнавалі падыходы да пагранічных замкаў. Для хуткай перадачы інфармацыі пра надыход ворага ўжываліся дымавыя сігналы[163]. Частка данясенняў ордэнскіх разведчыкаў пра жамойцкія і ліцвінскія землі з другой паловы 14 ст. – пачатку 15 ст. (г. зв. Wegeberichte – дарожныя звесткі) захавалася ў Кёнігсбергскім архіве і была апублікаваная ў 19 ст.[164]

Акрамя арганізацыі паходаў на варожую тэрыторыю і абароны сваёй зямлі, абодва бакі імкнуліся выкарыстаць супярэчнасці ў стане ворага. Ліцвінскія гаспадары прымалі прускіх уцекачоў (часам цэлыя плямёны), крыжакі прываблівалі на свой бок жамойцкіх нобіляў і скіроўвалі іх супраць ліцвінскага гаспадара. Падобная тактыка неаднаразова забяспечвала Ордэну поспех падчас пакарэння Прусіі. Відавочна, і тут яна прынесла пэўныя вынікі, бо Пётр Дусбург узгадвае пра сутычкі жамойтаў з ліцвінамі.[*]

[*] "У той самы час комтурам Рагнеты быў брат Людвіг Лібенцелл (кіраваў тут у 1294 – 1300 г. – *А.К.*), які разам са сваімі братамі і воямі вёў шмат войнаў з ліцвінамі са слаўнымі вынікамі. (...) Не можна поўнасцю пералічыць войны, якія ён вёў супраць ліцвінаў. Але, калі казаць сцісла, быў супраць іх настроены так ваяўніча, што на працягу шасці гадоў, калі кіраваў названым замкам, змусіў усіх ліцвінаў, якія жылі над Нёманам ад ракі Віліі да зямлі Ламмата, заключыць з хрысціянамі мір на тых умовах, што кожны год будуць яму даваць вызначаную даніну. І дзіўная рэч, хоць зрабіў ім шмат злога, аднак так моцна яго шанавалі, што таксама старшына, праз пасярэдніцтва якой кіраваў тады Жамойцю, намаўляла паспаліты люд супраць ліцвінскага караля, так што шмат разоў прыступалі да вайны супраць караля, падчас якой у адным баі бывала некалі па сто, або дзвесце, або болей забітых."

Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 186.

[162] Тамсама. S. 115.

[163] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 222 – 223.

[164] Die Chronik Wigands von Marburg /Hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863: Beilage I. Die littauischen Wegeberichte. S. 662 – 711.

Наступ на Жамойць крыжакі вялі паводле добра адпрацаванай схемы: на мяжы будаваліся замкі як апорныя пункты для прасоўвання ўглыб варожай тэрыторыі, гарадзішчы жамойтаў захопліваліся і знішчаліся або пераўтвараліся ў крыжацкія замкі, выкарыстоўваліся ўнутраныя міжпляменныя і асабістыя канфлікты. Мясцовыя нобілі, якія перайшлі на бок Ордэна, атрымоўвалі зямлю і прывілеі па ўзоры прускай шляхты. Вынікам такога непарыўнага і маштабнага націску магла быць толькі ранейшая ці пазнейшая заваёва Жамойці, калі б не ўмяшальніцтва ВКЛ. Ліцвінскія аддзелы змагаліся тут на пярэднім краі – абаранялі жамойцкія гарадзішчы, хадзілі разам з жамойтамі ў паходы на ордэнскую тэрыторыю. Часам на чале аб'яднанага войска выступаў сам вялікі князь літоўскі.

Барацьба з крыжакамі стала асабліва напружанай у пачатку 14 ст. Ад 1300 г. да канца гаспадарання Віценя ордэнскія войскі правялі больш за дваццаць паходаў з тэрыторыі Прусіі на Жамойць і Літву, у першую чаргу на Гародню, даходзячы да Наваградка і Салечнікаў. Інтэнсіўнасць іх аперацый уражвае: у сярэднім каля двух паходаў у год, калі не лічыць дзейнасць на пагранiччы ВКЛ рабаўнічых бандаў, якія вялі сваю, часта не рэгістраваную вайну. Ордэнская выведка была арганізаваная яшчэ лепш за ліцвінскую і пільнавала ўсе перамяшчэнні Віценя. Кіраўніцтва Ордэна прымяркоўвала напад на Літву на час адсутнасці гаспадара, калі ён знаходзіўся ў паходзе на Польшчу ці Інфлянты. Выпады ў адказ ліцвінаў былі радзейшымі, але не менш моцнымі за крыжацкія.

Небяспека з боку Прусаў аказалася сур'ёзнай, але не смяротнай. Агулам крыжацкую экспансію ўдалося затрымаць у памежнай зоне. Ліцвінскія паходы сягалі ў самы глыб невялікай Ордэнскай дзяржавы, а крыжацкія выправы стрымліваліся памежнымі ліцвінскімі (найперш, гарадзенскімі) і жамойцкімі замкамі ды гарадзішчамі. Мінаў год за годам, а ордэнскія храністы занатоўвалі атакі і рабаванні адных і тых жа замкаў ды земляў[165]. Адзіная далёкая выправа ордэнскага войска ў 1314 г. дасягнула Наваградка, але закончылася для крыжацкіх ваяроў трагічна[*].

[*] "У верасні таго года (1314 г.) маршал брат Генрых з усімі сіламі свайго войска ўвайшоў у крывіцкую зямлю. Здабыў слаўнае места, якое называецца Наваградак і дашчэнту яго знішчыў. Потым разрабаваў і шматкротна знішчыў агнём навакольную зямлю. Перад замкам названага места разбіў намёты. На наступны дзень ён сам і ўсё войска падышлі пад замак і адважна распачалі штурм, у часе якога з абодвух бакоў палегла па некалькі мужоў, а многа было смяротна паранена. Але калі ў часе штурму не дасягнулі ніякага поспеху, адступілі. Калі вярнуліся да месца, дзе пакінулі варту пры абозе, знайшлі мёртвымі трыццаць вояў, якіх забіў Давыд, ваявода Гародні. Ён забраў таксама тысячу пяцьсот коней, хлеб і ўсю жыўнасць і рэчы, якія там заставаліся. Занепакоеныя браты рушылі да другога месца пастою, і там ніякага хлеба і нічога, што пакінулі, не знайшлі. Шмат дзён яны маршыравалі без хлеба, некаторыя, знясіленыя голадам, пазабівалі сваіх коней, іншыя елі траву і яе карэнні, некаторыя памерлі з голаду, шмат хто, вымучаны адсутнасцю ежы, выпусціў дух ужо пасля вяртання, астатнія праз шэсць тыдняў ад пачатку паходу вярнуліся дадому."

Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 218.

У апісанні выправы на Наваградак упершыню згадваецца Давыд Гарадзенскі – гарадзенскі ваявода. Ён меў высокае паходжанне, нават, паводле храніста 16 ст. Стрыйкоўскага, ажаніўся з дачкой Гедыміна. Як паведамляе легенда, Давыд

[165] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 164.

(імя сведчыць, што вызнаваў праваслаўе) быў сынам нальшанскага князя Даўмонта – забойцы Міндаўга[166].

У памежных ліцвінскіх і жамойцкіх замках пастаянна стаяла залога з навакольнага баярства.[*]

[*]Дусбург інфармуе: "У ліцвінаў існуе такі звычай – трыманне варты ў замках, якія знаходзяцца паблізу мяжы, яны пільнуюцца сумесна. Іхні кароль вызначае пэўных вояў для пільнавання канкрэтнага замка на працягу месяца ці болей. Пасля выканання задання яны вяртаюцца да сябе, а іншыя прыходзяць, каб пільнаваць замак далей".

Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 209.

Крыніцы сведчаць, што крыжацкія воі ставіліся да ліцвінаў і іх вялікага князя з пашанай. Віганд з Магбурга апісвае ў сваёй Хроніцы, як падчас перамір'я вялікі князь правёў куртуазную размову з рыцарам-крыжаком, з якім сутыкаўся ў баі[167].

### 3.4.3. Словам і мечам. Палітыка ВКЛ у Польшчы, Інфлянтах і Русі

У адрозненне ад палітыкі актыўнай абароны ў адносінах з Ордэнскай дзяржавай у Прусах, на іншых кірунках ВКЛ у часы Віценя вяло наступальныя дзеянні. Віцень выдатна арыентаваўся ў міжнароднай сітуацыі. Пастаянныя абмены збройнымі выпадамі ліцвінаў з прускімі крыжакамі пры ім сталі звыклай справай, аднак не вымагалі напружвання ўсіх сілаў. Ліцвіны мелі дастаткова сродкаў і магчымасцяў, каб адначасова працягваць рэгулярнае рабаванне Польшчы. Войскі ВКЛ не праводзілі паходы на ўсходнеславянскія землі, падпарадкаваныя татарам. Актыўнасць ліцвіны праяўлялі толькі ў Смаленскай зямлі, дзе ўлада татараў адчувалася слаба[168]. Задзірацца з Залатой Ардой было небяспечна, бо гэтая стэпавая дзяржава з'яўлялася тады мацнейшай сілай ва Усходняй Еўропе. У адказ на напад яна магла выслаць агромністае войска разам з дружынамі васальных рускіх князёў. У той самы час даволі густа заселеныя і заможныя польскія землі ўяўляліся прывабнай і лёгкай здабычай. Прынамсі, ніводнага паходу ў адказ на ліцвінскія напады польскія князі не арганізавалі.

ВКЛ традыцыйна ад часоў Трайдэна падтрымлівала мірныя адносіны з суседнімі **мазавецкімі княствамі**. Праз іх тэрыторыю ліцвіны хадзілі ў рабаўнічыя паходы на Польшчу. Дзякуючы міру з мазаўшанамі, напады маглі сягаць так далёка – да земляў Малапольшчы і Вялікапольшчы. У 1295 г. ліцвіны дайшлі да Гнойна ў Сандамірскай зямлі. Паход у 1296 г. на тую ж зямлю закончыўся іх паразай. У 1300 г. аб'ектам атакі стала Добжыньская зямля (адкуль ліцвіны скіраваліся яшчэ ў Прусы), у 1302 г. – паўднёвая частка Мазоўша пры мяжы з Сандамірскай зямлёй. Каліш і Ставішын у Вялікапольшчы былі зрабаваныя ў 1305 г., ваколіцы Каліша яшчэ раз у 1306 г.[169]

Яшчэ адным важным кірункам знешняй палітыкі Віценя з'яўляўся паўночны – **Інфлянты**. Галоўнай задачай тут было забеспячэнне інтарэсаў не толькі ВКЛ, але таксама Полацка і Віцебска, якія залежалі ад Літвы. Як і раней, менавіта ў часы актывізацыі і канцэнтрацыі сілаў ВКЛ у Інфлянтах прыпыняліся традыцыйныя паходы на польскія

[166] Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły. T. 1. Z. 2. S. 104.

[167] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842. S. 8 – 11.

[168] Алексеев Л.В. Смоленская земля в 9 – 13 вв. Москва: Наука, 1980. С. 235.

[169] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... S. 55 – 58.

землі. Такія перапынкі мелі месца ў 1297 – 1299 г., 1303 – 1304 г., (потым наступіла доўгая паўза – ад 1306 г да 20-х гадоў 14 ст.[170]).

Віцень працягваў інфлянцкую палітыку, распачатую яшчэ Трайдэнам, аднак займеў тут большыя магчымасці, бо знайшоў хаўруснікаў сярод мясцовых немцаў. Ён заключыў саюз з рыжскім архібіскупам ды месцічамі Рыгі і падтрымаў іх у канфрантацыі з Інфлянцкім ордэнам. Скарыстаўшы канфлікт паміж мясцовымі немцамі, Віцень здолеў выключыць з вайны за Жамойць інфлянцкую філію Ордэна.

У Інфлянтах існавалі тры асяродкі ўлады, якія абапіраліся на ўласныя зямельныя ўладанні: ордэн, рыжскі архібіскуп з падначаленымі яму біскупамі і горад Рыга. Лівонскія рыцары-крыжакі, у адрозненне ад сваіх прускіх калегаў, не валодалі большасцю зямель у Інфлянтах. Паводле падзелу ў 1207 г., Ордэн атрымаў 1/3 зямельных уладанняў, у той час як 2/3 засталіся за біскупамі[171]. Калі ў Прусах толькі біскуп Вармii ўтрымаў маёмасную аўтаномію, то архібіскуп у Інфлянтах з'яўляўся сур'ёзным канкурэнтам ордэнскіх братоў-рыцараў. Горад Рыга (з належнымі яму навакольнымі землямі) прызнаваў духоўнае вяршэнства архібіскупа і з'яўляўся сябрам **Ганзы** – магутнага саюза паўночнанямецкіх ды прыбалтыйскіх гарадоў, меў уласныя эканамічныя інтарэсы, сродкі і магчымасці, каб іх пільнаваць. Падставы дабрабыту рыжанаў забяспечваў вольны гандаль па Заходняй Дзвіне, адсюль вынікала зацікаўленасць у добрых адносінах з ВКЛ ды ягонымі хаўруснікамі, якія адначасова былі гандлёвымі партнёрамі Рыгі – палачанамі і віцьбічамі.

**Ганза** – саюз паўночнанямецкіх і прыбалтыйскіх гарадоў, які ўзнік у 13 ст. з цэнтрам у Любеку. Дамінавала ў гандлі на паўночнаеўрапейскіх рынках, праводзіла гандлёвую экспансію ў паўночна-усходняй Русі (Ноўгарадчына, Пскоўшчына), Нідэрландах і Англіі. Галоўнымі прадуктамі вывазу з Памор'я, Польшчы, Інфлянтаў, Русі і скандынаўскіх краінаў былі: збожжа, футра, дрэва, воск, каноплі, лён. З Фландрыі, Галандыі, Англіі, Францыі, Нарвегіі Г. прывозіла сукно, селядцы, каланіяльныя прадукты.

У перыяд росквіту ў 15 ст. да Г. належала каля 200 гарадоў. Праводзіліся з'езды дэлегатаў гарадоў-удзельнікаў, на якіх вырашаліся справы палітыкі саюза. Г. вяла шматлікія войны дзеля абароны сваіх гандлёвых прывілеяў. Канкурэнцыя з боку Англіі і Галандыі, супярэчнасці ўнутры саюза прывялі да заняпаду Г. ў 16 ст. і знікнення ў 17 ст.

Ордэнскія браты таксама жадалі мець прыбытак з вялікага гандлю і таму імкнуліся ўзяць пад свой кантроль ягоны галоўны шлях – ніжняе цячэнне Дзвіны. Рыжане актыўна таму процідзейнічалі, у тым ліку сілай зброі, звяртаючыся па дапамогу да вялікіх князёў літоўскіх.

У 1297 г. канфлікт паміж гараджанамі і Ордэнам абвастрыўся, і рыжане заключылі антыордэнскі саюз з архібіскупам, біскупамі Дэрпту і Эзэлю. Збройную дапамогу саюзнікам (узамен за перадачу Семігаліі, замка Герцыкі і інш. земляў) абяцаў прыслаць кароль Даніі са сваіх уладанняў у Эстоніі. Аднак Інфлянцкі ордэн разбіў войска архібіскупа, авалодаў яго галоўнымі замкамі Торэйдай і Кокенхаўзам, а самога архіпастыра захапіў у палон. Дэрпцкі біскуп адступіў ад саюзу яшчэ да пачатку вайсковых дзеянняў, дацкая падмога так і не з'явілася. Рыжане апынуліся ў цяжкім, нават

[170] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... S. C. 58.

[171] Labuda Gerard. Studia krytyczne o początkach Zakonu Krzyżackiego w Prusach i na Pomorzu. Poznań, 2007. S. 41.

катастрафічным становішчы, бо Ордэн поўнасцю адрэзаў іх ад мора. Тады горад Рыга звярнуўся па дапамогу да вялікага князя літоўскага[172].

У 1298 г. у Інфлянты рушыў ліцвінскі атрад. Паслы вялікага князя літоўскага, якія прыбылі разам з войскам, прасілі рыжанаў дапамагчы Віценю ў прыняцці хрышчэння, гэтаксама, як тое зрабіў калісьці вялікі князь Міндаўг (толькі той звяртаўся да магістра Ордэна)[173].

Дэкларацыя аб прыняцці каталіцтва, напэўна, была інспіраваная рыжанамі, якім не выпадала выступаць супраць хрысціянаў у саюзе з язычнікам у гучным канфлікце, які дайшоў да самога папы[174]. Віцень жа, як раней Міндаўг (а пазней брат Віценя Гедымін і наступныя за ім вялікія князі), бачыў у гэтай акцыі добры дыпламатычны ход, прыдатны ў барацьбе з Ордэнам. Горад Рыга заставаўся верным саюзнікам ВКЛ, у той час як ордэнскім рыцарам удавалася ствараць хаўрус з мясцовымі біскупамі.

У 1298 г. войскі Віценя дапамаглі рыжанам знішчыць матэрыялы, падрыхтаваныя крыжакамі, каб перакрыць плаванне па Дзвіне. Потым прыбыў сам вялікі князь і захапіў замак Каркхаус. На зваротным шляху Віцень нанёс цяжкае паражэнне рыцарам, якія яго атакавалі. Каб паправіць сітуацыю, ордэнскае кіраўніцтва накіравала ў Лівонію падмацаванні з Прусіі і адначасова правяло атаку на Жамойць. Прускія войскі перамаглі аб'яднаныя сілы ліцвінаў і рыжанаў, але восенню таго ж года ліцвіны напалі на Хельмінскую зямлю ў Прусах, а ў наступным годзе пустошылі Натангію.

Міжусобная вайна ў Інфлянтах прыпынілася толькі пасля ўмяшальніцтва папы рымскага, які быў вярхоўным сюзерэнам і Ордэна, і мясцовых біскупаў. Пантыфік выклікаў у Рым кіраўнікоў абедзвюх частак ордэна і ўсіх інфлянцкіх біскупаў. Там ён змусіў Ордэн прымірыцца з архібіскупам, пасля чаго крыжакі вярнулі апошняму захопленыя падчас вайны замкі. Калі ж архібіскуп заключыў саюз з ВКЛ як суверэн Інфлянтаў, рыцары спрабавалі гэтаму перашкодзіць, напалі на ліцвінскіх паслоў, забілі іх, а дакументы аб міры забралі. Тым не менш, Рыга трымалася падпісанай дамовы[175]. У 1303 г. ліцвіны напалі на ўладанні заміранага з Ордэнам дэрпцкага біскупа і знішчылі адзін з архібіскупскіх замкаў[176].

Праз канфлікт Ордэна з рыжанамі цярпелі полацкія інтарэсы. У дамове 1304 г. Інфлянцкага ордэна з дацкімі рыцарамі і дэрпцкім біскупам забараняўся гандаль з "*няверньмі*" (русінамі і ліцвінамі), а тыя, хто такі гандаль вядзе, асабліва рыжскія гараджане –"*небяспечныя ворагі, да якіх трэба прымяняць адкрыты прымус з ужываннем сілы*". У выніку дзвінскі гандаль рэзка скараціўся. Пра гэта сведчаць запісы ў рыжскіх пазыкавых кнігах, дзе пасля 1305 г. значна зменшылася колькасць крэдытных запісаў, у тым ліку па здзелках з "*рускімі*"[177].

Рыжане ў 1306 г. абяцалі парваць саюз з Літвой, але ў 1307 г. разам з войскамі ВКЛ біліся з Ордэнам пад Рыгай. У 1309 г. яны заявілі, што не адмовяцца ад хаўрусу з Літвой да таго часу, пакуль крыжакі не аддадуць ім узведзены ў вусці Дзвіны замак Дзюнамюндэ. Рыжска-ліцвінскае сяброўства працягвалася, у горадзе і належных яму замках стаялі ліцвінскія залогі. Рыжска-ліцвінскі саюз трымаўся, падобна, да канца гаспадарання Віценя, бо яшчэ ў 1313 г. мясцовыя біскупы спрабавалі яго парушыць[178].

Хаўрус Віценя з Рыгай можна ацаніць як чарговы крок набліжэння Літвы да Захаду. Рыга стала "дзвярмі ў Еўропу" для беларуска-літоўскага гаспадарства, рыжскія

---

172 Mantueffel T. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. S. 34 – 35.

173 Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły. T. 1. Z. 2. S. 99.

174 Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386. S. 215 – 319.

175 Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkim. // KH. 1896. R. X. S. 6.

176 Prochaska A. Od Mendoga. T. 1. Z. 2. S. 99.

177 Хорошкевич А.Л. Комментарии [в:] Полоцкие грамоты 13 – начала 16 в. Вып. III. С. 125.

178 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 165 – 166.

месцічы былі зацікаўленыя ў мірным далучэнні ВКЛ да заходнееўрапейскага гісторыка-культурнага арэалу.

Несумненныя выгоды з ліцвінска-рыжскага саюзу атрымалі полацкія і віцебскія месцічы, якія вялі буйныя гандлёвыя аперацыі па Дзьвіне і ў Прыбалтыцы. Умяшальніцтва ліцвінскага гаспадара паправіла сітуацыю палачанаў. Полацкі праваслаўны епіскап Якаў у грамаце (1309 г.)[*] да намесніка рыжскага архібіскупа называў Віценя сваім сынам. Высноўа даследчыкаў – Полацак, мяркуючы па тэксце, быў, як і Ноўгарад, клерыкальна-феадальнай рэспублікай пад вярхоўнай уладай Віценя[179].

**[*] [1309 г.].-Грамота еп.пол. Якова рижск. епископ-скому нам. и г. Риге о мирных отношениях и торговле хлебом.**

+ Поклонъ и бла(го)словлѣнье I ωт Якова, епискупа полотьского, | бровстови намѣстьнику писку|пло и дѣтемъ моимь ратмано|мъ.

Былъ есмь не дома, во отьца | своего митрополита, а нынѣ е|смь на своемь мѣстѣ , оу Свя|тоѣ Соѳьѣ.

А ныне есмь оуве|далъ: любовь ваша правая съ | с(ы)-номъ мошъ с Витенемъ. Та|ко же, дѣти, была любовь'ва|ша первая с полочаны, съ дѣтми моими: што вамь | было надобѣ, то было ваше. А нынѣ, што дѣтемъ | моимь надобѣ, того и|мъ не бороните. А нынѣ а быстe* пустили жито|оу Полотеско.

А Язъ** кланяюся и бла(го)словля|ю и бога молю за ва|съ, дѣти своѣ. ||

Аже будеть полочанинъ | чимъ виноватъ рижанину, |я за тѣмъ не стою своими дѣ|тми, исправу дамъ*** .

Аже будеть ри|жанинъ чимъ виноватъ полочанину, вы дайте имъ \ исправу тако же. А язь ва|м кланяюся, дѣтемь сво|имъ и бла(го)словляю и б(ог)а мо|лю.

ЦГИА Латв. ССр, ф. 673, оп. 4, ящ.18, №9

Подл. Перг., неровно обрезанный наверху 13,5 внизу 7,5 на 15,5 см. Была согнута трижды, на сгибах на обратной стороне потерто. Полуустав.

К нижнему краю на льняной веревочке привешена свинцовая печатъ величиной 2,8х3,5 см. с горизонтальной надписью: ЯКОВЪ ЕПП. ПОЛОТЪСКII. Последняя строка надписи неразборчива. На другой стороне печати богородица типа Знамение.

Публ. : Напьерский .Грамоты №_6, _здесь же_факсимиле: Напьерский . Акты №38 стр. 19-20. LECUB, Bd 1 ,№570. Витебская старина. Т. 1, №8, стр. 25-26.Katalog, №930. Обнорский-Бархударов, №21, стр.64-65. Хрэстаматыя, стр. 42-43. Белоруссия в эпоху феодализма, т. 1, №24, стр.82 Боголюбова и Таубенберг. Стр.10.

Публикация немецкого перевода.:HuB, Bd. 1, №1278;H.Hildebrand.das deutsche hof zu Polozk.-«Baltische Monatsschrift», s.373

* Так в ркп.

** Написано над строкой

*** Написано над строкой

Друкуецца паводле: Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. /состав. А.Л.Хорошкевич. Москва, 1977. Вып. 1. № 3; Москва ,1980. Вып. III. С. 123 – 126.

[179] Хорошкевич А.Л. Комментарии [в:] Полоцкие грамоты 13 – начала 16 в. Вып. III. С. 126, 123.

Полацкім князем у той час стаў брат Віценя Воін.[*]

[*] У даўняй гістарычнай літаратуры можна знайсці апісанне таго, як каля 1305 г. Полацак трапіў у залежнасць ад рыжскага архібіскупа, як нямецкія феадалы пачалі насаджаць каталіцызм, збудавалі ў горадзе касцёл, а два гады пазней палачане з дапамогай Віценя выгналі захопнікаў з горада і разбурылі касцёл. (гл. Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца 14 столетия. Киев, 1896. С. 152 – 153). Даследаванні сучасных гісторыкаў паказалі, што гэтая легенда заснаваная на непаразуменні – памылцы ў напісанні назвы аднаго пагранічнага паселішча, якое пад пяром ордэнскага пісца пераўтварылася ў Полацак.

гл. Хорошкевич А.Л. Комментарии [в:] Полоцкие грамоты 13 – начала 16 в. Москва, 1980. Т. III. С. 124 – 125.

Па інфармацыі лівонскай крыніцы, ліцвінскія войскі ў той час знаходзіліся пад Віцебскам і лівонцы бачылі ў гэтым для сябе пагрозу.

Несумненна, у часы Віценя працягвалася палітыка збліжэння з Літвой Берасцейскай і Тураўскай ды Пінскай землямі. З даўнім супернікам Літвы Галіцка-Валынскім княствам падтрымліваліся фармальна добрыя адносіны ад часоў Трайдэна. Гэтая дзяржава знаходзілася блізка ліцвінскай мяжы і ўжо не стварала сур'ёзнай пагрозы. Акрамя таго, яна падпарадкоўвалася Ардзе. Выгадней было мець галіцка-валынскіх князёў за хаця б неахвотных саюзнікаў, асабліва калі ўлічваць напружанасць на другім канцы Літвы – каля паўночна-заходняй і паўночнай межаў.

У часы гаспадарання Віценя адбылося ўзмацненне татарскай дзяржавы ў выніку перамогі ў 1300 г. хана Волжскай арды Тохты над эмірам Нагаем і далучэння Прычарнаморскага ўлуса да Волжскага. Хан Тохта працягваў традыцыйную ардынскую палітыку адносна рускіх земляў, якая палягала на сутыкненні між сабой мацнейшых мясцовых князёў. Надаючы вялікае княжанне ўладзімірскае аднаму з князёў, татары адначасова падтрымлівалі ягонага суперніка. У літаратуры выказвалася меркаванне, што пасля аб'яднання двух ардынскіх улусаў ханы пачалі рабіць стаўку не на бліжэйшых да Арды князёў, а на тых, чые ўладанні месціліся бліжэй да заходнерускіх земляў, менавіта на князёў маскоўскіх і цверскіх. Масква і Цвер уяўляліся выгоднымі плацдармамі для пасшырэння палітычнага ўплыву Арды на заходнія землі Русі[180].

### 3.4.4. Ліцвінскі плацдарм у паўночнай Смаленшчыне

ВКЛ не адмаўлялася цалкам ад актыўнасці на мяжы з Паўночна-Усходняй Руссю. Пры Пукуверы, а найверагодней – у часы Віценя, Літва ўмацавалася ў Таропцы і Ржэве – паўночных удзелах Смаленскага княства, размешчаных пры ноўгарадскай і цверскай межах. Гэтыя тэрыторыі, звязаныя з Віцебшчынай дзвінскай воднай артэрыяй, больш за стагоддзе служылі для ВКЛ галоўным стратэгічным плацдармам для экспансіі ў Паўночна-Усходняй Русі. Тут знаходзіўся важны камунікацыйны вузел – вярхоўі і водападзелы буйнейшых рэк Усходняй Еўропы: Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі (а яшчэ Ловаці, якая вяла ў Ноўгарадскую зямлю). Тут функцыянавалі шматлікія волакі, па якіх караблі і тавары перацягваліся з адной воднай сістэмы ў другую. Кантроль над імі азначаў панаванне над некалькімі важнейшымі гандлёвымі шляхамі.

Менавіта з гэтага плацдарма ваяры летапіснай літвы, а потым ВКЛ праводзілі рабаўнічыя напады на ноўгарадскія і цверскія землі і сюды вярталіся са здабычай. Пад

[180] Греков И.Б. О характере ордынско-русских отношений второй половины 13 – начала 14 в. С. 131.

Таропец і Ржэву ў пагоню за ліцвінамі кіраваліся дружыны паўночна-ўсходніх рускіх князёў, часта даганялі іх і ўступалі ў бітву з пераменным поспехам. У 1245 г. Аляксандр Яраслававіч (Неўскі) пад Таропцам разбіў літоўскае войска, якое напала на ноўгарадскія ўладанні. Лічыцца, што ліцвіны тут умацаваліся ўжо пасля 1239 г., бо ў гэтым годзе Аляксандр Неўскі ў Таропцы браў шлюб з полацкай князёўнай. У літаратуры выказвалася меркаванне, што Таропец мог адысці да ВКЛ па ліцвінска-ноўгарадскай мірнай дамове ў 1262 г.[181]

Актыўнасць ліцвінаў у Ржэўскай зямлі зафіксаваная крыніцамі ўжо ў 13 ст., відавочна, яна трапіла пад кантроль Літвы ў часы Віценя. Мяркуецца, што былы смаленска-ноўгарадскі рубеж ВКЛ мела пад сваёй уладай сама пазней у пачатку 14 ст.[182][*], г.зн. сягнула да вярхоўяў Волгі.

*[*]"Знікненне ў летапісе цікавасці да Таропца пасля 1253 г., як здаецца, магчыма звязаць з падзеяй 1262 г., калі ноўгарадцы «с Литвою мир взяша», відавочна, пагадзіўшыся з ліцвінскімі правамі на Таропец.*

*(...) Па ўсёй верагоднасці, засваенне Ржэўскай зямлі Літвой адбылося на рубяжы 13 і 14 ст., прынамсі – паміж 1285 і 1314 г.*

*(...) Такім чынам, мы прыходзім да высновы, што былая ноўгарадска-смаленская мяжа пераўтварылася ў ноўгарадска-літоўскую на рубяжы 13 і 14 ст., сама пазней – у пачатку 14 ст."*

Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. С. 52, 53, 54.

Сукупнасць інфармацыі пра дзейнасць вялікага князя Віценя прыводзіць да высновы, што пераемнасць знешняй палітыкі ВКЛ ад часу Трайдэна і перыяду "цёмных гадоў" відавочная. Асноўнымі яе прынцыпамі заставаліся: трымаць вакол Літвы "пояс бяспекі" (выключэнне – Прусы) і пазбягаць сур'ёзнай вайны на два фронты.

### 3.4.5. Гаспадарства мацнее

Праз знешнепалітычныя дзеянні, найперш – актыўныя вайсковыя аперацыі, выяўляецца ўнутранае адзінства і моц дзяржавы Віценя. Густынскі летапіс 17 ст. інфармуе, што менавіта Віцень прыняў дзяржаўны герб ВКЛ – слынную "Пагоню"[183].[*]

[*] "А Витенъ нача княжити надъ Литвою, измысли себѣ гербъ и всему князству Литовскому печать: рыцеръ збройный на конѣ зъ мечемъ еже нынѣ наричутъ погоня"

ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 346.

Сённяшнія гісторыкі і пісьменнікі знаходзяць гэтаму факту шмат ускосных пацверджанняў. У часы Віценя нашыя продкі рэгулярна, часам па некалькі разоў на год, мусілі праследаваць ворага, які знянацку нападаў, хапаў палон і выводзіў яго ў сваю зямлю. Менавіта тады і магла ўзнікнуць традыцыя "пагоні", у якой бралі ўдзел усе мужчыны, здольныя насіць зброю. Напрыклад, Пётр Дусбург паведамляе, як у паход на Прусы ў 1315 г. *"Віцень, ліцвінскі кароль, сабраў усіх людзей са свайго каралеўства,*

---

[181] Цемушаў В.М. Таропецкая воласць. С. 659–670; Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 52.
[182] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 54.
[183] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 346.

*якія былі здольныя да бітвы*"[184]. Дарэчы, гэта апошняя вядомая нам згадка пра Віценя ў пісьмовых крыніцах.

Віцень заставаўся язычнікам, але не перашкаджаў умацаванню хрысціянства ў сваёй краіне. Праўда, Дусбург пісаў пра рабаванне касцёлаў у Прусіі і блюзнерства над Хрыстом[185]. Тым не менш, наступнік Віценя Гедымін у лісце да папы рымскага паведамляў, што Віцень прасіў прыслаць у Літву двух місіянераў-францішканаў і збудаваў для іх касцёл у Навагрудку[186]. Адначасова вялікі князь мусіў дбаць пра праваслаўных вернікаў Літвы. Каля 1300 г. па ініцыятыве Віценя і стараннямі візантыйскага імператара Андроніка II была створаная самастойная Літоўская праваслаўная мітраполія са сталіцай у Навагрудку[187]. Як вядома, пры Віцені (а пазней і пры Гедыміне) Гародняй кіраваў праваслаўны хрысціянін князь Давыд.

З крыжацкіх крыніцаў вядома, што ў гаспадарстве Віценя жылі як ліцвіны, так і русіны. У хроніцы Пятра Дусбурга згадваецца маёнтак вялікага князя, ёсць інфармацыя пра зборы і нарады гаспадара са сваім баярствам[*].

[*] "У лета господне 1305 г. каля Унебаўзяцця Найсвятлейшай Панны Марыі [15 VIII] брат Піліп фон Баландэн, войт самбійскага біскупа і адзінаццаць братоў з двумастамі мужамі спалілі тры вёскі, якія належалі ліцвінскаму каралю, а іх жыхароў узялі ў няволю і забілі. У той час, калі гэта адбывалася, кароль Літвы меў пры сабе ўсіх можных са свайго каралеўства, якія з'ехаліся на пэўную нараду, ці збор. І калі даведаўся пра братоў, рушыў за імі ў пагоню разам з тысячай пяцьсот мужоў. У той час браты дабраліся да таго месца, дзе ўжо не спадзяваліся ніякай небяспекі. Таму знялі зброю, і калі дзвесце мужоў з адным братам ішлі спераду, яны рухаліся далёка за імі, маючы пры сабе толькі некалькі збройных. Тады нечакана рынуўся на іх ліцвінскі кароль са сваімі людзьмі і ў першай сутычцы адзін русін* прабіў дзідай брата фон Баландэн малодшага, пляменніка памянёнага войта. Калі тое ўбачыў войт, запалаў вялікім гневам, закінуў свой шчыт за спіну, схапіў меч аберуч і адным ударам адсек галаву забойцы свайго пляменніка."

***Каментар**. Верагодна, русінаў распазнавалі па даспехах і зброі, адрозных ад балцкіх.

Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 205 – 206.

З той жа крыніцы вядома, што ліцвінскія рыцары ў вайсковым майстэрстве не саступалі ордэнскім. Калі ў 1306 г. буйны ордэнскі атрад у складзе сотні рыцараў (кожны з іх быў афіцэрам) і шасці тысяч вершнікаў спрабаваў здабыць гарадзенскі замак, ліцвінскія баяры з залогі выйшлі супраць іх у адкрытае поле.[*]

[*] "Аднак ліцвінскі кароль даведаўся пра знішчэнне падзамча таго замка і выслаў для яго абароны вельмі шмат адборных ваяроў і мужоў, дасведчаных у валоданні зброяй.

[184] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 219

[185] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 212.

[186] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. С. 24 – 25.

[187] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich // KH. 1896. R. 10. S. 513 – 514; Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły. T. 1. Z. 2. S. 102 – 103.

Па гэтай прычыне, калі браты штурмавалі замак, залога замка, якая мужна баранілася, выйшла вонкі на бітву. Бойка паміж імі працягвалася вельмі доўга. У канцы браты змусілі іх адысці. Ліцвіны адступілі ў замак, але ўсяго праз гадзіну набраліся свежых сілаў і зноў выйшлі вонкі. Ад узыходу сонца да поўдня гэта паўтарылася шмат разоў. То адныя, то другія здабывалі перавагу над ворагам."

Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 207.

Здараецца, і ў нашыя часы неспадзявана выяўляюцца матэрыяльныя сляды тагачасных ліцвінска-ордэнскіх баёў. У 1987 г. на беразе Нёмана непадалёк ад Гародні быў знойдзены ўнікальны комплекс рыцарскага ўзбраення, які належаў беларускаму ваяру. У разломе падмытага вадой берага, чатыры гарадзенскія школьнікі сабралі і перадалі ў музей шлем, меч, фрагмент кальчугі, наканечнікі дзіды і дроціка, сякеру, шпоры, цуглі, стрэмя, шпільку. Вывучэнне рэчаў паасобку выявіла іх прыналежнасць да аднаго часу – 20-х гг. – канца 13 ст. і, адпаведна, да аднаго камплекту ўзбраення. Па асаблівасцях формаў і тэхналогіі вырабу ўстаноўлена, што гэта прадукцыя ўсходнеславянскіх майстроў. Цікава, што наканечнік дзіды па сваіх памерах і форме ў дробных дэталях супадае з дзідай, раскапанай археолагамі на Старым замку. Адсюль выснова, што, магчыма, камплект узбраення належаў воіну з гарадзенскага замка, асобе баярскага стану, бо просты чалавек не мог набыць такія, на той час вельмі дарагія, рэчы.

Камплект зброі сярэднявечнага беларускага рыцара – самы старажытны з усіх вядомых, выстаўлены ў экспазіцыі Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

Гл. Краўцэвіч А.К. Комплекс зброі і рыштунку 13 ст. з-пад Гродна // З глыбі вякоў. Гісторыка-культуралагічны зборнік. Мн.: Навука і тэхніка, 1992. С. 40 – 46.

Невядомы лёс сына Віценя, пра якога захавалася адзіная згадка ў нямецкай хроніцы. З яе вынікае, што хлопца звалі Свалегот (Swalegote) ці Гвалезут (Gwalezute) і ён быў дастаткова дарослы і спраўны, каб камандаваць войскам. Віцень у 1309 г. даверыў яму кіраванне паходам у Лівонію[188]. Аднак пасля смерці вялікага князя дзяржаўнае стырно пераняў не сын, а брат – Гедымін.

Вялікі князь Віцень працягваў працу сваіх папярэднікаў, мацаваў дзяржаву і паспяхова бараніў яе тэрыторыю. Пры Віцені адбывалася далейшае зрастанне з уласна Літвой Тураўскай, Пінскай і Берасцейскай земляў. ВКЛ пры ім чулася дастаткова моцным, каб, не спыняючы барацьбу на прускім напрамку, весці актыўную палітыку ў Інфлянтах, рэгулярна арганізоўваць рабаўнічыя паходы на польскія землі і замацоўвацца на мяжы з Паўночна-Усходняй Руссю.

Чыны Віценя не такія гучныя ў гісторыі, як справы ягонага брата і наступніка. За дваццаць гадоў кіравання ён правёў малапрыкметную, але вельмі важную "чорную" працу: узмацніў дзяржаву ўнутрана і знешне, падрыхтаваўшы яе імклівы ўзлёт пры Гедыміне.

За час кіравання гэтага гаспадара – аднаго з плеяды моцных сярэднявечных манархаў – істотных зменаў у жыцці дзяржавы не адбывалася. Не змянялася тэрыторыя, ранейшымі заставаліся галоўныя кірункі знешняй палітыкі. Унутраны лад фармаваўся пад моцным уплывам знешняга чынніка – вайны з дзяржавай Тэўтонскага ордэна. Цэнтральная ўлада, увасобленая ў вялікім князі, здолела змабілізаваць краіну на абарону і таму здабыла надзвычайныя прэрагатывы – непараўнальна большыя, чым у суседніх еўрапейскіх краінах. Ліцвінскую сітуацыю можна параўнаць з Іберыйскай паўвыспай, дзе каралі хрысціянскіх дзяржаваў у той самы час мацавалі цэнтральную ўладу праз рэканкісту.

[188] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 250.

Не захавалася дакладных звестак пра абставіны смерці Віценя. Апошні раз ён упамінаецца ў крыніцах пад 1315 г., калі ў верасні гэтага года кіраваў аблогай крыжацкага замка Хрыстмемеля. Супярэчліва выглядаюць паведамленні некаторых крыніц аб яго гібелі ў баі з крыжакамі ці смерці ад маланкі[189].

Галоўны вынік гаспадарання Віценя быў аднолькава важны для далейшага лёсу як ВКЛ, так і ўсёй Усходняй Еўропы. Пад яго кіраўніцтвам дзяржава здолела выстаяць у вайне з Тэўтонскім ордэнам. Арганізацыя паспяховага адпору адладжанай, разагнанай на поўную моц ордэнскай ваеннай машыне кардынальна паўплывала на ўнутранае і знешняе развіццё балта-славянскай дзяржавы. У часы наступніка Віценя – ягонага брата Гедыміна – ВКЛ выступала моцнай дзяржавай з вялікім міжнародным аўтарытэтам. Тады яна з лёгкасцю пачала далучаць буйныя ўсходнеславянскія землі, якія шукалі ў гэтым моцным і роднасным дзяржаўным арганізме надзейную абарону ад татараў. Сталіца Гедыміна Вільня стала прэтэндэнтам на спадчыну Кіева.

---

189 Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 8 – 9; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 250.

## ПАДСУМАВАННЕ: ВЫНІКІ ПЕРШАГА ЭТАПУ ДЗЕЙНАСЦІ ВКЛ (1248 – 1315 г.)

Узнікненне новай дзяржавы на тэрыторыі Верхняга і Сярэдняга Панямоння (уласна Літвы) менавіта ў 13 ст. стала вынікам збегу розных чыннікаў і абставінаў:

– па-першае, у рэгіёне пашырылася перакананне (праз усведамленне мангольскай і крыжацкай пагрозы) у неабходнасці моцнай дзяржаўнай арганізацыі;

– па-другое, знайшліся сілы, здольныя рэалізаваць гэтую справу (багатыя панямонскія гарады і ваяўнічыя правадыры балцкіх плямёнаў);

– па-трэцяе, Гісторыя падаравала Панямонню некалькі адносна бяспечных дзесяцігоддзяў – 40-я – 80-я гады 13 ст. (манголы ў пачатку 40-х прайшлі збоку, а прускія крыжакі распачалі актыўную экспансію на Панямонне толькі ў пачатку 80-х гадоў 13 ст.), жыццёва неабходных для нараджэння і ўмацавання асноў дзяржавы.

Напачатку галоўная пагроза для маладога гаспадарства сыходзіла ад Галіцка-Валынскага княства, якое імкнулася захаваць свае ўплывы на Панямонні. Другім ворагам быў Інфлянцкі ордэн, а ад 1283 г. – Тэўтонскі ордэн у Прусах.

Стварэнне новай дзяржавы і яе змаганне за выжыванне знайшлі даволі гучны водгук у тагачасных нарратыўных творах. З іх даследчыкі даведаліся пра дзейнасць першага гаспадара ВКЛ Міндаўга і яго сына Войшалка. З запісаў пра панямонскія падзеі выразна вымалёўваецца тагачаснае тэрытарыяльнае напаўненне тэрміна "Літва", менавіта як вобласці са змешаным славяна-балцкім насельніцтвам, галоўнымі цэнтрамі якой былі беларускія гарады Панямоння: Навагрудак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім.

Вялікае Княства Літоўскае сфармавалася на аснове этнічнага сімбіёзу тубыльцаў (яцвягаў і літоўцаў) і прышлых славян (у асноўным дрыгавічоў і крывічоў). Непасрэдным імпульсам да пачатку дзяржаваўтварэння стала нарастанне знешняй пагрозы з боку нямецкіх анклаваў ва Усходняй Прыбалтыцы (Інфлянты і Прусы) і мангола-татарскай дзяржавы (Залатой Арды). ВКЛ будавалася ў мешаным біэтнічным балта-славянскім рэгіёне – Літве (Навагрудчына, Гарадзеншчына, Віленшчына, заходняя Меншчына) праз саюз галоўных палітычных сілаў рэгіёна – славянскіх панямонскіх гарадоў і мацнейшых балцкіх кунігасаў. Першы зафіксаваны крыніцамі саюз – Навагрудка з Міндаўгам каля 1248 г. (пазней працягнуўся як саюз Навагрудак – Трайдэн). У дзяржаўным будаўніцтве за ўзоры браліся найперш даўно існуючыя ў рэгіёне гарады-дзяржавы – Гарадзенскае і Навагрудскае княствы, у якасці афіцыйнай была прынятая славянская (старабеларуская) мова.

ВКЛ, якое ўзнікла ў кантактнай зоне, не перапыніла і не змяніла характару працэсу балта-славянскіх кантактаў, а наадварот, узмацніла і прыспешыла яго праз прыняцце ўсходнеславянскай мадэлі дзяржаўнага будаўніцтва і старабеларускай мовы ў якасці дзяржаўнай. Адсюль сам генезіс ВКЛ можна разглядаць як праяву ці эпізод працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння. Сведчаннем гарманічнай узаемасувязі названых працэсаў з'яўляецца паспяховае развіццё ВКЛ, якое перарасло тэрытарыяльна не толькі Панямонне, але і ўсю зону балта-славянскага кантакту.

Першы этап гісторыі ВКЛ можна агульна ацаніць як паспяховы. Гаспадарства выжыла, і хоць тэрытарыяльна не павялічылася, але і не паменшылася. Знешнія ўмовы аказаліся спрыяльнымі для ўзнікнення моцнай дзяржаўнай арганізацыі. Некаторыя суседзі, як Галіцка-Валынскае княства, Інфлянцкі, пазней і Тэўтонскі ордэны стваралі рэальную пагрозу звонку, але паасобку не мелі дастаткова сілы, каб ліквідаваць маладую дзяржаву. Першую смяротна небяспечную кааліцыю галіцка-валынскіх князёў з інфлянцкімі рыцарамі паспяхова разваліў Міндаўг, а наступныя гаспадары да падобнага ўжо не дапускалі.

Пастаянная знешняя пагроза спрыяла фармаванню моцнай цэнтральнай улады ў асобе вялікага князя. Гэтая спецыфіка краіны пачала выяўляцца ўжо на пачатковым

этапе яе гісторыі: менавіта вялікія князі, якія мабілізавалі насельніцтва на адпор знешняму ворагу, здабылі надзвычайныя ўладныя прэрагатывы. Другая спецыфічная рыса – талерантная рэлігійная і этнічная палітыка вялікіх князёў літоўскіх, адпаведная даўняй мясцовай традыцыі сужыцця розных рэлігій і этнасаў.

Прынятае з тактычных разлікаў хрышчэнне ў каталіцтва (1251 г.) першым вялікім князем Міндаўгам, потым яго каралеўская інаўгурацыя з санкцыі папы рымскага (1253 г.) засведчылі ўзмацненне ў краіне ўплыву заходнееўрапейскай цывілізацыі.[*]

[*] Кароткую дэфініцыю заходнеўрапейскай цывілізацыі сфармуляваць даволі цяжка. Цікава пра яе напісаў Фернан Брадэль:

*"Звернем увагу, што насуперак усяму, насуперак гэтым падзелам палітычнага характару, справа даходзіць да ўзаемнага пранікнення культураў і цывілізацый, да ўнутранай аднаЛітасці еўрапейскага цывілізацыйнага кола. Падарожны на шляху паломніцтва (напрыклад, да св. Якуба ў Кампастэлі) або купец едучы ў інтарэсах, пачуваюцца па-свойску як у Любеку, так і ў Парыжы, у Лондане і Бруге, у Кёльне і Бургосе, у Мілане і ў Венецыі. Маральныя, рэлігійныя і культурныя каштоўнасці, прынцыпы вядзення войнаў, правілы, якія кіруюць каханнем, жыццём і смерцю, усюды такія самыя; у кожным закуточку феадальнага свету, нягледзячы на наяўныя непаразуменні, сваркі і канфлікты".* – Braudel Fernand. Gramatyka cywilizacji. S. 342.

Гаспадарства перажыло цяжкі ўнутраны крызіс, распачаты забойствам Міндаўга (1263 г.). Дзяржаву ўратаваў сын Міндаўга Войшалк пры падтрымцы славянскіх гарадоў (найперш Пінска і Наваградка), коштам прызнання васальнай залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў і стварэння дуумвірату (1264 – 1267 г.) з адным з іх – сваім шваграм – холмскім і белзскім князем Шварнам Данілавічам (быў жанаты з сястрой Войшалка).

Дзяржава захавала адзінства і ўмацавалася ў часы гаспадарання Трайдэна (1270 – 1282 г.) і ў г. зв. "цёмны перыяд" (1283 – 1292 г.), пра які з-за недахопу крыніц вядома вельмі няшмат (не ведаем нават імя тагачаснага вялікага князя).

У "цёмным перыядзе" крыюцца пачаткі дынастыі Гедыміна, першым вядомым прадстаўніком якой быў Пукувер, толькі аднойчы памянуты ў крыніцах (Прускай хроніцы Пятра Дусбурга). Мацаванне асноў дзяржавы давяршыў сын Пукувера Віцень (кіраваў у 1295 – 1315 г.). Гаспадарства, перададзенае ім у спадчыну брату Гедыміну, аказалася дастаткова моцным, каб, скарыстаўшы спрыяльныя ўмовы, пад умелым кіраўніцтвам актывізавацца на знешняй арэне і распачаць ад 20-х гадоў 14 ст. бурлівы рост у геаграфічнай і палітычнай прасторы Еўропы.

ВКЛ ад самага пачатку дзейнічала ў кантактнай зоне двух этнічных масіваў (славянскага і балцкага), а ў шырэйшым сэнсе – на пагранíччы паміж дзвюма цывілізацыямі – Усходу (візантыйскай) і Захаду (заходнееўрапейскай). Пад націскам перадавога атрада Захаду – Тэўтонскага ордэна – ВКЛ ад пачатку існавання мусіла вырашаць праблему цывілізацыйнага выбару. Канчаткова арыентацыя краіны на Захад акрэслілася пад канец 14 ст., пасля таго, як вялікі князь Ягайла ахрысціў у каталіцтва сваіх падданых-паганцаў і многіх праваслаўных ды ўвёў дзяржаўную пратэкцыю новай веры.

# II. "КАРАЛЕЎСТВА ЛІТВЫ І РУСІ". ГАСПАДАРАННЕ ГЕДЫМІНА (1316 – 1341 г.) [*]

[*]У пасланнях Гедыміна, папы рымскага, рыжскага магістрата ўжываўся тытул: "Gedeminne, letwinorum et multorum ruthenorum rex" – "Гедымін, кароль ліцвінаў і многіх рускіх", або "Gedeminne, dei gratia letphinorum ruthenorumque rex" – "Гедымін, з Божай ласкі кароль ліцвінаў і русінаў".

Дзяржава Гедыміна акрамя іншых назваў мела такую: "regnum Letwinorum et Ruthenorum" – "каралеўства Літвы і Русі" (Adamus J. O tytule panującego i państwa litewskiego parę spostrzeżeń. S. 314).

Фармальна Гедымін не быў каралём у заходнееўрапейскім разуменні, бо не прайшоў цырымонію абраду з санкцыі каталіцкага першасвятара.

Ад гаспадарання Гедыміна пачаўся новы, па ліку другі этап у гісторыі ВКЛ. На першым этапе (1248 – 1315 г.) гаспадарства прайшло выпрабаванне на трываласць – праз войны і палітычныя крызісы да ўнутранага і знешняга ўмацавання пры Трайдэне і ягоных наступніках з Віценем уключна. Сваю жыццяздольнасць дзяржава даводзіла найперш у змаганні з Галіцка-Валынскім княствам і Тэўтонскім ордэнам.

Пры вялікім князі Гедыміне адбылася важная перамена, сапраўдны гістарычны пералом у дзеях ВКЛ – пераход ад абароны да тэрытарыяльнага наступу. Дзяржава не мела магчымасці пашырацца на захад і поўнач – там яна сама трымала абарону ад Тэўтонскага ордэна. Інакш выглядала сітуацыя на ўсходнім і паўднёвым кірунках, дзе ляжалі разрозненыя, падпарадкаваныя ці застрашаныя татарамі землі Русі. Дамогшыся раўнавагі ў барацьбе з Ордэнам, Літва развярнулася на ўсход ды поўдзень і пачала збіраць усходнеславянскія землі, пакуль не ўперлася ў бар'еры – мацнейшыя дзяржаўныя ўтварэнні: Польскае каралеўства на паўднёвым захадзе, Маскоўскае княства на ўсходзе і Арду на поўдні. На захадзе вялікаму князю Вітаўту ў 1422 г. удалося далучыць да дзяржавы Жамойць.

# Глава 1. Заснавальнік вялікай дынастыі

## 1.1. ДАЛЁКАЕ І БЛІЖНЯЕ АТАЧЭННЕ

У 14 ст. еўрапейская эпоха сярэдніх вякоў увайшла ў сваю заключную фазу, якой знакаміты галандскі медыевіст Ёхан Хёйзінга надаў прыгожую назву – “восень сярэднявечча”[190]. У першыя дзесяцігоддзі 14 ст. – часе найвышэйшага гаспадарчага ўздыму і дэмаграфічнага росту феадальнай Еўропы, з’явіліся першыя прыкметы крызісу. Пачаў выразна пагаршацца клімат. Ад канца 13 ст. надышоў г.зв. Малы ледавіковы перыяд, які працягваўся да сярэдзіны 19 ст. Клімат стаў халаднейшым, няўстойлівым, скараціўся вегетацыйны перыяд. Канец 13 ст. (1272 – 1291 г.) вызначаўся надзвычай сухімі гадамі, а пачатак 14 ст. (1312 – 1322 г.) – вельмі вільготнымі[191]. Пісьмовыя крыніцы аднатавалі заняпад вінаградарства ў Англіі, на палях Нарвегіі перастала выспяваць збожжа, Балтыйскае мора ўзімку пачало пакрывацца лёдам. Даволі прымітыўная сельская гаспадарка, якая складала аснову ўсяго эканамічнага жыцця, моцна залежала нават ад нязначных зменаў прыродных умоваў. Некалькі неўраджаяў запар у 1314 – 1317 г. выклікалі хвалю голаду, якая ахапіла многія краіны Еўропы. [*]

[*] У Лівонскай хроніцы Германа Вартберга паведамляецца: “У 1315 годзе ў часы гэтага магістра (Герхард Йорке) была дарагавізна і голад у Лівоніі, так што людзі забівалі з голаду сваіх дзяцей, выкопвалі з магілаў трупы памерлых, здымалі з шыбеніц павешаных, варылі і жэрлі іх.”

Герман Вартберг. Ливонская хроника [в:] Тевтонский Орден. Крах крестового нашествия на Русь. /составители Андреев А.Р., Шумов С.А./ С. 147).

У выніку ўзрасла смяротнасць і затрымаўся натуральны прырост насельніцтва. Аграрны крызіс праявіўся ў пагаршэнні сацыяльных адносінаў не толькі ў вёсцы, але і гарадах. Па Еўропе прайшла чарада замешак і бунтаў: як першае вялікае сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам Дальчына ў паўночнай Італіі (1303 – 1307 г.), сялянска-гарадское паўстанне ў Фландрыі, страйкі і паўстанні плебсу і наёмных работнікаў у гарадах. Як заўсёды бывае ў часы крызісу, узмацніліся містычныя настроі, узніклі новыя рэлігійныя рухі і секты. Сацыяльная напруга ў многіх месцах вылівалася ў антыжыдоўскія выступы, якія нярэдка прымалі форму пагромаў. Вынікам стала масавая эміграцыя жыдоў з нямецкіх земляў, між іншым, на тэрыторыю Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

---

[190] Хёйзинга Й. Осень средневековья. Москва, 1988.

[191] Дзярновіч А. І. Клімат і экстрэмальныя з’явы ва Ўсходняй Еўропе і рэгіёне Паўднёва-Заходняй Беларусі ў II тыс. н. э. (паводле кліматалагічных і пісьмовых крыніц) // Беловежская пуща: история, природа, туризм: Материалы международной науч.-практ. конф., посвящ. 600-летию заповедности Беловежской пущи «Беловежская пуща: от лесничества до Национального парка» (Каменюки, 14 нояб. 2008 г.), «Беловежская пуща: история, природа, туризм» (Каменюки, 18—19 сент. 2009 г.). Брест: Альтернатива, 2010. С. 53.

Неўзабаве надышла сапраўдная катастрофа ў выглядзе г.зв. “Чорнай смерці” – эпідэміі бубоннай чумы, што прыйшла ў Еўропу з Азіі ў 1348 г., якая шматкроць узмацніла еўрапейскі крызіс, а некаторыя рэгіёны дашчэнту вылюдніла.

Важныя падзеі разгорталіся ў палітычным жыцці хрысціянскага свету. Спрэчка Французскага каралеўства з папствам прывяла да гэтак званага “авіньёнскага палону” папаў (Авіньён – горад каля паўднёвай мяжы Францыі), які працягваўся амаль 70 гадоў (1309 – 1377 г.). У 1312 г. нямецкаму каралю Генрыху VII ўдалося наладзіць у Рыме сваю каранацыю на імператара. Праз год з нечым ён памёр і распачалася вайна паміж двума прэтэндэнтамі на імператарскі трон. Гэтая сітуацыя дапамагла вызваліцца з-пад нямецкай апекі адной з імперскіх правінцый – Швейцарыі. Перамога швейцарцаў над войскамі Габзбургаў у 1315 г. паклала пачатак незалежнасці іх краіны. Швейцарская сялянска-гарадская пяхота пабіла арыстакратычную рыцарскую кавалерыю, абазначыўшы тым самым канец вайсковай дамінацыі феадальнага апалчэння ў Еўропе.

Папа рымскі Ян XXII (пантыфікат 1316 – 1334 г.) скарыстаў нямецкую спрэчку для ўзмацнення сваёй пазіцыі ў Італіі ды ўсёй Еўропе і выступіў з дэкларацыяй вяршэнства духоўнай (папскай) улады над свецкай (імператарскай). У выніку з новай сілай разгарэўся стары канфлікт паміж папамі і нямецкімі імператарамі за дамінаванне ў Заходняй Еўропе.

Незадоўга да заканчэння гаспадарання Гедыміна пачалася спусташальная Стогадовая вайна паміж Францыяй і Англіяй (у 1337 г.). У Іспаніі ў гэты час набліжалася да пераможнага канца выгнанне арабаў – маўраў. Апошняя арабская дзяржава на Пірэнейскай паўвыспе – Гранадскі эмірат – пасля моцнай паразы ў 1340 г. ад хрысціянскіх войскаў магла ўжо толькі з цяжкасцю бараніцца.

Адначасова ў шэрагу еўрапейскіх дзяржаў праявіліся тэндэнцыі да цэнтралізацыі. На пачатку 14 ст. наймацнейшая цэнтральная ўлада існавала ў Англіі, Францыі, Кастыліі і Арагоне (апошнія дзве дзяржавы ў 15 ст. аб’ядналіся, стварыўшы Іспанскае каралеўства). Паступова ў многіх краінах аформілася гэтак званая саслоўна-прадстаўнічая манархія, у якой каралеўская ўлада была часткова абмежаваная прадстаўнічымі органамі (парламентамі) грамадскіх станаў, найперш стану феадальнага. У Даніі, Швецыі і Нарвегіі правілам стаў удзел у парламенце прадстаўнікоў вольнага сялянства, асабліва шматлікага ў Скандынавіі. Аднак раздробленымі заставаліся Італія, дзе дамінавалі буйныя гарадскія камуны (вялікую кар’еру рабіла Венецыя) і Германія з моцным уплывам буйных феадалаў.

Аб’яднаўчыя працэсы паступова набіралі моц у Цэнтральна-Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропе. Да гэтага прычыніўся шэраг выбітных асобаў – здольных і моцных манархаў. На Балканах узмацнілася Сербія, асабліва пад уладай сучасніка Гедыміна цара Стэфана Душана (1331 – 1355 г.). Гэтая краіна вяла паспяховыя войны з Балгарыяй (на некаторы час нават змусіла тую да васальнай залежнасці) і Візантыяй. Аднак пасля смерці цара Стэфана Сербія распалася на некалькі варагуючых паміж сабой удзелаў.

На пачатку 14 ст. адбылося аб’яднанне ў адзіную дзяржаву шэрагу румынскіх земляў, раскінутых ад Карпат да Дуная. У 1324 г. вялікі ваявода Басараб I назваў сваю краіну “Цара Ромынянска”, г. зн. Румынская краіна (іншая назва – Валахія). Землі сённяшняй Малдовы да сярэдзіны 14 ст. заставаліся пад уладай Залатой Арды.

На паўвостраве Малая Азія ў пачатку стагоддзя выявілася новая сіла, якая неўзабаве вырасла ў найвялікшую праблему Еўропы на ўсё наступнае паўтысячагоддзе – Асманская Турцыя. Эмір Асман Газі (1281 – 1326 г.), ад імя якога дзяржава была пазней названая Асманскай, падпарадкаваў і аб’яднаў суседнія невялічкія турэцкія княствы. Ужо з другой чвэрці 14 ст. турэцкая дзяржава распачала наступ на аслабелую Візантыю.

Магутная некалі Візантыйская імперыя ўяўляла сабой толькі цень былой велічы. Спробы візантыйцаў спыніць туркаў з дапамогай наёмнага каталонскага войска скончыліся правалам. У 1320 – 1328 г. імперыю руйнавала міжусобная вайна. Акра-

мя таго, у 20-я – 30- я гады Візантыя вяла цяжкія і беспаспяховыя войны з Балгарыяй і Сербіяй, што яшчэ больш аслабіла яе перад турэцкай экспансіяй. Ужо недалёка быў час, калі туркі пераправяцца праз Басфор і пачнуць заваёўваць Еўропу.

Паступова ўзмацнялася цэнтральная ўлада ў Венгерскім каралеўстве. Да гэтага прычынілася новая дынастыя itала-анжуйскага паходжання, якую запачаткаваў у Венгрыі Карл Роберт.

Пасля больш чым паўтаравяковага перыяду раздробленасці пачаўся працэс цэнтралізацыі польскіх земляў. Куяўскі князь Уладзіслаў Лакетак з вялікай цяжкасцю сабраў у сваіх руках уладу над асноўнымі польскімі землямі Малапольшчай і Вялікапольшчай (па ходу справы страціўшы на карысць Тэўтонскага ордэна Памор'е) і ў 1320 г. арганізаваў, пры маўклівай падтрымцы папы рымскага, сваю інаўгурацыю на караля Польшчы. Ягоную справу працягнуў і дасягнуў у ёй буйных поспехаў сын Казімір (зяць Гедыміна), названы нашчадкамі Вялікім.

На ўздыме знаходзілася дзяржава Тэўтонскага Ордэна ў Прусах. Некалькі дзесяцігоддзяў пасля поўнага пакарэння мясцовых плямёнаў манахі-рыцары выкарысталі для загаспадарання здабытай краіны. Моцна дапамаглі ім у гэтым каланісты з перанаселеных нямецкіх земляў, якія пачалі масава наплываць у заміраны край[192]. Ордэн вёў актыўны наступ на Літву, а ў 1308 г. здабыў багатае славянскае Памор'е з буйнейшым балтыйскім портам Гданьскам. У Інфлянтах не спыняліся канфлікты паміж рыцарамі Інфлянцкага ордэна з аднаго боку і месцічамі Рыгі ў саюзе з рыжскім архібіскупам – з другога, што напоўніцу выкарыстоўвалі вялікія князі літоўскія.

Уся Паўночна-Усходняя, ці Уладзімірская, Русь (будучая Расея) надалей знаходзілася ў васальнай залежнасці ад татарскай Арды. Тамтэйшыя ўдзельныя князі актыўна змагаліся за палітычнае першынство, здабываючы ад хана ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае. Рускія князі лічылі ардынскіх ханаў сваімі законнымі сюзерэнамі і ніякага змагання з "ігам" не вялі. Калі ў Ардзе бывала па два ханы-супернікі, то ездзілі на паклон да абодвух. Паступова ў першы шэраг пачалі выбівацца князі маскоўскія, якія заявілі прэтэнзіі на лідэрства ў рэгіёне. Прэцэдэнт стварыў князь Юры Данілавіч (1303 – 1325 г.), які здабыў у 1317 г. ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае. Ягоны брат і пераемнік Іван Данілавіч па мянушцы Каліта (1325 – 1340 г.; меў звычку насіць пры сабе каліту – кошаль з манетамі для жабракоў) – сучаснік Гедыміна, заставаўся верным васалам Арды і адначасова ўзмацняў пазіцыю Масквы. Яму ўдалося захаваць тытул вялікага князя ўладзімірскага да канца жыцця, якое ён закончыў блізка па часе з Гедымінам[193]. Менавіта ў часы Каліты і Гедыміна адбылася першая збройная сутычка Масквы з Літвой (у 1335 г.), якая запачаткавала векавое змаганне за дамінацыю ва Усходняй Еўропе. Аднымі з першых аб'ектаў гэтага змагання сталі багатыя гарады-рэспублікі Вялікі Ноўгарад і Пскоў.

Паўднёвы сусед і даўнейшы галоўны палітычны апанент ВКЛ – Галіцка-Валынская дзяржава – у часы Гедыміна моцна аслабела. Перарвалася мясцовая дынастыя Раманавічаў (паміж 1321 – 1323 г.[194]), якая вывела краіну ў шэраг мацнейшых у рэгіёне. Нейкі час дзяржава ўвогуле не мела манарха, потым баярства прызвала мазавецкага князя, які ў 1331 г. ажаніўся з дачкой Гедыміна. На некалькі гадоў раней Гедымін ажаніў свайго сына Любарта з валынскай князёўнай. Так быў падрыхтаваны пазнейшы падзел Галіцка-Валынскага княства паміж Літвой і Польшчай. Кіеўская зямля пасля мангола-татарскага пагрому 1240 г. надалей знаходзілася пад непасрэдным татарскім кіраваннем і ніякай палітычнай сілы сабой не ўяўляла.

---

[192] Państwo zakonu krzyżackiego w Prusach. Władza i społeczeństwo. S. 203 – 217.

[193] Горский А.А. Москва и Орда. С. 60 – 67.

[194] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 3. С. 120.

Бліжэйшыя да Літвы беларускія землі, Берасцейская, Тураўская, Пінская, Полацкая ды Віцебская, трывала ўвайшлі ў палітычную арбіту ВКЛ пры папярэдніках Гедыміна, а першыя тры былі ўжо адміністрацыйна злучаныя з уласна Літвой. Ядром, галоўнай цэнтральнай вобласцю дзяржавы, заставалася ўласна Літва – вобласць са змешаным балта-славянскім (беларуска-яцвяжска-летувіскім) насельніцтвам у складзе Гарадзеншчыны, Наваградчыны, Віленшчыны і заходняй часткі Меншчыны.

ВКЛ у асноўным удала выйшла са ўзброеных канфліктаў з аднымі суседзямі (Галіцка-Валынскім княствам, Тэўтонскім і Інфлянцкім ордэнамі), умацавалася ўнутрана і распаўсюдзіла свой уплыў на іншых суседзяў (Полаччына і Віцебшчына, Палескія княствы, Жамойць). Страта частак дзяржаўнай тэрыторыі хоць і здаралася, але ненадоўга.

Найважнейшае дасягненне першага этапу – арганізацыя эфектыўнай абароны ад інфлянцкіх і прускіх крыжаносцаў. Затрыманнем тэўтонскай экспансіі ВКЛ даказала сваю моц і падрыхтавала наступнае пашырэнне дзяржаўнай тэрыторыі коштам славянскага Усходу, у першую чаргу – беларускіх земляў. Актыўнае пашырэнне на ўсходзе і поўдні ВКЛ распачало пры вялікім князі Гедыміне.

## 1.2. ГЕДЫМІН ДОЙЛІД

Гедымін пачаў кіраваць на пераломе сярэднявечча, у апошнія дзесяцігоддзі дабрабыту і ўздыму феадальнай Еўропы, калі яна ўжо стаяла на парозе буйнейшага крызісу. Вялікі князь, а ў лацінамоўных дакументах "кароль ліцвінаў і русінаў" належаў да шэрагу выбітных еўрапейскіх манархаў 14 ст. Тады ў Сербіі, Балгарыі, Румыніі, Венгрыі, Польшчы, Масковіі з'явіліся каралі, цары, ваяводы ды вялікія князі, якія заслужыліся для сваіх народаў як будаўнікі, збіральнікі земляў і дзяржаўнага скарбу. Гедымін атрымаў вялікакняскі пасад у сталым узросце, узбагачаны немалым вайсковым і палітычным досведам, акружаны дарослымі дзецьмі і ўнукамі. У 1318 г. ён ажаніў сына Альгерда, г.зн. ужо меў тады дзяцей шлюбнага ўзросту (праўда, у тагачасных палітычных шлюбах на ўзрост асаблівай увагі не звярталі). Лічыцца, што на момант смерці ў 1341 г. Гедыміну магло быць каля 70 гадоў. Адсюль час ягонага нараджэння вызначаецца прыблізна на 1275 г.

Мы не маем партрэтных выяваў[*] і апісанняў асобы гаспадара.

[*] Першыя партрэтныя выявы з'явіліся ў Еўропе толькі ў канцы 14 ст. Мастацтва маляванага і скульптурнага партрэта заняпала разам з эпохай антычнасці. У часы сярэднявечча нават на манетах змяшчалася толькі сімвалічная выява аблічча манарха. (Гуревич А.Я., Харитонович Д.Э. История средних веков. Москва: Интерпракс, 1995. С. 245).

Першае вядомае апісанне знешнасці вялікага князя літоўскага адносіцца да Альгерда, а першая партрэтная выява зробленая з ягонага сына Ягайлы – то пасмяротная скульптура на саркафагу Ягайлы ў кафедральным касцёле на кракаўскім Вавелі.

Асабістыя якасці і рысы характару Гедыміна вымалёўваюцца з ягонага жыццяпісу, праз зафіксаваныя ў крыніцах канкрэтныя дзеянні і ўчынкі. З іх вынікае, што Гедымін меў немалы навык і досвед у вайсковым кіраўніцтве – без гэтай функцыі немагчыма ўявіць сярэднявечнага ўладара. Крыніцы сведчаць пра яго асабісты ўдзел у ваенных дзеяннях. Несумненна, Гедымін быў разумным чалавекам, здольным дакладна аналізаваць складаную палітычную сітуацыю (ці, прынамсі, падбіраць адпаведных дарадцаў), а таксама прымаць нестандартныя рашэнні. Напэўна, гаспадар меў моцную волю, пра што

сведчыць няўмольная паслядоўнасць у рэалізацыі ягоных буйных знешнепалітычных аперацый на працягу гадоў і дзесяцігоддзяў. Таксама відавочна, што ён валодаў высокай культурай дзяржаўнага кіравання, у тым ліку майстэрствам тонкай дыпламатыі (хоць ягоныя выказванні часам мелі грубаватую форму, як тое часта бывала ў сярэднявеччы). Пра тое сведчыць, у прыватнасці, дыпламатычная форма адмовы прыняць каталіцтва перад пасланнікамі папскіх легатаў. Або дакументальна засведчанае выказванне вялікага князя пра веру ў Бога, якое і сёння можа служыць узорам рэлігійнай талерантнасці (гл. раздзел "Справа хрышчэння Гедыміна").

Гедымін мае вялікія, да сёння яшчэ не ацэненыя, заслугі перад Беларуссю. Гэты гаспадар упершыню сабраў у адзіным дзяржаўным арганізме асноўныя беларускія землі, што забяспечыла канчатковы поспех этнагенезу беларускага народа. Як дакладна заўважыў сучасны беларускі гісторык: "*Дзяржава Гедыміна набыла межы, якія амаль супадалі з сучаснымі межамі Беларусі*"[195].

Пры агульным недахопе крыніцаў па сярэднявечнай гісторыі краіны, пра чыны Гедыміна вядома нашмат больш, чым пра яго папярэднікаў. Прычына відавочная – значнасць асобы і маштаб здзяйсненняў гэтага гаспадара. Актыўнасць Гедыміна не магла застацца незаўважанай, бо менавіта пры ім ВКЛ пачало вырастаць у самую магутную дзяржаву ва Усходняй Еўропе.

Першая згадка імя гаспадара ў пісьмовых крыніцах датычыла "граду Гедыміна" (знаходзіўся дзесьці ў паўднёва-заходняй Жамойці[196]) у хроніцы Пятра Дусбурга (castri Jedemine[*]) і пазначаная 1305 г.

[*] "Sed vexillum fratrum cum sibi adjunctis stetit... in monte ex opposito **castri Jedemine** (тут і далей выдзелена мною – *А.К.*)..."

(Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae // Scriptores rerum Prussicarum. Leipcig, 1861. Bd. 1. S. 170 – 171).

(Поўны пераклад запісу паводле: Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. Toruń 2004. S. 204): "Тым часам штандар братоў разам са світай стаяў ад ранку да поўдня на ўзгорку насупраць **замка Гедыміна**, дзе ўпамянуты граф з Хомберга і шмат шляхты атрымалі рыцарскую годнасць."

На той час ВКЛ ужо некалькі дзесяцігоддзяў актыўна дапамагала жамойтам у вайне з крыжакамі, а таму малады Гедымін (а магчыма і Віцень) у свой час па даручэнні бацькі кіраваў абаронай вызначанага яму замка ў Жамойці, набіраўся вайсковага ды правадырскага вопыту[197]. Калі строга следаваць крыніцам, то пачатак кіравання Гедыміна дакладна не вызначаны і прыпадае на перыяд між 1315 – 1320 г., аднак у гістарычнай літаратуры на падставе ўскосных звестак прымаецца 1316 г.

Дыскутавалася (а часам дыскутуецца і цяпер) ступень сваяцтва Гедыміна з ягоным папярэднікам – вялікім князем Віценем: быў Гедымін ягоным сынам ці братам. Аднак даўно вядомы даследчыкам найбольш важкі аргумент у гэтай справе – аўтэнтычны гістарычны дакумент, які сведчыць на карысць братэрства. У лісце радцаў горада Рыгі да Гедыміна Віцень названы ягоным папярэднікам і братам.[*]

---

[195] Снапкоўскі У.Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі. Ч. 1. Ад пачаткаў дзяржаўнасці да канца 18 ст. Мн.: БДУ, 2003. С. 66.

[196] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T.1. S. 153.

[197] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 153–155.

[*] Пасланне 7

**З паслання рады места Рыга да Гедыміна [да 2 кастрычніка] 1323 г.**: “Няхай будзе вам вядома, што мы атрымалі ваша пасланне, скіраванае да нас нядаўна, з якога мы даведаліся, што вы гатовыя заключыць з намі мір, падобна, як было ў нас з **вашым братам і папярэднікам, добрай памяці Віценем**” (выдзелена мною – *А.К.*) (... **sicut Vithene bone memorie, frater vester et antecessor, nobiscum habit**) – (Gediminо laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 7. С. 58 – 59).

**Каментар**: Арыгінальная версія пра бацькоўства Віценя была выказаная яшчэ ў 19 ст. В. Васільеўскім. На думку гэтага аўтара, маглі быць пераблытаныя ці не так запісаныя літары ў слове **frater** – брат. Калі замяніць **fr** на **p** атрымоўваецца **pater** – бацька: *“Словы frater и pater вельмі падобныя паміж сабой, а ў напісанні могуць быць і цалкам аднолькавыя. Такім чынам, мы застаёмся пакуль пры тым перакананні, што слова frater ёсць толькі недакладнае чытанне, а Гедымін быў сынам Віценя.”* (Васильевский В. Г. Обращение Гедимина в католичество // Журнал министерства народного просвещения. 1872. Ч. 159. № 2. С. 144).

Паводле кантэксту можна меркаваць, што слова “брат” ужытае ў сэнсе сваяцтва, а не як абазначэнне калегі па манаршай пасадзе. Пры Віцені Гедымін, несумненна, займаў высокае становішча, магчыма, быў суправіцелем – “субманархам”[198]. Пра мірны пераход улады да Гедыміна ўскосна сведчыць спадзяванне рыжанаў на пераемнасць палітыкі Віценя ў Інфлянтах пры новым гаспадары. З іншай крыніцы вядома, што Віцень меў сына па імю Свалегот (Swalegote) ці Гвалезут (Gwalezute)[199], але лёс ягоны застаўся невядомым, гэтаксама, як і акалічнасці прыходу да ўлады Гедыміна.

У эпоху сярэднявечча асноўным заняткам караля лічылася вайна. Яна вялася практычна непарыўна і не толькі са знешнімі ворагамі. Збройная сіла была галоўным сродкам утрымання вярхоўнай улады і цэласнасці краіны. Улада манарха распаўсюджвалася так далёка, наколькі сягала ягонае войска. Пра сярэднявечнага манарха казалі, што ён больш часу сядзеў на кані, чым на троне.

Таксама і Гедымін з дзяцінства мусіў прайсці рыцарскую навуку і авалодаць майстэрствам вядзення вайны. Аднак ваенная справа не стала дамінантай ягонага палітычнага жыцця. Гэты чалавек належаў да рэдкага ў сярэднявеччы тыпу манарха-будаўніка. Ягоная дзейнасць на гаспадарскім пасадзе засведчыла большую схільнасць да дыпламатыі, чым вайны. Гедымін быў найперш дойлідам і толькі вымушана выступаў у ролі ваяра-разбуральніка. Усё сваё жыццё ён будаваў як у прамым, так і ў пераносным значэнні гэтага слова. Пры заходняй мяжы гаспадарства распачаў (магчыма, працягнуў пасля брата) грандыёзнае будаўніцтва шэрагу замкаў, якія склаліся ў абарончую лінію даўжынёй больш чым у дзве сотні кіламетраў – заслону ад прускіх крыжакоў. Гедымін-дыпламат паслядоўна і настойліва будаваў падставы мірнага сужыцця з бліжэйшымі суседзямі. Яму нават ўдалося на некалькі гадоў навязаць мірную дамову Ордэнскай дзяржаве ў Прусах (“д’ябальскім выкрутасам”, як пісалі непрыхільныя ліцвінам прускія біскупы), якая вайну з Літвой лічыла сваёй галоўнай стратэгічнай задачай.

Гедымін быў дойлідам ва ўсіх значэннях гэтага слова і ўвайшоў у шэраг выбітных еўрапейскіх манархаў, якія кіравалі ў пераломным для Еўропы 14 ст. Ягоная стваральная праца прынесла плён, заўважаны з усіх канцоў Еўропы, ад татарскай Арды ў прычарнаморскім стэпе да рэзідэнцыі каталіцкага першасвятара ў Авіньёне. І татарскія ханы і рымскія папы ўлічвалі ў сваіх планах ўзрастаўшую моц беларуска-літоўскага гаспадарства.

198 Nikžentaitis A. Gediminas. Vilnius, 1989. P. 16.

199 Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. T. 1. S. 167. Nr 809; Wolf J. Ród Gedymina. S. 6.

У тым была заслуга не аднаго Гедыміна. Умацаванне і разбудова дзяржавы былі б немагчымыя без працы ягоных папярэднікаў. Усю другую палову 13 ст. і першыя дзесяцігоддзі 14 ст. вялікія князі літоўскія, у тым ліку невядомыя нам па імёнах, займаліся цяжкай, карпатлівай і не надта прыкметнай звонку працай. Адбіваліся ад ваяўнічых суседзяў, арганізоўвалі ўнутранае кіраванне. Папярэднікі Гедыміна заклалі падмурак дзяржаўнага будынка, а Гедыміну выпала ўзводзіць сцены, і ён выдатна справіўся з гэтым заданнем. У часы ягонага гаспадарання дзяржава далёка перакрочыла межы пачатковага ядра – гістарычнай Літвы – і пачала шырока разрастацца на ўсход і поўдзень праз далучэнне беларускіх земляў. Пасля далучэння de facto Полаччыны і Віцебшчыны гаспадар ужо з поўным правам ужываў у кантактах з Захадам тытул "караля ліцвінаў і русінаў". Як вядома, менавіта Полаччына і Віцебшчына разам з Магілёўшчынай называліся ў ВКЛ "Руссю" ад пачатку і да канца існавання дзяржавы[200].

Агульныя вынікі кіравання Гедыміна мелі гістарычнае вымярэнне і дазваляюць залічыць яго да шэрагу буйнейшых дзяржаўных асобаў Еўропы. Дзейнасць Гедыміна аказалася настолькі плённай, што час ягонага гаспадарання склаўся ў адметную з'яву айчыннай гісторыі – запачаткаванне сучаснай краіны Беларусь праз палітычнае аб'яднанне беларускіх этнічных земляў. Гэты гаспадар заслугоўвае, каб у айчыннай гістарыяграфіі называцца Гедымінам Дойлідам.

## 1.3. ЗБРОЯЙ І СЛОВАМ. ДАКТРЫНА ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫКІ

Гедыміну ў спадчыну ад Віценя дасталася дактрына знешняй палітыкі ВКЛ, якая эвалюцыйна складвалася ад часоў Міндаўга-Трайдэна, а выразныя абрысы набыла ў 80-я гады 13 ст. Яна мела агульны абарончы характар, што вынікала з тагачаснага міжнароднага раскладу сілаў. У пачатку маладога гаспадарства галоўная небяспека для яго сыходзіла ад Галіцка-Валынскага княства і Інфлянцкага ордэна (ад 1237 г. стаў філіяй Тэўтонскага). Потым, пасля 1283 г. да заваёвы Літвы прыступіла дзяржава Тэўтонскага ордэна ў Прусах.

Наступныя вялікія князі літоўскія, у іх ліку і Гедымін, працягвалі кіравацца двума даўнімі, стаўшымі традыцыяй, прынцыпамі знешняй палітыкі: 1) захаванне "поясу бяспекі" вакол Літвы, складзенага з нейтральных і саюзных земляў; 2) недапушчэнне вайны на два фронты.

На працягу першага этапу існавання (сем з паловай дзесяцігоддзяў) ВКЛ у знешняй палітыцы вырашала дзве важнейшыя задачы:

1. **Абарона ад Тэўтонскага ордэна** (складаўся з двух правінцый-філій: Прускай і Інфлянцкай).
2. **Захаванне status quo на Русі**.

Прыярытэтнай з'яўлялася першая, паколькі Ордэн быў самым небяспечным ворагам і вёў з Літвой амаль непарыўную вайну. Браты-рыцары выразна акрэслілі яе мэту – заваёву як Літвы, так і Жамойці. У прыватнасці, шматлікія ордэнскія акты надзялення зямлёй перабежчыкаў з Літвы і Жамойці ўтрымлівалі запіс пра часовасць іх надзелаў у Прусах, менавіта, да моманту, пакуль Ордэн не заваюе Літву і Жамойць, а ўцекачы вернуцца на сваю зямлю[201].

Рэалізацыя другой важнай задачы знешняй палітыкі ВКЛ дапамагала вырашэнню першай, бо давала магчымасць максімальна канцэнтраваць сілы на ордэнскай мяжы. Сутнасць канцэпцыі знешняй палітыкі ВКЛ у часы папярэднікаў Гедыміна – Пукувера ды Віценя акрэсліваецца формулай: "**Вайна на захадзе, мір на ўсходзе**".

Пры Гедыміне выразна відаць істотныя змены ў гэтай канцэпцыі, менавіта

[200] Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. С. 4 – 27.

[201] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 252.

ў другой яе частцы. Ягоная дзяржава ўжо была ў стане не толькі паспяхова бараніцца ад крыжакоў на захадзе, але і весці наступальную палітыку на Русі. Галоўнымі складнікамі знешняй палітыкі ВКЛ сталі:

1. **Абарона ад Тэўтонскага ордэна**.
2. **Экспансія на Русі**.

Стрыжнёвая ідэя дактрыны знешняй палітыкі Гедыміна акрэсліваецца тэзай: "**Абарона на захадзе, наступ на ўсходзе**".

Аналіз даступнай інфармацыі крыніц дае падставы для меркавання, што ўзмацненне актыўнасці ВКЛ на ўсходзе адбылося яшчэ да прыходу Гедыміна на гаспадарскую пасаду, менавіта пры Пукуверы і Віцені. Хоць у іх час не занатаваныя буйныя паходы ліцвінаў на Русь, але ВКЛ паступова пашырала свой плацдарм у паўночнай Смаленшчыне ад Таропца да Ржэвы[202], усё цясней прывязвала да сябе Полацак і Віцебск, Бярэсце і Пінск (апошнім Гедымін у сваім тастаменце распараджаецца ўжо як часткай вялікакняскага дамену).

Пры Гедыміне змяніўся таксама характар ліцвінскіх нападаў на польскія землі. Раней яны былі амаль выключна рабаўнічымі, а пры гэтым гаспадары праз іх дасягаліся палітычныя мэты.

Вырашэнне двух знешнепалітычных задачаў адбывалася ў гарманічнай узаемасувязі. Барацьба з Ордэнам гартавала дзяржаву і надавала ёй моцы ў рускіх здабытках, а далучэнне новых усходнеславянскіх земляў павялічвала патэнцыял у змаганні з крыжакамі.

На рэалізацыі знешняй палітыкі пакінула адбітак асабовасць Гедыміна, менавіта схільнасць гаспадара, насуперак звычаям свайго часу, да выкарыстання пераважна мірных метадаў. Ягоныя дыпламатычныя аперацыі, як правіла, праводзіліся паводле дэталёва апрацаванага плана, у некалькі этапаў, вызначаліся шматвектарнасцю, маштабнасцю і паслядоўнасцю ў рэалізацыі. Такая стратэгія прынесла вялікі поспех на ўсходзе, але значна меншы на заходнім напрамку.

Вядома, што пры Гедыміне ў складзе ВКЛ знаходзіліся некалькі буйных земляў: Палессе, Падляшша, Полацкая і Віцебская землі, аднак ніхто з даследчыкаў не можа дакладна вызначыць час, калі яны былі далучаныя. Гісторыкі здаўна спрачаюцца пра абсяг палітычнага ўплыву дзяржавы Гедыміна на землях будучай Украіны і Расеі. Верагодна, гэтыя важныя падзеі засталіся па-за ўвагай тагачасных летапісцаў і храністаў па прычыне іх мірнага характару. Вядома, што ваенныя аперацыі мелі нашмат шырэйшы розгалас і ў першую чаргу прыцягвалі ўвагу аўтараў летапісаў і хронік.

Дзейсным сродкам знешняй палітыкі Гедымін зрабіў дынастычныя шлюбы. У канцы другога – сярэдзіне трэцяга дзесяцігоддзя 14 ст. (ад 1318 да 1325 г.) вялікі князь арганізаваў серыю з пяці палітычных шлюбаў сваіх дзяцей (пазней адбыліся яшчэ два – у 1331 і 1333 г.).

Альгерд Гедымінавіч у 1318 г. ажаніўся з віцебскай княжной. Як паведаміў летапіс: "а к тому князь витебскии сынов не мѣл, толко дочку, и он за Олкгирда дал дочку свою и прынял его у землю Витебскую"[203]. Калі памёр цесць, Альгерд з прымака стаў паўнапраўным віцебскім князем.

З Марыяй Гедымінаўнай зімой 1319 – 1320 г. узяў шлюб цверскі князь Дзмітрый Міхайлавіч (мянушка – Грозныя Вочы)[204], і тым самым распачаліся працяглыя прыязныя сувязі ВКЛ з яшчэ адной крывіцкай дзяржавай[205].

---

[202] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 54.
[203] ПСРЛ. Москва, 1980. Т. 35. С. 153 – 154.
[204] Wolf J. Ród Gedymina. S. 7.
[205] Трусаў А.А. Невядомая нам краіна: Беларусь у яе этнаграфічных межах. Мн.: Кнігазбор, 2009. С. 39.

Данміла, у хрышчэнні Елізавета Гедымінаўна, выйшла ў Мазоўша за плоцкага князя Вацлава (Ванько) каля 1316 – 1318 г.[206] Палітычнага саюзу з гэтага шлюбу не атрымалася, але абодва бакі, прынамсі, пазбягалі ўзброеных сутыкненняў.

Любарт Гедымінавіч узяў шлюб (магчыма, дзесьці перад 1322 г.[207]) з дачкой уладзіміра-валынскага князя ("а Люборта принял володимерьскии князь к дочцѣ своеи у Володимер и в Луческ и в всю землю Волынскую")[208]. Крыніцы не захавалі ні імя жонкі, а ні яе бацькі, вядома аднак, што пасля выгасання роду мясцовых князёў гэты шлюбны саюз даў Любарту прававую падставу прэтэндаваць на ўсё Валынскае княжанне.

Альдона, у Хрысце Ганна Гедымінаўна, 16 кастрычніка 1325 г. ва ўзросце 15 гадоў выйшла за польскага каралевіча і будучага караля Казіміра III Вялікага[209]. Шлюб гэты павінен быў замацаваць ваенна-палітычны саюз ВКЛ з Польскім каралеўствам.

Шэсцю гадамі пазней, у 1331 г., з дачкой Гедыміна ажаніўся апошні самастойны галіцка-валынскі князь, мазаўшанін па паходжанні, Юры-Баляслаў[210].

Апошнім у гэтай серыі стаўся шлюб Анастассі (Айгусты, магчыма, то была ўжо ўнучка Гедыміна) з маскоўскім князем Сямёнам – сынам Івана Каліты зімой 1333 – 1334 г.[211] Маскоўска-ліцвінскае суперніцтва гэты шлюб не прадухіліў. Паводле інфармацыі храніста 16 ст. Мацея Стрыйкоўскага (не пацверджанай, аднак, іншымі сучаснымі падзеям крыніцамі), адну са сваіх дачок Гедымін выдаў за гарадзенскага ваяводу Давыда[212].

Праз шлюбы сваіх дзяцей Гедымін парадніўся з уладарамі амаль усіх суседніх краінаў, за выключэннем магістраў Тэўтонскага ордэна ў Прусіі і Лівоніі, якія не маглі мець жонак з-за свайго статусу рыцараў-манахаў. Практычна кожная жаніцьба аказвалася карыснай для гаспадарства – прыносіла спакой на межах або новыя тэрытарыяльныя набыткі. Толькі шлюб Айгусты з маскоўскім князем Сямёнам (Сімяонам) Іванавічам, як і пазнейшыя ліцвінска-маскоўскія шлюбныя саюзы, не змог стрымаць канкурэнцыю двух антаганістаў – наймацнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы.

## 1.4. ПАЧАТАК ГАСПАДАРАННЯ ГЕДЫМІНА (1316 – 1322 г.)

Гедымін атрымаў у гаспадаранне моцную, добра арганізаваную, але невялікую (каля 90 тыс. кв. км[213]) дзяржаву, тэрыторыя якой амаль не павялічылася з часоў Міндаўга. Яна складалася з пачатковага ядра – уласна Літвы (сёння акрэсліваецца як гістарычная Літва) – і палітычна блізкіх, магчыма, ужо злучаных з ёй адміністрацыйна, Тураўскай,

---

[206] Wolf J. Ród Gedymina. S. 7; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... S. 110.

[207] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 251. Пра дату шлюбу гісторыкі спрачаюцца ў межах 1315 – 1335 г. – Tęgowski J. Małżeństwa Lubarta Giedyminowicza. Przyczynek do genealogii dynastów halicko-wołyńskich w XIV wieku // Genealogia. 1995. N 6. S. 20.

[208] ПСРЛ. Москва, 1980. Т. 35. С. 133.

[209] Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. // KH. 1926. R. 40. S. 569.

[210] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich ... T. 1. S. 115. Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 345.

[211] Русская летопись по Никонову списку. Санкт-Петербург, 1786. С. 161.

[212] Stryjkowski Maciej. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi.Warszawa, Nakład Gustawa Leona Glücksberga, Księgarza.1846. T. 1. S. 498.

[213] Вылічэнні памераў пачатковай тэрыторыі ВКЛ праводзіў Вячаслаў Насевіч, аднак у розных публікацыях даследчык паказвае значна адрозныя між сабой лічбы, што ўскладняе іх выкарыстанне. (гл.: Насевіч В. Л. Да пытання пра нацыянальны характар Вялікага княства Літоўскага [у:] Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і новыя падыходы). Мінск, 3–5 лютага 1993 года. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Ч. 1. Мн., 1993. С. 55 – 58; Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. Мн.:БелЭн, 2005 С. 34; Насевіч В. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 75, карта паміж старонкамі 608 і 609).

Пінскай і Берасцейскай земляў (Пінск Гедымін перадаваў сваім тастаментам нароўні з землямі ўласна Літвы). Першыя некалькі гадоў кіравання гаспадар нічога не змяняў у стратэгіі, выпрацаванай ягонымі папярэднікамі. Традыцыйнай заставалася і тактыка, якая палягала на хуткім і адэкватным рэагаванні на змены бягучай сітуацыі. Галоўным яе недахопам была пасіўнасць на паўночна-заходнім кірунку – ініцыятывай там валодаў Тэўтонскі ордэн, а ВКЛ больш баранілася.

Пасля смерці Віценя ордэнская дзяржава спяшалася выкарыстаць паўзу міжуладдзя і акрамя ваенных дзеянняў актывізавала дыпламатычныя захады, скіраваныя супраць ВКЛ. У 1316 г. крыжакі аднавілі саюзную дамову з Галіцка-Валынскім княствам. Гэты антыліцвінскі саюз утварыўся яшчэ ў 13 ст. і рэгулярна працягваўся пры новых князях ды хохмайстрах[214].

У тым жа 1316 г. (23 красавіка) інфлянцкі ландмайстар арганізаваў у Інфлянтах дамову між Ордэнам, капітулай Рыгі і васаламі архібіскупа, паводле якой усе ранейшыя альянсы мясцовых немцаў разрываліся (у першую чаргу мелася на ўвазе рыжска-ліцвінскае пагадненне) і ніводзін з удзельнікаў у будучыні не мог завязваць новыя саюзы без згоды астатніх. Аднак рымскі папа Ян XXII скасаваў гэтую дамову, як навязаную рыжанам прымусам, і загадаў Ордэну аддаць гораду Рызе Дзюнамюндэ – замак, які кантраляваў вусце Дзвіны[215].

У лютым 1317 г. папа Ян XXII выслаў булу, скіраваную да "князя ліцвінаў" (імя яго не называлася) з заклікам прыняць хрысціянскую веру[216]. Выказвалася меркаванне, што гэты папскі ліст звязаны не са з'яўленнем у Літве новага гаспадара, а з пачаткам пантыфікату Яна XXII, калі новы папа рассылаў лісты (у тым ліку і да "рускіх князёў") з заклікам далучыцца да каталіцкага касцёла. Магчыма, гэтае пасланне папы ўвогуле не дайшло да Гедыміна, прынамсі, у сваіх лістах гаспадар пра яго не згадваў[217].

Да 1322 г. Гедымін арганізаваў тры ці чатыры шлюбы сваіх дзяцей: Альгерд каля 1318 г. скіраваўся ў Віцебск; Данміла-Елізавета прыблізна ў той самы час (1316 – 1318 г.) апынулася ў Мазоўшы; Марыя ў 1319 – 1320 г. паехала ў далёкую Цвер; па меркаванні некаторых гісторыкаў, Любарт ажаніўся з валынскай князёўнай да 1322 г.

Вайна з Ордэнам працягвалася звыклым парадкам. З 1316 па 1323 г. ордэнскія рыцары атакавалі Жамойць і Літву, часам па некалькі разоў у год, ліцвіны бараніліся і праводзілі спусташальныя рэйды таксама ў двух кірунках – на Прусію і Інфлянты, даходзячы да Эстоніі. Агульную колькасць ваенных выправаў вызначыць не ўдаецца, бо крыніцы зафіксавалі толькі частку вялікіх і малых паходаў з абодвух бакоў. Вядома толькі, што тэўтонскія рыцары арганізоўвалі іх часцей, чым ліцвіны. Некалькі гадоў пасля смерці Віценя ВКЛ не праяўляла актыўнасці на прускім кірунку[218].

Крыжацкія рэйды мелі розныя вынікі, часцей былі ўдалымі, часам не мелі поспеху, або заканчваліся паразамі. Напрыклад, зімой у пачатку 1317 г. ордэнская выправа не дасягнула мэты з-за неспрыяльнага надвор'я. Праўда, у тым самым годзе браты-рыцары правялі некалькі паспяховых паходаў у Жамойць. У 1319 г. Давыд Гарадзенскі хадзіў у адказ паходам на Прусы. У 1320 г. буйны крыжацкі паход на Жамойць закончыўся моцнай паразай – рыцары трапілі ў засаду, у баі загінуў вялікі маршал Ордэна, а ўзятага

---

[214] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 116 – 117; Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 1. Z. 2. S. 106.

[215] Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 1. Z. 3. S. 131.

[216] Skarbiec diplomatów papiezkich, cesarskich, króleskich, książęcych. red. I.Daniłowicz. Wilno, 1860. T. I. № 288. S. 148.

[217] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 258 – 259.

[218] Сагановіч Г. Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) [у:] З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 2. Мн.:Беларуская навука, 1997. С. 124.

ў палон войта Самбіі жамойты ўзвялі на вогнішча ў поўным узбраенні разам з канём і спалілі – пусцілі дымам у гонар сваіх багоў[219].

Зяць Гедыміна, плоцкі князь Вацлаў Баляслававіч (Ванько), 14 траўня 1321 г. стварыў саюз з Тэўтонскім ордэнам. У тэксце дамовы, падпісанай на тэрыторыі Ордэнскай дзяржавы ў замку Голуб Хэльмінскай зямлі, Вацлаў стараўся пазбягаць фармулёвак, якія б мелі выразна антылітоўскі характар. Абяцаў не падтрымліваць нікога з ворагаў Ордэна, у тым ліку ліцвінаў; абавязаўся дапамагаць рыцарам у барацьбе з паганамі (не ўдакладняючы этнічную прыналежнасць апошніх) і не прапускаць іх праз свае ўладанні, а калі затрымаць не ўдасца, то падаць вестку пра іх праход. Тым не менш, адносіны Ванько з Гедымінам, прынамсі афіцыйна, заставаліся добрымі і войскі ВКЛ неаднакроць праходзілі праз Плоцкую зямлю. У 1321 г. па просьбе Вацлава плоцкага ліцвінскае войска напала на Добжыньскую зямлю, прайшоўшы праз ягоныя ўладанні. Гісторыкі мяркуюць, што Ванько пайшоў на антылітоўскі саюз пад ціскам Ордэна, землі якога межавалі з Плоцкім княствам[220].

У 1322 г. пад канец зімы моцны атрад ордэнскага войска (у складзе было 150 братоў-рыцараў, г.зн. афіцэраў), дапоўнены атрадамі крыжаносцаў з Сілезіі, Чэхіі і Германіі, правёў паход на Жамойць, падчас якога былі вынішчаныя некалькі замкавых акругаў. У той самы час (пачатак сакавіка 1322 г.) ліцвіны напалі на Інфлянты, дзе спустошылі землі дэрпцкага біскупа[221].

Вясной і летам 1322 г. ліцвінска-крыжацкія баі прыпыніліся, ёсць звесткі пра вядзенне мірных перамоваў[222]. Пэўна, яны закончыліся няўдачай, бо ў канцы года Гедымін актывізаваў антыкрыжацкую дзейнасць. Восенню 1322 г. па просьбе Пскоўскай рэспублікі туды выехаў князь Давыд Гарадзенскі з вайсковай падмогай супраць інфлянцкіх рыцараў. Ён заставаўся там яшчэ некаторы час, а таксама правёў некалькі падобных дапаможных выправаў у 1323 г.[223]

Праз некалькі гадоў пасля пачатку кіравання, менавіта ў канцы 1322 – пачатку 1323 г. Гедымін распачаў буйную дыпламатычную аперацыю, галоўнай мэтай якой было спыненне вайны з Тэўтонскім ордэнам, што, аднак, выклікала супрацьдзеянне з боку апошняга.

---

[219] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 224.
[220] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 92 – 93.
[221] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 225.
[222] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 267.
[223] Псковские летописи. Москва, 1955. Вып. 2. С. 22– 23.

# Глава 2. Вайна і дыпламатыя на захадзе

Разглядаючы вынікі знешняй палітыкі ВКЛ часоў Гедыміна на паўночна-заходнім і паўднёва-ўсходнім кірунках, няцяжка заўважыць істотную розніцу. На ўсходзе і поўдні поспехі краіны выглядалі трыумфальна – далучыліся агромністыя тэрыторыі, у суме большыя па плошчы за самую Літву. Але калі ацэньваць па высілках, канцэнтрацыі сілаў і сродкаў (адно замкавае будаўніцтва чаго каштавала), мілітарнай актыўнасці, то выснова несумненная – прыярытэтам знешняй палітыкі ВКЛ у часы Гедыміна (як і пазней ажно да Грунвальдскай бітвы) было супрацьстаянне Ордэну. У гэтай важнейшай справе Гедымін дасягнуў значных поспехаў. Хоць ордэнскую пагрозу яму не ўдалося ліквідаваць цалкам, але, ужыўшы цэлы шэраг як традыцыйных, так і наватарскіх палітычных рашэнняў, гаспадар здолеў стабілізаваць сітуацыю. За час ягонага кіравання крыжакі не змаглі здабыць ні кавалка зямлі ні ў Літве, ні ў Жамойці. Самыя аб'ектыўныя ў гэтым выпадку крыніцы – ордэнскія хронікі, сведчаць, што як у пачатку кіравання Гедыміна, так і ў яго канцы крыжакі хадзілі паходамі на тыя ж самыя землі. Праўда, і Гедымін на гэтым кірунку новых тэрыторый не здабыў, але шматкроць кампенсаваўся на ўсходзе і поўдні.

Палітычныя шлюбы дзяцей Гедыміна забяспечылі спакой амаль на ўсім працягу дзяржаўнай мяжы, да таго ж праз іх да ВКЛ пачалі далучацца новыя землі, што дадало сілы ў барацьбе з Ордэнам. Паспяховая абарона ад Ордэна паўплывала на рост міжнароднага аўтарытэту Літвы. Актыўная руская палітыка Гедыміна прынесла ВКЛ буйныя тэрытарыяльныя набыткі і значна павялічыла яго дэмаграфічны і, адпаведна, ваенны патэнцыял, што ўрэшце і вырашыла справу перамогі ў змаганні з Тэўтонскім Ордэнам.

Барацьба з Ордэнскай дзяржавай праходзіла чырвонай ніткай праз усё складанае пляценне знешняй палітыкі Гедыміна. Іншыя справы былі ў той ці іншай ступені звязаныя, або наўпрост падпарадкаваныя гэтай асноўнай задачы. **ВКЛ кшталтавалася і гартавалася ў горне прускай вайны.** Менавіта ў гэтай вайне сфармавалася моцная цэнтральная ўлада – інстытут вялікіх князёў, вакол якіх гуртаваліся сілы краіны. Ад тэўтонскіх рыцараў ВКЛ пераняло не толькі прыёмы будаўніцтва замкаў, але і многія атрыбуты вайсковага рыштунку і зброі, пра што сведчаць, у прыватнасці, іх назвы ў беларускай мове. Спецыяльныя даследаванні паказваюць, што ад 14 ст. у эвалюцыі ўзбраення ў ВКЛ выяўляецца выразная заходняя арыентацыя[224].

Ордэнскую праблему як галоўную ва ўсёй знешняй палітыцы Гедымін вырашаў праз комплекс узаемазвязаных дзеянняў, у якіх угадваецца дакладна прадуманы і паслядоўна рэалізаваны план. Першым і важнейшым аргументам у спрэчцы была вайсковая сіла. Паводле стратэгіі ды тактыкі тагачаснай вайны, гаспадар, па-першае, адбіваў напады крыжацкіх войскаў, па-другое, арганізоўваў вайсковыя паходы на ордэнскія тэрыторыі.

Гедымін выбітна прычыніўся да стварэння пры заходняй мяжы дзяржавы магутнай абарончай лініі, складзенай з шэрагу старых і новазбудаваных замкаў – заходняга

[224] Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мн.: Беларус. навука, 2008. С. 442 – 443.

шчыта Літвы[225]. У яе ўвайшлі звыш дзясятка замкаў[226]. То былі як умацаваныя цэнтры старажытных усходнеславянскіх гарадоў у Ваўкавыску, Слоніме, Наваградку і Гародні (першыя два цалкам драўляныя, астатнія з 13 ст. мелі дадаткова мураваную вежу валынскага тыпу; ды яшчэ адна стаяла ў Камянцы, вядомая сёння як "Белая вежа"), так і новыя мураваныя замкі ў Лідзе, Крэве, Медніках, Троках, Вільні і Коўне. Апошнія ўзводзіліся якраз па ордэнскім узоры – выпрабаваным у Прусіі і Памор'і тыпе гатычных замкаў-кастэляў. Такія чатырохвугольныя ў плане ўмацаванні з адной ці дзвюма вежамі па кутах добра спраўдзіліся крыжакамі, а ліцвіны скарысталі ордэнскі вопыт дзеля абароны ад самых ордэнскіх рыцараў. Большасць новых цалкам мураваных замкаў пачала будавацца яшчэ пры Віцені. Паводле даных археалогіі, іх узвядзенне працягвалася часам каля стагоддзя. Напрыклад, Лідскі замак пачаў узводзіцца ў пачатку 14 ст., а адна з дзвюх ягоных вежаў, менавіта - паўночна-ўсходняя, была пастаўленая толькі ў канцы 14 – пачатку 15 ст. Рубяжом 13 – 14 ст. даследчыкі датуюць узвядзенне Крэўскага замка. Выказвалася меркаванне, што ўдзел у будове "заходняга шчыта Літвы" прымалі майстры з Заходняй Еўропы і Рыгі, якія прыехалі ў Літву па закліку гаспадара[227].

У замках знаходзіў прытулак навакольны люд падчас крыжацкіх нападаў, тут назапашвалася зброя і рыштунак, сюды сцягваліся войскі для паходаў у Прусію. Акрамя непасрэдных вайсковых дзеянняў, скіраваных супраць Прусіі, з ВКЛ высылаліся вайсковыя аддзелы для падтрымкі саюзнікаў, у першую чаргу Жамойці, Пскоўскай рэспублікі і Польскага каралеўства.

Гедымін спрабаваў спыніць бясконцую разбуральную і крывавую вайну з манахамі-рыцарамі з дапамогай мірных сродкаў. Дзеля гэтага ён нейкі час гатовы быў хрысціцца ў каталіцтва, каб у Ордэна не заставалася фармальных падставаў весці вайну супраць ягонай дзяржавы. Цярплівая і настойлівая дыпламатычная праца прывяла, здавалася, да жаданага выніку. Прадстаўнікі ўсіх важнейшых дзяржаўных утварэнняў усходняй Прыбалтыкі ў 1323 г. сабраліся ў ліцвінскай сталіцы і падпісалі агульны мір (гл. далей раздзел "Віленскі мірны трактат 2 кастрычніка 1323 г."). Ён забяспечваў спакойнае развіццё буйнога еўрапейскага гандлю па дзвюх гандлёвых артэрыях сярэднявечнай Еўропы – Заходняй Дзвіне і Нёмане. Аднак стратэгічныя інтарэсы Прускай ордэнскай дзяржавы, найперш імкненне авалодаць Жамойцю дзеля аб'яднання па сушы з інфлянцкай філіяй, аказаліся важнейшымі за тактычныя выгоды кшталту прыбыткаў з гандлю. Тым больш, для прускіх крыжакоў Нёман і Дзвіна былі не самымі важнымі гандлёвымі шляхамі, бо на той час Ордэн авалодаў вусцем Віслы.

ВКЛ і ордэнская дзяржава спаборнічалі ў пошуках саюзнікаў, прычым дыпламатыя Гедыміна аказалася не менш спрытнай і выніковай за крыжацкую. Ордэн падтрымлівалі дзяржавы, якія мелі канфлікты з ВКЛ, але вайна з Літвой для іх не з'яўлялася справай жыцця і смерці. Гэта Галіцка-Валынскае княства, чыя моц засталася ў мінулым 13 ст., мазавецкія князі, Ноўгарадская рэспубліка. ВКЛ пагражала іх тэрытарыяльным інтарэсам: напрыклад, Галіцка-Валынская дзяржава хацела б захаваць за сабой даўнія ўладанні – Берасцейшчыну і Падляшша. На апошнюю зямлю акрамя Літвы мелі прэтэнзіі яшчэ мазаўшане, якія здаўна ўдзельнічалі ў яе каланізацыі. Вялікі Ноўгарад зблізіўся з крыжакамі на аснове эканамічнай і палітычнай канкурэнцыі з Псковам, якога падтрымлівала ВКЛ. Аднак усе названыя крыжацкія саюзнікі належалі да слабейшых краінаў, пры гэтым Літва была для іх сур'ёзным, але не смяротным ворагам.

---

[225] Krawcewicz A. Zamki Giedymina przy zachodniej granice Litwy [w:] Zamki i przestrzeń społeczna w Europie Środkowej i Wschodniej. Warszawa, 2002. S. 269 – 274.

[226] Некаторыя з іх рэдка бывалі ў справе (Ваўкавыск, Наваградак, Бярэсце), іншыя пастаянна адбіваліся ад крыжакоў (Гародня, Вільня і інш.)

[227] Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии IX – XVII вв. 1988. С. 36 – 37, 39, 103.

У той жа час хаўруснікамі ВКЛ станавіліся землі і краіны, для якіх Ордэн нёс жыццёва небяспечную пагрозу. Пскоўская купецкая рэспубліка бараніла эканамічную аснову свайго існавання – бяспечны гандаль праз Балтыку. Адроджанае Польскае каралеўства не магло змірыцца з захопам крыжакамі Памор'я з Гданьскам – самым буйным і багатым горадам рэгіёна і ўсёй краіны. У выпадку з Жамойцю справа ўвогуле ішла пра яе незалежнасць. Саюзнікам ВКЛ у змаганні з Ордэнам яшчэ з часоў Віценя стала нават частка нямецкай калоніі ў Інфлянтах, (менавіта – рыжскае архібіскупства і места Рыга з акругай), бо мясцовыя крыжакі не падпарадкоўваліся архібіскупу і моцна перашкаджалі рыжскаму гандлю. Лівонскі (Інфлянцкі) ордэн – мясцовая філія Тэўтонскага ордэна – імкнуўся да дамінацыі ва ўсіх Інфлянтах. Рыжане яшчэ ад часоў Віценя актыўна супрацоўнічалі з ВКЛ як у вайсковых, так і дыпламатычных справах. Яны пасярэднічалі ў кантактах Гедыміна з Заходняй Еўропай, у прыватнасці, у адносінах з каталіцкім першасвятаром, наладжвалі гандлёвыя ўзаемаадносіны, прасілі вайсковай падтрымкі падчас збройных канфліктаў з інфлянцкімі рыцарамі. Эканамічныя ды палітычныя інтарэсы, як заўсёды, выявіліся больш важнымі, чым этнічная ды рэлігійна-культурная роднасць.

Інфлянцкі Ордэн варагаваў з суседняй Пскоўскай рэспублікай, а тая таксама шукала падтрымкі і вайсковай дапамогі ў ВКЛ. Затое крыжакі знайшлі паразуменне з традыцыйным пскоўскім канкурэнтам – Вялікім Ноўгарадам. Урэшце, на глебе агульных задачаў змагання з Ордэнам дайшло да ліцвінска-польскага саюзу 1325 г. І з самім Ордэнам Гедымін пастаянна спрабаваў наладзіць адносіны, забяспечыць спакой на ордэнскай мяжы з дапамогай дыпламатыі і мірных трактатаў (дамовы 1323 і 1338 г.).

Князі суседняга з Літвой Мазоўша мелі праблемы, падобныя да галіцка-валынскіх. Мазавецкія княствы трапілі між трох агнёў. Акружаныя больш моцнымі дзяржавамі – Літвой, Польшчай і Ордэнам, мазавецкія ўладары былі вымушаныя лавіраваць паміж імі. Ад часоў шлюбу дачкі вялікага князя Трайдэна Гаўдэмунды з мазавецкім князем Баляславам II літоўска-мазавецкія адносіны захоўвалі традыцыйна мірны характар. Дачка Гедыміна Данміла, а ў хрышчэнні – Елізавета, дзесьці каля 1316 – 1318 г. пайшла за сына Баляслава II плоцкага князя Вацлава (Ванько, дарэчы, другі сын Баляслава – чэрскі князь - быў у гонар дзеда-ліцьвіна названы Трайдэнам). Гедымінаўна прынесла мужу сапраўды князёўскі пасаг – каля паўтара цэнтнера срэбра (146,9 кг) і 1,8 кг золата[228].

У 1321 г. Ордэн, падобна, прымусам схіліў зяця Гедыміна Вацлава плоцкага падпісаць дамову, якая абавязвала яго не дапамагаць Літве ні яўна ні патаемна, спрыяць прускай пагранічнай варце і папярэджваць Ордэн пра пагрозу нападу на яго тэрыторыю[229]. Тым не менш, адносіны гэтага князя са сваім цесцем Гедымінам нельга назваць варожымі.

Праўда пяццю гадамі пазней (у 1326 г.), справа дайшла да добраахвотнага саюзу ўсіх трох мазавецкіх князёў Баляславічаў: Вацлава, Земавіта II і Трайдэна I з крыжакамі, але тое адбывалася ўжо ў іншых, змененых палітычных абставінах.

Гедымін, паводле даўняга правіла знешняй палітыкі Літвы, імкнуўся выключыць нават мінімальную пагрозу адначасовага нападу на краіну з некалькіх бакоў, дзеля гэтага ён не спыняўся перад саступкамі. У справе пераемнасці ўлады ў Галіцка-Валынскім княстве пасля смерці апошніх мясцовых князёў, гаспадар часова адмовіўся ад правоў свайго сына Любарта на гэтае ўладанне на карысць мазавецкага князя Баляслава-Юрыя[230].

Натуральным саюзнікам ВКЛ здаўна выступала Жамойць. На працягу амаль усяго 14 ст. крыжакі стараліся любой цаной яе здабыць, бо толькі гэтая зямля раздзяляла Прусы і Інфлянты. Літва таксама знаходзілася ў першым шэрагу прыярытэтаў ордэнскай

[228] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … S. 111.
[229] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich… S. 92.
[230] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 270.

палітыкі як адзін з аб'ектаў заваёвы і істотная перашкода ў захопе Жамойці. Збліжэнне паміж ВКЛ і Жамойцю на аснове супольнага супрацьстаяння ордэнскай дзяржаве пачалося яшчэ ў другой палове 13 ст. Гаспадары Літвы выдатна разумелі, што пасля заваёвы Жамойці наступіць чарга іхняй краіны, права на якую рыцары загадзя сабе юрыдычна замацавалі, атрымаўшы ці падрабіўшы адпаведныя прывілеі ад нямецкіх імператараў на валоданне ёю. У складзе ВКЛ ужо знаходзілася этнічна роднасная жамойтам Аукштота, таму саюз на аснове абароны ад агульнага ворага сфармаваўся як нешта натуральнае. Але наконт таго ворага на Жамойці не існавала адзінай думкі. Гэтая зямля не мела яшчэ ўласнай дзяржаўнасці і кіравалася пляменнай арыстакратыяй, з крыжакамі мела адносіны не жамойцкая дзяржава, а саюз плямёнаў. Ордэнскія ўлады стараліся перацягнуць на свой бок хаця б частку мясцовых правадыроў, і гэта ім удавалася. Жамойты мелі перад сабой прыклад суседняй Прусіі, дзе тубыльскія старэйшыны і правадыры, якія захавалі лаяльнасць да Ордэна падчас усеагульных паўстанняў, былі ўключаныя ў сістэму феадальнай дзяржавы як ордэнскія васалы ды атрымалі (ці захавалі свае) зямельныя ўладанні. Гэта забяспечыла ім адпаведнае месца ў грамадскай іерархіі і стабільны прыбытак у выглядзе феадальнай рэнты пад аховай моцнай дзяржаўнай арганізацыі. Па сведчанні крыніцаў, у Жамойці меліся прыхільнікі паразумення з Ордэнам, якія нават арганізоўвалі выступы супраць вялікага князя літоўскага. Жамойтаў і ліцвінаў, якія ўцяклі ў выніку нейкіх канфліктаў на тэрыторыю Ордэна, крыжакі таксама шчодра ўзнагароджвалі ды давалі ім зямельныя надзелы, але з агаворкай пра іх часовасць – да той пары, пакуль Ордэн не заваюе землі, адкуль прыйшлі ўцекачы.

Аднак тыя ж крыніцы сведчаць, што праз усё 14 ст. жамойты змагаліся супраць Ордэна ў цесным паразуменні і саюзе з ВКЛ, г.зн. большасць жыхароў краіны не жадала паддавацца крыжакам. Ліцвінскія войскі непасрэдна ўдзельнічалі ў абароне Жамойці. Гедымін у маладосці праходзіў там вайсковую практыку – па даручэнні бацькі кіраваў залогай жамойцкага замка пры ордэнскай мяжы. Пазней гаспадары ВКЛ у цяжкія для дзяржавы часы згаджаліся прызнаць Жамойць уладаннем Ордэна, але заўжды то было толькі часовае адступленне. Урэшце, ужо ў 15 ст. пасля аслаблення Ордэнскай дзяржавы Жамойць увайшла ў склад ВКЛ з захаваннем значнай аўтаноміі.

У першыя гады гаспадарання Гедыміна ягоная ордэнская палітыка вялася нібы па інерцыі, як працяг ранейшага ходу падзей. Ішла даўняя вайна, якая складалася з чаргавання абаронаў і атакаў. Аднак, калі вялікі князь агледзеўся і асвоіўся на новым месцы, то распачаў энергічную дзейнасць дзеля спынення вайны. Не маючы дастаткова магчымасцяў і сілаў перахапіць ініцыятыву ў збройнай барацьбе, Гедымін зрабіў гэта ў дыпламатыі. Праўда, нягледзячы на ўсе высілкі, удалося яму гэта толькі часткова і ненадоўга – усяго на чатыры гады.

## 2.1. ДЫПЛАМАТЫЧНЫ МАРШ НА ЗАХАД (1323 – 1324 г.)

Вялікі князь змяніў тактыку барацьбы з крыжакамі, дакладней, дапоўніў старыя чыста ваенныя прыёмы, ад якіх немагчыма было адмовіцца зусім, новымі дыпламатычнымі, акцэнтаваўшы на іх галоўную ўвагу. Ад канца 1322 г. Гедымін распачаў шырока закроеную дыпламатычную кампанію, галоўнай мэтай якой было заканчэнне стану вайны з дзяржавай Тэўтонскага ордэна.

З дапамогай канцылярыі рыжскага магістрата Гедымін падрыхтаваў і разаслаў напісаныя на латыні лісты да папы і буйнейшых паўночнанямецкіх гарадоў. Пасланні, якія да адрасатаў даставілі радцы Рыгі (з гарадамі паўночнай Германіі Рыга трымала рэгулярную сувязь праз сяброўства ў Ганзе), распаўсюджваліся ў копіях і атрымалі розгалас у Еўропе.

Найперш, дзесьці ў канцы 1322 г. Гедымін накіраваў ліст да папы рымскага, у якім той знайшоў дэкларацыю прыняцця хрысціянства па каталіцкім абрадзе.[*]

[*] Пасланне 2.

**Пасланне Гедыміна да папы Яна XXII (1322 г.)** (фрагменты:)

(...) Таму гэтым пасланнем мы паведамляем Вашай міласці, што наш папярэднік кароль Міндаўг з усім сваім каралеўствам быў прыведзены ў хрысціянскую веру, але з-за абуральных несправядлівасцяў і незлічоных здрадаў магістра братоў Тэўтонскага ордэна ўсе [і кароль, і ягоныя падданыя] ад веры адпалі, гэтаксама, як, на жаль, і мы [наступствам зробленых] крыўдаў, да сённяшняга дня знаходзіліся ў аблудзе нашых продкаў.

(...) Таксама наш папярэднік кароль Віцень накіраваў пасланне пану легату Францыску і пану архібіскупу Фрэдэрыку з просьбай прыслаць да яго двух братоў Ордэна мінарытаў, даў ім месца і ўжо збудаваны касцёл. Дазнаўшыся пра гэта, браты прускія Тэўтонскага ордэна паслалі вакольнымі дарогамі атрад і той касцёл спалілі (верагодна, гаворка ідзе пра паход на Наваградак у 1314 г., калі крыжацкае войска спаліла гарадскія пасады – *А.К.*).

(...) Святы і правялебны ойча, мы вялі барацьбу з хрысціянамі не для таго, каб знішчыць каталіцкую веру, але каб супрацьстаяць несправядлівасцям [г.зн. дзейнічалі так], як чыняць каралі і князі хрысціянскія; гэта відавочна, бо у нас [жывуць] браты Ордэна мінарытаў і Ордэна прапаведнікаў, якім мы далі поўную свабоду хрышчэння, пропаведзі і выканання іншых свяшчэнных абрадаў.

Але ж мы, правялебны ойча, напісалі вам гэта для таго, каб вы ведалі, чаму нашыя продкі трапілі ў грэх нявернасці і нявер'я. Але цяпер, святы і правялебны ойча, мы старанна молім, каб вы звярнулі ўвагу на нашае гаротнае становішча, паколькі мы гатовыя, як і іншыя хрысціянскія каралі, ва ўсім вам следаваць і прыняць каталіцкую веру, каб толькі нас ні ў чым не прыцяснялі вышэйзгаданыя мучыцелі, менавіта, вышэйзгаданыя магістр і браты.

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 2. С. 22 – 27.

Гедымін усведамляў значэнне папы ў Заходняй Еўропе, бо на з'ездзе ў Вільні казаў, што ад сваіх родзічаў ведае пра духоўнае вяршэнства папы ў хрысціянскім свеце[231]. Вялікі князь ведаў у дэталях пра ўсе ранейшыя спробы хрышчэння ў каталіцтва ягоных папярэднікаў, у тым ліку пра першую, якая адбылася на 70 гадоў раней. У пасланні да папы ён згадаў хрышчэнне Міндаўга (у 1251 г.), які, аднак, “адпаў” ад хрысціянскай веры з-за віны ордэнскіх рыцараў. Гедымін успамінаў таксама больш блізкія па часе падзеі, калі ягоны папярэднік вялікі князь Віцень запрасіў у краіну каталіцкіх місіянераў (манахаў францішканскага і дамініканскага ордэнаў) і нават збудаваў ім касцёл у Наваградку, аднак ордэнскія рыцары з Прусіі той касцёл спалілі. Вялікі князь паінфармаваў першасвятара, што і ён не перашкаджае дзейнасці каталіцкіх місіянераў – у Літве свабодна жывуць і робяць сваю справу тыя ж францішкане і дамінікане. Войны з хрысціянамі Гедымін тлумачыў не рэлігійнымі, а палітычнымі прычынамі, да месца заўважыўшы, што хрысціяне таксама ваююць паміж сабой. Найбольш цікавая заключная частка ліста, дзе з выключнай шчырасцю і праматой вялікі князь сфармуляваў праўдзівую прычыну (тую самую, што і для ягоных папярэднікаў і наступнікаў), па якой мог бы хрысціцца: жаданне спыніць экспансію дзяржавы Тэўтонскага ордэна.

У ліцвінска-ордэнскім змаганні ў той час узрастала напружанасць. Зімой у пачатку 1323 г. прускія крыжакі, узмоцненыя крыжаносцамі з Германіі і Чэхіі, падрыхтавалі буйны паход супраць Літвы, аднак з паловы дарогі павярнулі назад з-за моцных маразоў.

---

[231] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 24.

У той самы час па просьбе пскавічоў гарадзенскі ваявода Давыд правёў глыбокі рэйд па дацкіх уладаннях у Эстоніі. У сакавіку, калі інфлянцкія рыцары падышлі да Пскова, ліцвіны з жамойтамі напалі на Мемель (Клайпеду), захапілі ды спалілі горад (у тым ліку караблі, прышвартаваныя ў порце) і тры замкі ў ваколіцы, якія належалі мясцовым ордэнскім хаўруснікам[232]. У траўні 1323 г. лівонскія рыцары аблажылі Пскоў і зноў з Літвы прыйшло на дапамогу войска на чале з Давыдам Гарадзенскім, якое змусіла немцаў адступіць[233].

У студзені і траўні 1323 г. вялікі князь выслаў лісты да паўночнанямецкіх гарадоў – сяброў Ганзы – з запрашэннем каланістаў у сваю краіну. Падобныя лісты ў траўні былі скіраваныя да манаскіх ордэнаў дамініканцаў і францішканаў – у іх на сталае жыхарства ў Літву запрашаліся найперш святары і місіянеры. Такія звароты адпавядалі духу часу і ўкладаліся ў кантэкст г.зв. каланізацыі на нямецкім праве – арганізаваным перасяленні нямецкіх каланістаў у Цэнтральна-Усходнюю Еўропу. Вядома, што Гедымін высылаў пасольства таксама да дацкага караля[234]. У сваіх лістах Гедымін тытулаваўся “каралём ліцвінаў і русінаў” (letphinorum ruthenorumque rex), а таксама князем і кіраўніком Семігаліі.

Сёння вядомыя некалькі лістоў Гедыміна, але, па ўсёй верагоднасці, яны складаюць толькі частку дыпламатычнай перапіскі вялікага князя. З двух лістоў, высланых да папы, адзін захаваўся ў копіі, пра другі вядома з адказу на яго[235]. Два лісты былі высланыя да паўночна-нямецкіх гарадоў, два – да манаскіх ордэнаў – францішканскага і дамініканскага; адзін – да інфлянцкіх біскупаў, дацкага намесніка ў Рэвелі і рады горада Рыгі[236].

Амаль адразу пасля з’яўлення пасланняў пачалі выказвацца сумненні ў іх аўтэнтычнасці, якія сыходзілі ад прадстаўнікоў Тэўтонскага ордэна. Пра магчымасць фальсіфікацыі пасланняў Гедыміна рыжанамі нямецкія даследчыкі пісалі ў 19 ст. і яшчэ ў 20 ст.[237] У напісанні лістоў ад імя Гедыміна вінавацілі месцічаў Рыгі, як асабліва ў тым зацікаўленых. Па ўсёй верагоднасці, некаторыя лісты Гедыміна сапраўды пісаліся ў Рызе або пісцамі рыжскага магістрата ці архібіскупа (выказвалася меркаванне, што ў горадзе некаторы час захоўвалася пячатка гаспадара), але гэта не азначае, што ўсё рабілася без волі і згоды вялікага князя літоўскага[238]. Тэксталагічны аналіз пасланняў, знаходкі і публікацыі новых дакументаў не пакідаюць сумненняў у іх аўтэнтычнасці[239].

У намеры збліжэння ліцвінскага гаспадара з Захадам нічога новага не было – першую такую спробу ажыццявіў яшчэ Міндаўг. Гедымін жа праводзіў акцыю з непараўнальна большым размахам і дынамікай. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, для якіх дэкларацыя збліжэння з Захадам была чыста абарончай акцыяй, Гедымін здолеў надаць ёй актыўны, наступальны характар.

За ўсімі афіцыйнымі дыпламатычнымі зваротамі і, несумненна, шчырымі заявамі Гедыміна, кшталту жыць у міры з заходнімі хрысціянамі, праглядвалася найважнейшая мэта – нейтралізаваць Ордэн, змусіць яго захоўваць мір з Літвой. Зрабіць гэта наўпрост, шляхам непасрэдных дамоваў не ўдавалася (ці ўдавалася на кароткі час), таму Гедымін

---

[232] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 226.

[233] Псковские летописи. Вып. 2. С. 22– 23.

[234] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 17.

[235] Zajączkowski S. rec.: Forstreuter K. Die Bekehrung Gedimins und der Deutsche Orden // Altpreussische Forschungen. 1928. Jahrgang 5. S. 239 – 261 // AW. Wilno, 1929. R. 6. S. 275.

[236] Большасць лістоў Гедыміна апублікавана ў: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Vilnius 1966.

[237] Forstreuter K. Die Bekehrung Gedimins und der Deutsche Orden. S. 239 – 261.

[238] Chodynicki K. rec.: Altpreussische Forschungen. Jahrgang 5. Heft 1 u. 2. 1928 // AW. Wilno, 1929. R. 6. S. 274.

[239] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 264 – 265.

звярнуўся да галоўнага апірышча крыжакоў, ад якога залежаў дабрабыт, а таксама вайсковыя поспехі Ордэна – Заходняй Еўропы.

Каталіцкаму першасвятару Гедымін скардзіўся на крыўды ад ордэнскіх рыцараў і выказваў жаданне жыць у згодзе з папам і ўсімі хрысціянамі. У пасланнях да ганзейскіх гарадоў (у лістах названыя: Брэмен, Готланд, Грэйфевальд, Зунд, Кёльн, Любек, Магдэбург, Расток, Штральзунд, Штэцін) гаспадар інфармаваў пра свой ліст да папы ў справе хрышчэння, пра будаўніцтва касцёлаў у Літве. Дэталёвае апісанне спрыяння каталіцтву мела на мэце заахвоціць каланістаў, пераканаць, што іх клічуць не ў паганскі, а ў хрысціянскі край. Гаспадар запрашаў у Літву святароў, рыцараў, купцоў, лекараў, сялянаў, а таксама рамеснікаў любой спецыяльнасці (у лістах названыя кавалі, возьнікі, шаўцы, гарбары, млынары, пекары, каменячосы, салявары, срэбранікі, балістарыі, рыбакі). Усім гарантавалася бяспека, зямельны надзел і істотныя падатковыя льготы. Нават абазначаўся бяспечны шлях у Літву, менавіта праз Мазовію[*].

[*] Пасланне 4.

**26 траўня 1323 г. Пасланне Гедыміна грамадзянам Любека, Растока, Штральзунда, Грэйфсвальда, Штэціна і Готланда**

Гедымін, з ласкі Божай кароль ліцвінаў і рускіх, правіцель і князь Семігаліі, шаноўных мужоў, мудрых і шанаваных, суддзяў, дарадцаў і грамадзян Любека, Растока, Зунда, Грэйфсвальда, Штэціна і Готланда, купцоў і рамеснікаў усіх станаў вітае, шле каралеўскую ласку і любоў.

Паколькі ўсе каралеўствы, адным з якіх мы валодаем, таксама падуладныя цару нябеснаму Ісусу Хрысту, як форма быцця і раб дома, то, хоць сярод каралёў мы найменш значныя, аднак божай воляю ў сваіх землях, дзе кіруем і валодаем, караем і даруем, адкрываем і закрываем [доступ у нашыя ўладанні], мы самая магутная асоба.

І вось зараз вы без усялякіх перашкодаў перайшлі нашыя межы, каб наведаць Ноўгарад і Пскоў. Усё гэты мы дазволілі з надзеяй на лепшую будучыню.

Цяпер вы самыя з дня на дзень бачыце і чуеце [пра] страты [якія] вы ўсе [панеслі]. Нашыя продкі паслалі да вас сваіх паслоў і граматы, даравалі вам зямлю, [але] ніхто з вашых не прыйшоў, ні адна сабака з іх уладанняў не адказала ўдзячнасцю на [гэтае] дараванне.

Напісанае вышэй няхай не палохае вас. Калі яны [продкі нашыя] абяцалі адно, то мы з баслаўлення госпада зробім удвая і, адпаведна, больш; мы ж нашаму свяцейшаму айцу пану папе дзеля яднання з царквой божай накіравалі нашае пасланне і чакаем з незвычайным нецярпеннем прыбыцця ягоных легатаў, бяспеку якіх мы абяцаем няўхільна сцерагчы.

Таму ў клопатах пра вас, запрашаючы да сябе ад усіх вас праўдзівых паўнамоцных паслоў і людзей, вартых даверу, мы зверх нашага подпісу і гэтага паслання, замацаванага нашай каралеўскай пячаткай, зверх гэтага клятвай абяцаем вам усім, што ўсталюем такі мір, падобнага якому хрысціяне ніколі не ведалі.

Мы запрашаем да сябе біскупаў, святароў, духоўных асобаў Ордэна прапаведнікаў і мінарытаў, жыццё якіх сумленнае і пахвальнае; [але] мы не жадаем доступу [да нас] тых, хто робіць з цэркваў разбойнае гняздо, якія гандлююць міласцінай на шкоду душам [сваім] і нават выходзяць адтуль прызнаныя разбойнікі і [людзі], якія забіваюць клірыкаў. Мы раім кожнаму гаспадару асцерагацца такіх манахаў.

Звыш таго, [перавышаючы] усіх нашых папярэднікаў, мы ўжо ў гэтым пасланні аб'яўляем, што па каралеўскім дараванні наша зямля вольная ад гандлёвага мыта і дарожных платаў для ўсіх купцоў, рыцараў, васалаў, якіх мы забяспечым даходам кожнага – адпаведна яго становішчу; для рамеснікаў любога стану, менавіта майстроў, шаўцоў, вознікаў, камняцёсаў, здабыўцаў солі, пекараў, срэбранікаў, балістарыяў, рыбакоў і любога [іншага] стану – няхай прыходзяць; з жонкамі, дзецьмі, хатняй жывёлай, няхай згодна прадпісанню прыходзяць [у нашую зямлю] і сыходзяць [з яе] цалкам беспերашкодна, таму што мы клятвенна абавязваемся, што яны застануцца ў бяспецы і будуць пазбаўленыя ад усіх несправядлівасцяў з боку нашых падданых.

Земляробам, якія жадаюць прыйсці ў наша каралеўства і застацца, мы даем [зямлю] і дазваляем на працягу дзесяці гадоў свабодна абрабляць [яе] і палову гэтага тэрміну быць свабоднымі ад любой каралеўскай павіннасці. Пасля сканчэння названага тэрміну і таксама, у залежнасці ад урадлівасці зямлі, яны будуць даваць дзесяціну, як прынята ў іншых каралеўствах і ў іншых народаў, з тым, аднак, разлікам, каб у нас даход іх вырастаў мацней, чым звычайна бывае ў іншых каралеўствах.

Няхай увесь [гэты] народ карыстаецца грамадзянскім правам горада Рыгі, калі толькі да таго часу мудрай радай высакародных не будзе знойдзена лепшае [рашэнне].

А каб учыніць вас больш адданымі і надзейнымі, мы збудавалі дзве царквы мінарытаў: адну ў нашым каралеўскім горадзе, з назвай Вільня, і другую ў Наваградку, і трэцюю – Ордэна братоў прапаведнікаў, каб кожны славіў госпада паводле свайго звычаю.

Так, каб наша дараванне заставалася непарушным і моцным, мы загадалі напісаць гэтую грамату і змацаваць яе нашай пячаткай. Паколькі вядома, што [грамату, змацаваную] такой жа пячаткай, мы паслалі пану нашаму і свяцейшаму айцу і што мы для сябе ўсё дакладна перапісалі, мы захаваем [наша слова] нязменным.

Тых, хто абражае пячатку, мы ў гэтым пасланні адкідваем, як злосных руйнавальнікаў веры, ілжывых і бессаромных ерэтыкаў.

Праз княства пана Баніслава, князя Мазовіі, да нас кожны пры нашай апецы можа мець свабодны доступ.

Дадзена ў Вільні, у лета гасподне, 1323, у самы дзень цела Хрыстова.

Пасланне, агалошанае ў адным горадзе, мы просім перапісаць пад наглядам духоўных асобаў і іншых вартых даверу людзей і без прамаруды пераслаць у іншы, каб наша жаданне стала вядомае ўсім.

Бывайце.

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 4. С. 36 – 47.

Гедымін, несумненна, разумеў, што для дасягнення патрэбнага эфекту і спынення вайны дэкларацый аб намерах і нават мірных дамоваў недастаткова. Трэба было рэальна стаць часткай заходняга свету. Дыпламатычны марш на Захад ліцвінскі гаспадар праводзіў па трох кірунках:

- прыцягненне нямецкіх каланістаў у Літву;
- падпісанне агульнай мірнай дамовы ва Усходняй Прыбалтыцы;
- падрыхтоўка да хрышчэння ў каталіцтва.

Пра працяг справы з нямецкімі пасяленцамі звестак практычна не захавалася. Невядома, ці адгукнуліся на запрашэнне каланісты, ці з'явіліся ў Літве і ці шмат іх было. Выказвалася меркаванне, што новыя гатычныя замкі ў Літве (у прыватнасці, замак у Лідзе)

будавалі якраз спецыялісты, запрошаныя з ганзейскіх гарадоў, у тым ліку Рыгі[240]. Напэўна, калі нямецкія каланісты і прыбылі, то ў малой колькасці, недастатковай, каб утрымаць сваю нацыянальную адметнасць працяглы час (як пісаў гаспадар, на запрашэнне яго продкаў *"ніхто з вашых не прыйшоў"*). Магчыма, захаваны да сёння след па іх – гэта нямецкія тэрміны ў беларускіх рамёствах, у тым ліку будаўніцтве (напрыклад: муляр, муроўка, дахоўка, цэгла, кафля, васэрвага, шпунт, прэнт, гэблік, грабар, гарбар і шмат інш.). Пра два іншыя кірункі дыпламатычнай актыўнасці Гедыміна – прыбалтыйскую мірную дамову і спробу хрышчэння – вядома нашмат болей.

Высылаючы лісты на Захад, Гедымін не збіраўся адмаўляцца ад асноўнага сродку тагачаснай палітыкі – збройнай сілы. Летам 1323 г. ягоныя пасланні чыталіся ў нямецкіх гарадах, а ліцвінскія войскі працягвалі вайну з Ордэнам на ўсіх магчымых напрамках. У жніўні напалі на Самбію ў Прусах, а ордэнскі атрад у тую "пару жніва" атакаваў Жамойць. Гедымін падтрымліваў сваіх саюзнікаў пскавічоў – арганізаваў паход супраць крыжацкага хаўрусніка Вялікага Ноўгарада (Того же лѣта воеваша Литва Ловоть, и угониша ихъ новгородци, и биша я а инии убѣжаша[241]). 14 верасня, незадоўга да з'езду ў Вільні, па просьбе свайго зяця Вацлава (Ванько) плоцкага, Гедымін паслаў войска пустошыць Добжыньскую зямлю, што потым актыўна выкарыстоўвала ордэнская прапаганда (бо пацярпелі хрысціяне-каталікі)[242]. Вялікі князь падыходзіў да міру не як слабейшы партнёр, а з пазіцыі сілы, паводле даўняга рымскага рэцэпту: "Хочаш міру – рыхтуй вайну!".

## 2.1.1. Віленскі мірны трактат 2 кастрычніка 1323 г.

Гедымін прапанаваў палітычным суб'ектам Усходняй Прыбалтыкі падпісаць дамову аб міры і супрацоўніцтве. На заклік адгукнуліся ўсе мясцовыя нямецкія і дацкія дыяспары (акрамя прускай філіі Ордэнскай дзяржавы – галоўнага гульца, на якім залежала Гедыміну), бо справа для ўсіх была жыццёва важнай – вялікі гандаль у Прыбалтыцы. Пад канец верасня 1323 г. у Вільні сабраліся прадстаўнікі "ўсіх хрысціянаў", а дакладней – палітычных суб'ектаў Усходняй Прыбалтыкі: магістрата і капітулы горада Рыгі, рыжскага архібіскупа, інфлянцкіх біскупаў (з Дэрпта і Эзэля), прыёраў каталіцкіх манаскіх ордэнаў дамініканаў і францішканаў, намесніка дацкага караля ў Эстоніі, і нават паслы інфлянцкага магістра (апошняе важна). Гаспадар сустрэчы, вялікі князь літоўскі, прадстаўляў таксама інтарэсы саюзнай яму Пскоўскай рэспублікі. Паколькі ўсім паслам прапанавалі афіцыйна пацвердзіць іх паўнамоцтвы, прыбылыя інфлянцкія рыцарыкрыжакі заявілі, што яны сапраўды прадстаўляюць Тэўтонскі ордэн[243] (інфлянцкі ордэн мечаносцаў фармальна ўвайшоў у Тэўтонскі ў 1237 г.).

2 кастрычніка 1323 г. быў падпісаны г.зв. Віленскі мірны трактат[*]. Ён меў галоўнай мэтай забеспячэнне ў Прыбалтыцы спакойнага гандлю, якому моцна перашкаджалі бясконцыя мясцовыя канфлікты і войны. У дамове агаворваўся вольны праезд любой асобе па вадзе і сушы, свабодны гандаль купцам, а таксама спосабы вырашэння маёмасных справаў і канфліктаў. Дамова ахоплівала не толькі землі, якія прыслалі сваіх прадстаўнікоў, але і іншыя прыязныя ім хрысціянскія краіны. Гедымін адкрыў для вольнага гандлю ўсю Літву, Жамойць, Пскоў і *"ўсе землі рускіх"*, якімі валодаў. Судовыя спрэчкі меліся разбірацца паводле законаў краіны, дзе яны здараліся. Прыезджых купцоў з дальніх земляў Гедымін абавязаўся трактаваць паводле рыжскага права. Пра адмову ад міру належала афіцыйна паведаміць не пазней, чым за два месяцы да пачатку варожых дзеянняў.

---

[240] Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии 11 – 17 в. С. 103.
[241] НПЛ.С. 97, 339.
[242] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 227 – 228.
[243] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 24.

**[*] 2 кастрычніка 1323 г. Мірная дамова Гедыміна з Ордэнам, дацкім намеснікам Рэвельскай зямлі, біскупамі і Рыгай**

Усіх тых, хто бачыць і чуе гэтую грамату, вітае Гедымін, кароль Літвы, і жадае ім здароўя і міру божага.

Мы апавяшчаем гэтай граматай, што да нас, па нашых пісьмах, прыйшлі паслы: ад біскупа з Рыгі - пан Вальдэмар з Розена і пан Арнольд Стойве, што знаходзіцца ў месце біскупа; ад капітулы - пан Ёган Малендзінум і пан Томас; ад біскупа з Эзэля – пан Барталамей з Фелліна і пан Лудольф з Веццінгофа, канонік з Гапезэвеле; ад біскупа з Дэрпта і ўсіх яго васалаў і яго места – пан Герман Ланге; ад намесніка высакароднага караля Даніі і яго васалаў – брат Арнольд, прыёр з Рэвеля і пан Генрых з Парэнбеке; ад магістра і ўсіх братоў з Лівоніі – брат Ёган з Левенброке, комтур Мітавы, брат Ота Брамгорн; ад места Рыгі – пан Генрых з Мітавы, пан Ёган Лангезідэ і пан Эрнэст, ад таго ж места; брат Вессель, прыёр прапаведнікаў; ад братоў мінарытаў – брат Альбрэхт Склют.

Мы з гэтымі вышэйназванымі, з рады і згоды мудрэйшых, устанавілі трывалы мір з усімі хрысціянамі, якія адпраўляюць нам сваіх паслоў і хочуць падтрымліваць з намі мір, наступным чынам:

[1] Што ўсе дарогі па сушы і па вадзе павінны быць адкрытыя любому чалавеку для праходу і праезду [ад] іх і да нас і [ад] нас да іх без якіх-небудзь перашкодаў.

[2] Вось зямля, на якой мы ўстанавілі мір: з нашага боку – зямля Аўкштота і Жамойць, Пскоў і ўсе землі рускіх, якімі мы валодаем; з боку паноў зямлі – біскупства Рыжскае і места Рыга; з боку магістра – Мемель і зямля Курляндская і ўсё, што адносіцца да Інфлянтаў, што падлягае ўладзе магістра і яго братоў; з боку біскупа Эзеля – усё яго біскупства і ўсё, чым ён валодае; з боку біскупа Дэрпта – усё яго біскупства і ўсё, чым ён валодае, з местам Дэрптам; з боку караля Даніі – Гарыя, Вірляндыя, Аллентакен і ўсё, чым ён валодае. Гэты мір мы такім чынам устанавілі.

[3] Калі будзе так, што з якім-небудзь чалавекам хто-небудзь учыніць несправядліва, то ён павінны патрабаваць [спаганы] ад таго, хто ўчыніў крыўду і патрабаваць [рашэння] сваёй справы па праве зямлі.

[4] Калі пры гэтым будзе так, што яму не магло быць дадзенае поўнае задавальненне па праве, то ён гэтую [справу] павінны давесці да паноў зямлі, у якой адбылася несправядлівасць, яны павіны даць яму поўнае задавальненне па праве.

[5] Далей. Калі якая-небудзь маёмасць будзе звезеная ў другую краіну, яе належыць вярнуць туды, дзе адбылося.

[6] Далей, калі захоча вольны чалавек паехаць з адной краіны ў другую, ён можа гэта свабодна ўчыніць.

[7] Калі ўцякае халоп з адной краіны ў другую, то належыць яго выдаць, калі запатрабуюць.

[8] Калі будзе так, што адзін чалавек запатрабуе ў іншай краіне ў другога [сваю] нерухомую маёмасць ці якую-небудзь іншую рэч, гэта належыць выдаць там, дзе адбудзецца.

[9] Гэтая мір [ная дамова] павінна быць моцная і трывалая, і ніводзін чалавек не павінны яе парушаць. Калі будзе так, што які-небудзь чалавек, нам падуладны, захацеў бы парушыць гэты мір, ён не можа мець на тое права без нашай згоды. Хто захацеў бы адмовіцца ад гэтага міру па праве, той павінны папярэдзіць другога за два месяцы.

[10] Каб уся гэтая справа дружалюбна і найлепшым чынам захоўвалася паміж намі, мы даём у нашай краіне кожнаму чалавеку, які да нас прыедзе або ад нас паедзе, рыжскае права.

[11] І кожны з абодвух бакоў, які жадае купіць тавар, [няхай] вядзе любы гандаль, які захоча.

А дзеля пацвярджэння гэтай вышэйназванай справы і для замацавання трывалага міру мы прывесілі да гэтай граматы нашую каралеўскую пячатку. Гэтая грамата складзеная ў нашым замку ў Вільні ў тысяча трыста дваццаць трэцім годзе ад божага нараджэння, у нядзелю, пасля дня святога Міхаіла.

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. С. 64 – 75.

Хрысціянскія паслы палічылі дасягнутую дамову настолькі важнай, што склалі і падпісалі дадатковы акт Віленскага міру, дзеля надання яму большай вагі.

Захавалася даволі шмат тагачасных дакументаў, з якіх вынікае, што галоўным праціўнікам Віленскага міру, а таксама хрышчэння Гедыміна выступіла дзяржава Тэўтонскага ордэна ў Прусах. Яна не залежала ад гандлю ва Усходняй Прыбалтыцы ў такой ступені, як інфлянцкія браты (мела ў валоданні ніжняе цячэнне Віслы і балтыйскія парты), тут ёй патрэбна было пашырэнне дзяржаўнай тэрыторыі. Аднак крыжацкая дзяржава залежала ад добрых адносінаў да сябе адной з дзвюх універсальных сілаў заходняга свету – папства. Задачай ордэнскай дыпламатыі (якая мела багацейшы за ліцвінскі вопыт) стала не дапусціць да замірэння і хрышчэння Гедыміна, таму што рэалізацыя гэтых спраў перакрыжоўвала ўсе планы зямельных набыткаў, якія Ордэн мог атрымаць толькі сілай зброі пад прыкрыццём лозунгу пашырэння хрысціянства.

Аднак Тэўтонскі ордэн апынуўся ў складанай сітуацыі, бо не мог абаперціся на мясцовых немцаў. Вайна ў рэгіёне насамрэч патрэбная была толькі братам-рыцарам. Астатнія тутэйшыя немцы і датчане хацелі гандляваць. Ордэн не мог адкрыта праціўіцца хрышчэнню язычнікаў, бо гэта азначала адмову ад місіі, дзеля якой ён і быў створаны. Адзіным магчымым спосабам супрацьдзеяння з боку братоў-рыцараў было выкрыццё Гедыміна, менавіта – няшчырасці, ілжывасці яго намераў. Ордэнская дыпламатыя імкнулася давесці ўсяму хрысціянскаму свету, што ліцвінскі гаспадар хітруе, у сапраўднасці не мае намеру ні падтрымліваць мір з заходнімі анклавамі, ні прымаць хрысціянства. Прынамсі, у апошнім крыжакі мелі трохі рацыі – для Гедыміна хрышчэнне не з'яўлялася справай унутранага пераканання, духоўнага паклікання, а толькі халодным палітычным разлікам (што ён, дарэчы, не надта і хаваў). Але гэта ўжо былі нюансы.

Раней прадстаўнікі Інфлянцкага ордэна – адзін святар і тры рыцары - прысутнічалі пры зачытванні лістоў Гедыміна. Іх запыталі, што яны думаюць пра змест пасланняў. Тыя дэкляравалі падтрымку Гедыміну ў ягоным намеры хрысціцца, аднак заявілі, што калі да прыняцця ім хрысціянства ліцвіны падымуць руку на хрысціянаў (а такога ад іх можна чакаць), то ў такім выпадку Ордэн будзе помсціцца[244].

Пазіцыя папы ў справе хрышчэння ліцвінскага манарха выглядае адназначнай – Ян XXII сапраўды спадзяваўся далучыць да каталіцкага свету яшчэ адну краіну і ўсур'ёз успрыняў дэкларацыю Гедыміна. Пра гэта сведчыць ягоная дзейнасць пасля атрымання ліста ад ліцвіна. Пантыфік паведаміў пра намер Гедыміна свайму саюзніку – французскаму каралю, падрыхтаваў і выправіў легатаў з адпаведнымі паўнамоцтвамі і выслаў булу да магістра Тэўтонскага ордэна з інфармацыяй пра выезд легатаў і забаронай атакаваць Літву пасля хрышчэння Гедыміна. Тое, што ягоны адказ Гедыміну і адпраўка

[244] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 21 – 22.

легатаў затрымаліся больш чым на год, у той час не было нечым дзіўным. Французскаму каралю пра намер Гедыміна папа напісаў ужо 7 лістапада 1323 г.[245]

Гэтаксама шчыра да міру ў рэгіёне і да хрышчэння Гедыміна імкнуліся сканфліктаваныя з Ордэнам месцічы Рыгі са сваім архібіскупам, якія такім чынам маглі пазбавіцца палітычнай няручнасці саюзных адносінаў з язычнікам.

Дыпламатычная актыўнасць Гедыміна выклікала ў адказ акцыю супрацьдзеяння з боку крыжакоў. Ажыццявіць яе было не проста, бо супраць Ордэна стаяў не толькі язычніцкі манарх, але і свае браты-хрысціяне – месцічы Рыгі і найвышэйшы духоўны іерарх у рэгіёне – рыжскі архібіскуп. Між іншым, у 1223 г. архібіскуп Фрэдэрык, асабіста прысутны ў Авіньёне, выступіў з вельмі сур'ёзнымі абвінавачваннямі супраць ордэнскіх рыцараў і звязаных з імі манахаў, менавіта закідаў ім, што перашкаджалі місіянерам у працы, не давалі будаваць новыя касцёлы, а старыя нішчылі, параненых у баі братоў дабівалі, а іх целы палілі, парушалі правы архібіскупа і месцічаў Рыгі, захапілі берагі Дзвіны, каб перакрыць гандаль па рацэ – усяго было 12 пунктаў абвінавачвання. Браты-рыцары віны не прызналі, але папа выдаў спецыяльную булу, у якой забараніў усе тыя пералічаныя па пунктах чыны[246].

Ордэнская дыпламатыя дзейнічала абачліва і асцярожна, яе рупарам сталі святары з Прусаў, якія не з'яўляліся сябрамі Ордэна. Контрдзеянні, якія мелі на мэце не дапусціць хрышчэння Гедыміна, праводзіліся таксама ў некалькіх кірунках. Крыжакі дзеля агітацыі супраць Гедыміна, менавіта – абвінавачання ў няшчырасці мірных намераў, скарысталі ліцвінскі паход на Добжыньскую зямлю, праведзены незадоўга да падпісання трактата. 14 верасня 1323 г. Гедымін выслаў войска на Добжынь па просьбе свайго зяця Вацлава (Ванько), князя плоцкага, які варагаваў з добжыньскай княгіняй Настассяй. Паход, узначалены самім Вацлавам, прынёс вялікія спусташэнні Добжыньскаму княству, у тым ліку была захопленая і абрабаваная яго сталіца. Сярод іншых пацярпелі каталіцкія святары, іх касцёлы і маёмасць[247]. У літаратуры выказвалася таксама думка, што паход быў звязаны са справай галіцка-валынскай спадчыны[248]. Крыжакі прадставілі гэты напад як вайну язычнікаў супраць хрысціянаў[*] і як доказ вераломства Гедыміна. Маўляў, шле лісты да папы з абяцаннем хрысціцца, а сам у гэты час высылае войскі рабаваць і забіваць хрысціянаў. Дэталёвае і, напэўна, перабольшанае апісанне таго нападу Дусбургам, верагодна, таксама ўкладвалася ў рамкі дыпламатычнай контракцыі Ордэна.

> [*] "І без сумніву належыць асцерагацца таго і маркоціцца над тым, што з прычыны знішчэння ўпамянутага княства няверныя будуць мець лягчэйшы доступ да блізкіх і суседніх хрысціянскіх краёў. Вось як многа зла напаткалі хрысціянская вера і вернікі на працягу паўтара года, калі няверныя забілі, або вывелі ў працяглую няволю амаль дваццаць тысяч хрысціянаў і датла знішчылі шмат гарадоў і замкаў."
>
> Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 227.

Кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна, па ўсёй верагоднасці, інспіравала выступленне ў сваю падтрымку біскупаў з ордэнскай дзяржавы. Неўзабаве пасля падпісання Віленскага міру (ужо 16 кастрычніка 1323 г.) сабралася вармінская капітула (Вармінскае біскупства ў Прусах захоўвала адносную аўтаномію ад ордэнскіх уладаў). Па яе рашэнні

[245] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 10.

[246] Skarbiec diplomatów papiezkich, cesarskich, królеskich, książęcych. red. I.Daniłowicz. Wilno, 1860. T. I. № 296. C. 152 – 153.

[247] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 227.

[248] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … S. 59.

біскуп выступіў з адкрытым пісьмом да ўсіх хрысціянаў, у якім заклікаў не даваць веры тым, хто абвінавачвае ордэнскіх рыцараў у перашкодзе хрышчэнню язычнікаў, а таксама ў нападах на ліцвінаў: "*бо яны* [ліцвіны – *А.К.*] *імкнуцца па меры сваіх сілаў скрушыць у народзе хрысціянскім імя господа нашага Іісуса Хрыста і хрысціянскую каталіцкую веру*"[249]. Далей ішло драматычнае апісанне апошніх ліцвінскіх нападаў на Інфлянты і Добжыньскую зямлю.

У Эльблёнгу 24 кастрычніка таго ж года сабраліся прускія біскупы і таксама адкрытым лістом заявілі, што мір, падпісаны ў Вільні, з'яўляецца ганьбай для ўсяго хрысціянскага свету і яго трэба скасаваць. У лістападзе францішкане з Прусаў звярнуліся да хрысціянаў з заклікам не даваць веры скаргам Гедыміна на перашкоды ў хрышчэнні з боку Ордэна.[*] Ордэнскія апалагеты выказвалі сумненні ў аўтэнтычнасці лістоў ліцвіна, а таксама намякалі, што Гедымін толькі ўдае намер хрысціцца, які яму падсунулі рыжане з меркантыльных разлікаў. А біскуп Варміі ў лісце да месцічаў Любека выказаў нават падазрэнне ў фальсіфікацыі пасланняў Гедыміна рыжанамі.

[*] Пасланне 11

**25 лістапада 1323 г. Пасланне Мікалая, Стража прускіх мінарытаў (францішканаў) да вернікаў**

Усім, хто верыць у Хрыста, хто жадае азнаёміцца з гэтым пасланнем, брат Мікалай, страж прускай кустодыі мінарытаў разам з рэштай пастыраў, давераных яго апецы, [шле] шчырую любоў у госпадзе.

Калі настаўнікі праўды бачаць, як падман шкодзіць праўдзе, то яны павінны не толькі спачуваць пацярпелым, але даваць ім, з карысцю для справы, дапамогу належнымі сродкамі. Таму, пабачыўшы, як добрае імя веруючых мужоў, паноў з Тэўтонскага дому, цяжка і незаслужана ачэрненае на той падставе, што некаторыя з іх праціўнікаў асмельваюцца сцвярджаць, нібыта яны [браты Тэўтонскага ордэна] моцна імкнуцца перашкодзіць ліцвінскаму каралю ў жаданні прыняць разам са сваімі падданымі каталіцкую веру, мы дзеля справядлівасці і ў апраўданне вышэйназваных паноў, у адпаведнасці з тым, што для нас цалкам і поўнасцю высветлілася з нядаўніх падзеяў, паведамляем у гэтым пасланні ўсім вам: гэты раней памянуты кароль разаслаў па некаторых вобласцях свету пасланні, у якіх ён аб'яўляе, што жадае разам са сваімі набліжанымі і ўсім каралеўствам хрысціцца і злучыцца з веруючымі народамі.

Аднак шматлікія паўнамоцныя паслы, якія прыбылі з гэтай мэтай да яго, не толькі даведаліся, што гэта падман, але больш за тое, нават, чулі, як ён сам блюзнерыць [імя] госпада.

І гэтага мала – прыхільнікі караля адусюль пачалі ўрывацца ў межы хрысціянаў, наносячы шкоду тым, што агромністую колькасць людзей абодвух палоў, акрамя забітых і спаленых у цэрквах, якім няма ліку, яны захапілі ў палон [і] пагналі далёка ўглыб краіны.

[249] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 9. С. 76 – 77.

Значыцца, якім чынам можа быць дакладным ці верагодным тое, што вышэйзгаданыя мужы, якія, пакінуўшы свет і аддаўшыся так вялікай дабрачыннасці дзеля абароны хрысціянаў, штодзённа падвяргаюць сябе небяспекам і нават часцей, як мы з пэўнасцю заўважылі, ідуць на смерць, могуць перашкаджаць навяртанню вышэйзгаданага караля і яго народу, у той час, як кароль і яго прыхільнікі бясконца робяць вялізную шкоду хрысціянам і ім самім [панам Тэўтонскага дому]?

Так, імкнучыся, каб праўдзівае сведчанне пра вышэйзгаданае паслужыла на карысць і хвалу названым раней панам, мы замацоўваем гэтае пасланне, прывесіўшы [да яго] нашыя маестатныя пячаткі.

Дадзена ў Кульме, у божае лета 1323, у дзень [святой] Кацярыны.

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 11.

Вельмі праўдападобна, што лісты прускіх святароў з апалагетыкай Ордэна ўзніклі з ініцыятывы ўладаў апошняга. Мяркуючы па хуткасці і вастрыні рэакцыі, крыжакам сапраўды залежала на сарванні Віленскага міру.

Браты-рыцары сабралі з'езд прадстаўнікоў інфлянцкіх гарадоў у Дзюнамюндэ, падчас якога беспаспяхова намаўлялі рыжан да разрыву міру з Гедымінам. Яны арганізавалі таксама блакаду Рыгі, найперш з боку Літвы. Адначасова ордэнскія дыпламаты спрабавалі адахвоціць Гедыміна ад хрышчэння шчодрымі, але не споўненымі абяцанкамі – узнагародзіць за прыняцце каталіцтва тысячай грыўнаў срэбра і перадаць два памежныя замкі – Дзюнабург і Месоту. Рыжскі архібіскуп ацаніў тое як хітрасць – прымусіць ліцвіна бясконца чакаць узнагароды і з-за гэтага адкладваць хрышчэнне[250].

У 1323 г. Інфлянцкі ордэн аформіў саюз з Вялікім Ноўгарадам, скіраваны супраць Літвы і Пскова. Паводле дамовы, ніводзін з бакоў не мог заключаць мір з Літвой без ведама другога. Калі пскавічы не адмовяцца ад саюзу з Літвой, належыць аб'яднанымі сіламі з імі ваяваць, пакуль не паддадуцца Вялікаму Ноўгараду[251].

Ноўгарадска-ордэнскі трактат адкрываў гандлёвую дарогу ў гэтую рэспубліку праз эстонскія землі, што змяншыла значэнне даўняй дарогі праз Літву. Рыжскія месцічы пісалі ў сталіцу Ганзы Любек, што пасля гэтай дамовы рыжскіх купцоў у Вялікім Ноўгарадзе арыштавалі і выпусцілі толькі праз паруку купцоў ганзейскіх. У адказ на закіды з боку прускіх біскупаў (маўляў, рыжане заключылі Віленскі мір, дбаючы толькі пра матэрыяльную выгоду), месцічы адказвалі, што Інфлянцкі ордэн таксама ў гэтай справе дбае пра свой прыбытак. Браты-рыцары парушаюць агульную мірную дамову, але пры гэтым назапасілі ў пагранічных з Літвой гарадах тавары і дзеля іх рэалізацыі трымаюць з Літвой асобны патаемны мір. Рыжане, як і сам ліцвінскі кароль, пацвердзілі аўтэнтычнасць лістоў Гедыміна[252].

Уся гэтая перапіска сведчыць, што ў канфлікце між інфлянцкімі немцамі стрыжнем з'яўляліся даходы ад вялікага гандлю. З яе таксама вынікае, што Гедымін у прыбалтыйскіх палітычных гульнях меў значную свабоду дзеяння – сам выбіраў саюзы, а не іх яму навязвалі.

Паколькі Інфлянцкі ордэн з'яўляўся філіяй Тэўтонскага, то яго ўдзел у віленскім трактаце быў абавязковым для ўсёй Ордэнскай дзяржавы. Прускія крыжакі мусілі, прынамсі фармальна, яго шанаваць. Аднак як прускія, так і інфлянцкія браты-рыцары

[250] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 26 – 30, 28 – 29, 40.

[251] Грамоты Великого Новгорода и Пскова. Москва-Ленинград, 1949. С. 66. № 37.

[252] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 15.

не намерваліся "падымаць прылбіцу"[253] і не трымаліся міру да таго часу, пакуль ім не забараніў нападаць на Літву папа (булай ад 1 чэрвеня 1324 г.), а пазней ягоныя легаты, якія прыбылі ў Рыгу. Інфлянцкія крыжакі дзейнічалі больш абачліва, праводзілі толькі дробныя разбойныя напады, стараліся найперш перарваць сувязь паміж Літвой і Рыгай. Прускія браты-рыцары працягвалі адкрытую вайну, прычым яшчэ больш актыўна, чым раней. У першай палове 1324 г. яны правялі прынамсі тры паходы ў Літву, адзін у пачатку года не адбыўся з-за неспрыяльнага надвор'я. Тады браты-рыцары і крыжаносцы з Чэхіі і Германіі не змаглі рушыць па прычыне слабога лёду на рэках. Буйны ордэнскі атрад з Натангіі ў пачатку сакавіка 1324 г. спустошыў уладанне Давыда Гарадзенскага; у канцы траўня ордэнскае войска спаліла ваколіцу "замка Гедыміна", прыблізна ў той жа час рыцары-разбойнікі з Вармінскага біскупства правялі рабаўнічы напад на Літву. У ліпені ліцвінскі атрад спрабаваў штурмам здабыць замак Хрыстмемель[254]. Гедымін у сваім лісце, напісаным пасля 22 верасня 1324 г., пералічыў варожыя дзеянні інфлянцкіх рыцараў, якія высылалі на ягоную тэрыторыю банды рабаўнікоў, няволілі ліцвінскіх паслоў і ганцоў[*]

[*] Пасланне 16.

**[пасля 22 верасня 1324 г.] Пасланне Гедыміна біскупам дэрптскаму, эзэльскаму, дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі і радзе г. Рыгі** (друкуецца без некалькіх фрагментаў – *А.К.*)

Гедымін, кароль ліцвінаў і рускіх.

Шанаваным у Хрысце айцам і панам біскупам дэрптскаму, эзэльскаму, намесніку зямлі рэвельскай, а таксама радцам горада Рыгі і ўсім астатнім, хто з намі ў міры, [шлём] сваю дружбу і літасць.

Мы паведамляем вам, усім і кожнаму, і сумуем з болем у сэрцы, што мір, які быў устаноўлены паміж намі і змацаваны з абодвух бакоў пасланнямі і зацверджаны панам папай, цяпер без усялякай нашай віны варожа парушаны крыжаносцамі, братамі Тэўтонскага ордэна, якія, не выконваючы ўмоваў дамовы і грэбуючы тым, што павінны паведаміць за два месяцы да таго, як парушыць мірную дамову, і не задумваючыся пра справядлівасць, зрабілі вялікую шкоду падуладным нам землям, быццам людзі, якія забыліся пра ўратаванне душы.

І перш за ўсё тым, што захапілі ў палон шасцярых, якія жылі побач з імі, каб атрымаць за іх выкуп, і двух бязлітасна забілі.

Таксама паўсюдна на дарогах – і на сушы і на вадзе – яны паставілі сваю варту, так што ніхто ні ад вас да нас, ні ад нас да вас не можа прайсці, хоць гэта выразна супярэчыць прадугледжанаму ў пасланнях з абодвух бакоў.

Таксама яны забілі аднаго паляўнічага з Упіты, а двух, захапіўшы ў палон, звялі.

Таксама ўкралі тры кані ў Войната [і] адвялі іх да брата па імю Унгнадэ.

Таксама яны, пэўна, захапілі б наш замак Мядзела, калі б ён не быў так добра ўмацаваны, аднак мноства людзей яны забілі і іншых павялі з сабой.

Таксама зямлю полацкую яны па-варожаму разарылі, людзей і коней захапілі [і] звялі; частку з іх вярнулі, але, на немалую шкоду для душаў сваіх, усё яшчэ гвалтам трымаюць дваццаць чалавек.

[253] г. зн. спыніць вайну; прыбліца рыцарскага шлема апускалася ў баі.
[254] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 228 – 230.

Таксама дакладна сорак дзён пазней яны зноў, быццам драпежныя ваўкі, жорстка спустошылі тую ж зямлю, бязлітасна забілі восемдзесят чалавек, [а] некаторых звялі з сабой [разам] з пяццюдзесяццю цудоўнымі коньмі, вопраткай і іншым дабром, якога не злічыць.

Таксама яны прынялі каля трохсот халопаў, падлеглых пакаранню, якія ўцяклі з нашых уладанняў, і ніводнага з іх не вярнулі.

(...)

Таксама яны [крыжаносцы] парушылі вернасць [мірную дамову], калі, паабяцаўшы нашым паслам бяспечны доступ у свае ўладанні, захапілі ў палон, тых, хто прыйшоў, за выключэннем Лессэ, якога яны, пакалечыўшы, адпусцілі. Што сталася з іншымі, не ведаем па сённяшні дзень. Коней і ўсю маёмасць іх затрымліваюць [браты-крыжаносцы].

Таксама мы, пасля таго як пачулі, што пан архібіскуп [Фрэдэрык] вярнуўся з курыі, накіравалі да яго, даведацца пра здароўе, нашага пасла; яны названага пасла павесілі.

Таксама было дамоўлена, што яны павінны вярнуць два замкі, менавіта – Дзюнабург і Межотнэ, чаго яны не зрабілі.

Усе гэтыя памянутыя раней страты мы панеслі пасля [заключэння] названай мірнай дамовы.

Звыш таго, яны [пасля заключэння міру] усюды, дзе толькі могуць, стараюцца па меры сілаў... пазбавіць нашых людзей гэтага міру. Так што мір паміж намі доўга захоўвацца не зможа, калі вы да гэтага не знойдзеце іншай дарогі

(...)

Дадзена ў Вільні у дзень святой троіцы. У знак сапраўднасці мы палічылі патрэбным прымацаваць да гэтага [паслання] нашу пячатку.

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 16. С. 166 – 173.

**Каментар**. У пасланні ёсць цікавая інфармацыя наконт уцёкаў нявольных сялянаў з Літвы ў Прусы. То была звычайная практыка на паграніччах сярэднявечных дзяржаў, калі сяляне перабягалі з адной краіны ў другую, каб на некалькі гадоў атрымаць падаткавыя ільготы.

Гандлёвыя шляхі таксама заставаліся закрытымі, таму рыжане ліст у Любек з паведамленнем пра Віленскі мір змаглі выслаць толькі ў наступным годзе.

Папскія легаты, якія прыбылі ў Рыгу ў верасні 1324 г., каб заняцца справай хрышчэння Гедыміна і вырашыць спрэчку паміж мясцовымі немцамі, забаранілі Ордэну ваяваць з ліцвінамі, а пазней абавязалі крыжакоў яшчэ чатыры гады трымаць мір з Гедымінам. Па гэтай прычыне ў канцы 1324 г. ліцвінска-крыжацкая вайна перапынілася да 1328 г.

Ужо пасля падпісання Віленскага міру і ў чаканні адказу папы на свае пасланні, па разліках даследчыкаў дзесьці ў канцы 1323 – пачатку 1324 г., Гедымін паразумеўся ў справе антыордэнскага вайскова-палітычнага саюзу з польскім каралём Уладыславам Лакеткам[255]. Аднак Гедымін не парушаў перамір'е з Ордэнам, і ліцвінскія войскі з'явіліся на тэрыторыі Інфлянтаў і Прусіі толькі ў 1329 г. (а крыжакі правялі паход на Гародню ў 1328 г. – таксама ўжо пасля заканчэння перамір'я)[256].

[255] Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. S. 606; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 271.

[256] Герман Вартберг. Ливонская хроника [в:] Тевтонский Орден. Крах крестового нашествия на Русь. С. 150; Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 236.

## 2.1.2. Справа хрышчэння Гедыміна

Як належыць сапраўднаму палітыку, Гедымін не вызначаўся рэлігійным фанатызмам. Інакш не стаў бы вялікім дзяржаўным дзеячам у краіне пагранічча. Справу веравызнання гэты гаспадар разглядаў праз прызму дзяржаўных інтарэсаў, таму праводзіў палітыку рэлігійнай талерантнасці. Сам захоўваў веру продкаў, але многія з дзяцей сталі хрысціянамі: дочкі, якія выходзілі замуж за польскіх ці рускіх князёў, сыны прымалі праваслаўе, калі станавіліся князямі ва ўсходнеславянскіх землях (Нарымонт – Глеб, Любарт – Дзмітры, Карыят – Міхаіл, Яўнута – Іван; апошні хрысціўся ў Маскве ў 1345 г.[257]). Гедымін падтрымліваў праваслаўную Літоўскую мітраполію, адначасова дапусціў у краіну каталіцкіх місіянераў, збудаваў для іх касцёлы і сам з палітычных матываў гатовы быў прыняць хрышчэнне па каталіцкім абрадзе.

Літоўская праваслаўная мітраполія пачыналася нават раней за галіцкую, менавіта ў 1300 г. Першыя згадкі пра літоўскага мітрапаліта адносяцца да сярэдзіны 1315 – 1320 г., бо ранейшыя акты згінулі. Даследчыкі выявілі, што літоўская мітраполія існавала ў першыя тры дзесяцігоддзі 14 ст. і ўзнікла стараннямі візантыйскага імператара Андроніка II. Першым вядомым у гісторыі літоўскім мітрапалітам быў Тэафіл. Адзіная згадка ягонага імя адносіцца да 1329 г. Па дакументах канстанцінопальскага патрыярха ўдзел у сінодах у 1317 і 1327 г. браў літоўскі мітрапаліт, але па імю не названы. Месцам яго рэзідэнцыі быў Наваградак. Літоўская праваслаўная мітраполія часова знікла каля 1330 г. па той прычыне, што *"па-першае, у Літве хрысціяне (праваслаўныя) з'явіліся не так даўно, па-другое, яе люд знаходзіцца блізка Русі і лёгка можа быць кіраваны рускім мітрапалітам"*[258]

Сутнасць рэлігійнай палітыкі Гедыміна найлепшым чынам высвечваецца праз вывучэнне няўдалай спробы хрышчэння яго ў каталіцызм. Сама справа прыняцця Гедымінам каталіцтва ўзнікла, несумненна, па прычыне асаблівага суседа пры паўночна-заходняй мяжы Літвы – дзяржавы Тэўтонскага ордэна. Вайна за каталіцкую веру з'яўлялася галоўнай і адзінай ідэалагічнай падставай існавання Тэўтонскага ордэна. Афіцыйнай праграмай і галоўнай мэтай ягонай дзейнасці ў Прусіі аб'яўлялася поўная хрысціянізацыя мясцовых язычнікаў. У рэальнасці гэтая місіянерская дзейнасць была цесна звязана з пабудовай уласнай ордэнскай дзяржавы. Зразумела, ордэнскія браты ў кантактах з краінамі Заходняй Еўропы, заклікаючы рыцараў-ахвотнікаў для крыжовых паходаў у Прыбалтыку, экспанавалі афіцыйную частку праграмы. Ворагі Ордэна, наадварот, пераконвалі Еўропу, што для крыжакоў уласная дзяржава нашмат важнейшая за місіянерскую дзейнасць. Нядобразычліўцы братоў-рыцараў, падобна не без падстаў, сцвярджалі, што крыжакам нявыгадная добраахвотная хрысціянізацыя суседніх язычніцкіх земляў, бо тады Ордэнская дзяржава не мела б права іх заваёўваць. Як вывеў вядомы польскі гісторык Генрык Пашкевіч: *"Ордэн не хацеў дапусціць да хрышчэння Літвы, бо тое хрышчэнне было б не поспехам рыцараў Панны Марыі, але іхняй паразай"*[259].

Супярэчнасць паміж дэклараванай і рэальнай дактрынай Ордэнскай дзяржавы выкарыстоўвалі гаспадары ВКЛ, пачынаючы ад Міндаўга. У самыя напружаныя моманты вайны з Ордэнам, дзеля аслаблення яго мілітарнага націску, яны абвяшчалі жаданне пакінуць паганства і прыняць хрышчэнне па каталіцкім абрадзе. Тыя дэкларацыі заставаліся нерэалізаванымі (толькі Міндаўг хрысціўся, але пазней вярнуўся да веры

[257] Liedke M. Następstwa chrystianizacji Giedyminowiczów przed 1386 rokiem [w:] History, Culture and Language of Lithuania. Proceedings of the international Lithuanian conference. Poznań, 17–19 september 1998. Poznań, 2000. S. 118.

[258] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie … S. 513 – 516.

[259] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 258.

продкаў) ажно да часоў Ягайлы. Аднак і той прыняў хрышчэнне не ад крыжакоў, а з Польшчы.

Справа прыняцця хрысціянства ліцвінскімі гаспадарамі мела не толькі рэгіянальнае палітычнае значэнне, але і значна больш шырэйшае цывілізацыйнае вымярэнне. Паводле сярэднявечнай, наскрозь тэалагічнай ідэалогіі, акт хрышчэння ў каталіцтва азначаў далучэнне да буйной цывілізацыйнай супольнасці – заходнееўрапейскай. Як вядома, “*рэлігія была тагачасным крытэрыем грамадзянства як у Еўропе, так і паўсюдна*”[260].

На той жа шлях-дарогу следам за папярэднікамі ступіў Гедымін, таксама з палітычнай матывацыяй і дэкларацыяй без цвёрдага намеру яе рэалізацыі. Да канца не высветлена нават, ці была тая дэкларацыя, бо, спытаны наўпрост, гаспадар сцвярджаў, што ніколі не намерваўся і тым больш не выказваў афіцыйна жаданне стаць хрысціянінам-католікам. У адрозненне ад Міндаўга, Гедымін меў нашмат большую свабоду манеўра, бо пры ім не існавала пагрозы самому існаванню дзяржавы.

Пра тое, што дэкларацыя сапраўды мела месца, сведчаць захаваныя ў архівах лісты Гедыміна (гл. с. 118, Пасланне 14). На іх падставе каталіцкі першасвятар Ян XXII у чэрвені 1324 г. прыняў рашэнне выслаць легатаў у Прыбалтыку. Папскія прадстаўнікі – французскія духоўныя біскуп Барталамей і бенедыктынскі абат Бернард выехалі ў Рыгу з даручэннем “*прыняць ва ўлонне каталіцкай царквы*” новага слаўнага верніка і разабрацца на месцы ў прыбалтыйскіх канфліктах: рыжска-крыжацкім і ліцвінска-крыжацкім. Разам з легатамі прыбыў рыжскі архібіскуп Фрэдэрык, якому папа даў глейт бяспекі, каб той мог вярнуцца ў сваю дыяцэзію. Ян XXII выслаў лісты да Гедыміна і кіраўніцтва Ордэна. Ліцвіну выказаў вялікую радасць з намеру прыняць хрысціянскую веру, паведаміў пра адпраўленне легатаў. Наконт скаргаў на крыжакоў інфармаваў, што вышле ім указанне ўстрымацца ад нападаў і абразаў Гедыміна, а пасля таго як ліцвінскі гаспадар прыме хрышчэнне, каб жылі з ім у згодзе. Адносна ўзаемных крыўдаў – папа даручыць правесці адмысловы судовы працэс і спадзяецца, што калі Гедымін прызнае ўладу папы, то прызнае і ягоны прысуд. Абяцаны ліст быў высланы ў Ордэн 1 чэрвеня 1324 г.: Ян XXII выказваў спадзяванне на поспех місіі легатаў, напамінаў, каб з уладаром, які хоча прыняць хрышчэнне, браты-рыцары захоўвалі мір, а пасля хрышчэння жылі ў згодзе[*]. Праз тры месяцы (31 жніўня 1324 г.) услед за легатамі папа выслаў булу крыжакам з суровым наказам дакладна трымацца ўмоваў Віленскага міру.

[*]Пасланне 13.

**1 чэрвеня 1324 г. Пасланне Папы Яна XXII Нямецкаму ордэну.**

Ян XXII і інш. да мілых сыноў магістра і братоў Тэўтонскіх шпітальнікаў святой Марыі Іерусалімскай шле прывітанне і інш.

Ойча прамяністы, ад якога, як вядома, зыходзяць усякае дабрадзеянне і ўсялякія дасканалыя дары, падрыхтаваў, як падаецца, розум слаўнага мужа Гедыміна, караля ліцвінаў і многіх рускіх, да пазнання і прыняцця святла каталіцкай веры, што мы пазналі з верных яго пасланняў да нас і братоў нашых, кардыналаў святой рымскай царквы, накіраваных асабіста да нас; таму з нагоды настойлівага імкнення названага караля да пазнання [сімвала каталіцкай веры], мы паклапаціліся накіраваць у гэтыя землі ў якасці асобых нунцыяў апостальскага прастола шаноўнага брата нашага Барталамея, біскупа электэнзійскага і мілага брата нашага Бернарда, абата манастыра святога Тэафіла аніцыенскага біскупства, мужоў,

[260] Mundy John H. Europa średniowieczna. 1150 – 1309. C. 59.

асабліва вядомых вучонасцю, пахвальна праявіўшых сябе раней у вядзенні важных і цяжкіх спраў і гарачых прыхільнікаў каталіцкай веры, спадзеючыся, што іх рукой гэты кароль і іншыя князі і знаць разам з народам названых земляў, адроджаныя даброццю святога хрышчэння, прымуць праўдзівае і святое вучэнне каталіцкай веры і евангельскую ісціну. І паколькі гэты кароль у супярэчнасцях, цяжбах і спрэчных справах, якія, як цвердзіць, ён мае з вамі, не адмаўляецца следаваць нашаму суду і суду каталіцкай царквы, але, больш за тое, з даверам моліць пра дапамогу, то, жадаючы яго і кожнага нявернага абярнуць у каталіцкую веру, і імкнучыся, наколькі нам з Божай дапамогай удасца, дасягнуць гэтага міласцямі і захаваць дабрадзействамі, мы вас усіх пераканаўча просім, заклікаем і патрабуем, рашуча ўказваючы вам дабрадзейства дабрачыннай пакорнасці, каб пасля таго, як гэты кароль прыме па божай волі каталіцкую веру, вы цалкам адмовіліся б рабіць непрыемнасці, убыткі і несправядлівасці яму і людзям яго каралеўства, і мы жадаем нават, каб вы з названым каралём і другімі навернутымі да каталіцкай веры людзьмі гэтых земляў жылі па-братэрску і ў міры, без якога захавальнік міра шануецца недастатковa.

Мы ж, паколькі следам за апосталам павінны пільнаваць для ўсіх справядлівасць, намерваемся пасля навяртання гэтага караля ў каталіцкую веру з'явіць адносна вышэйназваных супярэчнасцяў, цяжбаў і спрэчных спраў знакі апостальскай апекі з мэтай хутчэйшага ўстанаўлення найвышэйшай справядлівасці.

Дана ў Авіньёне, у чэрвеньскія календы, у год восьмы.

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 13.

Легаты дабіраліся даволі доўга, бо ехалі па сушы, магчыма, праз Саксонію, дзе да іх далучыліся манахі-францішкане, якія выбіраліся да касцёлаў, збудаваных Гедымінам у Літве. Прыбылі ў Рыгу 22 верасня 1324 г. і пачалі дыпламатычна падрыхтоўваць выкананне галоўнай справы – хрышчэння Гедыміна. Найперш легаты месяц вывучалі справу Віленскага трактата, у тым ліку выслухалі сведкаў. У выніку папскія прадстаўнікі ратыфікавалі трактат, пры гэтым паставілі ўмову, што ён будзе распаўсюджвацца і на Прусы. Легаты заклікалі магістра і ўвесь Ордэн пад пагрозай царкоўнай кары дакладна выконваць умовы міру. Яны абвясцілі, што той, хто мір парушыць, адразу трапляе пад праклён, які можа зняць толькі папа[261]. Адносіны Ордэна да гэтай справы паказвае наступны эпізод: Гедымін, калі даведаўся пра прыбыццё пасольства, адправіў павітаць архібіскупа спецыяльнага пасла, але таго крыжакі па дарозе перахапілі і забілі[262].

Легаты не паехалі ў Вільню асабіста, а скіравалі да Гедыміна пасланнікаў, якія павезлі фармальную прапанову прыняць хрысціянства. Паслы мелі атрымаць афіцыйнае пацверджанне намеру хрышчэння. Відочна, што папскія легаты не былі пэўныя сапраўдных намераў Гедыміна – сваю ролю адыграла актыўная ордэнская прапаганда па дыскрэдытацыі ліцвінскага гаспадара. Цікава, што падчас знаходжання пасланнікаў у Вільні Гедымін даваў аўдыенцыю татарскаму пасольству – *"быў заняты з татарамі"*, як напісалі пасланнікі – рэдкае сведчанне пра дыпламатычныя кантакты Літвы з Ардою.

Паслы легатаў прыехалі да Гедыміна ў Вільню 3 лістапада 1324 г. Пазней, калі ўжо вярнуліся ў Рыгу, яны прадставілі дэталёвую пісьмовую справаздачу пра свой побыт у Вільні, размовы з Гедымінам і людзьмі з яго атачэння. Гэты дакумент[*], за-

[261] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 38 – 40.

[262] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. С. 172 – 173.

хаваны ў архіве Рыжскага магістрата, для нас надзвычай рэдкае і каштоўнае сведчанне з эпохі сярэднявечча, якое належыць не толькі гісторыі дыпламатыі, але ўтрымлівае шмат важнай інфармацыі пра ўнутраны лад ВКЛ, рэлігійную палітыку вялікага князя[263]. Чаго варта адно выказванне гаспадара наконт верацярпімасці, якое яшчэ і сёння гучыць актуальна!

[*] Пасланне 14.

**[1324 г.] Паведамленне пасланцоў папскіх легатаў** (фрагменты)

Калі мы прыйшлі да караля, які ўссядаў разам з дарадцамі ў сваіх палатах, мы ўручылі яму пасланні паноў легатаў, пана архібіскупа, біскупа эзэльскага і дэрпцкага і радцаў Рыгі, якія ён літасціва прыняў.

(...) Пасля таго, як адбылася трапеза, кароль паслаў за намі, але калі мы прыйшлі, мы знайшлі яго ў каралеўскіх палатах разам з яго дарадцамі, прыкладна дваццаццю, што нам было вельмі непрыемна, бо мы спадзяваліся знайсці яго аднаго.

(...) Тады кароль спытаў, ці ведаем мы, што было ў пасланні, якое ён скіраваў пану апостальскаму намесніку і архібіскупу і ўсяму свету.

Мы сказалі, які быў сэнс паслання, маўляў, кароль жадаў прыняць хрысціянскую веру і хрысціцца.

Тады ў адказ ён пачаў гаварыць, што не загадваў пісаць гэтага, а калі брат Бертольд* напісаў, то няхай гэта ўпадзе на яго галаву. "Але калі ў мяне быў калі-небудзь [такі] намер, то няхай мяне ахрысціць д'ябал".

Пасля гэтага ён пачаў пераконваць, што ён хацеў бы, як ён і пісаў, пана апостальскага намесніка лічыць бацькам, бо, ён старэйшы за мяне, і такіх я буду лічыць бацькамі, і пана архібіскупа лічу бацькам, бо ён старэйшы за мяне, а маіх равеснікаў я буду лічыць братамі, а тых, хто маладзей за мяне – сынамі, і няхай хрысціяне шануюць бога свайго па-свойму, рускія – па-свойму, палякі – па-свойму, а мы шануем бога па нашым звычаі, і ва ўсіх [нас] адзін бог.

(...) Пасля гэтага, на наступны дзень перакладчык караля, хрысціянін, паклікаў нас на падворак братоў мінарытаў**. Там мы знайшлі каралеўскага паўнамоцніка разам з ягонымі саветнікамі ў прысутнасці братоў дамініканцаў і мінарытаў, і гэты вось каралеўскі паўнамоцнік спытаў у братоў-мінарытаў, хто [пісаў] першае пасланне, скіраванае апостальскаму намесніку.

Брат Генрых адказаў, што тое пасланне, з якім кароль накіраваў свайго ўласнага пасла ў горад, пісаў ён сам.

(...) Тады [паўнамоцнік] спытаў у брата Бертольда, ці не ён складаў пасланне, нібыта кароль хоча хрысціцца.

Той адказваў, што ён складаў другое пасланне, якое было накіраванае праз радцаў Рыгі, і ў ім нічога не пісаў, акрамя таго, што сыходзіла з вуснаў самога караля, што, маўляў, **той жадае быць пакорным сынам і ўвайсці ў лона святой маці-царквы** (выдзяленне тут і далей маё – *А.К.*), прыняць хрысціянаў, карацей кажучы, праслявіць веру хрыстову, бо ён усвядоміў сваю [духоўную] аблуду***.

І паўнамоцнік сказаў у адказ так: "Значыць, ты **прыпамінаеш, што кароль не загадваў табе пісаць пра хрышчэнне**?"

[263] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. С. 116 – 145.

Тады сам Бертольд і брат Мікалай з Ордэна дамініканцаў і мы ўсе запярэчылі, што быць пакорным сынам і ўвайсці ў лона святой маці царквы ёсць не што іншае, як хрышчэнне.

На гэта паўнамоцнік і брат Мікалай сказалі ў адказ, што менавіта брат Бертольд быў тым, хто ўвёў караля ў такую вялікую аблуду, і сказаўшы так, яны адышлі.

(...) Пазней мы пачулі ад брата Генрыха, брата Бертольда і іншых братоў і нават ад асобаў не духоўнага звання, што браты з Прусаў далі шмат дарагога адзення і дабра тым, хто ўплывовы ў Жамойці, таму тыя падняліся супраць караля, кажучы, што, калі ён прыме веру, яны захопяць яго самога, сыноў і ўсіх блізкіх да яго і пры садзеянні братоў Тэўтонскага дома прагоняць яго з каралеўства і цалкам вынішчаць.

Такія пагрозы яны шмат разоў кідалі ў твар каралю; тым самым каралю пагражалі і рускія, і нібыта таму кароль адхіліўся [ад прыняцця] веры, так што ён не адважваецца больш гаварыць пра хрышчэнне.

**Каментары**:

* манах-францішканін, пісаў лісты Гедыміна на латыні

** францішкане

*** у вядомых нам лістах Гедыміна ўжываюцца наступныя фармулёўкі (выдзяленне маё – *А.К.*): Пасланне №2: "мы гатовыя, як і іншыя хрысціянскія каралі, **ва ўсім вам следаваць і прыняць каталіцкую веру**"; Пасланне № 3 "...мы накіравалі нашага пасла з граматай да пана апостальскага намесніка і святейшага айца нашага, **жадаючы прыняць каталіцкую веру**"; Пасланне № 4: "...нашаму айцу святейшаму пану папе **мы дзеля яднання з царквой божай** накіравалі нашае пасланне.."; Пасланне № 5: "... мы накіравалі нашых паслоў з граматай да найслаўнейшага айца нашага папы Яна, каб ён **апрануў нас у першую столу**" (Стола – элемент літургічнага адзення ў выглядзе доўгай стужкі – *А.К.*); Пасланне № 6: "мы накіравалі наша пасланне да найвышэйшага айца нашага пана Яна, першасвятара апостальскага прастола, каб ён **паспрыяў нам, як і рэшце сваіх авечак, дасягнуць багатай пашы**."

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 14. С. 116 – 145.

Гаспадар сустрэў легацкіх пасланцоў у атачэнні сваёй рады, прыняў лісты ад легатаў, архібіскупа, біскупаў Эзелю і Дэрпту, ратманаў Рыгі. Размову перанёс на наступны дзень, патлумачыўшы, што гасцям трэба адпачыць з дарогі. Назаўтра падчас афіцыйнай аўдыенцыі ў прысутнасці сяброў сваёй рады Гедымін заявіў, што асабіста ніколі не дэклараваў жадання прыняць каталіцтва, а непаразуменне ўзнікла з-за недакладнай перадачы пісцом ягонага выказвання на латыні.

Тое, што Гедымін сапраўды выказваў намер прыняць каталіцтва, сумненняў не выклікае – адпаведная дэкларацыя была не адзін раз паўтораная пісьмова. Аднак манарху не выпадала адмаўляцца ад свайго слова. Таму справу павярнулі такім чынам, нібыта слова ўвогуле не было і дэзавуіравалі пісца. Афіцыйна абʼявілі, што Гедымін не загадваў пісаць пра яго хрышчэнне, на той падставе, што ў ягоным пасланні само слова "хрышчэнне" не ўжывалася.

Сярод гісторыкаў выказвалася меркаванне, што Гедымін фактычна звяртаўся да папы па арбітраж між Літвой і крыжакамі, а пра прыняцце хрысціянства гаварыў толькі "*пэўнымі агульнымі выразамі*"[264]. Ягоны ліст у гэтай справе меў на мэце падтрымаць саюзніка – рыжскага архібіскупа Фрэдэрыка (1304 – 1341 г.), які ў Авіньёне вёў працэс,

[264] Zajączkowski S. Rec.: Forstreuter K. Die Bekehrung Gedimins und der Deutsche Orden. S. 278 – 279.

скіраваны на ліквідацыю Ордэна[265]. Такая версія бачыцца дакладнай толькі ў першай частцы. Дэкларацыя прыняцця хрысціянства выразна выказаная ў некалькіх лістах, і менавіта так зразумеў яе папа Ян XXII, пра што і засведчыў у сваіх пасланнях іншым адрасатам: каралю Францыі і кіраўніцтву Тэўтонскага ордэна[266].

Што змянілася, што паўплывала на пазіцыю Гедыміна за год, што мінуў пасля Віленскага міру? Найверагодней, ліцвінскі гаспадар быў расчараваны ягонымі вынікамі, дакладней, адсутнасцю вынікаў. Да таго ж унутры дзяржавы мелася моцная апазіцыя да яго намеру прыняць каталіцтва, пра што згадваецца ў справаздачы легацкіх пасланцоў.

Аб'явіўшы рашэнне адмовіцца ад хрышчэння, Гедымін вяртаўся да ранейшага спосабу высвятлення адносінаў з Ордэнам – збройнай сілы. Па інфармацыі Пятра Дусбурга, вялікае ліцвінскае войска ў лістападзе (выступіла 22 лістапада), спустошыла акругу Расіты ў Інфлянтах (паўднёва-ўсходняя Латгалія). У той самы час Давыд Гарадзенскі правёў буйны паход у Мазовію супраць крыжацкіх саюзнікаў, між іншымі спустошыўшы ўладанне плоцкага біскупа – горад Пултуск з ваколіцай. Ордэнскія прапагандысты пастараліся выкарыстаць факт гэтых выправаў для дыскрэдытацыі Гедыміна: маўляў, вось яны, сапраўдныя адносіны паганскага караля да хрысціянаў і хрысціянства[267].

Папскія легаты пакінулі Прыбалтыку толькі ў ліпені 1325 г., пэўна, выконвалі яшчэ адно заданне пантыфіка – разбіралі спрэчкі архібіскупа з крыжакамі. Адмова Гедыміна прыняць каталіцтва азначала паразу рыжскага архібіскупа ў яго змаганні супраць Тэўтонскага ордэна. Па-першае, у іерарха каталіцкага касцёла ўзнікала праблема легальнасці саюза з Гедымінам як язычнікам. Па-другое, ва Усходняй Прыбалтыцы надалей заставаліся пагане, таму і прысутнасць тут Ордэна была апраўданай. Архібіскуп Фрэдэрык пайшоў на рашучыя дзеянні: 4 красавіка 1325 г. прылюдна ў прысутнасці папскага легата абвясціў акт экскамунікі на магістра ў Прусіі, ландмайстра ў Інфлянтах і сваіх няверных васалаў – мясцовых рыцараў (толькі адзін з іх, Вальдэмар Розэн, прасіў даравання і атрымаў яго). Гэтым актам крыжакі абвінавачваліся ў тым, што Гедымін не прыняў святую веру, бо яны яму перашкаджалі і надалей перашкаджаюць, знеслаўляюць караля пісьмамі, якія рассылаюць ва ўсе бакі: да папы, да гарадоў і нават да няверных.

Легаты да ад'езду з Інфлянтаў абавязалі ўсіх удзельнікаў Віленскага трактата і, акрамя таго, суседніх мазавецкіх князёў дбайна захоўваць мір з Літвой чатыры гады, на працягу якіх Гедымін мог прыняць хрысціянскую веру[268]. Не дапамог зварот мазаўшан у рымскую курыю 25 жніўня 1325 г. з просьбай дазволіць крыжакам надалей ваяваць з Літвой[269].

Дыпламатычны марш Гедыміна на захад у цэлым закончыўся няўдала, бо не была дасягнутая галоўная мэта – трывалы мір у Прыбалтыцы, і ў першую чаргу – з Ордэнскай дзяржавай. Традыцыйны палітычны ход з дэкларацыяй хрышчэння вялікага князя літоўскага ў каталіцтва быў самым важным, але не адзіным у шэрагу дыпламатычных захадаў Гедыміна, скіраваных на рашэнне ордэнскай праблемы. Зразумеўшы, што наладзіць мір з крыжакамі не атрымаецца нават пры падтрымцы рымскай курыі – афіцыйнага патрона Тэўтонскага ордэна – і зважыўшы на апазіцыю ў краіне, Гедымін адмовіўся ад прыняцця каталіцкага хрышчэння і скіраваў сваю дыпламатыю ў іншы бок. Гаспадар пачаў падрыхтоўку да збройнага вырашэння ордэнскай праблемы на

[265] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 261.

[266] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 10 і 13.

[267] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 231 – 232.

[268] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 46; Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 2. Z. 1. S. 40 – 41.

[269] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … T. 1. S. 61.

новым узроўні і знайшоў дзеля гэтага саюзніка – польскага караля Уладзіслава Лакетка. Зрабіў дакладна тое, на што намаўляў дарадца – каталіцкі манах Мікалай[*].

[*] Пасланне 14

**[1324 г.] Паведамленне пасланцоў папскіх легатаў** (фрагмент)

Калі Гедымін прасіў таго рады ў гэтай справе, Мікалай нібыта адказаў: "Вы шануеце рыжскага архібіскупа, як бацьку, а ён сам сябе не можа абараніць, ён жа добры дванаццаты год знаходзіцца ў Рыме па сваіх справах, і да гэтага часу няма гэтаму канца. Значыцца, як Вас абароніць той, хто сабе самому не можа дапамагчы?!; а пан апостальскі намеснік так далёка, што Вы будзеце цалкам і поўнасцю знішчаны, перш чым ён прыйдзе з дапамогай. Але калі Вы хочаце ісці гэтай дарогай, то Вы павінны аддаць перавагу якому-небудзь магутнаму каралю, як кароль Венгрыі ці Чэхіі. Яны змогуць Вас бараніць і аберагаць".

Друкуецца паводле: Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 14. С. 140 – 143.

## 2.2. ЛІЦВІНСКА-ПОЛЬСКІ САЮЗ (1325 – 1331 г.)

Віленскі трактат не прынёс Літве трывалага міру з Ордэнам, а толькі каля чатырох гадоў перамір'я (у 1324 – 1327 г.). Натуральным крокам з боку ліцвінскага гаспадара стаў антыордэнскі саюз з іншым ворагам крыжакоў – дарэчы падаспела прапанова з боку Польскага каралеўства. Выказваліся таксама меркаванні, што ініцыятыва магла зыходзіць ад Гедыміна[270]. Для свежаспечанага караля Уладзіслава Лакетка язычніцкае веравызнанне Гедыміна не з'яўлялася неадольнай перашкодай. Справа ішла пра жыццёвыя інтарэсы яго краіны. Маюцца падставы для меркавання, што да палітычнага збліжэння паміж польскім каралём і ліцвінскім гаспадаром справа дайшла не пазней за 1323 г., бо менавіта тады Лакетак пасадзіў на галіцка-валынскі трон Баляслава (у праваслаўі прыняў імя Юры) – сына мазавецкага князя Трайдэна, а Гедымін гэтаму не супрацьдзейнічаў. Адсюль выснова пра верагоднае ўзгадненне той акцыі Лакетка з Гедымінам[271], якая ўскосна пацвярджаецца фактам шлюбу (у 1331 г.) Баляслава-Юрыя з дачкой Гедыміна.

У літаратуры выказваліся розныя меркаванні наконт прычынаў і характару саюзу. Несумненна, галоўным матывам была агульная небяспека з боку Тэўтонскага ордэна. Аднак, як паказалі падзеі, дамова прадугледжвала сумесныя дзеянні не толькі супраць крыжакоў. Сярод прычынаў называліся: неабходнасць дамовіцца аб падзеле галіцка-валынскай спадчыны (у прыватнасці, перадачы Літве Падляшша); спыненне ліцвінскіх нападаў на Польшчу і вяртанне польскіх палонных; падрыхтоўка саюзу Літвы, Польшчы і Венгрыі; пасярэдніцтва мазавецкіх князёў і г.д. Па-рознаму ацэньваюць даследчыкі характар альянсу – як наступальна-абарончы саюз, ці як дамову (кантракт) пра ўдзел ліцвінаў у ваенных аперацыях польскага караля[272].

Папскія легаты яшчэ не пакінулі Рыгу, а польскае пасольства ўжо вяло ў Вільні перамовы з Гедымінам у справе вайсковага альянсу, які меўся быць замацаваны дынастычным шлюбам. Перамовы прайшлі паспяхова, і 16 кастрычніка 1325 г., пасля

[270] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … S. 136 – 137.

[271] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów. S. 60.

[272] Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. S. 611 – 612; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … S. 136 – 137.

атрымання дазволу ад папы, у Кракаве адбыўся шлюб польскага каралевіча Казіміра (будучага караля Казіміра III Вялікага) з Альдонай Гедымінаўнай (у хрышчэнні Ганнай).

Дакументы дамовы не захаваліся, але некалькі скаардынаваных ліцвінска-польскіх акцыяў засведчылі пра існаванне дакладна абгаворанага пагаднення. Першым сумесным дзеяннем стаў паход на Брандэнбург у 1326 г. Ягоным ініцыятарам выступіў польскі кароль, меўшы парахункі з брандэнбуржцамі, якія з даўняй пары крок за крокам забіралі славянскія землі ў Вялікапольшчы і Памор'і.

Гедымін выслаў у дапамогу саюзніку атрад у 1200 вершнікаў на чале з выпрабаваным вайсковым правадыром – гарадзенскім ваяводам Давыдам. Пры гэтым ліцвінскае войска не дзейнічала самастойна, а перайшло пад непасрэднае камандаванне Лакетка. Брандэнбургскі паход нарабіў шмат розгаласу ў Еўропе, аб гэтым пастараліся тэўтонскія рыцары, апісваючы гвалты і рабункі ліцвінаў і асуджаючы польскага караля-каталіка, які прывёў паганцаў супраць хрысціянаў (хоць у атрадзе Давыда, несумненна, таксама былі хрысціяне – праваслаўныя). Перад пачаткам выправы Лакетак заключыў перамір'е з прускімі крыжакамі, чым забяспечыў, па-першае, свой тыл на час адсутнасці ў краіне; па-другое, спакойны праход ліцвінаў уздоўж ордэнскай мяжы. Падчас выправы былі спустошаныя ваколіцы Франкфурта над Одэрам, ліцвіны, па звестках Яна Длугаша, вывелі 6 тыс. людзей палону, спалілі і абрабавалі каля 140 вёсак, касцёлаў і кляштараў.

Гэтая выправа аказалася апошняй для Давыда Гарадзенскага. На зваротнай дарозе яго забіў мазавецкі рыцар[*]. Магчыма, прычына была ў рабунках, якія ліцвіны дапусцілі падчас пераходу праз мазавецкія землі ў гэтым паходзе і два гады раней, падчас нападу на Пултускую зямлю ў Мазовіі.

[*] "За тым войскам пайшоў адзін паляк, які перажываў з нагоды такой вялікай разні хрысціянаў. У адпаведным месцы і часе, у прысутнасці многіх людзей ён забіў Давыда, намесніка Гародні і кіраўніка той ваеннай выправы, які, як пра тое была гаворка вышэй, учыніў веры і вернікам агромністае зло."

Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 234.

***

"Потым літва, адпушчаная Уладзіславам Лакеткам у сваю зямлю, ішлі праз Мазоўша са сваім гетманам Давыдам, ваяводам гарадзенскім, бурылі, ваявалі і лупілі ўсё, што траплялa. Не мог сцярпець гэтага ліцвінскага плюндравання і жорсткасці пэўны мазавецкі шляхціц імем Анджэй, але распалены вялікім гневам, наважыўся на годны памяці ўчынак, бо калі замяшаўся паміж ліцвінскімі гуфамі, то гарадзенскага ваяводу Давыда, мужа вельмі слаўнага ў Літве і на той час першага пана пасля Вялікага Князя Гедыміна (з чыёй таксама дачкой быў жанаты), гетмана таго войска забіў, пасярэдзіне абозу, і дабавіўшы хуткаму каню шпораў, праз шчыльныя ліцвінскія шэрагі ўцёк, хоць гналася за ім некалькі сот ліцвінаў. А Давыд, слаўны гетман, які прускія землі і інфлянцкія ажно да Рэвеля і Дэрпту ваяваў, як мы вышэй напісалі, ад аднаго мазавецкага замаху вечным сном адразу заснуў."

Stryjkowski Maciej Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi. S. 498.

Рэакцыяй на польска-ліцвінскі саюз стала мазавецка-ордэнскае збліжэнне. 2 студзеня 1326 г. у Бродніцы (Хэльмінская зямля) была падпісаная абарончая дамова трох мазавецкіх князёў (Земавіта II, Трайдэна I і Вацлава) з Тэўтонскім ордэнам. Яна прадугледжвала ўзаемную дапамогу ў выпадку варожага нападу на мазавецкія ці ордэнскія землі[273].

[273] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … S. 94.

У наступным 1327 г., калі пачалася вайна (1327 – 1332 г.) Польшчы з Ордэнам, была праведзена чарговая польска-ліцвінская вайсковая аперацыя. Палякі і ліцвіны кожны са свайго боку атакавалі крыжацкіх саюзнікаў – мазавецкіх князёў. Лакетак напаў на зямлю Вацлава плоцкага, Гедымін у той самы час выслаў войска пустошыць Віскую зямлю Земавіта II. Выбар аб'екта ліцвінскай атакі быў абумоўлены тонкасцямі дыпламатыі. У ВКЛ яшчэ не скончылася перамір'е з Ордэнам – паводле прысуду папскіх легатаў мела трымацца да канца 1327 г. Таму Гедымін ваяваў не з крыжакамі, а з іхнімі саюзнікамі. Адным з крыжацкіх хаўруснікаў быў ягоны зяць – плоцкі князь Вацлаў, таму Гедымін скіраваў войска супраць другога ордэнскага саюзніка ў Мазовіі. У выніку ніводная міжнародная дамова ВКЛ парушаная не была.

У пачатку 1329 г. адбылася новая аперацыя польска-ліцвінскага саюзу, таксама галосная ў Еўропе. Ордэнскія рыцары арганізавалі тады буйны паход супраць Жамойці, у якім удзельнічаў чэшскі кароль Ян Люксембургскі (1310 – 1346 г.) са сваімі васаламі, а таксама шмат нямецкіх і ангельскіх рыцараў[274]. У дарозе прыйшла вестка пра напад польскага войска на Хельмінскую зямлю. Крыжаносцы павярнулі на Польшчу, захапілі Добжыньскую зямлю, а плоцкі князь Вацлаў (Ванько) склаў ленную прысягу чэшскаму каралю[275]. Ліцвінскія войскі ў тым годзе атакавалі Інфлянты і Прусы[276].

У наступным 1330 г. ліцвінскія войскі пад кіраўніцтвам самога гаспадара зноў выступілі супраць крыжакоў сумесна з палякамі. Падчас гэтага паходу адбыўся першы канфлікт паміж Гедымінам і Лакеткам, у выніку якога ліцвінска-польскі саюз даў трэшчыну. Польскі кароль не з'явіўся на месца збору (на тэрыторыі Ордэна ў ваколіцы Бродніцы ў Хэльмінскай зямлі) ва ўмоўлены час. Як высветлілася пазней, Лакетак пайшоў у іншы бок – на аблогу Добжыня, каб вярнуць страчаную у мінулым годзе Добжыньскую зямлю, а ліцвінаў, падобна, выкарыстаў як заслону ад ордэнскай арміі.

Гедымін прывёў ліцвінскія харугвы пад Бродніцу, але замест саюзніка сустрэў там сканцэнтраваныя ордэнскія войскі. Апынуўшыся на варожай тэрыторыі сам насам з гатовым да бітвы ворагам, вялікі князь распачаў адыход у кірунку Добжыня. Ордэнскае войска пайшло следам. Калі каля Добжыня саюзнікі ўрэшце спаткаліся, Гедымін абвінаваціў Лакетка ў парушэнні дамовы. На спыненне сумесных дзеянняў паўплывала пазіцыя камандзіра венгерскага дапаможнага атрада, які заявіў, што адмаўляецца змагацца ў хаўрусе з язычнікамі супраць хрысціянаў. Урэшце Гедымін змусіў саюзніка выплаціць матэрыяльную кампенсацыю за клопаты і скіраваўся дамоў.[*] Як аказалася, польскі кароль быў грунтоўна падрыхтаваны да вайны і меў дастаткова войскаў, каб ваяваць з крыжакамі самастойна. Пазней, ужо пасля адыходу ліцвінаў, ордэнская армія не адважылася на бітву з палякамі ў адкрытым полі і адседжвалася па навакольных замках[277].

[*] "Потым кароль польскі Лакетак прасіў караля Гедыміна, каб пайшоў з ім у Прусы. Але той адказаў, маўляў, я аднойчы дамовіўся з табой, каб у дзень нарадзінаў Найяснейшай Панны там сустрэцца, і я прыйшоў, а ты не; па гэтай прычыне, калі б мне мае багі не дапамаглі, то праз здраду трапіў бы ў няволю, здраднікаў жа ведаю.

[274] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S.237.

[275] Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkiem. S. 58.

[276] Герман Вартберг. Ливонская хроника. С. 151; Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842. S. 20 – 21.

[277] Ptak J. Działania zbrojne przeciwko państwu krzyżackiemu w Prusach jesienią 1330 r. // Studia Grunwaldskie. Olsztyn, 1991. T. 1. S. 36– 39.

Князь Вільгельм (камандзір венгерскага атрада Вільгельм Другет, жупан Спішу і Уйвару – *А.К.*), убачыўшы, як кароль Лакетак хацеў прывесці паганаў супраць хрысціян, сказаў: "Калі ты так з паганамі хочаш ваяваць супраць хрысціян, дазволь, каб мы адышлі ў Венгрыю. Але каб мы з табой пайшлі, адпраў паганаў у іх краіну, а мы будзем ахвотна ваяваць разам з табой". Тады паганскі кароль (Гедымін) пайшоў са сваімі, якія былі бясплатна выкліканыя. Аднак, будучы абражанымі, прымусілі польскага караля, каб даў ім узнагароду ў золаце, срэбры, сукнах і конях, кожнаму паводле яго заслугаў, і так вярнуліся ў айчыну."

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842. S. 24 – 27.

Апошняя сумесная аперацыя, а дакладней яе спроба, адбылася ў 1331 г. Зноў для ўдзелу ў выправе супраць Ордэна ў падмогу палякам прыбыў ліцвінскі атрад, але паход сарваўся з-за вялікай паводкі. Ліцвіны, якім не ўдалося ўзяць здабычу ў Прусіі, па дарозе дадому рабавалі польскія землі. Ад таго часу польска-ліцвінскі саюз фактычна перастаў існаваць з-за адсутнасці зацікаўленасці абодвух бакоў. Адзінай повяззю паміж краінамі да самай сваёй смерці ў 1339 г. заставалася каралева Ганна Гедымінаўна[*] – "*амбасадар польска-ліцвінскага збліжэння*", паводле акрэслення польскай гістарыяграфіі.

[*] "Сумленная кабета жыла ў згодзе з мужам-каралём, ласкавая і дабрачынная да набожных і бедных людзей, аднак занадта прыхільная да танцаў, забаваў і свецкіх уцехаў. Была з дзяцінства прызвычаеная да тых забаваў у доме сваіх бацькоў-язычнікаў і не пакінула іх пасля прыняцця хрысціянскай веры. А паколькі кароль Казімір не так дазваляў, як абыякава на тое глядзеў, то, звычайна, калі ехала конна ці ў павозцы, супраўаджалі яе бубны, пішчалкі, скрыпкі, рознага роду гранне і спяванне. Таму з агіды да ўчынкаў, з якіх была вядомая пры жыцці, гаварылі, што адышла з жыцця асаблівай і страшнай смерцю."

Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów polskich ksiąg dwanaście. Kraków, 1868. T. 3, Ks. 9, 10. S. 186 – 187.

**Каментар**. Ян Длугаш ацэньваў ліцвінскую весялосць паводле правілаў каталіцкага касцёла, бо і сам быў ксяндзом.

Гэты польска-ліцвінскі саюз гісторыкі ацэньваюць як не вельмі ўдалы, але прызнаюць, што ён стаў першым крокам на дарозе да збліжэння абедзвюх дзяржаў у будучыні. Нават праз два з паловай стагоддзі, напярэдадні Люблінскай уніі, у Польшчы ўзгадвалі: "*Самае першае сяброўства было і канфедэрацыя нашых продкаў пры каралі Лакетку і Гедыміну, ужо 250 гадоў таму*"[278]. Несумненна, досвед першага ліцвінска-польскага альянсу меў уплыў на прыняцце ўнукам Гедыміна Ягайлам рашэння аб уніі Вялікага Княства з Польскім каралеўствам у 1385 г. (Крэўская унія). Аднак, перш чым справа дайшла да наступнага кроку на дарозе збліжэння, Польскай кароне і ВКЛ трэба было прайсці праз дзесяцігоддзі вайны за галіцка-валынскую спадчыну.

У агульным няўдалыя высілкі дыпламатыі ВКЛ па спыненні вайны з Тэўтонскім ордэнам можна лічыць паразай, але не трагедыяй. Гедымін быў вымушаны зміры́цца з існаваннем у блізкім суседстве варожай ордэнскай дзяржавы – як з невылечнай,

[278] Zającżkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. S. 567.

але несмяротнай хваробай. З сённяшняга пункту гледжання відаць яшчэ адзін аспект няўдачы ліцвінскай дыпламатыі – спазненне больш чым на паўстагоддзя з уваходжаннем ВКЛ у заходнееўрапейскую цывілізацыю. Калі б Гедымін рэалізаваў рашэнне стаць католікам і каранавацца ад папы рымскага, гісторыя нашай краіны магла павярнуцца інакш. Але гаспадар зрабіў так, як зрабіў, і наўрад ці хто на яго месцы мог учыніць іначай.

## 2.3. ЗАХОДНІ КІРУНАК ПАСЛЯ ВІЛЕНСКАГА МІРУ

Дэманстрацыі Гедымінам адкрытасці на Захад (запрашэнне каланістаў, будова касцёлаў, прыняцце місіянераў, увядзенне каталіцкіх манахаў ў гаспадарскую раду) аказалася недастаткова для паяднання з ім. Намаганні ліцвінскага гаспадара дзеля прыцягнення заходніх каланістаў і, галоўнае, спынення вайны з Ордэнам, прынеслі толькі частковы і часовы поспех. Галоўная прычына няўдачы – супярэчнасць палітыкі Гедыміна са стратэгічнымі інтарэсамі дзяржавы Тэўтонскага ордэна ў Прыбалтыцы.

Падчас ліцвінска-ордэнскага перамір'я 1324 – 1327 г. ваенныя дзеянні афіцыйна не вяліся, але спакою на межах не было, бо працягвалася неаб'яўленая разбойная вайна. Пра тое, што Гедымін ужо не верыў у магчымасць спынення вайны з Ордэнам, сведчаць ягоныя захады па фартыфікацыі пагранічных замкаў, у тым ліку направы ўмацаванняў Гародні[279].

У 1326 г. (2 сакавіка, без малога ў тры гадзіны, як занатавана ў дакуменце) у Рызе спецыяльны пасол Гедыміна Лессе агучыў прамову, афіцыйна задакументаваную дзяржаўным пісцом Рымскай імперыі германскай нацыі, у якой абвінаваціў рыцараў Тэўтонскага ордэна (Інфлянцкай філіі) у шматлікіх парушэннях мірнай дамовы, зацверджанай папам рымскім і яго легатамі. Рыцары захоплівалі маёмасць купцоў, затрымлівалі паслоў Гедыміна, рабавалі іх і трымалі ў няволі. Пасол ад імя ліцвінскага гаспадара выказаў вялікае здзіўленне, "*што гэтыя браты Тэўтонскага ордэна з панам сваім папам, які, як вы кажаце, ёсць намеснік госпада на зямлі, галава і кіраўнік усяго свету, як відаць, ніколькі не лічацца, паколькі яны зусім не імкнуцца захоўваць мірную дамову, зацверджаную менавіта самім панам папам*"[280].

Абодва бакі рыхтаваліся да аднаўлення адкрытага ўзброенага змагання і вялі актыўную дыпламатычную дзейнасць, здабываючы саюзнікаў. У 1326 г. Ордэн падпісаў саюзную дамову з усімі трыма мазавецкімі княствамі, а Гедымін наладзіў мір з Вялікім Ноўгарадам, дзеля чаго выслаў у паўночную рэспубліку прадстаўнічае пасольства ў складзе некалькіх васальных князёў.

Як толькі скончыўся тэрмін перамір'я, вайна працягнулася звыклым парадкам у выглядзе вялікіх і малых паходаў на варожую тэрыторыю. Манахі-рыцары надалей лічылі першымі аб'ектамі заваёвы Жамойць і Гародню, яны зноў валодалі ініцыятывай. У 1328 г. ордэнскія аддзелы разам з атрадам пакораных прусаў спрабавалі знянацку захапіць замак у Гародні, але залога была папярэджаная, таму абмежаваліся спусташэннем ваколіцы. У тым жа годзе браты-рыцары з Рагнеты арганізавалі два напады на Жамойць.

Імгненна аднавіўся, ці, дакладней, працягнуўся ліцвінска-рыжскі саюз. У 1328 г. рыжане правялі начны напад на ордэнскі замак у Дзюнамюндэ, які загароджваў ім выхад у мора, а ў 1329 г. абяцалі Гедыміну перадаць замкі архібіскупа, праўда, крыжакі, паводле іх храніста, апярэдзілі і занялі пяць замкаў раней. У 1330 г. рыцары Інфлянцкай філіі Тэўтонскага ордэна дасягнулі буйнога поспеху ў даўнім змаганні з местам Рыгай. Пасля працяглай аблогі горад паддаўся рыцарам, што азначала таксама разрыў саюзу рыжанаў з Гедымінам. Ордэн наноў паставіў у Рызе свой замак, які абсадзіў залогай, каб трымаць горад пад кантролем.[*]

[279] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 280.

[280] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 17. С. 174 – 187.

[*] "Восенню таго ж года чвэрць вартым (Quatember) постам (21 верасня, дакладней 1329 г., 2 красавіка) рыжскія бюргеры, задумаўшыя выгнаць ордэнскіх братоў, паслалі двух ад гарадскога магістрата, а менавіта Генрыха Тралове і Эртмара Рэдпенніге, сваімі пасламі да ліцвінскага караля, якія яму сказалі і абяцалі, што для выгнання ордэна і хрысціянства з тых краін, для яго, караля, будуць ачышчаныя ўсе замкі і крэпасці рыжскай епархіі. Калі браты даведаліся пра тое, яны адабралі ў бюргераў сілай пяць замкаў, якія знаходзіліся па суседстве з ліцвінскімі землямі. Калі кароль прыйшоў са сваім войскам на раку Дзвіну, ён даведаўся, што замкі знаходзяцца ў руках братоў. Запалены лютасцю на гэта, ён накінуўся на памянутых паслоў з пагрозамі. Але тыя адказалі яму на суцяшэнне, што павядуць яго туды, дзе ён можа зрабіць вялікую шкоду ордэну.

І яны на самой справе павялі яго з усім яго войскам усяго на сорак міляў праз рыжскую акругу, даючы яму праваднікоў і задавальняючы іншыя патрэбы. Ліцвіны апустошылі ваколіцы Каркса ў дзень узвіжання (15 верасня) і заставаліся там да наступнай серады (20 верасня). У наступную пятніцу (22 верасня) яны спустошылі агнём прыход Гельмедэ, які валодаў 400 гакамі зямлі, чым яны нанеслі ордэну страты больш чым на 6000 марак срэбра. У наступную суботу (23 верасня) яны накіраваліся ў прыход Пейстэле, дзе кароль са сваімі двума братамі на працягу двух начэй карысталіся касцёлам як стайняю для сваіх коней і рабілі безлічныя бессаромныя справы ў прысутнасці св. Таямніцаў, усё іншае яны апустошылі і спалілі агнём. Гэтаму касцёлу належала 300 гакаў зямлі. Забітыя там былі больш за 400 чалавек, іншых яны забралі ў палон. Потым яны рушылі ў вобласць Сакелу, дзе ў Тарвесце яны спустошылі і спалілі прыход, які меў 200 гакаў зямлі, забілі таксама двух духоўных братоў ордэна і рыцара Мікалая Ропскага, акрамя 400 чалавек, якіх яны забілі або ўзялі ў палон і павялі з сабой. Ордэну гэтым былі нанесеныя страты ў 6000 марак чыстага срэбра і больш. Вымушаныя такім гвалтам, браты аблажылі горад Рыгу і ў рэшце яго пакарылі, і хоць бюргеры заслугоўвалі ўсялякай кары, браты ўсё-такі заключылі з імі сяброўскую дамову, прычым правялебны архібіскуп і яго царква захоўвалі ўсе свае правы [30 сакавіка 1330 г.]. Браты таксама адбудавалі зноў самыя сваёй уласнай працай і на ўласны рахунак іх дом (замак) і іншыя пабудовы, на якія былі абрабаваныя, на іншым, вызначаным ім бюргерамі месцы, на якое архібіскуп не меў ніякага свецкага права, але на якім стаяла стайня для коней бюргераў і млын, які малоў коньмі, таксама, як і печ для абпалу вапны. І калі б браты не сталі жыць з бюргерамі, то не падлягае сумневу, што бюргеры зноў, як раней, уваходзілі б у змову з язычнікамі."

Герман Вартберг. Ливонская хроника. С. 150.

У 1330 г. без асаблівага поспеху прайшоў крыжацкі паход супраць "замка Гедыміна"[281]. Да самага канца ягонага гаспадарання браты-рыцары кожны год, а часам і па два-тры разы на год, хадзілі паходамі на тэрыторыю ВКЛ або саюзнай яму Жамойці. У 1333 і 1334 г. інфлянцкія рыцары атакавалі Полацкую зямлю. У 1334 г. ордэнскія войскі ўпершыню з'явіліся непадалёк ад новай сталіцы ВКЛ – Вільні[282]. Найчасцей крыжацкія выправы абмяжоўваліся рабаваннем і паленнем вёсак, рэдка справа даходзіла да аблогі ці захопу замкаў, што сведчыць пра добрую арганізацыю ліцвінскай абароны, у прыватнасці, службы выведкі і апавяшчэння.

[281] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 236, 239.

[282] Герман Вартберг. Ливонская хроника. С. 152.

Ліцвінскія паходы ў адказ былі не такія частыя, як крыжацкія. Гедымін праводзіў вайсковыя аперацыі супраць Ордэна ў межах саюза з Лакеткам у 1329, 1330, 1331 г. Пазней былі арганізаваныя паходы на землі крыжакоў у 1336, 1337, 1338 г.[283] У 1338 г. Гедымін падпісаў мірную гандлёвую дамову з інфлянцкімі рыцарамі на 10 гадоў. Дамова насіла менавіта гандлёвы характар, бо спецыяльна акрэслівалася бяспечная зона для праезду купцоў на памежжы, у тым ліку па абодвух берагах Дзвіны; агаворваліся прававыя аспекты побыту купцоў на чужой тэрыторыі; у зацвярджэнні дамовы ўдзельнічалі ўлады Рыгі, Полацка і Віцебска[284].

Тэўтонскі ордэн надалей планаваў пакарэнне Літвы. У 1337 г. браты-рыцары атрымалі ад імператара Людвіга Віттэльсбаха прывілей на ўсе землі, якія былі ва ўладанні Літвы. Ордэн мог іх здабыць і хрысціянізаваць[285]. У тым жа 1337 г. крыжакі адбудавалі замак Марыенбург і паставілі новы – Байернбург у Жамойці. Гедымін беспаспяхова спрабаваў яго здабыць[286].

Можна канстатаваць, што на ордэнскім напрамку сітуацыя вярнулася да стану, які быў перад Віленскім мірам. Ішла вайна, якая дорага каштавала, але не забірала ўсе сілы. Гедымін меў магчымасць праяўляць актыўнасць на іншых кірунках. Між іншым, гаспадар у 1331 г. спрабаваў дапамагчы Пскову займець асобнага ад Ноўгарада епіскапа і ў тым жа годзе пасадзіў на пскоўскі сталец цверскага князя Аляксандра ды выдаў дачку за галіцка-валынскага князя Баляслава-Юрыя. Зімой 1333 – 1334 г. ягоная дачка (ці ўнучка) Айгуста ўзяла шлюб з Сямёнам Іванавічам – сынам маскоўскага князя Івана Каліты.

Збройны канфлікт з Мазовіяй, вынікам якога сталі два ліцвінскія паходы на гэтую краіну – у 1336 і 1337 г., верагодна, быў звязаны з Падляшшам. Мазавецкія князі не жадалі аддаваць Літве гэтую важную для сябе вобласць Галіцка-Валынскай дзяржавы, на якую самі здаўна мелі прэтэнзіі. Дзеля такой здабычы яны маглі адважыцца на адкрыты канфлікт з магутным суседам. Гедымін у 1336 г. выслаў супраць Мазоўша войска на чале з сынамі, сярод якіх былі Альгерд і Кейстут. Было выведзена больш за тысячу чалавек палону. У наступным годзе напад паўтарыўся, але закончыўся не так удала: ліцвіны пад пагрозай мазавецкай пагоні панеслі страты падчас пераправы праз Нараў. Апошняя з той серыі выправа ліцвінаў супраць Мазовіі адбылася ў верасні 1340 г.[287] Падляшша засталося за Літвой.

Агульная хада падзеяў пасля заканчэння перамір'я 1324 – 1327 г. паказвае, што ВКЛ увогуле паспяхова трымала абарону ад Ордэна і мела дастаткова сілаў для экспансіі на іншых суседзяў. Гедымін працягваў рэалізоўваць ужо апрабаваную на практыцы дактрыну знешняй палітыкі ВКЛ – "**Абарона на захадзе, наступ на ўсходзе**".

---

[283] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 281 – 282.

[284] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 18. С. 186 – 195.

[285] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów. S. 55.

[286] Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 3. Z. 3. S. 199.

[287] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … S. 62.

# Глава 3. Літва і Русь

На поўнач і захад ад Літвы ляскатала зброяй і палыхала пажарамі вайна, а на ўсходзе і поўдні хвалявалася, перакройвалася і па-новаму ўладкоўвалася на сваіх бяскрайніх прасторах Русь – айкумена ўсходніх славянаў. Большая яе частка знаходзілася пад уладай стэпавай Арды, якой кіравалі нашчадкі Чынгіс-хана. Заходняя, ці Белая Русь, не трапіла пад мангола-татарскае нашэсце, пазбегла залежнасці ад татараў і з сярэдзіны 13 ст. усё цясней звязвалася з ВКЛ.

Пасля інтэнсіўнай, але не надта ўдалай дыпламатычнай акцыі на захадзе, цэнтр цяжару знешняй палітыкі Гедыміна перамясціўся на Русь. На захадзе надалей вялася актыўная абарона, ВКЛ мацавала заслону ад Прусаў праз направу старых і будаўніцтва новых мураваных замкаў. А рэшта сілаў, як выявілася, немалых, была скіраваная на Усход.

У адрозненне ад кантактаў з каталіцкім Захадам, пра міжнародныя адносіны Гедыміна на праваслаўным усходзе і поўдні захавалася нашмат менш інфармацыі, бо ва ўсходніх славянаў яшчэ не існавала традыцыя складання пісаных актаў, якія потым захоўваліся ў архівах. Асноўнай і практычна адзінай крыніцай інфармацыі пра знешнюю палітыку ВКЛ часоў Гедыміна (і ажно да сярэдзіны 16 ст.) на Русі застаюцца летапісы. Тым не менш, пры агульнай сціпласці крыніц, усё роўна выклікае здзіўленне мізэрнасць звестак пра тэрытарыяльныя набыткі дзяржавы Гедыміна на Русі. А набыткі не абы-якія – тэрыторыя гаспадарства павялічылася больш чым утрая. Найперш, Гедымін сабраў у сваёй дзяржаве амаль усе землі крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, чым заклаў пачатак сучаснай Беларусі.

## 3.1. АБ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯЎ

У часы гаспадарання Гедыміна адбылося супадзенне ў часе і прасторы двух важнейшых чыннікаў этнагенезу беларусаў: **працэсу балта-славянскіх кантактаў** і дзейнасці **дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ**. Арэал балта-славянскага кантакту пашырыўся да паўднёвай Аўкштоты, а Літва аб'яднала ў адзінай дзяржаве галоўныя гістарычныя вобласці будучай Беларусі. Этнагенез беларускага народа ўвайшоў у вырашальную фазу.

Аб'яднанне беларускіх земляў распачалося яшчэ ў 13 ст., ад першых гадоў існавання ВКЛ, калі ў сферу прыцягнення новапаўсталай панямонскай дзяржавы трапілі два старэйшыя асяродкі беларускай дзяржаўнасці – Полацкая і Тураўская землі[288]. Гедымін давёў працэс аб'яднання да яго кульмінацыйнай кропкі. Звяртае на сябе ўвагу "непрыкметнасць" гэтага працэсу, менавіта адсутнасць звестак пра яго ходу ў крыніцах. Пра Пінскую зямлю як складную частку вялікакняскага дамена стала вядома толькі з тастамента Гедыміна, пераказанага ў летапісе 15 ст.; непрыкметна "зраслася" з Літвой Берасцейская зямля; пра час далучэння Падляшша гісторыкі дыскутуюць да сёння; пра далучэнне Менскай зямлі засведчыла ўпамінанне ноўгарадскім летапісам менскага князя ў складзе дыпламатычнай місіі ВКЛ. Таксама дакладна не акрэсліваецца форма залежнасці ад дзяржавы Гедыміна Кіеўскай, Смаленскай, Чарнігаўскай, Пскоўскай земляў, Жамойці і Семігаліі, вядома толькі па ўрыўкавых звестках крыніц, што яна існавала.

[288] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 132 – 135.

Сярод прычынаў такой гістарычнай незаўважанасці буйнога павелічэння тэрыторыі дзяржавы – не толькі недахоп пісьмовых крыніцаў, а і характар самога працэсу. Ён праходзіў практычна без вайны і гвалту, таму застаўся па-за ўвагай суседскіх летапісцаў і храністаў, якіх прыцягвалі больш гучныя вайсковыя чыны. Мірнае пашырэнне панямонскай дзяржавы сведчыць пра добраахвотнасць далучэння (зразумела, здараліся і выключэнні) новых земляў, што напэўна было звязана з характарам аб'яднальнай палітыкі Літвы, менавіта захаваннем мясцовых звычаяў, пазіцыяў традыцыйнай эліты і значнай аўтаноміі ў складзе ВКЛ. Узамен магутная Літва давала абарону ад небяспечных знешніх ворагаў – татараў ці немцаў. Сваю ролю адыгрывала і культурная блізкасць Літвы з Руссю, якая фармавалася стагоддзямі праз суседскія кантакты.

## 3.1.1. Палессе і Падляшша

**Пінская зямля** па тастаменце Гедыміна перадавалася ў спадчыну нароўні з землямі ўласнай Літвы. Гэта азначае, што пры Гедыміне яна ўжо з'яўлялася часткай вялікакняскага дамена. Ведаючы агульны эвалюцыйны характар развіцця палітычных адносінаў ВКЛ з суседнімі землямі, можна меркаваць, што працэс "зліцця" (выраз Мацея Любаўскага) Турава-Піншчыны (і ў яе складзе Клецкага, Дубровіцкага, Слуцкага княстваў) з Літвой быў завершаны ці амаль завершаны пры гаспадаранні Віценя. Тураўская і Пінская землі прымалі ўдзел у палітычным жыцці ВКЛ ад самых пачаткаў панямонскай дзяржавы. Найбольш яскравы эпізод – збройная дапамога пінянаў Войшалку Міндаўгавічу ў 1264 г. у справе вяртання бацькоўскага трона.

**Падляшша** – пагранічная вобласць з карэнным яцвяжскім насельніцтвам, размешчаная пераважна ў басейне Заходняга Буга, у сярэднявеччы засялялася славянскімі каланістамі з трох бакоў – з украінскіх, беларускіх і мазавецкіх земляў. Назву сваю атрымала ад блізкасці да польскага этнічнага абшару – "пад ляхамі". Асноўная плынь каланізацыі кіравалася з земляў украінскіх, і галоўныя гарады (Драгічын, Мельнік, Бельск, Бранск - усе сёння на тэрыторыі Польшчы) мелі ўсходнеславянскае аблічча.

Заходні Буг у сярэднявеччы з'яўляўся часткай важнага гандлёвага шляху, які лучыў праз гэтую раку і яшчэ Прыпяць краіны Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Сведчаннем актыўнага ўдзелу падляшанаў у вялікім гандлі з'яўляецца вядомы археалагічны феномен – свінцовыя пломбы "драгічынскага тыпу", якімі апячатваліся ўпакоўкі тавараў. Яны былі шырока распаўсюджаныя ў 11 – 13 ст., а ў Драгічыне над Бугам такіх пломбаў знойдзена некалькі тысяч[289].

Ад ранняга сярэднявечча за валоданне Падляшшам змагаліся мазавецкія і рускія князі. Ад другой паловы 11 ст. яно належала да Галіцка-Валынскай дзяржавы, адкуль і ішла найбольш моцная хваля славянскай каланізацыі.

У 1323 г. памёр апошні князь з дынастыі Раманавічаў і ўзнікла справа падзелу Галіцка-Валынскай дзяржавы, у прыватнасці, далейшага лёсу Падляшша.

Першае дакументальнае сведчанне прыналежнасці Падляшша да ВКЛ адносіцца да 1366 г. (у польска-ліцвінскім трактаце выступае як уладанне Кейстута Гедымінавіча). Аднак гісторыкі лічаць, што Падляшша было далучанае да Літвы пры Гедыміне, хоць і не могуць дакладна вызначыцца з часам. Як верагодныя называліся дзве даты 1323 – 1324 г. (Станіслаў Заянчкоўскі) і 1336 – 1340 г. (Генрык Пашкевіч). Паводле версіі С. Заянчкоўскага, лёс Падляшша быў вырашаны пры падрыхтоўцы польска-ліцвінскага саюзу 1325 г. Лакетак і Гедымін у 1323 – 1324 г. дамовіліся пра пераход Падляшша да ВКЛ, а на галіцка-валынскую спадчыну пасадзілі пераходную фігуру – мазавецкага кня-

[289] Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (9 – 13 ст.) С. 485.

зя Юры-Баляслава[290] (па бацьку мазаўшаніна, па маці русіна, да таго ж яшчэ праўнука вялікага князя літоўскага Трайдэна). Гэтае польска-ліцвінскае паразуменне стала *"уступам да збліжэння паміж дзвюма дзяржавамі і іх саюзу ў 1325 г."*[291]

Другую версію, як падаецца, больш абгрунтаваную, прапанаваў Генрык Пашкевіч, які вывеў, што заняцце Гедымінам Падляшша магло адбыцца збройнай рукой у 1336 – 1340 г., бо ў гэты час ВКЛ правяло некалькі паходаў супраць Мазоўша. На думку даследчыка, мазавецкія князі, скарыстаўшыся распадам польска-ліцвінскага саюзу і канфліктам Гедыміна з крыжакамі, адважыліся здабыць Падляшша сілай зброі. Гэта выклікала рашучы адказ Гедыміна ў выглядзе серыі паходаў на Мазоўша[292]. У 1336 г. адбыўся паход з удзелам сыноў Гедыміна, у тым ліку Альгерда і Кейстута. У наступным годзе напад паўтарыўся. Выправа ў верасні 1340 г., як мяркуецца, магла быць звязаная з удзелам мазаўшанаў у аперацыі польскага караля Казіміра на Русі[293].

Галоўнае, у чым сыходзяцца даследчыкі – Падляшша было далучанае да ВКЛ Гедымінам. Пад канец яго гаспадарання частка Падляшша з Драгічынам часова апынулася пад уладай Мазовіі[294].

**Берасцейская зямля** нейкі час залічвалася да Падляшша, у складзе якога Гедымін перадаў яе Кейстуту. Падобна Турава-Піншчыне, яна таксама паступова "злівалася" з Літвой, і ў канцы 15 – першых дзесяцігоддзях 16 ст. у некаторых дакументах *"назва "зямля Літоўская" стала часам ахопліваць і Берасцейскую акругу"*[295]. Дакладны час яе ўваходжання ў ВКЛ таксама невядомы. Міхайла Грушэўскі лічыў, што Гедымін *"адарваў Берасцейска-Драгічынскую зямлю ад Галіцка-Валынскай дзяржавы"* дзесьці ў другім ці трэцім дзесяцігоддзі 14 ст., але тое магло адбыцца і пры жыцці апошніх князёў Юр'евічаў ці пасля іх смерці: *"Выразных звестак пра гэта ў сучасных крыніцах мы не маем, але то важны факт, што Берасцейска-Драгічынская зямля не належала Любарту; значыць – была адарваная ад Валыні напэўна хутчэй, чым Любарт яе атрымаў"*[296]. Адміністрацыйнае з'яднанне Берасцейскай зямлі з Літвой працягвалася праз стагоддзі, і ў 19 ст., ужо ў складзе Расейскай імперыі, галоўны яе горад меў афіцыйную назву – Брэст-Літоўскі.

## 3.1.2. Полацак, Віцебск, Смаленск

Палітычная магутнасць **Полацкай зямлі** адышла ў мінулае яшчэ ў другой палове 12 – пачатку 13 ст. у выніку яе раздраблення на княскія ўдзелы мясцовай, асобнай ад Кіева, дынастыі. У пачатку 13 ст. Полацак не змог абараніць даўнюю манаполію ў гандлі па ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны і мусіў прымірыцца са з'яўленнем новага пасярэдніка між ім і Заходняй Еўропай – нямецкай калоніі ў Інфлянтах. Для перамогі ў барацьбе з лівонскімі немцамі ўласных сілаў не хапала, і з сярэдзіны 13 ст. Полацак рэгулярна прымаў на свой сталец князёў з Літвы. Тым не менш, Полацак заставаўся адным з багацейшых гарадоў Усходняй Еўропы, буйным культурным цэнтрам з даўнімі традыцыямі. Блізка трох стагоддзяў у Сафійскім саборы збіралася рукапісная бібліятэка.

---

[290] Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. S. 606; ён жа. W sprawie zajęcia Podlasia przez Giedymina // AW. 1929. R. 6. S. 1 – 7.

[291] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … T. 1. S. 131.

[292] Paszkewicz H. Z dziejów Podlasia w XIV wieku // KH. 1928. R. 42. S. 242 – 243; ён жа. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 354.

[293] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … T. 1. S. 62.

[294] Paszkewicz H. Z dziejów Podlasia w XIV wieku. S. 233.

[295] Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1893.С. 20 – 21.

[296] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 117. Т. 4. С. 14 – 15.

Горад, амаль выключна драўляны, аздаблялі каля двух дзясяткаў мураваных цэркваў, збудаваных яшчэ ў 12 – пачатку 13 ст. паводле традыцыяў мясцовай архітэктурнай школы. Цэнтры духоўнага жыцця квітнелі ў некалькіх манастырах. Напэўна, у іх і вялося полацкае летапісанне, ад якога, на жаль, да нас не дайшоў ніводзін помнік[297].

Узаемаадносіны Полацкай зямлі з Літвой фармаваліся на працягу некалькіх стагоддзяў. З ваяўнічым балцкім племем, які ў летапісах называўся "літвой", Полацак захоўваў мірныя, часта саюзныя сувязі. Полацкія крывічы бралі ўдзел у славянскай каланізацыі Панямоння, прынамсі, ад ранняга сярэднявечча можна казаць пра дэмаграфічны і культурніцкі ўплыў Полацка на Наваградчыне. Па этнаграфічных даных, зона сутыкнення між крывіцкай (полацкай) і дрыгавіцкай (турава-пінскай) плынямі каланізацыі Панямоння даходзіла да лініі Радунь – Воранава – Ашмяны – Астравец на паўночны захад ад Наваградка і сёння ўяўляе сабой паласу змешаных дыялектаў, пераходную ад паўднёва-заходняй да паўночна-ўсходняй групы беларускіх гаворак[298]. Барысаглебскую царкву 12 ст. у Наваградку будавала арцель майстроў, якая перад гэтым узводзіла Дабравешчанскую царкву ў Віцебску, а галерэі да наваградскага храма дабудоўвалі ўжо полацкія майстры[299].

Ад другой паловы 13 ст. несумненна можна гаварыць пра залежнасць Полацка ад Літвы, але гэтаксама пэўна – пра захаванне значнай аўтаноміі. Залежнасць фармавалася паступова, на працягу стагоддзяў і мела больш рысаў палітычнага саюзу, чым падпарадкавання. Па-першае, Вялікае Княства Літоўскае не ўмешвалася ў справы ўнутранага кіравання Полацка, за выключэннем працэдуры выбару мясцовага князя. Ад апошніх дзесяцігоддзяў 13 ст. полацкі князь быў крэатурай Літвы, аднак патрабавалася фармальная згода палачанаў прыняць яе кандыдатуру. У гэтай справе здараліся канфлікты, як у 14 ст., калі палачане, не пабаяўшыся вайны, не прынялі навязанага ім Ягайлам Скіргайлу Альгердавіча.

Па-другое, самастойнасць Полацка ў знешняй палітыцы хоць абмяжоўвалася, але не ліквідавалася цалкам. Літва патранавала Полацкай зямлі ў прыбалтыйскіх справах, а ў мірных граматах Вялікага Княства з прыбалтыйскімі немцамі Полацак і Віцебск выступалі не складовымі часткамі Літвы, а як самастойныя дзяржаўныя ўтварэнні. У дамове з інфлянцкімі немцамі 1 лістапада 1338 г. Гедымін забяспечваў полацка-віцебскія справы як свае ўласныя. Аднак дамова была зацверджаная, акрамя вялікага князя літоўскага з сынамі і баярамі, *"са згоды епіскапа Полацка, караля і горада Полацка і караля Віцебска і горада Віцебска, якія ўсе на гэтым вышэйзгаданым міры цалавалі крыж"*[300]. Тут бачым выдатнае сведчанне пра сістэму ўлады ў названых гарадах, якая складалася з епіскапа (меў, падобна як у Вялікім Ноўгарадзе, акрамя царкоўнай, таксама свецкую ўладу), служылага князя і калегіяльных органаў гарадскога кіравання.

Да таго ж Полацак мог самастойна заключаць з Інфлянтамі асобныя дамовы, якія датычылі ўмоваў і правілаў гандлёвых аперацыяў, асабліва гандлю на вагу. Так было ў грамаце, створанай між 1338 – 1341 г., калі полацкі князь Глеб (верагодна, Нарымонт Гедымінавіч) і епіскап Рыгор самастойна дамаўляліся з Рыгай. Дамова Гедыміна з 1338 г. датычыла больш агульных спраў, а непасрэдная полацка-рыжская дамова мела тэхнічны характар – агаворвала дэталі гандлёвых аперацый[301].

Усе названыя акалічнасці ўскладняюць вызначэнне дакладнага часу ўваходу Полацкай зямлі ў ВКЛ. Мацей Любаўскі *"годам канчатковага далучэння Полацка да*

---

[297] Рыбаков Б.А. Киевская Русь и русские княжества 12 – 13 вв. Москва: Наука, 1982. С. 522.

[298] Гринблат М.Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. С. 90 – 91.

[299] Раппопорт П.А. Древнерусская архитектура. Санкт-Петербург: Стройиздат, 1993. С. 64.

[300] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 18. С. 194 – 195.

[301] Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. Вып. 1. № 4.

*Літоўскай зямлі*" назваў 1307 г. Аднак ягонае меркаванне следам за Васілём Данілевічам абапіралася на няпэўную версію пра захоп Полацка інфлянцкімі немцамі, а потым вызваленне горада Віценем у 1307 г. Як абгрунтавала Ганна Харашкевіч, гэтая легенда заснаваная на непаразуменні – праз памылку ў напісанні ордэнскім пісцом назвы аднаго пагранічнага паселішча, якое ператварылася ў Полацак[302].

Напэўна, час далучэння Полацкай зямлі да Літвы трэба адлічваць ад умацавання ў Полацку князёў роду Гедыміна. Першым з іх быў брат Віценя і Гедыміна Воін, пра якога дакладна вядома, што ён з'яўляўся полацкім князем у 1326 г.[303] Гэтую дату можна ўмоўна прыняць часам уваходу Полацка ў ВКЛ.

**Віцебская зямля**, хоць адміністрацыйна аддзеленая ад Полацкай, захоўвала з ёй цесныя сувязі. Часта ў адносінах з Літвой і іншымі краінамі яны выступалі разам. Віцебскае княства фармальна ўвайшло ў ВКЛ каля 1320 г. праз жаніцьбу Альгерда Гедымінавіча з віцебскай княжной двума гадамі раней. У Полацку за часоў гаспадарання Віценя і Гедыміна кіраваў іх брат Воін.

Далучэнне да Літвы Полацка і Віцебска дало падставу для ўключэння ў афіцыйны тытул гаспадара слова "Русь"[304]. Гэтыя старажытныя цэнтры беларускай дзяржаўнасці ўвайшлі ў ВКЛ на правах шырокай аўтаноміі з захаваннем сваіх даўніх культурных і дзяржаўных традыцый.

У канцы 14 ст. адносіны Літвы з Полацкам і Віцебскам былі юрыдычна афармленыя спецыяльнымі дакументамі – г.зв. абласнымі прывілеямі[305]. Дакладны час іх узнікнення невядомы, бо гэтыя дакументы не захаваліся, а пра іх змест мы мяркуем па пазнейшых г.зв. пацвярджальных прывілеях, выданых у 16 ст.[*]

[*] **Пацвярджальны вялікакняскі прывілей Полацкай зямлі** (1511 г., 23 ліпеня, фрагменты)

(...) А воеводѣ нашому Полоцкому мѣщанъ одному не судити, судити ему съ бояры и мѣщаны;

(...) Также намъ господару давати воеводу нашого Полочаномъ, по ихъ воли; а который будетъ воевода нашъ нелюбъ имъ, ино намъ имъ воеводу иншого дати по ихъ воли; а прiѣхавши воеводѣ нашому къ Полоцку, первого дня ему крестъ цѣловати къ Полочаномъ, на томъ, штожъ безъ ихъ справы Полочанина не карати ни въ чомъ. А воеводу городомъ не дарити.

(...)А съ нами имъ быти готовымъ на войну.

(...) *А который Полочанинъ иметъ намъ о чомъ жаловатися о насильи на Полочанина жъ, прiѣхавши въ Литву одинъ, безъ истца: намъ зъ Литвы дѣцкого не слати (не имати), писати намъ лiстъ свой къ воеводѣ нашому, хотя бы о смертной винѣ: ино ему судити по цѣлованью, а осудивши его, въ Полоцку жъ казнити виноватого, по ихъ праву, съ Полочаны по испросу.

Друкуецца паводле: Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Санкт-Петербург, 1848. Т. 2. С. 87, 89.

---

[302] Хорошкевич А.Л. Комментарии [в:] Полоцкие грамоты 13 – начала 16 в. Т. III. С. 124 – 125.

[303] НПЛ. С. 98.

[304] У наступныя стагоддзі менавіта Полаччына, Віцебшчына і Смаленшчына будуць называцца ў ВКЛ "Руссю" ў адрозненне ад цэнтральнай вобласці дзяржавы "Літвы", а таксама "Масквы", "Ноўгарада" і інш.

[305] Якубовский И.В. Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журнал Министерства народного просвещения. Санкт-Перербург, 1903. Июнь. Ч. 346. С. 270.

* **Каментар**. З фрагменту відная традыцыйная, захаваная і ў 16 ст. адміністрацыйная, прававая, ментальная розніца паміж уласна Літвой і Полацкай зямлёй.

* * *

**Пацвярджальны вялікакняскі прывілей Віцебскай зямлі** (1503 г., 16 ліпеня, фрагменты )

(...) А на войну быти имъ съ нами посполу готовымъ.

(...) Такожъ имъ намъ давати воеводу по старому, по их воли; и который имъ будетъ нелюбъ воевода, а обмовятъ его передъ нами: ино намъ воеводу имъ иного дати, по ихъ воли; а прїѣхавши воеводѣ нашому къ Витебску, первого дня цѣловати ему крестъ къ Витбляномъ, на томъ, штожъ безъ права ихъ не казнити по вадамъ ни въ чомъ.

(...) *Также которыи будутъ, Литвинъ, або Ляхъ, крещены были у Витебску въ Рускую вѣру, а хто изъ того роду и тепере живетъ, того намъ не рушити, права ихъ хрестїяньского ни въ чомъ не ломити.

Друкуецца паводле: Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Санкт-Петербург, 1846. Т. 1. С. 352, 353.

* **Каментар**. Тут у тэксце сведчанне рэлігійнай талерантнасці ў ВКЛ пачатку 16 ст.

Кожны наступны вялікі князь, заняўшы трон, пацвярджаў асаблівыя прывілеі для гэтых земляў. Залежнасць Полацка і Віцебска выражалася ў выплаце падаткаў у дзяржаўны скарб і адбыванні вайсковай павіннасці. Нават пасля фармальнага ўключэння гэтых земляў у склад дзяржавы ў статусе ваяводстваў, аўтаномія іх надалей захоўвалася. Персаналіі вялікакняскіх ваяводаў ўзгадняліся з палачанамі і віцеблянамі.

Заканамерна, што першыя земскія прывілеі ў ВКЛ датычылі менавіта Віцебска і Полацка. Гэтыя землі, па-першае, мелі найдаўнейшыя на Беларусі, таму і самыя трывалыя традыцыі ўласнай дзяржаўнасці; па-другое, былі і заставаліся буйнымі, багатымі і ўплывовымі цэнтрамі рамяства і гандлю, якія кантралявалі значны ўчастак дзвінскага міжнароднага гандлёвага шляху.

У мірных дамовах ВКЛ з Вялікім Ноўгарадам і Псковам яшчэ ў сярэдзіне 15 ст. побач з акрэсленнем "ліцвін" традыцыйна выступалі тэрміны "палачанін" і "віцеблянін"[306], г.зн. жыхары гэтых гарадоў не цалкам атаясамліваліся з Літвой.

Непрыкметна і, напэўна, раней за іншыя землі даўняга Полацкага княства да Вялікага Княства Літоўскага далучылася **Меншчына**. Ноўгарадскі летапіс назваў менскага князя сярод паслоў Літвы ў 1326 г. Тады ў Вялікі Ноўгарад прыбыло пасольства Гедыміна ў складзе: брата вялікага князя Воіна – полацкага князя, менскага князя Васіля і князя Хведара Святаслававіча[*]. Па ўсёй верагоднасці, у той жа час да Літвы далучыліся невялікія Лукомльскае і Друцкае княствы, размешчаныя паміж Менскам і Полацкам.

[*] "В лѣто 6834 [1326]. (...) Того же лѣта приѣхаша послы из Литвы: брат Гѣдиминовъ князя Литовьского Воини Полотскыи князь, Василии Мѣньскыи князь, Федоръ Святьславич; и докончаша миръ с новгородци и с Нѣмци."

НПЛ. С. 98.

[306] Грамоты Великого Новгорода и Пскова. С. 115, 116,322.

Гедымін пашыраў свой палітычны ўплыў на тэрыторыю смаленскіх і пскоўскіх крывічоў. Найбліжэйшым да Полаччыны і Віцебшчыны дзяржаўным утварэннем было **Смаленскае княства**, якое ўзнікла ў раннім сярэднявеччы на племяннной аснове смаленскіх крывічоў, але нашмат пазней за Полацкае княства[307]. Найбольшай палітычнай моцы Смаленскае княства дасягнула каля сярэдзіны 12 ст., а ў 13 ст. было аслабленае палітычным раздрабленнем, да таго ж перажыло некалькі цяжкіх прыродных бедстваў (землятрус, неўраджаі, эпідэмія чумы). Невядома дакладна, ці быў Смаленск захоплены мангола-татарамі падчас іх паходаў у 1238 – 1240 г. Мяркуецца, што ён застаўся ў баку ад маршу мангольскіх войскаў і толькі ў 70-я гады 13 ст. пачаў прызнаваць уладу Арды, якая, аднак, адчувалася тут даволі слаба[308].

**Смаленскае княства.** Займала тэрыторыю па верхнім цячэнні Дняпра. Акрамя Смаленска значнымі гарадамі былі Таропец, Орша, пазней – Мсціслаў, Мажайск. Смаленск упамінаецца ўжо пад 862 г. як цэнтр племяннога саюза крывічоў. У канцы 9 – палове 11 ст. падпарадкоўваўся Кіеву, у ім кіравалі вялікакняскія намеснікі ці сыны вялікага князя кіеўскага. Ад 1054 г., калі па тастаменце Яраслава Мудрага См. к. атрымаў ягоны сын Вячаслаў, пачалося палітычнае адасабленне ад Кіева. Палітычнай самастойнасці і найбольшага росквіту дасягнула пры Расціславе Мсціслававічы (1127 – 1159 г.) – унуку Уладзіміра Манамаха. У 1136 г. была створаная Смаленская епархія. Нашчадкі Расціслава адыгрывалі заўважальную ролю ў рэгіёне да пачатку 13 ст., некаторыя здабывалі кіеўскі стол. Аслабленне пачалося ад 20-х гадоў 13 ст. Пачалі аддзяляцца ўдзелы – Мажайск, Вязьма, аднак удалося падпарадкаваць Бранск. Пры канцы 13 ст. См. к. апынулася паміж ВКЛ і Масквой.

У 1395 г. Вітаўт далучыў См. к. да ВКЛ; у 1401 г. смаленскія князі на некалькі гадоў вярнулі самастойнасць; у 1404 г. Вітаўт трывала далучыў См. к. да ВКЛ.

У 1514 г. Масква захапіла См.; быў вернуты да ВКЛ у 1618 г. Зноў увайшоў у Расею, на гэты раз надоўга – па Андрусаўскім пераміры 1667 г.

Паводле: http://www.allmonarchs.net/russia/other/smolensk.html;

Сведчаннем саюзных кантактаў і залежнасці Смаленскай зямлі ад ВКЛ была прысутнасць сярод чальцоў пасольства Гедыміна ў 1326 г. князя са смаленскай лініі Хведара Святаслававіча, у бацькі якога, Святаслава Глебавіча, маскоўскі князь у 1304 г. забраў Мажайск, а самога захапіў у палон[309].

Смаленскі князь Іван Аляксандравіч у мірнай дамове з Інфлянцкім ордэнам (каля 1340 г., дакладная дата невядомая) назваў Гедыміна старэйшым братам, што сведчыць пра яго прынамсі фармальныя васальныя адносіны з ліцвінскім гаспадаром.[*]

[*] "(...) докончалъ есмь по тому докончанью како брат мои старѣишиї кедименъ докончалъ и его дѣти глѣбъ и алкердъ"

Смоленские грамоты 13 – 14 веков. Москва: Издательство Академии Наук СССР, 1963. С. 70 – 71.

[307] Алексеев Л.В. Смоленская земля в 9 – 13 вв. С. 49.

[308] Алексеев Л.В. Смоленская земля в 9 – 13 вв. С. 235.

[309] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 56.

Зблiжэнне Смаленска з Лiтвой выклiкала варожую рэакцыю з боку Масквы і Арды – хан Узбек зімой 1339 – 1340 г. выслаў на Смаленск войскі (рускую частку карнай экспедыцыі арганізаваў маскоўскі князь Іван Каліта).[*]

[*] (паводле летапісу, паход адбыўся ў 1338 г.)

"Тогоже лѣта со княземъ Іваномъ Ивановичемъ Рязанскимъ Коротополомъ приидоша из Орды от царя Азбяка Татарове мнози, и посолъ князь Тавлубие и князь Менгукашъ, и иніи мнози князи с Татары послании от царя Азбяка к Смоленску ратию. Тогдаже князь Иванъ Івановичь Коротополъ Рязанскии срете брата своего князя Александра Михайловича Пронского во орду идущу ко царю с выходомъ, изыма его и ограбя, и приведе во градъ свои Переславль Рязанскии; и тамо убиенъ бысть князь Александръ Михаиловичь Пронскии от своего брата, от князя Ивана Ивановича Коротополяго Рязанского. И тако ис Переславля поиде князь Іванъ Коротополъ с Тавлубиемъ и протчими Татары, а князь великии Иванъ Даниловичь пославъ свою рать с ними к Смоленску по цареву повелению, а воеводы его Александръ Івановъ, Федоръ Акинфович, такоже и иниї князи идоша по цареву повелению к Смоленску с Татары ратью, князь Костянтинъ Васильевичь Суздальскии, князь Костянтинъ Борисовичь Ростовскиї, князь Иванъ Ярославичь Юрьевскии, князь Іванъ Дрютцкии, князь Федоръ Фоминскии и Баскаки и Мордовския князи с Мордвичи. И пришедше подъ Смоленскъ посады пожгоша, и волости и селы пограбиша и пожгоша и подъ градомъ не много днеи стояше: и тако Татарове поидоша во орду со многимъ полономъ и богатствомъ, а Рустиї князи возвратишася во своясим здрави ї целы."

Русская летопись по Никонову списку. С. 170 – 171.

Узяць добра ўмацаваны горад не ўдалося. Смаленскае княства захоўвала самастойнасць і кіравалася князямі ўласнай дынастыі да канца 14 – пачатку 15 ст.

Гедымін пашыраў ліцвінскі плацдарм у паўночнай Смаленшчыне – у Таропецкай воласці пры Заходняй Дзвіне і Ржэўскай – над Волгай. Пазней стараннямі вялікага князя Альгерда Гедымінавіча ВКЛ здабыло таксама воласць Белую ў вярхоўях Дняпра.

У якой форме ажыццяўлялася ў гэтых валасцях ліцвінская ўлада, сказаць цяжка. Магчыма, у галоўным горадзе знаходзіўся прадстаўнік вялікага князя літоўскага з невялікім вайсковым аддзелам. Сучасныя падзеям летапісцы называлі паселішчы ў тых землях "літоўскімі". Трываласць ліцвінскай улады ў так аддаленай зямлі тлумачыцца добрай камунікацыяй з ёй праз Віцебшчыну па дзвінскім шляху. Пры неабходнасці ліцвінскія войскі маглі дабрацца сюды даволі лёгка і хутка. Добрая лучнасць у сярэднявеччы з'яўлялася неабходнай умовай падпарадкавання перыферыі цэнтру.

Авалодаўшы Таропцам і Ржэвай, ВКЛ атрымала кантроль над важнымі гандлёвымі шляхамі і выдатную пляцоўку для актыўнай палітыкі ў Паўночна-Усходняй Русі, найперш - у кірунку Ноўгарада, Цверы і Масквы. Не выпадкова, менавіта ў гэтым раёне ў 1335 г. адбылося першае маскоўска-ліцвінскае збройнае сутыкненне, якое запачаткавала векавое змаганне Масквы з Вільняй за валоданне Руссю. Ноўгарадскі летапіс паведамляе, што ў 1335 г. маскоўскія войскі палілі "літоўскія гарадкі" Асечан, Расну і інш[310], якія знаходзіліся ў Ржэўскай зямлі[311]. Гэта азначае, што ў той час у падпарадкаванні ВКЛ былі вярхоўі Волгі – Асечан размешчаны на левым беразе Волгі, а Расна далей на

[310] НПЛ. С. 347.

[311] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 63.

усход ад ракі[312]. Гэтыя паселішчы залічаныя да "літоўскіх" і ў вядомым "Спісе гарадоў", створаным у апошнія дзесяцігоддзі 14 ст.[313]

Таропецка-ржэўскі плацдарм – ключ да ўсёй Паўночна-Усходняй Русі - прагнулі мець ў сваіх руках і маскоўскія князі. Ужо пры Альгердзе Маскоўскае княства пачало ўпартае змаганне за Ржэву і замацавала яе за сабой пад канец 14 ст. Мяркуецца, што Ржэўскую воласць маскавітам перадаў Кейстут у час свайго нядоўгага гаспадарання ў 1381 – 1382 г.[314]

## 3.2. ВКЛ І РУСЬ, ЗАЛЕЖНАЯ АД ТАТАРАЎ

### 3.2.1. Адносіны з Ардой

ВКЛ пасля далучэння Тураўскай, Пінскай, Полацкай, Менскай і Віцебскай земляў, узмоцненае іх людскім і гаспадарчым патэнцыялам, вырасла ў моцнага гульца на палітычнай арэне Усходняй Еўропы. Колькасць перарасла ў якасць. Паспяховая абарона заходніх рубяжоў дазволіла Літве рэалізаваць другую частку знешнепалітычнай дактрыны Гедыміна – экспансію на ўсходзе. Аб'яднаўшы галоўныя беларускія землі, якія не былі залежныя ад татараў нават фармальна, Гедымін пачаў пашыраць уплыў ВКЛ далей на ўсход і поўдзень, як на этнічна беларускія тэрыторыі, так і на землі будучых Расеі і Украіны. То ўжо былі княствы, якія знаходзіліся, па выразе летапісца, *"у волі татарскай"*. Арда з'яўлялася вярхоўным сюзерэнам усёй стракатай мазаікі меншых і большых княстваў Паўднёва-Заходняй, Паўднёвай (будучая Украіна) і Паўночна-Усходняй (будучая Расея) Русі: атрымлівала даніну – "выхад" – ад мясцовых княстваў, хан зацвярджаў рускіх князёў на іх сталах праз выдачу ярлыкоў (грамат) на княжанне.

Прыход Гедыміна на землі, падпарадкаваныя татарам, непазбежна выклікаў сутыкненне інтарэсаў і завастрэнне адносінаў ВКЛ з татарскай Ардой. Татарскія ханы мелі дачыненні з Літвой ужо ад другой паловы 13 ст. праз пастаянныя спробы пашырэння сваёй улады на заходнія землі Русі. У першыя дзесяцігоддзі існавання ВКЛ татары неаднаразова нападалі на Літву (1258, 1275, 1277 г.) разам з падручнымі рускімі князямі. Тады, у 13 ст., татарскія паходы пачыналіся з тэрыторыі Галіцка-Валынскай дзяржавы, якой ардынскія ініцыятывы нападу на Літву крыжавалі ўласныя палітычныя планы і прыводзілі да аслаблення ўплыву на Панямонні. Змусіўшы Галіцка-Валынскае княства да васальнай залежнасці нападам 1254 г., Арда адвяла яму ролю супрацьвагі спачатку для Вялікага Княства Уладзімірскага, потым для Літвы[315].

У 14 ст. татарская палітыка адносна Літвы вымушана змянілася. Галоўнай мэтай Арды стала стрыманне экспансіі памацнелай ліцвінскай дзяржавы на падкантрольных татарам землях. Крыніцы сведчаць, што Гедымін падтрымліваў дыпламатычныя кантакты з Ардой ад пачаткаў свайго гаспадарання. У часіну смерці Міхаіла Яраслававіча цверскага ў лістападзе 1318 г. у Ардзе знаходзіліся ліцвіны, відавочна, з пасольства Гедыміна. У 1324 г. пасланнікі папскіх легатаў пры двары ліцвінскага гаспадара інфармавалі пра прысутнасць там татарскіх паслоў. Аднак у тым жа годзе адбыўся вайсковы татарскі паход супраць Літвы, дэталі якога невядомыя.[*]

312 Темушев В.Н. Литовско-тверская граница (проблемы интерпретации источников) [в:] Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 2. Мн. : БГУ, 2007. С. 136 – 137.

313 Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 67.

314 Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 54.

315 Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы 14 – 16 вв. Москва: Издательство восточной литературы, 1963. С. 29.

[*] (1324 г.): "Тогоже лѣта Царь Азбякъ посылалъ князей Литвы воевати; и много зло сотвориша Литвѣ, и со многимъ полономъ приидоша во орду."

Русская летопись по Никонову списку. С. 128.

У літаратуры выказвалася думка, што татары, пагадзіўшыся з цверскім князем Аляксандрам Міхайлавічам у 1326 – 1327 г., чакалі ад таго судзеяння ў наладжванні адносінаў з ВКЛ[316].

У 1331 г. кіеўскі князь Хведар дзейнічаў разам з татарскім баскакам – пераследаваў ноўгарадскага архіепіскапа, што дало падставы для меркавання пра адсутнасць выразных межаў палітычнага ўплыву Літвы і Арды на Русі[317].

Арганізаваны ханам Узбекам паход супраць Смаленска зімой 1339 – 1340 г. быў выкліканы прызнаннем смаленскім князем сюзерэнітэту Гедыміна[318].

Пры Гедыміне справа не дайшла да буйных бітваў паміж ліцвінамі і татарамі, што, напэўна, вынікала з тактыкі вялікага князя, які стараўся ўнікаць збройных канфліктаў і пашыраў свой уплыў у Паўночна-Усходняй Русі найперш дыпламатычнымі метадамі.

## 3.2.2. Паўночна-Усходняя Русь. Вялікае Княства Уладзімірскае

У **Паўночна-Усходняй Русі (Вялікае Княства Уладзімірскае)** – будучай Расеі – на рубяжы 13 – 14 ст. выдзяліліся два моцныя цэнтры, якія заявілі прэтэнзіі на лідарства ў рэгіёне – Цвер і Масква.

**Паўночна-Усходняя Русь** – у гістарычнай літаратуры назва Уладзіміра-Суздальскай і Мурама-Разанскай земляў, а потым Маскоўскага вялікага княства да пачатку 16 ст. Часта атаясамліваецца з Вялікім Княствам Уладзімірскім.

Паводле: Большой Энциклопедический словарь. 2000.

http://dic.academic.ru/dic.nsf/enc3p/266786

**Уладзімірскае Вялікае Княства**, у міжрэччы Акі і Волгі ў 12 – 14 ст. Утварылася ў 1157 г. у сувязі з пераносам вялікім князем Андрэем Багалюбскім сталіцы Растова-Суздальскага княства з горада Суздаля ў горад Уладзімір на Клязьме. Пасля смерці князя Усевалада Вялікае Гняздо (1212 г.) ад Уладзімірскага Вялікага Княства аддзяліліся Растоўскае, Пераяслаўскае (у канцы 30-х – пачатку 40-х гадоў 13 ст. з яго выдзелілася Цверскае княства – *А.К.*) Юр'еўскае, Старадубскае, Суздальскае, Яраслаўскае княствы. Вялікі князь уладзімірскі быў старэйшым у Паўночна-Усходняй Русі. У перыяд мангола-татарскага іга князям даводзілася ездзіць у Арду па граматы (ярлыкі) на валоданне Уладзімірскім Вялікім Княствам і адказваць за збор даніны з рускіх княстваў.

[316] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). Тверь: «РИФ ЛТД», 1994. С. 128.

[317] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. Москва, 1959. С. 396.

[318] Горский А.А. Москва и Орда. С. 65.

У 60-я – пачатку 70-х г. 13 ст. з Уладзімірскага Вялікага Княства выдзелілася Маскоўскае княства. У 1362 г. князь Дзмітры Данскі, абвясціўшы Уладзімірскае Вялікае Княства спадчынным уладаннем, аб'яднаў яго з Маскоўскім Вялікім Княствам.

Паводле: Современная энциклопедия. 2000. http://dic.academic.ru/dic.nsf/enc1p/11350

Ад пачатку 14 ст. паміж імі разгарэлася вострая барацьба, якая вялася як дыпламатычнымі, так і збройнымі сродкамі. Супернікі навыперадкі імкнуліся падпарадкаваць больш дробныя суседнія княствы і здабыць прыхільнасць татарскага хана, каб атрымаць ад яго ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае. Перавага схілялася то на адзін, то на другі бок. Татары дзеля захавання свайго панавання над землямі Паўночна-Усходняй Русі ўтрымлівалі тут стан палітычнай раздробленасці і імкнуліся не дапускаць залішняга ўзмацнення аднаго з мясцовых князёў. Арда падтрымлівала той княскі дом, які ёй на той момант здаваўся слабейшым, каб такім чынам захаваць "раўнавагу". Інстытут вялікага княжання ўладзімірскага быў для татараў толькі адным з інструментаў палітыкі сутыкнення князёў між сабой[319].

Цверскі князь Міхаіл Яраслававіч у 1304 – 1305 г. у вострым суперніцтве з маскоўскім князем Юрыем Данілавічам атрымаў законным шляхам, г.зн. з рукі татарскага хана Тохты, вялікакняскі ўладзімірскі стол. Новы хан Узбек у 1315 г. пацвердзіў вялікакняскі ярлык за Міхаілам цверскім. Аднак у 1317 г. сітуацыя рэзка памянялася на карысць Масквы. Узбек зняў Міхаіла Яраслававіча з вялікакняскай пасады і перадаў яе Юры Данілавічу, які ажаніўся з сястрой хана. 22 лістапада 1318 г. Міхаіл Яраслававіч па загадзе хана быў у Ардзе забіты[320].

**Цверскае княства**. Княства ў Паўночна-Усходняй Русі. Займала тэрыторыі па верхнім цячэнні Волгі і яе прытоках Цверцы, Ламе, Кашынцы і інш. Асноўныя цэнтры Ц. к. – Цвер, Кашын, Ксняцін, Зубцоў, Старыца, Мікулін, Дарагабуж, Холм, Клін, Калязін, Целяцева. Вял. князь уладзімірскі Яраслаў Усеваладавіч у канцы 30-х – пачатку 40-х г. 13 ст. выдзеліў Ц. к. са складу Пераяслаў-Залескага княства свайму сыну Аляксандру Неўскаму. У 1247 г. яно было перададзена іншаму сыну Яраслава – Яраславу Яраслававічу – і ад таго часу трымалася ў руках яго нашчадкаў.

У 2-й палове 13 ст. адбываўся хуткі рост Ц. к. і ўзмацненне палітычнага ўплыву яго князёў. У 60-я г. 13 ст. кн. Яраслаў Яраслававіч, заняўшы ўладзімірскі вялікакняскі стол, імкнуўся праводзіць шырокую аб'яднальную палітыку. [...] Імкненне цверскіх князёў узначаліць працэс аб'яднання рускіх земляў зрабіла Ц. к. часова цэнтрам вызваленчай барацьбы супраць мангола-татарскага іга. У 1327 г. у Цверы і іншых гарадах выбухнула паўстанне, якое Арда жорстка задушыла. Цвер была разрабаваная і спаленая, насельніцтва перабітае ці зведзенае ў рабства. Ад гэтага нападу Ц. к. не змагло адысці і больш ніколі не іграла такой ролі, як у 2-й палове 13 і першай чвэрці 14 ст. Яго аслабленню спрыяў і працэс феадальнага раздраблення. У другой палове 14 ст. з Ц. к. выдзяляюцца Кашынскае, Холмскае, Мікулінскае і Дарагабужскае княствы. У 70-я г. кн. Міхаіл Аляксандравіч з дапамогай Арды спрабаваў супернічаць з Масквой, але беспаспяхова.

[319] Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы 14 – 16 вв. С. 30, 34.
[320] Горский А.А. Москва и Орда. С. 43 – 44, 49, 50.

Уплыў Ц. кн. узрос у 30 – 50-я г. 15 ст., калі між маскоўскімі князямі выбухнула феадальная вайна. Саюзу з цверскім князем Барысам Аляксандравічам шукалі вял. князі Масквы і Літвы, візантыйскі імператар і сын Тамерлана Шахрух. Але пасля заканчэння вайны Васіля II Цёмнага з Шэмякам Ц. к. пачало хутка губляць сваю самастойнасць. Міхаіл Барысавіч быў вымушаны заключыць шэраг няроўных дамоваў з Іванам III. Спроба Міхаіла пераарыентавацца на Літву прывяла да аблогі Ц. маскоўскімі войскамі, якія 12 верасня 1485 г. захапілі горад. Ц.к. перастала існаваць як незалежная дзяржава.

В. А. Кучкин. Советская историческая энциклопедия. Москва: Советская энциклопедия. Под ред. Е. М. Жукова. 1973 – 1982. http://dic.academic.ru/dic.nsf/sie/17382/

Упершыню маскоўскі князь стаў вялікім князем уладзімірскім, і гэты прэцэдэнт даў права нашчадкам Юрыя Данілавіча законна прэтэндаваць на першынство ў Паўночна-Усходняй Русі. Аднак Юры Данілавіч страціў уладзімірскі стол у 1322 г., калі хан Узбек зноў перадаў ярлык цверскаму князю Дзмітрыю Міхайлавічу. У 1325 г. падчас побыту ў Ардзе Дзмітры Міхайлавіч “самавольна” (г. зн. без дазволу хана) забіў маскоўскага князя Юрыя Данілавіча. Хан Узбек пасля доўгіх ваганняў пакараў Дзмітрыя смерцю ў 1326 г., але вялікае княжанне аддаў ягонаму брату Аляксандру Міхайлавічу цверскаму.

Сітуацыя зноў крута перамянілася на карысць Масквы ў 1327 г., калі ў Цверы выбухнула антытатарскае паўстанне. Татарскі атрад на чале з паслом Чолханам (дваюрадным братам хана Узбека) быў выбіты. Маскоўскі князь Іван Данілавіч (Каліта), атрымаўшы вестку пра паўстанне, накіраваўся ў Арду, а адтуль зімой 1327 – 1328 г. рушыў на Цвер разам з буйным татарскім карным атрадам. Цверскае княства было спустошанае, Аляксандр Міхайлавіч выехаў у Вялікі Ноўгарад, а калі там яго не прынялі – скіраваўся ў Пскоў. Хан Узбек, пэўна, каб не дапусціць залішняга ўзмацнення аднаго князя над іншымі, падзяліў вялікае княжанне ўладзімірскае паміж двума князямі: Іван Каліта атрымаў Ноўгарад і Кастраму, а суздальскі князь Аляксандр Васільевіч – Уладзімір і Паволжа.

У гэтым канфлікце Гедымін падтрымаў Цвер, адзін з князёў якой, менавіта Дзмітры Міхайлавіч, быў жанаты з Марыяй Гедымінаўнай. Гэты шлюб (адбыўся зімой 1319 – 1320 г.) паклаў пачатак прыязным і саюзным адносінам Літвы з Цверру. Ранейшыя кантакты да канца 13 ст. мелі форму збройных сутыкненняў.

У 1329 г. Іван Каліта выступіў з войскам на Пскоў супраць Аляксандра Міхайлавіча, той вымушана выехаў у Літву да Гедыміна, але праз два гады вярнуўся, сеў у Пскове “*з літоўскай рукі*”[*] і пракняжыў тут шэсць гадоў[321].

[*] “Нь богъ и святая Софѣя низлагаеть всегда же высокыя мысли, зане плесковици измѣнилѣ крестъное цѣлование к Новуграду, посадилѣ собѣ князя Александра из литовъскыя рукы.”

НПЛ. С. 343.

## 3.2.3. Пачаткі ліцвінска-маскоўскай канфрантацыі.

Пачатак ліцвінска-маскоўскай барацьбы звязаны з экспансіяй ВКЛ у Паўночна-Усходняй Русі пры гаспадаранні Гедыміна. У дзеяннях ліцвінскага гаспадара прасочваецца класічны метад пашырэння свайго ўплыву на новых тэрыторыях – саюз са слабейшым

[321] Горский А.А. Москва и Орда. С. 55, 56, 60 – 61, 62..

супраць мацнейшага. Спачатку Гедымін падтрымаў галоўнага суперніка Масквы – Цвер, а на поўначы – Пскоўскую рэспубліку. Скарыстаўшыся маскоўска-ноўгарадскім канфліктам, Гедымін здабыў уплыў і на Вялікі Ноўгарад (мір 1326 г. і запрашэнне Нарымонта ў 1333 г.). Нейтралізаваць Івана Данілавіча (Каліту) праз дынастычны шлюб дзяцей не ўдалося. Маскоўскі князь пастараўся наладзіць адносіны з ноўгарадцамі (1334 г.), якія мелі на ўвазе свае інтарэсы. Вялікі Ноўгарад імкнуўся захаваць незалежнасць і па магчымасці вярнуць уладу над Псковам (фармальна лічыўся ноўгарадскім прыгарадам да 1348 г.). Менавіта ноўгарадская палітыка лавіравання паміж Масквой і Вільняй прывяла да першага маскоўска-ліцвінскага збройнага канфлікту ў 1335 г., які праходзіў пры ліцвінска-ноўгарадскай мяжы.

У 1285 г. маскоўска-ліцвінская збройная сутычка была хутчэй выпадковай, тады масквічы супольна з дружынамі іншых суседніх княстваў хадзілі адбіваць ліцвінскі рабаўнічы напад на землі цверскага епіскапа. Пачаткі рэальнай стратэгічнай канфрантацыі сягаюць у 14 ст., менавіта да часоў гаспадарання Гедыміна і Каліты. Гісторыкі здаўна згодныя, што першым збройным сутыкненнем у ліцвінска-маскоўскім суперніцтве быў маскоўскі паход у 1335 г. на "літоўскія гарадкі" Асечан і Расну, размешчаныя ў вярхоўях Волгі – ліцвінскі плацдарм у Паўночна-Усходняй Русі[322].[*]

[*] "Того же лѣта, великому князю Ивану приихавшю в Торжокъ из Новагорода, воеваша Литва Новоторжьскую волость на миру; и пославъ князь великыи, пожже городкѣ Литовьскыи Осѣченъ и Рясну и иных городковъ много."
НПЛ. С. 347.

Складаней вызначыць пачатак канфрантацыі. Польскі гісторык Станіслаў Заянчкоўскі вывеў, што першая праява суперніцтва мела месца каля 1330 г. Тады Любарт Гедымінавіч узяў удзел у барацьбе за ўтрыманне асобнай Галіцкай мітраполіі супраць мітрапаліта Феагноста, які прадстаўляў уплыў і інтарэсы Масквы[323].

На самой справе першыя праявы незычлівасці датуюцца больш раннім часам. Уяўляецца, што першай падзеяй, якая паклала пачатак маскоўска-ліцвінскай стратэгічнай канфрантацыі, можна лічыць шлюб дачкі Гедыміна з цверскім князем Дзмітрыем Міхайлавічам, які адбыўся зімой 1319 – 1320 г. Гэты дынастычны саюз стаў з боку ВКЛ дэкларацыяй палітычнай падтрымкі аднаго з супернікаў у барацьбе за дамінаванне ў Паўночна-Усходняй Русі. Потым меў месца першы выразна антымаскоўскі чын Гедыміна – палітычны прытулак для Аляксандра Міхайлавіча ў 1329 г. У 1331 г. Гедымін насуперак Маскве пасадзіў яго на пскоўскае княжанне і такім чынам падтрымаў цверскага князя, які быў братам ягонага зяця, забітага ў Ардзе.

Выбар Гедымінам саюзу менавіта з Цверру быў зроблены паводле даўняга прынцыпу міжнароднай палітыкі вялікіх дзяржаў – падтрымліваць слабейшага супраць мацнейшага. Якраз у той час у маскоўска-цверскім суперніцтве перавагу часова здабыла Масква. Яе князь Юры Данілавіч ажаніўся з сястрой хана, першым з маскоўскіх князёў атрымаў ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае, а ягоны цверскі супернік Міхаіл Яраслававіч (бацька Дзмітрыя) быў у Ардзе забіты. Дыпламатыя Гедыміна зрабіла свой выбар, які распачаў векавое ліцвінска-маскоўскае супрацьстаянне. Пазнейшы шлюб

[322] Гл. напрыклад: Prohaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 3. Z. 3. S. 197; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю // Российские и славянские исследования. Вып. 1. Мн.: БГУ, 2004. С. 74.

[323] Zajaczkowski S. rec.: Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. I. Litwa a Moskwa w XIII i XIV wieku. Warszawa, 1933 // AW. Wilno, 1934. R. 9. S. 309.

князёўны Гедымінаўны Анастассі з сынам Каліты Сямёнам зімой 1333 – 1334 г.[*] ужо не мог змяніць сітуацыю, як не маглі змяніць і іншыя спробы замірэння. Сутыкненне двух цэнтраў аб'яднання Русі з'яўлялася гістарычна непазбежным і ў тым выпадку, калі б Маскву перамагла Цвер.

[*] "Тоеже зимы Иванъ Даниловичь жени сына своего Семена на Москве седминадесять лѣтъ суща, приведоша за него княжну из Литвы именемъ Августу, а во святемъ крещении наречена бысть Анастасѣя."

Русская летопись по Никонову списку. С. 161.

Больш выразна ліцвінскі ўплыў на цверскай зямлі пачаў праяўляцца ад 1330-х гадоў[324].

У 1337 г. Аляксандр Міхайлавіч змог дамовіцца з ханам, прыехаў у Арду, павініўся, і хан Узбек вярнуў яму Цверскае княства. Аднак пасля візіту ў ханскую стаўку маскоўскага князя Івана Каліты зімой 1338 – 1339 г. (у знак пакорнасці яго суправаджалі два старэйшыя сыны Сямён і Іван) адносіны Узбека да цверскага князя рэзка памяняліся. Аляксандр Міхайлавіч быў выкліканы ў Арду разам з сынам Хведарам, і 29 кастрычніка 1339 г. хан абодвух пакараў смерцю. Даследчыкі лічаць, што трагічны лёс цверскіх князёў прадвырашылі іх літоўскія сувязі[325].

ВКЛ і Маскоўскае княства (тады яшчэ нават не называлася вялікім) мелі розныя вагавыя катэгорыі. ВКЛ вырастала ў мацнейшага гульца ва Усходняй Еўропе, а маскоўскія князі толькі пачалі змаганне за дамінаванне ў Паўночна-Усходняй Русі, і яго вынік быў яшчэ зусім невядомы. Сілы Маскве дадавала Арда, якая стаяла за яе спіной, але за ласку татарскіх ханаў трэба было цяжка змагацца.

## 3.2.4. Вялікі Ноўгарад і Пскоў

Адносіны ВКЛ з **Ноўгарадскай рэспублікай** развіваліся нашмат складаней, чым з суседнім Псковам.

**Ноўгарадская феадальная рэспубліка**. Сталіца – Ноўгарад Вялікі. Ужо ў пачатку 11 ст. праявілася тэндэнцыя палітычнай самастойнасці ад Кіева. У пачатку 12 ст. Ноўгарад пачаў запрашаць князёў без узгаднення з кіеўскім вялікім князем. Палітычнай самастойнасці дамогся ў 1136 г. Старажытныя гарады ноўгарадскай зямлі - Старая Руса, Ладага, Таржок, Карэла, Арэшак – мелі палітычнае самакіраванне і лічыліся прыгарадамі (васаламі) Вял. Н. У 12 – 13 ст. у склад Ноўгар. феад. рэспублікі ўваходзіў Пскоў, які пачаў адасабляцца ад Вял. Н. з сярэдзіны 13 ст. Палітычная незалежнасць Пскова была прызнаная Болатаўскай дамовай 1348 г.

У 12 – 15 ст. адбывалася пашырэнне Н. феад. рэсп. ва ўсходнім і паўночна-ўсходнім напрамку – засвойваліся землі Абонежжа, Падзвіння, берагі Белага мора. Даніну Вял. Н. плацілі югорскія плямёны з Паўночнага Урала. Паўночныя ўладанні Вял. Н. мелі вялікае эканамічнае значэнне па прычыне багацця на пушніну, марскога звера, рыбу, соль і інш.

[324] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 126, 128.

[325] Горский А.А. Москва и Орда. С. 64 – 65.

Вышэйшым органам улады ў Н. феад. рэсп. было веча, на якое маглі збірацца як гараджане, так і свабоднае сельскае насельніцтва. Вырашала важнейшыя гаспадарчыя, палітычныя, ваенныя, судовыя і адміністратыўныя справы, запрашала князя, выбірала з баярскага асяроддзя пасадніка, тысяцкага, а таксама архіепіскапа (ад 1156 г.). Арганізацыяй веча (падрыхтоўка законапраектаў, кантроль за выкананнем, скліканне веча) займаўся **баярскі савет**.

**Князь** быў перш за ўсё военачальнікам, адказваў за абарону ад знешніх ворагаў, з'яўляўся вышэйшай судовай інстанцыяй. Укладаў з ноўгарадцамі дамову (рад), калі не выконваў – мусіў пакінуць горад. **Архіепіскап** стаяў на чале выканаўчай улады; меў права суда, захоўваў скарб, кантраляваў гандлёвыя меры і вагі, ведаў знешнімі адносінамі і некаторымі інш. справамі. **Пасаднік** выбіраўся на адзін – два гады і кіраваў дзейнасцю ўсіх службовых асобаў. Разам з князем вырашаў справы кіравання і суда, камандаваў войскам, кіраваў вечавым сходам і баярскім саветам, прадстаўляў Вял. Н. у знешніх адносінах. **Тысяцкі** займаўся справамі гандлю і гандлёвага суда, узначальваў народнае апалчэнне.

Рэспубліка з яе сістэмай кіравання была ліквідаваная пасля заваёвы Вял. Н. Масквой у 1478 г.

Вялікі Ноўгарад уваходзіў у палітычную сістэму Паўночна-Усходняй Русі і разам з ёй знаходзіўся ў залежнасці ад татараў. Ён фармальна быў падпарадкаваны вялікаму князю ўладзімірскаму. Маскоўскі князь, атрымаўшы ад хана ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае (першаму тое ўдалося Юры Данілавічу ў 1317 г.), быў адказны таксама за збор ноўгарадскай долі "выхаду" для Арды.[*]

[*] *"Ад часу татарскай заваёвы Ноўгарад, карыстаючыся сваёй унутранай самастойнасцю, вымушаны быў дапускаць у сябе знаходжанне на Гарадзішчы вялікакняскіх намеснікаў (вялікага князя ўладзімірскага – А.К.) і плаціць вялікаму князю даніну ў якасці ўдзелу ў агульнай выплаце "выхаду" хану. З гэтай пары адносіны паміж Ноўгарадам і вялікім князем заўсёды былі напружанымі і нярэдка станавіліся адкрыта варожымі. Вялікія князі, карыстаючыся правам збірання "выхаду", стараліся як мага болей садраць з Ноўгарада і як мага цяжэй накласці на яго сваю руку. Са свайго боку Ноўгарад стараўся дапусціць у сябе як мага менш уплыву і ўлады вялікага князя".*

Костомаров Н.И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Москва: Мысль, 1991. С. 93.

Прынцыповы характар знешняй палітыкі Ноўгарадскай рэспублікі быў зусім іншы, чым у "маладых драпежнікаў" – Літвы і Масквы. Галоўная задача баяраў-купцоў, якія кіравалі рэспублікай – падтрыманне міжнароднага статус-кво дзеля бяспекі буйнога гандлёвага абмену з Захадам і, што з таго вынікала, абарона межаў і захаванне цэласнасці тэрыторыі – асноўнай крыніцы паступлення тавараў. Як любая купецкая рэспубліка (падобна Генуі ці Венецыі), Ноўгарад у знешняй палітыцы ахвотней карыстаўся дыпламатыяй, чым вайной.

Ноўгарадцы імкнуліся да міру з Масквой, у першую чаргу па прычыне вайсковай татарскай пагрозы, якую масквічы маглі сцягнуць на іх галовы. З Літвой дамаўляліся па меры неабходнасці, пад мілітарным ды дыпламатычным ціскам з боку ВКЛ ці ў супрацьвагу маскоўскаму націску. Гэта дало падставу ацаніць палітыку Ноўгарада

як лавіраванне паміж Літвой і Масквой з мэтай захавання сваёй незалежнасці і інтэгральнасці тэрыторыі[326].

Землі рэспублікі ўжо ў пачатку 13 ст. сталі аб’ектам рабаўнічых нападаў жыхароў Панямоння, якія называліся ў крыніцах “літвой”. Летапісныя літоўцы праходзілі да ноўгарадскіх уладанняў праз саюзныя ім Полаччыну і Віцебшчыну (можна меркаваць, што да іх далучалася мясцовая баявая моладзь, падобна ноўгарадскім ушкуйнікам) і хутка апанавалі Таропецкую і Ржэўскую воласці – выгадны плацдарм для нападаў не толькі на Ноўгарад, але і іншыя землі Паўночна-Усходняй Русі. Заўважана, што літоўскія справы займалі другое месца па колькасці запісаў у ноўгарадскіх летапісах пасля ўнутраных падзеяў. Першая важная мірная дамова з Літвой адбылася яшчэ пры гаспадаранні Міндаўга ў 1262 г.[327]

Непрыязны характар адносінаў з ВКЛ у першыя гады кіравання Гедыміна быў выкліканы ўмацаваннем ліцвінска-пскоўскага саюзу. Хуткае ўзмацненне Літвы, пашырэнне на ўсход, рост уплыву ў Пскове выклікалі да жыцця ноўгарадска-інфлянцкі антыліцвінскі і антыпскоўскі саюз 28 студзеня 1323 г. [*]

[*] **1323 г. студзеня 28. Дагаворная грамата Ноўгарада з Лівонскім ордэнам аб саюзе** (фрагменты)

(...) Далее, если псковский князь с литовским князем захочет на нас идти, то новгородцам быть нашими помощниками, на таких условиях, как здесь далее сказано: чтобы новгородцам мира с литовцами не заключать без нашего согласия, и нам мира с литовцами не заключать без согласия новгородцев. Далее, новгородцы нам помогают воевать с литовцами со всей своей силой, и мы им помогаем воевать с литовцами со всей нашей силой.

(...) А если псковичи не захотят отступиться от литовцев, то мы должны при этом помогать новгородцам и воевать так долго вместе с новгородцами, а они вместе с нами против псковичей, пока они не подчинятся новгородцам.

Друкуецца паводле: Грамоты Великого Новгорода и Пскова. С. 66. № 37.

Напад ліцвінаў на ноўгарадскія землі ў 1324 г., напэўна, быў адказам на гэты саюз. Няўдача паходу, відаць, паўплывала на рашэнне Гедыміна замірыцца. Пасля заключэння саюзу ВКЛ з Польшчай (1325 г.) Гедымін наладзіў адносіны і з Вялікім Ноўгарадам, дзеля чаго выслаў у 1326 г. адмысловае прадстаўнічае пасольства ў складзе свайго брата полацкага князя Воіна, менскага князя Васіля і смаленскага – Хведара Святаслававіча. Пасольства заключыла мір не толькі з Ноўгарадскай рэспублікай, але і з яе саюзнікам – Інфлянцкім ордэнам. На думку Валянціна Яніна, гэтае пагадненне на паўтары сотні наступных гадоў стала асновай добрасуседскіх ліцвінска-ноўгарадскіх адносінаў. Наладжванню мірных кантактаў спрыяла наяўнасць агульнай мяжы паміж ВКЛ і Вялікім Ноўгарадам, прынамсі, ад рубяжа 13 – 14 ст.[328].

У 1333 г. Вялікі Ноўгарад запрасіў на княжанне сына Гедыміна Нарымонта, у хрышчэнні Глеба.[*]

---

[326] Рымша М. В. Новгородско-литовские политические отношения в XIV–XV вв.: Автореф. дис. на соиск. учен. степ. к.ист.н. Санкт-Петербург. гос. ун-т, 2001.

[327] НПЛ. С. 311.

[328] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 85, 54.

[*] "Сем же лѣтѣ вложи богъ въ сердце князю Литовьскому Наримонту, нареченому въ крещении Глѣбу, сыну великого князя Литовьскаго Гедимина, и присла в Новъград, хотя поклонитися святѣи Софѣи; и послаша новгородци по него Григорью и Олександра, и позваша его к собѣ; и прииха в Новъгород, хотя поклонитися, мѣсяца октября; и прияша его съ честью, и цѣлова крестъ к великому Новуграду за одинъ человѣкъ; и даша ему Ладогу, и Орѣховыи, и Корѣльскыи и Корѣльскую землю, и половину Копорьи въ отцину и в дѣдѣну, и его дѣтемъ."

НПЛ. С. 345 – 346.

Ноўгарадскі летапісец назваў прычынай запрашэння ліцвінскага князя абяцанне ноўгарадскага пасольства Гедыміну, якое яно вымушана дало ў 1331 г., пры праездзе паслоў праз тэрыторыю Літвы.[*]

[*] "Того же лѣта, іюня мѣсяца, на Рожество Іоана Предтечи поѣха Василеи чернець на поставленіе въ архіепископью к митрофолиту въ Волыньскую землю, а с нимъ боляре: Коузма Твердиславль, Олфромѣи Остафьевъ тысячкого, и ѣхаша на Лятовъскую землю. И князь Гедиминъ изнима ихъ на мироу, и в таковои тяготѣ и слово право далѣ сыну его Нариманту пригороды Новгородцкии: Ладогоу, Орѣховыи, Корѣльскии, и Корѣльскоую землю, и половину Копорьи, в отчину и в дѣдіноу и его дѣтемъ."

Новгородская четвертая летопись // ПСРЛ 1915. Т. 4. Ч. 1. Вып. 1. С. 263 – 264.

**Каментар**. Падобна, прыведзенае тут тлумачэнне дамовы з Нарымонтам – уласнае меркаванне аўтара летапіснага запісу.

Такое вымушанае абяцанне, калі яно ўвогуле было, не магло ўспрымацца ў Ноўгарадзе як сур'ёзная падстава для важнага палітычнага рашэння. Нарымонт быў запрошаны і атрымаў "кармленне" праз два гады, калі склалася адпаведная палітычная сітуацыя.

Рэальнай прычынай прызвання князя з Літвы быў канфлікт з маскоўскім князем Іванам Данілавічам. Той, вярнуўшыся ў 1332 г. з Арды, дзе моцна патраціўся на падарункі хану і ягонаму атачэнню, задумаў паправіць фінансы, адабраўшы ў Ноўгарада г.зв. закамскае срэбра. Вялікі Ноўгарад атрымліваў срэбра з берагоў Паўночнай Дзвіны, Пячоры і з Пермі праз гандаль і даніну з тамтэйшых плямёнаў. Іван Данілавіч запатрабаваў перадаць яму гэтыя даходы і дзеля шантажу захапіў ноўгарадскія ўладанні Таржок і Бежацкі верх, не аб'явіўшы аб адмове ад мірнага пагаднення. Беспаспяхова паспрабаваўшы дамовіцца і адкупіцца ад маскавіта, ноўгарадцы пачалі рыхтавацца да абароны: умацоўвалі горад, паправілі адносіны з Псковам (туды ўпершыню за сем гадоў выехаў з пастырскім візітам архіепіскап[329]) і, у супрацьвагу Маскве, сышліся з Літвой. Так у 1333 г. у Вялікім Ноўгарадзе з'явіўся сын Гедыміна[330]. Акрамя дэманстрацыі альтэрнатывы маскоўскаму князю, ноўгарадцы перадачай Нарымонту названых воласцяў забяспечвалі свае паўднёвыя і паўночна-ўсходнія межы.[*]

---

[329] НПЛ. С. 345.

[330] Костомаров Н.И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Москва: Мысль, 1991. С. 103 – 104.

[*] *"Такім чынам, на працягу кароткага часу ствараецца сістэма літоўскіх гарантый бяспекі з боку як паўднёвай, так і паўночна-заходняй мяжы Ноўгарадскай зямлі: мір з Літвой на поўдні падтрымліваецца выплатай ёй чорнай куны* з пагранічных валасцяў, а на паўночным захадзе літоўская кармленчая валасць абараняе землі Ноўгарада ад шведскай небяспекі."*

Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. С. 56 – 57.

*Чорная куна – падаткавая натуральная адзінка і яе грашовая замена, збіралася для князя. Выраз *куна* паходзіць ад слова *куніца*, бо шкурка гэтага звера выкарыстоўвалася як плацёжны сродак. Выраз "чорная" азначаў, што падатак збіраўся з простага люду.

У хуткім часе, зімой 1333 – 1334 г., Гедымін пасваячыўся з Калітой праз шлюб Настассі (ягоная дачка, магчыма, унучка) з Сямёнам Іванавічам. Аднак гэта не спыніла суперніцтва за ўплыў у Ноўгарадскай зямлі. Калі ў 1334 г. Ноўгарад зноў зблізіўся з Іванам Данілавічам – адправіў паслоў і Каліта "*прия их с любовию*", адказам Гедыміна стаў збройны напад у 1335 г. (з парушэннем міру 1326 г.) на Наватаржскую воласць. Пасля гэтага і адбылася згаданая маскоўская выправа на "літоўскія гарадкі" Асечан і Расну. Іван Данілавіч, дзеля захавання прэстыжу і дэманстрацыі перад ноўгарадцамі сваёй надзейнасці ў якасці саюзніка, рашыўся на збройны канфлікт са сватам. Верагодна, гэта выклікала ад'езд Нарымонта-Глеба Гедымінавіча з ноўгарадскай тэрыторыі[331].

Аднак маскоўскаму князю не патрэбны быў трывалы мір з Вялікім Ноўгарадам. Іван Данілавіч з'яўляўся фармальным яго сюзерэнам "з рукі" татарскага хана і бачыў сваю мэту ў аслабленні і далейшай ліквідацыі самастойнасці багатай паўночнай рэспублікі. У 1337 г. ён выслаў войска на рабаўніцтва наддзвінскіх ноўгарадскіх валасцяў. Хоць напад удалося паспяхова адбіць, лагічнай рэакцыяй ноўгарадцаў стала зблiжэнне, дзеля вяртання раўнавагі, з іншым цэнтрам сілы – ВКЛ. У 1338 г. яны выслалі пасольства ў Літву да Нарымонта Гедымінавіча з просьбай вярнуцца ў Ноўгарад. Той згоды не даў, але ад кармлення не адмовіўся і пакінуў у ноўгарадскіх валасцях сваіх намеснікаў.[*]

[*] "Тои же зимы розратися князь великыи Иванъ с новгородци, и посла рать на Двину за Волокъ, не помянувъ крестнаго цѣлованиа и тамо крестъною силою посрамлени быша и ранени.

(...) Князь же Наримантъ бяше в Литвѣ, и много посылаша по него, и не поѣха, нь и сына своего выведе изъ Орѣхового, именемь Александра, токмо намѣстьникъ свои остави."

НПЛ. С. 347 – 348, 349.

**Пскоўская зямля** ў 12 – 13 ст. была часткай Ноўгарадскай дзяржавы, адным з г.зв. прыгарадаў. Яна займала заходнюю частку ноўгарадскай тэрыторыі і была заселеная славянамі іншага племені, чым ноўгарадскія славене – пскоўскімі крывічамі.

[331] Янин В.Л. Новгород и Литва. С. 91.

**Пскоўская феадальная рэспубліка.**

Фармальна выдзелілася са складу Ноўгарадскай феадальнай рэспублікі ў 1348 г. па Болатаўскай дамове, фактычна нашмат раней. Мела ўстрой, падобны да Вялікага Ноўгарада. Вярхоўным органам улады было **веча** – сход вольнага мужчынскага насельніцтва (галовы сем'яў, уладальнікі двароў). Веча вырашала важнейшыя справы дзяржавы, выбірала пасаднікаў, суддзяў, ваяводаў, запрашала князёў. Вышэйшым судовым органам была **гаспода**. У другой палове 15 ст. у яе склад уваходзілі **князь**, два ступенныя (галоўныя) **пасаднікі** і **соцкія** (апошнія – прадстаўнікі ніжэйшых станаў – "чорных людзей").

П. феад. рэсп. ліквідаваная ў 1510 г. пасля далучэння да Маскоўскага княства. Як і ў Вял. Ноўгарадзе, для выкаранення сепаратызму было праведзена перасяленне ненадзейных элементаў углыб Маскоўскай дзяржавы.

Пскоў пачаў адасабляцца ад Ноўгарада ўжо з 13 ст. Ад пачатку сваёй палітычнай незалежнасці (юрыдычна незалежнасць была аформленая ў 1348 г.) Пскоўская купецкая рэспубліка мела рэспубліку Ноўгарадскую за галоўнага ворага. Вялікі Ноўгарад надалей лічыў Пскоў сваім "прыгарадам" і спадзяваўся наноў яго падпарадкаваць. Ноўгарадцы ўпарта трымаліся фармальнай прыкметы сваёй улады над Псковам – прыналежнасці Пскоўскай зямлі да ноўгарадскага архіепіскапства. Так, у 1331 г. яны пратэставалі перад мітрапалітам супраць высвячэння асобнага епіскапа для Пскова і дамагліся свайго, нягледзячы на пратэкцыю пскавічам магутнага гаспадара Літвы. Пскоў і Ноўгарад рэдка аб'ядноўваліся для вырашэння агульных праблемаў, напрыклад, спраў з інфлянцкімі немцамі, звычайна кожны дзейнічаў паасобку.

Прыналежнасць да ноўгарадскай епархіі заставалася фармальнай прыкметай падпарадкавання Пскова, і ноўгарадцы імкнуліся яе захаваць як прэцэдэнт і сімвал-напамін пра былы стан рэчаў. Адносіны з Вялікім Ноўгарадам вызначалі асноўны кірунак пскоўскай палітыкі – здабыванне моцнага саюзніка, гаранта сваёй незалежнасці. І такім саюзнікам стала ВКЛ. Адсюль як рэакцыя ў адказ – ноўгарадска-ліцвінская непрыязь і ноўгарадска-маскоўскія саюзныя сувязі.

На працягу гаспадарання Гедыміна ліцвінска-пскоўскія адносіны нязменна заставаліся прыязнымі, саюзнымі, і набылі рысы пратэктарату ВКЛ над Псковам. Наладжванне кантактаў пачалося ў канцы 13 ст., пасля смерці пскоўскага князя Даўмонта-Цімафея, які меў асабістыя парахункі з Міндаўгам і яго родам. Цесныя сувязі Пскова з Давыдам Гарадзенскім, напэўна, існавалі ўжо ў часы вялікага князя Віценя. Пры Гедыміне Давыд неаднаразова прыходзіў са збройнай падмогай Пскову ў 1322 – 1323 г.[332][*]

[*] "В лѣто 6831 (1323 г. – *А.К.*). Князь великии Юрьи приеде с Низу въ Псковъ, и псковичи прияша его честно. Тоя же осени избиши Немци пскович гостеи въ озерѣ и ловцовъ на Норовѣ, и в береге Череместь взяша, а на миру и на хрестномь целовании. И послаша псковичи к Давыду князю в Литву, и приеха князь Давыдъ в четвергъ сыропустнои недели, а князь Юрьи еще бяше во Пскове. И тако князь Давыдъ со псковичи ехаша за Норову и плѣниша землю их до Колывана, а князь великии Юрьи поеха изо Пскова к Новугородоу. Тое же весны, марта въ 13, приидоша Немци ратью къ Пскову и стоявьше оу города 3 дни, и отъидоша съ срамом.

[332] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 226; Псковские летописи. Москва, 1955. Вып. 2. С. 22–23, 89 – 90.

Тоя же весны, месяца маиа въ 11, пакы приидоша Немци къ Пскову, ови на конех а инии в кораблех и в лодиах, гордящеся, в силѣ тяжцѣ, с порокы и з городы и со инѣми многыми замыслении, хотяще пленити дом святыя Троица. Тогда же оубиша посадника Селила Олексинича.

И стояша оу города 18 днии, порокы биющи, городы своя придвигающе, за лѣсами лѣзуще, и лѣствица исчиниша, хотяще через стѣноу лѣсти, и иная замышления их многа бяшет. И бяше тогда притужно велми Пскову; и мнози гонци посылаху псковичи в Новъгород къ князю Юрью и к новгородцем съ многою печялию и тугою, абы помогли; и не помогоша. А Немци стояху около всего Пскова, ови на Запсковьи, а друзии на Полонищи, а инии на Завеличьи; и что где полонивше, мужа или жену или дети или скотъ, то все провадяху за Великою рѣкоу. Тогда Остафии князь изборьскыи, подъимя изборянъ конниковъ и пѣшець, и подъехавше озрѣша Немець за Великою рѣкою и оудариша на них; и овѣх избиша, а инии в рецѣ истопоша; и тако полонъ весь отъяша. По том же, богови тако оустроившю, приспѣ князь Давыдъ из Литвы с моужи своими, и, помощию святыя троица и молитвами благовѣрьных князеи Гавриила и Тимовея, оплъчився с мужи псковичи, прогна их за Великую рѣкоу, а порокы и вся замышлениа их пожгоша; и отбѣгоша Немци съ многым студом и срамомъ. И потомъ приехаша силнии послове от всея земля Немецкыя во Псковъ, и докончаша миръ по всеи псковскои воли."

Псковские летописи. Вып. 2. С. 22 – 23.

**Каментар**. Цікава, што ў час прыбыцця Давыда Гарадзенскага з дружынай у Пскоў там знаходзіўся маскоўскі князь Юры Данілавіч, фармальны сюзерэн Пскова як вялікі князь уладзімірскі (праўда, праз некалькі месяцаў хан пазбавіў яго гэтай годнасці, а Юры не прызнаў ханскага рашэння). Давыд пайшоў у бой за Пскоў, а Юры Данілавіч – у Ноўгарад, які прыняў яго сваім князем. Справу не змяняе тая акалічнасць, што Юры Данілавіч прыбыў у Пскоў у малой сіле, ратуючыся ад цвер-скага княэя, які напаў на яго ў дарозе. Потым Юры Данілавіч з ноўгарадцамі яшчэ раз адмовілі пскавічам у вайсковай падтрымцы супраць інфлянцаў, а Давыд зноў прывёў дружыну і нанёс паразу немцам.

Навідавоку палітычны вузел: пскавічам патрэбна рэальная дапамога, і яны яе атрымліваюць з Літвы; маскоўскі князь гневаецца на Пскоў за сувязь з Літвой і хаўрусуецца з Вялікім Ноўгарадам, незадаволеным залішняй самастойнасцю свайго фармальнага прыгарада. Таму вайсковай дапамогі не прысылаюць, чым узмацняюць пскоўскае імкненне да самастойнасці і штурхаюць да саюзу з ВКЛ.

Ліцвінскія войскі аказвалі непасрэдную вайсковую дапамогу ў абароне Пскова. Акрамя таго, па просьбе і ў інтарэсах Пскова нападалі на дацкія і нямецкія ўладанні ў Інфлянтах. Зімой – вясной 1323 г. ліцвіны пустошылі землі ў Эстоніі і спалілі Мемель (Клайпеду) разам з караблямі ў гавані ды трыма навакольнымі замкамі[333].

Менавіта ў гэты перыяд замацаваўся ліцвінска-пскоўскі саюз, дакладней, пратэктарат ВКЛ над Пскоўскай рэспублікай. Пскавічы звярталіся па вайсковую дапамогу супраць немцаў наўпрост да Давыда Гарадзенскага, відавочна, нейкі час ён заставаўся пскоўскім князем, як тое вынікае з тэксту адной з рыжскіх грамат[*] і ўскоснай інфармацыі ноўгарадскага і пскоўскага летапісаў.

[333] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 226.

[*] **З паслання рады места Рыга да Гедыміна [да 2 кастрычніка] 1323 г.**:

"Затым даведаліся мы, нібыта пан Давыд стаў зараз князем пскоўскім. А пакалькі вы з ім асабліва блізкія сябры, то мы настойліва просім вашу міласць зрабіць ласку, каб пры вашым уплывовым пасярэдніцтве ён стаў бы сябрам нашага горада і апекуном нашых суграмадзян, таму што яны шматкроць праязджаюць праз яго землі."

Gedimino laiškai – Послания Гедимина. С. 62 – 65.

Ноўгарадскі летапісец на гэты конт выказаўся цьмяна: маўляў, падчас візіту ў Пскоў маскоўскага князя Юрыя Данілавіча "*въ Плесковѣ бяше тогды литовьскыи князь Давыдько*"[334]. Пскоўскі летапіс таксама не праясняе справу, з яго запісаў нельга зразумець, пасылалі да Давыда менавіта па вайсковую дапамогу ці запрашэнне на княскі стол (*И послаша псковичи к Давыду князю в Литву, и приеха князь Давыдъ в четвергъ сыропустнои недели, а князь Юрьи еще бяше во Пскове*). Магчыма, якраз з прычыны прысутнасці Юрыя Данілавіча пскавічы з дыпламатычных меркаванняў не "выкрыкнулі" сваім князем ліцвіна. Пскоў мусіў асцерагацца Масквы, князі якой здабывалі ад хана тытул вялікага князя ўладзімірскага. Праз шэсць гадоў (у 1329 г.) пад пагрозай нападу маскоўскага войска пскавічы "адпусцілі" (г.зн. выправілі) з горада палітычнага ўцекача – цверскага князя Аляксандра Міхайлавіча, а маскоўскага Івана Данілавіча назвалі сваім сюзерэнам.[*]

[*] "Князь Александръ изо Пскова поехалъ прочь, а тобѣ господину своемоу князю великому всь Псковъ кланяется."

Псковские летописи. Вып. 2. С. 91.

Праўда, праз два гады, у 1331 г., па пратэкцыі Гедыміна прынялі Аляксандра сваім князем, што негатыўна было ўспрынята ў Ноўгарадзе: [*]

[*] "(...) плесковици измѣнилѣ крестъное цѣлование к Новуграду, посадилѣ собѣ князя Александра из литовъскыя рукы."

НПЛ. С. 343.

У Віленскім трактаце 2 кастрычніка 1323 г. Гедымін прадстаўляў інтарэсы пскавічоў і агаворваў для іх такія самыя ўмовы, што і для земляў сваёй дзяржавы. Таксама Гедымін падтрымліваў Пскоў у справе дасягнення царкоўнай незалежнасці ад Ноўгарада і выслаў дзеля гэтага спецыяльнае пасольства да мітрапаліта ва Уладзімір-Валынскі ў 1331 г.

Тым не менш, Пскоў дбаў пра свае інтарэсы, найперш пра галоўны – захаванне незалежнасці, і стараўся захоўваць прыязныя адносіны як з Ноўгарадам, так і Маскоўскім княствам.

### 3.2.5. Галіцка-Валынская, Кіеўская і Чарнігаўская землі

У часы Гедыміна **Галіцка-Валынскае княства** ўжо не магло ствараць рэальнай пагрозы для ВКЛ. Паходы на Літву спыніліся назаўсёды яшчэ ў апошнія дзесяцігоддзі

[334] НПЛ. С. 339.

13 ст. Да аслаблення самай моцнай дзяржавы на Русі прычынілася падпарадкаванне яе татарам у 50-я гады 13 ст. У 14 ст. галіцка-валынскія князі былі вымушаныя весці адносна ВКЛ выключна абарончую палітыку. Дзеля гэтага яны многія гады падтрымлівалі саюзныя адносіны з галоўным ворагам Літвы – Тэўтонскім ордэнам. Вядомыя граматы апошніх тутэйшых князёў Андрэя і Льва Юр'евічаў, Юры-Баляслава, якія аднаўлялі ці пацвярджалі саюз з Ордэнскай дзяржавай у Прусах у 1316, 1325, 1327, 1334, 1335 г.[335]

У 1316 г. Андрэй і Леў Юр'евічы спецыяльнай граматай паабяцалі братам-рыцарам бараніць іх ад татараў, як толькі даведаюцца пра варожыя намеры стэпавікоў, а таксама "*ад усялякага варожага нападніка*". Згадка пра татараў, якія з-за адлегласці больш чым у тысячу кіламетраў не маглі рэальна пагражаць Ордэнскай дзяржаве, пэўна, з'яўлялася дыпламатычным прыкрыццём, а пад "*варожым нападнікам*" мелася на ўвазе ВКЛ[336]. Ордэн у гэты час вёў актыўную вайну з Літвой, якая сама падбіралася да даўніх валынскіх уладанняў, таму антылітоўская скіраванасць дамовы, як працяг ужо традыцыйнага валынска-ордэнскага саюзу, не выклікае сумневу. Адначасова туманная фармулёўка граматы сведчыла пра нежаданне галіцка-валынскіх князёў раздражняць моцнага суседа. У той жа час Андрэй і Леў падтрымлівалі саюзныя адносіны з Польшчай.

Гэтыя два апошнія мясцовыя князі з дынастыі Раманавічаў сышлі з жыцця пры невядомых абставінах перад 1323 г.[*]

[*] (Каля 1323 г.) **З ліста польскага караля Уладзіслава Лакетка да папы рымскага**: "(...) З жалем паведамляю, што два апошнія рускія князі-схізматыкі*, якія служылі для нас непераадольным шчытом ад татараў, сышлі са свету, і з іх смерцю для нас і для нашых земляў прыходзіць небяспека ад блізкасці татараў. Яны, напэўна, цяпер забяруць суседнюю з імі рускую зямлю, бо з яе звычайна збіралі ўсялякія даніны. "

*схізма – акрэсленне праваслаўнай царквы праз каталіцкую.

Prochaska A. W sprawie zajęcia Rusi przez Kazimierza Wielkiego // KH. 1892. R. 6. S. 29.

У літаратуры выказвалася версія, што гэтыя князі загінулі ў вайне з Гедымінам. Акрамя няпэўнай інфармацыі з летапісаў 16 ст., падставай для такога меркавання быў той факт, што Драгічынская і Берасцейская землі не ўваходзілі ў склад Валынскай воласці Любарта Гедымінавіча; адсюль рабілася выснова, што яны маглі быць забраныя Літвой раней, чым Валынь дасталася Любарту[337].

Пасля выгасання дынастыі Рамана ўпершыню ўзнікла праблема галіцка-валынскай спадчыны, што відно з ліста польскага караля да папы. Найбольш актыўна ў справу ўмяшаліся бліжэйшыя моцныя суседзі – ліцвінскі гаспадар і польскі кароль. Татары, насуперак засцярозе Лакетка, не ўзялі галіцка-валынскую зямлю пад сваё непасрэднае кіраванне, як тое зрабілі з Кіевам. Напэўна, не мелі дастаткова сілаў і сродкаў, каб так далёка ад стэпу трымаць сваю адміністрацыю і немалое войска супраць Літвы і Польшчы. Сілы і сродкі татарам патрабаваліся для захавання ўлады над Паўночна-Усходняй Руссю, дзе якраз "узбунтаваўся" маскоўскі князь Юры Данілавіч – у 1322 г. не аддаў у Арду сабраны "выхад" і не прызнаў рашэнне хана аб пазбаўленні яго вялікага княжання ўладзімірскага[338].

[335] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 523 – 524.

[336] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 116 – 117; Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 1. Z. 2. S. 106.

[337] гл. дэталёвей у: Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 117, 525 – 527.

[338] Горский А.А. Москва и Орда. С. 54 –55.

Галіцка-Валынская дзяржава нейкі час заставалася без князя, пакуль, паводле інфармацыі кракаўскай кафедральнай хронікі, галіцка-валынскае баярства ў 1323 г. не абрала сваім князем Баляслава Трайдэнавіча – сына мазавецкага князя Трайдэна (чэрскі князь Трайдэн І) і галіцка-валынскай князёўны Марыі – сястры апошніх князёў Юр'евічаў. Баляслаў афіцыйна перайшоў на праваслаўе, прыняўшы імя Юры (адсюль у літаратуры часта называецца Юры-Баляслаў ці Баляслаў-Юры). Хрышчэнне мазаўшаніна ў праваслаўе было чыста фармальным, бо пазней, каля 1331 г., шлюб з дачкой Гедыміна ён браў у касцёле ў Плоцку, папярэдне ахрысціўшы яе ў каталіцтва, ды і загінуў, паводле крыніцаў, з-за празмернай прывязанасці да каталіцтва. Яшчэ раней (перад 1322 г.) сын Гедыміна Любарт пабраўся з дачкой (імя не ведаем) валынскага князя, але невядома якога. Найбольш верагодна, што ягоным цесцем стаў Андрэй Юр'евіч, апошні валынскі князь з дынастыі Раманавічаў[339].

Міхайла Грушэўскі лічыў, што галіцка-валынскае баярства хутчэй за ўсё самастойна правяло выбар новага князя[340], хоць і не адмаўляў магчымасці з'яўлення Юры-Баляслава ў выніку паразумення паміж Лакеткам і Гедымінам. Паводле гэтай версіі, Лакетак пасадзіў на галіцка-валынскі трон Баляслава (у выніку паходу ў 1323 г. супольна з венгерскім каралём), а Гедымін гэтаму не супрацьдзейнічаў. Адсюль выснова пра верагоднае ўзгадненне акцыі Лакетка з Гедымінам[341], якая ўскосна пацвярджаецца фактам шлюбу (у 1331 г.) Баляслава-Юры з дачкой ліцвінскага гаспадара. Такая рэканструкцыя выглядае найбольш блізкай рэальнасці, бо Гедымін у той час якраз пачынаў буйную дыпламатычную гульню з Захадам, скіраваную супраць Ордэна, і планаваў антыкрыжацкі саюз з Лакеткам. Таму гаспадару недарэчы быў канфлікт з Польшчай, а лепш было адкласці на нейкі час справу і прызнаць нейтральную кандыдатуру на галіцка-валынскі трон. І Лакетку, і Гедыміну быў важны саюз супраць Ордэна, таму праблему з Галіцка-Валынскімі землямі не завастралі, спыніліся на кампрамісным рашэнні.

Тым не менш, Юры-Баляслаў (1323 – 1340 г.) працягваў палітыку саюзу з Тэўтонскім ордэнам, адпаведную палітычным інтарэсам як ягонай радзімы Мазовіі, так і новай айчыны. Пра гэта сведчаць ажно чатыры граматы-пацвярджэнні саюзу з прускімі братамі-рыцарамі.

У 1340 г. Юры-Баляслаў, як аказалася, апошні самастойны галіцка-валынскі князь, быў атручаны мясцовымі баярамі.[*] На падставе інфармацыі польскіх, чэшскіх хронік і актавых матэрыялаў даследчыкі вывелі, што ён стаў ахвярай змовы баяраў, незадаволеных палітыкай князя па ўвядзенні нямецкіх парадкаў і пратэкцыі каталіцызму. Забойства Юры-Баляслава і пазнейшую расправу баярства з яго прыбліжанымі "лацініцамі" часам называюць паўстаннем[342].

[*] "(...) а ў наступным годзе, калі Баляслаў, сын мазавецкага князя Трайдэна, аднагалосна абраны русінамі на князя і пана, забіты быў з дапамогай атруты, бо намагаўся змяніць іх правы і веру, Любарт, сын Гедыміна, ліцвінскага князя, завалодаў гэтым рускім княствам".

Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej [w:] Kronika Jana z Czarnkowa. Kraków: Universitas, 2001. S. 17.

[339] Меркаванне Яна Тэнгоўскага (Tęgowski J. Małżeństwa Lubarta Giedyminowicza. Przyczynek do genealogii dynastów halicko-wołyńskich w XIV wieku. S. 20 – 23), што да шлюбу валынскай праваслаўнай княжны з язычнікам не маглі дапусціць, нават пры ўмове яго хрышчэння, яе сваякі-каталікі з Польшчы (Уладыслаў Лакетак, Марыя Трайдэнаўна, Анастасся Земавітаўна), не адпавядае тагачасным рэаліям (шлюб Альгерда з віцебскай княжной і інш.)

[340] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 123.

[341] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1 S. 270 – 271; Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów. S. 60.

[342] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 133 – 140.

Калі княская пасада зноў стала вольнай, наноў на ўсю моц праявілася складаная міжнародная праблема – падзел галіцка-валынскай спадчыны, і ў шматгадовай барацьбе за гэтую багатую краіну схапіліся ВКЛ і Польскае каралеўства.

* * *

**Кіеўская зямля.** Пасля пагрому Кіева мангола-татарамі ў 1240 г. буйнейшы перад тым усходнееўрапейскі горад доўга заставаўся малым другарадным паселішчам[343]. **Кіеўская зямля** да пачатку 14 ст. знаходзілася пад непасрэдным татарскім кіраваннем, пазней у крыніцах трапляюцца звесткі пра кіеўскіх князёў.

**Кіеўская зямля**. Сфармавалася ў сярэдзіне 9 ст. У 10 – 12 ст. стала цэнтрам буйной дзяржавы – Кіеўскай Русі. Межы княства, у асноўным, праходзілі па рэках Прыпяць, Днепр, Стугна (Рось), Случ (Гарынь). Найбольш старажытныя гарады – Кіеў, Вышгарад, Белгарад.

У сярэдзіне 12 ст. Кіеўская зямля раздрабілася на шэраг удзелаў. У 1240 г. Кіеў быў захоплены і знішчаны мангола-татарамі. Наймацнейшай дзяржавай на Украіне ў 13 ст. стала Галіцка-Валынскае княства. Пасля няўдалай спробы князя Данілы Галіцкага замацавацца ў Кіеве татары на некаторы час далі ярлык на Кіеўск. з. суздальска-ўладзімірскім князям. У апошняй чвэрці 13 ст. татары трымалі ў Кіеве сваіх намеснікаў. У першай палове 14 ст. у горадзе зноў з'явіліся князі. Па скупых звестках крыніцаў, тут прасочваецца ўплыў вялікага князя літоўскага Гедыміна.

Каля 1362 г. Кіеўскае княства ўвайшло ў склад ВКЛ. Тут пачалі кіраваць ліцвінскія князі Гальшанскія і Гедымінавічы. У 1394 г. Кіеўскае княства было ліквідаванае, князя замяніў намеснік. У 1440 г. пад уплывам мясцовай феадальнай знаці княства было адноўлена, але ў 1471 г.ператворанае ў ваяводства.

Пад 1331 г. летапісы ўпамінаюць кіеўскага князя Хведара ў сувязі з паездкай новавыбранага архіепіскапа Вялікага Ноўгарада Васіля ва Уладзімір-Валынскі да мітрапаліта на пасвячэнне ў сан. Да мітрапаліта прыбылі таксама паслы Пскова і Гедыміна з просьбай пасвяціць для Пскова асобнага ад Ноўгарада епіскапа Арсенія. Мітрапаліт, відавочна, не без уплыву ноўгарадцаў, адмовіў у гэтай просьбе, таму ноўгарадскае пасольства, баючыся помсты Гедыміна, вярталася дамоў цішком ("уходам") "паміж Літвой і Кіевам". Па дарозе пасольства атрымала вестку ад мітрапаліта, што літоўскі князь выслаў за імі пагоню. Пад Чарнігавам ноўгарадцаў дагнаў кіеўскі князь Хведар з баскакам і атрадам у пяцьдзесят чалавек. Справа ледзь не дайшла да бойкі, але Васіль заплаціў выкуп і пасольства паехала далей.[*]

[*] "Арсѣнии же со плесковици поиха посрамленъ от митрополита из Волыньскои земли на Киевъ, на память святого отца Семеона столпъника. Поиха Василии владыка от митрополита; яко прииха под Черниговъ, и ту научениемъ дияволимъ пригнася князь Федоръ Киевьскыи со баскакомъ в пятидесят человѣкъ розбоемъ, и новгородци остерегошася и сташа доспѣвъ противу себе, мало ся зло не учинило промежю ими; а князь въсприимъ срамъ и отъиха, нь от бога казни не убѣжа: помроша конѣ у его.

[343] Carpini Jan di Piano. Historia mongołow [w:] Spotkanie dwóch światów. Stolica apostolska a świat mongolski w połowie 13 wieku. Poznań: Abos, 1993. S. 139.

И оттолѣ поиха владыка на Брянескъ и прииха в Торжокъ, на память святого священномученика Акепсимы, и ради быша новоторжьци своему владыцѣ; а в Новѣгородѣ печалнѣ быша, занеже не бяше вѣсти, нь сица вѣсть промчеся, яко владыку Литва ялѣ, а дѣтеи его избиша".

НПЛ. С. 344.

* * *

"Пресвещенныї Феогнасть митрополитъ Киевскии всеа Русиї, по поставлении отпусти Василия архиепискупа Новогороцкаго и посадники его в Новъ градъ; онъ же боясь Литвы и иде с посадники с своими Новогородцкими межи Литвы и Киева, уходомъ бѣжаше, а Феогнастъ митрополитъ заними грамоту прислалъ с своимъ с сыном боярскимъ ко владыкѣ, и посадникомъ глаголя сице: князь Литовскиї отпустилъ на вас Ф человеѣк Литвы поимати васъ. Ониже начаша скоро бежати и убежавшиимъ утаихъ, и пришедшимъ имъ по градомъ Черниговъ, и тамо пригнася за ними князь Федор Киевскии за баскакомъ Татарскимъ в малѣ дружине, точию въ пятидесятъ человѣкъ, а со владыкою бяше и спосадники Х человѣкъ. И бѣ имъ вѣсть; и окрепившеся сташа противу, тверди и ко князю к Федору начаша люди прибывати, а Новогородцемъ нача страхъ прибывати; и тако даша откупъ с себя. Князь же Федоръ Киевскии миръ устроивъ и откупъ взяхъ;" (...).

Русская летопись по Никонову списку. С. 158 – 159.

* * *

"А владыка Василей поиде отъ митрополита мѣсяца сентября 30, иде на Кіевъ, бояся Литвы, и ѣха вборзѣ; митрополитъ же Феогнаст посла за владыкою съ грамотою слугу своего, река: «отпустилъ на васъ князь 300 Литвы, а велѣлъ поимати васъ», они же убѣжаша отъ того. И пріидоша подъ Чрънииговъ, и ту наученіем діяволимъ пригна князь Феодоръ Кіевскій съ баскаки въ 50 человек розбоемъ".

Уваскрасенскі летапіс. ПСРЛ. Санкт-Петербург, 1856. Т. 7. С. 203.

Гэты эпізод трактуецца гісторыкамі неадназначна. Міхайла Грушэўскі прызнаў пагоню князя Хведара за ноўгарадскім архіепіскапам у 1331 г. ініцыятывай яго самога, а не Гедыміна. На думку даследчыка, Хведар кіеўскі наўрад ці валодаў усёй зямлёй, а мог быць татарскім "спадручнікам" толькі для самога Кіева[344]. Паводле М. Грушэўскага, Кіеўшчына, і не толькі паўночная, знаходзілася ў сферы ўплыву ВКЛ, але: "*Сам Кіеў у апавяданні 1331 г. выразна адрозніваецца ад земляў в. кн. Літоўскага, значыць далучаны да яго не быў*". Тым не менш, кіеўскі князь, de jure застаючыся татарскім васалам, "*...стаяў ужо, відавочна, у сферы палітычнага ўплыву в. кн. Літоўскага*"[345].

Да падобных высноваў прыйшлі вядомыя даследчыкі Генрык Пашкевіч і Уладзімір Пашута. Першы бачыў "*пэўную залежнасць Кіева ад Літвы*"[346], другі – "невыразнасць" межаў палітычнага ўплыву Літвы і Арды на Русі[347]. Дадатковым ускосным аргументам на карысць ліцвінскай прысутнасці ў Кіеве ў часы Гедыміна з'яўляецца згадка ў "Запісках" мітрапаліта Феагноста (датуюцца каля 1331 г.) брата Гедыміна князя Хведара ("Запіскі" апублікаваныя ўжо пасля выхаду працаў М.Грушэўскага)[348].[*]

---

[344] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 3. С. 173.

[345] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 4. С. 17 – 18.

[346] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 329.

[347] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 396.

[348] Приселков М. Д., Фасмер М. Р. Отрывки В. Н. Бенешевича по истории Русской Церкви XIV в. // Изв. ОРЯС. 1916. Т. 21. Кн. 1. С. 58.

[*] "Далъ Федоръ братъ Гедимина серебряныхъ кавкіевъ два"

Приселков М. Д., Фасмер М. Р. Отрывки В. Н. Бенешевича по истории Русской Церкви XIV в. // Изв. ОРЯС. 1916. Т. 21. Кн. 1. С. 58.

Адсюль выводзіцца меркаванне, што кіеўскім князем быў брат Гедыміна, у хрышчэнні Хведар. Можна толькі дадаць, што з'яўленне князя-ліцвіна ў зямлі, падпарадкаванай татарам, адпавядае логіцы гедымінавай палітыкі рэальных магчымасцяў і малых крокаў у паступовым павелічэнні ўплыву на Русі.

Апісанне заваёвы Кіева Гедымінам, змешчанае ў беларуска-літоўскіх летапісах 16 ст., магло абапірацца на сапраўдныя факты, толькі перакручаныя і дапоўненыя легендарнымі падрабязнасцямі. Аднак яно не пацвярджаецца іншымі крыніцамі, таму рабіць высновы толькі на яго падставе небяспечна[349]. Да рэальнага далучэння Кіева час прыйшоў трохі пазней – ужо пры Альгердзе Гедымінавічы.

* * *

Даследчыкі выказваюцца таксама пра распаўсюджанне ўплыву дзяржавы Гедыміна на землі былога **Чарнігаўскага княства**, паасобныя часткі якога ў пазнейшых крыніцах пачалі называцца **Севершчынай** (у 14 ст.) і **Вярхоўскімі княствамі** (у 15 ст.).[*] Мясцовыя, пасвараныя між сабой княствы, увесь час дзяліліся – распадаліся на яшчэ драбнейшыя. Толькі справай часу быў іх пераход пад уладу мацнейшых суседзяў – Літвы, Масквы ці Цверы. Мацнейшым на той час, таму і першым, аказалася ВКЛ часоў Альгерда.

[*] **Северская зямля**, Север, Севершчына - гісторыка-геаграфічны рэгіён ва Усх. Еўропе. Сфарміравалася ў старажытнарускі перыяд на частцы Чарнігаўскага княства, якая адпавядала арэалу рассялення северан, але не ахоплівала землі северан Пераяслаўскага княства. На поўначы ў вярхоўях рр. Сож і Дзясна Северская зямля аддзялялася ад Смаленшчыны ляснымі масівамі. На захадзе мяжой ёй служыў Дняпро. На поўдні ўмоўная мяжа праходзіла ад р. Асцёр праз міжрэчча р. Сейм з аднаго боку з р. Сулай, Псёл і Ворскла - з другога. На ўсходзе міжрэчча Дзясны і верхняй Акі аддзяляла Северскую зямлю ад іншай часткі Чарнігаўскага княства. Северскімі гарадамі ў 14 – 17 ст. лічыліся: Бранск, Гомель, Дрокаў, Курск, Мароўск, Мглін, Ноўгарад-Северскі, Почап, Старадуб, Трубчэўск, Пуціўль, Радагошч, Рыльск, Чарнігаў. Гістарычным цэнтрам Северскай зямлі з'яўляўся Чарнігаў.

Паводле: Цемушаў В. Северская зямля [у:] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2006. Т. 2. С. 561 – 562.

* * *

**Вярхоўскія княствы**. Дробныя княствы ў вярхоўях р. Акі. Вылучыліся з Чарнігаўскага княства ў 1246 г. Напачатку было тры: Карачаўскае, Навасільскае і Тарускае. У 14 – 15 ст. яны моцна раздрабіліся.

Паводле: Цемушаў В. Вярхоўскія княствы [у:] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2005. Т. 1. С. 476.

У згаданых "Запісках" кіеўскага мітрапаліта Феагноста, створаных каля 1331 г., утрымліваецца сведчанне пра ўплыў літоўскай праваслаўнай мітраполіі (а значыць

[349] Грушевський М. Історія України-Руси . Т. 4. С. 18 – 19.

і палітычны ўплыў ВКЛ) на тэрыторыі Севершчыны. Вядома, што ў снежні 1340 г. у Бранску адбылося паўстанне супраць князя – стаўленіка Масквы, пасля чаго Бранск вярнуўся ў залежнасць ад Смаленска, а праз яго – ад ВКЛ[350]. Паводле "Запісак", рэчы памерлага літоўскага мітрапаліта Тэафіла знаходзіліся ў Бранску, а грошы Тэафіла – у Казельску[351]. Адсюль выводзілася, што Гедымін акружаў дзяржаву Івана Каліты шырокай дугой і ад паўднёвага захаду[352]. Таксама – супрацоўніцтва ці саюзныя адносіны з ВКЛ Вярхоўскіх княстваў, магчыма, пачыналіся ўжо ад пачатку 14 ст.[353]

---

350 Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы [в:] Средневековая Русь. Москва, 1996. Вып. 1. С. 81 – 85; ён жа. Москва и Орда. С. 69.

351 Приселков М. Д., Фасмер М. Р. Отрывки В. Н. Бенешевича по истории Русской Церкви XIV в. С. 49, 50, 58.

352 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 331 – 332.

353 Цемушаў В. Вярхоўскія княствы. С. 476.

## ПАДСУМАВАННЕ: ГАСПАДАРСТВА ГЕДЫМІНА

У часы гаспадарання Гедыміна ВКЛ працягвала "вылузванне з кокана" – працэс выхаду па-за пачатковыя межы, які пачаўся прынамсі ўжо ад часоў Віценя. Гедымін атрымаў ад Віценя дзяржаву плошчай каля 90 тыс. кв. км, а пакінуў гаспадарства ў тры разы большае – памерам каля 320 тыс. кв. км.[*]

[*] Мае падлікі тэрытарыяльнага абсягу гаспадарства Гедыміна па лічбах амаль супадаюць з плошчамі, вылічанымі Вячаславам Насевічам, але істотна розняцца ў вызначэнні прыналежных да дзяржавы земляў.

Паводле падлікаў В. Насевіча, пры Гедыміне тэрыторыя ВКЛ складала каля 325 – 330 тыс. кв. км. (Насевіч В. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 75, 82).

Да ВКЛ пры Гедыміне, паводле В. Насевіча, належалі:

"*Старое дзяржаўнае ядро (Літва ў палітыка-геаграфічным сэнсе)*" (даследчык да яе залічвае: Літву-Аўкштоту – да 45 тыс. кв. км, Наваградскую зямлю – каля 26 тыс. кв. км, "*літоўскія ці змешаныя літоўска-славянскія тэрыторыі ў сучаснай Беларусі*" – каля 26 тыс. кв.км) – разам **каля 97 тыс.** кв. км;

нованабытыя Віцебскае, Друцкае, Менскае княствы – адпаведна каля **20, 17 і 19 тыс**. кв. км;

Піншчына са Слуцкам – **каля 34 тыс.** кв. км;

Берасцейшчына з Падляшшам – **29 тыс.** кв. км;

Уладзіміра-Валынскае княства – **да 55 тыс.** кв. км.

"*Рэшту ўтваралі паўсамастойныя балцкія (Жамойць) і славянскія землі*" – **54 – 59 тыс.** кв. км. Разам: **325 – 330 тыс**. кв. км.

Па маіх падліках (прыняўшы прыведзеныя В.Насевічам памеры паасобных земляў) плошча атрымалася прыблізна такая самая – каля **320 тыс**. кв. км, але тэрытарыяльны склад гаспадарства Гедыміна істотна іншы:

1. Напэўна, трэба адрозніваць тэрыторыю дзяржавы і тэрыторыю яе ўплыву. Па гэтай прычыне адпадаюць "паўсамастойныя" Жамойць і інш. (**54 – 59** тыс. кв. км).

2. З другога боку, належыць далучыць Полацак з падуладнай тэрыторыяй (**каля 29 тыс**. кв. км), пра які сам В.Насевіч піша: "*Трывала злучыўся з дзяржавай Полацак*" (С. 80).

3. Належыць дадаць тэрыторыю "плацдарма ВКЛ у Паўночна-Усходняй Русі", менавіта Таропецкую і Ржэўскую воласці – **каля 20 тыс.** кв. км.

У выніку атрымліваецца каля **320 тыс**. кв. км.

Адпаведна, іначай у параўнанні з падлікамі В.Насевіча, выглядае ўдзел у дзяржаве балцкіх і ўсходнеславянскіх земляў. У В. Насевіча – 30% тэрыторыі дзяржавы займалі "*этнічна балцкія ці змешаныя тэрыторыі.*" Незразумела, чаму змешаныя землі залічаныя да балцкіх, калі яны ўсё роўна сталі беларускімі?

Больш дакладныя суадносіны можна вызначыць паводле прыведзеных вышэй плошчаў, дзеля карэкцыі адняўшы ад іх "*літоўска-славянскія тэрыторыі ў сучаснай Беларусі*" – каля 26 тыс. кв. км. Атрымліваецца, што балцкіх земляў у складзе ВКЛ было прыблізна 15% ад агульнай тэрыторыі дзяржавы, а ўсходнеславянскіх, пераважна беларускіх – адпаведна каля 85%.

Найбольш інфармацыі пра тэрытарыяльны склад ВКЛ пад канец гаспадарання Гедыміна дае ягоны тастамент, пераказаны ў "Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх".[*] У прыватнасці, толькі з гэтага запісу стала вядома пра прыналежнасць да дзяржавы ў часы Гедыміна Піншчыны і Віцебшчыны.

[*]"Коли ж их отець подѣлил, напервѣи дал Монтивиду Корачов* а Слоним, Наримонту дал Пинеск, Оликгирду дал Крево; а к тому князь витебъскии сынов не держал, и он принял Олкгирда к дочцѣ своеи, Витебъск, в зяти. А Евнутья осадил на Вильню, а Керстутью дал Троки, Коряту дал Новгородок, а Люборта принял володимерьскии князь к дочцѣ своеи у Володимер и в Луческ и в всю землю Волынскую. "

ПСЛР. Т. 35. С. 132 – 133.

*Паводле іншых крыніц, Манівіду быў аддадзены не Карачаў за Бранскам, а Кернаў (Кернава). Гэта выглядае больш лагічным, бо дзялілася ўласна Літва, а не г.зв. землі-анексы.

Тастамент быў складзены ў апошнія гады жыцця Гедыміна, дакладней, пасля 1338 ці нават у 1340 г. У 1338 г. Нарымонт-Глеб яшчэ княжыў у Полацку, а Любарт, які нічога з зямель у Літве не атрымаў, заняў Валынь толькі пасля смерці яе князя Юры-Баляслава, якая наступіла ўвесну 1340 г.[354] Гедымін дзяліў між сынамі ўласна Літву – асноўную тэрыторыю дзяржавы, цэнтральную вобласць, вялікакняскі дамен, якім ён кіраваў непасрэдна. Наяўнасць Пінска сярод раздаваных уладанняў сведчыць пра цеснае палітычнае зрастанне гэтай зямлі з уласна Літвой. Акрамя таго, да Літвы былі прывязаныя адміністрацыйна іншыя дробныя княствы Палесся (Тураўская і Пінская зямля), Берасцейская зямля і Падляшша (апошнія дзве Гедымін перадаў Кейстуту разам з Трокамі і Гародняй).

Не перадаваліся сынам дзяржаўныя землі, якія не з'яўляліся часткай вялікакняскага дамена, захоўвалі большую ці меншую аўтаномію, *"як самастойныя часткі дзяржавы, аб'яднаныя толькі ў адзінай вярхоўнай уладзе"*[355].

Тастамент Гедыміна (у тым ліку праз ягоныя наступствы) паказвае ВКЛ як вотчынную, ці патраманіяльную, манархію, у якой дзяржава не аддзялялася ад асобы манарха і лічылася ягонай уласнасцю. Манарх перадаваў сынам удзелы не ў кіраванне, а таксама ва ўласнасць. Такое разуменне дзяржавы было характэрна для ранняга і развітага сярэднявечча і выступала, напрыклад, у Кіеўскай Русі, дзяржаве першых Пястаў у Польшчы, Чэхіі, Венгрыі і г.д. у 11 – 12 ст. (потым пачаўся перыяд феадальнай раздробленасці). У познім сярэднявеччы ў краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы (Венгрыі, Польшчы, Чэхіі) адбылося аддзяленне дзяржавы – "кароны каралеўства" – ад асобы манарха (пачалося ў 14 ст., закончылася ў 15 ст.)[356].

ВКЛ да сярэдзіны 15 ст. (да выбрання польскім каралём Казіміра Ягайлавіча ў 1447 г.) можна акрэсліць як самую познюю патрыманіяльную манархію ў Еўропе ("самая позняя раннефеадальная дзяржава"). Моцная цэнтральная ўлада ў ВКЛ сфармавалася ў апошнія дзесяцігоддзі 13 – першыя дзесяцігоддзі 14 ст. пад уплывам працяглага шматгадовага змагання з Ордэнскай дзяржавай у Прусах і Інфлянтах. Падобным чынам ва ўмовах рэканкісты на Іберыйскай паўвыспе ўтварыліся моцныя цэнтралізаваныя дзяржаўныя

[354] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 357.

[355] Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства... С. 26.

[356] Russocki S. Monarchie stanowe Środkowo-Wschodniej Europy 15 – 16 wieku // KH. 1977. R. 84. S. 81.

арганізацыі ў княствах і каралеўствах – Кастыліі, Леоне, Арагоне, Партугаліі.

Разам з тым, вялікія князі літоўскія выявілі палітычную гнуткасць у дачыненнях з тымі новадалучанымі ўсходнеславянскімі землямі, якія мелі ўласныя і больш даўнія чым Літва традыцыі грамадскага і дзяржаўнага жыцця. Гэтым землям (у літаратуры ўжываецца тэрмін землі-анексы) была гарантаваная аўтаномія з захаваннем іх традыцыйных палітычных і адміністрацыйных структураў. Такая палітыка працягвалася і ў наступныя стагоддзі, паводле прынцыпу "старыны не рушыць, а навіны не ўводзіць", у адрозненне ад Маскоўскага Вялікага Княства, якое імкнулася да ўніфікацыі далучаных тэрыторый з цэнтрам. Дзеля гэтага маскоўскія князі практыкавалі прымусовыя перасяленні феадалаў, часам масавыя, са здабытых земляў у цэнтральную вобласць, а маскоўскіх на іх месца.

Традыцыйны еўрапейскі шлях ад патрыярхальнай манархіі (10 – 11 ст.) праз раздробленасць (12 – 13 ст.) да новай цэнтралізацыі (14 – 16 ст.) ВКЛ прайшло ў паскораным тэмпе – пачало пазней, а закончыла раней за некаторыя "класічныя" еўрапейскія краіны.

Гедымін дзяліў дзяржаву паводле звычаю свайго часу і пры гэтым не мог не думаць пра яе цэласнасць пасля свайго адыходу. Магчыма, версія пра тое, што ён пакінуў у сталіцы аднаго з сыноў – Яўнуту – у ролі каардынатара, рэгулятара агульнадзяржаўнай палітыкі, мае пад сабой падставы[357]. Час паказаў, што праект Гедыміна (дзяржава – калектыўная ўласнасць ягоных сыноў) не рэалізаваўся. Ці Яўнута не змог стаць рэальным каардынатарам, ці ягоныя браты не захацелі яго такім успрымаць, але ўладу над усёй дзяржавай забраў дуумвірат Альгерда з Кейстутам, якія сваім аб'яднаннем забяспечылі значную перавагу над астатнімі ўдзельнымі уладаннямі. Да таго ж securityнованабытыя землі ці "вымарачныя" па сваяках яны дзялілі толькі між сабой, чым яшчэ больш павялічвалі перавагу над іншымі ўдзеламі. Акрамя таго, дуумвіры запачаткавалі правіла трактавання ўладанняў князёў Гедымінавага роду не як удзелы, а як намесніцтвы. Пасля смерці каго-небудзь з сыноў Гедыміна, яго княства не дзялілася паміж дзецьмі: "*Часцей за ўсё ў такіх выпадках на бацькоўскім стале сядаў адзін з унукаў Гедыміна, а іншым Альгерд прызначаў княжанні ў іншых вобласцях*"[358].

Аднак сімбіёз двух магутных удзельных князёў быў гістарычнай выпадковасцю, а не традыцыяй ці дзяржаўным інстытутам, пра што засведчыла немагчымасць працягу дуумвірату іхнімі дзецьмі Ягайлам і Вітаўтам. Апошні выправіў тастамент дзеда ў канцы 14 – пачатку 15 ст., ліквідаваўшы буйныя княствы ў дзяржаве і паставіўшы на месцы роўных яму па крыві Гедымінавічаў або замест мясцовых князёў – нязнатных намеснікаў.

У тастаменце Гедыміна не згадваюцца Полацак і Жамойць. У выпадку з Полацкам канкрэтныя звесткі крыніцаў паказваюць на моцную традыцыю аўтаноміі – хоць у ім сядзелі князі з літоўскага вялікакняскага роду, мясцовая эліта мела значны ўдзел у кіраванні. Па традыцыі, менавіта ад яе павінна зыходзіць фармальнае запрашэнне князя на полацкі стол. Згадка пра Віцебск можа сведчыць, што роля князя там была большая, чым у Полацку. Аднак і гэтай зямлёй распараджаецца не Гедымін, а мясцовы князь.

Жамойць не ўваходзіла ў дзяржаву Гедыміна, ён не мог ёю распараджацца як часткай свайго дамену. Па трапнай ацэнцы Мацея Любаўскага: "*У гэтай вобласці, дзякуючы гістарычным абставінам, моцна развіўся і ўмацаваўся племянны індывідуалізм, які ў сваю чаргу падтрымліваў індывідуалізм палітычны.* (...) *Пачатак цеснаму злучэнню Жамойці з Літвой паклаў Вітаўт*"[359].

[357] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 359.

[358] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Москва: Синодальная библиотека, 1910. С. 39.

[359] Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства... С. 35.

Дзяржава Гедыміна складалася з уласна Літвы (ядро, пачатковая тэрыторыя ў складзе Наваградчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны і заходняй часткі Меншчыны), палітычна з'яднаных з Літвой Тураўскай, Пінскай, Берасцейскай, Менскай земляў. У склад гаспадарства de facto (de jure адбылося пад канец 14 ст.) уваходзілі Полацкая і Віцебская землі на ўмовах захавання шырокай аўтаноміі ў мясцовым кіраванні. Верагодна, прыналежнасць да ВКЛ выяўлялася найперш тым, што палачане і віцьбічы ўжо не выбіралі князя самастойна (хоць магла захавацца фармальная працэдура запрашэння ці выражэння згоды) – яго ставіў ліцвінскі гаспадар, выбіраючы з прадстаўнікоў сваёй дынастыі – роду Гедыміна.

Здабытае Гедымінам Падляшша, якое не мела ўласных дзяржаўных традыцый, было ўключанае ў склад уладанняў Кейстута (таксама як і частка ўласна Літвы – Гарадзенскае княства) і адміністрацыйна падпарадкоўвалася ягонай сталіцы – Трокам.

Землі, прылеглыя да тэрыторыі дзяржавы, знаходзіліся ў рознай ступені залежнасці ад Літвы. Хоць Жамойць не ўваходзіла ў склад ВКЛ, але залежала ад Літвы і падтрымлівала з ёй саюзныя адносіны. Напрыклад, падчас ордэнскага паходу на Жамойць у 1322 г. залога замка Пістэн пасля цяжкага бою паддалася, дала закладнікаў і абяцала прызнаць уладу Ордэна, *"аднак пад націскам ліцвінскага караля абяцанку не датрымала"*[360]. (Выснова – вялікі князь Літвы мае ўплыў, але не з'яўляецца гаспадаром). У 1324 г. жамойты пагражалі Гедыміну, каб не дапусціць таго да прыняцця хрысціянства. З аднаго боку, жамойты ўдзельнічалі ў збройных акцыях Гедыміна супраць Ордэна, з другога – захавалася не адно сведчанне крыніцаў пра непасрэдныя кантакты жамойтаў з крыжакамі насуперак волі і без ведама ліцвінскага гаспадара. І галоўнае – Жамойці няма ў тастаменце сярод земляў, якія Гедымін пакідаў сынам.

Ужыванне ў некаторых дакументах Гедыміна тытула князя Семігаліі сведчыць прынамсі пра прэтэнзіі гаспадара на валоданне гэтай зямлёй. Як вядома, ліцвіны з даўніх часоў падтрымлівалі семігалаў у іх барацьбе за незалежнасць ад Ордэна.

Праз шлюб сына з галіцка-валынскай князёўнай Гедымін заклаў падставы пазнейшага валадарства ВКЛ на Валыні. Інфармацыя крыніц, хоць і няпэўная, дазваляе дапускаць наяўнасць уплыву ВКЛ у Кіеўскай зямлі.

Несумненна моцны ўплыў дзяржава Гедыміна мела ў Пскове, можна казаць пра адносіны пратэктарату, ці, па іншай тэрміналогіі, васалітэту (сведчанні: неаднакроць вайсковая падтрымка; Давыд Гарадзенскі быў некаторы час пскоўскім князем; Гедымін стараўся пра асобнага ад Ноўгарада епіскапа; пасадзіў у Пскове цверскага князя).

Незалежнай ад ВКЛ заставалася Ноўгарадская рэспубліка, з якой у Літвы складваліся няпростыя адносіны як да Гедыміна, так і пасля яго гаспадарання. Прыняцце на ноўгарадскія прыгарады князем сына Гедыміна – сведчанне саюзных, але не васальных адносінаў. ВКЛ заключала з Вялікім Ноўгарадам афіцыйныя міжнародныя дамовы, чаго не назіраем у адносінах з Псковам.

Сціслая інфармацыя крыніц сведчыць пра васальную залежнасць ад ВКЛ смаленскіх князёў. Задоўга да Гедыміна адбылося ўмацаванне ліцвінскай улады ў паўночных частках Смаленскай зямлі – Таропецкай і Ржэўскай воласцях (апошняя размяшчаецца ў вярхоўях Волгі) – стратэгічным плацдарме ліцвінскай экспансіі ў Паўночна-Усходняй Русі.

Гедымін навязаў саюзныя адносіны з Цверскім княствам (праз палітычны шлюб), але не пазбег канфрантацыі з княствам Маскоўскім, нават параднііўшыся з маскоўскім князем праз шлюб таго з князёўнай Гедымінаўнай.

На падставе цьмяных звестак крыніц даследчыкі выводзяць наяўнасць палітычнага ўплыву ВКЛ пры Гедыміне на землях былога Чарнігаўскага княства (Севершчыне і Вярхоўскіх княствах).

---

[360] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 225.



Пра ўнутраны лад дзяржавы Гедыміна можна меркаваць па некаторых дэталях цікавага дыпламатычнага дакумента, захаванага ў нямецкамоўнай версіі, а менавіта – гандлёвай дамовы ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам у 1338 г. "*Таксама калі будзе так, што ліцвінскае войска рушыць у хрысціянскую зямлю і заб'юць яны свайго купца, **будзе ён рускі ці ліцвін*** (тут і далей выдзелена мной – *А.К.*), *не павінны магістар мецъ у тым віны*". (с. 190 – 191). І далей: "*Гэты мір заключаны ад нараджэння госпадня ў тысяча трыста трыццаць восьмым годзе, у дзень усіх святых са згоды магістра і ландмаршала і многіх іншых годных і рады Рыгі, якія **на гэтым цалавалі крыж;** і са згоды караля Літвы і **яго дзяцей** і ўсіх **яго баяраў**, якія таксама **свае абрады пры гэтым стварылі**, і са згоды епіскапа Полацка, караля і горада Полацка і караля Віцебска і горада Віцебска, якія ўсе **на гэтым вышэйзгаданым міры цалавалі крыж*** (с. 194 – 195)"[361].

Дакумент сведчыць:

насельнікамі дзяржавы Гедыміна былі як ліцвіны (жыхары Уласнай Літвы), так і русіны (насельнікі Полаччыны і Віцебшчыны, а пад канец гаспадарання яшчэ і Валыні);

Гедымін прыцягваў да спраў кіравання сваіх сыноў і забяспечыў ім высокі статус у дзяржаве;

пры гаспадары існавала рада, у якую, напэўна, уваходзілі сыны, а таксама баяры (паводле справаздачы пасланцаў папскіх легатаў – маглі запрашацца і каталіцкія манахі): пра нараду Віценя з баярамі ўзгадвае Дусбург;

Полацак і Віцебск мелі аўтаномныя ўлады, прадстаўленыя епіскапам (у Полацку), князем і калегіяльным органам (органамі) гарадскога кіравання.

Цікавае сведчанне крыніцы пра рэлігійную сітуацыю, менавіта – верацярпімасць у дзяржаве: Гедымін, яго дзеці і баяры прысягаюць, "*ствараюць свае абрады*" па язычніцкім звычаі (захавалася дэталёвае апісанне прысягі Кейстута па язычніцкім абрадзе), а прадстаўнікі Полацка і Віцебска – па-хрысціянску цалуюць крыж, як і інфлянцкія немцы-католікі.

Інфармацыю пра гаспадарскую раду ўтрымлівае справаздача пасланнікаў папскіх легатаў з 1324 г. З яе вынікае, што меркаванне рады было не абавязковым для гаспадара (пасланцы спадзяваліся на размову з Гедымінам без сведкаў, г.зн ведалі, што ў Літве манарх прымае рашэнні аднаасобна; гл. раздзел "Справа хрышчэння Гедыміна", Пасланне 14)[362]. Наконт гаспадарскай рады – даследчыкі адзначаюць яе непастаянны і неінстытуцыянальны характар.

Крыніцы сведчаць пра высокае становішча ў ВКЛ гарадзенскага ваяводы князя Давыда, які, мяркуючы па імю, быў праваслаўным хрысціянінам. Уладзімір Антановіч звярнуў увагу, што "*…сярод паплечнікаў Віценя і Гедыміна адзіная выбітная асоба, якая займала віднае месца побач з самімі князямі, гэта прадстаўнік Русі – Давыд стараста гарадзенскі*"[363]. У лісце магістрата Рыгі да Гедыміна ў 1323 г. ён названы "*асабліва блізкім сябрам*" гаспадара. Пскавічы звярталіся па дапамогу непасрэдна да Давыда, абмінаючы вялікага князя літоўскага. Аднак несумненна, што Давыд выязджаў у Пскоў з санкцыі Гедыміна (варта ўзгадаць, як па загадзе Гедыміна ён хадзіў у паходы на Мазовію і Брандэнбург). Невядома, як доўга быў Давыд пскоўскім князем і ці ўвогуле фармальна ім быў, але загінуў у 1326 г. на службе Літве.

[361] Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Пасланне 18. С. 190 – 191, 194 – 195.

[362] Korczak L. Litewska Rada Wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków, 1998. S. 14 –15.

[363] Антонович В.Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти великого князя Ольгерда [у:] Антонович В.Б. Моя сповідь: Вибрані історичні та публіцистичні твори. Київ, 1995. С. 656.

Тое, што Давыд на працягу дзесяцігоддзяў вёў вайну з Ордэнам і не толькі выжываў у ёй, але і здабываў не абы-якія поспехі, сведчыць пра ягоны несумненны талент вайсковага правадыра. Захаванне ім выбітнага становішча ў дзяржаве праз усё кіраванне Віценя, а потым Гедыміна з'яўляецца ўскосным сведчаннем мірнай, а не канфліктнай пераемнасці ўлады ў ВКЛ.

Давыда гісторыкі часам называюць сынам Даўмонта – ліцвінскага князя, які праславіўся на пскоўскім княжанні ў другой палове 13 ст.[364] Гэтая інфармацыя ўскосна пацвярджаецца жаданнем пскавічоў кантактаваць менавіта з Давыдам.

Пры Гедыміне дзяржава атрымала новую сталіцу. Гаспадар перанёс сваю рэзідэнцыю ў Вільню – прыгожае добра ўмацаванае места, заснаванае, дакладней, адроджанае полацкімі крывічамі[365]. Легенда пра заснаванне Вільні прыпісвае гэтую заслугу выключна Гедыміну. Відавочна, на выбар месца паўплывалі прыярытэты знешняй палітыкі – Вільня знаходзілася прыблізна на аднолькавай адлегласці ад двух "гарачых кропак" – Прусаў і Інфлянтаў. У якасці рэзідэнцыі гаспадара яна выступае ў крыніцах, пачынаючы ад 25 студзеня 1323 г. – у пасланні Гедыміна пазначанае месца яго напісання. Навагрудак надалей захоўваў важнае значэнне ў дзяржаве – касцёлы Гедымін будаваў у Вільні і Навагрудку.

Захавалася апісанне дзяржаўнай пячаткі Гедыміна з адбіткаў, якія былі прывешаныя да лістоў гаспадара, напісаных у 1323 г.[*]

[*] *"З апісанняў вядомая яго маестатная пячатка, якая прадстаўляла князя на троне, з мітрай на галаве, у правай руцэ трымае карону, у левай – берла. Вакол яго змешчаны надпіс на латыні гатычным шрыфтам: + S. DEI GRACIA GEDEMINI LETHVINORVM ET RVTHENOR. REG.*

*Гэтая пячатка вісела пры трох лістах з 1323 г., пасланых Гедымінам да папы, але ведаем яе толькі з апісання, змешчанага ў натарыяльна заверанай копіі, зробленай у Любеку ў тым самым 1323 г."*

Gumowski M. Pieczęcie Książąt Litewskich // AW. 1930. R.VII. S. 696.

Надпіс на латыні паказвае, што пячатка была прызначаная для кантактаў з Захадам. Можна не сумнявацца пра ўдзел у яе з'яўленні рыжанаў (як самой ідэі, так і вырабу пячаткі), якім важна было, каб лісты Гедыміна зрабілі салідное ўражанне ў каталіцкім свеце.

Захаваліся супярэчлівыя звесткі пра смерць Гедыміна. Спасылаючыся на Хроніку Віганда з Марбурга, даследчыкі выводзілі, што ён быў забіты з вогнепальнай зброі падчас аблогі аднаго з крыжацкіх замкаў у Прусах у пачатку 1338 г. Гэты выпадак нават падаваўся як першае вядомае па крыніцах ужыванне вогнепальнай зброі ва Усходняй Еўропе. Аднак у хроніцы імя забітага князя не называецца, апавядаецца, як Гедымін з вялікім войскам атачыў замак, але далей храніст паведамляе, што быў забіты "*паганскі кароль з Трокаў*"[*], а, як вядома, сталіцай Гедыміна была Вільня. Увогуле нямецкія хронікі часта называлі ўдзельных князёў каралямі.

Даследчыкі таксама звярнулі ўвагу на звестку з чэшскай хронікі пад 1341 г. пра тое, што ў Літве атруцілі свайго князя (імя князя не называецца)[366]. Магчыма, чэшскі храніст, далёкі ад месца дзеі і мала знаёмы з мясцовымі справамі, меў на ўвазе блізкае па часе да

[364] Ткачоў М. Давыд [у: ] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1: Абаленскі – Кадэнцыя. Мн.: БелЭн, 2005. С. 566.

[365] Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно. С. 124 – 125.

[366] Cronica ecclesiae Pragensis Benessii Krabice de Weitmile – Kronika Beneše Krabice z Weitmile /ed. Josef EMLER [in:] Fontes rerum Bohemicarum. Pragae, 1884. T. IV. P. 459–548.

смерці Гедыміна атручэнне галіцка-валынскага князя Юры-Баляслава, вядомае з польскай хронікі, адкуль звестка магла трапіць у суседнюю Чэхію. Тым больш, што ў 1341 г. Валынская зямля была ўжо ў складзе ВКЛ, таму палітычна лічылася Літвой.

Больш верагоднай уяўляецца інфармацыя рускіх летапісаў, асабліва ноўгарадскіх, добра з’арыентаваных у ліцвінскіх справах, якія паведамляюць, што вялікі літоўскі князь Гедымін памёр зімой 1341 г.[*]

[*] “Здарылася тады, што адзін брат Тылеман дэ Сунпах, камандзір лучнікаў, агнявой куляю спаліў харугву і адразу потым паганскаму каралю з Трокаў патрапіў куляй у шыю паміж лапаткамі, які памёр.”

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842. S. 57.

***

“Тои же зимѣ умре князь великыи Гѣдименъ Литовьскыи поганыи.”

НПЛ. С. 353.

***

Гаспадаранне Гедыміна ў ВКЛ, якое працягвалася чвэрць стагоддзя, стала пераломным этапам у гісторыі Беларусі. Пры гэтым гаспадары закончыўся перыяд станаўлення і змагання ВКЛ за выжыванне. Літва вырвалася са сваіх пачатковых межаў і яшчэ пры жыцці Гедыміна ўпершыню ў гісторыі аб’яднала ў адзінай дзяржаве асноўныя вобласці Беларусі. Палітычнае з’яднанне беларускіх земляў вялікім князем Гедымінам паскорыла працэс фармавання беларускага народа і прадвызначыла яго канчатковы поспех.

Аналіз крыніцаў паказвае, што пашырэнне дзяржавы за межы Уласнай Літвы, найперш на Палессе, пачалося яшчэ пры гаспадаранні бліжэйшых папярэднікаў Гедыміна Пукувера і Віценя.

Гедымін, які ўтрая павялічыў тэрыторыю краіны, пад канец гаспадарання дапусціў самую вялікую памылку за ўсё жыццё – сваім тастаментам парушыў цэльнасць дзяржавы, раздзяліўшы яе паміж сынамі. Увогуле, няма сведчанняў пра існаванне прававых нормаў перадачы вялікага княжання у 13 – 14 ст. у Літве: “*У пераемнасці вялікакняскага стала не відно дзеяння звычаю, вядомага права, акрамя тастамента бацькі і дамовы з братамі*”[367].

На шчасце, наступствы раздраблення ВКЛ на ўдзелы аказаліся не такімі цяжкімі, як можна было чакаць. Па-першае, праз пяць гадоў пасля смерці Гедыміна яго сыны Альгерд і Кейстут стварылі дуумвірат і наноў узмацнілі цэнтральную ўладу. Па-другое, у ВКЛ на той час не было сур’ёзных пагрозаў на міжнароднай арэне, акрамя Ордэнскай дзяржавы (а яе ўдавалася стрымліваць сіламі Уласнай Літвы). Па-трэцяе, ужо ў канцы 14 – пачатку 15 ст. новую цэнтралізацыю краіны правёў унук Гедыміна – вялікі Вітаўт.

З аналізу дасягненняў міжнароднай палітыкі Гедыміна вынікае, што пры ім ВКЛ стала супердзяржавай у маштабе Усходняй Еўропы і пачало здабываць дамінуючую ролю ў рэгіёне.

[367] Любавский М. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода в 14 и 15 вв. [в:] Издания Исторического общества при Императорском Московском университете. Рефераты, читанные в 1895 году. Москва. С. 31.

## СПІС СКАРОТАЎ

Изв. ОРЯС – Известия отделения русского языка и словесности импер. Академии наук
НПЛ — Новгородская первая летопись
ПСРЛ — Полное собрание русских летописей
AW — Ateneum Wileńskie
KH — Kwartalnik Historyczny
LR — Livländische Reimchronik
MPH — Monumenta Poloniae Historica
PH —Przegląd Historyczny

## КРЫНІЦЫ

Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Санкт-Петербург, 1846. Т. 1; 1848. Т. 2.

Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. Москва, Ленинград: Издательство АН СССР, 1938.

Герман Вартберг. Ливонская хроника [в:] Тевтонский Орден. Крах крестового нашествия на Русь. С. 134 – 174.

Грамоты Великого Новгорода и Пскова. Москва-Ленинград, 1949.

Ипатьевская летопись [у:] Полное собрание русских летописей. Т. 2. Санкт-Петербург, 1842.; Санкт-Петербург, 1908.

Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях = Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimonies / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі; уклад., пер. на бел. мову, камэнт. А. Жлуткі. Мн.: Тэхналогія, 2005.

Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. Москва-Ленинград, 1950.

Новгородская четвертая летопись // ПСРЛ. 1915. Т. 4. Ч. 1. Вып. 1.

ПСРЛ. Т. 1. Лаврентьевская летопись. Ленинград, 1927.

ПСРЛ. Т. 2. Санкт-Петербург, 1843; Санкт-Петербург, 1908; Москва, 1962.

ПСРЛ. Т. 7. Санкт-Петербург, 1856.

ПСРЛ. Т. 17. Санкт-Петербург, 1907.

ПСРЛ. Москва, 1980. Т. 35.

Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. /состав. А.Л.Хорошкевич. Москва, 1977. Вып. 1. № 1; Москва, 1980. Вып. III.

Приселков М. Д., Фасмер М. Р. Отрывки В. Н. Бенешевича по истории Русской Церкви XIV в. // Известия отделения русского языка и словесности импер. Академии наук. 1916. Т. 21. Кн. 1. С. 49 – 61.

Псковские летописи. Москва, 1955. Вып. 2.

Русская летопись по Никонову списку. Санкт-Петербург, 1786.

Смоленские грамоты 13 – 14 веков. Москва: Издат-во Академии Наук СССР, 1963.

Современная энциклопедия. 2000. ttp://dic.academic.ru/dic.nsf/enc1p/11350

Хроніка Быхаўца [у:] Беларускія летапісы і хронікі. Мн. "Беларускі кнігазбор", 1997. С. 69 – 166.

* * *

Carpini Jan di Piano. Historia mongołow [w:] Spotkanie dwóch światów. Stolica apostolska a świat mongolski w połowie 13 wieku. Poźnań: Abos, 1993. S. 116 – 222.

Cronica ecclesiae Pragensis Benessii Krabice de Weitmile – Kronika Beneše Krabice z Weitmile /ed. Josef EMLER [in:] Fontes rerum Bohemicarum. Pragae, 1884. T. IV. P. 459 – 548.

Die Chronik Wigands von Marburg /Hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863: Beilage I. Die littauischen Wegeberichte. S. 662 – 711.

Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej [w:] Kronika Jana z Czarnkowa. Kraków: Universitas, 2001.
Gedimino laiškai – Послания Гедимина. Vilnius: Минтис, 1966.
Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów polskich ksiąg dwanaście. Kraków, 1868. T. 3 Ks. 9 10.
Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten /Ed. F.G.Bunge. Reval, 1853. Bd. 1 (1093 – 1300).
Livländische Reimchronik /Her. von Leo Meyer. Padeborn, 1876.
Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. Varsoviae, 1930. T. 1.
Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae // Scriptores rerum Prussicarum. Leipcig, 1861. Bd. 1.
Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. Toruń: Wyd. Uniw. Mik. Kopernika, 2004.
Preußisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2. ed. A. Seraphim. Königsberg, 1909.
Rocznik kapitulny krakowski // Monumenta Poloniae Historica. Warszawa, 1961. T. 2. S. 779 – 816.
Rocznik Krasińskich // Monumenta Poloniae Historica. Lwów, 1873. T. 3.
Scriptores rerum livonicarum. Riga - Leipzig, 1853. B. 1.
Skarbiec diplomatów papiezkich, cesarskich, króleskich, książęcych. red. I.Daniłowicz. Wilno, 1860. T. 1.
Stryjkowski Maciej. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi.Warszawa: Nakład Gustawa Leona Glücksberga, Księgarza, 1846. T. 1.
Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

Алексеев Л.В. Полоцкая земля. Москва: Наука, 1966.
Алексеев Л.В. Смоленская земля в 9 – 13 вв. Москва: Наука, 1980.
Антонович В.Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти великого князя Ольгерда [у:] Антонович В.Б. Моя сповідь: Вибрані історичні та публіцистичні твори. Київ: Либідь, 1995. С. 622 – 743.
Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (9 – 13 ст.) Мн.: “Беларуская навука”, 2000.
Большой Энциклопедический словарь. 2000. http://dic.academic.ru/dic.nsf/enc3p/266786
Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV – канцы XVI ст. Мн.: Беларуская навука, 2008.
Бродель Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV – XVIII вв. Т. 3. Москва: Прогресс, 1992.
Бродель Ф. Динамика капитализма. Смоленск: «Полиграмма», 1993.
Васильевский В. Г. Обращение Гедимина в католичество // Журнал министерства народного просвещения. 1872. Ч. 159. № 2. С. 135 – 196.
Великие Князья Литовские. Vinius: Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutes, 2006.
Воронин Н.Н. Древнее Гродно. Москва: Издательство Академии Наук СССР, 1954.
Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. Мн.:БелЭн, 2005.
Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. Мн.: “Экаперспектыва”, 2000.
Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: “Экаперспектыва”, 2008.
Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. Москва, 1945. Вып. 11. С. 114 — 125.

Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы [в:] Средневековая Русь. Москва, 1996. Вып. 1. С. 76 – 110.
Горский А.А. Москва и Орда. Москва: Наука, 2001.
Греков И.Б. О характере ордынско-русских отношений второй половины 13 – начала 14 в. [в:] Древности славян и Руси. Москва: Наука, 1988. С. 125 – 133.
Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы 14 – 16 вв. Москва: Издательство восточной литературы, 1963.
Гринблат М.Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968.
Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 3. До року 1340. Київ: Наукова думка, 1993.
Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. 14 – 16 віки – відносини політичні. Київ: Наукова думка, 1993.
Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1 – 72.
Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 г. Т. 1. Москва: Baltrus, 2005.
Гудавичюс Э. По поводу так называемой "диархии" в Великом княжестве Литовском // Feodalisms Baltijas regiona. Riga, 1985. L. 35 – 44.
Гуревич А.Я., Харитонович Д.Э. История средних веков. Москва: Интерпракс, 1995.
Гуревич Ф.Д. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956 — 1977 гг. // Советская археология. 1980. № 4. С. 87 – 101.
Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн.: Полымя, 1982.
Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. Ленинград, 1981.
Гуревич Ф.Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. R. VI. S. 219 — 222.
Гурэвіч Ф.Д. Летапісны Новгородок (Старажытнарускі Наваградак). Санкт-Пецярбург, 2003.
Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца 14 столетия. Киев, 1896.
Дзярновіч А. І. Клімат і экстрэмальныя з'явы ва Ўсходняй Еўропе і рэгіёне Паўднёва-Заходняй Беларусі ў II тыс. н. э. (паводле кліматалагічных і пісьмовых крыніц) // Беловежская пуща: история, природа, туризм: Материалы международной науч.-практ. конф., посвящ. 600-летию заповедности Беловежской пущи «Беловежская пуща: от лесничества до Национального парка» (Каменюки, 14 нояб. 2008 г.), «Беловежская пуща: история, природа, туризм» (Каменюки, 18—19 сент. 2009 г.). Брест: Альтернатива, 2010. С. 53 – 58.
Дубоніс А. Шварн Данілавіч і папяровыя ілюзіі праваслаўнай Літвы [у:] Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі. Вільня – Мінск: Aidai, Atenæum, 2009. С. 96 – 104.
Еллинек Г. Право современного государства. Т. 1. Общее учение о государстве. Санкт-Петербург, 1903.
Ермаловіч М.І. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн.: "Беллітфонд", 2000.
Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн.: Беларуская навука, 1991.
Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн.: Мастацкая літаратура, 1990.
Зверуго Я.Г. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 248 – 289.
Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9 — 13 вв. Мн.: Навука і тэхніка, 1989.
Зверуго Я.Г. Древний Волковыск. Мн.: Наука и техника, 1975.
Звяруга Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэднявякоўі / Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Вып. 10. Мн.: ДНУ "Інстытут гісторыі НАН Беларусі", 2005.
Катонова Е.М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере

Белоруссии // Материалы. Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. Москва, 1978.
Климчук Ф.Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 214 – 221.
Клімчук Ф. Заходнепалескі этнонім гідуны // Беларусь у сістэме трансеўрапейскіх сувязяў у I тысячагоддзі н.э. Мн., 1996.
Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). Тверь: «РИФ ЛТД», 1994.
Косман М. Pompa funebris у Вільні да часу падзелаў Рэчы Паспалітай [у:] Косман М. З гісторыі і культуры Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Медысонт, 2010. С. 303 – 359.
Костомаров Н.И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Москва: Мысль, 1991.
Кравцевич А. Литва Миндовга. Территория и этнос [в:] Литва эпохи Миндовга и ее соседи. Материалы междунар. конф. в Москве. Москва, 2003. С. 24 — 27.
Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс: ЕГУ, 2011.
Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст.: планіроўка, культурны слой. Мн.: Навука і тэхніка, 1991.
Краўцэвіч А.К. Да праблемы сярэднявечных міжэтнічных кантактаў на Панямонні // Наш Радавод. Гродна, 1992. Кн. 4. С. 234 – 237.
Краўцэвіч А.К. Комплекс зброі і рыштунку 13 ст. з-пад Гродна // З глыбі вякоў. Гісторыка-культуралагічны зборнік. Мн.: Навука і тэхніка, 1992. С. 40 – 46.
Краўцэвіч А.К. Наваградак і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Наваградскія чытанні. Мн.: Беларускае выдавецкае Таварыства "Хата", 1996. Вып. 4. С. 12 – 17.
Краўцэвіч А. Да праблемы ўтварэння Вялікага княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1996. № 1(5). S. 5 – 22.
Краўцэвіч А. Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. № 8. S. 5 – 30.
Краўцэвіч А.К. Аб часе ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1997. Вып. 4. С. 86 – 90.
Краўцэвіч А.К. Балта-славянскія кантакты на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага [у:] Труды VI Международного Конгресса славянской археологии. Т. 3. Этногенез и этнокультурные контакты славян. Москва, 1997. С. 129 – 137.
Краўцэвіч А.К. Балта-славянскія кантакты на Панямонні ў другім тысячагоддзі н.э. // Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей. 1997. № 1. С. 10 – 13.
Краўцэвіч А.К. Фарміраванне канцэпцыі генезісу Вялікага Княства Літоўскага ў польскай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 1. С. 47 – 54.
Краўцэвіч А. Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага // Беларускі Гістарычны Агляд. Мн., 1998. Т. 5. Сшытак 2(9). С. 448 – 454.
Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1998. № 9. S. 5 – 25.
Краўцэвіч А.К. Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага. Даклад А.К.Краўцэвіча на пасяджэнні савета па абароне дысертацый 4 снежня 1998 г. // Гістарычны Альманах. Гародня, 1999. Вып. 2. С. 87 – 98.
Краўцэвіч А.К. Адказ М.Ф.Спірыдонаву // Гістарычны Альманах. Гародня, 1999. Вып. 2. С. 103 – 106.
Краўцэвіч А.К. Айчына Адама Міцкевіча. Гісторыка-культурная ідэнтыфікацыя Літвы [у:] Літаратура, мова, культура, этнас у святле гісторыі і сучаснасці: Матэрыялы "круглага стала" і міжнар. канф. Гродна, 1999. С. 40 – 44.
Краўцэвіч А. Гістарычная Літва і этнагенез беларусаў [у:] Міжнародныя Купалаўскія

чытанні: Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Гродна: ГрДУ, 1999. С. 19 – 23.
Краўцэвіч А. Праблема ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага [w:] History, Culture and Language of Lithuania. Proceedings of the international Lithuanian conference. Poznań, 17 — 19 september 1998. Poznań, 2000. S. 109 – 116.
Краўцэвіч А. Дыскусія ці сварка? Пра магчымасць дыялогу паміж беларускімі і летувіскімі гісторыкамі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2001. Т. 5. С. 168 – 172.
Краўцэвіч А.К. Асноўныя храналагічныя рубяжы этнічнай гісторыі Беларусі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2002. Т. 7. С. 175 – 180.
Краўцэвіч А. Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2003. № 19. S. 212 – 218.
Краўцэвіч А.К. Вялікае княства Літоўскае ў этнагенезе беларусаў [у:] Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: Матэрыялы рэспубл. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1. Гродна, 2003. С. 181 – 184.
Краўцэвіч А. Тэрміны "Літва" і "Летува" ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2003. Т. 9. С. 104 – 107.
Краўцэвіч А. Міндаўг — Mindauh: Пачатак гаспадарства: нарыс. Мн.: Маст. літ., 2005.
Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: Выш. школа публічнай адміністрацыі, 2008.
Краўцэвіч А. Гедымін (1316 – 1341). Каралеўства Літвы і Русі = Hiedymin. (1316 – 1346). Kingdom of Lithuania and Rutenia. Мн.: Татарнікава С.Ю., 2012.
Кучкин В. А. Советская историческая энциклопедия. Москва: Советская энциклопедия. Под ред. Е. М. Жукова. 1973 — 1982. http://dic.academic.ru/dic.nsf/sie/17382/
Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI ст.: Гіст. і архіт.-археал. Даслед. Мн.: Навука і тэхніка, 1993.
Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. Москва: Прогресс, Прогресс-Академия, 1992.
Лингвистический энциклопедический словарь. Москва, 1990.
Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Москва: Синодальная библиотека, 1910.
Любавский М. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода в 14 и 15 вв. [в:] Издания Исторического общества при Императорском Московском университете. Рефераты, читанные в 1895 году. Москва.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1893.
Макушников О.А. Гомель с древнейших времён до конца 18 в. Историко-краеведческий очерк. Гомель: Барк, 2010.
Марзалюк І.А. Магілёў у 12 – 18 ст. Людзі і рэчы. Магілёў-Мінск: Веды, 1998.
Народная культура Беларусі: Энцыкл. даведнік. Мн.: БелЭн, 2002..
Насевіч В. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 73 – 87.
Насевіч В. Л. Да пытання пра нацыянальны характар Вялікага княства Літоўскага [у:] Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і новыя падыходы). Мінск, 3 — 5 лютага 1993 года. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Ч. 1. Мн., 1993. С. 55 – 58.
Насевіч В. Роля беларускіх зямель ва ўтварэнні і ўмацаванні ВКЛ [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: "Экаперспектыва", 2008. С. 87 – 96.
Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн.: Навука і тэхніка, 1996. Вып. 1. С. 4 – 27.

Новейший философский словарь /Сост. А.А.Грицанов. Мн.: Изд. В.М.Скакун, 1998.
Охотникова В.И. Повесть о Довмонте (Исследование и тексты). Ленинград: Наука, 1985.
Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. Москва: Издательство Академии Наук СССР, 1959.
Приселков М. Д., Фасмер М. Р. Отрывки В. Н. Бенешевича по истории Русской Церкви XIV в. // Известия отделения русского языка и словесности импер. Академии наук. 1916. Т. 21. Кн. 1. С. 49 – 61.
Раппопорт П.А. Древнерусская архитектура. Санкт-Петербург: Стройиздат, 1993.
Рыбаков Б.А. Киевская Русь и русские княжества 12 – 13 вв. Москва: Наука, 1982.
Рымша М. В. Новгородско-литовские политические отношения в XIV—XV вв.: Автореф. дис. на соиск. учен. степ. к.ист.н. Санкт-Петербург. гос. ун-т. Санкт-Петербург, 2001.
Рябцевич В.Н. Нумизматика Беларуси. Мн.: Полымя, 1995.
Сагановіч Г. Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) [у:] З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Мн.:Беларуская навука, 1997. Вып. 2. С. 116 – 133.
Седов В.В. Балты и славяне в древности по данным археологии // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980.
Седов В.В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 36 – 51.
Седов В.В. Литовские племена // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. Москва, 1987.
Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970.
Смирнова Е.Д. и др. Средневековый мир в терминах, именах и названиях: Словарь-справ. Мн.: Беларусь, 1999.
Снайдэр Т. Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569 – 1999. Мн.: Медысонт, 2010.
Снапкоўскі У.Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі. Ч. 1. Ад пачаткаў дзяржаўнасці да канца 18 ст. Мн.: БДУ, 2003.
Соболь В.Е. О хронологии культурного слоя Минска позднефеодального периода [в:] Древнерусское государство и славяне. Мн.: Наука и техника, 1983. С. 75 – 76.
Современная энциклопедия. 2000. ttp://dic.academic.ru/dic.nsf/enc1p/11350
Спиридонов М.Ф. “Литва” и “Русь” в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 206 – 211.
Темушев, В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю [в:] Российские и славянские исследования. Вып. 1. Мн.: БГУ, 2004. С. 71 – 80.
Темушев, В.Н. Литовско-тверская граница (проблемы интерпретации источников) [в:] Российские и славянские исследования. Вып. 2. Мн.: БГУ, 2007. С. 135 – 142.
Ткачев М.А. Замки Беларуси. Мн.: Беларусь, 2002.
Ткачоў М. Давыд [у: ] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1: Абаленскі – Кадэнцыя. Мн.: БелЭн, 2005. С. 566.
Тойнби А. Дж. Постижение истории. Москва: Прогресс, 1991.
Трусаў А.А. Невядомая нам краіна: Беларусь у яе этнаграфічных межах. Мн.: Кнігазбор, 2009.
Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии IX – XVII вв. Мн.: Наука и техника, 1988.
Хёйзинга Й. Осень средневековья. Москва: Наука, 1988.
Холев С.Б. Физико-географические условия Верхнего Понеманья в прошлом по данным топонимики [в:] Топонимика на службе географии. Москва, 1979. С. 31 — 37.
Хорошкевич А.Л. Комментарии [в:] Полоцкие грамоты 13 – начала 16 в. Москва, 1980. Т. III. С. 110 — 213.
Христианство: Словарь. Москва: Республика, 1994.
Цемушаў В. Вярхоўскія княствы [у:] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.:

БелЭн, 2005. Т. 1. С 476 – 478.
Цемушаў В. Северская зямля [у:] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2006. Т. 2. С. 561 – 562.
Цемушаў В.М. Таропецкая воласць // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мн.: БелЭн., 2006. С. 659 – 660.
Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994.
Штыхаў Г. Полацкае княства [у:] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: Т. 5. Мн.: БелЭн, 1999. С. 525 – 526.
Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.
Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989.
Якубовский И.В. Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журнал Министерства народного просвещения. Санкт-Перербург, 1903. Июнь. Ч. 346.
Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. Москва: Изд-во Московского университета, 1998.

* * *

Adamus J. O tytule panującego i państwa litewskiego parę spostrzeżeń // KH. 1930. R. 44. T. 1. Zeszyt 1. S. 313 – 332.
Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1: Trudne początki. Poznań: Wydawnictwo naukowe UAM, 1998.
Bohdanowicz J., Dzięcielski M. Zarys geografii historycznej i politycznej cywilizacji. Gdańsk, 1994. S. 42 — 46.
Braudel Fernand. Gramatyka cywilizacji. Warszawa: Oficyna naukowa, 2006.
Cameron Rondo. Historia gospodarcza świata. Warszawa, 1996.
Carpentier J., Lebrun F. Historia Europy. Warszawa, 1994.
Chodynicki K. Geneza dynastii Giedymina // KH. 1926. R. 40. S. 541 – 566.
Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // PH. 1914. T. 18. S. 215 – 319.
Chodynicki K. rec.: Altpreussische Forschungen. Jahrgang 5. Heft 1 u. 2. 1928 // AW. Wilno, 1929. R. 6. S. 268 – 275.
Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich // KH. 1896. R. 10. S. 487 – 521.
Forstreuter K. Die Bekehrung Gedimins und der Deutsche Orden // Altpreussische Forschungen. 1928. Jahrgang 5. S. 239 – 261.
Giejsztor A. Działania wojenne Litwy w roku 1262 i zdobycie Jazdowa // Studia Historyczne Stanisławowi Herbstowi na sześćdziesięciolecie urodzin. Warszawa, 1967. S. 5 – 14.
Godłowski K. Przemiany kulturowe i osadnicze w południowej i środkowej Polsce w młodszym okresie przedrzymskim i okresie rzymskim. Wrocław, 1985.
Goldfrank D.M. The Lithuanian prince-monk Vojšelk: a study of competing legends // Harvard Ukrainian studies. 1987. Vol. 11. N. 1 – 2.
Gumowski M. Pieczęcie Książąt Litewskich // AW. 1930. R. 7. S. 684 – 725.
Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Seria 2. T. 59. Kraków, 1916. S. 214 – 254.
Historia Europy Środkowo-Wschodniej. /red. Jerzy Kłoczowski. Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2000. T. 1.
http://ru.wikipedia.org/wiki/Северо-Восточная_Русь

http://www.allmonarchs.net/russia/other/smolensk.html;
Ivinskis Z. Mindaugas und seine Krone // Zeitschrift für Ostforschung. 3. Jahrgang. 1954. Heft 3. S. 376 – 383.
Jellinek G. Ogólna nauka o państwe. Warszawa, 1921.
Korczak L. Litewska Rada Wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków: Polska Akademia Umiejętności, 1998.
Kosman M. Pompa funebris w Wilnie doby przedrozbiorowej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. VI. 1994. S. 131 – 158.
Krawcewicz A. Formowanie się koncepcji genezy Wielkiego Księstwa Litewskiego w polskiej historiografii // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. № 11. S. 5 — 17.
Krawcewicz A. Granica białorusko-litewska na tle historycznym [w:] Problematyka geopolityczna Europy środkowej i Wschodniej. Rozprawy i monografie Wydziału Ekonomicznego Filii UMCS w Rzeszowie. Rzeszów, 1999. nr 16. S. 231 – 237.
Krawcewicz A. Źródła oraz stan badań nad początkami Wielkiego Księstwa Litewskiego // Białostocczyzna. 2000. Nr 2 /58/. S. 3 – 10.
Krawcewicz A. Białoruś – Wielkie Księstwo Litewskie. Państwo i stosunki etniczne // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2001. Nr 16. S. 159 – 163.
Krawcewicz A. Zamki Giedymina przy zachodniej granice Litwy [w:] Zamki i przestrzeń społeczna w Europie Środkowej i Wschodniej. Warszawa, 2002. S. 269 – 274.
Krawcewicz A. „Litwa właściwa" a białorusko-litewskie pogranicze etniczne w XVI – XVIII wiekach. [w:] Między Zachodem a Wschodem. Etniczne, kulturowe i religijne pogranicza Rzeczypospolitej w XVI – XVIII wieku. Toruń: MADO, 2005. S. 62 – 66.
Krawcewicz A. Relacje Białoruś – Wielkie Księstwo Litewskie w polskiej historiografii // Biuletyn Historii Pogranicza. 2007. Nr. 8. S. 17 – 22.
Labuda Gerard. Studia krytyczne o początkach Zakonu Krzyżackiego w Prusach i na Pomorzu. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2007.
Liedke M. Następstwa chrystianizacji Giedyminowiczów przed 1386 rokiem [w:] History, Culture and Language of Lithuania. Proceedings of the international Lithuanian conference. Poznań, 17 — 19 september 1998. Poznań, 2000. S. 117 – 127.
Łowmiański H. Początki Polski. Warszawa, 1967. T. 3.
Maleczyński K. W sprawie autentyczności dokumentów Mendoga z lat 1253 — 1261 // AW. Wilno, 1936. R. 11. S. 1 – 60.
Mantueffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. Warszawa: PWN, 1995.
Mantueffel T. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. Kraków: Universitas, 2007.
Miśkiewicz M. Europa wczesnego średniowiecza. V – XIII wiek. Warszawa: TRIO, 2008.
Mundy John H. Europa średniowieczna. 1150 – 1309. Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 2001.
Nikžentaitis A. Gediminas. Vilnius: Vyriausioji enciklopedijµ redakcija, 1989.
Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław-Warszawa-Kraków: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1990.
Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań: Wydawnictwo naukowe UAM, 1981.
Orłowski Bołesław. Technika. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1999.
Państwo zakonu krzyżackiego w Prusach. Władza i społeczeństwo /red. Marian Biskup, Roman Czaja. Warszawa: Wyd-wo naukowe PWN, 2008.
Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T. 1: Litwa a Moskwa w 13 — 14 wieku.
Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieka. Poznań: Wydawnictwo naukowe UAM, 1995.

Prochaska A. Od Mendoga do Jagiełły // Litwa i Ruś. Wilno, 1912. T. 1. Z. 2. S. 89 – 107; T. 1. Z. 3. S. 129 – 140
Prochaska A. Stosunki Krzyżaków z Giedyminem i Łokietkim // KH. 1896. R. X. Z. 1. S. 1 – 66.
Prochaska A. W sprawie zajęcia Rusi przez Kazimierza Wielkiego // KH. 1892. R. 6. S. 1 – 33.
Ptak J. Działania zbrojne przeciwko państwu krzyżackiemu w Prusach jesienią 1330 r. // Studia Grunwaldskie. Olsztyn, 1991. T. 1. S. 34 – 51.
Rachuba A. Historia Litwy [w:] Rachuba A., Kiaupienė J., Kiaupa Z. Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski. Warszawa: DiG, 2009.
Russocki S. Monarchie stanowe Środkowo-Wschodniej Europy 15 – 16 wieku // KH. 1977. R. 84. S. 404 – 412.
Tęgowski J. Małżeństwa Lubarta Giedyminowicza. Przyczynek do genealogii dynastów halicko-wołyńskich w XIV wieku // Genealogia. 1995. N 6. S. 17 – 26.
Tyszkiewicz J. Proces slawizacji ziem dorzecza Niemna w 6 — 11 w. // PH. 1973. T. 64. S. 1 – 23.
Wolf J. Ród Gedymina. Kraków, 1886.
Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Historia 26. Toruń, 1992. S. 55 – 65.
Zabiela G. Kur stovėjo Vorutos pilis? // Lietuvos istorios metraštis. 1991. Vilnius, 1993. P. 5 – 22.
Zabiela G. Lietuvos medinės pilys. Vilnius: Diemedis, 1995.
Zajączkowski S. rec.: Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. I. Litwa a Moskwa w XIII i XIV wieku. Warszawa, 1933 // AW. Wilno, 1934. R. 9. 303 – 313.
Zajączkowski S. rec.: Paszkiewicz H. Ze studiów nad polityką polską, litewską i krzyżacką Bolesława Jerzego, ostatniego księcia Rusi halicko-włodzimierskiej // AW. Wilno, 1924. R. 2. S. 31 – 67 // KH. 1925. R. 39. S. 109 – 113.
Zajączkowski S. Przyczynki do hipotezy o pochodzeniu dynastii Giedymina ze Żmudzi // AW. 1927. R. 4. S. 392 – 416.
Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. // KH. 1926. R. 40. S. 567 – 617.
Zajączkowski S. rec.: Forstreuter K. Die Bekehrung Gedimins und der Deutsche Orden // Altpreussische Forschungen. 1928. Jahrgang 5. S. 239 – 261 // AW. Wilno, 1929. R. 6. S. 275 – 279.
Zajączkowski S. rec.: Puzyna Józef. Kim był i jak się naprawdę nazywał Pukuwer, ojciec Gedymina // AW. Wilno, 1935. R. 10. S. 1 – 43 // KH. 1936. R. 50. S. 304 – 313.
Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. Warszawa: Trio, 2008.

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ ВКЛ ДА КАНЦА ГАСПАДАРАННЯ ГЕДЫМІНА

1009 г. – першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах Літвы (у "Annales Quedlinburgenses").
1201 г. – заснаванне немцамі Рыгі.
1202 г. – стварэнне Ордэна мечаносцаў (Інфлянцкага).
1219 г. – мірная дамова групы літоўскіх князёў з галіцка-валынскімі.
1228 г. – пачатак Ордэнскай дзяржавы ў Прусах.
1237 г. – далучэнне Інфлянцкага ордэна да Тэўтонскага.
1238 – 1240 г. – пагром паўднёвай і ўсходняй Русі мангола-татарамі.
1241 – 1242 г. – паход мангола-татараў на чале з Бату-ханам у Польшчу і Венгрыю.

**каля 1248 г. – пачатак ВКЛ** (Міндаўг у саюзе з Наваградкам захапіў уладанні пляменнікаў у Літоўскай зямлі).

**1248 – 1263 г. – гаспадаранне Міндаўга:**
1248 – 1264 г. – змаганне ВКЛ з Галіцка-Валынскім княствам:
(1248 – 1254 г. – першая вайна; 1254 – 1258 г. – залежнасць ад Галіцка-Валынскага княства; 1258 – 1263 г. – аднаўленне і ўмацаванне незалежнасці ВКЛ).
1249/50 г. – паход галіцка-валынскіх князёў супраць Міндаўга на Наваградак (першае сведчанне саюзу Наваградка з Міндаўгам).
1254 г. – мірная дамова ВКЛ з Галіцка-Валынскім княствам.
1256 – 1257 г. – спроба паломніцтва Войшалка на Афон.
1251 – 1260 г. – Саюз ВКЛ з Лівонскім ордэнам.
1251 г., пачатак – хрышчэнне Міндаўга ў каталіцтва.
1253 г., ліпень – каранацыя Міндаўга.
1258 г. –татарска-галіцка-валынскі паход на Літву.
1259 г. – татары змусілі галіцка-валынскіх князёў разбурыць умацаванні вакол гарадоў.
між 1258 і 1262 г. –Таўцівіл стаў полацкім князем.
1260 г. – параза ордэнскага войска ад жамойтаў ля возера Дурбе.
1260 – 1274 г. – паўстанне прусаў супраць Тэўтонскага ордэна.
1262 г. – ліцвінскі паход у Мазовію на Яздава (будучая Варшава).
1262 г. – мірная дамова ВКЛ з Вялікім Ноўгарадам.

**1263 – 1264 г. – гаспадаранне Траняты:**
1263 г. – паход ліцвінаў у Мазовію.
1263 г. – забойства Транятам полацкага князя Таўцівіла.
1263 г. – князь Гердзень у дамове з Рыгай выступае сюзерэнам Полацка.

**1264 – 1267 г. – гаспадаранне Войшалка:**
1264 г. – Войшалк, падтрыманы Пінскам і Наваградкам, займае вялікакняскі пасад.
1264 – 1270 г. – Саюз ВКЛ з Галіцка-Валынскай дзяржавай.
1265 г. – паход Войшалка на Дзяволтву і Нальшаны.
1265 г. – русінска-ліцвінскі паход у Малапольшчу.
каля 1265 г. – сведчанне пра залежнасць Полацкай і Віцебскай земляў ад ВКЛ у грамаце-дамове Полацка з Рыгай.
1266, 1267 г. – паходы ліцвінаў у Мазовію.
1266 – 1299 г. – Даўмонт (Цімафей) князем у Пскове.

**1267 – 1270 г. – гаспадаранне Шварна Данілавіча.**
1269 г. – паход ліцвінаў у Куявы.

**1270 – 1282 г. – гаспадаранне Трайдэна:**
1271, 1273, 1277, 1280, 1282 г. – паходы ліцвінаў у Сілезію, Польшчу, Мазовію.
1270 – 1274 г. – вайна ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам.

1275 – 1277 г. – вайна ВКЛ з Галіцка-Валынскім княствам.

(1275 г. – напад гарадзенцаў на Драгічын над Бугам;

канец 1275 г. – паход татарскіх і галіцка-валынскіх войскаў у Літву, знішчэнне вакольнага горада ў Наваградку;

канец, зіма 1277 г. – паход татараў і галіцка-валынскіх войскаў уЛітву на Гародню).

1275 – 1276 г. – пабудова інфлянцкімі рыцарамі замка Дзюнабург (сённяшні Даўгаўпілс).

1277 – 1282 г. – аднаўленне вайны ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам.

1279 г. – параза інфлянцкіх рыцараў і датчанаў падчас паходу на Літву.

1279 г. – шлюб плоцкага князя Баляслава II з дачкой Трайдэна Гаўдэмундай.

1279 – 1290 г. – паўстанне семігалаў супраць Інфлянцкага ордэна.

**1282 – 1292 г. – "цёмныя гады":**

1282 — 1287, 1290 г. – паходы ліцвінаў у Польшчу і Мазовію.

1283 г. – пачатак збройнай экспансіі Ордэнскай дзяржавы ў Прусах супраць Літвы.

1284 г. – першы паход прускіх крыжакоў на Гародню.

1285 г. – першая збройная сутычка ліцвінаў з маскавітамі (паход ліцвінаў на вобласць цверскага біскупа, удзел маскоўскай дружыны ў адбіцці нападу).

1289 г. – літоўскія князі Будзікід і Будзівід перадалі валынскаму князю Мсціславу Уладзіміравічу горад Ваўкавыск.

1289 г. – пабудова крыжацкага замка Рагнеты ў Прусах.

**1292 – 1295 г. – гаспадаранне Пукувера:**

1292 г. – паход ліцвінаў на Брэст-Куяўскі; першая ўзгадка ў крыніцах Пукувера і Віценя.

1294 г. – паход ліцвінаў пад началам Віценя на Ленчыцы.

**1295 – 1316 г. – гаспадаранне Віценя:**

1295, 1296, 1302, 1305, 1306 г. – паходы ліцвінаў на польскія землі.

1298 г. – саюз ВКЛ з горадам Рыгай супраць Інфлянцкага ордэна.

1300 г. – заснаванне праваслаўнай Літоўскай метраполіі.

1308 г. – захоп Тэўтонскім ордэнам часткі Памор'я з Гданьскам.

1309 г. – перанос рэзідэнцыі хохмайстраў Тэўтонскага ордэна з Венецыі ў Мальбарк.

канец 13 – пачатак 14 ст. – пачатак будаўніцтва мураваных замкаў у Літве.

1309 г. – паход ліцвінаў пад началам сына Віценя ў Інфлянты.

1314 г. – няўдалы паход прускіх крыжакоў на Наваградак.

**1316 – 1341 г. – гаспадаранне Гедыміна:**

каля 1316 – 1318 г. – Данміла, у хрышчэнні Елізавета Гедымінаўна, выйшла замуж за плоцкага князя Вацлава (Ванька).

1316, 1325, 1327, 1334, 1335 г. – аднаўленні і пацвярджэнні антыліцвінскага саюзу Ордэнскай дзяржавы з галіцка-валынскімі князямі.

1318 г. – шлюб Альгерда з віцебскай княжной.

зіма 1319 – 1320 г. – шлюб Марыі Гедымінаўны з цверскім князем Дзмітрыем Міхайлавічам (Грозныя Вочы).

каля 1320 г. – далучэнне да ВКЛ Віцебскага княства.

1321 г. – саюзная дамова зяця Гедыміна плоцкага князя Вацлава з Тэўтонскім ордэнам.

1321 г., сярэдзіна верасня – паход ліцвінаў на Добжынь.

перад 1322 г. – Любарт Гедымінавіч узяў шлюб з дачкой уладзіміра-валынскага князя.

1322 – 1323 г. – выправы Давыда Гарадзенскага ў Пскоўскую зямлю і Інфлянты на дапамогу пскавічам супраць інфлянцкіх рыцараў.

перад 1323 г. – смерць Андрэя і Льва Юр'евічаў, апошніх галіцка-валынскіх князёў з дынастыі Раманавічаў.

канец 1322 г. – пасланне Гедыміна да папы рымскага.

1323 г., 25 студзеня, 26 траўня – пасланні Гедыміна да ганзейскіх гарадоў.

1323 г., 28 студзеня – саюз Інфлянцкага ордэна з Вялікім Ноўгарадам, скіраваны супраць Літвы і Пскова.

1323 г., 14 верасня – паход плоцкага князя Вацлава з ліцвінскай дапамогай у Добжыньскую зямлю.

1323 г., да 2 кастрычніка – ліст рыжанаў да Гедыміна, у якім ён названы братам Віценя.

1323 г., 2 кастрычніка – Віленскі мір.

1324 г. – паход татараў на Літву.

1324 г. – паход ліцвінаў на землі Вялікага Ноўгарада.

1324, 3 лістапада – прыезд у Вільню паслоў папскіх легатаў; прысутнасць у Вільні татарскага пасольства.

1324 г., лістапад – паход ліцвінаў пад началам Давыда Гарадзенскага ў Мазовію на землі Земавіта II і плоцкага біскупа Фларыяна.

1324 – 1327 г. – перамір'е паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам.

1325 – 1331 г. – саюз ВКЛ з Польскім каралеўствам.

1325 г., 16 кастрычніка – Альдона (Ганна) Гедымінаўна ўзяла шлюб з польскім каралевічам, будучым каралём Казімірам III.

1326 г., 2 студзеня – саюз мазавецкіх князёў Баляславічаў: Вацлава, Земавіта II і Трайдэна I з крыжакамі.

1326 г. – паход ліцвінаў на Брандэнбург, смерць Давыда Гарадзенскага.

1326 г. – пасольства Гедыміна ў Вялікі Ноўгарад.

1326 г. – уваход у ВКЛ Полацкай зямлі.

1327 г. – паход ліцвінаў у Мазовію на землі Земавіта II.

1330 г., 30 сакавіка – Рыга паддалася Інфлянцкаму ордэну.

1331 г. – Гедымін перахапіў ноўгарадскае пасольства да мітрапаліта; кіеўскі князь Хведар праследаваў пасольства на зваротнай дарозе.

1331 г. – Гедымін пасадзіў князем у Пскове цверскага князя Аляксандра Міхайлавіча.

1331 г. – з дачкой Гедыміна ажаніўся галіцка-валынскі князь Юры-Баляслаў.

1333 г. – Нарымонт Гедымінавіч князем у Вялікім Ноўгарадзе.

зіма 1333/1334 г. – шлюб маскоўскага князя Сямёна Іванавіча, сына Каліты, з дачкой (магчыма, унучкай) Гедыміна Настассяй.

1334 г. – збліжэнне Вялікага Ноўгарада з маскоўскім князем Іванам Данілавічам.

1335 г. – Гедымін выслаў войска на ноўгарадскае ўладанне Таржок; ад'езд Нарымонта Гедымінавіча з Ноўгарада ў Літву.

1335 г. – першае збройнае сутыкненне ВКЛ з Маскоўскім княствам (паход маскоўскіх войскаў на Асечан і Расну).

1336, 1337, 1340 г. – паходы ліцвінаў на Мазовію.

каля 1336 – 1340 г. – далучэнне да ВКЛ Падляшша.

1337 г. – маскоўскі князь Іван Данілавіч паслаў войска ў паход на землі Вялікага Ноўгарада.

1338 г. – ноўгарадскае пасольства ў Літву да Нарымонта Гедымінавіча з мэтай вярнуць яго ў Вялікі Ноўгарад.

1338 г. – мірная дамова ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам.

пасля 1338 г. – тастамент Гедыміна.

каля 1340 г. – смаленскі князь Іван Аляксандравіч у мірнай дамове з Інфлянцкім ордэнам назваў Гедыміна "старэйшым братам".

1340 г. – смерць апошняга самастойнага галіцка-валынскага князя Юры-Баляслава; далучэнне Валынскай зямлі да ВКЛ.

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

## ПАКАЗАЛЬНІК ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ

*“Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць”*
Максім Багдановіч

# Уступ

Дзейнасць ВКЛ пад кіраўніцтвам дуумвірату[*] Альгерда і Кейстута храналагічна ўкладаецца ў працяглы перыяд тэрытарыяльнага і палітычнага росту дзяржавы паміж 1316 і 1422 г.[**]

[*] Дуумвірат – сістэма кіравання дзяржавай ці агульнай уласнасцю дзвюма асобамі. Практыкавалася ў антычнасці (Спарта – два цара; Рым – два консула; Карфаген і інш.), працягвалася ў сярэднявеччы (напр.: у Кіеўскай Русі – Яраслаў і Мсціслаў Уладзіміравічы ў 11 ст.; у Галіцка-Валынскім княстве – Даніла і Васілька, Андрэй і Леў у 13 ст.; у ВКЛ – Войшалк і Шварн у 13 ст.).

**[**] Перыядызацыя гісторыі ВКЛ эпохі самастойнасці (1248 – 1569 г.)**

I этап: 1248 – 1315 г. Стварэнне і станаўленне ВКЛ.

II этап: **1316 – 1422 г. Тэрытарыяльны і палітычны рост**.

III этап: 1422 – 1492 г. Стабілізацыя і стагнацыя.

IV этап: 1492 – 1569 (1582) г. Супрацьстаянне з Маскоўскім княствам.

Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 – 1341 г.). Гародня-Уроцлаў, 2013. С. 8 – 9.

У еўрапейскім маштабе гэта быў час позняга сярэднявечча, які характарызаваўся буйным крызісам феадальнай Еўропы і зараджэннем новай Еўропы – капіталістычнай.

"Кароль Літвы і Русі" Гедымін – пачынальнік дынастыі і творца магутнасці ВКЛ – паклапаціўся пра ўладкаванне дзяржавы пасля свайго адыходу ў іншы свет. Галоўная ідэя палітычнага тастамента Гедыміна – "дзяржава – уласнасць роду", падобна як у тастаменце суседа – маскоўскага князя Івана Каліты[1]. Аднак Гедымін памыліўся ў спадзяванні на трываласць сваёй апошняй волі і палітычную еднасць сыноў пасля яго смерці. Пакінуўшы на вялікакняскім віленскім стале не самага старэйшага і не самага здольнага сына – Яўнута, Гедымін тым самым заклаў зерне будучага канфлікту. Суперніцтва і канфлікты за ўладу ў феадальнай сям'і асабліва паміж братамі, у часы сярэднявечча паўсюдна былі звыклай справай: "*Улада не адразу была забяспечана старэйшаму, але знаходзілася ў руках таго з братоў, за кім іншыя прызнавалі здольнасці правадыра. Часта прызнанне не было безумоўным і аспрэчвалася. У каралеўскіх сем'ях суперніцтва і ўзаемная нянавісць братоў падганялася яшчэ і прыцягальнасцю кароны*"[2]. Нярэдка здараліся забойствы бацькі, брата (найчасцей у Ардзе, але і ў Еўропе таксама).

Тым не менш, воля Гедыміна мела сілу і пасля яго смерці, таму некалькі гадоў у Літве ўсё выглядала спакойна. Канфлікт выйшаў на паверхню толькі пры з'яўленні

[1] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T. 1: Litwa a Moskwa w 13-14 wieku. S. 365.

[2] Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. Москва: Прогресс, Прогресс-Академия, 1992. С. 263.

сур'ёзнай небяспекі для дзяржавы. Два сыны Гедыміна – Альгерд і Кейстут – скінулі з вялікакняскага пасаду брата Яўнута і стварылі дуумвірат, які пратрываў больш за тры дзесяцігоддзі, да смерці Альгерда.

Дзяржаўная дзейнасць братоў-дуумвіраў па-рознаму ацэньвалася ў гістарыяграфіі. Некаторыя гісторыкі ставілі іх не надта высока, маўляў, не дараўняліся да бацькі ні як палкаводцы, ні як дзяржаўныя дзеячы[3]. Аднак застаецца фактам, што пад кіраўніцтвам Альгерда і Кейстута дзяржава ўзмацнілася і працягнула тэрытарыяльны рост. Было практычна скончана аб'яднанне беларускіх земляў (за выключэннем Смаленска) і далучана большая частка Украіны. Браты працягвалі рэалізоўваць бацькоўскую дактрыну знешняй палітыкі (абарона на захадзе – наступ на ўсходзе), пры гэтым Альгерд канкрэтызаваў яе апошнюю частку: "*Уся Русь павінна належаць да Літвы*". Дуумвіры дзейнічалі ва ўмовах не лепшых, а хутчэй, цяжэйшых, чым Гедымін, але здабылі поспехі ніяк не меншыя. Паводле дасягнутых вынікаў дзейнасць дуумвірату Альгерд-Кейстут вартая выдзялення ў асобны этап гісторыі ВКЛ. Пра яго і апавядае гэтая кніга, якая працягвае папярэдняе даследаванне, прысвечанае першым этапам гісторыі гаспадарства[4].

---

[3] Stadnicki K. Olgierd i Kiejstut synowie Gedymina W. Księcia Litwy. Lwów-Kraków, 1870. S. 7, 11; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 433 – 434, 446.

[4] Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 – 1341 г.). Гародня-Уроцлаў, 2013. – 184 с.

# Глава 1. Еўропа дальняя і бліжняя ў другой палове 14 ст.

## 1.1. ПАГЛЫБЛЕННЕ КРЫЗІСУ

Сярэднявечча – эпоха пераважна вясковых супольнасцей: адасобленых, замкнёных, на аснове натуральнай, амаль самадастатковай гаспадаркі. Але і ў тыя часы здараліся з'явы, не толькі прыродныя, але і грамадскія, якія ахоплівалі буйныя еўрапейскія рэгіёны, а часам і ўвесь кантынент. Менавіта так адбылося ў сярэдзіне 14 ст. Пасля некалькіх стагоддзяў уздыму і росквіту (гаспадарчага, дэмаграфічнага і інш. у 11 – 13 ст.), пасля першых незразумелых, але трывожных змен – прадвесцяў крызісу (пахаладанне, шэраг залеваў, сушаў, галодных гадоў) – прыйшоў уласна заняпад – вялікі крызіс феадальнай Еўропы 14 ст., які свайго дна дасягнуў у другой палове стагоддзя.

Ён па-рознаму праяўляўся ў асобных краінах: раней ці пазней, мацней або слабей, прымаў розныя формы. У Заходняй Еўропе пачало не хапаць зямлі, каб пракарміць узрослае колькасна насельніцтва. Усё прыдатнае пад сяўбу было выкарыстана: выкарчаваныя лясы (адсюль пагаршэнне мікраклімату)[5], расчышчаныя даступныя гарыстыя ўчасткі і асушанае плыткае прыбярэжнае мора. Частка новаздабытай зямлі не вытрымлівала інтэнсіўнай управы і хутка траціла ўрадлівасць. Часова сітуацыю папраўлілі міграцыі з перанаселеных земляў на больш свабодныя: немцаў – на усход, французаў – у Іспанію, англічан – у нізінныя мясціны паўднёвай Шатландыі.

Але ўрэшце засвоеных земляў пачало не хапаць для пракорму, і ў найбольш заселеных частках Заходняй Еўропы ўзніклі праблемы з харчаваннем. Да таго ж з-за пагаршэння клімату, у 1315 – 1317 г. па Еўропе прайшла хваля голаду (надзвычай галодныя часы працягваліся да 1322 г.), далей падала ўраджайнасць земляў, выялавёных інтэнсіўнай раллёй. Пашырэнне ворыва зменшыла плошчу пашаў. Наступствам стала змяншэнне пагалоўя быдла і адпаведна, горшае ўгнаенне палёў. У выніку масы людзей недаядалі, што аслабляла іх імунную сістэму, таму эпідэміі забіралі столькі ахвяр. У той час яшчэ не магла скласціся адзіная сістэма вытворчасці прадуктаў харчавання. Дрэнная арганізаванасць манархій і гарадоў, слабыя магчымасці транспарту і захавання прадуктаў не дазвалялі эфектыўна спраўляцца з наступствамі голаду (перавозіць харчаванне з дабрабытных месцаў у галодныя).

Людзі ўцякалі з вёсак у гарады, павялічваючы шэрагі гарадскога плебсу. Расла колькасць жабракоў, валацуг, гуртаваліся банды рабаўнікоў, якія жылі з разбою на дарогах і нават нападалі на сядзібы феадалаў і кляштары. Збядненне дробнага рыцарства выклікала такую з'яву, як рыцарскі бандытызм, які развіваўся ў Германіі з 13 ст., у Францыі – у 14 ст., у Англіі – у 15 ст. Узнік нават асобны тэрмін – рыцар-рабаўнік (Raubritter – па-нямецку). Феадалы, якія адчулі крызіс, бачылі сродак паляпшэння сваёй сітуацыі ў войнах (напрыклад, Стогадовай англа-французскай)[6]. Сучаснікі ўспрымалі ўсе гэтыя няшчасці як спляценне натуральных прычын і Нябеснай кары: пагаршэння клімату і дажджоў, вайны і Божага гневу[7].

---

[5] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. Warszawa: Trio, 2008. S. 354.

[6] Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. С. 105.

[7] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. Санкт-Петербург: Alexandria, 2008. С. 236.

У гарадах Заходняй Еўропы спынілася ўзвядзенне велічных сабораў – гэтага матэрыяльнага ўвасаблення гарадскога гонару, якое нават у часы росквіту часта рабілася непасільнай ношай для гарадскога бюджэту (здаралася, будоўля працягвалася больш за стагоддзе)[8]. Пасля шэрагу эпідэмій ("Чорнай смерці", 1360, 1369, 1375 г.) з'явілася шмат пакінутых вёсак, палі вакол іх зноў зарасталі лесам.

Манархі скарысталі манетныя рэгаліі (выключнае права біцця манеты) і папаўнялі свой скарб праз змяншэнне колькасці срэбра ў манетах пры новых грашовых эмісіях (сапраўднае фальшываманецтва). Тое ж адбывалася і з залатой манетай. Пачаліся дэвальвацыі грошай, катастрафічна збанкрутавалі слынныя італьянскія банкі, асабліва фларэнтыйскія[9]. У 1346 г. англійскі кароль Эдуард III адмовіўся вяртаць пазыкі фларэнтыйскім банкірам, якія фінансавалі яго вайну з Францыяй, і пасадзіў лонданскіх прадстаўнікоў банкаў у вязніцу. Адразу некалькі найбольш уплывовых фларэнтыйскіх сем'яў аб'явілі пра свае банкруцтва[10].

Дабрабыт тых феадалаў, якія бралі натуральную феадальную рэнту[*], пахіснуўся з-за спаду цэн на збожжа; тыя, хто поўнасцю замяніў даніну на грашовую рэнту, таксама пацярпелі з-за дэвальвацый.

[*] **Рэнта феадальная**. У раннім сярэднявеччы свабодныя сяляне рабіліся залежнымі ад паноў паводле дамовы. Феадал браўся забяспечваць селяніну абарону (ці даваць пазыку) узамен на плату, называную феадальнай рэнтай. Яна магла мець розныя формы: **адробкавая** рэнта (праца на гаспадарцы пана – прыгон); **натуральная** ці **прадуктовая** (аддавалася частка прадукцыі сялянскай гаспадаркі); **грашовая**.

У часы росквіту сярэднявечча ў 12 – 13 ст., па меры развіцця таварна-грашовых адносін у Заходняй Еўропе, многія феадалы замест адробкавай рэнты (прыгону), пачалі браць з залежных сялян чынш – **прадуктовую** (частку прадукцыі сялянскай гаспадаркі, ад 1/12 да 1/3 ураджаю), або **грашовую** рэнту. Апошняя найбольш практыкавалася ў рэгіёнах са значнай колькасцю гарадоў (г.зв. сярэднявечнай урбанізацыі), дзе лягчэй было прадаць свае плёны на рынках. Каб здабываць грошы на падаткі, сяляне мусілі мець гаспадарчую самастойнасць і асабістую свабоду (у Заходняй Еўропе гэта зрабілася нормай). У краінах Заходняй і Паўночнай Еўропы шмат сялян захоўвалі асабістую свабоду з даўніх часоў.

На землях Цэнтральна-Усходняй Еўропы працэс пераходу на грашовую рэнту моцна спазніўся па прычыне слабога развіцця таварна-грашовых адносін. З 15 ст. тут, наадварот, вырасла значэнне адробкавай рэнты і звязанае з ёй асабістае запрыгоньванне сялян.

Рыцарства, у спадзяванні на ваенную здабычу і каралеўскія ўзнагароды за заслугі, шукала шчасця на войнах. Таму экспансія англійскіх каралёў у Францыі атрымала гарачую падтрымку англійскага рыцарства. Калі не ўдалося ўтрымаць зямельныя здабычы ў Францыі, англійская шляхта намагалася захаваць падставы свайго існавання ў грамадзянскай вайне праз элімінацыю часткі сваёй грамадскай групы[11]. Падобнае адбыва-

---

[8] История средних веков. В 2 т. Т. 1: Л.М.Брагина, Е.В.Гутнова, С.П.Карпов и др.; Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. Москва: Высш. шк., 1990. С. 460; Ле Гофф Ж. Средневековье и деньги: очерк исторической антропологии. Санкт-Петербург: Евразия, 2010. С. 37 – 40.

[9] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 356 – 357; Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. С. 104.

[10] Китс Д. История Италии /пер. с англ. Т.М. Котельниковой. Москва: Астрель, 2012. С. 63.

[11] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 357.

лася і ў Германіі. Там ішло змаганне за дамінацыю паміж Габсбургамі, Віттэльзбахамі і Люксембургамі. Калі нехта з іх здабываў новыя землі, туды наязджала звязанае з імі рыцарства. Урэшце, значная частка нямецкай шляхты шукала шчасця ў вайне Тэўтонскага ордэна з балтыйскімі язычнікамі. Там можна было атрымаць зямельны маёнтак у якасці ленніка Ордэна на землях, адабраных у язычнікаў.

Трапную характарыстыку таму часу даў вядомы французскі медыявіст Жак Ле Гоф: *"Людзі 14 ст., над якімі навісалі апакаліптычныя праявы, прыйшоўшыя з Нябёсаў на зямлю, часта ўяўлялі сабе няшчасці, з якімі ім даводзілася сутыкацца, у вобразе трох вершнікаў з Апакаліпсіса: голад, вайна і эпідэміі. Усе гэтыя навалы былі вядомыя людзям Сярэднявечча і раней, але іх масавы характар разам з некаторымі новымі абставінамі прывялі да нечуваных дагэтуль наступстваў"*[12].

## 1.1.1. "Чорная смерць"

Час гаспадарання ліцвінскага дуумвірату Альгерд-Кейстут прыпаў на шэраг эпідэмій чумы, самай вялікай сярод якіх была пандэмія "Чорнай смерці"[*] у 1346 – 1353 г.

[*]**"Чорная смерць"**. Пандэмія (эпідэмія, нашмат буйнейшая за звычайную) чумы 1346 – 1353 г. Занесена ў Еўропу з Азіі праз гандлёвыя шляхі. Сіндромы: чорны і сухі язык, трызненне і выбухі шаленства, адчуванне тугі, боль у вобласці сэрца, паскоранае дыханне, кашаль, розныя макроты, мутныя, часта чорныя мача і кал, чорная кроў, невыносны смурод ад хворага. Трупы памерлых імкліва чарнелі і па колеры нагадвалі вугаль – адсюль і назва "чорная смерць". Чума мела дзве формы – **бубонную** (*бубоны* – запаленні лімфатычных вузлоў на руках, сківіцах і іншых частках цела; *карбункулы* – гнойныя запаленні скуры; *петэхіі* – плямы ад кропкавых гематом) і **лёгачную** (крывахарканне). Хворыя паміралі на працягу некалькіх гадзін ці трох сутак.

У навейшы час, з 19 ст., было даволі распаўсюджана меркаванне, што чуму прывезлі ў Еўропу генуэзцы з іх калоніі Кафы (цяперашняя Феадосія) у Крыме. Кафу трымалі ў аблозе татары, якія, акрамя іншага, ужылі біялагічную зброю – катапультамі перакідвалі ў замак целы памерлых ад чумы людзей; бацыла трапіла ў Італію на караблях, якія прыплылі з Кафы. Але сёння гэтая версія крытыкуецца, бо чума не распаўсюджвалася ад трупаў людзей ці ад іх паху. Сучасная навука лічыць, што знешнія ўзбуджальнікі чумы "абудзілі" уласна еўрапейскія прыродныя чумныя асяродкі. Пераносчыкамі чумы былі блохі, якія жылі на пацуках, а ў выпадку лёгачнай формы мела месца аэрагенная інфекцыя. Спрыяльныя для развіцця пандэміі ўмовы стварыліся праз пагаршэнне клімату ў Еўропе: пахаладанне, землятрусы, чаргаванне моцна вільготных і засушлівых летаў. Пастаянны голад спрычыніўся да аслаблення агульнага імунітэту еўрапейскага насельніцтва.

Паводле: Супотницкий М. В., Супотницкая Н. С. Очерк V. «Чёрная смерть» – второе пришествие чумы в Европу (1346 – 1351) // Очерки истории чумы: В 2-х кн. Кн. I: Чума добактериологического периода Москва: Вузовская книга, 2006. С. 78 – 131. http://supotnitskiy.ru/book/about.html

* * *

Бубонная чума ўжо нападала і на Усход, і на Захад на восем стагоддзяў раней, у 6 ст. Потым на Захадзе яна цалкам знікла, толькі часамі сустракалася ў Цэнтральнай Азіі і на ўсходнім канцы Афрыкі.

[12] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 234 – 235.

У 1346 г. чума пачалася ў Еўропе з узбярэжжа Чорнага мора і вусця Дуная. У тым жа годзе яна з'явілася ў нізоўях Волгі, у Канстанцінопалі, а ў 1347 г. пашырылася ў Італіі, Францыі ды Іспаніі. Найшырэй чума разгарнулася ў 1348 г., калі дабралася да Брытанскіх выспаў, Нарвегіі, Ютландыі і Далмацыі. У 1349 г. яна лютавала ў Германіі, у 1350 г. дайшла да Польшчы, у 1349 – 1353 г. атакавала ўсходнеславянскія землі.

Медыкі ў 14 ст. яшчэ не маглі знайсці сапраўдных прычын эпідэміі, хоць не сумняваліся ў іх наяўнасці і ў неабходнасці перш за ўсё змагацца з інфекцыяй. У масавай свядомасці трывала іншае тлумачэнне эпідэміі, як праявы Божага гневу.

Некаторыя медычныя рэкамендацыі былі правільнымі: напрыклад, забаранялася збірацца для развітання ля ложка хворага ці нябожчыка, хадзіць на пахаванні, карыстацца вопраткай хворых. Самым дзейсным сродкам былі ўцёкі са шматлюдных гарадоў у маланаселеную сельскую мясцовасць, але такі спосаб паратунку маглі сабе дазволіць толькі заможныя людзі. Улады, у тым ліку гарадскія, асабліва ў Італіі, прынялі шэраг мер дзеля падтрымання чысціні і гігіены.

Наступствы чумы былі асабліва навідавоку, бо заражаліся цэлыя групы-абшчыны людзей, і гэтая групавая структура, якая ляжала ў аснове сацыяльнага ладу Еўропы, падточвалася, а часта і разбуралася чумой. Людскія страты ацэньваюцца ў 1/3 ці нават ад 1/2 да 2/3 хрысціянскага свету (колькасць ахвяр значна рознілася па рэгіёнах).

Эпідэміі чумы аднаўляліся праз адносна роўныя прамежкі часу прыблізна з роўнай сілай: 1360 – 1362 г. (асабліва ахапіла дзяцей), 1366 – 1369, 1374 – 1375, 1400, 1414 – 1417, 1424, 1427, 1432 – 1435, 1438 – 1439, 1445, 1464 г... Акрамя таго, людзей забівалі іншыя хваробы: дыфтэрыя, адзёр, свінка, скарлатына, тыф, воспа, грып і коклюш.

Паводле: Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 241 – 244.

* * *

У крыніцах ёсць звесткі пра мор у Полацку ў 1348/1349 г., а ў 1351 г. – у Паўднёвай і Паўночна-Усходняй Русі (у Смаленску, Кіеве, Чарнігаве, Суздалі і інш.), у 1352 г. чума спустошыла Пскоў. У 1353 г. ад гэтай хваробы памерлі дзеці вялікага князя маскоўскага і сам князь Сямён Іванавіч (сын Івана Каліты, зяць Гедыміна). У 1363 г. чума ахапіла Паўночна-Усходнюю Русь, а ў 1365 г. здарыўся мор у Літве.

**Крыніцы**: Псковская летопись / изд. М.Погодин. Москва: Университетская типография, 1837. С. 29 – 31; Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. Санкт-Петербург, 1786. С. 192, 198, 202; Русская летопись по Никонову списку. Ч. 4. До 1407 г. Санкт-Петербург, 1788. С. 6, 7, 12.

Калі раней эпідэміі знаходзілі сваіх ахвяр галоўным чынам сярод бедных людзей, знясіленых пастаянным голадам, то новая пошасць не адрознівала бедных ад багатых – забірала ўсіх, што яшчэ больш павялічвала паніку. "Чорная смерць" на некалькі гадоў спыніла вайну паміж Англіяй і Францыяй; у Італіі войска венгерскага караля паспешліва пакінула Неапаль, які заняла на год раней[13]. Тэўтонскі ордэн, падобна, з-за гэтага на некалькі гадоў перапыніў напады на ВКЛ (1349 – 1352 г.).

Чума адведвала Еўропу і пазней. У выніку колькасць еўрапейскага насельніцтва зменшылася прыблізна з 73 мільёнаў чалавек (каля 1300 г.) да 45 мільёнаў (каля 1400 г.)[14].

Звесткі пра эпідэмію на беларускіх землях вельмі скупыя. Найперш яна дабралася да Полацка, злучанага з Заходняй Еўропай гандлёвым шляхам праз Дзвіну. У Ніканаўскім

[13] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 401; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. Warszawa: PWN, 1995. S. 369.

[14] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 353.

(Патрыяршым) летапісе пад 1348 г. паведамляецца пра мор у Полацку, а пад 1351 г. – у Смаленску (адначасова ў Кіеве, Чарнігаве і інш.)[15]. Пад 1365 г. летапісец інфармуе пра буйную эпідэмію ў Літве[16].

Праявы дэмаграфічнага крызісу 14 ст. у Беларусі выразна прасочваюцца археалагічнымі даследаваннямі. Па-першае, у 14 ст. рэзка скарацілася колькасць сельскіх паселішчаў. Калі знойдзеныя археолагамі селішчы з 12 – 13 ст. (часоў росквіту сярэднявечча) лічацца сотнямі, то селішчаў з 14 ст. нашмат менш. Напрыклад, у Верхнім Панямонні, г.зн. на тэрыторыі гістарычнай Літвы, вядомы археолаг Валеры Шаблюк робіць назіранне: "*На сельскіх паселішчах рэгіёна археалагічныя матэрыялы 14 – 15 ст. у параўнанні з папярэднім перыядам і асабліва часамі позняга феадалізму сустракаюцца значна радзей*"[17]. Па-другое, заўважна паменшылася тэрыторыя гарадоў. На гарадскіх пасадах (за выключэннем замкаў) культурныя напластаванні 14 – 15 ст. невыразныя, часта над культурным слоем 13 ст. залягаюць адразу наслаенні канца 15 ст., калі ўжо пачынаўся выхад з крызісу[18]. Археалагічныя даследаванні паказалі таксама выразнае збядненне ў 14 ст. матэрыяльнай культуры, не толькі элітарнай, але і масавай, г. зн. народнай.

## Наступствы атакі чумы

Пандэмія чумы выклікала як у матэрыяльным, так і ў духоўным жыцці Еўропы наступствы, якія потым прасочваліся праз усё 15 ст. і нават пазней. З'явіўся новы тып рэлігійнасці. Да чумы людзі баяліся смерці ў асноўным таму, што пасля яе чалавек мог трапіць у пекла; цяпер мацнейшым быў страх ужо перад самой смерцю.

Распаўсюджанай тэмай жывапісу ў сярэдзіне 14 ст. стала "знаходжанне побач з трупам". Паказваліся выявы трох маладых людзей побач з трыма трупамі, звычайна ў трунах на пагосце. Па ўсёй Еўропе распаўсюдзілася тэма для роздуму і пісання „Memento mori" ("Памятай пра смерць"). З'явіўся шэраг ілюстраваных трактатаў пра мастацтва памірання, і пошукі ў гэтым кірунку прывялі да з'яўлення ў 14 ст. формулы Мантэня: "*Філасофстваваць – значыць вучыцца паміраць*". У Італіі ў 14 ст. распаўсюдзіўся іканаграфічны сюжэт "Трыумф смерці". Праз усю эпоху Адраджэння, а потым у мастацтве барока прайшоў сюжэт "Усё марнасць" – выява чэрапа. Пазней, у 15 ст., пашырылася іншая тэма – "Скокі смерці", у якой спалучалася свецкая традыцыя і стаўленне царквы да танцаў (строга асуджала). Меркавалася, што танец – згубная забава, і йдучы ў скокі, чалавецтва рухаецца да пагібелі.

Узрасла роля некаторых святых. Важнейшае месца ў духоўным жыцці ўсёй Еўропы заняў св. Себасцян – стрэлы ў ягоным целе лічыліся ў 14 ст. сімвалам няшчасцяў, а ў Заходняй і Паўднёвай Еўропе пачалі таксама пакланяцца св. Роху[*][19].

[*] Святы Себасцян. Жыў у 3 ст., рымскі легіянер, тайна вызнаваў хрысціянства, за гэта быў расстраляны паводле загаду імператара.

Святы Рох (каля 1295 – 1327 г.) – лічыўся абаронцам ад чумы.

---

15 Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3: до 1362 г. Санкт-Петербург, 1786. С. 192, 198.

16 Русская летопись по Никонову списку. Ч. 4. До 1407 г. Санкт-Петербург, 1788. С. 12.

17 Шаблюк В.У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння: 14 – 18 ст. Мн.: Беларуская навука, 1996. С. 10.

18 Соболь В.Е. О хронологии культурного слоя Минска позднефеодального периода [в:] Древнерусское государство и славяне. Мн.: Наука и техника, 1983. С. 75; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст.: планіроўка, культурны слой. Мн.: Навука і тэхніка, 1991. С. 149.

19 Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 244 – 246.

Дэмаграфічны спад, шматкроць узмоцнены чорнай чумой, прывёў да дэфіцыту працоўнай сілы і адпаведна, росту заробкаў. Улады спрабавалі змагацца з апошнім пазаэканамічным прымусам праз забароны. Англійскія і французскія каралі, каб прымусіць работнікаў наймацца за плату, якая існавала да чумы, стварылі г.зв. "Працоўнае заканадаўства". Аднак гэта мала дапамагала, перамагалі законы рынку.

Пры падтрымцы царквы ўлады спрабавалі таксама змагацца з празмернай раскошай багацеяў, якая лічылася прычынай Божага гневу. Раскоша сярод багатых феадалаў і бюргераў у канцы 14-га і ў 15 ст. дасягнула небывалых маштабаў. Манархі і гарадскія ўлады імкнуліся неяк гэтаму процідзейнічаць, забараняючы яе знешнія праявы: нашэнне надта дарагога адзення, каштоўных упрыгожванняў і г.д. Французскія каралі Піліп Прыгожы, Ян Добры і Карл V асуджалі выдаткі на раскошу, напрыклад, на ўпрыгожванні і масіўныя вырабы з каштоўных металаў. Карл V забараніў нават насіць экстравагантныя чаравікі-пулены (з вострымі насамі даўжынёй да 60 см), а жанчынам з Монпелье ў 1367 г. адмыслова загадаў не насіць каштоўныя камяні і сукенкі з занадта адкрытым дэкальтэ[20].

Чума стала адным з фактараў, які выклікаў у еўрапейскім грамадстве выбух гвалту: бунты сялян, рабочых і гарадскіх рамеснікаў, габрэйскія пагромы, перслед ведзьмаў і г.д. Тысячы габрэяў з нямецкіх зямель перасяляліся далей на ўсход, у тым ліку ў Польшчу і ВКЛ, запачаткаваўшы там дыяспары, якія гаварылі на дыялекце нямецкай мовы – ідышы[21].

Сялянскія і гарадскія паўстанні пачаліся разам з першымі праявамі крызісу, яшчэ ў канцы 13 – пачатку 14 ст. Пандэмія "Чорнай смерці" павялічыла і ўзмацніла пратэстную хвалю. Галоўнай прычынай сялянскіх бунтаў было значнае ўзмацненне падатковага ціску, бо якраз супалі ў часе дзеянні феадалаў па павелічэнні сваіх даходаў і дзяржаўныя падаткі на войны. У вясковых паўстаннях у асноўным удзельнічалі не бедныя, а заможныя сяляне, якім было што губляць, яны бунтавалі, калі іх прывілеям нешта пагражала. Увогуле, бунты мелі лакальны характар і асаблівай пагрозы феадалам не стваралі.

Самае вядомае паўстанне сялян у Паўночна-Усходняй Францыі – Жакерыя (ад пагардлівай мянушкі селяніна – "Жак-прастак") выбухнула ў траўні 1358 г. Стыхійнае, без добрых кіраўнікоў, яно доўжылася толькі два тыдні і было жорстка задушанае феадаламі. У 1378 г. у Лангедоку доўга трывала сялянскае паўстанне пад назвай "Жакерыя цюшэнаў" (так называлі лясных разбойнікаў).

У гарадах пагаршэнне эканамічнай сітуацыі адбівалася найперш на бяднейшых жыхарах, што прыводзіла да паўстанняў рамеснікаў і беднаты. Акрамя таго, да барацьбы за ўладу, якую трымаў у сваіх руках стары купецкі патрыцыят, далучылася новае, нядаўна разбагацелае купецтва. Яно часта дзейнічала ў саюзе з цэхавымі старэйшынамі.

Часам сяляне-паўстанцы дамаўляліся з гараджанамі. Адзін з правадыроў Жакерыі Гільём Каль наладзіў кантакт і ўзаемадзеянне з правадыром парыжскага паўстання супраць каралеўскай улады Эцьенам Марселем[22]. У Англіі сялянскі бунт зліўся з выступленнямі рамеснікаў ды гарадскіх рабочых у Лондане і атрымаў падтрымку рамеснікаў з іншых гарадоў. Гэта было вядомае паўстанне 1381 г. пад кіраўніцтвам Уота Тайлера і Джона Бола, якое дамагалася адмены "Працоўнага заканадаўства" і вызвалення сялян. Мяцежнікі ненадоўга захапілі Лондан, але былі пераможаныя і жорстка пакараныя.

Пасля першага перыяду гарадскіх бунтаў – 1280 – 1310 г. надыйшоў другі: 1360 – 1410 г. У Фларэнцыі ўзнялі паўстанне рабочыя (паўстанцаў называлі "чомпі" – часальшчыкі воўны), якія ўтрымлівалі горад больш за тры гады, з 1378 да 1382 г. Бунт выйшаў за межы Фларэнцыі, захапіў суседнія гарады, напрыклад, Сіену. Выступы ра-

[20] Ле Гофф Ж. Средневековье и деньги. С. 157, 159.

[21] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 372.

[22] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 359.

бочых прынялі новую форму: разбурэнне машын. Мацней за ўсё гэты рух праявіўся ў гарадах паўночнага захаду Еўропы і Імперыі[23].

У 14 ст. і асабліва ў 15 ст. узмацнілася яшчэ адна форма гвалту – барацьба з чарадзействам. Царква здаўна змагалася з праявамі магіі, але ў сярэднявеччы яна была ў асноўным занятая праследам ерэтыкоў. Калі ж ерасі былі аслабленыя, вядзьмарства выйшла ў першы шэраг навалаў, з якімі прадпісвалася змагацца інквізіцыі (створаная ў пачатку 13 ст.). Улюбёнай ахвярай інквізітараў чарадзеі сталі пазней, у 15 ст. У 14 ст. чарадзейства прыпісвалі пераважна жанчынам, на еўрапейскай сцэне на першы план выступіла вядзьмарка, і так працягвалася да 17 ст. За гэты час шматлікія "чараўніцы" загінулі на вогнішчы[24], але ў 14 ст. праслед вядзьмарак яшчэ не набыў шырокіх маштабаў. Сучасныя гісторыкі выявілі, што сведчанні пра масавыя расправы над ведзьмамі ў канцы 13 ст. і ў сярэдзіне 14 ст. з'яўляюцца фальшыўкамі, сфабрыкаванымі ў 15, 16 і ў пачатку 19 ст.[25]

## 1.2. ЖЫЦЦЁ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Развіццё чалавецтва як біялагічнага віду ў сярэднявеччы кіравалася натуральнымі законамі нашмат больш, чым сёння, і пасля чумы спрацаваў прыродны механізм аднаўлення віду: у Еўропе моцна вырасла нараджальнасць, часам даследчыкі кажуць пра "дэмаграфічны выбух" пасля першай хвалі эпідэміі[26].

Паводле ацэнкі гісторыкаў, моцны крызіс не пацягнуў за сабой упадку ўсёй заходняй эканомікі і па-рознаму закрануў сацыяльныя групы і асобных людзей. Калі ў адной вобласці здараўся заняпад, то ў суседняй мог адбывацца ўздым. Зменшылася колькасць насельніцтва, і знізіліся цэны на збожжа. Сялян стала менш, але іх гаспадаркі, як правіла, узбуйніліся, працавалі больш інтэнсіўна, лепш прыстасоўваліся да рынку. Моцна пацярпелі ад крызісу і занялі цэнтры вытворчасці дарагіх тканін, але адначасова побач уздымаліся новыя гарады, якія выраблялі ўжо іншыя тканіны для менш заможнай кліентуры.

Феадалы прыстасаваліся да цяжкай сітуацыі і пачалі ў шырокіх маштабах замяняць земляробства больш прыбытковай жывёлагадоўляй. Класічны таму прыклад – Англія. Працоўнай сілы і кліентуры стала менш, але выраслі заробкі, і тыя, хто ацалеў, сталі жыць больш заможна. Вялікі крызіс феадальнай Еўропы, па выразе Ля Гоффа,"… *зарадзіў грамадства эпохі Адраджэння і Новага часу, больш адкрытае і для многіх больш шчаслівае, чым задушлівае феадальнае грамадства*"[27].

* * *

Гаспадарчая перабудова суправаджалася новымі вынаходніцтвамі. На працягу 14 – 15 ст. пашыраліся крывашыпныя механізмы, зубчатыя перадачы, свідравальныя станкі (для свідравання драўляных водаправодных труб), калёсныя дамкраты, пад'ёмныя краны, землекапальныя машыны (у тым ліку для пракладкі і ачысткі каналаў), агромністыя плюшчыльныя молаты. Гэтыя механізмы не дасягалі высокага каэфіцыенту карыснага дзеяння, але іх эфектыўнасць нашмат пераўзыходзіла эфектыўнасць ручной працы.

---

[23] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 250 – 255; Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 371.

[24] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 250 – 251.

[25] Гуревич А.Я. Средневековый мир: культура безмолвствующего большинства. Москва: Искусство, 1990. С. 308.

[26] Супотницкий М. В., Супотницкая Н. С. Очерк V. «Чёрная смерть» — второе пришествие чумы в Европу (1346 – 1351) // Очерки истории чумы: В 2-х кн. Кн. I: Чума добактериологического периода Москва: Вузовская книга, 2006. С. 78 – 131. http://supotnitskiy.ru/book/about.html

[27] Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. С. 105.

Удасканальваліся і іншыя прылады: у прадзенні верацяно і стаячую пралку замяніла самапралка з колам; майстры-шкляры навучыліся шліфаваць лінзы для акуляраў і г.д.

У 14 ст. у Латарынгіі ўжо будавалі домны, у якіх можна было выплаўляць чыгун. З'яўляецца цэмент, стальныя іголкі, карэты і сучасны воз, паром з коламі ля бартоў, што дазваляла ісці супраць цячэння. Вынаходніцтва ў 14 ст. спосабу саліць рыбу, на якую быў вялікі попыт, моцна пашырыла рабалоўны промысел, гандаль рыбай, а таксама памер гандлёвага флоту і аб'ём перавозак. Распаўсюджвалася папера, зробленая з ануч. Для рукапісных кніг яе выкарыстоўвалі ўжо з 12 ст., а ў 13 ст. на ёй пачалі рабіць адбіткі тэкстаў[28].

На працягу 14 – 15 ст. актыўна развіваліся сродкі вядзення вайны. З'явіліся спецыяльныя працы па ваеннай справе, у прыватнасці, вядомасць набыў трактат, напісаны каля 1327 г. сынам візантыйскага імператара Хведарам. Дзяржаўныя ўлады пачалі выдаваць прадпісанні па арганізацыі войска, баявой тактыцы і дысцыпліне. Канчаткова акрэслілася эпоха каня, які стаў больш выкарыстоўвацца для вайны, чым для працы. Агулам ад сярэдзіны 14 ст. да сярэдзіны 15 ст. памяншалася колькасць пяхоты. І гэта нягледзячы на эфектныя перамогі пехацінцаў над рыцарскай кавалерыяй у Стогадовай вайне ці ў бітвах швейцарцаў з Імперыяй. Усё больш для вядзення вайны выкарыстоўвалася прафесійнае наёмнае войска.

Вялікія змены ў вайсковай справе выклікала з'яўленне артылерыі. Гарматы і гарматны порах вельмі хутка, за пару дзесяцігоддзяў паміж 1325 і 1345 г., распаўсюдзіліся па ўсёй Еўропе. Першыя гарматы не пераўзыходзілі ў эфектыўнасці балісты і катапульты, але рэзкі і моцны гук стрэлу наганяў на ворага страху[29]. Хоць у 14 ст. гарматы (з-за прымітыўнасці і слабой эфектыўнасці) не вырашалі лёс бітваў, але артылерыя пастаянна дасканалілася і ў наступныя стагоддзі прывяла да кардынальных зменаў у вайсковай справе. Упершыню прымітыўныя гарматы былі масава выкарыстаныя яшчэ ў пачатку 14 ст. (у 1308 г.) падчас аблогі кастыльцамі арабскага замка Гібралтар[30]. У 14 ст. у Еўропе з'явілася індывідуальная вогнепальная зброя (рушніцы), якую вынайшлі арабы ў 12 ст.

У 14 ст. пачалося распаўсюджванне новых вынаходніцтваў у пабудове марскіх караблёў. Напрыклад, нязручны бакавы руль паступова замяняўся кармавым, прыдуманым яшчэ ў 13 ст. Пачаўся пераход на прамыя ветразі, мацаваныя на рэях. Іх плошчу можна было памяншаць ці павялічваць з дапамогай спецыяльных канатаў. Вельмі важным удасканаленнем было размяшчэнне на мачтах як прамых, так і касых (лацінскіх) ветразяў, што дазваляла плыць супраць ветру і не спыняць навігацыю на час зімы. Даследчыкі вылічылі, што змены канструкцый караблёў і арганізацыі флоту ў тыя часы адбываліся кожныя 30 – 40 гадоў. У выніку быў выпрацаваны дасканалы тып карабля, які застаўся ў свядомасці еўрапейцаў як легендарны вобраз, – каравела. З трох караблёў, на якіх плыў Хрыстафор Калумб да берагоў Амерыкі, два былі каравеламі.

У 14 ст. змяніліся ўяўленні еўрапейцаў пра Афрыку, якую раней лічылі страшнай краінай, населенай змеямі і іншымі жахлівымі пачварамі, а таксама надзвычай брыдкімі людзьмі з колерам скуры "чарней смалы". У 14 ст. Афрыка стала аб'ектам даследаванняў і экспансіі еўрапейцаў. Адбыліся першыя, праўда, няўдалыя, марскія экспедыцыі ўздоўж заходняга ўзбярэжжа кантынету. Яны выходзілі праз Гібратар, паварочвалі на поўдзень і знікалі[31].

Асабліва прываблівалі еўрапейцаў вострыя прыправы з Азіі, якія яны куплялі ў гандлёвых партах Усходняга Міжземнамор'я ў арабскіх купцоў. Да 1340 г. у Еўропе

---

[28] История средних веков. В 2 т. Т. 1. Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. С. 412 – 414.

[29] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 237 – 240; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 301.

[30] История средних веков. В 2 т. Т. 1. Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. С. 413.

[31] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 291, 289.

было вядома каля 200 прыправаў. Да іх залічвалі таксама цытрусавую садавіну і трысняговы цукар. Вострыя прыправы перш за ўсё выкарыстоўваліся ў фарбаванні, парфюмерыі і урэшце, для прыгатавання ежы. Значная частка іх прывозілася з Індыі, Кітая і Далёкага Усходу. Індыйцы прадавалі прыправы арабам, тыя перапрадавалі еўрапейцам, так накручваліся кошты. Пры высокай цане, гэты тавар займае мала месца, таму гандляваць ім было вельмі выгодна. Напрыклад, венецыянцы – лідары ў гандлі прыправамі, адпраўлялі па іх ад трох да пяці галер у год, і гэта лічылася вельмі буйнымі гандлёвымі аперацыямі[32].

У 1380 г. еўрапейскі свет-гаспадарка займеў адзіны цэнтр – Венецыю. Яшчэ годам раней здавалася, што Венецыя канчаткова прайграе даўняе суперніцтва з Генуяй, - іншым буйным горадам-рэспублікай у паўночнай Італіі. У жніўні 1379 г. генуэзцы атабарыліся пад самай Венецыяй. Яны авалодалі Кьёджай – маленькай рыбацкай гаванню, якая закрывала адзін з выхадаў венецыянскай лагуны ў Адрыятыку. Аднак у 1380 г. венецыянцы вярнулі Кьёджу і разграмілі гэнуэзскі флот. Мір, заключаны ў Турыне ў 1381 г., не даў ніякай заўважнай перавагі для Венецыі, але стаў пачаткам адступлення генуэзцаў і венецыянскай перавагі. Наступнае перамяшчэнне еўрапейскага эканамічнага цэнтра – у Антверпен – адбылося толькі пасля 1500 г.[33].

***

У 14 ст. выявіліся новыя тэндэнцыі ў развіцці філасофіі. Найістотнейшым кірункам была крытыка артадаксальнай схаластыкі[*], а менавіта яе пастулат прымірэння розуму і веры на аснове падпарадкавання першага другой.

[*] **Схаластыка** – сярэднявечная філасофія ў 11 – 14 ст., якая ставіла за мэту рацыянальнае абгрунтаванне і сістэматызацыю каталіцкага веравучэння. Артадаксальная схаластыка сцвярджала магчымасць прымірэння розуму і веры на аснове падпарадкавання розуму боскаму азарэнню. Прызнавала першынство ісціны азарэння над ісцінай пазітыўнай веды. Абвяшчала бясспрэчны аўтарытэт Святога Пісання, твораў Айцоў Царквы, пастаноў Сусветных сабораў.

У прыватнасці, англійскі філосаф, логік і тэолаг Уільям Оккам (каля 1285 – 1349 г.) настойваў на размежаванні сфер дзейнасці розуму і веры. Паводле Оккама, тэалагічныя ісціны, крыніцай якіх з'яўляецца Святое Пісанне, немагчыма даказаць з дапамогай філасофскіх аргументаў, і наадварот, навуковыя ісціны не залежаць ад багаслоўя[34].

У 14 ст. на італьянскіх землях была запачаткаваная выбітная еўрапейская культурная з'ява – Адраджэнне (Рэнесанс, працягваўся ад 40-х гадоў 14 ст. да першых дзесяцігоддзяў 17 ст.), ідэйнай асновай якога робіцца светапогляд гуманізму[*].

[*] **Гуманізм** (ад лац. humanitas – чалавечнасць) – светапогляд антрапацэнтрызму. Пастулюе вышэйшую самадастатковую і самаўсвядомленую значнасць чалавека.

Паводле: Новейший философский словарь. Мн., 1998. С. 185.

[32] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 287 – 288.

[33] Бродель Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV – XVIII вв. Т. 3. Москва: Прогресс, 1992. с. 114; Бродель Ф. Динамика капитализма. Смоленск: «Полиграмма», 1993. с. 90.

[34] Новейший философский словарь /Сост. А.А.Грицанов. Мн.: Изд. В.М.Скакун, 1998. С. 738.

Адраджэнне літаратуры і мастацтваў праз вяртанне да традыцый антычнай класікі - галоўная ідэя дзеячаў Рэнесансу. Менавіта яны прыдумалі тэрмін "сярэднявечча", якое называлі "цёмнымі вякамі" паміж Антычнасцю і яе адраджэннем.

Рэнесанс пачаўся ў Італіі ("калыскай Адраджэння" называюць Фларэнцыю), адной з найбольш гаспадарча развітых і ўрбанізаваных абласцей Еўропы, да таго ж непасрэдна звязанай з Антычнасцю геаграфічна і традыцыйна. Ля вытокаў гуманізму і Адраджэння даследчыкі бачаць фларэнтыйца Дантэ Аліг'еры (1265 – 1321 г.) з яго філасофскімі і паэтычнымі творамі, найперш, знакамітай "Боскай камедыяй"[35]. Пачынальнікам гуманізму і рэнесанснай літаратуры лічыцца таксама ўраджэнец Фларэнцыі Франчэска Пятрарка (1304 – 1374 г.), які адрадзіў антычны паэтычны канон у гераічнай паэме "Афрыка" і стварыў знакамітую любоўную лірыку на вольгарэ (тагачаснай італьянскай мове). Варта зазначыць, што "адраджалася" і "аднаўлялася" ў першую чаргу не італьянская мова, а лаціна. Працягвалі справу Петраркі Джавані Бакаччо (1313 – 1375 г.), Калюччо Салютаці (1331 – 1406 г.) і іншыя. Найбольш вядомы твор Бакаччо – зборнік навел "Дэкамерон" (у літаральным перакладзе са старагрэцкай азначае "Дзесяціднёўе"), дзе спалучаюцца сур'ёзныя і рамантычныя гісторыі і "салёныя" анекдоты з жыцця паспалітага люду. "Дэкамерон" стаўся ўзорам для многіх наступных еўрапейскіх аўтараў, уключна з Уільямам Шэкспірам[36].

Хоць руплііўцы Рэнесансу дэкларавалі поўнае адасабленне ад Сярэднявечча, на самой справе яны шмат у чым працягвалі трымацца яго традыцый у сваіх паводзінах і ўспрыманні свету[37].

Мастакі ў познім сярэднявеччы пачалі маляваць выявы дзіцяці, якое да 13 ст. не ўспрымалася як самастойная каштоўнасць. Дзіцё выходзіць на першы план, дзякуючы, натуральна, малому Ісусу. Сярод анёлаў сталі з'яўляцца таўсташчокія малыя-амурчыкі – пуцці. Паралельна замацоўвалася традыцыя выявы жанчыны. Раней мастакі засяроджваліся на кульце Дзевы Марыі, зараз большую цікавасць у іх выклікала Ева, якая да той пары заставалася на заднім плане як крыніца спакусы.

Яшчэ ў пачатку 14 ст. у жывапісе з'явілася нававядзенне, якому быў наканаваны неверагодны поспех, – партрэт. Ён узнік дзякуючы ўмацаванню паняцця чалавечай індывідуальнасці і новаму выяўленчаму коду, які назавуць рэалізмам. Выявы твараў як жывых людзей, так і памерлых (на надмагіллях) ужо не прадстаўлялі прыняты канон, а набліжаліся да рэальнасці. Самыя раннія партрэты рабіліся з моцных гэтага свету, пазней адбылася дэмакратызацыя жанру, і эпоха партрэта працягвалася да 19 ст., пакуль у яго не з'явіўся канкурэнт – фатаграфія[38].

У познесярэднявечнай Еўропе паступова распаўсюджваліся танцы. Музыка, пад якую спявалі і таньчылі, дасягнула большай тонкасці рытмічнага выразу і навучылася выкарыстоўваць усе рэсурсы голасу і музычных інструментаў: *"Гэтая Еўропа ўжо кружылася не толькі ў "скоках смерці", але і ў святочных танцах, якіх рабілася ўсё больш. (…) У гэты момант вымалёўваецца новы вобраз Еўропы, якая таньчыць, спявае і грае на музычных інструментах"*[39].

## 1.3. МІЖНАРОДНАЯ СІТУАЦЫЯ

**Стогадовая вайна** паміж **Францыяй** і **Англіяй** (1337 – 1453 г.) вялася на французскай тэрыторыі, што прывяло да значных страт сярод насельніцтва краіны і моцна

[35] Брагина Л.М. Итальянский гуманизм. Этические учения 14 – 15 веков. Москва: Высшая школа, 1977. С. 73.

[36] Китс Д. История Италии. С. 67.

[37] Бэрк П. Рэнесанс. Мн.: Бел. гуманіт. адукац.-культ. цэнтр, 1997. С. 9, 17, 24.

[38] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 272.

[39] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 272 – 273.

зашкодзіла гаспадарцы і гандлю. Повадам да пачатку вайны стаў дынастычны канфлікт, калі англійскі кароль заявіў свае правы яшчэ і на французскую карону. Насамрэч змагаліся за Аквітанію на паўднёвым захадзе сучаснай Францыі і Фландрыю (сёння гэта ў асноўным тэрыторыя Бельгіі). Паўднёвая частка Аквітаніі – Гіень – юрыдычна належала Англіі і падтрымлівала з ёй моцную эканамічную сувязь. Адтуль у Англію пастаўляліся віны (у агромністай колькасці), соль, сталь, фарбавальнікі і іншае[40]. Мясцовай арыстакратыі і рыцарству больш адпавядала намінальнае падпарадкаванне далёкаму англійскаму каралю, чым рэальная ўлада караля французскага. У багатай Фландрыі скрыжавалася экспансія з абодвух бакоў.

Стогадовая вайна стала найбуйнейшым ваенным канфліктам еўрапейскага маштабу, бо ў яе аказаліся ўцягнутыя іншыя міжнародныя суб'екты: германскі імператар Людвіг Баварскі, герцаг Бургундыі, шэраг нідэрландскіх і нямецкіх князёў, гарады Фландрыі, Арагон і Партугалія – на баку Англіі; Францыю падтрымалі Кастылія, Сіцылія, Шатландыя, граф Фландрыі і папства.

Вайна праходзіла з пераменным поспехам. Нягледзячы на вялікую перавагу гаспадарчага і дэмаграфічнага патэнцыялу французаў (на пачатак вайны ў Францыі – 20 млн. жыхароў, у Англіі – 4,5 млн.[41]) англічане доўга перамагалі, хоць вялі вайну на чужой тэрыторыі. Англійскае войска фармавалася ў асноўным з прафесійных ваяроў-наймітаў. Значную яго частку складалі пешыя лучнікі, навербаваныя пераважна з вольных сялян, выдатна вышкаленыя і ўзброеныя дасканалымі лукамі (пры пераправе на кантынент караблі маглі змясціць значна больш стралкоў з лукамі, чым рыцараў з конямі). Асновай французскай арміі было феадальнае коннае апалчэнне, наёмныя аддзелы толькі дапаўнялі яго. У адрозненне ад англійскіх войскаў, французскія былі дрэнна арганізаванымі, тактычнае кіраванне ў іх практычна адсутнічала, рыцары біліся паасобку.

Добра кіраваныя, дысцыплінаваныя англійскія аддзелы лёгка рассякалі масу французскага войска на асобныя часткі, сцягвалі рыцараў з коней і бралі ў палон дзеля атрымання выкупа. Падчас вялікіх бітваў французы неслі вялікія страты, калі іх рыцарская кавалерыя кідалася ў атаку, а англійскія лучнікі яе расстрэльвалі. Так было ў бітве пад Крэсі (недалёка ад канала Па дэ Кале) 26 жніўня 1346 г. Лучнікі англічан, шыхтаваныя на пагорках, выбілі большую частку французскай конніцы. Тады загінуў сляпы чэшскі кароль Ян Люксембургскі, які разам з сынам (будучым чэшскім каралём і германскім імператарам Карлам IV) ваяваў на баку французаў. Акрамя чэшскага караля, з французскага боку загінулі граф Фландрыі і яшчэ некалькі князёў. У гэтай бітве англічане ўпершыню выкарысталі палявыя гарматы, праўда, без станоўчага ўплыву на яе ход.

У наступным годзе пасля доўгай аблогі англічане здабылі порт Кале, які на два стагоддзі (да 1558 г.) стаў іх галоўным ваенным і эканамічным плацдармам у Францыі (сюды прывозілася англійская воўна). Эпідэмія "Чорнай смерці" спыніла вайну на некалькі гадоў, а ў 1349 г. Фландрыя заняла нейтралітэт і такім чынам стала больш незалежнай ад Францыі.

Вайна аднавілася ў 1355 г. Яна зноў вялася на французскай зямлі і зноў з вялікай перавагай англічан. На паўднёвым захадзе яны з мора захапілі Гіень і Гасконь. Намеснікам караля Эдуарда III там стаў ягоны сын, таксама Эдуард, празваны па колеру латаў Чорным прынцам. Зрабіўшы сваёй галоўнай базай Бардо, Чорны прынц хадзіў у спусташальныя набегі на французскую тэрыторыю. Падчас аднаго з такіх паходаў, у жніўні 1356 г., каля Пуацье яго дагнала большае па колькасці французскае войска. Пасля чарговай коннай атакі на англійскія шэрагі поле бітвы заслалі целы французскіх рыцараў, што трапілі пад

[40] История Франции в 3 т. Т. 1. /ред. А.З. Манфред, В.М. Далин, В.В. Загладин, С.Н. Павлова, С.Д. Сказкин. Москва: Наука, 1972. С. 124.

[41] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 399.

дождж смяротных стрэлаў. Многія з ацалелых апынуліся ў палоне разам з каралём Янам Добрым і яго малодшым сынам Піліпам Бургундскім. Англічане адпусцілі караля пад слова гонару для збору грошай на выкуп. Паездзіўшы па краіне і не здолеўшы сабраць неабходную суму, Ян Добры вярнуўся ў палон, дзе і памёр у Лондане ў 1364 г.[42]

Ваенныя паразы французскага рыцарства спрычыніліся да росту ўсеагульнай незадаволенасці, якая вылілася ў паўстанні: парыжскае (1356 – 1358 г.), сялянскае (Жакерыю) у 1358 г., гарадскія і сялянскія антыпадаткавыя паўстанні 70 – 80-х г. Жакерыя ахапіла некалькі гістарычных абласцей Паўночнай Францыі: Бавезі, Пікардыю, Іль-дэ-Франс, Шампань і ад самага пачатку прыняла вельмі жорсткі характар. Сяляне палілі і нішчылі двары і замкі феадалаў, забівалі ўладальнікаў, бо імкнуліся *"выкараніць шляхту ўсяго свету і самім стаць панамі"*[43].

Неспакойна было і ў Англіі. Пандэмія "Чорнай смерці" скараціла насельніцтва не менш, чым на трэць. Рабочай сілы не хапала і рэзка выраслі заробкі працоўных. Умяшалася дзяржава, і каралі стварылі г.зв. "Працоўнае заканадаўства", сутнасцю якога быў прымус да працы за плату, якая існавала да выбуху эпідэміі. Частка феадалаў, галоўным чынам буйных, практыкавала г.зв. "сеньярыяльную рэакцыю", аднаўляючы на сваіх землях прыгон (адпрацовачная рэнта сялян). Англійскія сяляне супраціўляліся, як маглі, напрыклад, насуперак заканадаўству, збіраліся ў тайныя саюзы сельгасрабочых для барацьбы за павышэнне заробкаў. У сярэдзіне 14 ст. у народнай творчасці з'явіліся балады пра абаронцаў бедных і ворагаў багацеяў: высакароднага разбойніка Робін Гуда і яго паплечнікаў, пастаўленых па-за законам і вымушаных хавацца ў лясах[44]. Да буйнога ўзброенага выступу англійскага сялянства пад кіраўніцтвам Уота Тайлера дайшло ў 1381 г.[45]

У 1360 г. французы і англічане заключылі мірную дамову ў Брэціны. Англійскі кароль адмовіўся ад французскай кароны, затое атрымаў ва ўласнасць, (а не як леннае[*] уладанне) землі на поўдзень ад Луары[46] – адну трэць тэрыторыі Францыі.

[*] **Лен** (тэрмін паходзіць з нямецкай мовы; азначае тое самае, што *феод* – у лацінскай мове, *feodum, feudum*; у французскай – *ф'еф*, у англійскай – *фі*.) У сярэднявечнай Еўропе спадчыннае зямельнае ўладанне, якое сеньёр перадаваў васалу пры ўмове нясення службы (вайсковай, прыдворнай і інш.)

Смирнова Е.Д. и др. Средневековый мир в терминах, именах и названиях: Словарь-справ. Мн.: Беларусь, 1999. С. 340.

Вайна аднавілася ў 1365 г., і перавагу мелі ўжо французы. Яны здолелі выбіць з краіны вайсковыя банды, удасканалілі падатковую сістэму, рэфармавалі войска (набралі больш наймітаў, лучнікаў, удасканалілі кіраванне) і змянілі тактыку, а менавіта пачалі пазбягаць буйных бітваў і выкарыстоўваць метады партызанскай вайны. У сярэдзіне 70-х гадоў на поўдні краіны французскія войскі адцяснілі англічан амаль да самага мора. У 1375 г. было падпісана перамір'е ў Бругге, паводле якога ў англічан заставаліся толькі Бардо, Байона і Кале. Потым у Англіі пачаліся ўнутраныя канфлікты і Стогадовая вайна прыпынілася на сорак гадоў – да 1415 г.

---

[42] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S.400 – 403.

[43] История Франции в 3 т. Т. 1. /ред. А.З. Манфред, В.М. Далин, В.В. Загладин, С.Н.Павлова, С.Д. Сказкин. С. 129 – 130.

[44] Ле Гофф Ж. Герои и чудеса Средних веков. Москва: Текст, 2011. С. 186 – 190.

[45] Иглз Р. История Англии. Москва: АСТ: Астрель, 2008. С. 86 – 88.

[46] История Франции /под общей ред. Ж.Карпантье, Ф. Лебрена в сотрудничестве с Э. Карпантье и др. Санкт-Петербург: Евразия, 2008. С. 171.

* * *

**Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі** ў 14 ст. заставалася буйнейшым палітычным утварэннем Еўропы, аднак пазбаўленым унутранай еднасці. Тым не менш, нягледзячы на ўзмацненне нацыянальных манархій і гарадоў, імперыя ўспрымалася як увасабленне адзінства Еўропы, хоць ужо не больш чым сімвалічнае. Аснову яе складалі г.зв. старанямецкія землі ды каланізаваныя немцамі вобласці на ўсход ад Эльбы і ўздоўж Дуная. У імперыю ўваходзілі звязаныя з ёй толькі фармальна дзяржавы Паўночнай Італіі і Тасканы, а таксама Чэшскае каралеўства. Аддаляўся ад імперыі і ўмацоўваў незалежнасць Швейцарскі саюз (злучаў Швіц, Уры і Унтэрвальдэн), да якога ў сярэдзіне 14 ст. далучыліся пяць новых кантонаў, у тым ліку Люцэрн, Цюрых, Берн.

На працягу 14 – 15 ст. межы гэтай квазідзяржавы не былі дакладна акрэсленыя і пастаянна змяняліся праз войны, дынастычныя саюзы, змены васальных адносін. За імператарскую карону паміж сабой змагаліся Люксембургі, Віттэльзбахі і Габсбургі. Палітычнай цэнтралізацыі імперыі не дапускалі князі – гаспадары буйных уладанняў. Дзеля гэтага яны ў пачатку 14 ст. выбралі на імператара ўладальніка графства Люксембург Генрыха VII (1308 – 1313 г.). Праз шлюб сына Яна з чэшскай каралеўнай ён забяспечыў сваім нашчадкам чэшскі трон. Акрамя таго, Генрых, аднаўляючы даўнюю традыцыю, правёў паход у Італію, дзе ў Рыме быў каранаваны на імператара. Пасля яго смерці, каб не дапусціць далейшага ўзмацнення роду Люксембургаў, князі пасадзілі на імперскі трон Людвіга Баварскага (1314 – 1347 г.) з роду Віттэльзбахаў. Той уступіў у востры канфлікт з папствам, быў адлучаны ад царквы папам Янам XXII, але сам абвясціў Папу ерэтыком, пайшоў з войскам у Італію (у 1327 – 1330 г.), дзе арганізаваў цырымонію каранацыі. Нямецкія князі зноў спалохаліся ўзмацнення імператарскай улады і яшчэ пры жыцці Людвіга выбралі на яго месца ўнука Генрыха – чэшскага караля Карла I які кіраваў імперыяй пад іменем Карла IV (1346 – 1378 г.). Распачалася барацьба, перамога ў якой вырашылася для Карла праз неспадзяваную смерць Людвіга на паляванні ў 1347 г.

Напачатку кіравання Карла землі імперыі перажывалі цяжкія часы – эпідэмію “Чорнай смерці”, гаспадарчы крызіс. Спад даходаў феадалаў выклікаў павелічэнне падатковых цяжараў сялян; расла незадаволенасць у вёсках і гарадах; узмацняліся эгалітарныя і містычныя рухі; шырыліся габрэйскія пагромы, якія павялічылі міграцыю[47].

Дзеля спынення шматлікіх спрэчак і канфліктаў аб тым, хто мае права выбіраць імператара, Карл IV у 1355 г. склікаў імперскі сейм, каб той устанавіў дакладныя правілы выбараў кандыдата на імператарскі трон. У выніку была выпрацаваная, зацверджаная імператарам і 10 студзеня 1356 г. агалошаная “Залатая була” [*], якая юрыдычна замацавала раздробленасць Германіі.

[*] **Залатая була** дакладна акрэсліла працэдуру выбараў і склад калегіі выбаршчыкаў “рымскага караля, які меў стаць імператарам” (для яго каранацыі на імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі патрабавалася згода Папы Рымскага). Калегія электараў складалася з сямі князёў-курфюрстаў: архібіскупаў Майнца, Кёльна і Трыра, караля Чэхіі, пфальцграфа Рэйнскага, герцага Саксоніі і Віттэнберга, маркграфа Брандэнбурга. На працягу месяца пасля смерці караля архіепіскап Майнца як канцлер імперыі павінны быў склікаць калегію. Калі б па нейкай прычыне ён гэтага не зрабіў, курфюрсты меліся самі сабрацца ў Франкфурце над Майнам. Выбары ажыццяўляліся большасцю галасоў. Забаранялася праводзіць іх пры жыцці дзейснага манарха.

[47] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 277; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 314 – 315.

Була акрэслівала правы электараў (акрамя іншага, вышэйшую юрысдыкцыю над насельніцтвам у сваіх уладаннях, біццё манеты, збор мыта), фактычна рабіла іх суверэннымі ўладарамі на сваіх землях. Дазваляліся "законна аб'яўленыя" прыватныя войны паміж феадаламі, акрамя выступаў васала супраць сеньёра, але эабаранялася стварэнне саюзаў паміж гарадамі.

Паводле: Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 315 – 316; История средних веков. В 2 т. Т. 1. Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. С. 312 – 313.

Гэтай буллай Карл IV адхіліў ад удзелу ў калегіі супернікаў свайго роду – герцагаў Баварыі і Аўстрыі – ды замацаваў прывілеяванае становішча ўласнага каралеўства – Чэхіі. Імператар стараўся ўмацаваць пазіцыі свайго роду праз новыя тэрытарыяльныя набыткі.

***

Цяжкі крызіс у 14 ст. перажывала **Каталіцкая Царква**. Яшчэ ў 1309 г. папа-француз Клімент V не пажадаў жыць у Рыме, ахопленым канфліктамі і беспарадкамі, пераехаў у Авіньён (горад на пагранічы Францыі і Бургундыі)[48] і пачаў чакаць аднаўлення парадку, каб вярнуцца. Аднак ягоныя пераемнікі так і засталіся ў Авіньёне. Яны збудавалі там цудоўны папскі палац, распрацавалі эфектыўную сістэму кіравання хрысціянскім светам, улучна са зборам падаткаў, і ўвогуле няблага сябе адчувалі. Аднак ва светаўспрыманні еўрапейцаў горадам-сімвалам заходняга хрысціянства заставаўся Рым.

Пакуль папская ўлада размяшчалася ў Авіньёне, унутраныя канфлікты ў Рыме толькі ўзмацняліся; між сабой супернічалі магутныя арыстакратычныя роды, якія імкнуліся перацягнуць гарадскія нізы кожны на свой бок. На працягу 14 ст. як сярод святароў, так і сярод свецкіх людзей усё мацней гучала ідэя неабходнасці вяртання папскага пасаду ў Вечны горад. Папа Урбан V прыслухаўся да гэтых патрабаванняў і ў 1367 г. перабраўся з Авіньёна ў Рым, але неспакойная сітуацыя ў горадзе вымусіла яго ў 1370 г. зноў пераехаць у Авіньён. І толькі ягоны пераемнік Рыгор XI нарэшце канчаткова равёў папскі прастол у Рым (у 1377 г.).

Вяртанне папства ў Рым не аднавіла мір у Царкве, але прывяло да новага, яшчэ больш сур'ёзнага крызісу. Ранняя смерць Рыгора XI выклікала збор канклава, які абярнуўся мяцяжом. Новаабраны папа Урбан VI сваімі паводзінамі адразу выклікаў да сябе рэзка негатыўнае стаўленне. Большасць удзельнікаў канклава праз некалькі месяцаў сабраліся зноў, анулявалі сваё папярэдняе рашэнне і выбралі новага Папу Клімента VII. Але Урбан VI не пагадзіўся аддаць уладу і такім чынам у каталіцкім свеце з'явіліся адначасова два Папы: італьянец Урбан VI у Рыме і ўраджэнец Жэневы Клімент VII у Авіньёне.

Вакол кожнага аб'ядналася частка каталіцкага свету, які ў выніку аказаўся падзеленым на дзве сферы ўплываў. Клімента VII падтрымалі Францыя, Кастылія, Арагон і Шатландыя; у падпарадкаванні Рыма засталіся Італія, Англія, германскі імператар і аддаленыя каралеўствы Цэнтральна-Усходняй і Паўночнай Еўропы. У кожнага Папы меліся свае кардыналы, пасля смерці кіраўніка Царквы яны склікалі асобныя канклавы. Цэрквы асобных дзяржаў падпарадкоўваліся рашэнням сваіх манархаў і палітычных кіраўнікоў. Так працягвалася да 1417 г., калі двухпапства (часамі здаралася нават трохпапства) было ліквідавана. Вялікі раскол стаўся сур'ёзным выпрабаваннем для каталіцкай Еўропы. Яе адзінства было падарванае на многія гады. Хоць заходнія хрысціяне ў сваім

[48] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 316.

светаадчуванні засведчылі моц аўтарытэту Рымскай царквы, але здольнасць гэтай царквы да аб'яднання вернікаў выклікала моцны сумнеў[49].

У другой палове 14 ст. рух па рэфармаванні царквы разгарнуўся ў Англіі. Папы, якія мелі рэзідэнцыю ў Авіньёне, падтрымлівалі ў Стогадовай вайне Францыю. Англійская царква валодала буйнымі зямельнымі абшарамі, што распальвала зайздрасць феадалаў. Рыцарства і гараджане асуджалі духавенства, асабліва манахаў, за дармаедства і раскошу. Таму вялікую падтрымку ў сярэдзіне 70-х гадоў атрымаў прафесар Оксфардскага ўніверсітэта Джон Уікліф, які выступаў за рэфармаванне царквы, вызваленне свецкай улады з-пад падпарадкавання царкоўнай. Калі ж ён замахнуўся на перагляд асноўных царкоўных догматаў, то быў асуджаны як ерэтык у 1381 г. Ягоныя погляды ўзялі на ўзбраенне г.зв. народныя прапаведнікі – ланарды, якія, акрамя хібаў царквы, асуджалі яшчэ несправядлівасць усяго грамадскага ладу. Самы вядомы з іх – Джон Болл – нават заклікаў да ліквідацыі саслоўнай няроўнасці. Ён прыдумаў знакамітую формулу: *"Калі Адам араў, а Ева прала, хто тады быў шляхціцам?"*[50]

***

У палітычна раздробленай **Італіі** ў 14 ст. ужо выразна быў бачны падзел на больш развітую эканамічна ды культурна Поўнач і адсталы Поўдзень. У Паўночнай і Сярэдняй Італіі актыўна развіваліся гарады, якія моцна ўплывалі на ўсю эканоміку і грамадскія адносіны ў рэгіёне. Гарады – гэта рамяство і гандаль, што вымагалі актыўнага грашовага абароту, у які ўцягваліся навакольныя феадалы і сялянства. Апошнія аддавалі панам рэнту не ў форме прыгону, а прадуктамі і грашыма. Ужо ў 13 ст. тут скончыўся працэс асабістага вызвалення сялян. Гарады, якія часта кіравалі вялікімі абласцямі, значна гэтаму паспрыялі. Гарадскія камуны імкнуліся, па-першае, аслабіць феадалаў, па-другое, мелі патрэбу ў прытоку працоўнай сілы. Частка збяднелых сялян сапраўды адыходзіла ў горад. Тыя, што заставаліся, пазбаўленыя зямлі, ператвараліся ў арандатараў (за частку ўраджаю).

Істотна адрозніваліся грамадскія адносіны ў суседняй Паўночна-Заходняй Італіі, якая складалася з П'емонта, Монферрата, Савойі, Салуза і Асці. Тут, наадварот, узмацняліся старыя формы феадальнай эксплуатацыі і павялічваўся памер феадальнай рэнты. Менавіта ў гэтым рэгіёне ў 14 ст. адбываліся буйныя сялянскія паўстанні.

У Паўднёвай Італіі і на Сіцыліі працэс феадалізацыі цалкам завяршыўся толькі да пачатку 14 ст., калі асноўная маса сялянства пераўтварылася ў асабіста залежных людзей. Гарадскім камунам не ўдалося дамагчыся незалежнасці і яны заставаліся ў падпарадкаванні моцнай цэнтральнай улады. Мясцовыя гарады вялі галоўным чынам транзітны гандаль з Візантыяй і Левантам і у адрозненне ад паўночнаітальянскіх, не адчувалі патрэбы разбудоўваць унутраны рынак. Адсюль вынікала кансервацыя феадальных адносін у рэгіёне[51].

У 14 і 15 ст. Паўднёвая Італія і Сіцылія перажывалі эканамічны ўпадак.

Італьянскія землі сталі адной з першых ахвяр "Чорнай смерці" і іншых эпідэмій, якія перыядычна паўтараліся. Даследчыкі палічылі, што эпідэміі забралі ў Італіі ад 1/3 да 2/3 насельніцтва многіх гарадоў і вёсак. З 1300 да 1450 г. колькасць насельніцтва Італіі паменшылася з 11 да 8 млн. чалавек, а сярэдняя працягласць жыцця (40 гадоў) паміж 1300 і 1400 г. скарацілася напалову і толькі пад канец 15 ст. зноў вырасла да 27 гадоў[52].

---

[49] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 256 – 259.

[50] История средних веков. В 2 т. Т. 1. Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. С. 283 – 284; Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 254.

[51] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 460; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 364; История средних веков. В 2 т. Т. 1. Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. С. 324 – 325, 334.

[52] История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. Москва: Наука, 1992. С. 332.

Галоўнай палітычнай сілай на поўначы быў **Мілан**, які ўвесь час пашыраў свае ўладанні ў Ламбардыі. Ягоны лад акрэсліваюць як тыранію, увасобленую ў родзе Вісконці (у 1395 г. купілі княскі тытул[53]). З тыранамі Мілана востра канкурыравала рэспубліканская **Венецыя**, якой, акрамя падпарадкавання ваколіцы на паўвостраве, удалося здабыць зямельныя ўладанні на кантыненце. Праз іх венецыяне трымалі кантроль над гандлёвымі шляхамі ў Германію і мелі гарантаваную сельскагаспадарчую базу.

Венецыя і яе адвечны канкурэнт **Генуя** былі алігархічнымі рэспублікамі. Уладу трымалі багацейшыя купцы, якія складалі спадчынны патрыцыят. У працяглай вострай канкурэнцыі з пераходам у войны перамаглі венецыянцы. Яны выцеснілі супернікаў з Балканскага паўвострава і Сірыі. Генуя захавала апорныя пункты ва Усходнім Міжземнамор'і і стварыла шэраг факторый у Крыме, галоўнай з якіх была Каффа (Феадосія).

У заходняй частцы паўночнай Італіі мацнейшымі ўладарамі былі графы **Савойі** і **П'емонта**. У Сярэдняй Італіі суседзілі манархічная **Папская дзяржава** і рэспубліка **Фларэнцыя**. У Фларэнцыі ў канцы 13 ст. да ўлады прыйшлі прадстаўнікі цэхаў. Перанос папскай курыі ў Авіньён прывёў да разгулу анархіі ў **Папскай дзяржаве**. На яе тэрыторыі хаатычна ўзнікалі як гарадскія рэспублікі, так і тыраніі. У Рыме за ўладу між сабой змагаліся арыстакратычныя сямействы. Скарыстаўшы рост незадаволенасці насельніцтва Вечнага горада, кароткую, але бліскучую кар'еру зрабіў нерадавіты самавук ды таленавіты прамоўца Кола ды Рыенца - сын карчмара і прачкі. У 1347 г. ён узначаліў народнае паўстанне супраць феадалаў, здабыў уладу як "*трыбун свабоды, міра і справядлівасці*", але хутка згубіў падтрымку з-за дыктатарскіх паводзін. Феадалы зноў захапілі ўладу, і ўжо ў канцы года Кола ды Рыенца быў вымушаны ўцякаць з Рыма. У Авіньёне папа вырашыў яго падтрымаць дзеля сваіх палітычных мэтаў і ў якасці свайго прадстаўніка ў 1354 г. накіраваў назад у Рым. У тым жа годзе падчас народнага паўстання Кола ды Рыенца зноў спрабаваў уцячы з горада, але паўстанцы яго апазналі і забілі[54].

На поўдні буйнымі палітычнымі арганізмамі былі каралеўствы **Неапаля** і **Сіцыліі,** якія на фоне агульнага італьянскага сваволлства вылучаліся моцнай цэнтральнай уладай.

У Італіі ўвесь час працягвалася пераплеценая з сацыяльнымі канфліктамі барацьба паміж прыхільнікамі папства, якіх называлі гвельфамі, і прыхільнікамі германскіх імператараў – гібелінамі. Буйныя ўзброеныя выступы супраць гвельфаў адбыліся ў 1375 і 1378 г. у Таскане[55].

***

На Пірэнейскім паўвостраве ў 1340 г. хрысціяне нанеслі паразу эмірату Гранады і яго саюзнікам - паўночнаафрыканскім берберам пры Салада. Гэта быў апошні сумесны паход супраць маўраў трох асноўных хрысціянскіх дзяржаў Пірэнейскага паўвострава: каралеўстваў **Кастыліі, Арагона** і **Партугаліі** (**Навара** не ўдзельнічала). Далей пачаліся дынастычныя і тэрытарыяльныя канфлікты, унутраныя смуты, асабліва ў Кастыліі. Кастылія і Арагон падтрымлівалі паміж сабой адносіны, хоць не заўсёды прыязныя; Партугалія і Навара дзейнічалі асобна. Навара на доўгі час трапіла пад французскі ўплыў, а Партугалія, якая не мела шансаў пашырыць сваю тэрыторыю коштам суседняй мацнейшай Кастыліі, скіравалася на заморскія землі.

Арагон уяўляў сабой своеасаблівую федэрацыю некалькіх гістарычных земляў (каралеўствы Арагон і Валенсія, прынцыпат Каталонія з васальнымі тэрыторыямі на поўдні Францыі), якія мелі агульнага манарха – караля Арагона. Арагонскія каралі

[53] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 464.

[54] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 463, 464; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 370 – 371.

[55] Китс Д. История Италии. С. 67.

праводзілі планамерную экспансію ў Міжземным моры ў кірунку Італіі: падпарадкавалі Балеарскія астравы (тут у канцы 13 ст. – першай палове 14 ст. існавала самастойная дзяржава – каралеўства Маёрка), замацаваліся ў Сіцыліі (1282 г.), Сардыніі (1342 г.), пазней – у Неапалітанскім каралеўстве. На рубяжы 13 і 14 ст. квітнелі прыморскія гарады ў Валенсіі, Каталоніі, на Балеарах. Яны хутка багацелі на міжземнаморскім гандлі пад апекай моцнай дзяржавы і пасяхова канкурыравалі з італьянскімі гарадамі.

У Кастыліі і Арагоне грамадскія адносіны развіваліся па-рознаму. У першай краіне, дзякуючы ўдзелу ў рэканкісце, мелі свабоду і сілу гараджане ды сяляне. Гарады для абароны сваіх правоў аб'ядноўваліся ў саюзы. Сялянства вызвалілася ад асабістай залежнасці ад феадалаў і змусіла іх да падаткавых саступак. У Кастыліі гараджане і заможныя сяляне нават дзейнічалі ў органах станавага прадстаўніцтва – картэсах (гараджане атрымалі там найбольшы ўплыў у другой палове 13 – першай палове 14 стагоддзяў). У Арагоне вырашальную ролю, у тым ліку ў картэсах, здабыло рыцарства.

Эпідэмія чумы сярэдзіны 14 ст. спустошыла паўвостраў: напрыклад, у Каталоніі вымерла палова насельніцтва. Эксплуатацыя сялянства ўзмацнілася.

У пачатку 14 ст. у Іспаніі вывелі пароду даўгашэрсных авечак-мерыносаў, на воўну якіх быў вялікі попыт у Італіі, Англіі і Фландрыі (цэнтры сукнаробства). Падобна як у Англіі, на іспанскіх землях пачалося пашырэнне пашаў, якіх не хапала, таму ўзмацніўся наступ феадалаў на абшчынныя сялянскія землі. Камерцыйная авечкагадоўля буйных сеньёраў, царквы і ордэнаў стварыла сур'ёзную небяспеку для сялянскіх гаспадарак.

Пасля заканчэння рэканкісты ў пірэнейскіх краінах без справы засталася шматлікая шляхта – ідальгас. Паводле заканадаўства і станавай маралі шляхецкі статус быў несумяшчальны з мірнай працай (асабліва ў рамястве і гандлі). Не занятая на вайне шляхта і буйная арыстакратыя распачалі барацьбу за палітычныя ўплывы, права прысвойваць каронныя землі і даходы з іх. У 14 – 15 ст. усе хрысціянскія краіны Пірэнейскага паўвострава цярпелі на феадальную анархію. Каралеўская ўлада мела цяжкасці з утрыманнем кантролю над краінай і балансавала паміж рознымі лігамі і саюзамі арыстакратыі[56]. Толькі з пачаткам вялікіх геаграфічных адкрыццяў (канец 15 ст.) у каралеўскай улады з'явілася магчымасць выдаліць з краіны гэты неспакойны грамадскі элемент, скіраваўшы яго на здабычу заморскіх калоній.

* * *

У Паўночнай Еўропе ўсё большыя ўплывы здабывала **Ганза** – саюз купецтва паўночнанямецкіх і прыбалтыйскіх гарадоў. Гэтае даволі аморфнае аб'яднанне, якое то кансалідавалася (у выпадку пагрозы для манаполіі ганзейскіх купцоў), то зноў аслаблялася ў спакойныя часы, аказалася здольным весці вялікую палітыку, уключна з рэгулярнымі войнамі. Ганзейскія купцы цвёрда трымалі ў сваіх руках манаполію на балтыйскі гандаль[57]. Яны таксама здабылі прывілеяваную пазіцыю ў Англіі, адцясніўшы мясцовых купцоў, перахапілі амаль увесь англійскі экспарт і імпарт, у тым ліку масавыя перавозкі (разам з італьянцамі) англійскай воўны ў Фландрыю. У Лондане ганзеаты мелі экстэрытарыяльную факторыю. Ганзейскі саюз таксама пераняў пасярэдніцтва ў гандлі паміж Фландрыяй і краінамі на берагах Паўночнага і Балтыйскага мораў. Уласную факторыю Ганза трымала і ў Вялікім Ноўгарадзе, з якога вывозіла збіраныя туды з рускіх зямель футры, скуры, мёд і воск. Спачатку дамовы паміж ганзеатамі і ноўгарадцамі мелі раўнапраўны характар, але з цягам часу апошнія сталі толькі пасярэднікамі ў гандлі

[56] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 475; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 376; История средних веков. В 2 т. Т. 1. Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. С. 349 – 350.

[57] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 370.

паміж рускімі землямі і Ганзай. Актыўныя кантакты з беларускімі землямі Ганза трымала праз Рыгу на Заходняй Дзвіне і Каралявец (Кёнігзберг) на Нёмане.

Асабліва моцныя пазіцыі ганзейскія немцы здабылі ў **Скандынавіі**. У 13 – 14 ст. пад моцны нямецкі эканамічны і культурны ўплыў трапілі ўсе тры скандынаўскія каралеўствы: Данія, Швецыя і Нарвегія. Сюды пераязджалі купцы і рамеснікі з ганзейскіх гарадоў, атрымлівалі прывілеі, здабывалі вядучыя пазіцыі ў гарадскім жыцці. У Скандынавію рознымі шляхамі пранікалі таксама буйныя і дробныя нямецкія феадалы (праз набыццё маёнткаў, уступленне ў васальна-ленныя адносіны). Яны актыўна ўздзейнічалі на мясцовую палітыку: справа нават даходзіла да заняцця немцамі каралеўскага трона. У асабліва моцнай залежнасці ад немцаў апынулася Нарвегія, якая не магла абыйсціся без буйных падвозаў зерня ганзейскімі гарадамі. Ужо з канца 13 ст. гаспадарка скандынаўскіх краін пачала перажываць цяжкасці, а эпідэмія "Чорнай смерці" і іншыя пошасці прывялі да значнага недахопу працоўных рук. Асабліва вялікія дэмаграфічныя страты ад чумы панесла Нарвегія[58].

Грамадскі лад скандынаўскіх краін адрозніваўся ад устрою рэшты Еўропы. Толькі ў Даніі працэс феадалізацыі набліжаўся да заходнееўрапейскага. У Швецыі і Нарвегіі сяляне ў асноўнай масе захавалі асабістую свабоду, права ўласнасці на зямлю і нават мелі прадстаўніцтва ў парламентах. Хоць арыстакратыя ўсімі спосабамі старалася іх заняволіць, сяляне не здаваліся і перамагалі ў выніку магутных паўстанцкіх рухаў.

Найбольш людная і багатая з трох паўночных каралеўстваў была Данія. Пасля доўгіх унутраных смутаў, калі ўладу ад караля перахапілі буйныя феадалы, кантроль цэнтральнай улады над краінай умацаваў кароль Вальдэмар IV Аттэрдаг (кіраваў у 1340 – 1375 г., мянушка "Аттэрдаг" – у літаральным сэнсе "Новы дзень", азначае "Аднавіцель"). Яму ўдалося вярнуць ад шведаў багатую правінцыю Сконе ў паўднёвай частцы Скандынаўскага паўвострава (тыя захапілі яе ў 1322 г.) і заняць востраў Готланд з важнейшым гандлёвым пунктам Балтыйскага мора - Вісбю. Маючы кантроль над пралівамі паміж Балтыйскім і Паўночным морамі, Данія рабіла захады да павелічэння дзяржаўных даходаў і абмежавання манаполіі Ганзы: вымагала мыта за праход праз пралівы караблёў і падаткі з нямецкіх рыбакоў, якія вялі промысел на багатых сялёдкай водах каля дацкіх берагоў.

Такія дзеянні прывялі да адкрытай вайны Даніі з Ганзай. Першая кампанія скончылася ў 1361 г. цяжкай паразай Ганзы. Але ў 1367 г. Ганзейскі саюз аднавіў ваенныя дзеянні і атрымаў бліскучую перамогу (вайна 1367 – 1370 г.). Ганзейцы занялі замкі, якія пільнавалі Зундскі праліў, і нават захапілі сталіцу Даніі - Капенгаген. Вальдэмар IV выехаў за мяжу, а мірная дамова, падпісаная ў Штральзундзе, утрымлівала, між іншым, прыніжальную для Даніі ўмову: пытаць згоды Ганзы на кандыдатуру дацкага караля[59].

У феадальных колах Скандынавіі выспявала ідэя ўніі трох каралеўстваў. У ёй бачылі найперш магчымасць эфектыўнага супрацьдзеяння нямецкай экспансіі, а таксама сродак вырашэння ўнутраных праблем. Пэўны вопыт персанальнай уніі паміж Швецыяй і Нарвегіяй ужо быў у 1319 – 1363 г. Справу вырашыла ўмелая і эфектыўная палітыка дачкі дацкага караля Маргарыты, якая спачатку стала каралевай Даніі і Нарвегіі, а потым арганізавала Кальмарскую ўнію трох каралеўстваў у 1397 г.

* * *

Ва **Усходняй Рымскай імперыі** (Візантыі) нічога не засталося ад былой веліччы. У 20-я г. 14 ст. працяглую міжусобную барацьбу за ўладу вялі імператар Андронік II і яго

[58] История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. С. 419 – 420.

[59] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 455 – 456; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 339.

ўнук Андронік Малодшы, які ў 1328 г. стаў імператарам Андронікам III (1328 – 1341 г.). Фактычнае кіраванне дзяржавай знаходзілася ў руках буйнога феадала і военачальніка Іаана Кантакузіна і яго маці Феадоры Кантакузіны. Імператар самастойна дзейнічаў толькі ў ваенных кампаніях. Імперыя вяла цяжкія войны з Сербіяй і Балгарыяй. Найбольшыя поспехі Андронік III здабыў на захадзе, у прыватнасці, вярнуў Эпір і заняў некаторыя астравы ў Эгейскім моры. Аднак гэтыя здабычы не маглі кампенсаваць страту Малой Азіі. У 1329 г. візантыйскія войскі пацярпелі сур'ёзную паразу ад туркаў-асманаў, што вырашыла лёс малаазіяцкіх земляў імперыі.

Са смерці Андроніка III ў чэрвені 1341 г. у гісторыі Візантыі пачаўся новы цяжкі перыяд, падзеі якога запачаткавалі заняпад вялікай дзяржавы. Новы канфлікт паміж групоўкамі феадалаў перарос у грамадзянскую вайну з удзелам шырокіх мас насельніцтва. Да вайны прыцягвалі туркаў, сербаў, балгар, генуэзцаў, венецыянцаў, якія спяшаліся выкарыстаць крызісную сітуацыю ў Візантыі ў сваіх інтарэсах. Паказальны выпадак здарыўся ў канцы 1348 – пачатку 1349 г., калі Візантыя пацярпела паразу ў сутыкненні з маленькай генуэзскай калоніяй Галатай. Тады генуэзцы ўзвялі ўмацаванні на гары каля Галаты, а іх флот заблакаваў Канстанцінопаль.

У 1341 – 1355 г. краіну трэслі дынастычныя канфлікты, якія прынялі форму грамадзянскай вайны, паўстанні сялян і класавыя бітвы ў гарадах. Націск туркаў, палітычныя міжусобіцы і народныя паўстанні надалей аслаблялі дзяржаву. Акрамя таго, пастаянныя войны вяліся з Балгарыяй і Сербіяй. Візантыя страціла на карысць туркаў усе землі ў Малой Азіі. Сітуацыю пагоршыла "Чорная смерць". У другім па велічыні горадзе імперыі – Салоніках – паўстанцы зілоты ("захавальнікі" – прыхільнікі цэнтральнай улады) выступілі супраць арыстакратыі, захапілі ўладу і ўтрымлівалі яе з 1342 да 1349 г.

Пасля працяглай барацьбы, з дапамогай сваіх саюзнікаў туркаў, Іаан Кантакузін нарэшце дамогся імператарства (Іаан VI Кантакузін – 1347 – 1354 г.) як суправіцель Іаанна V Палеолага. Ён спрабаваў наладзіць справы дзяржавы, але было ўжо позна[60].

* * *

У сярэдзіне 14 ст. акрэслілася новая і надзвычай сур'ёзная пагроза для Еўропы – **экспансія турак-асманаў**. Пачаткам турэцкай заваёвы стаў захоп у 1352 г. на еўрапейскім беразе праліва Дарданелы замка Цымпе на паўвостраве Галіполі. Там умацаваўся сын эміра Урхана - Сулейман. Калі 2 сакавіка 1354 г. горад Галіполі быў амаль цалкам разбураны землятрусам, Сулейман яго адразу заняў і пачаў аднаўляць з дапамогай турэцкіх пасяленцаў. Вестка пра гэта ашаломіла Канстанцінопаль. У горадзе выбухнула паніка, людзі чакалі хуткага прыходу туркаў, пачалася эміграцыя канстантынопальцаў у Італію і Іспанію[61].

Мясцовыя хрысціянскія дзяржавы - Візантыя, Сербія і Балгарыя - не змаглі стварыць адзінага антытурэцкага фронту. У 40-я – 60-я г. балканскія дзяржавы вялі паміж сабой амаль бесперапынныя войны, да таго ж буйныя феадалы падымалі мяцяжы супраць цэнтральнай улады. Смуты ўнутры адной краіны адразу выкарыстоўваліся суседзямі, якія імкнуліся здабыць новыя тэрыторыі. Дынастычныя сувязі не спынялі канфлікты, а наадварот, давалі повад для ўмяшання ў справы іншых дзяржаў. Туркі ўзялі актыўны ўдзел у балканскіх звадах, што моцна аблегчыла ім авалоданне ўсім паўвостравам[62].

Толькі адна балканская дзяржава перажывала кароткачасовы ўздым ў 40-я – першай палове 50-х гадоў: **Сербія** пры цары Стэфане Душане (1331 – 1355 г.), які значна

---

[60] История Византии в 3 т. Т. 3. Москва: Наука, 1967. С. 129 – 130, 153, 148 – 149.

[61] История Византии в 3 т. Т. 3. С. 158.

[62] Краткая история Болгарии с древнейших времен до наших дней /ред. Г.Г.Литаврин. Москва: Наука, 1987. С. 150.

пашырыў тэрыторыю краіны за кошт Балгарыі і Візантыйскай імперыі. Між іншым, ён уключыў у свае ўладанні знакаміты цэнтр праваслаўя – Афон, у 1346 г. здолеў пераўтварыць сербскае архіепіскапства ў патрыярхію, і новы патрыярх адразу правёў цырымонію абвяшчэння манарха імператарам сербаў і грэкаў[63]. Аднак пасля смерці Душана яго дзяржава распалася на некалькі варагуючых між сабой княстваў[64].

**Балгарыя** (тагачасная сталіца – горад Тырнаў) цярпела ад мясцовых войнаў, нападаў турак, агрэсіі з боку каралеўства Венгрыі (у 1365 г. заняла частку балгарскай тэрыторыі) і графства Савойі (у 1366 г. захапіла паўднёвыя гарады на ўзбярэжжы Чорнага мора). Усё больш праяўлялася тэндэнцыя да распаду цэнтралізаванай дзяржавы. Буйныя феадалы паводзілі сябе як паўнапраўныя ўладары. На паўночным усходзе адасаблялася вобласць, па імені правіцеля Даброціцы названая Дабруджай. На паўночным захадзе выдзяляўся раён з цэнтрам у горадзе Відзін.

Балгарскае царства распалася пасля смерці цара Івана Аляксандра (1331 – 1371 г.), які яшчэ пры жыцці ўзаконіў падзел краіны на дзве часткі, перадаўшы ўсе правы на Відзін сыну Івану Страціміру, а на Тырнаў – іншаму сыну Івану Шышману. Пры цары Шышмане (1371 – 1393 г.) адзінай Балгарыі ўжо не існавала. Відзінскае царства і Дабруджанскае княства вялі цалкам самастойную палітыку[65].

Захапіўшы мыс Галліполі, туркі стварылі там сваю базу, з якой пачалі паступова заваёўваць Тракію. У 1359 г. турэцкія войскі ўпершыню з'явіліся пад сценамі Канстанцінопаля. Унук Асмана Мурад I (1362 – 1389 г.), які прыняў тытул султана, у 1362 г. захапіў Адрыянопаль, які з 1365 г. пад назвай Эдірне стаў сталіцай турэцкай дзяржавы[66]. Гэта быў пачатак канца Візантыйскай імперыі, з таго часу абмежаванай да кангламерату гарадоў і астравоў. Канстанцінопаль апынуўся ў атачэнні турэцкіх уладанняў, і яго падзенне заставалася толькі справай часу.

Феадалы Тракіі пачалі паддавацца турэцкай уладзе, некаторыя прынялі іслам і сталі леннікамі (сіпахіямі) султана, хрысціяне мусілі плаціць туркам даніну. З Андрыянопаля і іншых буйных гарадоў Тракіі высялялася амаль усё грэцкае насельніцтва і замянялася турэцкім, якое прыбывала з Малой Азіі.

Імператар Іаан V Палеолаг спрабаваў атрымаць дапамогу ў Заходняй Еўропе. У 1366 г. ён упершыню ў гісторыі Візантыі выехаў на Захад: спачатку да венгерскага караля, потым (1369 г.) у Італію да Папы Урбана V; там згадзіўся на ўнію праваслаўнай царквы з каталіцкай і сам перайшоў у лацінскую веру. Дапамогі візантыйскі імператар не атрымаў, а ідэя ўніі аказалася нерэальнай з-за рэзкага супраціву Канстанцінопальскай патрыярхіі.

Туркі пачалі біць сваіх ворагаў на Балканах паасобку. У 1371 г.яны нанеслі моцную паразу сербскім правіцелям Македоніі на рэчцы Марыцы. Сербія, а ў хуткім часе і Візантыя, сталі васаламі турэцкага султана. У наступным годзе туркі ўварваліся на тэрыторыю Балгарыі, захапілі частку краіны. Цар Іван Шышман прызнаў сябе васалам турэцкага султана і абавязаўся плаціць штогадавую даніну[67]. У 1378 г. турэцкі наступ у Балгарыі аднавіўся, турэцкія войскі захапілі яшчэ частку краіны, у тым ліку Сафію (1383 г.) і ў 1385 г. заваёвай чарговых земляў увагналі клін паміж Балгарыяй і Сербіяй. Вырашальнай падзеяй у скарэнні балканскіх краін сталася перамога туркамі аб'яднаных сербскіх і баснійскіх войскаў на Косавым полі ў 1389 г.[68]

---

[63] История Византии в 3 т. Т. 3. С. 148.

[64] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 483 – 484.

[65] История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. С. 358; Краткая история Болгарии… С. 152.

[66] История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. С. 349.

[67] Bułgaria. Zarys dziejów. Warszawa: Księżka i Wiedza, 1986. S. 101.

[68] История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. С. 349; История Византии в 3 т. Т. 3. С. 163 – 165.

Хрысціянскія краіны ўсё больш усведамлялі турэцкую пагрозу, якая ўрэшце сталася для Еўропы адным з яднаючых фактараў, бо “*калектыўная самасвядомасць складаецца ў працэсе супрацьстаяння “чужому” не горш, чым у выніку збліжэнняў, якія адбываюцца ўнутры грамадства*”[69]. Гісторыкі назвалі сярэднявечную Турцыю “контр-Еўропай”, “контрхрысціянскім светам”, а яе заваёвы ў Еўропе – “азіяцкай і антыеўрапейскай рэвалюцыяй”[70].

***

У 14 ст. сфармаваліся дзяржаўныя арганізацыі характару раннефеадальнай манархіі на тэрыторыі **Валахіі** (у пачатку стагоддзя) і **Малдовы** (каля 1359 г.). Тутэйшае насельніцтва “влахі” (у грэцкіх і лацінскіх крыніцах) ці “валохі” (славянская назва) – продкі сучасных румынаў і малдаван, сфармавалася праз цесныя кантакты мясцовых раманізаваных гета-дакаў і славян, якія рассяліліся тут з 6 ст. Яшчэ з 12 ст. на гэтых тэрыторыях была прынятая і доўга ўтрымлівалася пісьмовая ўсходнеславянская, руская мова. У прыватнасці, манархі Валахіі і Малдовы мелі тытулы “ваявода” і “гаспадар” (падобна вялікім князям літоўскім).

У 13 ст. тэрыторыя будучай Малдовы трапіла ў залежнасць ад Залатой Арды і стала яе ўскраінным заходнім улусам, дзе рассяляліся як качавыя, так і аседлыя мангола-татары. У 14 ст. Валашскае княства знаходзілася ў палітычнай залежнасці ад Венгрыі, але Малдаўскае княства здолела супрацьстаяць венгерскай экспансіі, і ў 1365 г. Венгрыя прызнала яго незалежнасць[71]. Малдова таксама скарысталася смутай у Ардзе, пазбавілася татарскай залежнасці і ў 60-я гады выціснула мангольскае насельніцтва за Днестр[72].

***

Вялікі еўрапейскі крызіс ахапіў таксама краіны Цэнтральна-Усходняй Еўропы, але ў меншай ступені чым іншыя рэгіёны. Характэрны прыклад – узнікненне і развіццё з сярэдзіны 14 ст. (у час найбольшага крызісу на Захадзе) універсітэтаў у Цэнтральнай Еўропе: у 1348 г. – у Празе, у 1364 – у Кракаве, у 1365 – у Вене, у 1385 - у Гейдэльбергу[73]. У другой палове 14 ст. у рэгіёне выявіўся шэраг выдатных дзяржаўных кіраўнікоў, многія з якіх атрымалі ад нашчадкаў дадатак “Вялікі”. Смерць вялікіх манархаў: польскага Казіміра ў 1370 г., ліцвінскага – Альгерда ў 1377, чэшскага – Карла ў 1378, венгерскага – Людовіка, крыжацкага – Вінрыха фон Кніпродэ, ліцвінскага – Кейстута (пайшлі з жыцця ў 1382 г.) выклікала патрасенні як у іх краінах, так і на міжнароднай арэне.

У **Чэхіі** караля Яна Люксембургскага (з новай дынастыі Люксембургаў) называлі “чужаземцам”. Ён гадамі не наведваў краіну, усё дзесьці падарожнічаў і ваяваў, пакуль не склаў галаву ў слыннай бітве Стогадовай вайны, дзе змагаўся на баку французаў. Ягонай заслугай для Чэхіі стала далучэнне новых зямель, асабліва багатых княстваў у Сілезіі, раней звязаных з Польшчай[74]. Пры яго сыне Карле I (1346 – 1378 г.), які быў каранаваны на імператара як Карл IV, Чэшскае каралеўства дасягнула вяршыні магутнасці. Хоць Чэхія лічылася складовай часткай імперыі (лена), але мела вялікую самастойнасць, і Карл зрабіў яе дамінантай сваёй дынастычнай палітыкі. Краіну ён пачаў парадкаваць яшчэ пры жыцці бацькі, які прызначыў яго намеснікам у Чэшскім

[69] Ле Гофф Ж. Рождение Европы. С. 297.

[70] Бродель Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм… С. 480.

[71] История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. С. 371, 373.

[72] Егоров В.Л. Историческая география Золотой Орды в XIII – XIV вв. Москва: Наука, 1985. С. 50 – 51.

[73] Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 388.

[74] Historia Europy Środkowo-Wschodniej. /red. Jerzy Kłoczowski. Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2000. T. 1. S. 111.

каралеўстве ў сямнаццацігадовым узросце[75]. Пры Карле I было сфармулявана паняцце “землі Чэшскай кароны”, да якіх належалі Чэхія, Маравія, сілезскія княствы, Верхняя і Ніжняя Лужыцы, пазней дадалося маркграфства Брандэнбургскае (Бранібор). Кожная адзінка мела пэўную самастойнасць, у прыватнасці, уласны сойм. У пазнейшыя часы некаторыя землі адпалі, але Чэхія, Маравія і Сілезія заставаліся ў складзе Чэшскай кароны да 20 стагоддзя[76].

Карл IV дамогся ўтварэння ў Празе архіепіскапства (1344 г.) і першага ў Цэнтральнай Еўропе ўніверсітэта (у 1348 г. – Карлаў універсітэт). Далучэнне Брандэнбурга ў 1373 г. пашырыла межы Чэхіі да Балтыйскага і Паўночнага мораў.

У **Венгрыі** энергічны кароль з неапалітанскай галіны французскага Анжуйскага дому Карл-Роберт (1308 – 1342 г.) здолеў дасягнуць значных поспехаў у барацьбе з уплывамі арыстакратаў і ўзмацніць дзяржаву. Ягоны сын і наступнік Лайаш (Людовік) Вялікі (1342 – 1382 г.), дзякуючы моцнай дзяржаве, разгарнуў нечуваную экспансію. Карл Роберт і Людовік праводзілі палітыку пастаяннага саюзу з Польшчай, што прывяло да заняцця Людовікам яшчэ і польскага трону (1370 – 1382 г.).

У выніку працяглых войнаў з Венецыяй Венгрыя замацавалася на далмацінскім узбярэжжы Адрыятычнага мора. Пэўныя палітычныя поспехі прынеслі паходы Людовіка Вялікага ў Валахію і Малдову. Нашмат горш пайшлі збройныя інтэрвенцыі на поўдзень Італіі супраць каралевы Неапаля Іаанны, абвінавачанай у атручванні мужа (Андрэя – караля Неапаля, брата Людовіка). Папскі суд зняў з каралевы абвінавачванні, але Людовік пайшоў на яе ў паход і ў 1347 г. захапіў Неапаль. Іаанна без супраціву ўцякла ў Праванс (яе родавае ўладанне ) і праз перадачу Авіньёна ва ўласнасць Папы забяспечыла сабе яго падтрымку. Эпідэмія чумы, якая ў 1348 г. пачала пустошыць Італію, змусіла венграў паспешліва адыйсці. Іаанна вярнулася, але венгры зноў прыйшлі паходам у 1350 г. На гэты раз Людовік прызнаў правы Іаанны за абяцанне перадаць сваю карону ў спадчыну прадстаўніку венгерскай лініі Анжуйскага дому[77].

Становішча **Польшчы** ў пачатку 40-х гадоў 14 ст. было нашмат больш складанае за венгерскую сітуацыю. Уладзіслаў Лакетак, якому ўдалося фармальна адрадзіць каралеўства (праз каранацыю ў 1320 г.), пакінуў сыну Казіміру III (1333 – 1370 г.) невялікую краіну, да таго ж аслабленую ў супрацьстаянні з ордэнска-чэшскім саюзам. Казімір III, нездарма названы гісторыкамі Вялікім, велізарнымі намаганнямі будаваў сваю дзяржаву як у прамым, так і ў пераносным сэнсе, паставіўшы за мэту вырасці з “кракаўскага каралька” (як яго называлі ворагі[78]) у манарха моцнага каралеўства. Казімір мацаваў краіну знутры, шмат будаваў, у першую чаргу замкі, дбаў пра падтрыманне правапарадку (яго нават абзывалі “каралём халопаў”) і імкнуўся павялічыць тэрыторыю. Ён пастаянна намацваў найбольш перспектыўныя кірункі тэрытарыяльнай экспансіі сваёй дзяржавы. У 1364 г. заснаваў універсітэт у Кракаве (цяпер называецца Ягелонскім).

Асновай замежнай палітыкі Казіміра быў саюз з Венгрыяй, які працягваўся і пасля яго смерці. Ён абяцаў у выпадку адсутнасці дзяцей мужчынскага полу перадаць польскую карону венгерскай дынастыі, што і сталася. Ягоным вялікім поспехам лічыцца разбурэнне (хоць і коштам вялікіх саступак, праз асобныя дамовы з чэхамі і крыжакамі) чэшска-ордэнскага саюзу. Кошт гэтых дамоваў быў высокі для Польшчы. Казімір

[75] История Чехии /под ред. В.И.Пичеты. Москва: Гос. издат. политической литературы, 1947. С. 58.

[76] История южных и западных славян: В 2 т. Т. 1. Средние века и Новое время: Учебник / Под ред. Г.Ф.Матвеева и З.С. Ненашевой. Москва: Изд-во МГУ, 2001. С. 268.

[77] Historia Europy Środkowo-Wschodniej. T. 1. S. 111; Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 442 – 443; Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. S. 369.

[78] Samsonowicz H. Kazimierz III Wielki [w:] Poczet królów I książąt polskich. Warszawa: Czytelnik, 1980. s. 247.

прызнаў за чэхамі права на Сілезію (багаты развіты рэгіён) і заплаціў вялікае адшкадаванне за адмову чэшскага караля ад прэтэнзій на польскі трон. Коштам дамовы з Ордэнам у Калішы ў 1343 г. было прызнанне за крыжакамі Гданьска і Памор'я[79].

Казімір на стагоддзі акрэсліў кірунак польскай экспансіі на ўсход, якая мела вялікія гістарычныя наступствы, у тым ліку канфлікты з усходнімі суседзямі ў навейшы час. Казімір III кардынальна змяніў не толькі граніцы дзяржавы, але і рэлігійна-этнічны вобраз краіны (праз інкарпарцыю праваслаўнай Паўднёва-Усходняй Русі з Львовам). Казіміру ўдалося таксама навязаць ленную залежнасць Мазовіі.

У 1335 г. адбылося першая сустрэча ў Вышаградзе каралёў Венгрыі, Чэхіі і Польшчы, з якой пачалося вядзенне свядомай палітыкі захавання міру паміж гэтымі дзяржавамі. Не выпадкова ў навейшы час гэтая сустрэча стала гістарычнай падставай для рэгіянальнага супрацоўніцтва праз арганізацыю Вышаградскай групы (1991г., сёння ў ёй удзельнічаюць чатыры краіны: Венгрыя, Польшча, Славакія, Чэхія). У арганізацыі супрацоўніцтва актыўна ўдзельнічаў Казімір, які на з'ездзе ў Кракаве ў 1364 г. граў галоўную ролю пасярэдніка ў канфліктах.

**Дзяржава Тэўтонскага ордэна** знаходзілася на ўздыме. Нягледзячы на крызісы і эпідэміі, 14 ст. – перыяд яе найвышэйшага росквіту. Набіралі сілу і размах ордэнскія выправы супраць ВКЛ з удзелам еўрапейскага рыцарства. Ідэя крыжовых паходаў супраць прыбалтыйскіх язычнікаў надалей прыцягвала шмат заходнееўрапейскіх феадалаў, даходы якіх з маёнткаў падалі з-за крызісу.

Працягвалася актыўная каланізацыя Прусіі (найперш нямецкая, што ў будучыні прывяло да германізацыі краіны). Калектыўны гаспадар краіны – браты-рыцары – старанна дбалі пра гаспадарку. Гарады ордэнскай дзяржавы ўдзельнічалі ў дзейнасці Ганзы. Вядомы польскі медыевіст Генрык Самсановіч зрабіў выснову: *"Прыцягненне людзей да працы, набыццё і перавозка прадуктаў, фармаванне канкурэнтных цэнаў дазвалялі падпарадкаваць краіну эканамічна, можа яшчэ больш паспяхова, чым палітычна. Гэты працэс, асабліва да трэцяй чвэрці 14 ст., даваў прыклад гаспадарчага падпарадкавання краіны праз спраўнае кіраванне вельмі нешматлікай пануючай групы"*[80]. Вяршыні магутнасці Тэўтонскі ордэн дасягнуў пад кіраваннем гросмайстра Вінрыха фон Кніпродэ (1351 – 1382 г.).

У Інфлянтах нямецкая каланізацыя не дасягнула такіх маштабаў як у Прусіі, магчыма, праз адсутнасць прамога злучэння з нямецкімі землямі па сушы. Марская дарога не магла забяспечыць масавага прытоку перасяленцаў. Таму на латышскіх і эстонскіх землях нямецкімі (ці анямечанымі) былі шляхта і мяшчанства, а на вёсцы дамінавалі мясцовыя сяляне.

* * *

**Залатая Арда** ў першай палове 14 ст. перажывала перыяд найбольшай у сваёй гісторыі палітычнай сілы і эканамічнага росквіту. Яе правіцелі, асабліва ханы Узбек і Джанібек, праводзілі паслядоўную палітыку горадабудаўніцтва, у выніку якой Залатая Арда перастала быць краінай адно стэпавых качэўнікаў. Па берагах Волгі і рэк яе басейна працягнуліся доўгія, у дзясяткі кіламетраў палосы аседлых земляў са шматлікімі вялікімі і малымі гарадамі. Самым вялікім з іх быў Сарай ал-Джэдзід (Новы), заснаваны Узбекам у пачатку 30-х г. 14 ст.[81] У 14 ст. адбывалася таксама збліжэнне двух сталіц

[79] Historia Europy Środkowo-Wschodniej. T. 1. S. 112.

[80] Samsonowicz H. Gospodarcza ekspansja zakonu krzyżackiego nad Bałtykiem w XIV i początku XV w. [w:] Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Materiały z konferencji historyków radzieckich i polskich w Toruniu z r. 1988. Toruń, 1990. S. 145, 148.

[81] Егоров В.Л. Историческая география Золотой Орды в XIII – XIV вв. С. 47, 77.

дзяржавы – горада Сарая як цэнтра рэлігійнага ды гаспадарчага жыцця і качавой стаўкі хана – арды – палітычнага цэнтра краіны. Сярод вярхоў мангольскага качавога грамадства пастуцова пашыраўся іслам, асабліва ад часоў кіравання хана Узбека (1312 – 1342 г.), тым не менш "... *качавы стэп у 14 ст. у цэлым заставаўся яшчэ вельмі павярхоўна закрануты мусульманствам*"[82].

Пагрозу свайму панаванню над землямі **Паўночна-Усходняй Русі** ардынскія ханы бачылі ў з'яўленні на іх моцнага аб'ядноўчага цэнтра. Таму, дзеля падтрымання ўласнай улады, надалей выкарыстоўвалі наяўныя і інспіравалі новыя супярэчнасці паміж мясцовымі княствамі. З сярэдзіны 14 ст. татары пачалі ўсё часцей ужываць новую тактыку. Яны падтрымлівалі антаганізмы паміж цэнтрамі аб'яднання, размешчанымі далёка адзін ад аднаго, захоўваючы паміж імі паласу "нейтральных" княстваў як арэну змагання між тымі цэнтрамі. На думку аўтара гэтай высновы, татары апасаліся, што барацьба блізкіх геаграфічна цэнтраў магла закончыцца поўнай перамогай і значным узмацненнем аднаго з іх. Адсюль не толькі перамяшчэнне ўвагі Арды з Цверы на Маскву, але і перанос сталіцы Суздальска-Ніжагародскага княства з Суздаля ў Ніжні Ноўгарад у 1350 г.[83]

## 1.3.1. Суседзі Літвы на рубяжы 40-х гадоў

Нечаканасцю апошняга года кіравання Гедыміна стаў выбух збройнага канфлікту за галіцка-валынскія землі, справакаваны гвалтоўнай смерцю тамтэйшага князя Юрыя-Баляслава. Палякі і венгры з налёту спрабавалі захапіць Галіччыну, але мясцовыя русіны адбіліся з дапамогай ліцвінаў і татараў. На Валыні ўмацаваў сваю ўладу Любарт Гедымінавіч, які, акрамя таго, здабыў уплыў і на Галіччыну. Агулам, у апошнія месяцы гаспадарання Гедыміна і ў пачатку княжання Яўнута міжнародная сітуацыя вакол ВКЛ выглядала даволі стабільнай.

Князі **Мазоўша** па-ранейшаму лавіравалі паміж мацнейшымі суседзямі, стаўленне іх да ВКЛ было пераважна варожым. Мазаўшане заўжды былі гатовыя пры нагодзе (змена ўлады ці ўнутраны канфлікт у ВКЛ) прыхапіць якую частку Падляшша, але без мацнейшых саюзнікаў (Польшчы ці Ордэна) шансаў замацаваць за сабой здабычу не мелі. Напэўна саюзныя адносіны мазаўшан з Польшчай сталі ў 1340 г. прычынай паходу на Мазоўша ліцвінаў пад кіраўніцтвам, верагодна, Кейстута.

У **Польшчы** Казімір III, купіўшы ад караля Чэхіі адмову (у 1335 г.) ад тытула польскага караля вялікай сумай і прызнаннем за Чэхіяй Сілезіі, планаваў далейшыя дзеянні. Атрымаўшы адпор на ўсходзе ў Галіччыне, пачаў спрабаваць іншыя накірункі пашырэння сваёй дзяржавы. Здавалася б найбольш лагічнай стратэгіяй было вяртанне "спадчыны Пястаў" – пашырэнне да межаў раннефеадальнай дзяржавы часоў Баляслава Храбрага. Але гэта азначала вострае сутыкненне з немцамі і чэхамі. Польшча была занадта слабая, каб весці экспансію ў некалькіх кірунках. Казімір III настойліва намацваў "лініі найменшага супраціву" – найбольш перспектыўныя напрамкі для павелічэння тэрыторыі дзяржавы.

**Ордэн** у Прусах па-ранейшаму быў пастаянна гатовы як да нападаў на Літву і Жамойць, так і да абароны ад ліцвінскіх паходаў. Па інфармацыі храніста, у 1340 г. прускі магістр загадаў збудаваць да Літвы тры дарогі з равамі, "*якімі зашкодзіў лёгкі доступ непрыяцелю і абцяжарыў яго адступленне*" (напэўна, тут гаворка пра ўнутраныя дарогі-ракады на пагранiччы, па якіх можна было хутка перакідваць войскі). Але адначасова "*як прадбачлівы муж*" магістар прапанаваў выслаць пасольства ў Германію: наймаць

[82] Федоров-Давыдов Г.А. Общественный строй Золотой Орды. Москва: Издательство Московского университета 1973. С. 107, 103.

[83] Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV – XV вв.). Москва: Наука, 1975. С. 51 – 52.

жаўнераў і запрашаць рыцараў-гасцей “*супраць ліцвінаў і русінаў для іх прыгнёту, каб, дарэчы, не так даваліся ў знакі прусакам*”[84]. У той год змяніўся магістр Інфлянцкага ордэна. На пасаду быў абраны Борхард Дрэйнлеўскі.

У **Залатой Ардзе** ў 1340 г. яшчэ два гады заставалася кіравацъ хану Узбеку (1312 – 1342 г.), які пільна сачыў за міжнароднымі справамі і вёў актыўную палітыку на падуладных рускіх землях. У 1340 г. ён выслаў войскі на дапамогу галіцкім баярам супраць палякаў і венграў. Выдаў вялікакняскі ярлык новаму маскоўскаму князю Сямёну Іванавічу, але ў наступным, 1341 г., паменшыў вялікае княжанне Уладзімірскае, вылучыўшы з яго асобнае Ніжагародскае княства.

У **Маскве** ў 1340 г. князем стаў сын Каліты і зяць Гедыміна Сямён Іванавіч (1340 – 1353 г.), які адразу накіраваўся ў Арду прасіць ярлык на вялікае княжанне Уладзімірскае. Гэты маскоўскі князь па мянушцы “Ганаровы” (Горды) паставіў своеасаблівы рэкорд па рэгулярнасці паездак да татарскіх ханаў: на працягу 13 гадоў кіравання быў у Ардзе шэсць разоў. Першы раз з'ездзіў удала і 1 кастрычніка 1340 г. ўрачыста “сеў” на вялікакняскім уладзімірскім стале[*][85].

[*]Адносіны паміж ханамі і князямі Уладзіміра-Суздальскай Русі (Расеяй) у першай палове 14 ст. заставаліся нязменнымі ад часоў мангола-татарскай заваёвы. Расейскія князі і летапісцы называлі ханаў “царамі” (“цэсарамі”) – як раней тытулавалі візантыйскіх імператараў. Верагодна, акрамя самога факту татарскай дамінацыі, сваю ролю ў гэтым пераносе тытула адыграў захоп Канстанцінопаля заходнімі крыжаносцамі (панавалі там ад 1304 да 1361 г.). Сюзэрэнітэт Арды над Паўночна-Усходняй Руссю мясцовымі князямі ўвогуле не аспрэчваўся да другой паловы 14 ст. Выпадкі супраціву татарам у будучай Расеі былі звязаныя з міжусобнай барацьбой князёў, калі нехта з іх уваходзіў у канфлікт з ханам з-за таго, што той падтрымліваў ягоных супернікаў.

Адносіны змяніліся толькі пасля пачатку ў Ардзе “замятні”, калі звычайнай справай стала наяўнасць двух (часам і больш) ханаў, а потым галоўную ўладу здабыў Мамай – асоба не прыналежная да “царскага” роду.

Паводле: Горский А.А. Москва и Орда. Москва: Наука, 2001. С. 87 – 89.

Ласка хана дорага каштавала, і Сямён Іванавіч як вялікі князь уладзімірскі ўвёў новы падатак у ноўгарадскай Новаторжскай воласці – “чорны бор” (збор з простых, “чорных”, людзей). Гэта выклікала абвастрэнне адносін з Вялікім Ноўгарадам. Пад канец 1340 г. у Бранску выбухнула паўстанне супраць мясцовага князя – маскоўскага стаўленіка, і той 6 снежня быў забіты. Маскве ўдалося збройнай сілай і з дапамогай мітрапаліта ўціхамірыць Вялікі Ноўгарад, але Бранск аддаліўся ад Масквы і вярнуўся ў залежнасць ад Смаленска, а праз яго – ад Літвы[86].

У першыя гады кіравання ў ВКЛ Яўнута сур'ёзных знешніх пагроз для дзяржавы не назіралася, а для ліквідацыі тых, што існавалі, хапала сілаў прыгранічных удзелаў князёў Гедымінавічаў. Аднак раней ці пазней павінна была з'явіцца і больш сур'ёзная небяспека, якая запатрабуе канцэнтрацыі сіл усёй дзяржавы. Такая пагроза ўзнікла ў 1344 г., калі заходняе рыцарства пачало падрыхтоўку вялікага крыжовага паходу на Літву.

[84] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842. S. 58 – 59.

[85] Горский А.А. Москва и Орда. Москва: Наука, 2001. С. 68 - 69.

[86] Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы (конец XIII – начало XV в.) // Средневековая Русь. Москва, 1996. Вып. 1. С. 81 – 85.

## 1.3.2. Пачатак змагання за галіцка-валынскую спадчыну (1340 – 1341 г.)

Працяглае (больш за поўстагоддзя) і зацятае змаганне за Галіччыну і Валынь[*] пачалося яшчэ пры жыцці Гедыміна, адразу пасля гвалтоўнай смерці апошняга галіцка-валынскага князя Юры-Баляслава ў 1340 г.

[*] **Асноўныя паваротныя моманты змагання за Галіцка-Валынскія землі**:

**1340** г. – адбітая спроба польскага караля Казіміра III захапіць Галіччыну.

**1349** г. – паход Казіміра III, заняцце амаль усёй Галіцка-Валынскай зямлі, за выключэннем усходняй часткі Валыні.

**1350** г. – ВКЛ зброяй вярнула большасць страчаных зямель; за Літвой замацавалася Валынь, за Польшчай засталася Галіччына (дамова 1352 г.).

**1366** г. – Польшча захапіла галоўныя гарады Валыні; паводле мірнай дамовы ў Любарта засталася Луцкая зямля і частка Уладзімірскай; Белзскую і Холмскую землі атрымаў у леннае ўладанне ад Польшчы Юры Нарымунтавіч; Уладзімірскую – на такім жа праве – Аляксандр Карыятавіч; воласці паўднёвай Валыні непасрэдна далучаныя да польскай Галіччыны.

**1370** г. – адразу пасля смерці Казіміра III ліцвіны здабылі Уладзімірскую, Бельзскую і Холмскую землі – ВКЛ вярнула амаль усе землі, страчаныя ў 1366 г.

**1377** г. – пасля смерці Альгерда кароль Венгрыі і Польшчы Людовік заваяваў Белз, Холм, Гародла. Уладзімірская і Луцкая землі засталіся пад уладай Любарта, які фармальна прызнаў верхавенства Людовіка. Пасля 1377 г. у Галіччыне ўведзеная венгерская адміністрацыя.

**1386**, **1387** г. – польскі кароль Ягайла забраў частку ўладанняў на Валыні ад Хведара Любартавіча.

**1387** г. – паход польскіх войскаў на Галіччыну, арганізаваны каралевай Ядзвігай. З дапамогай войскаў Вітаўта выдаленая венгерская адміністрацыя; Чырвоная Русь (Галіччына) інкарпараваная ў Польшчу.

**1392** г. – паводле Астроўскай дамовы паміж Ягайлам і Вітаўтам, Польшча заняла Галіцкую зямлю разам з часткай заходняй Валыні (Белзам і Холмам); Да ВКЛ адыходзілі Уладзімірская і Луцкая землі. Венгрыя захавала толькі прэтэнзіі, адлюстраваныя ў тытуле каралёў, якія, акрамя іншага, называліся галіцкімі і ўладзімірскімі.

Да новай істотнай змены сітуацыі дайшло толькі ў выніку Люблінскай уніі ў 1569 г.

* * *

Асноўная літаратура:

Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 3. До року 1340. Київ: Наукова думка, 1993.

Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. 14 – 16 віки – відносини політичні. Київ: Наукова думка, 1993.

Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за галицко-владимирское наследие. Санкт-Петербург: Типография В.С.Балашева, 1890.

Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. Киев: Наукова думка, 1987.

Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1: Trudne początki. Poznań: Wydawnictwo naukowe UAM, 1998.

Dąbrowski J. Ostatnie lata Ludwika Węgierskiego 1380 – 1382. Kraków, 1918.

Nikžentaitis A. Lietuvos ir Lenkijos santykiai 1340 – 1345 m. (Pietvakarių Rusios žemių prijungimo prie Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės laiko problema) [у:] Iš Lietuvos istorijos tyrinėjimų. Vilnius, 1991. P. 31–36.

Paszkiewicz H. Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925.

Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. Wrocław-Warszawa-Kraków: Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 2004.

Аказалася, што ў краіне, дзе з даўніх часоў моцныя палітычныя ўплывы мела буйное баярства, адзінай цэментуючай сілай была дынастыя князёў Раманавічаў, сярод якіх вылучаўся сын Рамана Даніла[87]. Амаль адразу пасля выгасання дынастыі, дзяржава пачала распадацца пад націскам суседзяў. Баярская арыстакратыя больш дбала пра захаванне асабістых уладанняў, чым дзяржавы. За валоданне вялікай і багатай краінай найбольш біліся паміж сабой бліжэйшыя суседзі – Літва і Польшча. Акрамя таго, на Галіччыну мела прэтэнзіі (і часова іх рэалізавала) саюзніца Польшчы – Венгрыя, ды яшчэ ў вайне брала ўдзел татарская Арда, якая, па выразу Міхайлы Грушэўскага, *"спрабавала стрымаць гэтую акупацыю ўкраінскіх земляў"*[88], г.зн. захаваць на іх свой, хоць і слабы, уплыў. Як напісаў адзін з першых даследчыкаў праблемы Іван Філевіч, *"...барацьба была крывавай і вымагала страшэннай напругі. Завяршылася яна нікім не прадбачанай выпадковасцю – шлюбам Ягайлы і Ядзвігі; але нават і пасля гэтага, яна, уласна, толькі змяніла свой характар: перастала быць крывавай, стала дыпламатычнай..."*[89].

Вайна праходзіла з пераменным поспехам, яна то выбухала, то прытухала на нейкі час, каб потым успыхнуць наноў. У выніку перамір'яў, мірных дамоваў ці нават польска-ліцвінскіх саюзаў супраць трэцяга боку ваенныя дзеянні перарываліся на гады, часам на дзесяцігоддзе. Сапернікі ўважліва сачылі адзін за адным, выбіралі для атакі зручны момант, такі як складанасці ў стане ворага, напрыклад, параза ВКЛ ад крыжакоў у 1348 г. ці паўза міжкаралеўя (так было пасля смерці Казіміра III у 1370 г., Альгерда (у 1377 г.), Людовіка Венгерскага (у 1382 г.). Беспераппынна, у асноўным дзеля прыцягнення саюзнікаў, вялася дыпламатычная барацьба. У 1392 г. праз Астроўскае пагадненне паміж Вітаўтам і Ягайлам сітуацыя стабілізавалася на даволі доўгі час - да Люблінскай уніі 1569 г.

***

Апошні галіцка-валынскі князь Юры-Баляслаў Трайдэнавіч, па бацьку мазаўшанін, па маці русін, заняў галіцка-валынскі трон у 1323 г. (ці то па выбару мясцовага баярства, ці ў выніку дамовы-кампрамісу паміж польскім і ліцвінскім манархамі – Лакеткам і Гедымінам). Баляслаў мусіў перахрысціцца ў праваслаўе (назваўся Юры, адсюль падвойнае імя), але ў душы заставаўся каталіком (шлюб з дачкой Гедыміна браў у касцёле, спрабаваў у дзяржаве пашыраць каталіцтва). Юры-Баляслаў не меў дзяцей. Ён не прыжыўся ў мясцовым грамадстве, наадварот, уступіў з ім у палітычна-рэлігійны

[87] *"Героем-творцам Галіцка-Валынскай дзяржавы быў, несумненна, Даніла Галіцкі,..."* Яковенко Н. Нарис історії середньовічної та ранньомодерної України. Київ: Критика, 2006. С. 103.

[88] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. 14 – 16 віки – відносини політичні. Київ: Наукова думка, 1993. С. 3.

[89] Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за галицко-владимирское наследие. Санкт-Петербург: Типография В.С.Балашева, 1890. С. 2.

канфлікт. Усе зацікаўленыя бакі яшчэ пры яго жыцці разумелі, што праблема ўлады ў Галіцка-Валынскім княстве раней ці пазней праявіцца зноў.

У 1331 г. Гедымін выдаў за Юры-Баляслава сваю дачку, а яшчэ раней (перад 1322 г.) ягоны сын Любарт пашлюбіў дачку аднаго з галіцка-валынскіх князёў. Паводле здагадкі-рэканструкцыі польскай гістарыяграфіі, у чэрвені 1338 г., падчас з'езду ў Вышаградзе была заключаная дамова паміж венгерскім і польскім каралямі Карлам-Робертам і Казімірам III наконт пераемнасці польскай кароны ў выпадку адсутнасці ў Казіміра нашчадкаў па мужчынскай лініі (як пазней і сталася). Казімір III згадзіўся прызнаць спадкаемцамі польскага трону сыноў ад шлюбу венгерскага караля і сваёй сястры Эльжбеты. Узамен Венгрыя абавязалася падтрымліваць польскую экспансію ў Галіцка-Валынскай Русі[90]. Гэтая рэканструкцыя абапіралася на вядомае гісторыкам пазнейшае развіццё падзей.

Нашмат менш верагоднай выглядае іншая здагадка, выказаная польскімі гісторыкамі навейшага часу, а менавіта, што Юры-Баляслаў зрабіў сваім спадкаемцам Казіміра III[91]. Гэтая версія і ў нашыя дні часам выступае як гістарычны факт[92], хоць не мае пацвярджэння ні ў дакументах, ні ў рэальным развіцці падзей. Зважаючы на штучнасць і заблытанасць версіі, паводле якой галіцка-валынскі князь нібыта перaказвае правы на сваю дзяржаву старэйшаму па ўзросту польскаму каралю з-за адсутнасці нашчадкаў-хлопцаў і адначасова той, па такой самай прычыне, перaказвае сваю дзяржаву каралю венгерскаму, відавочнай яе мэтай было прававое абгрунтаванне post factum польскай экспансіі ў Галіцка-Валынскай Русі. Як дадатковае ўскоснае пацвярджэнне гэтага, надта ж гіпатэтычнага, пагаднення называецца кроўнае сваяцтва Казіміра III і Юры-Баляслава (князь Конрад I Мазавецкі даводзіўся Казіміру прадзедам, а Юры-Баляславу - прапрадзедам).

Двойчы хрышчаны (спачатку ў каталіцтва, потым у праваслаўе) Юры-Баляслаў 7 красавіка 1340 г. быў атручаны мясцовымі праваслаўнымі баярамі. Паводле крыніц, прычына забойства – дэспатызм князя і ягоная палітыка спрыяння, нават насаджэння каталіцызму ў праваслаўнай краіне. Як коратка запісаў польскі храніст-каталік, русіны забілі Юры-Баляслава: *"бо намагаўся змяніць іх права і веру"*[93]. Атрута нібыта была такая моцная, што цела князя распалася на кавалкі. У краіне пачаўся пераслед ягоных прыхільнікаў-чужынцаў і ўвогуле каталікоў[94]. Пазней, калі польскі кароль Казімір III усё-такі захапіў Галіччыну, гэты вопыт несумненна паўплываў на ягоную рэлігійную палітыку, якая сталася больш асцярожнай.

Палітычная актыўнасць галіцкіх баяраў не была нейкай выпадковасцю, а толькі натуральным працягам шматвяковай мясцовай традыцыі супрацьстаяння баярства і княскай улады. Аднак баяры не ўяўлялі сваё жыццё без манарха і хоць не мелі магчымасці (юрыдычнай і палітычнай) высунуць яго са свайго асяроддзя (патрэбны быў прадстаўнік манаршага роду), то прынамсі маглі самастойна выбіраць сярод прэтэндэнтаў звонку. Выбар адназначна быў на карысць ліцвінскага князя Любарта (у хрышчэнні Дзмітрыя) Гедымінавіча, які як зяць аднаго з мясцовых князёў меў права на Галіцка-Валынскае княства "па кудзелі". Да таго ж гэты праваслаўны князь не выклікаў падазрэння, у адрозненне ад папярэдніка, што будзе навязваць краіне каталіцтва. На думку ўкраінскіх

[90] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. Wrocław-Warszawa-Kraków, 2004. S. 88-89.

[91] гл., напрыклад: Abraham W. Powstanie organizacji Kościoła łacińskiego na Rusi. Lwów, 1904. S. 215.

[92] Дыбковская А., Жарын М., Жарын Я. История Польши с древнейших времен да наших дней. Варшава: Научное издательство ПВН, 1995. С. 44; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich. T. 1: Trudne początki. Poznań: Wydawnictwo naukowe UAM, 1998. S. 150 – 151; Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. S. 441.

[93] Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej [w:] Kronika Jana z Czarnkowa. Kraków: Universitas, 2001. S. 17.

[94] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 3. До року 1340. Київ: Наукова думка, 1993. С. 138 – 139.

гісторыкаў, пасля смерці Юры-Баляслава баяры Валыні і Галіччыны запрасілі на дзяржаву Любарта-Дзмітрыя Гедымінавіча, які быў жанаты з мясцовай князёўнай. Верагодна, мясцовае баярства захавала сваю ўладу на Валыні, а Галіччынай нават афіцыйна кіраваў старэйшы (галоўны) баярын Дзмітро Дзедзька, які тытулаваўся, паводле граматы на лацінскай мове, "кіраўніком Рускай зямлі" (provisor seu capitaneus terre Russie)[95]. Законным галіцка-валынскім князем Любарта прызнала таксама татарская Арда (фармальны сюзерэн краіны). Яе ўладары – хан Узбек ды ягоныя наступнікі – падтрымлівалі Любарта ў барацьбе супраць іншых канкурэнтаў.

Але спачатку давялося адбівацца ад палякаў і венграў. Пра пачатак вайны захавалася мала інфармацыі, таму яе ход і вынікі рэканструююцца толькі прыблізна – па адрыўкавых звестках і вядомых наступствах. Адразу пасля смерці Юры-Баляслава польскі кароль Казімір III (каля 16 красавіка) правёў кароткі, прыблізна двухтыднёвы, паход на Галіччыну, а пазней, у тым самым годзе, арганізаваў другі паход, на гэты раз ужо з венгерскай падмогай[96]. Правіцель Галіччыны баярын Дзмітрый Дзедзька звярнуўся па дапамогу да свайго сюзерэна – Арды. Звесткі пра падрыхтоўку татарскага паходу ўстрывожылі караля Казіміра, пра што сведчыць ягоны ліст у ліпені 1340 г. да Папы Рымскага з просьбай аб дапамозе. Папа Бенедыкт XII адгукнуўся і даручыў польскім біскупам прапаведаваць крыжовы паход у падтрымку Казіміра III. Пра крыжовы паход больш нічога невядома, але татары выправіліся зімой 1340 г., іх войска пустошыла не толькі польскія, але і венгерскія землі. У паходзе ўдзельнічалі таксама ліцвіны, па ўсёй верагоднасці, дружына Любарта.

Паміж Казімірам III і Дзмітрам Дзедзькам была заключаная невядомага зместу дамова, якая суправаджалася прысягай аб яе датрыманні. Пра гэта сведчыць пазнейшая перапіска Казіміра з каталіцкім першасвятаром (1341 г.), дзе кароль прасіў вызваліць яго ад прысягі і папа Бенедыкт XII булай ад 31 чэрвеня 1341 г. даручыў зрабіць гэта кракаўскаму біскупу[97]. Верагодна, дамоўленасць датычылася ўмоў замірэння і фармальнага васалітэту Дзедзькі ад Казіміра, хоць у сваіх граматах Дзедзька выступаў як раўнапраўны партнёр польскага караля. У любым выпадку яна трымалася нядоўга. Маюцца звесткі, што нейкая дамова была заключана Дзедзькам і з венгерскім каралём. Адсюль выводзілася меркаванне, што Дзедзька вёў самастойную палітыку, "*прызнаючы сябе васалам адначасова трох суседніх уладароў – Любарта, Казіміра III і тагачаснага караля Венгрыі Людвіка Анжуйскага...*"[98].

Крыніцы зафіксавалі вынік першай вайны за галіцка-валынскую спадчыну. Яе выйгралі галіцкія баяры, якія ваявалі ў саюзе з Любартам і татарамі супраць палякаў і венграў[99]. Любарт Гедымінавіч стаў гаспадаром Валыні, Галіччынай надалей кіраваў баярын Дзедзька, "*прызнаючы сваім князем Любарта, а зверхнікам – татарскага хана*"[100]. Так працягвалася да 1344 г., калі памёр Дзедзька, пасля чага Любарт заняў Галіччыну. Польскі наступ на гэтую зямлю аднавіўся толькі ў 1349 г. Верагодна, каля 1345 г. Казіміру III удалося заняць ускраек Галіччыны: Саноцкую і Пярэмышльскую землі, што дало яму падставу тытулавацца "*панам і дзедзічам Русі*"[101].

[95] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 20; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. Киев: Наукова думка, 1987. С. 37. Імя і прозвішча баярына прымаем паводле Міхайлы Грушэўскага.

[96] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 90 - 91.

[97] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki.S. 93.

[98] Яковенко Н. Нарис історії середньовічної та ранньомодерної України. С. 107.

[99] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 38.

[100] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 28.

[101] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki.S. 94.

Войны з Польшчай за Галіцка-Валынскую Русь, якія рэгулярна ўзнаўляліся на працягу ўсяго кіравання дуумвіраў, мелі значны ўплыў на ўсю знешнюю палітыку ВКЛ. Яны адцягвалі сілы з іншых кірункаў, у прыватнасці, шмат часу і сіл забіралі ў Кейстута, бо гэта быў участак ягонай адказнасці. Альгерд таксама, хоць і апасродкавана, удзельнічаў у мясцовых справах, праводзіў дыпламатычныя акцыі, пасылаў войскі. Але той факт, што сам там ніколі не з'яўляўся і гатовы быў ахвяраваць мясцовымі землямі дзеля канцэнтрацыі сіл на іншых участках, дазваляе меркаваць, што галіцка-валынская спадчына не разглядалася ім як прыярытэт знешняй палітыкі.

# Глава 2. Станаўленне дуумвірату Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў (1341 – 1352 г.)

## 2.1. НЕПРЫСУТНЫ ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЯЎНУТ. 1341 – 1344 г.

Вайна за Галіччыну, як і іншыя падзеі ў міжнароднай палітыцы ВКЛ, праходзіла без удзелу новага вялікага князя літоўскага Яўнута Гедымінавіча. Ягонае нядоўгае гаспадаранне цяжка ахарактарызаваць інакш, чым "ніякае". І справа не ў адсутнасці інфармацыі гістарычных крыніц. Летапісы і хронікі занатавалі ў той самы час гучныя чыны ягоных братоў – удзельных князёў Альгерда, Любарта, Кейстута, а Яўнута або не заўважалі, або ўбачылі толькі тады, калі яго скідалі. Польскі гісторык 15 ст. Ян Длугаш напісаў: *"Альгерд, літоўскі князь, які прыйшоў пасля Гедыміна"*[102]. Маскоўскі Уваскрасенскі летапіс таксама паведаміў пра Альгерда як наступніка Гедыміна (*"Тое же зимы умре великій князь Литовьский Гедиманъ, и по немъ сѣде на великомь княженіи Литовскомъ сынъ его Олгердъ"*), аднак пры гэтым змясціў апісанне выдалення з Вільні Яўнута[103].

Прычыны з'яўлення Яўнута на віленскім стале выклікаюць роздум гісторыкаў і розныя меркаванні. Чаму на вялікакняскім пасадзе пасля Гедыміна сеў менавіта Яўнут[104], не самы старэйшы сын і з пэўнасцю, не самы заслужаны дзяржаўны муж сярод Гедымінавічаў? Гісторык 19 ст. Уладзімір Антановіч дапускаў нават, што пасля смерці Гедыміна ў Літве да 1345 г. увогуле не існавала вялікакняскай пасады[105]. Мацей Любаўскі, які спецыяльна аналізаваў палітычныя адносіны і пераемнасць вярхоўнай улады ў ВКЛ у 13 – 14 ст., прыйшоў да высновы, што *"Гедымін "осадилъ на великомъ княженіи" у Вільні аднаго з сярэдніх сыноў – Яўнута, да якога больш за ўсё быў прывязаны"*[106].

Паводле Генрыка Пашкевіча, Яўнут павінен быў рэгуляваць адносіны, захоўваць раўнавагу паміж братамі-язычнікамі, з аднаго боку, і братамі-хрысціянамі – з другога. Аднак меркаванне гісторыка пра канкурэнцыю язычніцкай і хрысціянскай груп Гедымінавічаў выглядае непераканаўчым[107], бо палітычны падзел Гедымінавічаў па лініі – хрысціянін-язычнік ні раней, ні пазней па крыніцах не прасочваецца. Г. Пашкевіч дапускаў, што на ўзвышэнне Яўнута маглі ўздзейнічаць іншыя фактары, напрыклад, уплывы жонкі Гедыміна, і спасылаецца пры гэтым на цьмяную згадку беларуска-літоўскага летапісу ("Хронікі Быхаўца") пра звяржэнне Яўнута адразу пасля смерці вялікай княгіні Еўны[108]. Нестандартную, але, здаецца, занадта смелую адгадку

---

[102] Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów polskich ksiąg dwanaście. Kraków, 1868. T. 3. Ks. 9, 10. S. 42.

[103] ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. Санкт-Петербург, 1856. С. 207, 209 – 210

[104] У летувіскай мове ёсць сугучныя гэтаму імю словы: jaunatvė – маладосць; jaunatis – маладзік; jaunas –малады, юны.

[105] Антонович В.Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти великого князя Ольгерда [у:] Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885. Т. 1. С. 78.

[106] Любавский М. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода в 14 и 15 вв. [в:] Издания Исторического общества при Императорском Московском университете. Рефераты, читанные в 1895 году. Москва. С. 7.

[107] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 358 – 359.

[108] Хроніка Быхаўца [у:] Беларускія летапісы і хронікі. Мн. "Беларускі кнігазбор", 1997. С. 93.

ўзвышэння Яўнута, прапанаваў Альвідас Нікжэнтайціс: Яўнут меў дачыненне да тайнай змовы супраць бацькі, якая нібыта закончылася атручваннем Гедыміна[109].

Яўнут меў палітычную падтрымку прынамсі аднаго з братоў – вядомага дзяржаўнага мужа Глеба-Нарымонта Гедымінавіча, які падчас перавароту 1345 г. таксама ратаваўся ўцёкамі. Пры Гедыміне Глеб-Нарымонт княжыў у Полацку, на прыгарадах (цэнтрах воласцяў) Вялікага Ноўгарада, а паводле тастаменту бацькі атрымаў Пінскае княства.

Межы ўладанняў Яўнута, а таксама Альгерда і Кейстута, можна прыблізна акрэсліць па звестках "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай", узяўшы пад увагу, што іх апісваў чалавек з другой паловы – канца 16 ст. Летапісец трымаўся рэалій свайго часу: уключаў у ВКЛ Жамойць і не залічваў Падляшша, згадваў пра мяжу з Масквой часоў Вітаўта. Аднак з-за трываласці традыцыйных межаў у сярэднявеччы і ў ранні новы час, апісанне можам агулам прыняць, унёсшы адпаведныя папраўкі. Яўнут, паводле летапісу, атрымаў ад бацькі "зверхнасць" над дзяржавай і братамі, але ўдзел – не самы вялікі. Акрамя Вільні – Ашмянскую, Вількамірскую і Браслаўскую землі. У той час Альгерд валодаў Крэўскім княствам, якое на ўсходзе злучалася з Віцебскім княствам – пасагам за яго жонкай. Мяжа між гэтымі ўдзеламі праходзіла па дняпроўскай Бярэзіне. Таксама даволі дакладна апісаны ўдзел Кейстута: Старыя Трокі з Гародняй, Коўнам, Упітай і Лідай[*]. З актаў 1358 г. (дата дакумента дыскутуецца) і 1366 г. мы ведаем таксама, што да ўладанняў Кейстута належала яшчэ Падляшша з Берасцейскай зямлёй.

[*] "**Олгердови Крево замок, которого ся панство ростягло ажь до Барчи реки ку всходу слонца идучои, а ижь мѣл Олгерд границу з княжатем русским витебским** (тут і далей выдзяленне мае – *А.К.*), бо понял у его дочку единачку именем Ювианию (Ганну – А.К.), по которой **мѣл в посагу все князство Витебское, которого князства панство ростягълося от рѣки Березины аж до рѣки Угри в Москвѣ** (по которой был потом Витолт, сыновец Олгердов, границу литовскую з Василием, великим князем московским, и его потомствы заложил, о чом будет нижей). **Кестутови Троки Старые зо всѣм князством Жомойтским, з Городном и Ковном, Упитом и Лидою, аж до Подляша при границѣ пруской идучие**; Кориатови Новгород князство з Волковыйском и Мстибоговом, которое князство тягло до Случи рѣки. Любарт зас же понял был в стан малженский у Володимера, князя володимерского и волынского, дочку мѣл часть с посагу на Волыню, а по смерти Володимѣра взял князство Володимѣрское все, Луцкое и Волынское; **Евнутови**, меншому сыну, в котором ся Гедимин найлѣпше от всѣх сынов кохал, по смерти своей всю зверхность Великого князства Литовского, Руского, Жомойтского над братиею злѣцил и записал, и **Вилню мѣсто, столицу Великого князства Литовского, з замками отдал, также Ошмянские, Волкомирские и Браславские отдал ему повѣты**."

ПСРЛ. Т. 32. С. 41.

**Каментар**. Паколькі тэкст пісаўся пасля Люблінскай уніі 1569 г., то да ўладанняў Кейстута не залічана Падляшша (яно паводле гэтай уніі адыйшло да Кароны); у назве дзяржавы ўжыта слова "Жамойцкае" (Жамойць увайшла ў склад ВКЛ у 1422 г.). Цікавая геаграфічна-адміністратыўная дэталь: у Наваградскае княства ўключаны Ваўкавыск і Мсцібогаў, а мяжа сягала да Случы.

У першыя гады пасля смерці Гедыміна палітычная сітуацыя ў краіне не змянялася. Пасмяротная воля вялікага гаспадара мела вагу. Кожны з сыноў Гедыміна пільнаваў

[109] Nikžentaitis A. Litwa i zakon krzyżacki w końcu XIII i w pierwszej połowie XIV w. (1283 – 1345) [w:] Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Materiały z konferencji historyków radzieckich i polskich w Toruniu z r. 1988. Toruń, 1990. S. 135 – 136.

свой удзел і бліжэйшыя дзяржаўныя межы: Альгерд – Паўночна-Усходнюю Русь (Пскоў, Вялікі Ноўгарад і Уладзімірскае Вялікае Княства), Кейстут – ордэнскі і мазавецка-польскі кірункі (разам з Любартам, які кіраваў на Валыні (рэальна) і ў Галіччыне (фармальна).

Пры Гедыміне краіна значна павялічыла сваю тэрыторыю, якую трэба было бараніць. Удзельныя князі нейкі час з гэтым спраўляліся, але так не магло працягвацца бясконца. Нарастала напруга ў супрацьстаянні з Ордэнам, Кейстуту было ўсё цяжэй яго стрымліваць, нават пры падтрымцы другога моцнага ўдзельнага князя – Альгерда. Грозную небяспеку неслі саюзы знешніх варожых сіл, як пастаянныя (маскоўска-татарскі, польска-венгерскі, польска-мазавецкі), так і часовыя (польска-ордэнскі, польска-татарскі, польска-чэшскі). Каб рэагаваць на знешнія пагрозы ды працягваць палітыку збірання ўсходнеславянскіх зямель, неабходна было адзінства дзяржавы, г.зн. моцная цэнтральная ўлада. Альгерд і Кейстут, разумелі гэта хіба лепш за Яўнута, бо яны яшчэ пры жыцці бацькі непасрэдна ўдзельнічалі ў знешняй палітыцы.

У 1343 г. (8 ліпеня) быў заключаны "вечны мір" паміж Тэўтонскім ордэнам і Польшчай у Калішы. Казімір III прызнаў правы Ордэна на Памор'е Хэльмінскую і Міхайлаўскую землі за кампенсацыю ў 10 тыс. фларэнаў (сума напалову меншая, чым прасіў) і вяртанне занятых раней крыжакамі Куяваў і Добжыньскай зямлі. Сярод іншага ён абавязаўся не падтрымліваць язычнікаў (гэта азначала – ліцвінаў, як паганцаў, так і праваслаўных) у змаганні супраць крыжакоў[110]. У лістападзе таго ж года былі ўрэгуляваныя пагранічныя спрэчкі паміж Ордэнам і мазавецкімі князямі[111]. Праз саступкі крыжакам Казімір III, дзеля актыўнасці на іншых кірунках, забяспечваў сабе тылы. На той час ён нацэліўся на Сілезію – леннае ўладанне Чэшскага каралеўства – густа заселеную (у тым ліку палякамі), загаспадараваную, з развітымі горнымі промысламі, багатую краіну, якая калісьці належала да раннефеадальнай польскай дзяржавы. Але Казімір не адмовіўся цалкам і ад сваіх планаў экспансіі ва ўсходнім кірунку, бо ў 1343 г. папрасіў і атрымаў ад Папы згоду на выкарыстанне царкоўнага падатку – дзесяціны, сабранай у яго дзяржаве за два гады, для змагання з ліцвінамі, русінамі і татарамі[112]. Тым не менш у падрыхтоўцы вайны з чэшскімі Люксембургамі за Сілезію Казімір III не толькі ўступіў у саюз з іх супернікамі ў Германіі - Віттэльзбахамі (асноўнае ўладанне – Баварыя), але і (каля 1344 г.) дамовіўся з ліцвінамі (па ўсёй верагоднасці, з Любартам) пра вайсковую падмогу. Любарт якраз у 1344 г. заняў Галіччыну пасля смерці яе "капітана" Дзмітра Дзедзька. З крыніц вядома, што ліцвіны ваявалі на баку Казіміра супраць чэхаў. Паводле беларуска-літоўскіх летапісаў, Казімір III спрабаваў таксама наладзіць дынастычны саюз з родам Гедыміна праз шлюб сваёй дачкі Кунігунды з унукам Гедыміна Канстанцінам Карыятавічам (сынам наваградскага князя Міхаіла-Карыята), які княжыў на Падоллі[*]. Гэтая спроба, якая мела месца ў 1344 г., не ўдалася, бо Канстанцін нібыта не захацеў прыняць каталіцтва[113].

[*] Падольская зямля ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным сэнсе склалася да сярэдзіны 14 ст. і займала прастору паміж Днястром, Дняпром, яго прытокам Россю і Чорным морам.

---

[110] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 76.

[111] Kowalczyk E. Topografia granicy mazowiecko-krzyżackiej w świetle ugody granicznej z listopada 1343 r. // KH. R. 99. 1992. Nr 1. S. 33 - 58.

[112] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 95.

[113] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 45.

У ёй выдзялялася заходняя частка – Малое Падолле, якая ўключала ваколіцы Камянца і Смотрыча, Чэрвонаграда, Скалы, Бакоты і даходзіла на ўсходзе, магчыма, да Паўднёвага Буга.

Паводле: Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. Киев: Наукова думка, 1987. С. 43.

Ліцвінская экспансія дасягнула суседняга з Галіччынай Падолля дзесьці ў першай палове 40-х г. Там уладкаваліся сыны навагрannadскага князя Міхаіла-Карыята Гедымінавіча. Мяркуецца, што ўладу Карыятавічаў у той час прызнала насельніцтва міжрэчча Днястра і сярэдняга цячэння Паўднёвага Буга, якое непасрэдна прымыкала да Галіцкай зямлі – уладанняў іх дзядзькі Любарта. Фармальны гаспадар тых земляў – Арда – у той час па розных прычынах (міжусобныя сваркі, войны ў Закаўказзі, "Чорная смерць") аслабіла сваю актыўнасць у гэтым накірунку[114]. Атрымаўся тыповы для сярэднявечча выпадак: мясцовае насельніцтва прызнала ўладу таго, хто мог яго абараніць, тым больш, што ліцвінскія князі Карыятавічы былі аднаверцамі – праваслаўнымі хрысціянамі.

## 2.1.1. Альгерд і Кейстут на межах

Да таго як браты сягнулі па вышэйшую ўладу, яны ўжо не адзін год вялі самастойную замежную палітыку, якую ўзгаднялі паміж сабой, і часта дзейнічалі супольна. Княжанне Альгерда ў Віцебску ацэньваецца як вельмі важны перыяд у гісторыі горада. У прыватнасці, дзякуючы Альгерду, Віцебск займеў мураваныя ўмацаванні[115]. Седзячы князем у Віцебску, Альгерд вёў агульнадзяржаўную палітыку ў Паўночна-Усходняй Русі: браў удзел у пскоўска-ноўгарадскіх справах, працягваў канфрантацыю з Маскоўскім княствам, пільнаваў і мацаваў ліцвінскі плацдарм у паўночнай Смаленшчыне.

У год пачатку гаспадарання Яўнута, Альгерд правёў паход на Мажайск, але горад узяць не ўдалося. У тым самым 1341 г. маскоўскі князь (ён жа вялікі князь уладзімірскі) Сямён Іванавіч ажаніў свайго малодшага брата Івана з бранскай князёўнай. Ягоны сюзерэн хан Узбек, каб не занадта ўзмацняць Маскву, выдзеліў з Вялікага Княства Уладзімірскага асобнае Ніжагародскае княства і перадаў яго суздальскаму князю. У канцы 1341 г. Узбек памёр, а ханам стаў ягоны сын Джанібек, які ліквідаваў у барацьбе за ўладу двух братоў: старэйшага за сябе і малодшага. У наступным (1342) годзе князь Сямён прыехаў у Арду і прасіў новага хана перадаць яму Ніжагародскае княства, але Джанібек адмовіў, пацвердзіў правы суздальскага князя і выдаў таму ніжагародскіх баяраў, якія падтрымалі Сямёна[116].

## Дапамога Пскову

У 1341 г. абвастрыўся пагранічны канфлікт паміж Псковам і інфлянцкімі немцамі. У 1342 г. пскавічы звярнуліся па дапамогу да Альгерда (не да вялікага князя літоўскага). Падобнае бывала і раней, калі пры Гедыміне яны пасылалі па падмогу не да гаспадара, а да ваяводы Давыда Гарадзенскага. Ноўгарадскі летапісец ацаніў гэта як чарговую здраду Вялікаму Ноўгараду і маскоўскаму (вялікаму уладзімірскаму) князю[*].

Пскоўскі летапіс, наадварот, паведамляе, што да Альгерда паслалі толькі пасля таго, як Вялікі Ноўгарад адмовіў у дапамозе[**].

[114] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 45, 46.
[115] Варонін В. Княжанне Альгерда ў Віцебску // Беларускі гістарычны часопіс. 2013. №7. С. 13.
[116] Горский А.А. Москва и Орда. С. 69 – 70.

[*] "Того же лѣта предашася плесковици Литвѣ, отвергъшеся Новаграда и великаго князя; приведоша собѣ из Литвы князя Олгерда, Гедиминова сына, с Литвою; а Олександра Всеволодица преже того выпровадили бяху. Олгердъ же повелѣ крестити сына своего, и наркоша имя ему въ святомъ крещении Андрѣи, и посади его въ Плесковѣ, а самъ поѣха в Литву."

Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. Москва-Ленинград, 1950. С. 355.

* * *

[**] "И псковичи начаша много кланятися Новугородоу, чтобы дали псковичемъ намѣстника и помочь; и новогородци не даше псковичемъ намѣстника ни помочи. А Немци тое зимы приехавше со всею силою, поставише Новыи городок на рѣке на Пивже, на Псковскои земли. И псковичи в то же время, коли Немци городокъ ставили, ехавше за Норову въ малѣ дроужине, взяша посад оу Роугодива. И по томъ псковичи, нагадавшеся, послаше пословѣ в Витебѣскъ къ князю Олигерду Гедиминовичю, Якова Домашинича, Есифа Лочковича, помочи прошати: братья наши новгородци нас поврьгли, не помогають намъ, помози намъ, господине, в се время."

Псковские летописи. Москва, 1955. Вып. 2. С. 93.

**Каментар**: Ноўгарадскі летапісец асуджае пскавічоў за тое, што яны прызвалі дапамогу з Літвы, і не згадвае пра ўдзел віцяблян. Прычыны асуджэння: палітычная – пскавічы адмежаваліся ад Вялікага Ноўгарада і выйшлі за межы палітычнай сістэмы Вялікага Княства Уладзімірскага; прычына рэлігійная – ліцвінскія князі часта былі язычнікамі. Пскоўскі летапіс падкрэслівае, што пасылалі ў праваслаўны Віцебск, і з Альгердам прыйшлі не толькі ліцвіны, але і віцябляне.

Альгерд разам з Кейстутам (Яўнут зноў адсутнічае) выступілі ў Пскоўскую зямлю з "ліцвінамі і віцяблянамі"[*]. Да генеральнай бітвы справа не дайшла (ліцвіны ад яе ўхіліліся), а ў адной з сутычак загінуў князь Любка – сын полацкага князя Воіна. Пскавічы апасаліся свавольства ліцвінскіх вояроў. Калі Альгерд загадаў сваім вярнуцца ў Пскоў, пскоўскія воі пайшлі следам, *"блюдучи своихъ домовъ и женъ и дѣтеи от Литвы"*, і ўвогуле былі расчараваныя дзеяннямі саюзнікаў (пры адыходзе ліцвінска-віцебская дружына добра патаптала палі і сенажаці). Яны намаўлялі Альгерда застацца ў іх і згадзіліся прыняць князем ягонага сына[117]. Апісанне гэтага гістарычнага эпізоду даволі дэталёвае, і ў ім бачаць галоўны аргумент на карысць язычніцкага веравызнання Альгерда[**]. Аднак справа з адносінамі Альгерда да рэлігіі выглядае не так проста, калі ўзяць пад увагу іншыя крыніцы, якія сведчаць пра праваслаўнае хрышчэнне яго дзеля шлюбу з віцебскай князёўнай (гл. раздзел "Рэлігійная палітыка").

[*] Князь же великии литовскии Олгирдъ, послоушавъ псковскихъ пословъ Якова, Иосифа, и, не останя пского (не оставя слова псковъскаго), послаша во Псковъ воеводу своего князя Юрга Витовтовича; а самъ Олигердъ, подоимя брата своего Кестоуита и моужъ своихъ литовскихъ и видблянъ, и приеха во Плесковъ в помочь псковичамъ, месяца июля въ 20, на память святого пророка Ильи, и приведе Олигердъ с собою сына своего Андрѣа, тако бо бяшеть имя емоу молитвенное, а еще бѣ не крещенъ.

[117] Псковские летописи. Москва, 1955. Вып. 2. С. 95, 96.

> [**](...) И по томъ псковичи много истомишася съ княземъ Олигордом (Олигердомъ), крестити его хотяще и на княжение его посадити въ Псковѣ; и князь Олигордъ отречеся креститися и княжениа псковъского; и крести сына своего Андрѣя въ святѣи Троице в соборнѣи церкви, и посадиша его псковичи на княжение оу святыа Троицы во Псковѣ надѣючися помочи от князя Олигорда.
>
> Псковские летописи. Вып. 2. С. 95, 96.

З апісання пскоўскага паходу 1342 г. вынікае, што саюз паміж Альгердам і Кейстутам існаваў яшчэ да дзяржаўнага перавароту ў 1345 г., магчыма, ужо ад смерці бацькі[118]. Альгерд адмовіўся ад пскоўскага пасаду, бо, верагодна, меў свае, узгодненыя з братам, планы ў ВКЛ. Хоць на той момант быў удзельным князем, але дзейнічаў у інтарэсах усёй дзяржавы і меў немалы аўтарытэт за межамі краіны: псковічы гатовыя былі прыняць князем не толькі самога Альгерда, але і ягонага сына. У хуткім часе, аднак, князь Андрэй пакінуў Пскоў, калі там пачалася эпідэмія: "*Тогда князь Андрѣи Олгердович поеха изо Пскова в Литвоу къ отцю своему*"[119].

У 1342 (ці ў 1343 г.) браты правялі чарговы сумесны паход, на гэты раз у Інфлянты. Ліцвінскае войска ўвайшло ў варожую краіну трымя аддзеламі, якія тры дні пустошылі розныя мясцовасці, забіралі ў палон жанчын і дзяцей. Ордэнскі храніст пры апісанні гэтага паходу на першым месцы называе Кейстута ("*Кейстут са сваім братам Альгердам*"), аднак паведамляе таксама, што войска вёў нейкі дасведчаны баярын (bayorum)[120]. Вялікі князь Яўнут зноў непрысутны. Напэўна, гэты паход быў звязаны з вызвольным эстонскім паўстаннем супраць немцаў і датчанаў у 1343 – 1345 г. Данія тады рыхтавалася перадаць Эстонію Інфлянцкаму ордэну (на востраве Саарэма ўжо стаяла крыжацкая залога з войтам). Паўстанне эстонцаў стала адным з буйнейшых у гісторыі крыжацкай заваёвы Прыбалтыкі і ахапіла як кантынентальную частку краіны – Рэвельскую акругу (Рэвель – сучасны Талін), так і востраў Эзэль (Саарэма)[121]. Галоўнай прычынай эстонскага гневу былі дрэнныя паводзіны інфлянцкіх крыжакоў, на што звярнуў увагу нават ордэнскі храніст з Прусаў[*].

> [*] "Такая іх была гвалтоўнасць (кавалераў меча), што зводзілі іх жонак, псавалі дзяўчат, забіралі маёмасць і абыходзіліся з імі як з нявольнікамі." Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842. S. 64 – 65.

Інфлянцкі ордэн мусіў напружыць усе сілы, каб перамагчы паўстанцаў, і змог гэта зрабіць толькі з дапамогай прускай філіі[122].

Праз некалькі месяцаў пасля падпісання "вечнага" міру Польшчы з Ордэнам, мазавецкія князі (саюзнікі Польшчы) таксама ўрэгулявалі адносіны з крыжакамі. 8 лістапада 1343 г. была заключана пагранічная мазавецка-ордэнская дамова. Мяжа ўстанаўлівалася ад Каменнага броду на рацэ Элк да ўпадзення яе ў Бебжу і да самых вытокаў апошняй. Тая

[118] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 370.

[119] Псковские летописи. Вып. 2. С. 25.

[120] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 66 – 67.

[121] Manteuffel G. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. Kraków: Universitas, 2007. S. 39 – 40.

[122] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 71; Ливонская хроника Германа Вартберга // Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Е. В. Чешихин-Ветринский. Рига, 1879. Т. 2. С. 103 – 105.

акалічнасць, што мяжа была занадта блізка ад Гародні (каля 20 км) і акрэслівалася без удзелу ВКЛ, дало падставу ацаніць дамоўленасць пра гэты ўчастак мяжы як дэкларацыю аб намерах[123]. Пакольні рэальна гэтую тэрыторыю кантралявала ВКЛ, мазавецка-крыжацкая дамова мела выразную антыліцвінскую скіраванасць.

Дзяржаве Тэўтонскага ордэна мірны трактат 1343 г. з польскім каралём развязваў рукі ў вайне з Літвой. У той год прускі магістар і рыцар-госць граф Галандыі Вільгельм павялі войскі на Літву, але праз два дні пустошэння варожай тэрыторыі былі змушаныя вярнуцца ў Прусію (з-за разліву вады ад расталага снегу). Храніст паведамляе таксама, што паводле загаду магістра быў перанесены ў лепшае месца замак Баербург (названы ў гонар Баварыі па просьбе баварскага герцага). Спачатку спалілі ранейшы, потым у іншым месцы паставілі новы [124].

У апошні год "незаўважанага" гаспадарання Яўнута адбыліся некалькі важных міжнародных падзей. Валынскі князь Любарт Гедымінавіч (пасля смерці "капітана" Галіччыны Дзмітра Дзедзька) далучыў гэтую зямлю да сваіх уладанняў. Польскі кароль, які на той час рыхтаваўся да вайны з Чэхіяй за Сілезію, не выказаў варожай рэакцыі, бо быў зацікаўлены ў саюзе з ліцвінамі супраць чэхаў. Дамова была дасягнутая каля 1344 г., а пра саюз Казіміра III з ліцвінамі "супраць хрысціян" згадвае була Папы Клімента VI ад 18 кастрычніка 1345 г.[125] Мірную палітыку адносна Літвы Казімір III працягваў яшчэ каля пяці гадоў[126].

Ва ўсіх гэтых, даволі бурлівых, падзеях, непасрэдна звязаных з гісторыяй ВКЛ, не ўдзельнічаў тагачасны гаспадар – вялікі літоўскі князь Яўнут Гедымінавіч.

## 2.2. ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕРАВАРОТ КАНЦА 1344 г. І ПЕРШЫЯ ПОСПЕХІ ДУУМВІРАЎ

Замах стану, а менавіта выдаленне з вялікакняскага пасада Яўнута, адбыўся ў канцы 1344 г.,[127] таму пачатак кіравання дуумвіраў адлічваецца ад 1345 г. Яго прыспешыла знешняя пагроза, якая ўсё больш нарастала: падрыхтоўка вялікага крыжовага паходу супраць Літвы (рыхтаваўся доўга і старанна, і ў Літве пра яго, несумненна, ведалі)[128]. Сігналам да выступу стаў непланаваны выпадак – смерць вялікай княгіні Еўны, маці Яўнута. Ускосна гэта пацвярджаецца імклівасцю дзеянняў Кейстута, які нават не дачакаўся падыходу Альгерда. Беларуска-літоўскі летапіс інфармуе пра гэта, як пра справу, якая не патрабуе большых тлумачэнняў: "*Але князю вялікаму Альгерду, іх старэйшаму брату, і князю вялікаму Кейстуту не спадабалася, што Яўнут княжыць у Вільні і ў княстве Літоўскім, **бо княгіня Еўна памерла***" (выдзяленне маё – А.К.)[129]. Кейстут выкарыстаў сітуацыю, – паімчаў на Вільню і рэалізаваў замах сваімі сіламі.

Найбольш дэталёва дзяржаўны пераварот апісваюць беларуска-літоўскія летапісы. Калі дружына Кейстута ўвайшла ў Вільню, Яўнут, заспеты знянацку, уцякаў, хаваўся ў Тур'іх гарах, памарозіўся ўночы, быў затрыманы і пасаджаны пад варту. Вялікае

---

[123] Ліцкевіч А. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове 13 – 14 ст.: назва і межы [у:] Гарадзенскі палімпсест 2012. Людзі даўняй Гародні. 15 – 20 ст. Гродна, 2013. С. 13; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich… T. 1. S. 93 – 94.

[124] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 62 – 65.

[125] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich … T. 1. S. 152.

[126] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Historia 26. Toruń, 1992. S. 62.

[127] Nikžentaitis A. Litwa i zakon krzyżacki w końcu XIII i w pierwszej połowie XIV w. (1283 – 1345). S. 136.

[128] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 372 – 373; Nikžentaitis A. Litwa i zakon krzyżacki w końcu XIII i w pierwszej połowie XIV w. (1283 – 1345). S. 136.

[129] Хроніка Быхаўца. С. 93.

княжанне Кейстут прапанаваў Альгерду, які прыбыў неўзабаве [*]. Пазней Вітаўт Кейстутавіч распавядаў кіраўніцтву Тэўтонскага ордэна, што бацька, хоць зрабіў справу сам і меў уласных сыноў, але аддаў пасад у Вільні Альгерду як старэйшаму брату[130].

[*] "Kniaziu Jewnutiu panuiuczy na Wilni y na Welikom kniastwe Litowskom i kniaziu welikomu Olgierdu, starszomu bratu ich, y kniaziu welikomu Kieystutiu ne spodobałosia im na Wilni y na kniastwe Litowskom dla nekotorych pryczyn, bo kniahinia Jewna umerła. || Y ne chotiaczy toho, sztoby on na tom mestcy starszym sedeł, y zmyslili meży soboiu y kniaź weliki Olgierd, y kniaź weliki Keystutej, kali by brata swoieho, kniazia welikoho Jewnutia z Wilna y z welikaho kniastwa wyhnaty, a meży nich by odnomu na hospodarstwe sesty. Y zmowiwszy meży soboiu rok wczynili, kotoroho by dnia pryhnawszy Wilniu horod zaseli pod bratom, welkim kniazem Jewnutiem. Y kniaź weliki Olgierd k Wilni z Witebska ne pospieł k tomu roku, a kniaź weliki Kestutey, skoro prybehszy k Wilni, horod Wilniu zaseł. Y kniaź weliki Jewnutey, posłyszawszy to, wbieh w Turyi hory y tam w noczy (*в других летописях и у Стрыйковского* в ноги) oziab, y nemszy ieho prywezli ko bratu ieho, kniaziu welikomu Kestutiu. Y on, żduczy brata swoieho starszoho, welikoho kniazia Olgierda, posław honca powiedaiuczy, szto Wilniu zaseł, a brata, kniazia welikoho Jewnutia, poymał. Y stretył ieho honec u Krewi, y kniaź weliki Olgird pospieszyłsia woskory, y pryiechał ko bratu swoiemu welikomu kniaziu Kestutiu. Y kniaź weliki Kestutey rek bratu swoiemu, welikomu kniaziu Olgierdu: „Tobi hodytsia byty welikim kniazem u Wilni, ty nam starszy brat, a ja z toboiu za odno żywu". || Y posadył ieho na welikom kniażenij u Wilni, a Jewnutiu dali Zesławly. A dokonczaiut meży soboiu, szto wsey bratij byty posłuszno welikoho kniazia Olgierda, a wołosty y seła meży soboiu rozdelili, y nadto meży soboiu wmowiat: szto sobie prydobudut, horodow ili wołostey, to im delity napołu, y byty im do żywota u welikoy prawde y lubwi braterskoy. Y na tom meży sebe y prysiahu wczynili, szto im sobe na obe storony licha ne myslit': tak że byli i do żywota swoieho w toy prawde."

ПСРЛ. Москва, 1975. Т. 32. С. 138 – 139.

Яўнут нейкі час заставаўся вязнем Кейстута. З летапісаў Паўночна-Усходняй Русі вядома, што ён ўцёк з-пад варты (*"пералез праз сцяну"*), накіраваўся на ўсход і дабраўся да Масквы, дзе ў верасні 1345 г. прыняў праваслаўе пад імем Іван[*]. Падчас замаху пакінуў Вільню і Нарымонт Гедымінавіч, які накіраваўся ў Арду (там ён ажаніўся з сястрой хана).

[*] "Того же лѣта створися 14 в Литвѣ замятня велика: изгони город Вилно Алгердъ с братом Кестутиемъ, и князь великыи Евнутии перевержеся чресь стѣну и бѣжа въ Смолнескъ, а Наримонтъ бѣжа в Орду къ цесарю. Прибѣжа князь Евнутии въ Смолнескъ, побывъ ту мало, и поиха к великому князю Семеону на Москву, и ту его крести князь Семеонъ въ имя Отца и Сына и святого Духа, и наречено бысть имя ему Иоанъ."

Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 359.

***

"Тогожъ лѣта князь великии Литовскии Олгердъ Гедимановичь с братомъ своимъ Кестутиемъ Гедимановичемъ приидоша безвѣстно изгономъ на старѣишаго своего брата Нариманта Гедимановича, и на брата своего Евнутия Гедимановича ко граду к Вильне.

130 Scriptores rerum Prussicarum. Leipcig, 1863. Bd. 2. S. 712.

И устрашась людие во граде, и бежа из града князь Наримантъ Гедимановичь во Орду ко царю Чанибѣку Озбякову сыну, а другии братъ его Евнутеи Гедимановичь бежа ко Пскову и оттуда в Новъгородъ, и оттуда к Москвѣ к великому князю Семену Івановичю; и ту на Москвѣ крещенъ бысть, и нареченъ бысть восвятѣмъ крещении Иванъ."

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 182.

**Каментар**: Ноўгарадскі летапісец, не ўдаючыся ў дэталі, называе замах справай не аднаго Кейстута, а абодвух братоў. У Ніканаўскім летапісе паведамляецца, што Яўнут дабіраўся ў Маскву праз Вялікі Ноўгарад, але ноўгарадскі летапісец больш дакладны: Яўнут спачатку з'явіўся ў Смаленску і пасля нядоўгай затрымкі накіраваўся ў Маскву. Смаленск быў залежны ад ВКЛ і не мог прыняць такога важнага палітычнага ўцекача.

Уцекачы накіраваліся ў аддаленыя і непрыязныя да Літвы краіны, адкуль ім не пагражала выдача. Ніводзін не пайшоў у бліжэйшую па адлегласці Ордэнскую дзяржаву. Відавочна, у той час эміграцыя князя Гедымінавіча на тэрыторыю адвечнага смяротнага ворага Літвы ўспрымалася адназначна як здрада. У хаўрусніка крыжакоў не было шансаў на палітычную падтрымку ў Літве. Мусілі прайсці дзесяцігоддзі, каб ліцвінскія князі набылі вопыт хаця б кароткатэрміновых паразуменняў з Ордэнам супраць агульных знешніх ворагаў (як Кейстут супраць Польшчы і Мазовіі) ці супраць супернікаў у ВКЛ (Ягайла супраць Кейстута, потым Вітаўт супраць Ягайлы).

Беларуска-літоўскія летапісы інфармуюць пра шчаслівае заканчэнне канфлікту: Яўнут і Нарымонт памірыліся з дуумвірамі і вярнуліся на радзіму; Яўнут атрымаў ад братоў у валоданне Заслаўе, а Нарымонт – свой Пінск.

"Бунт" Альгерда і Кейстута супраць роднага брата не быў нечым незвычайным у тагачаснай Еўропе. Важна, што нязгода сярод братоў Гедымінавічаў не давяла да братазабойства. Альгерд з Кейстутам стварылі добры прэцэдэнт: не пазбавілі жыцця прадстаўніка дынастычнага роду. Пазней Гедымінавічы таксама не раз жорстка змагаліся між сабой за ўладу, але да забойстваў, прынамсі яўных, справу не даводзілі. Выключэннем была гвалтоўная смерць Кейстута Гедымінавіча ў ягайлавай вязніцы.

## 2.2.1. Асобы дуумвіраў

Паводле вядомых крыніц немагчыма дакладна вызначыць даты нараджэння Альгерда і Кейстута. Даследчыкі, спрабуючы акрэсліць час і чарговасць з'яўлення на свет дзяцей Гедыміна, з апорай на адныя і тыя ж крыніцы, прапаноўвалі розныя варыянты, выказвалі дапушчэнні, потым новыя дапушчэнні, заснаваныя на ранейшых, што прыводзіла да блытаніны. Напрыклад, у Яна Тэнгоўскага Яўнут спачатку выступаў як старэйшы брат Альгерда і Кейстута, потым - як малодшы за Альгерда, але старэйшы за Кейстута[131]. Як правіла, аднак, Альгерд у літаратуры прызнаецца старэйшым братам Кейстута. Да гэтай пары актуальнай у сучаснай гістарыяграфіі застаецца праца 19 ст. "Род Гедыміна" Юзэфа Вольфа[132].

У нас ёсць прыблізная дата першага шлюбу Альгерда – 1318 г., г.зн. на той час ён меў, прынамсі, каля 15 гадоў. Верагодна, Альгерд прыйшоў на гэты свет блізка рубяжа 13 і 14 ст., а Кейстут – на некалькі гадоў пазней. Паводле разлікаў спецыяліста па генеалогіі Гедымінавічаў Яна Тэнгоўскага, Альгерд нарадзіўся каля 1303 – 1305 г а Кей-

[131] Tęgowski J. Chronologia urodzeń dzieci Giedymina // Genealogia. 1995. nr 5. S. 147 – 148; ён жа. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań – Wrocław: Wydawnictwo Historyczne, 1999. S. 19.

[132] Wolf J. Ród Gedymina. Kraków, 1886.

стут – каля 1308 – 1310 г.[133] Мы ведаем, што дзеці дуумвіраў вызначаліся добрым здароўем і даўгалеццем. Вітаўт Кейстутавіч памёр ва ўзросце каля 80 гадоў і да апошняга ездзіў вершкі, Ягайла Альгердавіч пражыў даўжэй і меў дзяцей на восьмым дзясятку гадоў жыцця. Іх бацькі таксама доўга жылі і былі фізічна спраўнымі, у прыватнасці, Кейстут ва ўзросце больш за 50 гадоў вытрымаў цяжкія фізічныя выпрабаванні падчас уцёкаў з крыжацкага палону. Увогуле сярэднюю працягласць жыцця ў сярэднявеччы даследчыкі вызначаюць меншай за 30 гадоў. Галоўныя чыннікі – высокая дзіцячая смяротнасць і недахоп харчавання. Людзі сярэднявечча былі ў пераважнай большасці худымі і малымі, што сёння заўважаюць нават звычайныя наведвальнікі музеяў па памерах рыцарскіх даспехаў. У князёў не было такіх праблемаў з прадуктамі, як у паспалітых людзей, і калі яны перажывалі дзіцячы ўзрост і не гінулі ў бітве, то, дзякуючы добраму харчаванню і рыцарскай загартоўцы, жылі, як правіла, доўга.

Альгерд быў двойчы жанаты і кожны раз з русінскімі князёўнамі. Першы шлюб з дачкой віцебскага князя Ганнай прынёс Альгерду, акрамя Віцебскага княства ў пасагу, сямёра дзяцей, прынамсі, столькі іх налічылі даследчыкі па ўзгадках у крыніцах. Пасля смерці Ганны (не пазней 1349 г.) Альгерд другі раз ажаніўся з роднай сястрой трэцяй жонкі (Марыі) маскоўскага князя Сямёна – цверскай князёўнай Уллянай Аляксандраўнай (памерла ў статусе віцебскай княгіні вясной 1392 г.)[134]. У гэтым шлюбе нарадзілася, прынамсі, пятнаццаць дзетак[*].

[*] Адзін з варыянтаў рэканструкцыі чарговасці з'яўлення на свет дзяцей Альгерда: "*Чарговасць народзінаў дзяцей Альгерда з першага шлюбу наступная: Хведар, Андрэй, невядомы (загінуў у 1352 г.), Дзмітры, Уладзімір, невядомая (жонка Івана Навасільскага), Агрыпіна.*"

Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań – Wrocław: Wydawnictwo Historyczne, 1999. S. 53.

"*У шлюбе Альгерда з Уллянай Цвярской нарадзілася прынамсі пятнаццаць дзяцей у наступным парадку: 1. Кенна, 2. Еўфрасіння, 3. Скіргайла, 4. Карыбут, 5. Хвядора, 6. Лінгвен, 7. Алена, 8. Ягайла, 9. Марыя, 10. Карыгайла, 11. Аляксандра, 12. Кацярына, 13. Вігунт, 14. Свідрыгайла, 15 Ядзвіга.*"

Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 56.

Пра шлюб Кейстута захавалася легенда, запісаная ў беларуска-літоўскіх летапісах. Князю спадабалася дзяўчына-жрыца "*… імем Бірута, якая багам сваім, паводле звычаю паганскага, паабяцала дзявоцтва захоўваць, і саму яе людзі лічылі за багіню*"[135]. Нягледзячы на тое, што дзяўчына яму адмовіла, Кейстут узяў яе ў жонкі сілаю. На вяселле сабраліся ягоныя браты. Паколькі сярод гасцей не было бацькі Кейстута, мяркуецца, што шлюб адбыўся пасля смерці Гедыміна, г.зн. сама раней ў 1342 г.[136] З эпізоду гвалту над язычніцкай жрыцай можна меркаваць, што тагачасныя князі адносіліся да сваёй рэлігіі і яе служак без залішняга піетэту.

Кейстут з Бірутай мелі прынамсі дзевяцёра дзяцей (зноў жа, падлікі паводле згадак у крыніцах могуць розніцца)[*].

[133] Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 19.
[134] Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 55, 57.
[135] Хроніка Быхаўца. С. 93.
[136] Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 197.

[*] *"Шлюб Кейстута з Бірутай прынёс шматлікае патомства, якое пачало з'яўляцца ад сярэдзіны саракавых гадоў 14 ст.: Войдат, Бутаўд, невядомая дачка, Вітаўт, Таўцівіл, Данута-Ганна, Міклоўса-Марыя, Жыгімонт, Рынгала-Ганна."*

Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 200.

Дзякуючы ордэнскім крыніцам, менавіта, развітай культуры пісьма (складанне актаў, вядзенне запісаў і пісьмовых справаздач) мы маем некаторае ўяўленне пра асобы дуумвіраў. Апісанне знешнасці і некаторых рысаў характару Альгерда апублікаваў гісторык-аматар 19 ст. Тэадор Нарбут, які спасылаецца[137] на копію справаздачы ордэнскіх паслоў з архіва ў Караляўцы, датаванай 1357 г.: *"Мáе велічную паставу, ружовую скуру, твар даўгаваты, нос выступаючы, вочы блакітныя, вельмі выразныя, бровы густыя, светлыя, барада доўгая светла-русая, трохі сівая, як і валасы на галаве, спераду выпаўшыя, высокі лоб. Росту вышэй сярэдняга, а ні занадта худы, а ні тоўсты. Гаворыць голасна, выразна, прыемным для слыху голасам. Выдатна ездзіць верхам, але калі ходзіць, кульгае на правую нагу. Таму звычайна абапіраецца на кій, або на плячук зброяносца. Добра разумее нашу мову і можа гаварыць па-нямецку, але заўсёды пры размовах з нашымі мае пры сабе перакладчыка."*[138]

Захавалася каштоўнае ў гістарычным сэнсе і цікавае ў сэнсе псіхалагічным апісанне знешнасці Кейстута Гедымінавіча ў крыжацкім палоне ў 1361 г. Яго прывезлі ў Мальбарк, што, несумненна, выклікала там усеагульнае ўзбуджэнне. Гэта бачна па эмацыйнасці аповеду аўтара апісання, адсутнасці хоць бы намёку на пагарду хрысціяніна да язычніка, ці пераможцы да пакананага ворага – адно страх і павага: *"Кейстут быў высокі, статны, прамяністыя вочы гарэлі на бледным твары, доўгія валасы пакрывалі яго галаву, сівая барада спадала на грудзі. Скупыя былі яго вусны, але кожнае слова шмат значыла. Калі ён пагражаў, то на ілбе ўздуваліся вены. Увесь выгляд яго будзіў страх."*[139]

Беларуска-літоўскія летапісы паведамляюць пра рэлігійную талерантнасць Альгерда[140]. Ён, як і брат, заставаўся язычнікам, але, па ўсёй верагоднасці, прайшоў абрад хрышчэння ў праваслаўе (гл. раздзел "Рэлігійная палітыка"). Маецца звестка, што Кейстут, прынамсі ў афіцыйных сітуацыях, паслугоўваўся старабеларускай мовай (гл. раздзел "Венгерская спроба хрышчэння і прысяга Кейстута").

Ацэнкі братоў-дуумвіраў як дзяржаўных дзеячаў паходзяць з тых краін, з якімі яны мелі найбольш дачынення ў знешняй палітыцы. Характарыстыку асобы Альгерда прыводзяць летапісы Паўночна-Усходняй Русі (Ноўгарадскі, Уваскрасенскі, Ніканаўскі). Хоць па адным з запісаў можна меркаваць, што Альгерд заставаўся язычнікам (ужываюцца эпітэты "злаверны, бязбожны"), агульная характарыстыка гаспадара выглядае станоўчай, а стылю ягонага жыцця не пасаромеўся б і пабожны хрысціянін[*].

---

[137] Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. T. VII. Dodatki. Wilno, 1840. S. 168.

[138] Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. T. V. Wilno, 1839. S. 236.

[139] Kotzebue A. Preußens ältere Geschichte. Hamburg, 1811. B. 2. S. 197.

[140] ПСРЛ. Т. 32. С. 139.

[*] "Сеи же Олгердъ премудръ бѣ зело, и многими языки глаголаше, и превзыде властию и сановъ паче всѣх; і воздержание имяше велие, отъ всѣхъ плищеи суетныхъ отвращашеся, потѣхи и играния и протчихъ таковыхъ не внимаше, но прилежаше о державе своей всегда день и нощъ; и пиянство отвращашеся, вина и пива и меда и всякого пития пиянственнаго непияше; отнюдъ бо ненавидяще пиянства, і велико воздержание имяше во всемъ: и от сего великъ разумъ и смыслъ приобрете, и крепку думу стяжа, и таковымъ коварствомъ многи земли и страны повоева, и грады и княжения поималъ за себя, и удержа власть велию; и умножись княжение его паче всѣхъ, ниже отецъ его, ниже дѣдъ его таковъ бысть."

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3 до 1362 г. С. 174.

* * *

"Умре в Литвѣ князь Олгердъ Гедиминовичь, зловѣрныи, безбожныи, лстивыи; и сѣде по немъ сынъ его Ягаило на великомъ княженіи, обладаа всею землею Литовскою. Сеи Олгердъ не единъ оу своего отца бѣаше, но иніи мнози; прочья братья его бѣахоу, сынове Гедиминови: Наримонтъ, Олгердъ, Евноутіи, Кестутии, Кориядъ, Любортъ, Монтивитъ. Въ всеи же братьи своеи Олгердъ превзыде властію и саномъ, понеже пива и меду, ни вина, ні кваса кусла не пьяше, и великооумьство и воздържаніе собѣ приобрѣте, крѣпку думоу и могъ промыслъ притяжавъ, и таковымъ коваръствомъ многы страны и земли повоева, многы грады и княженіе за себѣ поималъ, и оудръжа себѣ власть великоу; тѣм и оумножишася княженіе его, яко же ні единъ отъ братья его сътвори, нъ ні отецъ его, ні дѣдъ его тако прослылъ."

ПСРЛ. Т. 4: Новгородская четвертая летопись. Петроград, 1915. С. 305 – 306.

Браты асабіста вадзілі войскі ў паходы, пры сумесных выправах камандаваў той, хто лепш ведаў мясцовую сітуацыю: Кейстут – у Прусіі, Альгерд – на рускіх землях. Летапісцы звяртаюць увагу на дасканалую тактычную арганізацыю Альгердам ваенных паходаў, калі ніхто з удзельнікаў, у тым ліку ваяводы, не ведалі мэты выправы[*]. У тыя часы нечаканасць з'яўлення на варожай тэрыторыі была важнейшай умовай поспеху паходу. Таму вялікую ўвагу надавалі выведцы ў варожай краіне. Было няпроста захаваць у тайне кірунак паходу, тым больш, што ўсе ведалі, з кім у дадзены момант вядзецца вайна.

[*] Бѣ же обычай Олгерда Гедимановича таковъ, никтоже не вѣдаше его куды смысляше ратию ити, или на что збираетъ воинства много, понеже и сами тии воинствеными чинове, и рать вся невѣдяще куды идяше, ни свои ни чюжии ни гости пришелцы; в таинстве все творяше любомудро, да неизыдетъ весть в землю, на неяже хощетъ ити ратию. И таковою хитростью и скрадываша многи земли, поималъ многи грады, и страны попленилъ, не только силою елико мудростию воеваше. И бысть от него страхъ на всѣхъ, и превзыде княженіемъ и богатствомъ паче многихъ.

Руская летопись по Никонову списку. Ч. 4. До 1407 г. С. 20 – 21.

Характарыстыку Кейстута прыводзяць добра з ім знаёмыя ордэнскія крыніцы. Пра свайго зацятага ворага крыжакі пішуць з вялікай павагай, што з'яўляецца дадатковым аргументам іх праўдзівасці: "*Кейстут быў вельмі мужным чалавекам і заўжды трымаў слова. Калі збіраўся ў паход на Прусы, то інфармаваў пра свой намер мар-*

*шала і абавязкова прыходзіў*[141]*, а калі заключаў мір з Ордэнам, дакладна яго трымаў. Калі пазнаваў якога брата* (рыцара-крыжака – А.К.), *што ён моцны і адважны, таму аказваў вялікі гонар.*"[142]

З гэтай характарыстыкі, а таксама з апісанняў дэталяў паходаў і сутычак з крыжакамі вымалёўваецца вобраз Кейстута як рыцара без заганы. Сведчанні ордэнскіх храністаў паказваюць на розніцу паміж афіцыйнай ідэалогіяй каталіцкага місіянерства, дэманстрацыяй вышэйшасці заходніх хрысціян над язычнікамі ды праваслаўнымі схізматыкамі і рэальнымі адносінамі паміж ордэнскімі і ліцвінскімі рыцарамі. Часта ў апісаннях храністаў ордэнскія браты выказваюць пагарду да язычніцтва і язычнікаў (напрыклад, пра Кейстута маглі напісаць "шалёны сабака" са "сваім д'ябальскім народам"[143]), але ў непасрэдных кантактах яны трымаюцца з ліцвінскімі баярамі як з роўнымі сабе рыцарамі. Да Альгерда і Кейстута ставяцца як да еўрапейскіх феадальных сеньёраў-манархаў. Храніст Віганд з Марбурга апісвае, як аднойчы сын Кейстута падчас паходу на Прусы ледзь не ўтапіўся ў бурлівай рацэ. Мясцовы ордэнскі комтур уратаваў князя і адправіў дадому, "*захацеўшы спадабацца каралю Кейстуту*"[144].

Крыніцы захавалі звесткі пра дыпламатычныя поспехі дуумвіраў, у прыватнасці, майстэрскае выкарыстанне даўняй хітрасці ліцвінскіх гаспадароў – дэкларацыі жадання прыняць каталіцтва, каб спыніць мілітарны націск Захаду.

Пра маральныя вартасці братоў сведчыць хаця б тая акалічнасць, што іх саюз пратрываў больш за тры дзесяцігоддзі (рэдкі выпадак у гісторыі), нягледзячы на шматлікія спробы яго разваліць (Кейстуту прынамсі двойчы прапаноўвалі каралеўскую карону). У выпадку Кейстута гэта вымагала яшчэ і самаахвярнасці, здольнасці падпарадкаваць уласныя амбіцыі дзяржаўным інтарэсам.

У гістарыяграфіі можна сустрэць ацэнкі братоў-дуумвіраў як свайго роду "тэхнічных" кіраўнікоў, нядольных ваенных правадыроў, маўляў, ніякіх новых ідэй у дзяржаўным будаўніцтве яны не нарадзілі, а толькі працягвалі справу бацькі. Альгерд, праўда, разгарнуў шырокую экспансію на Русі, але гэта яму ўдалося таму, што не сустрэў значнага супраціву. Кейстут быў больш ваяром, чым дзяржаўным дзеячам[145].

Дуумвіры "усяго толькі" паводле бацькоўскай канцэпцыі "абарона на захадзе – наступ на ўсходзе", баранілі сваю краіну і як маглі, пашыралі яе тэрыторыю. Аднак у рэальнасці гэта было вельмі няпростай справай, якая вымагала дзяржаўнага розуму, энергіі, мабільнасці, як у рэагаванні на шматлікія выклікі, так і ў прамым камунікацыйным сэнсе. Альгерд і Кейстут сапраўды больш часу праводзілі ў паходах, чым у сваіх рэзідэнцыях. Заўжды напагатове, разам з адборнымі асабістымі дружынамі ў любы момант гатовыя выступіць у любым кірунку. Два вершніка Пагоні.

### 2.2.2. Удалы пачатак

Дзяржаўны пераварот несумненна пайшоў краіне на карысць. Цэнтральная ўлада ўзмацнілася і магла ўжо кантраляваць усю краіну. Супольны ваенна-гаспадарчы патэнцыял асабістых даменаў дуумвіраў быў нашмат большым, чым у любога іншага ўдзельнага князя Гедымінавіча, што стрымлівала сепаратызм. Акрамя таго, дуумвіры,

---

[141] Гэтае сведчанне супярэчыць звыклай тагачаснай тактыцы нечаканых нападаў, таму, можна меркаваць, што Кейстут наўрад ці падаваў дакладнае месца свайго ўварвання ў Прусы.

[142] Scriptores rerum Prussicanim. Leipcig 1866. Bd. 3. S. 593 – 594.

[143] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 80 – 81; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 446.

[144] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 96 – 97.

[145] Stadnicki K. Olgierd i Kiejstut synowie Gedymina. S. 7, 11; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 433 – 434, 446.

якія не дапускалі залішняга павелічэння ўладанняў сваіх братоў і пляменнікаў, прымалі іх у справы дзяржаўнага кіравання, у тым ліку ў міжнародную палітыку.

Вялікі крыжовы паход на Літву ў пачатку 1345 г., у якім удзельнічалі, акрамя магістра Тэўтонскага ордэна, чэшскі кароль Ян Люксембургскі з сынам Карлам (будучым каралём і германскім імператарам), венгерскі кароль, граф Галандыі, герцаг Бурбон і іншыя, скончыўся поўным правалам. Магістр не разгадаў тактычную хітрасць Альгерда, які імітаваў падрыхтоўку паходу ў Прусію на Самбію. Крыжаносцы атрымалі пра гэта інфармацыю ўжо на маршы і павярнулі назад, на сустрэчу з ліцвінскім войскам. На самой справе мэтай выправы ліцвінаў былі ўладанні ордэна ў Інфлянтах, збройныя сілы якога ў той час былі занятыя здушэннем паўстання эстаў на востраве Эзэль. Ліцвінскія аддзелы прайшліся агнём і мечам па ордэнскіх землях да самай Рыгі. Еўрапейскія манархі-крыжаносцы з вялікімі атрадамі сваіх рыцараў, якіх доўга збіралі і рыхтавалі да сур'ёзнай справы, адчулі сябе ашуканымі і не хавалі расчаравання. На магістра пасыпаліся папрокі, і ў таго не вытрымала псіхіка, ён *"страціў святло розуму"*[146] і быў вымушаны сысці з пасады[*].

[*] "Магістр Лютэр, пачуўшы пра тыя паразы, нанесеныя сваім падданым, ашалеў, заклапочаны. Не дзіўна, бо абодва каралі – чэшскі і венгерскі, прыпісвалі віну магістру, што нібыта з яго волі так сталася, і што яны дарэмна са сваіх каралеўстваў і земляў з іншымі былі прыйшлі, і што ў надзеі сваёй так падмануліся, што мелі ад'ехаць, не ваяваўшы з паганамі, і так чуваць было з іх вуснаў розныя папрокі магістру і з вуснаў іншых са шляхты. Падобна ж чынілі і браты яго крыжакі. З гэтай прычыны змянілася яго мова і аслабеў розумам той, хто раней меў дакладны розум і салідную мову. [...] Потым да брата Лютэра вярнуліся, з божай ласкі, розум і мова..." (падобна, магістр перанёс інсульт – *А.К.*)

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 74 – 75, 76 – 77.

* * *

Інфлянцкі храніст Герман Вартберг апісаў даволі дзіўны эпізод з гэтага паходу, які часам выкарыстоўваюць для негатыўнай характарыстыкі асобы Альгерда: "Далей літоўскі кароль рушыў да Рыгі і праз Нейермюлен у мясцовасць Зегевольда, дзе яго сустрэў адзін ліў са старэйшынаў са сцвярджэннем, што ён з новаахрышчаных і абраны ў каралі над усім ліўскім народам; калі літоўскі кароль захоча паслухаць яго парады, то падпарадкуе сабе ўсю краіну. Літоўскі жа кароль спытаў яго, што трэба зрабіць з інфлянцкім магістрам. Тады ліў адказаў, што яны прагоняць таго разам з усімі немцамі. Але кароль сказаў: "Мужык! Ты не будзеш тут каралём!" і загадаў адсекчы яму галаву перад замкам Зегевольдам."

Ливонская хроника Германа Вартберга // Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Е. В. Чешихин-Ветринский. Рига, 1879. Т. 2. С. 105.

**Каментар**: Магчыма, праз гэтае апісанне ордэнскі храніст хацеў паказаць, што аспрэчаную паўсталымі тубыльцамі легітымнасць улады немцаў у Інфлянтах, прызнае нават знешні вораг – ліцвінскі манарх.

Новым магістрам быў абраны Генрых Дусемер, які пачаў будаваць на ліцвінскай мяжы замак Юханізберг і арганізоўваць напады на пагранічча.

У 1345 г. ліцвінска-русінскія войскі з Галіцка-Валынскай зямлі ўдзельнічалі ў польска-чэшскай вайне за Сілезію на баку палякаў. Пра польска-ліцвінскае паразуменне, дасягнутае каля 1344 г. (якраз Любарт тады заняў Галіччыну пасля смерці яе "капітана"

[146] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 76 - 77.

баярына Дзмітра Дзедзька), сведчыць була Папы Клімента VI ад кастрычніка 1345 г., у якой пантыфік перасцерагаў Казіміра, каб ягоныя падданыя *"не давалі схізматыкам супраць хрысціян непасрэдна ці апасрэдкавана, яўна ці схавана дапамогі, рады ці маральнай падтрымкі"*[147].

Вайна з чэхамі пачалася ў 1345 г., калі Казімір з дапаможнымі венгерскімі і ліцвінскімі аддзеламі ўвайшоў у Паўднёвую Сілезію. Нягледзячы на некалькі пераможных бітваў, краіну гэтую Казімір не здабыў, але мусіў спяшацца дадому, бо чэшскае войска рушыла наўпрост да Кракава[148]. Да замірэння з чэшскім каралём Карлам I (з 1346 г. ён стаў таксама і германскім імператарам Карлам IV) справа дайшла толькі ў 1348 г., калі Казімір III крута змяніў кірунак польскай экспансіі, павярнуў яе зноў на ўсход, у бок Русі, на Галіччыну і Валынь.

Пасля няўдачы крыжовага паходу ў пачатку 1345 г. перавага ў ордэнска-ліцвінскай вайне некалькі гадоў была на баку ліцвінаў. Ужо ў лістападзе 1345 г. Альгерд і Кейстут у сумесным паходзе захапілі і спалілі Растэнбург і спустошылі ягоныя ваколіцы. Дуумвіры, пераняўшы вялікакняскую ўладу, мелі магчымасць прыцягваць да вайны з Ордэнам большыя сілы з усёй дзяржавы, якіх хапала, каб адначасова атакаваць абедзве яго філіі. Так было ў 1346 г., калі ліцвінскія войскі правялі два сінхронныя паходы на Семігалію ў Інфлянтах і на Самбію ў Прусах. Кейстут і далей нёс галоўны цяжар барацьбы з Ордэнам, але і Альгерд браў чынны ўдзел амаль ва ўсіх прускіх выправах. Як мінімум два ліцвінскіх пахода адбылося ў 1347 г.[*][149]. У адзін з іх на Прусы разам з братамі хадзіў Нарымонт, які вярнуўся з эміграцыі самае позняе ў 1346 г.[150] і зноў атрымаў сваё Пінскае княства (пазней там кіравалі ягоныя нашчадкі).

[*] Апісанне ліцвінскага паходу на Прусы (з кастрычніка 1347 г.) утрымлівае цікавыя дэталі сярэднявечнай ваеннай тактыкі: "Таксама ў часы названага магістра памянёныя вышэй каралі выказалі пагрозу, што ўвойдуць у Самландыю, каб усё спустошыць. Стараліся гэта прадухіліць, таму магістр з вялікім войскам арганізаваў там варту і падслухі супраць зямлі паганаў. Але калі ім (крыжакам) гэта надакучыла, паспадзяваліся, што кароль ужо адышоў, і вярнуліся ў свой край (Прусы). Калі пагане пра гэта даведаліся, адразу пераследуюць хрысціян, ідучы следам за імі, і ўвайшлі ў Самландыю ў вялікі пост і зямлю пустошаць, бурацць і вялікія шкоды робяць, вялікім рабункам забіраючы мужчын і жанчын з енкам і плачам."

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 80 – 83.

**Каментар**: Пастаянна трымаць напагатове значнае войска не было магчымасці (найперш, з-за праблемы яго пракорму), таму вялікую ролю адыгрывала выведка. Галоўная яе мэта пры арганізацыі нападу – выявіць, ці няма на шляху значнага варожага войска; пры арганізацыі абароны – як мага раней выявіць кірунак руху ворага, каб мець час на збор і перакідванне свайго войска.

У апісаным хранiстам эпізодзе ліцвінская выведка аказалася спраўнейшай за ордэнскую.

Вярнуўся з Масквы і Іван-Яўнут, каля 1347 г. атрымаў ва ўдзел Заслаўскае княства, якое мог перадаваць сваім нашчадкам[151].

[147] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 95.

[148] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich… T. 1. S. 152.

[149] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 80 – 83.

[150] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 376.

[151] Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1893. С. 8.

Гэты кароткі перыяд паміж 1345 і 1348 г. быў адным з нямногіх у пруска-ліцвінскім змаганні, калі ініцыятывай валодала ВКЛ. Адказы Ордэна выглядалі непераканаўча: дзве дробныя выправы на Жамойць зімой 1345/1346 г. Праўда, ордэнскае кіраўніцтва ў той час было занятае іншай важнай справай: прымала пад сваю ўладу новую правінцыю. У 1346 г. кароль Даніі адступіў Тэўтонскаму ордэну ўсе правы на Эстонію за 19 тыс. марак срэбра (каля 4 тон). У 1347 г. кіраванне над правінцыяй было перададзена інфлянцкаму ландмайстру, і ў выніку Інфлянцкі Ордэн дасягнуў найбольшых тэрытарыяльных памераў за ўсю сваю гісторыю[152].

Свежаспечаны ліцвінскі гаспадар адначасова праяўляў актыўнасць у Паўночна-Усходняй Русі. У 1345 г. у статусе манахіні памерла вялікая княгіня маскоўская Анастасся, якая паходзіла з роду Гедыміна. Князь Сямён Іванавіч у той жа год ажаніўся з Еўпраксіяй Хведараўнай – дачкой волацкага князя. Але шлюб гэты трываў нядоўга: у наступным годзе Сямён адаслаў жонку да бацькі і хутка ажаніўся ў трэці раз – з цвярской князёўнай Марыяй Аляксандраўнай[153] (як відаць, і ў Маскве рэлігійныя праваслаўныя прадпісанні наконт шлюбу не датычыліся князёў).

У 1346 г. Альгерд разам з братамі, у тым ліку Кейстутам, спустошыў пагранічныя воласці Вялікага Ноўгарада. Повадам нападу стала абраза асобы вялікага князя літоўскага ноўгарадскім пасаднікам Астафіям, які нібыта абазваў Альгерда сабакам (“псом”). Паводле ноўгарадскага летапісца, нястрыманасць у словах каштавала пасадніку жыцця – яго забілі самі ноўгарадцы[154].

У той самы год французскае рыцарства было разгромленае англічанамі каля Крэсі, а чэшскага караля Карла I абралі на германскага імператара (пад іменем Карла IV). У 1347 г. адбылося паўстанне і абвяшчэнне рэспублікі ў Рыме; Канстанцінопальскі патрыярх ліквідаваў нядаўна адноўленую Галіцкую праваслаўную мітраполію (па ініцыятыве маскоўскага князя)[155]. Да 1346 – 1347 г. адносіцца звестка маскоўскіх летапісаў 16 ст. пра забойства Альгердам трох летувісаў, якія прынялі праваслаўе. Але гэтая інфармацыя, па-першае, адсутнічае ў тагачасных крыніцах, па-другое, выразна супярэчыць характару рэлігійнай палітыкі ліцвінскіх гаспадароў. Таму гісторыкі лічаць легенду пра трох віленскіх пакутнікаў – маскоўскай прыдумкай (гл. раздзел “Рэлігійная палітыка”).

Пасля 1345 г. у ВКЛ нібыта ўсё ўпарадкавалася, дуумвірат актыўна дзейнічаў у знешняй палітыцы і здавалася, нікому не атрымаецца спыніць ліцвінскую Пагоню. Аднак ужо ў пачатку 1348 г. выявілася, што можа быць інакш.

## 2.3. ПАРАЗА ЛЯ РАКІ СТРЭВЕ І КРЫЗІС 1348 – 1352 г.

### 2.3.1. Бітва каля ракі Стрэве ў Аўкштоце

1348 г. з-за выбуху пандэміі “Чорнай смерці” быў трагічным для ўсёй Еўропы. Літва зімой гэтага года 2 лютага пацярпела буйную ваенную паразу ад крыжакоў на сваёй тэрыторыі каля ракі Стрэве (правы прыток Нёмана, сёння тэрыторыя Летувы). Звесткі пра гэтую падзею захаваліся даволі скупыя, але з іх вынікае, што абодва бакі старанна рыхтаваліся да сутыкнення. У паход на Літву ордэнскія военачальнікі павялі вялікае войска, да якога далучыліся шматлікія рыцары-госці (паводле хронікі – пілігрымы) з Англіі і Францыі.

---

[152] Mantueffel T. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. S. 40.

[153] ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. С. 209 – 210.

[154] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. Москва-Ленинград, 1950. С. 358 – 359.

[155] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 381; Знаменский П.В. История Русской Церкви. С. 57: http://www.mpda.ru/data/245/644/1234/Istoria%20russkoy%20Cerk.pdf

Альгерд і Кейстут таксама рыхтаваліся да вайны і збіралі сілы з розных частак дзяржавы, на што патрабаваўся час. Дакладныя планы дуумвіраў нам невядомыя, магчыма, яны мелі намер самі напасці на Прусы ці Інфлянты, але, што таксама верагодна, даведаліся пра падрыхтоўку вялікай ордэнскай выправы і рыхтаваліся яе сустрэць. Паводле крыжацкіх крыніц, у бітве ўдзельнічалі ваяры з аддаленых на сотні кіламетраў уладанняў ВКЛ: Уладзіміра-Валынскага, Берасця, Віцебска, Полацка, Смаленска. Была таксама і пінская дружына, бо ў бітве загінуў Нарымонт Гедымінавіч – пінскі князь[156]. Можна меркаваць, што не абышлося без дружыны Навагрудка – уладання Міхала-Карыята Гедымінавіча (у наступным годзе Альгерд даручыў яму пасольства ў Арду).

Атрымаўшы вестку пра прыход ордэнскага войска, ліцвіны рушылі за ім у пагоню і завязалі бой. Бітва атрымалася зацятай, абодва бакі панеслі вялікія страты. Апісанне крыжацкага храніста ўтрымлівае дэталі адметных спосабаў бою язычнікаў-літоўцаў і праваслаўных-русінаў. Першыя ўмела выкарыстоўвалі кідальныя коп'і другія паказвалі майстэрства стральбы з луку[*].

[*] "Брат Зыгфрыд дэ Данфельд – маршал і брат Вінрык Кніпродэ – вялікі комтур сутыкнуліся з непрыяцелем над ракой Стравай, дзе дзельна змагаліся. Яны ўвайшлі ў паганскую зямлю, у вілію навяртання Св. Паўла, дзе па загаду маршала выбілі паганаў абодвух палоў старых і моладзь, а зямлю знішчылі агнём. Кароль жа сабраў вялікае войска, у якое прызваў русінаў з Уладзіміра, Берасця, Віцебска, са Смаленска і з Полацка, і яны пайшлі ў пагоню за маршалам, калі вяртаўся, і здарылася ў дзень Ачышчэння Найяснейшай Панны, што сышліся ў пасняховай бітве. Пагане кідалі свае дзіды ў хрысціян, русіны лукамі і стрэламі ранілі шмат коней і людзей. Браты мужна давалі адпор і было шмат забітых, менавіта, гданьскі комтур, пэўны войт самландскага біскупа, Йохан дэ Лёвэ, з якім было пры харугве забіта 50. Пагане шукалі паратунку ва ўцёках, іх гналі хрысціяне, у названай вышэй рацэ бачылі шмат забітых русінаў і іншых да 18000. Воля Божая, каб хрысціяне перамаглі, менавіта ж Найяснейшай Панны, выява якой была па-мастацку намаляваная на харугве гасцей."

Die Chronik Wigands von Marburg, hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipcig, 1863. S. 510 – 511.

* * *

"У той жа год прускія браты пустошылі з войскам на працягу цэлага тыдня зямлю язычніцкіх літоўцаў. На дзявяты дзень, на Грамніцы была дадзеная пры рэчцы Стрэбене бітва, у якой палегла больш 10 000 літоўцаў і русінаў, прызваных на дапамогу з розных месцаў (Уладзіміра, Берасця, Віцебска, Смаленска і Полацка). Нарымонт, кароль рускі, брат Альгерда і Кейстута быў таксама забіты ў гэтай бітве. З хрысціян жа пáлі 8 братоў з 42 добрымі мужамі."

Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 106 - 107.

Загінуў гданьскі комтур і яшчэ некалькі афіцэраў, браты-рыцары адчайна баранілі сваю харугву. Ім удалося пераламіць ход бітвы, разбіць і праследаваць ліцвінаў. Войска ВКЛ панесла вялікія страты, сярод іншых быў забіты князь Нарымунт Гедымінавіч. Перыяд першых поспехаў і лёгкіх перамогаў братоў-думвіраў закончыўся.

[156] Die Chronik Wigands von Marburg, hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipcig, 1863. S. 510 – 511; Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 106 - 107.

## 2.3.2. Аднаўленне вайны за Галіцка-Валынскую Русь (1349 – 1352 г.)

Параза ліцвінскага войска на рацэ Стрэве мела для ВКЛ сур'ёзныя знешнепалітычныя наступствы. Найперш, яна ўдарыла па міжнароднаму прэстыжу дзяржавы. Яе сталі менш баяцца. Польскі кароль канчаткова прыняў рашэнне ўзнавіць экспансію на Галіччыну і Валынь (восенню 1348 г. ён забяспечыў тыл: уладкаваў адносіны з чэшскім каралём). Пскоўская рэспубліка, якая ў 1348 г. стала афіцыйна незалежнай ад Вялікага Ноўгарада, адмовілася прыняць намеснікаў князя Андрэя Альгердавіча. Крыжакі акрыялі і ў тым жа годзе два разы паспяхова атакавалі Жамойць[157].

Як (з-за складанасцей у барацьбе з Ордэнам) бывала пры ранейшых гаспадарах, так цяпер Кейстут дэклараваў сваю і братоў гатоўнасць прыняць хрысціянства па каталіцкаму абраду. Альгерд пацярпеў дыпламатычную няўдачу ў суперніцтве з польскім каралём за прыхільнасць Арды. Параза была прыкрай з-за прыніжэння, дазнанага ад татарскага хана, калі той выдаў (прадаў?) ліцвінскае пасольства маскоўскаму князю, і Альгерду давялося плаціць выкуп за яго вызваленне.

Праўда, у 1349 г. крыжацкія "рэйды" на некалькі гадоў прыпыніліся, верагодна, па прычыне "Чорнай смерці", што наведала Ордэнскую дзяржаву[158]. У 1348 ці 1349 г. эпідэмія зафіксаваная і ў буйнейшым гандлёвым цэнтры Беларусі – Полацку ("Того же лѣта моръ бысть на люди в Полотцкѣ"[159]), Хроніка Вартберга паведамляе пра "высокую смяротнасць" у Інфлянтах[160]. Чума ішла з Захаду па гандлёвых трасах Балтыйскага мора.

Пра дакладную мэту ліцвінскага пасольства ў Арду, а менавіта, супраць каго шукаў саюзу з татарамі вялікі князь літоўскі [*], выказваліся розныя думкі (правакаваў паход на Паўночна-Усходнюю Русь ці, што больш верагодна, супраць Польшчы[161]).

[*] Того же лѣта помысли и Олгердъ князь Литовскыи, здумавъ своимъ высокооумїемъ, и посла въ Орду къ царю Чанибѣку брата своего Корьяда, и просилъ рати оу царя себѣ въ помочь. И то слышавъ князь великїи Семенъ, погадавъ съ своею братїею съ княземъ Иваномъ и Андреомъ и съ бояры, и посла въ Орду Федора Глѣбовича да Аминя да Феодора Шубачѣева къ царю жаловатися на Олгерда. И слышавъ царь жалобу князя великаго, оже Олгердъ съ своею братїю царевъ оулусъ, а князя великаго отчину, испоустошилъ, и выдалъ царь Корьяда, Михаила и Семена Свислочьского и Аикша киличѣевъ князя великого и его дружину Литву и далъ посла своего Тотуя и велѣвъ выдати Корьяда и его дружину князю великомоу. И пришедъ посолъ Тотуи и выдалъ Корьяда и его дружину Литву князю великомоу Семену Иванович[ю].

ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Рогожский летописец. Петроград, 1922. Стб. 58.

Некаторыя летапісы Паўночна-Усходняй Русі паведамляюць, што Альгерд шукаў у хана дапамогі супраць маскоўскага князя. Але нібыта Сямён Іванавіч праз адмысловае

[157] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 86 – 89.

[158] Łowmiański H. Agresja Zakonu Krzyżackiego na Litwę w wiekach 13 – 15 [w:] Łowmiański H. Prusy-Litwa-Krzyżacy. Warszawa: PIN, 1989. S. 205.

[159] Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3: до 1362 г. С. 192.

[160] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 107.

[161] Горский А.А. Москва и Орда. С. 74; Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 33, спасылка 3.

пасольства настроіў Джанібека супраць Літвы (паслы нагадалі, як Альгерд спустошыў "яго улус"[*], відавочна, меўся на ўвазе паход на землі Вялікага Ноўгарада ў 1346 г.)[162].

[*] "Улус" – народ, аддадзены ва ўдзел. Тэрмін "улус" ужываўся ў адносінах да рускіх княстваў дзеля абазначэння іх васальнай залежнасці ад Арды.

Паводле: Федоров-Давыдов Г.А. Общественный строй Золотой Орды. Москва: Издательство Московского университета, 1973. С. 117.

Гэтая летапісная версія, якая ўзнікла значна пазней за апісаныя падзеі (дзесьці ў 15 ст.), бачыцца недакладнай, хоць занепакоенасць Масквы зразумелая: любы саюз варожай дзяржавы з сюзерэнам уяўляўся небяспечным. Аднак нельга падазраваць Альгерда з Кейстутам у палітычнай наіўнасці, яны дастаткова добра ведалі пра моцныя сувязі маскоўскіх князёў з ардынскімі ханамі, каб спадзявацца парушыць іх адной дыпламатычнай акцыяй. Больш верагодная мэта ліцвінскай дыпламатыі – дамова з татарамі супраць Польшчы, па прыкладзе ранейшага саюзу 1340 – 1341 г. Маскоўскі Уваскрасенскі летапіс змяшчае інфармацыю пра пасольства адразу пасля паведамлення пра напад Казіміра III на Галіччыну і Валынь.

Як бы там ні было, ліцвінскіх паслоў высокага рангу – князя Карыята (у праваслаўным хрышчэнні Міхаіла) Гедымінавіча[163] з сынамі – хан затрымаў, а потым выслаў у Маскву. Сямён Іванавіч павярнуў назад з дарогі да Вялікага Ноўгарада, каб палонных прыняць, а спецыяльнае пасольства Альгерда ў Маскву дамовілася пра іх вызваленне за выкуп. Неўзабаве Альгерд з Любартам прыслалі новыя пасольствы дзеля рэалізацыі сваіх матрыманіяльных планаў[*].

[*] "Въ лѣто 6857 Олгордъ князь Литовьскыи прислалъ послы свои къ князю великому Семену Ивановичю бити челомъ за своего брата Корьяда и за бояръ и за его дружину за Литву со многыми дары, просяще мира и живота своеи братїи. Князь же великы Семенъ Иванович[ь] многое серебро отложивъ и прїа любовь и миръ многъ вземъ отпусти Корьяда и его дружину Литву въсвояси. Того же лѣта прислалъ князь Люборгъ изъ Велыня своихъ бояръ къ князю великому Семену бити челомъ о любви и испросити сестричну его за себе оу князя Костянтина Ростовьскаго. И князь великїи Семень Иванович[ь] прїялъ въ любовь его челобитїе, пожаловалъ и выдалъ свою сестричну въ Велынь. Того же лѣта князь Литовьскыи Олгордъ прислалъ свои послы къ князю великому Семену Иванович[ю] бити челомъ и просити за себе свести княжи Семеновы княжны Ульяны княж||жи дчери Александровы Михаиловича Тфърского. И князь великїи Семень Иванович[ь], доложа Фегнаста митрополита, и выда свою свесть за Олгорда князя Литовьскаго."

ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Рогожский летописец. Стб. 59.

**Каментар**: Апісаныя вышэй дзеянні ліцвінаў выглядаюць як выразнае імкненне забяспечыць вельмі патрэбны на той час спакой на ўсходніх межах дзяржавы.

З татарскім ханам здолеў дамовіцца польскі кароль Казімір III, які намерваўся адабраць у ліцвінскіх князёў Галіцка-Валынскую зямлю і энергічна рыхтаваўся да вайны

[162] Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3: до 1362 г. С. 187; ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. С. 215.

[163] Ю.Пузына выказваў перакананне, аднак, слаба абгрунтаванае, што ў пасольстве не было Карыята, а толькі ягоныя сыны. Гл. Puzyna J. Korjat i Korjatowicze // Ateneum Wileńskie. Wilna, 1930. T. 7. S. 427, 429.

з ВКЛ. Важнай часткай яго плану была дыпламатычная падрыхтоўка ваеннай кампаніі. Пастаяннымі саюзнікамі Казіміра заставаліся мазавецкія князі. Праз кампрамісы і саступкі быў забяспечаны саюз з Венгрыяй і спакой на чэшскай і ордэнскай межах. У 1348 г., коштам адмовы ад прэтэнзій на Сілезію, Казімір замірыўся з чэшскім каралём. З 1343 г. Польшчу абавязваў "вечны мір" з Тэўтонскім ордэнам, у 1349 г. (14 чэрвеня) была падпісаная яшчэ польска-крыжацкая памежная дамова[164], і ў тым жа годзе да караля Польшчы прыбыло татарскае пасольства. Улічыўшы вопыт 1340 г., калі татары пустошылі польскія землі ў адказ на напад на Галіччыну, Казімір III дасягнуў дамоўленасці з ханам Джанібекам, наступствам якой і стала няўдача ліцвінскага пасольства ў Ардзе.

Дзеля захавання кантролю над калісьці заваяванымі рускімі княствамі, татарскія ханы ў міжнароднай палітыцы паслядоўна вялі агульную лінію: падтрымлівалі раздробленасць на рускіх землях, не давалі ўзмацняцца якому-небудзь значнаму цэнтру іх аб'яднання. На той момант хан і яго дарадцы вырашылі аслабіць Літву, прыняўшы бок яе ворага Казіміра III. Аднак, пасля буйных ваенных поспехаў палякаў, татары спачатку занялі нейтралітэт, а потым актыўна падтрымалі ВКЛ[165]. Пазней, праз некалькі гадоў, ардынскія ўладары зноў палічылі мэтазгодным стаць на бок польскага караля.

Татарскія паслы прыбылі да Казіміра III у першых месяцах 1349 г., і дасягнутае паразуменне насмеліла караля да атакі на ўладанні Любарта – Галіччыну і Валынь[166]. Выправу на Русь ён правёў бліжэй да зімы, паміж вераснем і пачаткам снежня 1349 г.

## Польская спроба хрышчэння Кейстута

Падобна, з дыпламатычнай падрыхтоўкай вайны звязаная спроба Казіміра III ахрысціць Кейстута Гедымінавіча. Пра яе вядома са зместу трох бул Папы Клімента VI, выстаўленых яго канцылярыяй у Авіньёне (першыя дзве – ад 16 верасня, трэцяя, скіраваная да Кейстута, – ад 19 верасня 1349 г.) у адказ на лісты Казіміра з інфармацыяй пра жаданне Кейстута з братамі хрысціцца па каталіцкаму абраду. З іх тэкстаў вынікае, што арганізатарам справы быў польскі кароль. У першай буле, скіраванай да Казіміра, папа наказваў яму, каб не спыняўся, давёў справу да канца. Абяцаў аздобіць каралеўскай каронай Кейстута "яго братоў і іх нашчадкаў", калі тыя далучацца да хрысціянскай супольнасці[167]. Другая даручала гнезненскаму архіепіскапу выслаць на Літву падрыхтаваных святароў для правядзення хрысціянізацыі ад імя апостальскай сталіцы. Трэцяя, падобная па зместу, была скіраваная да самога Кейстута і яго братоў[168]. Арганізацыя хрышчэння (выяўленне жадання Кейстута, дасыланне лістоў да Папы, чаканне адказу) павінна была пачацца, прынамсі, за некалькі месяцаў да напісання папскіх бул, г.зн. супала па часе з падрыхтоўкай польскага ваеннага паходу. Як падаецца, яна была часткай дыпламатычнага забеспячэння ваеннай кампаніі польскага караля[169]. Польскі паход быў скіраваны на ўладанні Любарта, на дапамогу якому заўсёды першым прыходзіў Кейстут як суседні ўдзельны князь і адказны за заходні кірунак палітыкі ВКЛ. Прапанова каралеўскай кароны менавіта Кейстуту, а не вялікаму князю Альгерду, давала надзею, па-першае, на нейтралізацыю Кейстута падчас вайны з Любартам; па-другое, магла

---

[164] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 173.

[165] Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV – XVI вв. Москва: Издательство восточной литературы, 1963. С. 45.

[166] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 96.

[167] Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae. Ed. A.Theiner. Roma, 1860. T. 1. Nr 691.

[168] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów. S. 63.

[169] Падобную версію выказвалі летувіскія гісторыкі, у той час як польскія схіляюцца да думкі пра "чысціню" намераў Казіміра III па хрысціянізацыі Літвы – гл. Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 170 – 173.

выклікаць нязгоду паміж дуумвірамі (гл. наступны раздзел “Уяўны канфлікт паміж Альгердам і Кейстутам каля 1349 – 1350 г.). На сапраўдныя намеры караля пралівае святло той факт, што ён пачаў ваенныя дзеянні, не чакаючы адказу Папы.

Справа хрышчэння-каранацыі скончылася нічым. Паход Казіміра стаў для ліцвінаў нечаканасцю і прайшоў надзвычай удала: польскія войскі захапілі не толькі амаль усе землі Любарта, але і частку ўладанняў Кейстута. Пасля гэтага ўжо не магло быць гаворкі пра хрышчэнне ліцвінаў за пасярэдніцтвам польскага караля.

## Уяўны канфлікт паміж Альгердам і Кейстутам каля 1349 – 1350 г.

У гістарыяграфіі выказвалася версія-здагадка пра трэшчыну ў еднасці дуумвіраў і канфлікт паміж Альгердам і Кейстутам каля 1349 – 1350 г. Версія абапіралася на значна пазнейшыя, да таго ж даволі цьмяныя звесткі дыпламатычных дакументаў ВКЛ з канца 15 ст., якія паведамлялі пра нейкую “нязгоду” паміж братамі[170]. На гэтай падставе польскі гісторык Людвік Калянкоўскі нават заявіў пра адносіны паміж Альгердам і Кейстутам: “*Належыць скончыць з ідыліяй, прыдуманай Вітаўтам для крыжакоў і стагоддзямі гадаванай у навуцы*”[171].

На Калянкоўскага спасылаюцца і ў нашыя дні (Фелікс Шабульда нават напісаў, што Кейстут змусіў Альгерда саступіць, захапіўшы яго ў палон[172]), хоць яшчэ ў сярэдзіне 30-х г. 20 ст. ягоную версію-здагадку грунтоўна раскрытыкаваў Генрык Пашкевіч. Ён звярнуў увагу на адсутнасць звестак пра канфлікт у крыніцах таго часу, а таксама на ўзгодненасць дзеянняў дуумвіраў як да меркаванага канфлікта, так і пасля яго[173].

Тым не менш, дыму без агню не бывае. Калі Кейстут рабіў выгляд, што згодны хрысціцца ў каталіцтва і прыняць ад Папы каралеўскую карону (гл. раздзелы “Польская спроба хрышчэння Кейстута”, “Венгерская спроба хрышчэння і прысяга Кейстута”), абмінуўшы Альгерда, то, сапраўды, звонку гэта выглядала як нязгода і раскол паміж братамі. Але, як высветлілася пазней, толькі звонку. Кейстут дзейнічаў у паразуменні з Альгердам і вёў дыпламатычную гульню з польскім і венгерскім каралямі, каб выйграць час і адвесці ад Літвы ваенную пагрозу, што яму і ўдалося зрабіць праз дамову з венгерскім каралём Людовікам. Бадай, гэта адзіны эпізод дуумвірату, у якім можна знайсці хоць нейкі намёк на канфлікт. Відавочна, памяць пра тую, знешне заўважную, а ў сапраўднасці ўяўную “нязгоду”, перайшла ад сучаснікаў да нашчадкаў.

## Ваенныя кампаніі 1349 – 1351 г. у Галіцка-Валынскай Русі

Польская ваенная кампанія на Русі была даволі кароткай (між вераснем і снежнем), але надзвычай паспяховай. Войскі Казіміра III занялі Галіччыну і амаль усю Валынь, у Любарта застаўся толькі Луцк[174]. Акрамя таго, Кейстут страціў Падляшша і Берасце. Напэўна, з-за збройнай акцыі Казіміра III Валынь пакінуў праваслаўны мітрапаліт Феагност[175][*].

---

170 Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. Санкт-Петербург, 1882. С. 115.

171 Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1: 1377 – 1499. Warszawa, 1930. S. 7 – 8.

172 Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси… С. 49; Горский А.А. Москва и Орда. С. 75.

173 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 377 – 378.

174 Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej. S. 17.

175 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 383.

[*] "В лѣто 6857 [1349]. Прииде король краковьскыи со многою силою, и взяша лестью землю Волыньскую и много зло крестианомъ створиша, а церкви святыя претвориша на латыньское богумерзъское служение."

Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 361.

* * *

"Тогоже лѣта король краковскии взя крамолою землю волынскую, и церкви грѣческаго закона претвори на латынскии законъ. (...) Того же лѣта прииде свещенныи Феогнастъ Митрополитъ Киевскии всеа Русии из Волыни."

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 191, 192.

Магчыма, з гэтай вайной звязаныя два шлюбы Гедымінавічаў. У 1349/1350 г. Альгерд і Любарт узялі сабе жонак з паўночна-рускіх княстваў. Альгерд ажаніўся з цверскай князёўнай Ульянай, а Любарт – з дачкой растоўскага князя, дзеля чаго браты мусілі пытаць згоды ў вялікага князя ўладзімірскага, якім на той час быў Сямён Іванавіч – князь маскоўскі[176]. Праз гэтыя шлюбы не толькі наладжваліся сувязі з княствамі Паўночна-Усходняй Русі, але і дэманстраваліся мірныя намеры каля ўсходніх межаў (падчас складанасцяў, якія ўзніклі на захадзе).

Аднак хутка поспехі палякаў скончыліся, і кола фартуны павярнулася ў іншы бок. На наступны год ліцвіны мабілізаваліся і з баямі пачалі адваёўваць страчанае. Першы паход у сярэдзіне траўня 1350 г., паводле польскіх крыніц, закончыўся паразай ліцвінаў у Ленчыцкай зямлі, бо на іх шляху выпадкова апынуліся сабраныя дружыны польскіх князёў. Выправа ліцвінаў прыпала на 18 – 19 траўня, якраз на час з'езду ў недалёкім Сулеёве польскіх ды мазавецкіх паноў і князёў. Пасля весткі пра напад польска-мазавецкая конніца начным маршам з 19 на 20 траўня пераадолела 100 км і перакрыла ліцвінам дарогу каля вёскі Жукова пад Сахачовам. Вымушаныя прыняць бой з моцным ворагам у адкрытым полі, ліцвіны былі адціснутыя да берага ракі Бзуры, дзе шмат іх патанула. Калі гэтая параза і мела месца (выказваліся сумненні ў тым, што той паход і бітва сапраўды адбыліся[177]), то яна не была катастрафічнай для ліцвінаў, бо наступнай выправай, ужо пад канец жніўня 1350 г., яны вярнулі Берасце, Уладзімір-Валынскі, Белз і іншыя замкі. Акрамя таго, ліцвінскія войскі пустошылі польскія землі: Лукаўскую, Сандомірскую і Радамскую. Некалькі збройных сутычак заканчваліся паразай палякаў[178]. Ліцвіны мелі за плячамі вялікі вопыт "рэйдавай" вайны з Ордэнам. Нечаканымі імклівымі ўдарамі яны вынішчалі варожую тэрыторыю, разбівалі невялікія польскія атрады, якія паспявалі сабрацца, і адыходзілі да таго часу, пакуль збіралася большае войска[*].

[*] "Колькі разоў ліцвіны з палякамі ў якой-небудзь паасобнай бітве сутыкаліся, палякі заўсёды, Божым папушчэннем, былі пераможаныя. Пасля шматлікіх паразаў і спусташэнняў, кароль Казімір, убачыўшы, што ад ліцвінаў немагчыма адбіцца, бо пастаянна ўнікалі вялікай бітвы з ім і як лютыя ваўкі зямлю па-зладзейску пустошылі, а потым уцякалі са здабычай, заключыў з імі дамову, па якой адступіў ім горад і зямлю Уладзімірскую, а сабе затрымаў, правам вярхоўнай уласнасці Львоўскую зямлю з усімі замкамі, гарадамі і вёскамі".

Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej. S. 18.

[176] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Рогожский летописец. Стб. 59.

[177] Nowak T. W sprawie najazdu litewskiego na ziemię łęczycką w 1350 r. // Acta Universitatis Lodziensis. Folia Historica. 1983. Nr 14. S. 95.

[178] Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej. S. 18.

У 1350 г., на год пазней, чым у Ордэн (пэўна з-за адсутнасці выхаду да марскіх гандлёвых дарог), да Польшчы дайшла чума. Незадоўга да пачатку ліцвінскага контрнаступу, 4 красавіка 1350 г., Казімір III заключыў выгоднае для Венгрыі пагадненне з венгерскім каралём Людовікам наконт новаздабытых зямель на Русі. Людовік саступаў права на "Рускае каралеўства" Казіміру III да смерці апошняга на той умове, што, калі ў Казіміра не будзе нашчадка мужчынскага полу, то разам з Польшчай да Людовіка пяройдзе і Русь. Калі ж Казімір будзе мець сына, то або сам Людовік, або яго наступнікі ў любы час могуць адкупіць Русь ад польскіх каралёў за 100 тыс. фларэнаў[179].

Аднак, калі ліцвіны вясной-летам 1350 г. пачалі вяртаць забраныя палякамі землі ў Галіцка-Валынскай Русі, Казімір III венгерскай падмогі не дачакаўся (яна прыйшла ў наступным годзе). Кароль Людовік (як і Казімір, увайшоў у гістарыяграфію з азначэннем "Вялікі") быў заняты іншай важнай справай – экспансіяй у Італіі, а менавіта, праводзіў паход на Неапаль, дзе дамогся прызнання правоў свайго роду на Неапалітанскае каралеўства.

У пачатку 1351 г. Казімір III чарговы раз звярнуўся па дапамогу да каталіцкага першасвятара. Пра змест ягонага паслання вядома з адказу Папы – булы ад 14 сакавіка 1351 г. Польскі кароль прадстаўляў сітуацыю ў выгодным для сябе святле: нешта дадаваў, нешта ўтойваў, нешта своеасабліва інтэрпрэтаваў. Пісаў, што з вялікай тратай сіл і сродкаў здабыў ад няверных русінаў столькі земляў, што на іх можна стварыць сем вялікіх біскупстваў (яўнае перабольшванне). Адзін з найбольш моцных рускіх князёў па намове Казіміра нібыта ўжо прыняў каталіцтва (гісторыкам пра гэта нічога невядома). Далей польскі кароль сцвярджаў, што татары, якія здаўна панавалі над тымі краямі, аб'ядналіся з суседзямі русінаў – ліцвінамі – і пачалі нападаць на польскія землі. Каб абараніцца ад іх, трэба трымаць войска і мацаваць замкі. Булай ад 13 сакавіка папа прызначыў аддаваць на барацьбу з ліцвінамі і татарамі палову царкоўнага падатку (дзесяціны) з Польшчы на працягу чатырох гадоў[180]. На самой справе татары яшчэ не былі саюзнікамі ліцвінаў, бо больш чым праз паўгады ў дамову Кейстута з венгерскім каралём быў уключаны пункт пра абарону Літвы ад татар венгерскім і польскім каралямі[181].

Татары ў той час захоўвалі палітыку нейтралітэту, і толькі дзесьці пад канец 1351 г. хан прыняў рашэнне падтрымаць ВКЛ.

## Венгерская спроба хрышчэння і прысяга Кейстута

Вынікам польска-венгерскага паразумення 1350 г. быў удзел венгерскіх войскаў у кампаніі 1351 г. Кароль Людовік Анжуйскі асабіста павёў войска ў вялікі паход супраць Літвы. Спачатку ён сустрэўся ў Кракаве з Казімірам III, і ўжо адтуль аб'яднаныя дружыны вырушылі ў бок ліцвінскай мяжы. У Любліне, да якога дайшлі ў другой палове ліпеня, польскі кароль цяжка захварэў. Людовік узяў ад польскіх урадоўцаў прысягу, што яны (на пэўных умовах) прызнаюць яго правамоцным пераемнікам Казіміра і пакінуўшы саюзніка ў Любліне, рушыў далей.

Праз 15 дзён пераходаў праз лясы, венгерска-польскае войска падышло пад ліцвінскую мяжу, відавочна, да Берасцейскай ці Драгічынскай валасцей – уладанняў Кейстута, бо менавіта да яго Людовік выслаў на перамовы трох знатных паноў. Паслы засталіся ў ліцвінаў закладнікамі, а да караля прыбыў сам Кейстут. Дэталі дамовы і прысяга Кейстута падрабязна апісаныя двума храністамі, адзін з якіх прысутнічаў непасрэдна на месцы падзеі. Ён, між іншым, занатаваў, што, калі Кейстут з'явіўся перад Людовікам, то "*пакорна яму ва ўсім падпарадкаваўся і падпісалі мір*". У намёце

[179] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 98.

[180] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 98.

[181] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 35 – 36.

венгерскага караля 15 жніўня 1351 г. было заключана пагадненне, умовы якога храніст пунктуальна пералічыў:

- Кейстут прыме каталіцкае хрышчэнне разам са сваімі братамі і падданымі, пры ўмове, што атрымае ад Папы каралеўскую карону;
- Кейстут будзе ўдзельнічаць у ваенных паходах Людовіка, пры ўмове, што каралі Венгрыі і Польшчы вернуць яму землі, забраныя Ордэнам і будуць абараняць Літву ад крыжакоў і татараў;
- у Літве будзе створана архібіскупства, епіскапствы і кляштары;
- Кейстут адправіцца з Людовікам у Венгрыю, дзе прыме хрышчэнне (кароль Людовік, пэўна, не надта давяраў абяцанкам ліцвінскага візаві – *А.К.*);
- каралеўствы Літвы, Венгрыі і Польшчы будуць падтрымліваць мір паміж сабой, а венгерскія падданыя могуць свабодна, без аплаты мытаў, прыязджаць у Літву, знаходзіцца там і выязджаць тады, калі пажадаюць[182].

Мы маем тут справу з тыповай феадальнай дамовай сюзерэна з васалам, калі кожны з бакоў бярэ на сябе акрэсленыя абавязкі. Гісторыкі звярталі ўвагу на тое, што Людовік забяспечваў найперш венгерскія інтарэсы, але абяцаў абарону Літвы не толькі ад Венгрыі, але і ад Польшчы. Асобнае архібіскупства і месца хрышчэння ў Венгрыі азначалі незалежнасць Літвы ад польскай царкоўнай арганізацыі.

Пагадненне было зацверджана прысягай абодвух бакоў, прычым Кейстут даваў яе па язычніцкаму абраду. Прысутнаму храністу гэта было настолькі цікава, што ён запісаў усе дэталі абраду і нават словы Кейстута так, як пачуў, і іх пераклад на латынь. У выніку да нас дайшла ўнікальная інфармацыя пра тагачасныя звычаі, пра мову, на якой гаварыў Кейстут, а менавіта пра беларускую мову[183][*].

[*] Вось сведчанне храніста: *"А ў свята Узнясення дабраслаўнай Панны Кейстут прыбыў да намёту венгерскага караля; ва ўсеагульнай прысутнасці зацвердзіў вышэй апісанае прымірэнне літоўскай прысягай у такі вось спосаб: загадаў прывесьці вала чырвонай масьці і прывязаць да двух дрэваў і схапіўшы літоўскі нож, ударыў і трапіў валу ў артэрыю (vena mediana); і кроў адразу моцна пырснула, і гэтай крывёй ён сам і ўсе іншыя літоўцы памазалі рукі і твар, голасна прамаўляючы па-літоўску: "Рагаціна разненахы госпананы" (Rogachina roznenachy gospanapu), што перакладаецца такім чынам: "На рагатага звярні вочы свае, Бог з намі і душамі. Прысяга абяцаная намі, сёньня выкананая." І пасьля тых словаў адсек валу галаву і ад шыі адсунуў настолькі, што сам Кейстут і іньшыя прысутныя ліцьвіны паміж тулавам і галавой вала прайшлі па тры разы."*

Гісторыкі, праналізаваўшы гэты запіс, пацвярджаюць ягоную дакладнасць і даюць наступныя тлумачэнні. Пры падобных ахвярапрынашэннях жывёлы або людзі (здаралася і такое) прывязваліся да дрэваў або слупоў у стаячай пазіцыі. Так, напэўна было і ў гэтым выпадку. Кейстут, ударыўшы нажом у шыю вала, не прыносіў яшчэ прысягі, а толькі правяраў ці згодная яна з воляй багоў. Адказ быў станоўчы, бо кроў пырснула высокім струменем, што не заўсёды здаралася. Адсюль і словы Кейстута, перакручаныя хроністам да непазнавальнасьці, бо той не ведаў мовы: "*Рагаціна разненахы госпананы*".

---

[182] Kosman M. Krwawa przysięga [w:] Kosman M. Litwa pierwotna. Mity, legendy, fakty. Warszawa, 1989. S. 220 – 224; Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 99 – 100.

[183] Mierzyński A. Przysięga Kiejstuta [w:] Odbitka z: Roczniki Towarzystwa Przyjaciół Nauk Poznańskiego. T. XX. Poznań, 1894 – 18 s.

Іх рэканструкцыя, зробленая спецыялістам з выкарыстаннем лацінскага перакладу, выглядае наступным чынам: "*госпананы*" – гэта выраз "*госпад з намі*"; "*рагаціна*" – паходзіць ад слова "*рог*"; "*разненахы*" – звязана са словам "*разпазнаць*". Польскі навуковец А. Межыньскі пасля філалагічнага аналізу запісу прыйшоў да высновы, што "*гэтыя словы не маюць найменшага падабенства да літоўскай мовы ні па форме, ні па гучанню, наадварот, у гэтым сэнсе паказваюць на славянскае паходжанне. (...) Гэтыя словы маюць рысы рускай гаворкі, быць можа, яны беларускія*". Увесь выраз гучаў, напэўна, так: "*Рагаціна разпазнала, госпад з намі*".

Толькі тады, пасьля разпазнання волі багоў, пачаўся абрад прысягі: маканне пальцаў у крыві і памазанне ёю чола; адсячэнне галавы вала і трохразовы (тры – лічба магічная для балцкіх паганцаў) праход паміж галавой і тулавам. Ступалі па крыві, якая выцякала з галавы і з тулава, што таксама мела сімвалічнае значэнне.

Паводле: Mierzyński A. Przysięga Kiejstuta [w:] Odbitka z: Roczniki Towarzystwa Przyjaciół Nauk Poznańskiego. T. XX. Poznań, 1894. S. 8 – 15.

**Каментар**: Гэты дакументальна зафіксаваны эпізод сведчыць пра высокі статус і распаўсюджанасць у ВКЛ беларускай мовы ўжо ў 14 ст. Храністы яе называлі літоўскай.

Пасля заключэння міру Людовік вызваліў пад слова гонару Любарта, які раней трапіў у палон да польскага караля. З-за недахопу крыніц невядома, як і калі дайшло да палону, можна толькі меркаваць, што гэта адбылося паміж выправай Казіміра 1349 г. (тады Любарт заставаўся ў Луцку) і апісаным вышэй паходам 1351 г.

Венгерскі кароль накіраваўся з войскам дадому, забраўшы з сабой Кейстута. Аднак, праз тры дні Кейстут са сваімі ліцвінамі паціху, пасярод ночы, пакінуў лагер, вярнуўся да сябе і выпусціў венгерскіх закладнікаў. "*Кароль, даведаўшыся, што як ён сам, так і кароль Польшчы былі так асмешаныя, моцна разам з ім засмуціўся, але ўжо нічога направіць не маглі*"[184]. Паход супраць ВКЛ быў сарваны і ўдаваная нязгода (самадзейнасць, адасобленасць Кейстута ад Альгерда) паміж дуумвірамі закончылася.

Да 1351 г., а паводле іншага варыянту летапісу, да 1358 г., адносіцца паведамленне пра ўзвядзенне мураваных сцен, вежаў і палаца ў Віцебску[*].

[*] "Року 1351 (1358). Замок Витебский и вежу змуровала Улияна княгиня, || жона Олгердова, в небытности Олгерда, гды был на войнѣ пруской, также и палац от Нижнего замку праве вспанялый велми, и муром округ обвела з баштами вынеслыми и вежами, которого потым зламано, тылко теперь една стѣна стоит на памятку."

ПСРЛ. Т. 32. Хроника Литовская и Жмойтская. С. 45.

Паводле пісьмовых крыніц і археалагічных даследаванняў, тут маецца на ўвазе віцебскі Верхні замак. Будаўніцтва, па меркаванні спецыялістаў, пачаў у пачатку 30-х г. 14 ст. Альгерд, а завяршыла, каля сярэдзіны 14 ст., ягоная жонка. Лічыцца, што ўжо ў 14 ст. віцебскі Верхні замак быў магутным васьмівежавым абарончым збудаваннем. Вежы мелі па тры-чатыры яруса ў вышыню, а таўшчыня муроў ля падэшвы склада-

[184] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 100.

ла 3 м[185]. Такое буйное мураванае будаўніцтва на ўсходнебеларускіх землях на тыя часы было ўнікальнай з'явай.

Каля 1351 г. да Смаленскай, Кіеўскай, Чарнігаўскай зямель і да Паўночна-Усходняй Русі дабралася "Чорная смерць"[*]. У 1352 г. чума пустошыла Пскоў.

[*] "Тогоже лѣта бысть моръ силенъ зело в Смоленскѣ ї в Киеве, ї в Черимгове и в Суздале, и во всей землѣ рустеи смерть люта, и напрасно и скора. И бысть страхъ и трепетъ велии на всѣхъ человѣцехъ. В Глухове же тогда ни единъ человѣкъ не остася, вси изомроша, сице же и на Белѣ озере."

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 198.

## 2.3.3. Перамір'е 1352 г. Падзел галіцка-валынскай спадчыны

Польска-ліцвінская вайна ў Галіцка-Валынскай Русі працягвалася да восені 1352 г. На баку ліцвінаў ваявалі татары, палякам дапамагалі венгры. Усе ўдзельнікі барацьбы мелі прамыя ці апасрэдкаваныя прэтэнзіі на Галіцка-Валынскую Русь. Акрамя ліцвінскіх князёў, кроўна зацікаўленых у захаванні сваіх уладанняў (Любарта, сыноў Карыята, Юрыя Нарымунтавіча), у справу былі напоўніцу ангажаваныя як Кейстут, так і вялікі князь Альгерд (апошні - больш дыпламатычна). Па ўсёй верагоднасці, менавіта вялікі князь літоўскі майстэрскай дыпламатыяй дамогся спачатку нейтралітэту, а потым ваеннай дапамогі ад Залатой Арды[186].

У лютым-сакавіку 1352 г. венгерскі і польскі каралі правялі сумесны паход у Белзскую зямлю (уладанне Юрыя Нарымунтаваіча), дэталёва апісаны ў венгерскай хроніцы. Людовік Венгерскі месяц (з 22 лютага да 21 сакавіка) дабіраўся з Буды да Белза, дзе сустрэўся з Казімірам III, які прывёў вялікае польскае войска.

У той самы час Кейстут з Альгердам былі занятыя на іншым кірунку – у лютым 1352 г., у адказ за напад ордэнскага войска на Жамойць, яны выправіліся паходам на Прусы. Храніст паведамляе, што ліцвіны выступілі адразу, як толькі ордэнскае войска вярнулася. Выглядае на тое, што дуумвіры заранёў збіралі сілы для паходу на Прусы, у тым ліку здалёк, бо, акрамя Альгерда і Кейстута, у ім удзельнічаў "смаленскі кароль", якога храніст называе сынам Кейстута. Нечакана ўвайшоўшы на варожую тэрыторыю, ліцвінскія войскі падзяліліся на пяць аперацыйных аддзелаў. Сын Кейстута, шукаючы броду праз раку, ледзьве не ўтапіўся, але крыжацкі комтур Хэннінг Шындэкопф (будучы вялікі маршал) яго ўратаваў і адправіў да бацькі, каб зрабіць паслугу Кейстуту[*].

[*] "Брат Хэннінг Шындэкопф моцны адпор даваў кіямі і інш., адбіў паганаў ад востраколаў, якія па-мясцоваму завуцца шлагэ; язычнікі накіраваліся да ракі, называнай Дэйме, у якую кароль увайшоў і амаль не ўтапіўся. .

[185] Кушнярэвіч А.М. Мураваная дабастыённая фартыфікацыя Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Беларуская навука, 2014. С. 124 – 127.

[186] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 50.

У гэтай рацэ, аднак, утапілася шмат яго людзей у колькасці 500, якіх плынь ракі занесла ў возера, якое звычайна называецца Вільдэ Хаб, дзе кароль, шукаючы броду, амаль не загінуў, што ўбачыўшы, брат Хэннінг выцягнуў караля з ракі Дэйм і, узрадаваны, паклаў яго на воз і паслаў дадому, **захацеўшы спадабацца каралю Кейстуту** (выдзелена мною – *А.К.)*, бо то быў ягоны сын, і аддаць яму як вялікі падарунак".

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 92 – 97.

**Каментар**: Апісаны эпізод – сведчанне вялікага аўтарытэту Кейстута сярод ворагаў

Потым той самы комтур, пайшоўшы следам за ліцвінамі, захапіў у палон 45 чалавек, якіх загадаў забіць і ўтапіць[187].

Венгерскі і польскі каралі ў сакавіку 1352 г., стаўшы ля Белза, павялі перамовы з ваяводам, якога венгерскі храніст называе Дрозге (Drozge; некаторыя гісторыкі лічаць, што гэта быў сам уладальнік зямлі – князь Юры Нарымонтавіч), патрабуючы здаць горад. Ваявода зацягваў перамовы, каб падрыхтаваць замак да абароны, а на восьмы дзень, 28 сакавіка, аб'явіў, што будзе біцца. Яшчэ некалькі дзён саюзнікі рыхтавалі штурм, які распачалі 31 сакавіка. Храніст апісвае, як рыцары па шыю ў вадзе пераадолелі абарончы роў, а калі наблізіліся да валоў, на іх паляцелі стрэлы, камяні і вялізныя бярвенні. У баі загінуў сваяк караля Людовіка - князь Уладзіслаў, а самому каралю добра прылажылі нейкім "драўляным молатам" (пэўна, паліцай). У замку, паводле хронікі, ад стрэлаў палягло 300 чалавек, але страты сярод венграў і палякаў былі нашмат большыя. Тады кароль Людовік намовіў польскага караля спыніць штурм і пачаў новыя перамовы з ваяводам. У выніку, дзеля захавання венгерскага гонару, бакі дамовіліся пра сімвалічны жэст – ваявода прызнаў вяршэнства Людовіка, зняў з вежаў свае сцягі (выява галавы чалавека з чорнымі валасамі) і вывесіў венгерскія.

На зваротным шляху саюзнікаў дагнала вестка пра набліжэнне татарскага войска, што прыспешыла іх адыход. Татары разам з ліцвінамі спустошылі Галіччыну і дабраліся да польскіх зямель, найперш Люблінскай. Казімір III напісаў Папе пра цяжкія спусташэнні яго ўладанняў, і Клімент VI булай ад 15 траўня 1352 г. заклікаў Польшчу, Венгрыю і Чэхію ў крыжовы паход супраць татараў ды іншых няверных. Рэальнага выніку гэты заклік не меў. Казімір III самастойна рыхтаваўся да працягу вайны, але, паколькі скарб быў пусты, браў крэдыты ў царкоўных іерархаў, мазавецкіх князёў і ад Ордэна (пад заклад царкоўных каштоўнасцей). Акрамя таго, заклаў мазавецкім князям горад Плоцк, а Ордэнскай дзяржаве – Добжыньскую зямлю[188].

Вайна працягвалася летам і ў пачатку восені. Па некаторых звестках, у чэрвені 1352 г. ліцвіны зноў напалі на польскія землі, а ў жніўні-верасні Казімір III быў у паходзе супраць Літвы. Дзесьці ў верасні падпісалі перамір'е тэкст якога захаваўся і неаднаразова публікаваўся[*].

[*][Каля 1352.IX]. [Месца не пазначана]. Князі Яўнут, Кейстут і Любарт, Юрый Нарымунтавіч і Юрый Карыятавіч, таксама ад імя вялікага князя Альгерда, Карыята, Патрыкея і іх сыноў, заключаюць перамір'е з каралём Польшчы Казімірам, з Земавітам і яго братам Казімірам Мазавецкім.

[187] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 96 – 97.

[188] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 102 – 103.

Арыгінал у XVI ст. захоўваўся ў Кракаўскім каронным архіве. Яго змест лаканічна пераказаны ў інвентары Марціна Кромера (1551). У першай трэці XIX ст., па сведчанні К. Странчыньскага, дакумент быў выпадкова знойдзены ў стосе папер на паддашку палаца Красіньскіх у Варшаве. Пазьней ён быў змешчаны ў Галоўны архіў Царства Польскага. Цяперашнее месцазнаходжанне і сігнатура: AGAD. Zbiór pergaminów, № 651. Пергамен даўжынёй 225 мм, шырынёй 254 мм зверху і 240 мм знізу (абмеры паводле У. Розава). Пячатка, першапачаткова падвешаная на пергаменнай стужцы, страчаная.

Асноўныя публікацыі: Stronczyński K. Wzory pism dawnych w przerysach wystawione i objasnione drukowanem ich wyczytaniem. Cz. 1, obejmująca pismo dyplomatów od roku 1228 do 1536. Warszawa, 1839. S. 98-99, № 90 (лацінкай з літаграфічным здымкам, дата: circa 1342); Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографическою комиссиею. Т. 1. 1340-1506. СПб., 1846. № 1 (дата: после 1340); Карский Е.Ф. Два древнейших русских документа Главного архива Царства Польского в Варшаве // Древности. Труды Археографической комиссии Императорского Московского Археологического общества. Т. 1. Вып. 3. М., 1898. С. 546; Соболевский А.И., Пташицкий С.Л. Палеографические снимки с русских грамот преимущественно XIV века. СПб., 1903. № 46 (факсімільны здымак); Розов В. Українські грамоти. Том 1. XIV в. і перша половина XV в. Київ, 1928. С. 4-7, № 3 (паводле факсіміле Сабалеўскага і Пташыцкага; дата: на Волыни в июне-сентябре 1352 г.); Грамоти XIV ст. / Упорядк., вступн. стаття, коментарі і словники-покажчики М.М.Пещак. К., 1974. С. 29-31, № 14 (за выданнем У. Розава і з дадаткам факсіміле). Электронная версія зроблена паводле транслітарацыі У. Розава. Для лепшага чытання тэкст разбіты на абзацы. Пунктуацыя сучасная. Кірылічныя лічбы змененыя на арабскія.

Дата: Са спасылкай на М.С. Грушэўскага (Грушевський М.С. Історія України-Руси. Т. 4. XIV – XVI віки – відносини політичні. Вид. 2. Київ – Львів, 1907. С. 444-445) У. Розов зазначыў: «Я склоняюсь въ пользу мнѣнія Грушевскаго, что договоръ былъ заключенъ между днемъ Ивана Купалы и Покровомъ 1352 г. « (Розов В. Українські грамоти. С. 5).

Вѣдаи то каждыи ч(е)л(о)в(е)къ, кто на тыи листъ посмотрить.

Ѡже я, кнѧзь Еоунутии, и Кистютии, и Любартъ, | Юрьии Наримонътовичь, Юрьии Корьятовичь, чинимы миръ твердыи ис королемь Казимиромь Поль|скъмь [sic] и Сомовитомь и съ его братомь Казимиромь Мазовьскымь и съ его землѧми Краковь|скою и Судомирьскою, Сирѧзьскою, Куявьскою, Лучичьскою, Добрыньскою, Плотьскою, Ма|зовьскою, Люблиньскою, Сетѣховьскою и со Львовьскою.

А за велкого [sic] кнѧзѧ Ѡлькѣрта, и за | Корьята, и за Патрикия, и за ихъ сыны мы ислюбуемъ тотъ миръ держати вѣлми твердо | безо всѧкоѣ хитрости.

Не заимати намъ королевы землѣ, ни его людии, што его слухають.

Коро|леви держати Лвовьскую землю исполна. А намъ держати Володимѣрьскую, Луцкую, Бе|лзьскую, Холмьскую, Берестиискую исполна жь.

А миръ ѿ Покрова Б(огороди)цѣ до Ивана дне до | Купалъ. А ѿ Ивана дне за 2 лѣт.

А городовъ оу Рускои земли новыхъ не ставити, ни сожь|женого не рубити, доколѧ миръ стоить за 2 лѣт. А Кремѧнець держати Юрью Наримонъ|товичю ѿ князии литовьскыхъ и ѿ королѧ за 2 лѣт, а города не рубити. А коли миръ стане|ть, Юрью кнѧзю города лишитисѧ.

Аже поидеть оугорьскыи король на Литву, польскому | королеви помагати. Аже поидеть на Русь, што Литвы слушаеть, королеви не помагати. |

А поидеть ли царь на лахи, алюбо кнази темнии, кназемъ литовьскымъ помагати. | Аже поидуть на Русь, што корола слушаеть, литовьскимъ кназемъ не помагати.

А про | Любартово ятъство хочемъ его поставити на судѣ передъ паны оугорьскими. По ишествь|иС(вя)т(о)го Д(у)ха за 2 нед(е)ли литовьскимъ кназемъ стати оу Холмѣ, а королеви оу Сточьцѣ. | Кде смолвать, тутъ будеть судъ тагатиса ис королемь. Будеть ли ялъ его король по | кривдѣ, Любартъ будеть правъ. И я, кназь Кистютии, буду правъ передъ въгорьски|мь королемь. Будеть ли король правъ, намъ своего брата Любарта дати оугорьскому ко|ролеви оу ятъство.

А коли будеть по миру кто не оусхочеть далѣи миру держати, тотъ | ѡтовѣсть. А по ѡтовѣдѣньи стояти миру за мѣсаць.

Аже поидуть тарове [sic] на Львовьскую | землю, тогда Руси на львовьцѣ не помагати. Аже поидуть тарове на лахы, тогда Руси | невола поити ис татары.

А оу томь перемирьи кто кому криво оучинить, надобѣ са оупо|минати старѣишему и оучинити томуи[съ]праву. Оучинит[ь] которыи добрыи ч(е)л(о)в(е)къ | кривду, любо воевода, алюбо панъ, оучинити исправу ис нимь. Аже самъ не можеть | заплатити тотъ истиньныи што же оуложать его оу вину - хочеть ли самъ король | заплатити за нь, а его дѣдичьство собѣ оузати. Не оусхочеть ли король самъ за|платити, дасть тому то дичьство [sic], кто его потажеть.

А за избѣга: можемь его до|быти и выдати. Аже его не можемъ добыти, можемъ его иска [sic] съ ѡбою сторону. Аже | побѣгнеть русинъ алюбо руска или во Львовъ, или холопъ чии или роба - выда|ти его.

А што тои грамотѣ писано, тую жь правду литовьскымъ кназемъ де|ржати.

А на то есмы дали своѣ печати.

Паводле: http://starbel.narod.ru – Гісторыя Беларусі IX–XVIII стагоддзяў. Першакрыніцы

**Каментар**: З тэксту пераміp'я вынікае, што ягоныя ўмовы дэталёва абмяркоўваліся і дыскутаваліся. Пра гэта сведчаць адпрацаваныя да дробязяў кампрамісныя фармулёўкі, якія ўлічвалі розныя варыянты развіцця падзей. Аднак, цалкам зняць супярэчнасці не ўдалося, таму дамову назвалі пераміp'ем, а канчатковае вырашэнне справы адклалі на два гады. Хоць пераміp'е не пратрымалася да канца абгаворанага тэрміну, яно фактычна акрэсліла падзел Галіцка-Валынскай зямлі на наступныя паўтара дзесяцігоддзя.

Пераміp'е мела працягвацца два гады. Галіцка-Валынская спадчына была падзеленая наступным чынам: Казімір III атрымаў Львоўскую зямлю, а ліцвінскія князі – Луцкую, Уладзімірскую, Холмскую і Берасцейскую. Крамянец часова, на два гады, пакуль будзе рыхтавацца мірная дамова, аддаваўся ва ўладанне Юрыю Нарымунтавічу адначасова ад ВКЛ і ад Польшчы. Спецыяльна абгаворвалася справа палону Любарта (ад таго, ці па праву яго паланіў польскі кароль, залежала выплата выкупу), якая перадавалася на суд венгерскага караля.

Бакі стараліся нeяк дапасаваць дамову да абавязкаў перад іншымі саюзнікамі. Так, дамовіліся, што, калі венгерскі кароль пачне паход супраць Літвы, то польскі кароль абавязаны дапамагчы ліцвінскім князям; калі ж мэтай паходу будуць валынскія ўладанні ВКЛ, то тады польскай падтрымкі не будзе. (Казімір III тут асабліва не рызыкаваў пасварыцца з венгерскім саюзнікам, бо таму было няпроста дайсці да ўласна Літвы праз усе яе рускія землі). І наадварот, ліцвіны абавязаліся дапамагаць палякам у выпадку нападу на іх землі татараў, і не прысылаць дапамогі, калі будуць атакаваныя галіцкія ўладанні Казіміра III. Русінам з уладанняў ВКЛ нельга было ісці з татарамі пры нападзе апошніх

на Львоў і польскія землі. Прадугледжваліся меры стрымання для тых, хто парушыць перамір'е і абавязак вяртаць беглых людзей з абодвух бакоў.

Адсутнасць сярод падпісантаў вялікага князя Альгерда, відавочна, выкліканая ягонай занятасцю на другім канцы Русі – разборкамі з маскоўскім князем пад Смаленскам.

Канфлікт Літвы з Польшчай і Ордэнам не прамінуў выкарыстаць маскоўскі князь, што прывяло да новага абвастрэння маскоўска-ліцвінскіх адносін. Сямён Іванавіч вырашыў вырваць з-пад уплыву ВКЛ Смаленск, дзеля чаго сабраў войскі, свае ды васальных паўночна-рускіх князёў, і пайшоў на горад "ратью". Альгерд замест збройнага адпору выслаў пасольства "з многімі дарамі" дамаўляцца пра мір. Сямён Іванавіч мір з Літвой прыняў, але не спыніў марш войскаў у бок Смаленска. Маскоўская рацць дайшла да ракі Угры, дзе стаяла на працягу тыдня, пакуль пасольства Сямёна Іванавіча не прыйшло да пагаднення наўпрост са смалянамі[189] (напэўна, пра нейкую форму падпарадкавання іх вялікаму князю ўладзімірскаму).

Разам са Смаленскім княствам маскоўскаму князю (дакладней, вялікаму князю ўладзімірскаму) тады падпарадкоўвалася і Бранскае княства. Выказвалася меркаванне, што саступка Альгердам сюзэрэнітэту над гэтымі землямі татарскаму васалу была платай Ардзе за падтрымку ў вайне з Польшчай[190].

Не спынялася ліцвінска-маскоўская барацьба за кантроль над праваслаўнай царкоўнай іерархіяй на ўсходнеславянскіх землях: *"Пасля таго як мітрапаліт Пётр і яго пераемнік Феагност адкрыта прынялі бок Масквы, а Феагност перанёс у Маскву сваю рэзідэнцыю, Альгерд не мог больш разглядаць "митрополию Киевскую и всея Руси", як нейтральны інстытут"*[191]. Калі Канстантынопальскі Патрыярх адмовіўся высвяціць кандыдата ВКЛ на кіеўскага мітрапаліта – манаха Феадарыта, Альгерд арганізаваў пасвячэнне таго Тарноўскім (балгарскім) Патрыярхам, што выклікала абурэнне ў Канстантынопальскім Патрыярхаце. У 1352 г. новы рускі мітрапаліт Феадарыт прыбыў у Кіеў, і яго прызнаў Вялікі Ноўгарад[192].

Вайна за Галіччыну і Валынь, ордэнска-ліцвінскія і ліцвінска-маскоўскія канфлікты былі важнымі, але ўсё ж рэгіянальнымі падзеямі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У той самы год, калі польска-ліцвінскае перамір'е фактычна замацавала падзел галіцка-валынскай спадчыны, быў пакладзены пачатак з'яве агульнаеўрапейскага маштабу з далёкасяжнымі палітычнымі і цывілізацыйнымі наступствамі: туркі здабылі першы плацдарм на еўрапейскім беразе Дарданэлаў. У 1352 г. Асманскі эмірат захапіў замак Цымпе на паўвостраве Галліполі. Турэцкая экспансія стала жахам Еўропы на наступныя пяць стагоддзяў.

Для ВКЛ у гэты год закончыўся, здавалася б кароткі (нейкіх чатыры гады) але ж такі цяжкі перыяд стратэгічнага адступлення, калі даводзілася менш наступаць, а больш бараніцца і пускаць у ход дыпламатычныя хітрыкі. Але браты-дуумвіры не складалі рук – ваявалі, збіралі сілы, чакалі спрыяльных абставін, каб рушыць далей, на ўсход. Такія абставіны неўзабаве з'явіліся, і ў немалой ступені яны былі плёнам цяжкай працы ліцвінскіх гаспадароў.

---

[189] Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 198.

[190] Горский А.А. Москва и Орда. С. 75 – 76; ён жа. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы… С. 96 – 97.

[191] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). Тверь: «РИФ ЛТД», 1994. С. 169.

[192] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich // KH. 1897. R. 11. S. 3 – 4.

# Глава 3 “*Не спыніць, не стрымаць...*”. Літва – супердзяржава Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (1353 – 1377 г.)

Пасля заключэння польска-ліцвінскага перамір'я восенню 1352 г. міжнародная сітуацыя ва Усходняй Еўропе неяк раптоўна пачала змяняцца на карысць ВКЛ. У лютым 1353 г. Альгерд з Кейстутам правялі чарговы рабаўнічы паход на Прусы і прывялі шматлікі палон[193]. Увогуле, пасля паразы ля ракі Стрэве ВКЛ атрымала дадатковыя праблемы з многіх бакоў, толькі, як ні дзіўна, не ад свайго пераможцы – Ордэна. Ад 1348 да 1360 г. крыжацка-ліцвінскае змаганне не вызначалася асаблівай напругай. Ордэнскія войскі хадзілі паходамі толькі на жамойцкія землі і не чапалі Літву. Пэўна, сваю ролю адыгралі людскія страты ў Прусах ад “Чорнай смерці”, ліцвінска-імперскія перамовы і рашучыя дзеянні дуумвіраў, якія практычна на кожны жамойцкі паход крыжакоў адказвалі моцным ударам на Прусы[194].

Ад таго часу і да канца гаспадарання Альгерда Гедымінавіча ВКЛ няўхільна набірала сілу. Перашкодзіць гэтаму не маглі ні актывізацыя ордэнскай экспансіі (з 1361 г.), ні чарговы напад польскага караля (у 1366 г.), ні процідзеянне Масквы.

## 3.1. БАІ ЗА ГАЛІЧЧЫНУ І ВАЛЫНЬ У 1353 – 1356 г.

Перамір'е з палякамі ўжо ў 1353 г. было парушана ліцвінскім бокам, а менавіта Любартам Гедымінавічам, які прагнуў вярнуць кантроль над Галіччынай. Ён мог спадзявацца на вайсковую падтрымку не толькі Кейстута, але і Альгерда, бо з-за раптоўнай смерці маскоўскага князя (памёр ад чумы 26 красавіка 1353 г.) непрыемнасцей на ўсходняй мяжы нейкі час не прадбачылася. У сакавіку таго ж 1253 г., у Маскве ад чумы памёр мітрапаліт Кіеўскі і ўсёй Русі Феагност, што выклікала востры канфлікт за яго месца паміж маскоўскім і ліцвінскім кандыдатамі.

Маскоўскі пасад заняў Іван Іванавіч – брат Сямёна Іванавіча, наступны па старшынстве сын Каліты (кіраваў у 1353 – 1359 г.). Ягоным супернікам у барацьбе за трон вялікага князя ўладзімірскага выступіў ніжагародска-суздальскі князь Канстанцін Васіллевіч. Справа вырашалася ў Ардзе, куды прыбылі абодва князя. Для падтрымкі Канстанціна Васіллевіча свае пасольства прыслаў Вялікі Ноўгарад. Хан Джанібек прыняў рашэнне на карысць маскавіта, і Іван Іванавіч узышоў на ўладзімірскі трон 25 сакавіка 1354 г.[195] А сын суздальскага князя ў тым годзе ажаніўся з дачкой Альгерда Агрыпінай[196].

Ліцвінска-польская вайна ў 1353 г. праходзіла, як звычайна ў сярэднявеччы, у выглядзе паходаў на варожую тэрыторыю. Ліцвінскія войскі пад камандай Любарта тройчы атакавалі ўладанні Казіміра III. У траўні знішчылі Львоў, у ліпені – Галіч, у верасні пустошылі ваколіцы Завіхоста ў Сандомірскай зямлі[197]. У кастрычніку Казімір III у адказ хадзіў на Белз – уладанне Юрыя Нарымунтавіча, які, па ўсёй верагоднасці, падтрымліваў

---

[193] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 96 – 97.

[194] Łowmiański H. Agresja Zakonu Krzyżackiego na Litwę w wiekach XIII – XV. S. 205 – 206.

[195] Горский А.А. Москва и Орда. С. 77.

[196] ПСРЛ. Т. 8. Продолжение летописи по Воскресенскому списку. Санкт-Петербург, 1859. С. 9; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 95.

[197] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 104; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 64.

у вайне Любарта. Аднак, акрамя гора мясцоваму насельніцтву, гэтыя баі нікому нічога не прынеслі, – межы уладанняў не змяніліся. Як і раней, баявыя дзеянні дасягалі ўласна польскіх зямель і ніколі не даходзілі да Літвы.

У наступным годзе разгарэлася дыпламатычнае ліцвінска-маскоўскае суперніцтва за пасаду мітрапаліта Кіеўскага і ўсёй Русі. Яшчэ пры жыцці мітрапаліта Феагноста ў Маскве падрыхтавалі яму замену – Алексія з баярскага роду Пляшчэевых[198]. У 1354 г. той паехаў у Канстанцінопаль, дзе патрыярх высвяціў яго на мітрапаліта Русі і санкцыянаваў перанясенне рэзідэнцыі з Кіева ва Уладзімір на Клязьме[199]. Алексій яшчэ не выехаў з Царграда, як прыехаў новы кандыдат у мітрапаліты ад гаспадара Літвы – Раман (княскага роду, сваяк другой жонкі Альгерда). Пэўна памятаючы, як на два гады раней, пасля адмовы ліцвінскаму кандыдату ў Канстанцінопалі, той быў высвячаны ў Балгарыі, патрыярх Філафей на гэты раз высвяціў і Рамана, аддаўшы яму Літву і Валынь з кафедрай у Наваградку (гэта азначала аднаўленне Літоўскай мітраполіі). Раман дамагаўся падпарадкаваць Кіеў і Бранск, рабіў распараджэнні ў Цверы, але ўжо ў 1362 г. ён памёр. Алексій, які жыў у Маскве, стаў пасля смерці Івана Іванавіча сапраўдным правіцелем Маскоўскага княства пры малалетнім Дзмітрыі Іванавічы і заўзята бараніў маскоўскія інтарэсы. Нават адлучаў ад царквы князёў, якія ўступалі ў саюз з Літвой.

У 1354 г. меў непрыемнасці ад свайго рэлігійнага патрона Інфлянцкі ордэн: папа Інакенці VI адлучыў яго ад царквы. Ініцыятарам **інтэрдыкту**[*] быў рыжскі архібіскуп, які беспаспяхова дамагаўся ад ландмайстра леннай прысягі[200].

[*] **Інтэрдыкт** (лац. interdictum – забарона) у сярэднявечнай каталіцкай царкве часовая забарона богаслужэнняў і абрадаў на пэўнай тэрыторыі. Выкарыстоўваўся папамі для барацьбы з ерэтыкамі і палітычнымі праціўнікамі.

Смирнова Е.Д. и др. Средневековый мир в терминах, именах и названиях С. 147.

Польскі кароль Казімір III, не маючы сілы самому збройна справіцца з ліцвінамі, пачаў шукаць саюзнікаў ва ўсіх кірунках. Звярнуўся па дапамогу да рымскага першасвятара, венгерскага караля (у папы і ў караля Людовіка яшчэ пазычыў грошы), чэшскага караля, гросмайстра Тэўтонскага ордэна і нават уступіў у перамовы з татарамі.

Папа Інакенцій VI адгукнуўся і восенню 1354 г. (булай ад 10 лістапада) заклікаў Польшчу, Чэхію і Венгрыю ў крыжовы паход супраць татараў і ліцвінаў; акрамя таго, зноў аддаваў Казіміру III царкоўную дзесяціну з польскіх зямель на наступныя чатыры гады. Чэшскі кароль і германскі імператар Карл IV меў прыцягнуць да вайны з ліцвінамі Брандэнбург (маркграф абяцаў у сакавіку 1355 г. прыняць удзел у выправе на Літву). Венгерскі кароль адпісаў, што з'явіцца сам або прышле войска, большае чым калінебудзь раней. У лісце да гросмайстра ад 1355 г. польскі кароль паведамляў, што яму на дапамогу прыбылі сем татарскіх князёў з войскам[201].

Звестак пра паход 1355 г. амаль не захавалася. Вядома, што ў ім удзельнічалі польскія, венгерскія, магчыма, мазавецкія войскі. Казіміру III, верагодна, удалося здабыць Уладзімір-Валынскі, бо існуе звестка, што ў наступным, 1356 г., палякі страцілі яго ў выніку ліцвінскага паходу. У гістарыяграфіі прынятае меркаванне, што крыжо-

[198] Знаменский П.В. История Русской Церкви. С. 57 – 58.

[199] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich. R. 11. S. 6 – 7, 14.

[200] Manteuffel G. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. S. 41.

[201] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 396 – 397.

вая выправа 1355 г. закончылася няўдачай з-за дыверсіі войскаў Тэўтонскага ордэна. Калі Казімір III з саюзнікамі знаходзіўся на Валыні, браты-рыцары атакавалі Мазовію[202]. Мазаўшанам стала не да ліцвінаў, і Казімір не меў іншага выйсця, як спыніць паход і бараніць свайго саюзніка.

Такая своечасовая збройная падмога ад паўночных суседзяў была несумненнай заслугай дыпламатыі ВКЛ. Пры гэтым фармальна Ордэн не парушаў Калішскага міру з Польшчай. Гэта быў другі ў гісторыі (з перапынкам ў стагоддзе) ваенны саюз Літвы з Ордэнам. Першы стварыў Міндаўг з інфлянцкай філіяй у 1251 г.

Польскі кароль паскардзіўся на крыжакоў папе і гросмайстар меў прыкрасць ад Інакенція VI: булу ад 17 лістапада 1356 г. з вымовай за беспадстаўны напад на ленныя землі польскага караля, захоп і незаконнае ўтрыманне некалькіх мазавецкіх замкаў[203]. Затое ад ВКЛ Ордэн атрымаў вольную дарогу для сваіх купцоў праз Літву да яе галіцка-валынскіх уладанняў. Менавіта да 1355 г. належыць аднесці стварэнне недатаванай граматы Любарта з Кейстутам з дазволам свабоднага праезду торуньскім купцам праз Падляшша і Берасце на Валынь[*]. У акце няма гаворкі пра Уладзімір, які якраз у той час быў часова заняты палякамі; акрамя таго, грамата з'яўляецца дакументальным сведчаннем прыналежнасці да ВКЛ (да ўладанняў Кейстута) усяго Падляшша[204].

[*] [Дата і месца не пазначаны]. Князі Кейстут і Любарт дазваляюць жыхарам Торуня ездзіць гандляваць у Луцк праз Дарагічын, Мельнік і Бярэсце.

Арыгінал у 1840 г. спрабаваў адшукаць у Торуньскім гарадскім архіве П.І. Прэйс, які пісаў у сваёй справаздачы: «В Торне я надеялся найти грамоту, может быть, древнейший памятник белорусского наречия, о которой мне сказывал профессор Фохт. За 20 лет пред сим он имел эту грамоту в руках; теперь ее нет в городском архиве. Пропала также весьма важная грамота литовского князя Кейстута» (Журнал Министерства народного просвещения. Ч. 28. 1840. Аддзел IV. С. 14). Па пазнейшых звестках І.І. Сразнеўскага (1861), дакумент знаходзіўся ў Кёнігсбергскім таемным архіве. Цяперашняе месцазнаходжанне граматы невядомае. Пра яе палеаграфію можна меркаваць па літаграфічнаму здымку, які надрукаваў І.І. Сразнеўскі. - Копія 1 (звесткі М.М. Пешчак): Санкт-Пецярбургскі філіял архіва РАН. Ф. 216, воп. 1, № 39, л. 47.

Асноўныя публікацыі і літаратура: Срезневский И.И. Древние памятники русского письма и языка: Общее повременное обозрение: (Продолжение) // Известия Императорской Академии наук по Отделению русского языка и словесности. Т. X. Вып. IV. СПб., 1861. Стлб. 297-298 (дата: пасля 1341); Яго ж. Древние памятники русского языка и письма (X-XIV вв.). СПб. 1863. С. 245; Яго ж. Древние памятники русского языка и письма (X-XIV вв.). Приложение: снимки с грамот. СПб., 1866. С. 92, № 39 (літаграфічны здымак); Яго ж. Древние памятники русского языка и письма (X-XIV вв.). 2-е изд. СПб., 1882. Стлб. 191-192; Смирнов А. Сборник древнерусских памятников и образцов народной русской речи. Варшава, 1882. С. 57, № 54 (за выданнем І.І. Сразнеўскага); Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. XIV–XVI віки – відносини політичні. Вид. 2. Київ–Львів, 1907. С. 448 (прапанавана дата: пасля 1366); Крымский А. Украинская грамматика. Т. 1, вып. 2. М., 1908. С. 532 (за выданнем І.І. Сразнеўскага);

[202] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 157.

[203] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 105.

[204] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 398.

Куник А.А. Объяснительное введение к грамотам и летописным сказаниям, касающимся истории Червонной Руси в XIV в., с приложением подлинных текстов // Болеслав-Юрий II. СПб., 1907. С. 122 (за выданнем І.І. Сразнеўскага); Розов В. Українські грамоти. Том 1. XIV в. і перша половина XV в. Київ, 1928. С. 1-2, № 1 (за літаграфічным здымкам, які надрукаваў І.І. Сразнеўскі); Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. Л., 1928. С. 55; Грамоти XIV ст. / Упорядк., вступн. стаття, коментарі і словники-покажчики М.М. Пещак. К., 1974. С. 23-24, № 8 (за выданнем В. Розава; перадрукаваны літаграфічны здымак з публікацыі І.І. Сразнеўскага). - Электронная версія зроблена за выданнямі В. Розава і М.М. Пешчак.

Дата: Традыцыйнае датаванне «пасля 1341», прапанаванае ў свой час І.І. Сразнеўскім, засноўваецца на даце смерці в.к.л. Гедыміна, пасля чаго Кейстут і Любарт сталі поўнымі гаспадарамі ў сваіх удзелах. М. Грушэўскі датаваў грамату часам непасрэдна пасля 1366 г., бо ў ёй няма згадкі пра Уладзімір, што можа сведчыць, што горад быў ужо часова страчаны літоўскімі князямі. На думку М.М. Пешчак, «незважаючи на те, що грамота писана від імені обох князів - волинського князя Любарта і брестського князя Кейстута, аналіз її змісту показує, що вона, очевидно, написана в Бресті князем Кейстутом».

Ѡт кнѧза ѡт Кестутѧ и ѡт кнѧза ѡт Либорта [sic] у Торунь к мѣстычемъ. |

Што іесте просили насъ, абыхомъ васъ пустили [1-]до Лучцька търговать[-1] через Берестие, абы вамъ | не закажали, мы хочемъ ради то учинити вамъ: не блюдитесѧ ничего, | поидите. А коли которыи торговець поидеть торговать ис Торунѧ | через Берестие до Лучьска, без печали будте.

А кто поидеть съ се|ю грамотою через Дорогычинъ, чесъ [sic] Мелникъ и черес Берестие до | Лучьска торговатъ ис Торунѧ, ѧзъ, кнѧзь Кестути, не велю ихъ | заимати.

[1-1] Напісана той жа рукой над радком.

Паводле: http://starbel.narod.ru – Гісторыя Беларусі IX–XVIII стагоддзяў. Першакрыніцы

Ліцвінска-ордэнскі саюз супраць Польшчы ў 1355 г. быў аднаразовай акцыяй і не датычыў Жамойці, што пацвярджае яе даволі слабую сувязь з ВКЛ[205]. Пра гэта сведчаць падзеі 1354 – 1356 г. Яшчэ ў 1354 г. Кейстут і Альгерд "з баярамі" хадзілі ў паход на Прусы, а ў 1355 г. браты-рыцары неаднакроць атакавалі саюзніка ВКЛ – Жамойць[206]. Ужо ў студзені 1356 г. "тры каралі" (паводле выразу храніста) – Альгерд, Кейстут і гарадзенскі князь Патрык – спустошылі ваколіцы Алленштайна (сённяшні Ольштын) у Прусіі[207].

У 1356 г. ліцвіны адбілі ў палякаў Уладзімір-Валынскі. Польскі кароль стараўся замацавацца ў Галіцкай зямлі, і вёў там асцярожную талерантную палітыку. 17 чэрвеня 1356 г. Казімір III выдаў прывілей на Магдэбургскае права Львову, але дазволіў мясцовым русінам, армянам, габрэям і татарам захаваць свае правы і звычаі[208].

Дзесьці ў першай палове 1356 г. Казімір заключыў з ВКЛ мірную дамову, якая, верагодна, захоўвала сітуацыю з межамі паводле пераміра 1352 г. Цяпер ужо кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна данесла Папе Інакенцію VI, што ягоны ўлюбёнец, якому першасвятар як духоўна, так і матэрыяльна дапамагае супраць паганаў, згаварыўся з тымі самымі паганамі – ліцвінамі і татарамі. Папа ў буле ад 24 студзеня 1357 г. рэзка выгаворваў поль-

[205] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 399.
[206] Voigt J. Geschichte Preussens. Königsberg, 1827. B. 1. S. 112.
[207] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 100 – 101.
[208] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 106.

скаму каралю за саюз з *"галоўнымі ворагамі веры"* ліцвінамі і паразуменне з татарамі, якім Казімір абавязаўся плаціць "выхад" са сваіх рускіх зямель[209]. Польска-ліцвінская дамова, змест якой нам невядомы, запачаткавала чарговы перапынак у вайне за галіцка-валынскую спадчыну, гэтым разам на цэлае дзесяцігоддзе – да 1366 г., калі Казімір III у чарговы і апошні раз у сваім жыцці ўзяўся за зброю супраць Літвы.

## 3.2. ДЫПЛАМАТЫЯ НА ЗАХАДЗЕ І ПРАРЫЎ НА УСХОДЗЕ (1356 – 1362 г.)

Ход падзей пасля замірэння з Польшчай у 1356 г. паказвае, што ВКЛ не толькі вярнула сваю ранейшую міжнародную пазіцыю, але пачало вырастаць на супердзяржаву ў маштабах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Праўда, Казімір III затрымаў за сабой Галіцкую зямлю, але ў Літвы засталася Валынь, і яна здабывала ўсё новыя рускія землі. Гэта стала магчымым з-за аслаблення Залатой Арды, у якой усё больш пашыраўся працэс дэцэнтралізацыі, абвастрылася дынастычная барацьба. "Вялікая замятня" у татараў пачалася з 1357 г., калі хан Джанібек быў забіты ўласным сынам Бірдзібекам, і працягвалася да 1381 г. (прыход да ўлады Тахтамыша). За 24 гады ў Ардзе змянілася больш чым 25 ханаў[210]. Князям Паўночна-Усходняй Русі, асабліва маскоўскім, дадалося клопатаў. Дзеля легітымізацыі свайго статусу даводзілася ўсё часцей ездзіць у Арду (каб атрымліваць ярлыкі ад аднаго, часам двух і больш новых ханаў), але ў агульным паўночна-рускія князі выйгралі: слабасць Арды давала большыя шансы на ўласнае ўзмацненне.

Аслабленне Арды напоўніцу выкарыстала ВКЛ, якое пачало далучаць новыя землі Русі – залатаардынскія ўлусы. Маскоўскае, Цверскае, Смаленскае княствы спрабавалі спыніць Літву, але без Арды за плячыма мелі на тое няшмат шансаў. За кароткі адрэзак часу (1359 – 1362 г.) ВКЛ далучыла шэраг усходнеславянскіх зямель: Ржэўскую, Бранскую, Мсціслаўскую, Кіеўскую, Падольскую.

1356 г. стаў пераломным у ліцвінскай усходняй палітыцы. У той год Літва вярнула ад палякаў Уладзімір-Валынскі, а восенню Альгерд правёў паход супраць Бранска і Смаленска і пашырыў ліцвінскі плацдарм на поўначы Смаленскай зямлі, пасадзіўшы свайго стаўленіка ў Ржэве. Гэты горад з дапамогай ліцвінскага войска заняў сын сіжскага князя Іван (Сіжка – адна з валасцей Ржэўскай зямлі)[211]. Аднак то быў толькі пачатак змагання паміж Літвой і Масквой за гэтую стратэгічную воласць. На працягу 14 ст. яна яшчэ неаднакроць пераходзіла з рук у рукі.

У 1356 г. новы маскоўскі князь парадніўся з родам Гедыміна, выдаўшы сваю дачку за сына Карыята Гедымінавіча Дзьмітрыя, па мянушцы Баброк[212]. Гэтае шлюбнае паразуменне (як і ранейшыя), калі і аслабіла напружанне ў ліцвінска-маскоўскіх адносінах, то ненадоўга.

У той год сінод патрыярхаў у Канстантынопалі разглядаў канфлікт паміж мітрапалітамі – маскоўскім стаўленікам Алексіем і літоўскім мітрапалітам Раманам – адносна межаў іх мітраполій. Было прынятае рашэнне пакінуць за Алексіям тытул мітрапаліта Кіева і ўсёй Русі. Літоўскаму мітрапаліту Раману з кафедрай у Наваградку, акрамя полацкай і тураўскай епархій, былі падпарадкаваныя яшчэ і галіцка-валынскія[213].

---

[209] Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae. T. 1. Nr 776. S. 581; Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 106.

[210] Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV – XVI вв. С. 42.

[211] Цемушаў В.М. Ржэўская зямля // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2: Кадэцкі корпус–Яцкевіч. Мн.: БелЭн., 2006. С. 512 – 513.

[212] ПСРЛ. Т. 10. С. 228; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. S. 170 – 171.

[213] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich. R. 11. S. 19.

У 1357 г., пасля смерці бранскага князя Васіля, які меў ярлык ад Арды, у горадзе пачаліся беспарадкі ("мяцеж"), выклікаНыя, як мяркуецца, прыхільнікамі Літвы. Потым, паводле летапісца *"пачаў валодаць Бранскам князь вялікі літоўскі"*[214]. Расейскія гісторыкі лічаць, што паміж мецяжом і пераходам Бранска пад уладу ВКЛ прайшло некалькі гадоў і прапануюць дату – каля 1360 г., бо ў гэты год маскоўскі князь страціў пасаду вялікага князя ўладзімірскага[215], чым скарыстаўся Альгерд, каб заняць горад[*].

[*] Гэтыя важныя падзеі сцісла пераказвае Ніканаўскі летапіс:

"Того же лѣта Алексѣй митрополитъ поиде вдругие в Царьград; а Романъ митрополитъ преже его поиде въ Царьградъ, и того лѣта бысть тамо межи ихъ споръ велии.

Тогожъ лѣта Сижскаго сынъ Иванъ седе с Литвою во Ржеве.

Тоеже осени воевалъ Олгердъ Гедимановичь Врянескъ и Смоленскъ, и у Князя Василья Смоленского полонилъ сына.

(...) Тогоже лѣта прииде изо Царя града пресвещенныи Алексѣи митрополитъ со многою честию отъ Патриярха, и благословениемъ на всю русскую землю.

Također и Романъ митрополитъ прииде изо Царя града отъ Патриярха на Литовскую землю, и на Волынскую.

(...) Тогоже лѣта Князь Василеи прииде из Орды от Царя с пожалованиемъ и сяде на княжении во Брянске, и мало время пребывъ тамо и преставися. И бысть в Брянске мятежъ отъ лихихъ людеи, и замятня велия и опустѣние града; и по томъ нача обладати Брянскомъ Князь великии литовскии. "

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 206 – 207.

У той жа, 1356 г., калі ВКЛ узнавіла свой рух на ўсход, адбылося багата важных падзей і ў іншых краінах Еўропы. У Францыі ў Стогадовай вайне англічане пад Пуацье чарговы раз разграмілі французскае рыцарства і нават захапілі ў палон французскага караля. У Парыжы пачалося антыкаралеўскае паўстанне (1356 – 1358 г.), а імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Германскай нацыі Карл IV 10 студзеня 1356 г. апублікаваў Залатую булу, якая замацавала палітычны падзел Нямеччыны.

## 3.2.1. Дыпламатычныя гульні з Польшчай і Імперыяй у 1357 – 1360 г.

Пасля паразы ў вайне з Літвой 1353 – 1356 г. кароль Польшчы Казімір III чарговы раз адклаў меч і ўзяўся за пяро, каб аднавіць дыпламатычныя кантакты з Гедымінавічамі і ўцягнуць іх пад свой уплыў праз хрышчэнне. Ліцвінскім гаспадарам такая польская палітыка цалкам адпавядала, бо перамовы (не важна на якую тэму) аддалялі пагрозу вайны, прынамсі на час іх правядзення. Вызваляліся сілы для наступу ў Паўночна-Усходняй і Паўднёвай Русі. Хоць дуумвіры не бачылі неабходнасці ўводзіць каталіцызм у праваслаўна-язычніцкай краіне, але афіцыйна абвяшчаць пра гэта не спяшаліся.

Альгерд і Кейстут павялі простую, але эфектыўную дыпламатычную гульню, у якой паказалі сябе нават спрытнейшымі дыпламатамі, чым іх бацька; бо ставілі перад сабой больш канкрэтныя, галоўным чынам, тактычныя задачы. Ліцвінскім уладарам удалося выкарыстаць суперніцтва (магчыма, яны яго самі інспіравалі) паміж польскім

[214] ПСРЛ. Т. 10. С. 228.

[215] Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы... С. 88 – 89.

каралём і германскім імператарам за права іх хрышчэння. Адначасова захоўваўся мір з Тэўтонскім ордэнам, які не мог ваяваць з ліцвінамі ў той час, калі з імі вёў перамовы імператар – апякун Ордэна. Гэта не датычыла Жамойці, якая фармальна не ўваходзіла ў ВКЛ; у 1357 г. крыжакі разам са знатнымі рыцарамі з Францыі, Англіі, Германіі (у тым ліку з графам Нюрнбернскім) прайшлі агнём і мечам па Жамойці, пачалі аблогу Велюны, падчас якой жамойты разграмілі іх лагер[216]. У студзені 1358 г. ордэнскія войскі атакавалі Жамойць з двух бакоў[217].

Дуумвіры прымалі лісты, высылалі адказы, накіроўвалі пасольствы, абяцалі прыехаць на хрышчэнне і не з'яўляліся, адным словам, пакуль можна было, зацягвалі справу. Потым выставілі заведама непрыймальныя ўмовы свайго пераходу ў каталіцтва. У выніку яны выйгралі некалькі гадоў гарантаванага спакою на ўсім заходнім кірунку.

Мірную паўзу на захадзе Альгерд і Кейстут напоўніцу выкарысталі для здабычы новых земляў на падуладнай татарам Русі, дзе якраз складваліся спрыяльныя абставіны – пачалася міжусобіца ў Залатой Ардзе, а ў Маскве князем стаў малалетні Дзмітры Іванавіч.

Польскі кароль і германскі імператар імкнуліся апярэдзіць адзін аднаго ў арганізацыі хрышчэння Альгерда і Кейстута. 17 снежня 1357 г. Папа разгледзеў два звароты Казіміра. У першым лісце кароль нагадваў пра свае старанні прыцягнуць ліцвінаў да каталіцкай веры і прасіў выслаць спецыяльныя лісты да венгерскага караля і германскага імператара, каб тыя дапамагалі бараніць ліцвінаў-неафітаў ад ліцвінаў-язычнікаў. Папа выказаў поўнае адабрэнне. Другім лістом Казімір III прасіў першасвятара перадаць усе касцёлы, якія будуць збудаваныя ў Літве пад уладу гнезненскага архібіскупа, г. зн. падпарадкаваць польскаму іерарху. На гэты ліст была накладзена рэзалюцыя – адкласці рашэнне да высвятлення ўсіх акалічнасцяў справы[218].

У красавіку 1358 г. імператар германскі і кароль чэшскі Карл IV выслаў ліст да ліцвінскіх князёў, у якім намаўляў прыняць каталіцтва і абяцаў за гэта бараніць іх ад ворагаў. У ліпені ў Нюрнберг, дзе сабраўся імперскі сойм, прыбыло пасольства ВКЛ на чале з князем Гедымінавічам (верагодна, Любартам), якое пацвердзіла намер хрышчэння ліцвінаў. Імператар у сваю чаргу выслаў адмысловае пасольства ў Літву ў складзе пражскага архіепіскапа Арнеста, князя Апавы Яна і магістра нямецкай філіі Тэўтонскага ордэна Вольфрама. Было дамоўлена, што вялікі князь літоўскі прыбудзе на хрышчэнне ва Ўроцлаў (уладанне чэшскага караля) на Божае Нараджэнне ў тым жа годзе. Карл IV рыхтаваў ва Ўроцлаве ўрачыстую сустрэчу. Аднак, аказалася, што Альгерд нікуды ехаць не збіраўся, затое прадставіў імператарскім паслам умовы, на якіх гатовы прыняць каталіцызм, менавіта:

- перадача ВКЛ ад Ордэнскай дзяржавы значнай часткі Прусаў, Семігаліі, Куроніі (з выхадам да мора);
- перавод Тэўтонскага ордэна ў стэп для барацьбы з татарамі.

Адначасова Альгерд Гедымінавіч упершыню афіцыйна абвясціў палітычную праграму ВКЛ на ўсходнеславянскіх землях, менавіта, заявіў, што ўся Русь павінна належаць да Літвы[*]. Інфлянцкі храніст прадставіў высланне пасольства як вынік здрады аднаго з немцаў.

---

[216] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 100 – 101.

[217] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 107 – 108.

[218] Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. S. 106.

[*] "Тады ж здарылася, што адзін уяўны сваяк імператара, здрадзіўшы ордэну чалавек, па імені Плаве, распаўсюдзіў для ганьбы ордэна паміж прыбліжанымі імператара чутку пра тое, нібыта ліцвіны хочуць хрысціцца ў каталіцкую веру. Імператар лёгкадумна паверыўшы яму, паслаў для вывучэння справы архіепіскапа пражскага, герцага траппаўскага і нямецкага магістра. Але ліцвіны патрабавалі наступнай пагранічнай лініі: спачатку, пачынаючы ад Мазовіі, да вярхоўя ракі Але; потым па Але ўніз да ўпадзення Але ў раку Прэгель, потым ракою Прэгель да Фрышгафа; потым да мора і адтуль уздоўж мора да таго месца, дзе Дзвіна ўпадае ў мора; потым па Дзвіне ўгору, да таго месца, дзе ў Дзвіну ўпадае рэчка, якая выцякае з возера Лубана, і ад гэтай рэчкі ўздоўж званага возера па прамой дарозе на Русь. Далей, яны патрабавалі, каб ордэн для абароны іх ад нападаў татараў быў пераведзены ў пусткі паміж татарамі і русінамі, і каб ордэн не захоўваў за сабой ніякага права на русінаў, але каб **уся Русь цалкам належала ліцвінам** (у арыгінале: „**omnis Russia ad deberet simpliciter pertinere**", выдзяленне маё – *А.К.*), і сказалі: "*Калі мы дасягнем нашых патрабаванняў, то выканаем волю імператара*". Наступствам таго, паслы, нічога не ўчыніўшы, вярнуліся назад, бо палічылі патрабаванні ліцвінаў непамерна вялікімі."

Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 108; Hermanni de Wartberge Chronikon Livoniae [in:] Scriptores rerum Prussicarum. Leipzig. B. II. S. 80.

Генрык Пашкевіч назваў дзеянні Альгерда ў гэтай справе з хрышчэннем "*палітычнай дыверсіяй, якая ў значнай меры дасягнула сваёй мэты*"[219]. Ліцвінска-імперскія перамовы пацярпелі фіяска, а польскі кароль працягваў палітыку збліжэння з Літвой яшчэ некалькі гадоў. Акрамя ўрэгулявання некаторых памежных справаў, адным з яе вынікаў стала эскалацыя ордэнска-ліцвінскай вайны.

Вядома, што ў чэрвені 1358 г. Казімір III вёў перамовы на польска-ліцвінскім паграніччы, верагодна, з Кейстутам. Лічыцца, што тады былі ўзгодненыя справы пра падзел галіцка-валынскай спадчыны, удакладненне гарадзенска-мазавецкай мяжы, аб шлюбе ўнука Казіміра з дачкой Альгерда[220].

Тым жа годам (14 жніўня) датуецца гарадзенска-мазавецкая пагранічная дамова, якую частка даследчыкаў лічыць фальсіфікатам, створаным у першай палове 15 ст.[221] Аднак дэталёвы палеаграфічны і гістарычны аналіз, праведзены Алегам Ліцкевічам паказаў адсутнасць сур'ёзных падставаў для сумніву ў аўтэнтычнасці дакумента[222]. Выказвалася таксама думка, што захаваны дакумент мог быць створаны ў 15 ст. (да 1434 г.), але на аснове аўтэнтычнага акту пагранічнай ліцвінска-мазавецкай дамовы з 14 ст.[223] Двухбаковая камісія, складзеная з ліцвінскіх баяраў і мазавецкай шляхты, узгадніла кірунак гарадзенска-мазавецкай мяжы на падставе роспытаў мясцовых жыхароў сталага веку.

Сярод пералічаных у дамове старэйшых князёў Літвы не згадваўся Любарт Гедымінавіч (хоць у камісіі ўдзельнічаў яго баярын), адсюль узнікла версія, што ён быў

[219] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 403.

[220] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 158.

[221] Śliwiński J. Grodzieńszczyzna i Podlasie w XV – XVI wieku w Wielkim Księstwie Litewskim (wielkoksiążęce puszcze i włości, eksploatacja, pożary). Olsztyn: Uniwersytet Warmińsko-Mazurski w Olsztynie, 2010. S. 34, 38 – 39, 60.

[222] Ліцкевіч А. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове 13 – 14 ст... С. 14 – 31. У артыкуле даецца таксама дэталёвы аналіз звестак пра лінію мяжы.

[223] Kowalczyk-Heyman E. Rajgród 1360 r. Przyczynek do dziejów granicy mazowiecko-krzyżackiej // KH. R. 113. 2006. Nr.3. S. 6.

тым самым братам вялікага князя, які ў ліпені паехаў у Нюрнберг у пасольства да германскага імператара[224]. Важнасць дакумента палягае ў тым, што ў ім дакладна акрэслены заходні ўчастак мяжы гістарычнай Літвы (уласна Літоўскай зямлі).

У 1359 г. была дасягнутая згода пра ўрэгуляванне межаў паміж польскімі і ліцвінскімі ўладаннямі ў Галіцка-Валынскай зямлі. З польскім каралём падпісалі паграмічныя ўмовы Юры Нарымунтавіч, а таксама прадстаўнік князя Холма (напэўна Юры Карыятавіча) холмскі ваявода Андрэй Шэркаліч з паўнамоцнікам польскага караля люблінскім старастай Гротам з Хробжанаў[225].

У 1360 г. кароль Казімір III давёў да канца справу шлюбу паміж улюбёным ўнукам Казькам – князем слупскім (якога з часам усынавіў, дзеля наступства трона пасля Людовіка Анжуйскага), з дачкой Альгерда Кеннай-Іааннай. Дзеля гэтага, акрамя хрышчэння ў каталіцтва маладой (адбылося дзесьці ў канцы 1359 г.), мусіў прасіць дазволу на шлюб ад папы рымскага, бо маладыя былі кроўнымі сваякамі (Казька – унук дачкі Гедыміна Альдоны-Ганны, а Кенна-Іаанна – унучка Гедыміна)[226].

У 1360 г. палякі пачалі ўзводзіць замак у Райградзе – стратэгічным пункце на мазавецка-ліцвінска-ордэнскім пагранічны ў Візненскай зямлі, якая ад 1351 г. належала да Польскага каралеўства[*].

[*] "...магістру данеслі, што кракаўскі кароль з вялікай сілай і з непрыязнымі намерамі выставіў замак Ронгарт (Райград – *А.К.)* на мяжы сваёй зямлі і магістр лістом паведаміў маршалу, што названы кароль на шкоду ордэну паставіў гэты замак, па той прычыне маршал разам з камандорам з Балгі і Брандэнбурга з самландскім войтам і іншымі вайсковымі, накіраваліся супраць палякаў і па-непрыяцельску іх адганяючы, будынак дашчэнту збурыў і спаліў."

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 104 – 105.

Будова вялася са згоды і пры падтрымцы з гарадзенскага князя Патрыкея, а гэта значыць, і яго сюзерэна Кейстута. Ордэнскае кіраўніцтва, свядомае новай пагрозы на сваёй мяжы, адрэагавала хутка і рашуча. Вялікі маршал Ордэна Хеннінг Шындэкопф прыбыў з войскам і пасля няўдалых спробаў спыніць будаўніцтва дыпламатычнымі сродкамі, ужыў сілу і знішчыў будаваны замак[*].

[*] Будаўнічыя працы пачаліся вясной 1360 г. Ордэнскія ўлады двойчы прысылалі сваіх прадстаўнікоў з патрабаваннем прытрымлівацца мяжы паводле дамовы 1343 г. Калі тое не дало выніку, прыбыў вялікі маршал Хэнніг Шындэкопф. Былі праведзеныя дзве размовы з прадстаўнікамі мазаўшанаў. Маршал настойваў, што будаўніцтва вядзецца на ордэнскай тэрыторыі і патрабаваў яго спыніць. Мазаўшане адказвалі, што дзейнічаюць па загаду караля і не ведаюць, каму гэтая зямля належыць; яны толькі наглядаюць за будоўляй і не маюць паўнамоцтваў яе спыніць.

[224] Ліцкевіч А. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове 13 – 14 ст... С. 26.

[225] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 158; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 403.

[226] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów. S. 64.

Маршал прадставіў копію памежнай дамовы з 1343 г. і заявіў, што прыбыў сюды, каб сілай спыніць і знішчыць пабудову. Пры гэтым ён запэўніў мазаўшанаў, што зброя будзе ўжытая не супраць іх, а супраць прысутных тут ліцвінаў.

Пасля знішчэння пабудовы ў Райградзе комтур Балгі для забеспячэння ордэнскай граніцы паставіў два замкі: Рунгенбруст і Грэбэн.

Паводле: Kowalczyk-Heyman E. Rajgród 1360 r. Przyczynek do dziejów granicy mazowiecko-krzyżackiej // KH. R. 113. 2006. Nr.3. S. 11 – 14.

* * *

Вось невялікая вытрымка з перамоваў мазавецкіх прадстаўнікоў з ордэнскім маршалам:

Маршал: "*Ад вашых людзей мы даведаліся, што і Кейстут (Kynstute) тут быў*".

Мазаўшане: "*Не Кейстут, а Патрыкей (Patirke) разам са сваім сынам*".

Маршал: "*Гэта мы лічым адным і тым жа, бо яны таксама пераследуюць іншых хрысціян*".

Паводле: Ліцкевіч А. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове 13 – 14 ст. С. 32.

Гэтая сумесная польска-мазавецка-ліцвінская аперацыя, хоць і закончаная няўдачай, паказала ордэнскаму кіраўніцтву небяспеку ваеннага саюзу палякаў, мазаўшанаў і ліцвінаў. Менавіта пасля 1360 г. рэзка ўмацніўся мілітарны ціск Ордэна на ВКЛ, які не спадаў да самай смерці Альгерда. Пры гэтым крыжакі захоўвалі мірныя адносіны з Польскім каралеўствам. А ўжо ў верасні 1360 г. "літоўскія каралі" правялі рабаўнічы паход у Інфлянты[227].

## 3.2.2. Пералом на Русі і эскалацыя вайны з Ордэнам (1358 – 1362 г.)

Дыпламатычныя кантакты на захадзе (перамовы з польскім каралём і германскім імператарам) на некалькі гадоў забяспечылі ВКЛ спакой на польскай (да 1366 г.) і ордэнскай (да 1361 г.) межах. Дуумвіры напоўніцу выкарысталі гэтую мірную паўзу, сканцэнтравалі сілы на ўсходзе і пачалі прылучаць новыя землі, ламаючы супраціў мясцовых княстваў – Смаленскага, Маскоўскага, Цверскага, Мажайскага, якія фармальна падлягалі татарам, але ўжо не маглі лічыць на падтрымку аслабелай Арды. Потым дайшла чарга і да земляў, якімі непасрэдна кіравалі татары.

У 60-я – 70-я гады 14 ст. у **Залатой Ардзе** віравала ўсеагульная міжусобная вайна, якая прывяла да развалу краіны на некалькі ўзаемна варожых частак. Асноўны повад міжусобіцы ўзнік у 1359 г. пасля смерці хана Бірдзібека, які раней, пераняўшы ўладу, забіў усіх сваіх братоў[228]. У дзяржаве не засталося ніводнага прадстаўніка роду Джучыдаў (Джучы – сын Чынгіс-хана), які б напрамую паходзіў ад хана Бату – сына Джучы. Тады прэтэнзіі на сарайскі прастол заявілі Джучыды іншай галіны, якая выводзілася ад старэйшага брата Бату Арда-Ічэна. Мясцовыя сарайскія арыстакраты не хацелі з гэтым прымірыцца і пачалі высоўваць свае кандыдатуры – самазванцаў, якія не мелі пакрывенства з Джучыдамі. З вясны 1361 г. на палітычнай арэне Залатой Арды пачала выдзяляцца постаць Мамая, які пры Бірдзібеку займаў вышэйшую дзяржаўную пасаду – беклярэбека і быў жанаты з дачкой хана. Аднак сам Мамай не мог займаць ханскі трон, бо не належаў да роду Чынгізідаў, таму ён кіраваў пад прыкрыццём ханаў-марыянетак.

[227] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 109.

[228] Егоров В.Л. Золотая Орда перед Куликовской битвой [у:] Куликовская битва. Москва: Наука, 1980. С. 181.

У 1362 г. Залатая Арда аказалася расколатай на дзве варагуючыя між сабой часткі, раздзеленыя лініяй Волгі. Тэрыторыі паміж Волгай, Донам і Дняпром, Паўночны Каўказ і Крым былі пад уладай Мамая, левабярэжжа Волгі са сталіцай дзяржавы Сараем ал-Джэдзід і прылеглымі раёнамі кантралявалася сталічнай арыстакратыяй, якая мяняла ханаў, як хацела[229]. Самастойнасць здабылі і татарскія феадалы на акраінных землях Залатой Арды, у тым ліку паміж Дняпром і Паўднёвым Бугам на Падоллі (апошніх разграміў Альгерд у бітве на Сініх Водах).

Прарыў ліцвінамі маскоўска-татарскай заслоны на ўсходзе здарыўся ў 1359 г., калі да аднаго спрыяльнага ВКЛ чынніка – ардынскай "замятні" дадаўся другі – аслабленне **Маскоўскага княства** пасля змены князя[230]. Памёр вялікі князь Іван Іванавіч, а ягонаму наступніку – сыну Дзмітрыю (будучаму Данскому) было на той час усяго дзевяць гадоў. Таму татарскі хан Наўруз аддаў ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае ніжагародскаму князю і з-пад улады Масквы выйшла вялікая тэрыторыя з гарадамі Уладзімірам, Пераяслаўлем, Кастрамой, Юр'евам-Польскім, Дзмітровам, Яраполчам. Маскоўскія ўладанні вярнуліся амаль дакладна ў межы 1327 г. перад здабыццём вялікакняскага ярлыка Іванам Калітой (толькі дадаліся землі на паўднёвым захадзе). Наступныя некалькі гадоў маскоўскі князь, а дакладней, ягоныя апекуны-баяры на чале з мітрапалітам Алексіям змагаліся за вяртанне вялікага княжання ўладзімірскага, што ўдалося дасягнуць у 1363 г.[231]

Па тастаменту Івана Іванавіча Маскоўскае княства дзялілася на тры часткі між сынамі Дзмітрыям, Іванам і пляменнікам Уладзімірам Андрэевічам. Прайшоў час пакуль аднаўладдзе аднавілася – у 1365 г. памёр Іван і яго частка перайшла да Дзмітрыя, а Уладзімір Андрэевіч мусіў яму падпарадкавацца[232]. У выніку, паводле расейскага гісторыка: "*... да сярэдзіны 60-х гадоў 14 ст. вядучай палітычнай сілай Паўночна-Усходняй Русі аказалася Масква, узначаленая малалетнім князем Дзмітрыям, за спіной якога стаяў мітрапаліт усея Русі Аляксей*"[233].

ВКЛ паступова пашырала свой плацдарм у паўночнай Смаленшчыне, дзе "*Літва грунтоўна засвоіла ржэўскую тэрыторыю*" яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі 14 ст.[234] Паасобныя спробы супраціву, хоць часам удалыя, не маглі стрымаць агульны ліцвінскі наступ. Летам 1358 г. цверская і мажайская раці выгналі ліцвінскую залогу са Ржэвы (як аказалася ненадоўга), а ў 1359 г. смаляне беспаспяхова спрабавалі забраць ад ліцвінаў воласць Белую (толькі па гэтай звестцы і вядома пра яе прыналежнасць да ВКЛ)[235].

**Цверскае княства** ад сярэдзіны 14 ст. ужо не было ў стане прэтэндаваць на ролю галоўнага цэнтра аб'яднання Паўночна-Усходняй Русі. Яе князі ўсё часцей арыентаваліся на больш моцныя сілы – Літву ці Маскву. У такіх умовах адбыўся раскол і пачаўся канфлікт паміж дзвюма лініямі цверскіх князёў – кашынскай, якая выбрала арыентацыю на Маскву і холмскай, схільнай да саюзу з ВКЛ. У персанальным вымярэнні гэта было змаганне за ўладу ў Цверы князя Васіля Міхайлавіча з Кашына (жанатага з дачкой маскоўскага князя Сямёна) і холмскага князя Усевалада Аляксандравіча, чыя сястра Ул-

[229] Егоров В.Л. Историческая география Золотой Орды в XIII – XIV вв. С. 58 – 60.

[230] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 54 – 55.

[231] Горский А.А. Москва и Орда. С. 80 – 81.

[232] Духовные и договорныя грамоты великих и удельных князей XIV – XVI вв. Москва-Ленинград: Изд-во АН СССР, 1950. С. 15; Соловьев С.М. Сочинения. В 18 кн. Кн. II. Т. 3 – 4. История России с древнейших времен. Москва: Голос, 1993. С. 299.

[233] Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды… С. 47.

[234] Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. Москва: Изд-во Московского университета, 1998. С. 53.

[235] Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю [у:] Российские и славянские исследования. Вып. 1. Мн.: БГУ, 2004. С. 76.

ляна была вялікай княгіняй літоўскай. Пры падтрымцы маскоўскіх князёў, мітрапаліта Алексія і цверскага епіскапа Хведара (належаў да роду кашынскіх князёў) цверскім князем стаў Васіль Міхайлавіч[236]. Ён і выслаў войска ў 1358 г. адбіваць ад ліцвінаў Ржэву.

Калі пасля смерці хана Джанібека Усевалад Аляксандравіч кіраваўся ў Арду шукаць апекі новага хана, яму не далі праехаць праз маскоўскія ўладанні. Тады холмскі князь паехаў да свайго швагра – вялікага князя літоўскага і праз некаторы час зноў скіраваўся ў стаўку татарскага хана. Аднак паслы Васіля Міхайлавіча дамагліся выдачы яму суперніка "без суда": *"И бысть князю Всеволоду Александровичю отъ дяди его князя Василіа Михаиловича томленіе веліе"*[237]. На працягу 1359/60 г. князь Усевалад здолеў уцякчы ў Літву. Там ён знайшоў моцную падтрымку.

* * *

Заслона на ўсходзе абрынулася ў 1359 г. На працягу чатырох гадоў (1359 – 1362 г.) ВКЛ далучыла Мсціслаўскую, Ржэўскую, Кіеўскую, Бранскую і ў большасці Падольскую землі, а яшчэ беларускае Пасожжа (хоць пра тое канкрэтныя звесткі не захаваліся). У 1359 г. Альгерд хадзіў паходам на Смаленск, заняў Мсціслаў, пасадзіў там свайго намесніка, потым перадаў Мсціслаўскае княства сыну Андрэю. Зімой 1359/60 г. ліцвінскія войскі зноў занялі Ржэву і сам вялікі князь прыязджаў *"Ржэвы глядзець"*[238].[*]

[*] "Тогоже лѣта князь Всеволодъ Александровичь Холмскии внукъ Михаиловъ, правнукъ Ярославль прииде в Литву.

Того же лѣта Смолняне воеваша Белую.

Тогоже лѣта князь великии Литовскии Олгердъ Гедемановичь приходилъ ратью к Смоленску, и градъ Мстиславль взялъ, и намѣстники свои в немъ посадилъ.

Тогожъ лѣта князь великии Олгердъ Гедимановичь посла сына своего Андрея со многою силою ко Ржеву, и градъ взялъ, и намѣстники своя в немъ посадилъ."

(запіс пад 1359 г. – *А.К.*) "Тогожъ лѣта князь великиї литовскїй Олгердъ Гедимановичь приѣздилъ Ржевы смотрити".

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 213, 214.

Відавочна адначасова з заняццем Мсціслава да ВКЛ былі далучаныя землі басейна дняпроўскай Бярэзіны, Сярэдняга Дняпра і Сожа з гарадамі Прапойск, Чачэрск, Рэчыца і Любеч[239]. Паралельна з мілітарным наступам Альгерд вёў актыўную царкоўную палітыку. Калі ў пачатку 1358 г. маскоўскі патрыёт мітрапаліт "Кіеўскі і ўсёй Русі" Алексій вырашыў умацаваць сваю духоўную ўладу над рускімі землямі і прыехаў з Масквы ў Кіеў, каб сагнаць адтуль літоўскага мітрапаліта Рамана, то сустрэў супрацьдзеянне Альгерда. Паводле дакумента канстанцінопальскага патрыярха з 1380 г., гэтая справа прадстаўляецца яўна ў маскоўскай інтэрпрэтацыі (вядома, што маскоўскія пасольствы ў Царград заўсёды прывозілі вялікія грошы на хабар), менавіта, што "літоўскі князь-вогнепаклоннік" падманам захапіў Алексія і пасадзіў пад варту, адкуль той уцёк[240].

[236] Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV – XVI вв. С. 50 - 51.

[237] ПСРЛ. Т. 10. Никоновская летопись. Санкт-Петербург, 1885. С. 230.

[238] Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. С. 214.

[239] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 55.

[240] Русская историческая библиотека. Санкт-Петербург. 1880. Т. VI. Приложения. Стб. 167 – 168.

Мітрапаліт Алексій вярнуўся ў Маскву толькі ў 1360 г.[241] ды працягнуў кіраванне дзяржавай і змаганне з Літвой.

У 1360/61 г. мітрапаліт Раман пабываў у Цверы, дзе яго з гонарамі віталі мясцовыя князі, асабліва Усевалад Аляксандравіч[242]. У ліпені 1361 г. патрыяршы сабор у Канстанцінопалі разгледзеў канфлікт паміж Алексіям і Раманам адносна межаў іх мітраполій. Было прынятае рашэнне пакінуць за Алексіям тытул мітрапаліта Кіева і ўсёй Русі, а літоўскаму мітрапаліту Раману, меўшаму кафедру ў Наваградку, былі прызнаныя, акрамя полацкай і тураўскай епархій, яшчэ і некалькі епархій у Галіцка-Валынскай зямлі[243]. Праз два гады Раман памёр і канфлікт часова прыпыніўся.

Відавочна, ліцвінская пагроза вымусіла цверскага князя Васіля Міхайлавіча наладзіць адносіны са шваграм Альгерда Усеваладам Аляксандравічам, аддаўшы яму з братамі частку воласцяў. Пасля гэтага Усевалад хутка знік з палітычнай арэны, а наперад высунуўся ягоны малодшы брат князь Мікуліна Міхаіл Аляксандравіч, які працягнуў арыентацыю на Літву[244].

Пад 1361 г. (у рэальнасці то быў студзень ці люты 1362 г.) Рагожскі летапіс паведаміў: *"Тое же зимы Литва волости Тфѣрьскыи имали"*[245] Менавіта Міхаіл Аляксандравіч паехаў у Літву, каб дамовіцца пра мір з Альгердам, і поспех місіі прынёс яму папулярнасць у Цверы[246].

Паводле крыніцаў, не пазней 1361 г. пад уладу ВКЛ перайшоў Бранск – важнейшы горад Северскай і ўсёй Чарнігаўскай зямлі. У гэтым годзе літоўскі мітрапаліт Раман авалодаў Бранскім епіскапствам[247].

Далучэнне да ВКЛ Кіеўскай зямлі даследчыкі адносяць да 1361 г. (ці да самага канца 1361 – пачатку 1362 г.). Некалькімі гадамі раней каля 1357 – 1358 г. у Кіеве абаснаваўся літоўскі мітрапаліт Раман[248], што, напэўна, і выклікала паездку туды афіцыйнага мітрапаліта кіеўскага Алексія. Альгерд змясціў мясцовага князя Хведара (магчыма, то быў яшчэ васал Гедыміна, вядомы па летапісах з 1331 г.) і паставіў кіеўскім князем свайго сына Уладзіміра[*].

[*] В лѣто 6870 (1362)... Въ сіе лѣто Олгердъ побѣди трехъ царковъ Татарскихъ и зъ ордами их, си есть, Котлубаха, Качзея (Качбея), Дмитра; и оттоли отъ Подоля изгна власть Татарскую. Сей Олгердъ и инныя Рускія державы во свою власть пріятъ, и Кіевъ подъ Федоромъ княземъ взятъ, и посади въ немъ Володымера сына своего; и нача надъ сими владѣти, имъ же отци его дань даяху.

ПСРЛ. Т.2. Санкт-Петербург, 1843. Густинская летопись.С. 350.

З летапісаў вядомыя два буйныя паходы Альгерда, праведзеныя ў канцы летняга і пачатку восеньскага перыяду 1362 г.: першы, скіраваны на поўдзень Дняпроўска-Донскага міжрэчча (закончыўся да 1 верасня) і другі, дасягнушы вусцяў Дняпра і Паўднёвага Бугу (працягваўся да канца верасня – пачатку кастрычніка), падчас яко-

[241] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich. R. 11. S. 19.

[242] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 173.

[243] Русская историческая библиотека. Т. VI. Приложения. Стб. 75 – 76; Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich. R. 11. S. 19.

[244] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 174 – 175.

[245] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Стб. 71 – 72.

[246] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 175 – 176.

[247] Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы... С. 76, 89.

[248] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 59 – 60.

га адбылася знакамітая Сіняводская бітва. Выправы ацэньваюцца як "... *заранёў спланаваны шырокамаштабны наступ збройных сілаў ВКЛ на ўладанні Ардынскай дзяржавы ў лесастэпавой зоне і стэпах Паўночнага Прычарнамор'я па абодвум берагам Дняпра*"[249]. У выніку першага паходу Альгерда "...*Вялікае княства Літоўскае авалодала ўслед за Бранскам і Кіевам тэрыторыяй паўднёвай часткі Чарнігава-Северскай (з цэнтрамі Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Трубчэўск, Пуціўль і Курск) і большай часткай межаваўшай з ёй Пераяслаўскай земляў*"[250]. Выказвалася меркаванне пра актыўны ўдзел у паходзе збройных сілаў Кіеўскага княства, што прывяло да ўключэння ў яго склад як адміністрацыйнай адзінкі ВКЛ Пераяслаўскай зямлі і некаторых чарнігаўскіх і северскіх валасцяў[251].

**Бітва на Сініх Водах**[*], якая адбылася дзесьці ў канцы верасня – пачатку кастрычніка 1362 г., атрымала шырокі розгалас па той прычыне, што стала першай перамогай над татарамі, здабытай падчас наступальнай аперацыі на іх тэрыторыі і прывяла да сур'ёзных геапалітычных зменаў ва Усходняй Еўропе.

[*] **Бітва на Сініх Водах** (рака Сінюха, левы прыток Паўднёвага Буга) паводле апісання Мацея Стрыйкоўскага:

"А калі прыйшлі на ўрочышча да Сіняй Вады, мінуўшы Канеў і Чаркасы, паказалася ў полі вялікая арда татараў на чале з трыма царкамі, падзеленая на тры гуфы: адзін вёў Кутлубах салтан, другім кіраваў Качыбейкірэй, а трэці вёў Дзімейтэр салтан: тое ўбачыўшы Альгерд, што татары ішлі ў бітву, пашыхтаваў сваіх на шэсць закругленых гуфаў, паставіўшы іх паасобна з бакоў і спераду, каб татары, як намерваліся, не маглі агарнуць іх звыклымі танцамі і шкодзіць стрэламі. А потым татары ў запале пусцілі на літву з лукаў жалезны град, закружыўшы танцы па некалькі разоў, але мала зашкодзілі стральбой, бо тыя добра шыхтаваліся і хутка расступаліся. Літва да іх з русінамі скочыла, пачала біць коп'ямі і шаблямі, прарвалі іх фронт і змяшалі танцы, іншыя з арбалетаў балта́мі, асабліва наваградцы з Карыятавічамі, валілі іх з коней, наступаючы з бакоў, аж ляцелі нібыта снапы ад моцнага ветру; не маглі больш стрымліваць літву спераду, пачалі перамешвацца і ў россып уцякаць па шырокіх палях, на пабоішчы засталіся забітыя тры іх царкі, Кутлубах, Кацібей (ад якога і сёння ёсць названае салёнае возера Качубейскае ў дзікіх палях, да Ачакава ідучы) і Дзімейтр салтан, а пры іх мурзаў і ўланаў вельмі шмат."

Stryjkowski Maciej. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi.Warszawa: Nakład Gustawa Leona Glücksberga, Księgarza, 1846. T. II. S. 6 – 7.

**Каментар**: Шыхтаванне ліцвінскіх войскаў да бітвы сведчыць пра добрае веданне Альгердам тактыкі і прыёмаў бою татараў. Вялікі князь стварыў эшаланіраваную лінію абароны без суцэльнага фронту – войскі, падзеленыя на шэсць гуфаў, стаялі, відавочна, у кшталце падобным да клетак шахматнай дошкі. Татарскія коннікі звыкла насіліся перад фронтам, абсыпаючы ворага градам стрэлаў і спрабуючы імітацыяй уцёкаў выманіць ліцвінаў з шыхтоў.

[249] Шабульдо Ф. Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретації [у:] Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях/ НАН України. Інститут історії України. Наук. ред. Ф.М.Шабульдо. Упор. О.Д.Брайченко. Київ., 2005. С. 15.

[250] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 62.

[251] Шабульдо Ф.М. Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти // Український історичний журнал. 1996. Вип. 2. (№407). С. 11 – 12.

Ліцвінскія гуфы манеўравалі, каб выйсці з-пад абстрэлу і не рэагавалі на татарскі манеўр удаваных уцёкаў.

Урэшце, калі дайшло да франтальнай сутычкі, справу вырашыла рыцарская конніца. Падтрыманая атакамі з флангаў, яна прарвала татарскія шэрагі. У гэтай фазе бітвы, калі татары ўжо не гарцавалі перад фронтам, а сыйшліся з ворагам у сечы, ліцвінам прыдаліся арбалеты, эфектыўныя ў стральбе на невялікую дыстанцыю па малярухомых цэлях, але моцна саступаўшыя лукам ў хуткастрэльнасці і дальнабойнасці.

Войску ВКЛ супрацьстаялі сілы Перакопскай і Ямбалукскай ордаў – найбольш аддаленых ад цэнтральных раёнаў Залатой Арды[252]. Апісанне бітвы захавалася ў Мацея Стрыйкоўскага, які мог карыстацца больш раннімі крыніцамі. Яно было зробленае праз два стагоддзі пасля падзеі, але ёсць пэўныя падставы лічыць яго вартай даверу крыніцай[253].

Наступствамі Сіняводскай бітвы сталі: вызваленне Цэнтральнай Украіны ад татарскай няволі, замацаванне яе земляў – Кіеўскай, Валынскай, большай часткі Падольскай і Чарнігава-Северскай, у складзе ВКЛ, дзяржаўныя межы якога дасягнулі на поўдні вусцяў Дняпра і Днястра, а на паўднёвым усходзе – руслаў Ворсклы і Ціхай Сасны. Далучэнне асноўнага масіву ўкраінскіх земляў да ВКЛ прыдало новы імпульс ліцвінскай палітыцы інтэграцыі Русі, а неўзабаве прывяло да іх культурна-гістарычнай пераарыентацыі з Усходу на Захад. Для самой татарскай дзяржавы параза на Сініх Водах азначала не толькі страту буйных стратэгічна важных і эканамічна развітых заходніх тэрыторый, але і паглыбленне яе ўнутранага крызісу з далёкасяжнымі наступствамі[254].

На новаздабытых землях Альгерд ставіў кіраваць сыноў і сваякоў з рода Гедыміна, месцамі захоўвалі свае ўладанні і мясцовыя князі. Міхайла Грушэўскі заўважыў, што ў канцы 70-х – пачатку 80-х гадоў 14 ст. ліцвінскія князі сядзяць у заходняй частцы Чарнігаўшчыны (Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Трубчэўск, Старадуб, Рыльск), а ўладанні мясцовых князёў размешчаныя ва ўсходняй частцы гэтай зямлі[255]. Сярод чарнігаўскіх Гедымінавічаў, атрымаўшых тут землі ад Альгерда даследчыкі называюць, паводле крыніцаў, бранска-трубчэўскага князя Дзмітрыя Альгердавіча, старадубскага князя Патрыкея Нарымунтавіча, Канстанціна Альгердавіча, полацкага князя Андрэя Альгердавіча як уладара Трубчэўска, магчыма тут мелі землі Хведар Карыятавіч і Іван Любартавіч[256].

* * *

З ліцвінскім наступам на ўсходзе супаў наступ **Тэўтонскага ордэна** на Літву на захадзе. Ліцвінска-ордэнская вайна пасля 1360 г. адрознівалася ад папярэдняга перыяду больш частымі вялікімі выправамі крыжакоў і больш рэдкімі адказамі ліцвінаў, тэрытарыяльным размахам ордэнскай агрэсіі і актыўным удзелам у ёй інфлянцкай філіі. Вялікія паходы ўжо не абмяжоўваліся адно саюзнікам ВКЛ Жамойцю, але сягалі ў самую Літву, буйныя ордэнскія войскі неаднойчы даходзілі да сталіцаў дуумвіраў – Вільні і Трокаў.

Тым не менш, ордэнская небяспека для ВКЛ на той час выглядае перабольшанай у гістарыяграфіі, асабліва пасля працы Генрыка Лаўмяньскага, выданай у 1954 г. ("Агрэсія Тэўтонскага ордэна ў Літве ў 13 – 15 с."). Гісторык прыйшоў да высновы, што

[252] Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 72.
[253] Шабульдо Ф.М. Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти. С. 6.
[254] Шабульдо Ф. Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретації. С. 20 – 23.
[255] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 68.
[256] Шабульдо Ф.М. Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти. С. 11.

далучэнне да ВКЛ буйных тэрыторый на Русі аслабіла дзяржаву, бо сілы ліцвінскага рыцарства распыляліся па "нязмераных прасторах". Ордэн скарыстаў гэтую сітуацыю і з падвойнай энергіяй пачаў атакаваць Літву. У выніку, паводле Лаўмяньскага: "*Ліцвінская палітыка апынулася ў тупіку, калі не можна было справіцца з двумя задачамі: абароны на поўначы і наступу на ўсходзе*"[257]. Гэтая выснова паслужыла даследчыку падводкай да апалагетыкі вялікага князя Ягайлы ў ягонай канфрантацыі з Кейстутам. Маўляў, прычына канфлікту з дзядзькам крылася не ў асабістых амбіцыях, а ляжала глыбей – у розніцы канцэпцый знешняй палітыкі. Кейстут жадаў працягваць вайну на два фронты, але Ягайла лепш разумеў сітуацыю і хацеў паразумецца з Ордэнам на захадзе, каб мець свабоду дзеянняў на ўсходзе[258]. Падобную думку выказваў савецка-расейскі гісторык Уладзімір Пашута, не разумеючы, як можна было адрываць сілы для паходаў на Русь, калі нямецкія рыцары апусташалі землі Літвы: "*Разглядаючы рускую палітыку Альгерда, міжволі ўражваешся яе неарэалістычнасцю...*"[259]. Тут яўнае перабольшванне, бо пры "нерэалісце" Альгердзе ВКЛ не толькі не паддалося Ордэну, але і амаль удвая павялічыла сваю тэрыторыю.

Паводле гістарычных фактаў, барацьба з Ордэнам, у тым ліку ў перыяды асаблівай напругі, не затрымала ліцвінскай экспансіі на Русі, што аднаму з расейскіх гісторыкаў нават "*уяўляецца своеасаблівым парадоксам*"[260]. Здараліся тактычныя паразы і няўдачы. Так, у 1361 г. (13 сакавіка) у крыжацкі палон трапіў Кейстут; у красавіку 1362 г. браты-рыцары захапілі і разбурылі Ковенскі замак, а прысутныя там Кейстут і Альгерд не змаглі гэтаму перашкодзіць. Аднак літаральна праз некалькі месяцаў у канцы лета – пачатку восені Альгерд правёў два знакамітыя паходы супраць татараў, адзін з якіх закончыўся Сіняводскай перамогай.

Паланенне Кейстута Гедымінавіча было важнай падзеяй, набыўшай міжнародны розгалас. Пра яе паведамілі і ўсходнеславянскія летапісцы. У сярэднявечнай Еўропе падобнае неаднойчы здаралася, бо князь-правадыр сам вадзіў войска ў паход і ў бой. Падчас адной са збройных сутычак з крыжакамі на тэрыторыі Прусіі (у паходзе, паводле храніста, удзельнічалі таксама Альгерд і Патрыкей) князь быў збіты з каня кідальным кап'ём і ўзяты ў палон. Саксонскі герцаг Альбрэхт прывёз знатнага палоннага ў Мальбарк, дзе яго трымалі пад вартай. Аднак неўзабаве Кейстуту ўдалося ўцякчы (паводле хронікі Германа Вартберга – 16 лістапада)[261]. Праз Мазовію, дзе княгінай была ягоная сястра, Кейстут вярнуўся ў Літву і ледзь не адразу адправіўся ў новы паход на Прусы[*].

[*] "Конрад Хоберг, кінуўшы дзіду, скінуў яго (Кейстута – *А.К.*) з каня на зямлю. Ханке дэ Экерсберг схапіў Кейстута і трымаў, кіраўнік з Экельсбурга, пачуўшы, што Кейстут скінуты з каня, зляцеўшыся над ім, пастараўся яго падняць і аддаў пад варту Мікалая дэ Віндэкайм караля і ўладара ліцвінаў, які быў бы рады ўцякчы. Спешна падышоў князь (Альбрэхт Саксонскі – *заўвага выдаўцы*) і пайманага караля трымаў пад моцнай вартай і завёз яго ў Мальбарк; з той нагоды ўсе – магістар і яго браты, цешыліся з такой удачы, якую ім Бог даравау, Кейстут быў пайманы ў Кветнюю нядзелю.

[257] Łowmiański H. Agresja Zakonu Krzyżackiego na Litwę w wiekach 13 – 15. S. 206, 208; гл. таксама: Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле [у:] Куликовская битва. Москва: Наука, 1980. С. 143.

[258] Łowmiański H. Agresja Zakonu Krzyżackiego na Litwę w wiekach 13 – 15. С. 208 – 209.

[259] Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. Москва: Наука, 1982. С. 33.

[260] Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 143.

[261] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 109.

і быў зачынены ў пакоі і пільнаваны двума братамі днём, але не ноччу. Ён заўважыў у муры адтуліну, якую пашырыў і прыкрыў цэглай, а іншыя матэрыялы казаў слузе выносіць. А тое, што доўга абдумваў, менавіта, як уцякчы, выканаў, бо ў час першага сну пралез праз адтуліну пакоя і спусціўся ў роў з дапамогай слугі па прозвішчу Альф (скарот імя Адольф – *заўв. выд.*), які хоць быў хрысціянінам, паходзіў з паганаў. Той падтрымліваў духам караля і прынёс яму белы плашч з чорным крыжам і так у адзенні братоў выехаў конна сваёй дарогай на конях вялікага комтура, якіх яму прывялі, і сыйшоў вясёлы ў такім адзенні і на такім кані. Яго спаткаў пэўны брат Ордэна і ўзаемна адзін аднаго па-братэрску павіталі, ён яго не ведаў, але потым прыпомніў сабе, хто быў той, што ўцякаў. Спешна заехаў у лес паблізу Лібенштад, дзе схаваўся ў балоце, адпусціўшы тых добрых коней і застаўся ў балоце і думаў як потым ісці ў цемры, што і зрабіў і прыйшоў да ракі Дрвенцы, якую пераплыў. Потым спешна прыбыў ў Мазовію да сястры, дзе прабыў нейкі час; потым накіраваўся ў Літву і знаходзіліся там яго паслы, якія ўжо другі раз у яго ў Мальбарку былі. Тыя паслы чакалі яго ў пушчы, да якіх ён пешшу прыбыў, змучаны дарогай і неспакойны, каб не губляць часу, саджаюць караля на каня і спяшаюцца дадому і ўсе ліцвіны ўзрадаваныя цешыліся гэтаму."

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 110 – 113.

***

Рагожскі летапіс паведаміў: "Того же лѣта прїидоша Нѣмци на Литву и Литвы много избиша, князя Кестутїа поима [въ Нѣмци повели]

ПСРЛ. Т. 15. Вып.1. Стб. 71 – 72.

**Каментар**: Тут недакладнасць, бо Кейстут трапіў у палон на тэрыторыі Прусіі.

У канцы сакавіка – красавіку 1362 г. ордэнскія войскі правялі буйны, старанна падрыхтаваны і паспяховы паход супраць замка ў Коўне[*]. Ордэнскі храніст Віганд з Марбурга прысвяціў гэтай падзеі цэлы раздзел. Выправа закончылася захопам і поўным знішчэннем замка.

[*] Да Коўна загадзя былі высланыя адмысловыя шпегі-рамеснікі з заданнем высветліць таўшчыню, вышыню і глыбіню падмуркаў замкавых муроў. Адпаведна здабытым звесткам былі падрыхтаваныя абложныя машыны і тараны.

У выправе прыняло ўдзел амаль усё кіраўніцтва Ордэна ў Прусіі і шматлікія рыцары-госці з Англіі, Італіі і Германіі. У канцы сакавіка (па Вартбергу) уверх па цячэнню Нёмана паплылі, з папутным ветрам, караблі, па ўсёй верагоднасці, нагружаныя матэрыяламі для будовы моста і часткамі абложных прыстасаванняў. Удалося па-ціхаму праплысці каля жамойцкіх гарадзішчаў Велюня і Бісены і высадзіцца на бераг ніжэй Коўны каля 29 сакавіка. Тры дні наладжваліся масты, па якіх перайшло войска.

Такі вялікі рух не мог застацца незаўважаным ліцвінскай выведкай і на дапамогу замку прыбыў Кейстут з буйным атрадам. Крыжацкае войска адцясніла яго ад замка і збудавала палявыя ўмацаванні, дадаткова абароненыя ровам, запоўненым вадой з Віліі. Храніст згадвае пра прысутнасць вялікага князя Альгерда, які, аднак, трымаўся на другім плане. Рэй вёў Кейстут, бо ордэнскія справы былі ягонай дэялкай. З ім праводзіў перамовы ордэнскі магістар (гэтая акалічнасць яшчэ раз падкрэслівае ролю Кейстута ў дзяржаве, менавіта статутс дуумвіра).

Бітва за замак была вельмі зацятай, ордэнскія войскі выкарысталі пры штурмах некалькі рухомых абложных вежаў і тараны, з дапамогай якіх разбілі дзве вежы і зрабілі пралом у мурах. Абаронцы не здаваліся, відавочна, спадзяваліся на падмогу сваіх князёў. Аднак войска крыжаносцаў было настолькі вялікім, што Альгерд і Кейстут не бачылі шансаў з ім справіцца. Кейстут спрабаваў стрымаць штурм з дапамогай перамоваў, але і гэта яму не ўдалося. У пажары загінула шмат абаронцаў і штурмавікоў, храніст піша пра буйныя страты ліцвінаў (пэўна, у замку хаваліся і жыхары з ваколіцы). Замак паў напярэдадні Вялікадня (16 красавіка).

Па просьбе ліцвінскіх князёў магістр перадаў ім спіс палонных баяраў, якіх аказалася толькі 36 чалавек, рэшта загінула. Акрамя таго, у палоне апынуўся і сын Кейстута Войдат.

Крыжаносцы, пэўныя сваёй перавагі ў сілах, не спяшаліся адыходзіць. Яны правялі вяліканочную імшу, расцерушылі рэшткі муроў і толькі тады арганізавана адступілі сушай і вадой уніз па Нёмане, разабраўшы за сабой мост.

Дэталёвае апісанне храніста ўтрымлівае шмат цікавай і важнай інфармацыі. Напрыклад, што замак абаранялі як ліцвіны, так і русіны (названы па імю русін Міхаіл). Прычым адзін з абаронцаў з выразна балцкім імем Гілгут названы нямецкім хроністам беларускім тэрмінам “баярын” (bayorum).

Перад самым падзеннем замку ці ўжо пасля яго захопу прыбыў таксама аддзел інфлянцкіх рыцараў на чале з магістрам Арнольдам Вецінгхофам.

Паводле: Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 118 – 131; Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 109 – 111.

Інфлянцкі храніст Герман Вартберге паведаміў, што ўжо праз год у красавіку 1363 г. вялікі магістар зноў бурыў замак у Коўне, які ліцвіны пачалі аднаўляць *“з дзівосным і невытлумачальным стараннем”*, а ў 1368 г. крыжакі наноў заваёўвалі ковенскі замак, які *“непрыкметным чынам быў другі раз адбудаваны”*[262]. Нам гэтая стараннасць цалкам зразумелая – замак у Коўне меў разам з Гародняй ключавое значэнне ў абароне Літвы.

## 3.3. ПАЎЗА НА РУСІ І ВАЙНА З ОРДЭНАМ І ПОЛЬШЧАЙ (1363 – 1367 г.)

Пасля перамогі на Сініх Водах сітуацыя на ўсходніх межах ВКЛ на нейкі час супакоілася. Пагром татарскага войска і далучэнне да ВКЛ буйных тэрыторый несумненна зрабілі моцнае ўражанне на мясцовых незалежных ці поўзалежных ад Літвы або Масквы князёў. Да таго ж яшчэ Паўночна-Усходнюю Русь у 1363 – 1365 г. наведала чума. Тамтэйшыя летапісы перапоўненыя дэталёвымі апісаннямі мору, з якіх вынікае, што гэта была тая ж “Чорная смерць” у абодвух формах – бубоннай і лёгачнай. Пад 1365 г. Ніканаўскі летапіс паведамляе пра мор і ў Літве[263].

Асноўная ўвага ліцвінскіх гаспадароў зноў на нейкі час была перанесеная на захад, дзе нарастаў мілітарны ціск з боку Тэўтонскага ордэна, да якога неўзабаве далучыўся польскі кароль Казімір III.

Зімой 1362/63 г. памёр літоўскі мітрапаліт Раман і ў Канстанцінопалі ўжо рыхтавалася ліквідацыя Літоўскай мітраполіі, да чаго аднак справа не дайшла, верагодна, па

[262] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 111, 116.

[263] ПСРЛ. Т. 8. Санкт-Петербург, 1859. С. 12; Русская летопись по Никонову списку. Ч. 4. До 1407 г. С. 6 – 7, 12.

прычыне ўзросшай моцы ВКЛ[264]. Масква працягвала вырашаць унутраныя праблемы, менавіта з'яднанне паасобных частак княства ў адно цэлае і здабычу ханскіх ярлыкоў. Мітрапаліт "Кіеўскі і ўсёй Русі" Алексій таксама не рабіў рэзкіх антылітоўскіх рухаў. У прыватнасці, у 1363/64 г. з'ездзіў у Літву, а потым у ліцвінскі Бранск, каб паставіць там епіскапа.

Да свайго зяця Альгерда паехала цвярская княгіня Настасся – маці Аляксандравічаў. У 1364 г. яна вярнулася з унучкай і мітрапаліт Алексій прыехаў у Цвер хрысціць ліцвінскую княжну[265]. Ад чумы памерлі некалькі князёў цверскага дому і ліцвінскі саюзнік мікулінскі князь Міхаіл Аляксандравіч стаў фактычна поўнаpraўным правіцелем Цверскага княства[266].

* * *

У 1363 г. ордэнскія войскі з абодвух філіяў некалькі разоў атакавалі Жамойць і Літву. Падчас адной з выпраў 1363 г. у Жамойць інфлянцкія рыцары заўважылі дым ад пажару паселішча, якое палілі іх калегі-браты з Прусіі. Рыцары сустрэліся, правялі спатканне пры вячэры, дзе падзяліліся вопытам змагання з язычнікамі. Думалі пра сумесны паход, але не змаглі дамовіцца, у якую мясцовасць ісці. У тым жа годзе прускія крыжакі разам з рыцарамі-гасцямі з Англіі адбылі выправу на Гародню. Мясцовы князь Патрыкей спрабаваў дамовіцца з ордэнскім маршалам – кіраўніком паходу, прывёў з сабой жанчын і дзяцей, "*частаваў півам і мёдам звычаем русінаў*". Паводле храніста, за такую нібыта прыхільнасць да Ордэна Кейстут перавёў яго ў "*іншую вобласць рускай зямлі*"[267].

Вайна працягвалася ў звыклым выглядзе буйных і малых паходаў на варожую тэрыторыю. Крыжакі хадзілі на Жамойць і Літву па некалькі разоў у год, ліцвіны, пад кіраўніцтвам Кейстута адказвалі такімі самымі, толькі не так частымі выправамі. Абодва бакі будавалі свае ці здабывалі варожыя замкі на берагах ці астравах Нёмана. Увогуле вайна вялася на роўных, ліцвіны пры аблогах выкарыстоўвалі тыя ж прыстасаванні як і ордэнскія войскі, у тым ліку такія складаныя, як абложныя вежы. Падчас аблогі аднаго з крыжацкіх замкаў у 1369 г. ліцвіны ўжывалі 18 кідальных машынаў і іншыя баявыя прыстасаванні[268]. Вялікі маршал Ордэна Хенніг Шындэкопф, праводзіў сустрэчы з Кейстутам, найперш, каб дамовіцца пра абмен палоннымі. У выправы супраць Ордэна разам з Кейстутам хадзілі Альгерд і гарадзенскі князь Патрыкей. У паходзе 1365 г. удзельнічаў таксама "кароль Аляксандр", напэўна малады Вітаўт Кейстутавіч.

1365 г. быў багаты на падзеі ў ліцвінска-ордэнскіх справах. Адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак пераходу ў стан ворага князя Гедымінавіча. Як паведамляюць ордэнскія храністы, калі Кейстут пайшоў у паход, ягоны сын "кароль Бутаўт" (rex Butaw, Butaut) перайшоў на бок Ордэна разам са сваімі баярамі (Вартберг называе 15 васалаў) і прыняў каталіцтва пад імем Генрых[269]. Крыжакі багата яго адарылі і пераўтварылі абрад хрышчэння ў прапагандысцкую акцыю (дэманстрацыю эфектаў сваёй місійнай дзейнасці), правялі яго ў Кёнігзбергу, куды сабралі знатных гасцей з Англіі і Германіі[*].

[264] Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich. R. 11. S. 19 – 20; Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 177.

[265] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Стб. 75.

[266] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 178.

[267] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales S. 136 – 139, 144 – 145.

[268] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 117.

[269] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales S. 156 – 157; Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 112.

[*] "Кароль Бутаўт прыбыў ў Інстэнбург, кіраўнік якога з гонарамі яго прыняў. Тым часам Генрых Шэнінген завёз іх да магістра, які іх усіх радасна прыняў і былі вітаныя жыхарамі Прусаў і прыбылі ў Мальбарк і сабралі кіраўнікоў і раіліся між сабой, калі б прынялі хрышчэнне і вызначылі месца ў Каралеўцы, як найбольш адпаведнае для гасцей англічанаў графа дэ Варвіка, Томаса дэ Оффарта; былі там таксама некаторыя немцы, якія ўсе цешыліся з іх навяртання".

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales S. 156 – 157.

У тым жа годзе Бутаўт-Генрых узяў удзел у крыжацкай выправе, якая дасягнула Вільні. Аказалася, што не ўсе васалы Бутаўта былі згодныя служыць Ордэну і чацвёра з іх падчас паходу перабеглі да сваіх і паведамілі пра планы крыжакоў[270].

Восенню 1365 г. у Мальбарк з візітам прыязджаў польскі кароль Казімір III, мэтай яго было, паводле храніста, "вывучэнне стану краіны". Агледзеў умацаванні мальбаркскага замку, склады з прыпасамі і рыштункам і застаўся задаволены[271]. Польскі кароль рыхтаваўся да чарговага нападу на валынскія ўладанні ВКЛ і як заўсёды перад вайной, шукаў хаўруснікаў. Мэтай паездкі, па ўсёй верагоднасці, была дамова пра саюз, каардынацыя дзеянняў супраць Літвы[272] і ацэнка мілітарнага патэнцыялу Ордэна.

Польскія войскі, верагодна разам з мазавецкімі, летам – восенню 1366 г. напалі на ўладанні Любарта і белзскага князя Юрыя Нарымунтавіча. Сілы Кейстута былі адцягнутыя баямі з Ордэнам ў Прусіі. Акрамя некалькіх выправаў у тым годзе крыжакі пры падтрымцы англійскіх рыцараў-пілігрымаў пачалі будову чарговага замка на Нёмане[273], а Кейстут спрабаваў таму перашкодзіць.

Яшчэ ў 1366 г. на з'ездзе ў Гданьску ўдалося дасягнуць часовага паразумення паміж сабой інфлянцкіх палітычных суб'ектаў. Інфлянцкія браты-рыцары адмовіліся ад Рыгі на карысць архібіскупа, а той звольніў Ордэн ад леннай прысягі і духоўнага падпарадкавання. Папа, аднак дамову не зацвердзіў[274]. У 1367 г. (7 лістапада) ліцвінскае пасольства ў Рызе на чале з Кейстутам падпісала ад імя дуумвіраў дамову з ландмайстрам Інфлянцкага ордэна аб рэжыме руху ў прыгранічнай зоне паміж двумя дзяржавамі[275].

Ваенная кампанія Казіміра III на Валыні ў 1366 г. прынесла Польшчы новыя тэрытарыяльныя здабычы, зацверджаныя адмысловай мірнай дамовай[*].

[*] "A se ja, kniaź welikyi Olherd, s swoieiu bratiiem, s Kieystutiem, s Jawnutiem, s Lubortom i s swoimi dietmi uczynili iešmy mir s swoim bratom, korolem polskim Kazimirom i s bożyi miłosti, i s kniaziem s Juriem i s druhim Juriem i s Ollexandrom; a to bud swiedomo wsiakomu, koli kto na tot list smotryt. Oże na tom sia isśmo mirili. Kniaziu Lubortu łuckaja ziemla so wsieni wołostmi otczyznymi i s sieły, kak iz dawna poszło, Stożek, Daniłow, Zakamian, Sziumesk, Ostroh, Polonyi, Meżybożyie; a i ieszczo k Łucku odstupił sia korol wołodymierskich wołosti: Wiełły, Zbiaz, Czerneczhorodok, Kamian, Mielnica.

[270] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales S. 158 – 159.

[271] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales S. 166 – 167.

[272] Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за галицко-владимирское наследие. С. 103.

[273] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales S. 170 – 173.

[274] Nazarowa J.L. Inflanckie interesy zakonu krzyżackiego (ideologiczne aspekty problemu) w XIII – XIV w. [w:] Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Materiały z konferencji historyków radzieckich i polskich w Toruniu z r. 1988. Toruń, 1990. S. 98 -99.

[275] Гісторыя Беларусі 9 – 18 стагоддзяў. Першакрыніцы // starbel.narod.ru

A Wolodymier korolewi dostał sia s temi wołostmi: Horodel, Luboml, Turynsk, Ratew, Koszer, Włuczym. A kniaź wielikyi s swoim bratom s Lubortom sstupił sia korolewi: Kremianca, Peremila, Oleszka, Bełza, Grabowca, Chołmna, Szczebreszyna, Łopatyna. A kończałi ieśmy meży soboiu mir wiecznyi. A koli jaz poydu, kniaź wielikyi, s bratom swoim korolem na woynu, tohda poyty Lubortowi is wsiemi ludmi swoiemi; a koli korolewi na dobie na swoie niepryiatele, Lubortowi pomahati swoimi ludmi; a koli na dobie budiet Lubortowi na swoie niepryiatiele, korolewi iemu pomahaty. A pro obidy pro wsiakiie, cze sia uczynił kniazim ludiem krywda od korolewa czełowieka, ili od Juriewa, ili od Alexandrowa, pro to nie iskaty korola ni kniazia. Sudi na to: lubelskyi pan Krot, podkomoryi korolew pan Rafał; a od kniazia od wielikoho Jelczar; a ot Lubortu Iwan Mostyrzynskij; a suditi na Buzie u Hurodla, a suditi korolewym sudiam Polonina po polskomu zakonu i winu na nem wziati po polskomu, a ruskim sudiam suditi po swoiemu zakonu i winu wziati po ruskomu zakonu. A na korolewyie ziemli na jeho łowiszczach naszym ludziem ne łowiti ni zwiera, ni bobra, ni ryb, ni siena kosity, ni w bortuniu ziemlu nie wstupaty sia. Także i korolowym ludiem nie łowity na kniazia wielikoho ziemli i na Kieystutowoy i na Jewnutiewoy i na Lubortowoy także nikakaho zwiera nie łowity, ni ryb nie łowity, ni siena kosity, no kak poszło iz dawna. A za chołopom i za winowat'cem nie stoiaty. A korolewi nie wstupowaty sia w Kieystutowy horody, w Beresti i w Kamiance, w Drohiczyn, w Mielnik, w Bielesk, w Kobryn, kniazia wielikoho horod, wo wsie tyie hranicy nie wstupowaty sia. A szto hramoty perwyie pisany meży namy y prysiahy, a szto sia ne stało o tiech hramotach, toho nie pominaty i hramoty dawnyie worotyty meży soboiu, a od toho byty porożnym. A koli dast Boch budiet s niem, tohda nowyie hramoty damy meży soboiu, a tot iesmo mir uczynili meży soboiu bezo wsiakoie łukawosty i bezo wsiakoie chytrosty na tom ieśmo i peczaty swoi prykładali."

Публікуецца паводле: Czuczyński A. Traktat książąt litewskich z Kazimierzem Wielkim z r. 1366 // KH.1890. R.4. S. 513 – 515.

**Каментар**: Дакумент у арыгінале, несумненна, напісаны кірыліцай, апублікаваны паводле копіі з музея Чартарыйскіх. Тэкст перадаецца лацінскім шрыфтам, па нормах тагачаснай польскай транскрыпцыі. Аўтар публікацыі зазначыў, што стараўся перадаць тэкст як мага дакладней, ужыўшы толькі вялікія літары і знакі пунктуацыі.

З боку ВКЛ яе падпісалі вялікі князь Альгерд "са сваёю брацяй" Кейстутам, Яўнутам, Любартам і дзецьмі, не названымі па імёнах, з польскага – кароль Казімір, князі Юры Нарымунтавіч, Юры і Аляксандр Карыятавічы[276]. У Любарта заставалася Луцкая зямля з некаторымі воласцямі Уладзімірскай зямлі; да Польшчы адыходзіў Уладзімір-Валынскі, Холм, Белз і іншыя менш значныя гарады з воласцямі. У тым, што ліцвінскія князі з роду Гедыміна, чыя ўладанні межавалі з польскімі, прызналі сябе васаламі польскага караля не бачыцца нечага незвычайнага. У сярэднявеччы такія паводзіны буйных феадалаў з'яўляліся хутчэй нормай, чым выключэннем. Фармальная згода на гэта дуумвіраў можа быць сведчаннем пільнай патрэбы ў спыненні вайны з Польшчай. Справа была не толькі ва ўзмацненні ордэнскай экспансіі, але і ажыўленні канфлікту з Масквой на ўсходзе.

## 3.4. З БАЯМІ НАПЕРАД (1367 – 1377 г.)

Пасля 1365 г. Маскоўскае княства не толькі вярнула, але і ўзмацніла свае пазіцыі ў Паўночна-Усходняй Русі. Дзяржава, раздзеленае тастаментам Івана Іванавіча на тры часткі, зноў была злучаная ў адзінае цэлае, маскоўскі князь зноў стаў вялікім князем

[276] Czuczyński A. Traktat książąt litewskich z Kazimierzem Wielkim z r. 1366 // KH.1890. R.4. S. 513 - 515.

уладзімірскім і гатовы быў утрымліваць гэты статус збройнай сілай. Як вывеў гісторык 19 ст. Мікалай Кастамараў: *"Пераемнікам Івана быў дзевяцігадовы Дзмітры; вось тут і выявілася, што імкненне да ўзвышэння Масквы не было толькі справай адных князёў, што паняцці і ўчынкі маскоўскіх князёў былі выразам таго асяроддзя, у якім яны жылі і дзейнічалі. За малалетняга Дзмітра стаялі маскоўскія баяры; (...) вось яны і апалчыліся дружна за першынство Масквы над Руссю."*[277] Падмурак маскоўскай дзяржаўнасці, закладзены дзедам Дзмітрыя Іванам Калітой, аказаўся трывалым.

Несумненна, непакой і трывогу выклікаў у Маскве небывалы рост Літвы, межы якой непасрэдна набліжаліся да маскоўскіх. Змагацца з ВКЛ на роўных за дамінацыю ў рэгіёне Усходняй Еўропы Маскоўскае княства не магло, але намервалася затрымаць ліцвінскую экспансію на расейскіх землях. Важнай задачай маскоўскіх палітыкаў было падпарадкаванне ліцвінскага саюзніка – цверскага князя Міхаіла Аляксандравіча. У канцы кастрычніка 1367 г. ён вярнуўся з Літвы з вайсковай падмогай у Цверскую зямлю, дзе не сустрэў ніякага супраціву. Тым не менш, палічыў за лепшае замірыцца са сваім супернікам кашынскім князем Васілём Міхайлавічам, а потым і з маскоўскім князем Дзмітрыем[278]. Аднак спакой быў нядоўгім.

Вайна ВКЛ з Маскоўскім княствам пачалася ў 1368 г. менавіта на цверскіх землях. Полацкі князь Андрэй Альгердавіч правёў паход на цверскія воласці Хорвач і Родню, а маскоўскі ўдзельны князь з Серпухава Уладзімір Андрэевіч захапіў Ржэву, пры гэтым *"Литву отъпустилъ изъ города"*[279]. Масквічы ў тым жа годзе заманілі да сябе на перамовы саюзніка Літвы Міхаіла Аляксандравіча і толькі нечаканае з'яўленне ў Маскве татарскіх паслоў уратавала яго ад няволі. У канцы лета Дзмітры Іванавіч маскоўскі выслаў супраць Цверы войска, а князь Міхаіл Аляксандравіч выехаў у Літву да Альгерда па дапамогу.

У лістападзе 1368 г. адбыўся першы паход Альгерда на Маскву, які ў адным з расейскіх летапісаў названы "першай літоўшчынай"[*].

[*] "Тогдажъ тоя осени князь великии Литовскии Олгердъ Гедимановичъ собра воинства много, и подвижеся ратью к Москвѣ на великаго князя Дмитрея Ивановича, и снимъ братъ его Кестутей Гедимановичъ, и сынъ Кестутиевь Витовтъ, и тогда бо еще младъ и не славенъ, и сынове Олгердовы, и вси князи Литовстии, и князь великиї Михаило Александровиь Тверскии, и смоленския рать."

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 4. До 1407 г. С. 20

Прыход ліцвінскага войска разам са смаленскім, цверскім і іншых ліцвінскіх памагатых стаў нечаканасцю для маскавітаў. Летапісцы тлумачаць гэта хітрасцю Альгерда, які ўмеў да апошняга трымаць у сакрэце кірунак сваіх паходаў. Выказвалася меркаванне, што нечаканым быў напрамак з якога прыйшоў Альгерд, чакалі з паўночнага захаду ад Ржэвы, а ён з'явіўся з паўднёвага захаду[280]. Паспеўшыя сабрацца маскоўскія сілы з бліжэйшых ваколіцаў былі разбітыя. Страцілі жыццё некаторыя мясцовыя князі – маскоўскія васалы, такія як старадубскі і абаленскі – Альгерд умацоўваў уладу ВКЛ на подступах да Масквы. З ліста Альгерда да патрыярха Філафея вынікае, што мітрапаліт Алексій вызваляў князёў з-пад прысягі на вернасць Альгерду. Магчыма, Альгерд такімі крутымі мерамі пераконваў іншых, што васальныя абавязкі трэба выконваць.

---

277 Костомаров Н.И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Москва: Мысль, 1991. С. 108.

278 Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 180 – 181.

279 ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Стб. 87.

280 Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 196.

Маскоўскі князь, спаліўшы гарадскі пасад, засеў у Крамлі, нядаўна абнесеным каменнай сцяной. Альгерд стаяў пад горадам тры дні, ліцвінскае і саюзныя войскі моцна спустошылі маскоўскія ўладанні і забралі шматлікі палон, летапісец параўноўвае наезд ліцвінаў з татарскім, маўляў такога зла ад Літвы ніколі не было, як ад татараў. Выправе на Маскву не зашкодзіла вайна з крыжакамі, якія ў верасні зноў здабылі адбудаваны замак у Коўне.

Некалькі месяцаў раней, летам 1368 г. ліцвінскія войскі пад камандай Кейстута правялі буйны паход на польскага ленніка – Мазовію, захапілі і падпалілі замак у Пултуску, спустошылі ваколіцы Плоньска, Чэрвінска, Ловіча і вывелі вялікі палон раней, чым мясцовы князь Земавіт III паспеў сабраць сваё войска[281]. Гэтая акцыя сведчыць, па-першае, пра адсутнасць у ліцвінскага кіраўніцтва страху перад ордэнскай пагрозай; па-другое, хуткасць ліцвінскіх дзеянняў забяспечвалася наяўнасцю ў іх “сілаў хуткага рэагавання” – сталых вайсковых дружынаў; па-трэцяе, дуумвіры не збіраліся мірыцца з вынікамі вайны 1366 г. на Валыні.

У Маскве не жадалі згаджацца з дамінацыяй Літвы і незалежнасцю Цверы. Мітрапаліт Алексій разам з князем Дзмітрыям паслалі ў Канстанцінопаль скаргу на мясцовых князёў, якія падтрымлівалі “язычнікаў-ліцвінаў” і мітрапаліт адлучыў ад царквы князёў цверскага і смаленскага. Па словах нямецкага гісторыка Эккехарда Клюга, такім чынам Алексій цалкам пераўтварыў пост мітрапаліта ў прыладу маскоўскай палітыкі, чым нанёс шкоду свайму аўтарытэту на Русі[282].

На працягу 1369 – 1370 г. Масква высылала войскі на Смаленск, помсцячыся за ўдзел апошняга ў паходзе Альгерда, і на ліцвінскі Бранск. У жніўні 1370 г. маскоўскія войскі перайшлі ў наступ на Цвер і Міхаіл Аляксандравіч зноў быў вымушаны адступіць у Літву, а адтуль паехаў у Арду і здабыў ад Мамая ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае. Аднак рэальна заняць гэтую пасаду не змог па прычыне процідзеяння Масквы і зноў накіраваўся ў Літву.

У лютым 1370 г. Альгерд з Кейстутам на чале вялікага войска ўвайшлі ў Прусы, крыжакі ведалі пра паход і паспелі сабраць свае сілы. 17 лютага адбылася жорсткая бітва каля Рудавы, у якой з абодвух бакоў палегла шмат вояў. Ордэнскія храністы пішуць пра вялікія страты ліцвінаў, але адначасова называюць сярод сваіх забітых вялікага маршала Ордэна, некалькі комтураў, каля дваццаці ордэнскіх братоў (кожны быў афіцэрам) і некалькі знатных замежных рыцараў-гасцей[283].

У канцы лістапада 1370 г. Альгерд выступіў у другі паход на Маскву, каля якой прастаяў восем дзён, заключыў перамір’е з маскоўскім князем і дамовіўся пра шлюб сваёй дачкі з дваюрадным братам Дзмітрыя маскоўскага – серпухаўскім князем Уладзімірам Андрэевічам. Шлюбны абрад адбыўся летам 1371 г.

У гэтым паходзе не ўдзельнічаў Кейстут, бо быў заняты іншай важнай справай – разам з Любартам забіраў назад ад палякаў землі і гарады на Валыні[284]. 5 лістапада 1370 г. памёр кароль Польшчы Казімір III і яго месца, паводле даўняй дамоўленасці, заняў венгерскі кароль Людовік Анжуйскі (17 лістапада прайшла яго каранацыя ў Кракаве). Любарт з Кейстутам адрэагавалі імгненна і адным паходам занялі Уладзімірскую, Холмскую і Белзскую землі. Іх падтрымаў пляменнік – белзскі і холмскі князь Юры Нарымунтавіч, раней стаўшы польскім леннікам па дамове 1366 г. Другі леннік польскага караля, трымаўшы з яго рукі Уладзімір, знаходзіўся ў Кракаве, у вайне ўдзелу не

[281] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 65.

[282] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 197.

[283] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 184 – 187; Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 119.

[284] Kronika Jana z Czarnkowa. S. 33.

прымаў, а потым сыйшоў у сваё ўладанне на Падоллі. Адным махам ВКЛ вярнула ўсе землі, страчаныя ў 1366 г.

Альгерд у гэты час працягваў наступ на ўсходзе. У канцы 1370 – пачатку 1371 г. ён напісаў слынны ліст да канстанцінопальскага патрыярха з абвінавачваннямі мітрапаліта Алексія ў падтрымцы Масквы, занядбанні пастырскай дзейнасці і просьбай паставіць іншага мітрапаліта на землі, быўшыя пад уладай ці ўплывам ВКЛ[*].

[*] Питтакій* князя Литвы, Ольгерда, къ всесвятѣйшему владыкѣ нашему, вселенском патріарху.

Отъ царя литовскаго Ольгерда къ патріарху поклонъ. Прислалъ ты ко мнѣ грамоту съ [человѣкомъ] моим Феодоромъ, что митрополитъ жалуется тебѣ на меня, говоритъ такъ: «царь Ольгердъ напалъ на насъ». Не я началъ нападать, они сперва начали нападать, и крестнаго цѣлованія, что имѣли ко мнѣ, не сложили и клятвенныхъ грамотъ ко мнѣ не отослали. Нападали на меня девять разъ, и шурина моего князя Михаила [тверскаго] клятвенно зазвали къ себѣ, и митрополитъ снялъ съ него страхъ, чтобы ему прійти и уйти по своей волѣ, но его схватили. И зятя моего нижегородскаго князя Бориса схватили и княжество у него отняли; напали на зятя моего, новосильскаго князя Ивана и на его княжество, схватили его мать и отняли мою дочь, не сложивъ клятвы, которую имѣли къ нимъ. Противъ своего крестнаго цѣлованія, взяли у меня города: Ржеву, Сишку, Гудинъ, Осѣченъ, Горышено, Рясну, Луки Великія, Кличень, Вселукъ, Волго, Козлово, Липицу, Тесовъ, Хлепенъ, Фоминъ городокъ, Березуескъ, Калугу, Мценескъ. А то все города, и всѣ ихъ взяли, и крестнаго цѣлованія не сложили, ни клятвенныхъ грамотъ не отослали. И мы, не стерпя всего того, напали на нихъ самихъ, а если не справятся ко мнѣ, то и теперь не буду терпѣть ихъ. По твоему благословенію, митрополитъ и донынѣ благословляетъ ихъ на пролитіе крови. И при отцахъ нашихъ не бывало такихъ митрополитовъ, каковъ сей митрополитъ! – благословляетъ Московитянъ на пролитіе крови, и ни къ намъ не приходитъ, ни въ Кіев не наѣзжаетъ. И кто поцѣлуетъ крестъ ко мне и убѣжитъ къ нимъ, митрополитъ снимаетъ съ него крестное цѣлованиіе. Бываетъ ли такое дѣло на свѣтѣ, чтобы снимать крестное цѣлованіе? Иванъ Козельскій, слуга мой, цѣловалъ крестъ ко мнѣ съ своею матерью, братьями, женою и дѣтьми, что онъ будетъ у меня, и овъ, покинувъ мать, братьевъ, жену и дѣтей, бѣжалъ, и митрополитъ Алексѣй снялъ съ него крестное цѣлованіе. Иванъ Вяземскій цѣловалъ крестъ, и бѣжалъ и порукъ выдалъ, и митрополитъ снялъ съ него крестное цѣлованіе. Нагубникъ** Василій цѣловалъ при епископѣ, и епископъ былъ за него поручителемъ, и онъ выдалъ епископа въ порукѣ, и бѣжалъ, и митрополитъ снялъ съ него крестное цѣлованіе. И многіе другіе бѣжали, и онъ всѣхъ ихъ разрѣшаетъ отъ клятвы, то есть отъ крестнаго цѣлованія. Митрополиту слѣдовало благословить Московитянъ, чтобы помогали намъ, потому что мы за нихъ воюемъ съ нѣмцами. Мы зовемъ митрополита къ себѣ, но онъ не идетъ къ намъ: дай намъ другаго митрополита на Кіевъ, Смоленскъ, Тверь, Малую Русь, Новосиль, Нижній Новгородъ.

* Пітакій – ліст ад і да канстанцінопальскага патрыярха.

** Нагубнік – (тлумачэнне выдаўцы) – ад слова *губа*. У ВКЛ губой называлася плошча зямлі, якую селянін мог узараць сахой на працягу дня. Адсюль слова *нагубнік*, па ўсёй верагоднасці азначала ў Літве служылага чалавека, які валодаў на праве маёнтка, пэўнай колькасцю губаў княскай зямлі.

Русская историческая библиотека. Санкт-Петербург. 1880. Т. VI. Приложения. Стб. 135 – 140.

Патрыярх паслаў на Русь сваю даверaную асобу разабрацца ў сітуацыі і параіў Алексію зняць царкоўнае адлучэнне з цверскага князя і прымірыцца з ім. У 1371 г. па-

трыярх таксама зацвердзіў асобную мітраполію ў Галічы, што стала вынікам доўгіх старанняў польскага караля Казіміра III[285].

У 1373 г. паўтарылася спроба каталіцкага хрышчэння ліцвінскіх князёў. Папа Рыгор XI выслаў булу да Альгерда, Кейстута і Любарта, у якой намаўляў іх хрысціцца ў каталіцтва. Адначасова ў лістах да венгерска-польскага караля Людовіка, каралевы Эльжбеты, апольскага князя Уладзіслава і мазавецкага князя Земавіта III папа наказваў спрыяць навяртанню Літвы. Мяркуецца, што ініцыятарам усёй справы, пра вынікі якой нічога невядома, мог быць сусед Літвы мазавецкі князь Земавіт[286].

Новае абвастрэнне маскоўска-цвярскіх адносінаў у 1372 г. прымусіла Альгерда зноў умяшацца, каб не дапусціць да ліквідацыі незалежнасці Цверскага княства. У канцы красавіка цверскі князь захапіў Дзмітраў, а Кейстут з Андрэем полацкім напалі на Пераяслаўль. Міхаіл Аляксандравіч заняў таксама пагранічны горад Вялікага Ноўгарада Таржок і разбіў пад ім ноўгарадскае войска.

12 ліпеня цверскія войскі злучыліся з ліцвінскімі каля Любуцка на поўдні маскоўскіх уладанняў дзеля чарговага наступу на Маскву. На гэты раз масквічы былі прыгатаванымі і Альгерд не прыняў бітвы. Пасля сутычкі перадавых атрадаў, варожыя войскі сталі, раздзеленыя ярам. У выніку быў заключаны мір, які датычыў таксама і Цверы.

У расейскай і часткі беларускай гістарыяграфіі тры паходы Альгерда на Маскву называюцца няўдалымі або безвыніковымі[287]. Гэта неаб'ектыўны прысуд, бо акрамя аслаблення праціўніка праз вынішчэнне яго тэрыторыі і аблогі сталіцы, паходы дасягнулі мэты, якую ставіў вялікі князь літоўскі – незалежнасць Цверскага княства была захаваная. Вялікі паход Масквы на Цвер у 1375 г. хоць і закончыўся невыгодным для цверскага князя мірам, але не ліквідаваў незалежнасць яго дзяржавы[288]. Альгерд больш не праводзіў паходаў на Маскву, а абмежаваўся пакараннем Смаленска за ўдзел у маскоўскім паходзе на Цвер (сярод яго ўдзельнікаў фігураваў і бранскі князь, напэўна, раней выдалены з Бранска Альгердам). Альгерд з Кейстутам у той час сканцэнтраваліся на заходніх межах і павялі контрнаступ супраць Польшчы і Ордэна.

Ордэнская ваенная машына не збаўляла абароты ды ўзмацняла мілітарны націск на Літву і Жамойць, а дуумвіры ўжо некалькі гадоў не давалі належнага адказу. Войскі дзвюх філіяў Ордэна некалькі разоў нападалі на Жамойць або ВКЛ адначасова, выкарыстоўвалі г.зв. тактыку "абцугоў"[289]. У 1373 г. сыны Альгерда Свідрыгайла, пазней Андрэй з палачанамі правялі набегі на Дзюнабург.

Крыжакі пастаянна непакоілі ліцвінскае пагранічча дробнымі рабаўнічымі нападамі. Апісанне аднаго з іх, праведзенага ў 1375 г., утрымлівае цікавыя дэталі пра характар гэтай "рабаўнічай вайны"[*].

> [*] "Адразу потым камандзір Растэнбурга выслаў некага у ордэнскім адзенні, званага Лупус Лео, з трыццацю людзьмі, а той па загаду камандора Балгі зайшоў у пушчу для рабунку, што ўбачыла варта і данесла ў гарадзенскі замак.

[285] Знаменский П.В. История Русской Церкви. С. 58.

[286] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 175.

[287] Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 34; Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. С. 84.

[288] Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). С. 206, 207, 213.

[289] Сагановіч Г. Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) [у:] З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Мн.:Беларуская навука, 1997. Вып. 2. С. 129.

Ваявода спешна пайшоў за імі ў пагоню праз вядомыя яму мясціны, калі вярталіся дадому, ударыў знянацку на іх з крыкам, уласцівым русінам. Той брат быў узяты ў палон і паранены; таксама некалькі чалавек было забіта; у такім замяшанні камандзір быў узяты ў палон. Праваднік вярнуўся і прынёс братам злую вестку, менавіта, як камандзір быў схоплены, некаторыя слугі забітыя, як ён уцёк".

Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 202 – 205.

**Каментар**: Тут мы бачым добра арганізаваную сістэму абароны Гародні ад крыжацкіх нападаў: варта ў пушчы на дальніх подступах да горада, хуткая перадача інфармацыі, мабільны вайсковы кантынгент у стане пастаяннай баявой гатоўнасці (складаўся з воінаў-беларусаў); разведаныя ці спецыяльна падрыхтаваныя таемныя лясныя дарогі. Цікава, як гучаў той баявы покліч русінаў, добра знаёмы ордэнскім ваярам.

Калі ў лютым 1375 г. ордэнскія войскі, узмоцненыя еўрапейскімі рыцарамі-гасцямі правялі глыбокі рэйд у ВКЛ пад Трокі, то атрымалі падвойны адказ – ліцвінскія паходы на абедзве ордэнскія філіі. Альгерд, Кейстут і Свідрыгайла ўвайшоўшы ў Прусы, падзялілі войска на тры часткі і пустошылі ваколіцы Інстэнбурга. У той самы год Кейстут з трымя сынамі Альгерда, з сынам смаленскага князя, і яшчэ адзін сын Альгерда полацкі князь Андрэй па такой самай схеме (падзел войска на тры часткі) атакавалі ўладанні рыжскага архіепіскапа[290].

У 1375 г. (13 лютага) каталіцкі першасвятар выдаў булу аб стварэнні Галічскага архібіскупства з біскупствамі ў Пярэмышлі, Хэлме і Уладзіміры[291]. У наступным годзе патрыярх Філафей паставіў кіеўскім мітрапалітам серба Кіпрыяна і прадпісаў, каб ён зноў злучыў Русь пад адной царкоўнай уладай пасля смерці Алексія[292].

У 1376 г. ліцвінскія войскі пад началам Кейстута, Ягайлы, Вітаўта, Любарта і Юрыя Нарымонтавіча правялі спусташальны паход на Польшчу, да якога палякі былі зусім не гатовыя. Аб'ектам нападу стала Сандомірская зямля ў міжрэччы Сану і Віслы. Ліцвіны дайшлі пад самую польскую сталіцу – каля 36 км да Кракава. Прычынай паходу інфлянцкі храніст Герман Вартберг назваў напады апольскага князя Уладзіслава на ўладанні Юры Нарымунтавіча і Любарта. Нібыта кароль Людовік перадаў яму некаторыя землі з уладанняў ліцвінскіх князёў, а той пачаў іх здабываць зброяй. Верагодным ініцыятарам ліцвінскага паходу быў Юры Нарымунтавіч[293]. У наступным годзе пасля смерці Альгерда кароль Людовік арганізаваў паход на Валынь, здабыў Белз, Холм, Гародлу. Любарт быў вымушаны прызнаць сябе яго леннікам, Юры Нарымунтавіча перавялі на малы ўдзел у Любачова, з усіх бакоў аточаны польскімі ўладаннямі[294]. Чарговы раз сітуацыя на Валыні змянілася на карысць ВКЛ праз пяць гадоў, калі памёр кароль Людовік.

Таксама ў 1376 г. у адказ на буйную крыжацкую выправу, дасягнуўшую Трокаў і Вільні, дуумвіры правялі некалькі паходаў у адказ як на тэрыторыю Прусіі, так і Інфлянтаў.

У траўні 1377 г.[295] памёр вялікі князь Альгерд і звестка пра гэта разышлася далёка за межы Літвы. Ягонае месца заняў любімы сын Ягайла, а Кейстут прызнаў за ім тытул вялікага князя. Яшчэ ніхто не ведаў (можа, акрамя новага вялікага князя), што гісторыя ліцвінскага дуумвірату закончылася.

[290] Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales. S. 204 – 205; Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 126 – 127.

[291] Kronika Jana z Czarnkowa. Kraków: Universitas, 2001. S. 54

[292] Знаменский П.В. История Русской Церкви. С. 59.

[293] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 130; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 67.

[294] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 162.

[295] Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 131.

# Глава 4. Агульная характарыстыка дзяржавы Альгерда і Кейстута

## 4.1. СІСТЭМА ДУУМВІРАТУ

У літаратуры выказваліся розныя меркаванні пра сістэму цэнтральнай улады ў тагачасным ВКЛ і характар узаемаадносінаў паміж Альгердам і Кейстутам. У ордэнскіх хроніках іх абодвух тытулавалі каралямі, часам Кейстута называлі галоўным ваенным правадыром – princeps militiae.

У гісторыкаў не ўзнікала сумненняў у выключна высокай пазіцыі Кейстута ў дзяржаве і ў адносінах з Альгердам. Мацей Любаўскі пасля пэўных ваганняў назваў яго *"правай рукой Альгерда"*[296], Станіслаў Смолька пісаў пра *"сістэму сумеснага кіравання"*[297]. Эдвардас Гудавічус ужыў тэрмін "дыархія" (словазлучэнне са старагрэцкай мовы: "два" і "правіцель"), які азначае роўнасць статуса двух асобаў у дзяржаве. Яраслаў Нікодэм адмаўляе статус субманарха ў Кейстута і паказвае на выпадковасць яго ўзвышэння, якая вынікала з асаблівых братэрскіх адносінаў, а не з прававых нормаў[298]. Фармальна Альгерд меў больш высокі статус чым Кейстут. Напрыклад, мірная дамова з польскім каралём пачыналася формулай *"Я князь вялікі Альгерд, са сваімі братамі, з Кейстутам, з Яўнуціям, з Любартам..."*. Інфлянцкі храніст Герман Вартберг называў Альгерда *"галоўным літоўскім каралём"*. На пячатках Альгерд тытулаваўся вялікім князем, а Кейстут – князем троцкім[*].

> [*] Паводле крыніцаў, захаваных адбіткаў і апісанняў, вядома тры пячаткі Альгерда і пяць пячатак Кейстута. Яны ўжываліся амаль выключна для зацвярджэння дакументаў міжнароднага характару. Відавочна таму, у Кейстута, які працаваў пераважна з заходнімі краінамі, дзе афіцыйнай мовай была лаціна, на большасці пячатак надпісы выкананыя па-лацінску. Пячаткі Альгерда, адпаведна, падпісаныя кірыліцай на русінскай (старабеларускай) мове.
>
> Вядома таксама пячатка Любарта Гедымінавіча, які кіраваў буйной краінай і быў суб'ектам міжнародных адносінаў.
>
> Gumowski M. Pieczęcie Książąt Litewskich // AW. 1930. R. 7. S. 684 – 725.

Для характарыстыкі адносінаў паміж Альгердам і Кейстутам найбольш адпаведным з'яўляецца тэрмін з лацінскай мовы – "дуумвірат" (лац. *duumviratus,* сумеснае кіраванне, ад *duo* – два і *vir* –муж*)*, які азначае сістэму кіравання двух асобаў.

Кейстут быў не бліжэйшым памочнікам вялікага князя, а ягоным суправіцелем. Падчас сумесных паходаў дуумвіраў на ордэнскія землі - зону адказнасці Кейстута, кіраўнікі Ордэна вялі перамовы менавіта з ім, нягледзячы на прысутнасць вялікага князя

[296] Любавский М. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода... С. 19.

[297] Smolka S. Kiejstut i Jagiełło // Pamiętnik Akademii Umiejętności w Krakowie. Wydziały Filologiczny i Historyczno-Filozoficzny. 1889. T. 7. S. 81.

[298] Гудавичюс Э. По поводу так называемой "диархии" в Великом Княжестве Литовском [у:] Feodālisms Baltijas regionā: zinātnisko rakstu krājums. Riga, 1985. L. 35 – 44; Nikodem J. Jedynowładztwo czy diarchia? Przyczynek do dziejów ustroju Wielkiego Księstwa Litewskiego do końca XIV wieku // Zapiski Historyczne. Poświecone historii Pomorza i krajów bałtyckich. T. LXVIII. Rok 2003. Zeszyt 4. Toruń, 2003. S. 19 – 30.

Альгерда. Калі браты хадзілі на землі Русі, то там камандаваў Альгерд, які ў летапісах выступаў на першым месцы, часта з формулай: *"Альгерд з братам Кейстутам..."*.

Афіцыйна вялікім князем лічыўся Альгерд Гедымінавіч, але паводле дамоўленасці між братамі, улада была падзеленая па тэрытарыяльным прынцыпе. У сярэднявечным дуумвіраце іначай і не магло быць. У феадальным грамадстве палітычная вага манарха, як і любога буйнога феадала, наўпрост залежала ад велічыні ягоных зямельных уладанняў. Кожная дзяржаўная пасада забяспечвалася зямельнымі маёнткамі.

Кейстут як і раней, пры жыцці бацькі, адказваў за заходні кірунак – адносіны з Ордэнам, Польшчай, Мазовіяй. Альгерд праводзіў усходнюю палітыку. Важнейшыя стратэгічныя рашэнні прымаліся ўзгоднена. У найбольш важных справах браты дзейнічалі сумесна, напрыклад, у паходы хадзілі разам ва ўсіх кірунках. Адзінае месца змагання, дзе асабістая прысутнасць Альгерда падчас ваенных дзеянняў не зафіксаваная крыніцамі – Валынь і Галіччына.

Новаздабытыя землі дзяліліся між дуумвірамі[*]. Гэтая дамова выконвалася не літаральна, а праз перадачу Кейстуту земляў на захадзе ўзамен яго долі ад здабытых Альгердам на ўсходзе[299].

[*] "І ўчынілі ўмову паміж сабою вялікі князь Кейстут і вялікі князь Альгерд, што ўсе іх браты павінны слухацца вялікага князя Альгерда, што здабудуць, горад ці воласць, усё дзяліць напалам. І прысягнулі яны адзін аднаму быць да канца жыцця ў любові і дружбе і ніколі не задумваць нічога благога. І захавалі яны клятву да канца жыцця свайго."

Летапіс вялікіх князёў літоўскіх [у:] Беларускія летапісы і хронікі. Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1997. С. 50.

Кожны з дуумвіраў мог самастойна весці замежную палітыку на сваім участку мяжы – праводзіць дыпламатычныя перамовы, заключаць саюзы, хадзіць у ваенныя паходы і г.д.

Адзінства дзяржавы падтрымлівалася супольным вайсковым патэнцыялам дуумвіраў і братэрскай згодай, якая вытрымала ўсе выпрабаванні да самай смерці вялікага князя Альгерда Гедымінавіча. Вось тады і выявілася слабое месца сістэмы – залежнасць ад асабістых адносінаў паміж дуумвірамі. Ягайла Альгердавіч, заняўшы месца бацькі, хутка ўвайшоў у канфлікт з дзядзькам Кейстутам і сістэма дуумвірату развалілася назаўсёды. Пазней Ягайла спрабаваў стварыць нешта падобнае з братам Скіргайлам, але таму перашкодзіў сын Кейстута Вітаўт.

Тэрытарыяльны падзел у знешней палітыцы не быў нечым новым у буйных краінах Еўропы па прычыне цяжкасці тагачаснай камунікацыі. Знешнія пагрозы часта вымагалі імгненнага рэагавання, а сярэднявечныя дарогі і сродкі сувязі не давалі магчымасці хутка звязацца з цэнтрам, перадаць інфармацыю, атрымаць указанні і перакінуць войскі. Напрыклад, адна з буйнейшых еўрапейскіх дзяржаў – Францыя яшчэ ў 16 і першай палове 17 ст. была падзеленая на чатыры часткі, і для кожнай меўся дзяржаўны сакратар, які кіраваў ўнутранымі і знешнімі справамі на сваёй чвэрці тэрыторыі краіны[300].

Пры дуумвірах ВКЛ стала сапраўды буйной па тэрыторыі дзяржавай, пад канец гаспадарання дуумвірату яе плошча ацэньваецца ў 630 тыс. кв. км[301]. Кейстут быў поўным гаспадаром у сваёй частцы краіны, мог весці самастойную замежную палітыку (заключаў дамовы сам, або ад імя вялікага князя), што прызнавалася манархамі іншых краінаў.

[299] Любавский М. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода... С. 15.

[300] Izdebski Hubert. Historia administracji. Warszawa: Liber, 2000. S. 42.

[301] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. С. 84.

Яму не аднойчы прапаноўвалі каралеўскую карону. Добрым сведчаннем узроўню даверу і згоды між дуумвірамі стаў выпадак з 1351 г., калі Кейстут фармальна прыняў прапанову венгерскага караля хрысціцца і каранавацца, а потым аказалася, што то была ўзгодненая з Альгердам дыпламатычная хітрасць з мэтай адвесці пагрозу вайны.

Пры Альгердзе, як раней пры Гедыміне, функцыянавала вялікакняская рада, у якой удзельнічалі яго браты і найбольш значныя баяры. Пра наяўнасць у ВКЛ "вялікіх баяраў" з русінаў, у тым ліку ў свіце Кейстута, сведчыць інфлянцкі храніст[*].

[*] "Далей ляжалі забітымі на дарозе, паблізу замка Дзінабурга, двое русінаў – адзін па імю Андрэй, сын аднаго вялікага баярына з Віцебска, які трымаўся як кароль; другі ж – вялікі баярын з Полацка па імю Радэке (перакручанае хранізстам русінскае імя, магчыма, Радзім ці Радаслаў – *А.К*), са світы караля."

Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 127.

Ягайла пісаў да гросмайстра Ордэна, што бацька зрабіў яго сваім наступнікам з санкцыі князёў і баяраў[302]. Няма звестак пра тое, што рада мела сталы інстытуцыянальны характар, верагодна, вялікі князь збіраў на яе каго хацеў і калі хацеў.

Князі рода Гедыміна, якія кіравалі пагранічнымі землямі, бралі ўдзел у міжнароднай палітыцы, найперш у адносінах з манархамі бліжэйшых краінаў. Іх подпісы і пячаткі замацоўвалі міжнародныя дамовы побач з подпісамі дуумвіраў, або аднаго з іх.

Дзяржавай не валодаў род Гедымінавічаў, яна была ўласнасцю вялікага князя, у даным выпадку, дуумвіраў. Альгерд і Кейстут ні ў каго не пыталіся згоды на падзел новых земляў, а па дамоўленасці дзялілі паміж сабой. Яны па палітычных матывах раздавалі ўдзелы на новаздабытых тэрыторыях як прадстаўнікам свайго роду, так і мясцовым князям. Галоўным крытэрыям пры гэтым была лаяльнасць. Няўдалай бачыцца спроба знайсці ў ліцвінскім баярстве яшчэ адну актыўную і арганізаваную палітычную сілу ў тагачасным ВКЛ, з якой нібыта мусілі лічыцца вялікія князі[303]. У крыніцах не прасочваюцца ні агульныя баярскія сеймы, ні абавязковае прадстаўніцтва баярства ў вялікакняскай радзе. Разважанні на гэты конт выглядаюць як неправамернае перанясенне на ВКЛ сітуацыі польскай шляхты. Адметнасцю ВКЛ была моцная цэнтральная ўлада, сфармаваная ў спецыфічных умовах пастаяннай вайны з крыжакамі, падобна як у іберыйскіх каралеўствах падчас рэканкісты.

Другой адметнасцю ўнутранага ладу ВКЛ было захаванне шырокай аўтаноміі на далучаных тэрыторыях, паводле прынцыпа "старыны не рушыці, а навізны не ўводзіць". Гэтым унутраная палітыка ВКЛ на Русі адрознівалася ад польскай і маскоўскай. Кароль Казімір III уводзіў на праваслаўных землях каталіцызм і палітычную дамінацыю палякаў. Масква ўжо ў 14 ст. праяўляла імкненне як мага шчыльней прывязаць здабытыя землі да цэнтра праз насаджэнне на іх маскоўскага баярства, уніфікацыю ўнутранага ладу. Можна меркаваць, што падаткавы ціск пад маскоўскай уладай быў мацнейшы чым пад ліцвінскай, бо маскоўскія князі, акрамя звыклых падаткаў і татарскага "выхаду", збіралі шмат сродкаў для хабару татарскім правіцелям. Напрыклад, князь Дзмітрый Іванавіч у 1371 г. заплаціў Мамаю за ярлык столькі, што прыйшлося ўводзіць дадатковыя падаткі: "*цяжкая даніна лягла на гарады і людзей*"[304].

[302] Łowmiański H. Uwagi w sprawie podłoża społecznego i gospodarczego unii jagiellońskiej [w:] Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań: Wydawnictwo Naukowe Uniwersytetu im. A.Mickiewicza, 1983. S. 380.

[303] Łowmiański H. Uwagi w sprawie podłoża… S. 378 – 385.

[304] Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 39.

Сярэднявечнай дзяржаве лягчэй было арганізаваць унутранае кіраванне, чым абарону ад знешняга ворага. На першае патрабавалася нашмат меньш збройнай сілы. Хоць дзяржаўная адміністрацыя была вельмі нешматлікай, а прафесійнай бюракратыі па-за цэнтрам увогуле не існавала, але лакальныя супольнасці маглі самаарганізоўвацца, падтрымліваць унутраны парадак на аснове як агульнадзяржаўнага, так і традыцыйнага мясцовага права. У прыватнасці, пра гэта сведчыць доўгая гісторыя сялянскай абшчыны ў Беларусі[305].

## 4.2. РЭЛІГІЙНАЯ ПАЛІТЫКА

Дуумвіры працягвалі ўжо традыцыйную ў ВКЛ палітыку рэлігійнай талерантнасці, прынцыпы якой выдатна сфармуляваў іх бацька: няхай кожны шануе Бога па-свойму![*].

[*] Y koli kniaź Olgierd poniał za sebe żonu kniażnu Ulianu witebskuiu (перабльітана – віцебскую княжну звалі Ганна – *А.К.*), dla kotoroie ż kniaź Olgird ochrystyłsia w ruskuiu wiru, a panowie litowskije wsi byli u swoich wierach pohanskich. Y kniaź || weliki **Olgierd ne czynił im siły y w weru swoiu ne wernuł** (*выдзелена мною – А.К.*), y rymskoie wiry w Litwe paki uże ne było, tolko ruskaja zmeszałasia.

ПСРЛ. Т. 32. Хроника Быховца. С. 139.

Па ўсёй сярэднявечнай Еўропе буйныя феадалы, у тым ліку манархі, адносіліся да рэлігіі ў большасці без фанатызму, часта трактавалі яе інструментальна, маглі мяняць варыянты хрысціянства дзеля кар'еры. Тое ж было ў Літве. Вялікія князі не ўспрымалі абрад хрышчэння як беззваротны пераход у новую веру, вядомыя выпадкі захавання ранейшых рэлігійных звычаяў. Пра Міндаўга летапісец напісаў: "*Хрышчэнне яго ільсцівым было*". У 14 ст. не знойдзем ніводнага вялікага князя літоўскага, які б не абяцаў па палітычных прычынах прыняць хрысціянства (часам неаднакроць). Галіцка-уладзімірскі князь Юры-Баляслаў, будучы каталіком, хрысціўся на праваслаўнага, але па перакананнях застаўся пры старой веры. Кейстут не пабаяўся сілай узяць за жонку жрыцу сваіх язычніцкіх багоў.

У падобным кантэксце варта разглядаць пытанне пра тое, быў ці не быў ахрышчаны ў праваслаўную веру вялікі князь Альгерд. Наконт Кейстута падобнае пытанне не ставіцца, яго лічаць "класічным" язычнікам, верным веры продкаў. Ён кіраваў у заходняй частцы дзяржавы, дзе яшчэ моцныя былі язычніцкія традыцыі, а хрысціянства ў праваслаўнай форме распаўсюджвалася хоць і з даўніх часоў, але паволі, эвалюцыйна і без гвалту (у адрозненне ад каталіцызму).

Інакш выглядае справа з Альгердам. Адносна яго праваслаўнага хрышчэння ў крыніцах захаваліся супярэчлівыя звесткі. На падставе інфармацыі летапісаў 15 – 17 ст. даўно ўжо было выказанае сцверджанне, што ён быў ахрышчаны ў праваслаўе ў Віцебску пад імем Аляксандра[306]. З другога боку, вялікі князь фігуруе ў крыніцах пад імем Альгерда і маецца прамое ўказанне пскоўскага летапісу ў цытаваным ужо запісе ад 1342 г.: "*князь Олигордъ отречеся креститися и княжениа псковъского*". Адсюль вынікае выснова, што Альгерд нават будучы князем у даўнім цэнтры праваслаўя Віцебску за доўгія гады так і не прыняў хрысціянства, каб тое не перашкодзіла яму

[305] Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі 16 – 18 ст. Мн.: Беларуская навука, 2008. С. 3 - 6.

[306] Киприанович Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1899. С. 15.

стаць вялікім князем літоўскім[307]. Праўда, як вядома, падобныя апасенні ліцвінскім гаспадарам не былі ўласцівыя, вялікімі князямі ў Літве станавіліся праваслаўныя Войшалк і Шварн, Міндаўг фармальна прыняў каталіцтва, Віцень, Гедымін, Альгерд, Кейстут намерваліся, ці, прынамсі, афіцыйна абяцалі гэта зрабіць.

Маецца таксама сведчанне Ніканаўскага летапісу, якое дапаўняе інфармацыю пскоўскага, менавіта Альгерд паведамляе, што ўжо праходзіў абрад хрышчэння[*].

[*] "Тогда Псковичи много молиша великого князя Олгерда Гедимановича, крестиши его хотяще, и на княжениї посадити во Псковѣ. Онъ же глагола имъ, **уже крещенъ есмь и христианинъ есмь, ї второе крестися нехощу** (выдзелена мною – *А.К.*), и на княжениї у васъ сѣсти нехощу."

Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. С. 178.

Альгерд абавязаны быў прыняць хрост, інакш не мог стаць мужам віцебскай князёўны. Віцебскі князь, прыняўшы Альгерда ў зяці, не мог аддаць дачку замуж без царкоўнага вянчання ("аддаць у блуд"), якое, у сваю чаргу, не магло адбыцца без хрышчэння маладога[*].

[*] Сведчанне Мацея Стрыйкоўскага: "Літоўскія Гедымінавічы ахрысціліся ў хрысціянскую веру рускіх абрадаў, акрамя Кейстута. Альгерд таксама яшчэ пры жыцці бацькі ахрысціўся, дзеля жонкі Ульяны (*памылка, як і ў летапісе, трэба Ганна – А.К.*), пасля якой і Віцебскае княства атрымаў, ale świeża skorupa tłustością smrodliwą nawrzała, starą przywarą woniała*. Тым не менш, дзве царквы ў Віцебску, грэцкім кшталтам каштоўна вымураваў, пэўна, як я сам бачыў, немалым коштам, адну ў ніжнім замку, другую ў полі за ручаём, альбо замкавым прыкопам; таксама верхні замак аздобіў мурам і вежамі і палацам, які сёння збураны, там жа на верхнім замку я бачыў на ўласныя вочы ў царкоўцы абраз Альгерда і яго жонкі ў царкве на алтары ў доўгім плашчы, грэцкім кшталтам намаляваны."

Stryjkowski Maciej. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi. T. II. S. 14.

* Неперакладны ідыяматычны выраз, азначае, што Альгерд не быў праўдзівым хрысціянінам, маўляў, хоць прыняў новае аблічча – хрысціянства, пад ім заставалася старая сутнасць – язычніцтва.

Прайшоўшы абрад хрышчэння, князь Альгерд не стаў хрысціянінам па перакананні і не прытрымліваўся праваслаўных абрадаў. Ды і пахаванне яго адбылося паводле (ці, можа, з элементамі) язычніцкага абраду[*].

[*] "Пры яго пахаванні, адпаведна літоўскаму забабону, было праведзена ўрачыстае шэсце, са спаленнем розных рэчаў і 18 баявых коней."

Ливонская хроника Германа Вартберга. С. 131.

Падобныя адносіны тагачасных палітыкаў да фармальных рэлігійных працэдураў былі звыклай справай не толькі ў ВКЛ.

[307] Варонін В. Княжанне Альгерда ў Віцебску. С. 13.

Ёсць тлумачэнне настойлівасці пскавічоў, дамагаўшыхся правядзення абраду хрышчэння (хай паўторнага) менавіта ў іх горадзе. Прычына крыецца ў спецыфіцы адносінаў Пскова з Вялікім Ноўгарадам, менавіта яго падпарадкаванню ў рэлігійных справах ноўгарадскаму архіепіскапу. Ноўгарадцы выкарыстоўвалі гэтую сітуацыю дзеля палітычнага ціску на свой былы "прыгарад". Архіепіскап мог гадамі пад рознымі повадамі не прыязджаць у Пскоў з пастырскім візітам[308], што моцна перашкаджала, а часам паралізоўвала царкоўнае жыццё. Пскавічы, не змогшыя стварыць уласную епіскапію нават пры пратэкцыі Гедыміна, стараліся не даваць хоць бы дробнага повада для санкцый з боку архіепіскапа ноўгарадскага. А як вядома, ноўгарадцы часта абвінавачвалі пскавічоў у супрацы з язычнікамі-ліцвінамі і ў даным выпадку пскавічы, па ўсёй верагоднасці, хацелі "падстрахавацца".

Як манарх краіны з абсалютнай перавагай праваслаўнага насельніцтва Альгерд шмат увагі надаваў справе арганізацыі праваслаўнай царквы. Ён змагаўся за свайго кандыдата на пасаду мітрапаліта кіеўскага і ўсёй Русі, калі гэтага не ўдалося дасягнуць, дамогся ад патрыярха аднаўлення Літоўскай праваслаўнай мітраполіі і далучэння да яе новых епіскапстваў[*].

[*] **Храналогія праваслаўнай царквы на землях Русі ў 14 ст.**

1300 г. – перанясенне рэзідэнцыі Кіеўскага мітрапаліта з Кіева ва Уладзімір на Клязьме.

Каля 1300 – каля 1328 г. першы перыяд дзейнасці Літоўскай мітраполіі са сталіцай у Наваградку.

1302 г. – Канстанцінопальскі патрыярх Афанасій пераўтварыў Галіцкую епіскапію ў мітраполію ў складзе шасці епархій: Галіцкай, Пярэмышльскай, Уладзімірскай, Тураўскай, Луцкай і Холмскай.

1308 г. – патрыярх Афанасій ліквідуе Галіцкую мітраполію і ставіць мітрапалітам Кіеўскім і ўсёй Русі Пятра.

1322 г. – мітрапаліт Пётр канчаткова перасяліўся ў Маскву.

1328 г. – мітрапаліт Феагност перанёс мітраполію з Уладзіміра ў Маскву (як і князь Іван Каліта, ён любіў "*старанна памнажаць сваю маёмасць*" Карташев А.В. История Русской Церкви, 1948 // http://krotov.info/history/11/smo/kart103.html#_Toc530282040).

каля 1328 г. – стараннямі мітрапаліта Феагноста скасаваная Літоўская мітраполія.

каля 1331 г. – адраджэнне Галіцкай мітраполіі. Патрыярх Ісайя па просьбе галіцка-валынскіх князёў надаў епіскапу Хведару тытул мітрапаліта.

1331 – 1332 г. – намаганнямі мітрапаліта Феагноста Галіцкая мітраполія зноў скасаваная

1347 г. – мітрапаліт Феагност дамогся канчатковай ліквідацыі нядаўна адроджанай Галіцкай мітраполіі.

1352 г. – па просьбе Альгерда балгарскі патрыярх пасвяціў на кіеўскага мітрапаліта Феадарыта, якому адмовіў у высвячэнні канстанцінопальскі патрыярх.

[308] НПЛ. С. 345.

1354 г. – аднаўленне Літоўскай мітраполіі. У Канстанцінопалі патрыярх Філафей паставіў на мітрапаліта "Кіеўскага і ўсёй Русі" Алексія, а кандыдат на гэтую пасаду ад ВКЛ Раман пастаўлены літоўскім мітрапалітам. Да Літоўскай мітраполіі належалі епіскапіі: наваградская, полацкая, тураўская і пяць пералічаных вышэй украінскіх.

1355 г. – канстанцінопальскі патрыяршы сінод зацвердзіў перанясенне мітраполіі з Кіева ва Ўладзімір на Клязьме.

1356 г. – мітрапаліт Алексій дамогся ў Канстанцінопалі зацвярджэння сваёй царкоўнай улады над Кіевам (на які прэтэндаваў мітрапаліт Раман).

1362 г. – смерць Літоўскага мітрапаліта Рамана. Пераемнік не прызначаны, але Літоўская мітраполія застаецца аўтаномнай.

1371 г. – стараннямі польскага караля патрыярх Філафей адраджае Галіцкую мітраполію на галіцка-валынскіх землях у складзе Польшчы.

1373 г. патрыярх Філафей адправіў іераманаха Кіпрыяна Цамблака вывучыць сітуацыю ў царкоўных справах Русі і Літвы.

каля 1374 г. – Кіпрыян вярнуўся ў Канстанцінопаль з просьбай паставіць мітрапаліта на землі ВКЛ.

1375 г. – Кіпрыян пастаўлены мітрапалітам Кіеўскім і ўсёй Русі з прадпісаннем аб'яднаць усе землі Русі пад свай уладай пасля смерці Алексія.

1379 г. – памёр Алексій, Кіпрыян няўдала спрабаваў замацавацца ў Маскве. Маскоўскі князь паслаў на пасвячэнне свайго кандыдата ў мітрапаліты Міцяя, але той памёр у дарозе каля самага Канстанцінопаля. Яго світа выставіла падмену – Пімена, які быў пасвечаны на мітрапаліта (у 1380 г.), але не прыняты ў Маскве.

1380 г. – патрыяршы сінод прызнаў Кіпрыяна таксама і Галіцкім мітрапалітам.

канец 1387 – пачатак 1388 г. – Кіпрыян зацверджаны мітрапалітам усёй Русі. Асеў у Маскве каля 1389 – 1390 г. Быў апошнім кіеўскім мітрапалітам, які меў уладу на ўсіх усходнеславянскіх землях. Памёр у 1406 г.

Паводле: Карташев А.В. История Русской Церкви, 1948 // http://krotov.info/history/11/smo/kart103.html#_Toc530282040); Знаменский П.В. История русской церкви. http://www.mpda.ru/data/245/644/1234/Istoria%20russkoy%20Cerk.pdf С. 56 – 61; Русская митрополия (861-1997 гг.). Хронология. http://www.ortho-rus.ru/titles/hronology.htm; Śliwa T. Kościół prawosławny w państwie litewskim w 13 – 14 wieku [w:] Chrzest Litwy. Geneza, przebieg, konsekwencje. Lublin 1990. S. 15 – 32.

Заўважная выразная розніца ў адносінах вялікакняскай улады да каталіцкага касцёла і праваслаўнай царквы. Вялікія князі былі свядомыя ролі рэлігіі ў жыцці тагачасных людзей, у тым ліку як палітычнай сілы. Добры прыклад – мітрапаліт Алексій, які пераўтварыў сваю пасаду ў інструмент маскоўскай палітыкі. Пашыраючы краіну на праваслаўных землях, ліцвінскія князі прымалі праваслаўе, дбалі пра будаўніцтва цэркваў і імкнуліся дасягнуць аўтаномію праваслаўнай царквы на сваёй тэрыторыі, каб яна не стала палітычнай прыладай у чужых руках (маскоўскіх князёў).

У змаганні з экспансіяй Тэўтонскага ордэна, Польскага і Венгерскага каралеўстваў Альгерд з Кейстутам працягвалі выкарыстоўваць даўні дыпламатычны прыём ліцвінскіх гаспадароў – дэкларацыю аб жаданні хрысціцца паводле лацінскага абраду. Аднак да каталіцтва вялікія князі адносіліся з насцярогай, не спяшаліся яго прымаць, нягледзячы на ўсе заахвочванні з боку Захаду. Пэўна сваю ролю тут адыграла агрэсіўнасць заходнееўрапейскай цывілізацыі ў распаўсюджванні каталіцызму. Тэолагі абгрунтавалі, а папы рымскія асвяцілі і абвясцілі богаўгоднай вайну супраць нехрысціянаў з мэтай

іх навяртання. Акрамя таго, вопыт папярэднікаў сведчыў, што прыняцце лацінскага абраду не спыніць агрэсію дзяржавы Тэўтонскага ордэна. Прыняцце каталіцтва азначала залежнасць, у тым ліку палітычную, ад папства і у пэўным сэнсе, ад германскага імператара. Тым не менш, вялікія князі літоўскія не перашкаджалі, наадварот, спрыялі (будавалі касцёлы ў сталіцах) дзейнасці каталіцкіх місіянераў на сваёй тэрыторыі.

У крыніцах 16 ст. (найперш у Хроніцы Быхаўца) можна трапіць на аповесць, як падчас выправы Альгерда на Маскву язычнікі ў Вільні забілі 14 манахаў-францысканаў, а Альгерд, вярнуўшыся, пакараў за гэта смерцю 500 вільнянаў. Апісанае здарэнне, аднак, прызнанае даследчыкамі легендай, якая паходзіць з 16 ст.[309]

Легендай лічыцца і аповесць пра трох віленскіх пакутнікаў, нібыта пакараных смерцю Альгердам у 1347 г. за прыналежнасць да праваслаўя. Даследчыкі звяртаюць увагу на адсутнасць інфармацыі пра гэтае здарэнне ў сучасных яму крыніцах, напрыклад, у ноўгарадскіх ці пскоўскіх летапісах добра дасведчаных у ліцвінскіх справах. Легенда з'явілася ў моцна тэндэйцыйных адносна Літвы маскоўскіх летапісах, у час абвастрэння з ёй канфрантацыі (канец – 15 – пачатак 16 ст.)[310]. У 16 ст. (1547 г.) сабор у Маскве далучыў "пакутнікаў" да ліку святых, а ў пачатку 19 ст. іх парэшткі былі "знойдзеныя" у Вільні праваслаўнымі манахамі ў царкве св. Духа, якая паводле рапарта ліквідатара царкоўнай уніі Сямашкі "*...напоминовение всякому русскому сердцу, что эта страна издревле не чужда России и Православию*"[311].

## 4.3. ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Дуумвірат Альгерда-Кейстута працягваў рэалізацыю знешнепалітычнай дактрыны вялікага Гедыміна: "**Абарона на захадзе, наступ на ўсходзе**". У цэлым паспяхова ажыццяўлялася першая яе частка, нягледзячы на нарастаючы мілітарны націск Тэўтонскага ордэна і перыядычныя войны з Польскім каралеўствам.

На ўсходзе наступ працягваўся і прывёў да новых буйных тэрытарыяльных прырашчэнняў. Дуумвіры сфармулявалі, а вялікі князь Альгерд агучыў агульную мэту ўсходняй палітыкі ВКЛ: "**Уся Русь павінна належаць да Літвы**". Упершыню ў гісторыі ВКЛ правяло наступальную аперацыю супраць татараў, закончаную перамогай на Сініх Водах і далучэннем большай часткі Падолля. У выніку, у складзе беларуска-летувіскай дзяржавы апынулася большасць украінскіх земляў і яна пачала фактычна пераўтварацца ў беларуска-украінска-летувіскую. Ліцвінскі дуумвірат напоўніцу выкарыстаў спрыяльную міжнародную сітуацыю, якая склалася ў 1359 г., менавіта, міжусобіцу ў Залатой Ардзе і часовае аслабленне Маскоўскага княства пасля смерці князя Івана Іванавіча. Асноўная частка ліцвінскіх тэрытарыяльных здабычаў прыпала на кароткі перыяд паміж 1359 – 1363 г. ВКЛ пашырыла свае ўплывы на ўсходнеславянскіх землях ажно да сярэдняга басейну Волгі (да Ніжняга Ноўгарада). Дзякуючы мілітарнай сіле ВКЛ, эфектыўным сродкам знешняй палітыкі стала дыпламатыя, у прыватнасці, шлюбныя сувязі з мясцовымі князямі, лічыўшымі за гонар парадніцца з магутнымі ліцвінскімі гаспадарамі. Як напісаў пра гаспадаранне Альгерда вядомы савецка-расейскі гісторык Ігар Грэкаў: "*Пры ім вялікае княства Літоўскае і Рускае не толькі фармальна высоўвала праграму аднаўлення былой цэласнасці Русі, але і практычна старалася яе ажыццявіць шляхам "збірання" усіх старажытнарускіх земляў.*"[312]

---

[309] Chodynicki K. Legenda o męczeństwie czternastu Franciszkanów w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1927. T. IV. S. 53 – 78.

[310] Chodynicki K.Geneza i rozwój legendy o trzech męczennikach wileńskich // Ateneum Wileńskie. 1927. T. IV. S. 417 – 451.

[311] Тамсама. С. 441.

[312] Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды... С. 47.

Цікавая гістарычная крыніца – грамата Альгерда з 1371 г. да канстанцінопальскага патрыярха (гл. у раздзеле 3.4) ўтрымлівае дэталёвыя сведчанні пра абсяг ліцвінскіх уплываў на ўсходзе. Саюзнымі ці залежнымі ад ВКЛ былі князі ніжагародскі і навасільскі, жанатыя з дочкамі Альгерда. Васаламі з'яўляліся князі казельскі і вяземскі, якія потым перакінуліся на бок Масквы, парушыўшы васальную прысягу ("крыжовае цалаванне").

Маскоўскае княства да сярэдзіны 60-х гадоў зноў заняло ўладзімірскі вялікакняскі пасад і аднавіла сваю тэрытарыяльную цэласнасць. На той час яно аказалася з некалькіх бакоў аточанай землямі ВКЛ, яго васалаў і саюзнікаў (ліцвінскія ўладанні ў паўночнай Смаленшчыне і Севершчыне, уплывы ў вярхоўскіх княствах, Цверскім і Ніжагародска- Суздальскім).

Ад сярэдіны 60-х гадоў 14 ст. Масква пачала змаганне з ВКЛ, у тым ліку і збройнае, падтрыманае вярхоўнай царкоўнай уладай – мітрапалітам кіеўскім і ўсёй Русі Алексіям, фактычным правіцелем Маскоўскага княства. Абшарам яе дамаганняў стаў ліцвінскі плацдарм на водападзеле ўсіх буйнейшых рэк рэгіёна ў паўночнай Смаленшчыне, а таксама тэрыторыі на поўдзень ад Масквы (у грамаце Альгерда пералічаныя: Ржэва, Сішка, Гудзін, Асечан, Горышава, Расна, Вялікія Лукі, Клічэн, Уселук, Волго, Казлова, Ліпіца, Цесаў, Хлепень. Фамін гарадок, Беразуеск, Калуга, Мцэнск).

Адказам была збройная інтэрвенцыя Альгерда, у рамках якой ён правёў тры паходы на Маскоўскае княства. Непасрэднай прычынай вайны 1368 – 1372 г. стаў актыўны наступ Масквы на саюзніка ВКЛ Цверскае княства, якому рэальна пагражала страта незалежнасці. У выніку ваеннага канфлікту Альгерд дасягнуў сваёй мэты – Масква на нейкі час была аслабленая, а незалежнасць Цверы абароненая. У гістарыяграфіі выказвалася, на мой погляд, слушная здагадка, што Альгерд меў у планах захаванне раўнавагі паміж Цверай і Масквой. Залішняе аслабленне Маскоўскага княства вяло да таго, што яго месца як цэнтра аб'яднання Паўночна-Усходняй Русі (Расеі) заняла б Цвер. Адсюль і сістэма шлюбных сувязяў вялікага князя літоўскага як з цверскімі, так і з маскоўскімі князямі.

Няпростыя адносіны складваліся ў ВКЛ са Смаленскім княствам, якое дзеля захавання незалежнасці лавіравала паміж мацнейшымі дзяржавамі, пераходзіла то на бок Масквы, то ВКЛ. На той час смаленскія князі большую небяспеку бачылі ў Літве, якая паступова, але няўхільна абразала іх тэрыторыю (заняла Белую, Ржэву, Мсціслаў і інш.), таму былі схільныя да саюзу з Масквой. У маскоўска-цверскай дамове ў 1375 г. Смаленск згадваецца як варожая Літве краіна ("*А поидут на нас литва или на смоленьского на князя на великого, или на кого на нашю братью на князеи, на ся их боронити, а тобѣ с нами всим с одиного*")[313].

З паўночнымі рэспублікамі Вялікім Ноўгарадам і Псковам за час кіравання дуумвіраў адносіны складваліся пераважна спакойна, лцвінскія сілы былі занятыя на іншых кірунках. Часам здараліся канфлікты, як сутычкі Полацка з Псковам па прычыне спрэчнасці гандлёвых інтарэсаў. У 1372 г. узнік апасрэдаваны канфлікт з ноўгарадцамі, калі саюзнік Альгерда цверскі князь Міхаіл Аляксандравіч захапіў іх пагранічны горад Таржок.

Адзінай значнай тэрытарыяльнай стратай за час гаспадарання дуумвіраў была Галіччына (Чырвоная Русь), якую захапіла Польскае каралеўства. Калі напачатку ВКЛ удалося заняць галіцка-валынскую спадчыну цалкам, то пазней Галіччына замацавалася за Польшчай, а Валынь – за ВКЛ. Змаганне з Польшчай не належала да прыярытэтаў знешняй палітыкі дуумвірату. Канфлікт за галіцка-валынскую спадчыну, які рэгулярна пераходзіў у стадыю вайны, цягнуўся некалькі дзесяткаў гадоў, але не было выпадку, каб кіраўнікі ВКЛ канцэнтравалі там значныя збройныя сілы. Вялікі князь Альгерд удзельнічаў ў мірных дамовах, але няма ніводнай згадкі ягонай асабістай прысутнасці на чале войска ў раёне канфлікту.

---

313 Духовные и договорныя грамоты великих и удельных князей XIV – XVI вв. С. 26.

Прыкрыццё польскага напрамку было справай Любарта, якому ў выпадку патрэбы прыходзіў з вайсковай дапамогай Кейстут. Калі на той час прысутнасць Кейстута была неабходная ў іншай "гарачай кропцы", то з палякамі хутка заключаўся мір на выгадных для іх умовах, каб потым у лепшыя часы зноў усё адвярнуць назад. Асаджаныя побач з Любартам-Дзмітрыем каля мяжы з Польшчай пляменнікі Карыятавічы і Юры Нарымунтавіч, здаралася, каб захаваць свае ўдзелы, прызнавалі верхавенства польскага караля.

Войны з палякамі праходзілі з пераменным поспехам, пры гэтым польскія войскі ніводнага разу не дасягнулі тэрыторыі ўласна Літвы, а Любарт з Кейстутам неаднаразова глыбока пранікалі на землі каралеўства (у 1376 г. падышлі блізка пад Кракаў – на адлегласць каля 36 км)[314].

Утрымаць для сябе Галіччыну ВКЛ не ўдалося, нягледзячы на прыхільнасць мясцовага баярства да праваслаўных ліцвінскіх князёў. Гэтая лакальная параза дуумвіраў мела важныя гістарычныя наступствы ў развіцці ўкраінска-польскіх адносінаў. Менавіта на тэрыторыі Галіччыны ў складзе Польскага каралеўства быў запачаткаваны шматвекавы ўкраінска-польскі канфлікт.

Мазовія на той час з'яўлялася пастаянным саюзнікам, а часткова васалам Польшчы, але нападаць наўпрост на ліцвінскія тэрыторыі мазавецкія князі не адважваліся. Іх войскі ўдзельнічалі толькі ў польскіх паходах на Валынь, за што таксама рызыкавалі паплаціцца. Так здарылася ў 1368 г., калі Кейстут нечакана правёў глыбокі рэйд па мазавецкай тэрыторыі.

Тэўтонскі ордэн ад 13 ст. заставаўся пастаянным і звыклым ворагам Літвы. Нягледзячы на агульнаеўрапейскі крызіс, браты-рыцары працягвалі сваю справу – загаспадарвалі Прусы і нарошчвалі мілітарны націск на Жамойць і Літву. Акрамя ўласнай збройнай сілы, яны пастаянна прыцягвалі да вайны з Жамойцю і ВКЛ еўрапейскае рыцарства (у форме крыжовых паходаў), якое часта прыбывала ў значнай сіле і на чале з буйнымі феадаламі ці нават манархамі каталіцкіх краінаў. Ліцвінска-русінскае рыцарства (ордэнскія крыніцы пастаянна згадваюць баяраў, як русінаў, так і "літоўцаў", г.зн. балтаўязычнікаў) па баявых вартасцях не саступала заходнееўрапейскаму і баі між імі вяліся з пераменным поспехам. Нягледзячы на адчуванне сваёй вышэйшасці як хрысціянаў правільнай каталіцкай веры, браты-рыцары трымаліся з баярствам як з роўняй. Ордэнскае кіраўніцтва неаднаразова ўступала ў перамовы з ліцвінскімі князямі, часам пры сумесным абедзе ці вячэры; дамаўляліся пра абмен палоннымі, умовы іх выкупу і г.д. Здарыўся таксама прэцэдэнт узгодненай збройнай акцыі супраць трэцяга боку – у 1355 г. ордэнскія войскі атакай на Мазоўша сарвалі польскі паход на Валынь.

Жамойць па-ранейшаму выступала як саюзнік ВКЛ, але фармальна да дзяржавы дуумвіраў не належала. Калі спыняліся ордэнска-ліцвінскія баявыя дзеянні, як у 1358 г. (тады ішлі дыпламатычныя перамовы дуумвіраў з германскім імператарам), то вайна Ордэна з Жамойцю працягвалася.

ВКЛ мела непасрэдныя дачыненні з мацнейшай дзяржавай Цэнтральна-Усходняй Еўропы Венгерскім каралеўствам, якое выступала як саюзнік Польшчы і адначасова высоўвала прэтэнзіі на галіцка-валынскую спадчыну. Дуумвірат уступаў у дыпламатычныя кантакты з германскім імператарам і каталіцкім першасвятаром, якія спрабавалі далучыць ліцвінаў да каталіцкай Еўропы праз іх хрышчэнне.

Заходнееўрапейскія контрагенты ліцвінскіх гаспадароў яўна іх недаацэньвалі як дыпламатаў. Зыходзілі з уяўленняў пра вышэйшасць сваёй веры і грамадскага ладу, лічылі, што гэта без тлумачэнняў ясна ўсім, у тым ліку праваслаўным і язычнікам. Прапаноўвалі дуумвірам як вышэйшую ўзнагароду каралеўскую карону ад папы

[314] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich... T. 1. S. 79 – 86.

рымскага (у той час яшчэ авіньёнскага), не разумеючы, што для тых яна не была такой ужо высокай. Гаспадары ВКЛ дзейнічалі больш у рэаліях Русі, чым Заходняй Еўропы. Тытулу вялікіх князёў ім хапала для прэстыжу, яны не шукалі высокага месца ў заходнееўрапейскай феадальнай іерархіі, тым больш, што ў ёй вышэй над імі стаялі яшчэ папа і імператар.

Пры Гедыміне дзяржава моцна павялічылася, адпаведна вырас маштаб задачаў, таму плённым у замежнай палітыцы аказаўся падзел працы паміж братамі паводле тэрытарыяльнага прынцыпу. Кейстут яшчэ ад часоў бацькі займаўся заходняй палітыкай, найперш адносінамі з Ордэнам, Мазовіяй і Польшчай. Альгерд закройваў шырокамаштабны наступ на Русі.

Як правіла, тагачасныя дзяржавы былі не ўстане весці вайну адразу на некалькі франтоў, таму пастаянна вяліся дыпламатычныя гульні, з мэтай забяспечыць спакой у адносінах з адным суседам, пакуль вялася вайна з другім. ВКЛ яшчэ спраўлялася адначасова з двумя мілітарнымі заданнямі – вайной з Ордэнам і экспансіяй на Русі. Але калі даходзіла яшчэ да вайны з Польшчай ці Венгрыяй, то ўзнікалі праблемы. У рэгіёне дзейнічала хісткая сістэма саюзаў і мірных дамоваў, якія пастаянна змяняліся, учарашнія ворагі сёння мірыліся і ваявалі з другім суседам, заўтра магло быць наадварот.

Разгортванне ліцвінскай экспансіі на вялікіх прасторах, актыўныя вайсковыя аперацыі на аддаленых тэатрах патрабавалі асаблівай ваеннай арганізацыі. Як усюды ў сярэднявеччы асновай яе было феадальнае коннае апалчэнне, якое збіралася ў выпадку вайны. Па прычыне пастаянных знешніх пагрозаў, якія маглі ў любы момант праявіцца ў самых розных кутках агромністай дзяржавы дуумвіры павінны былі мець пры сабе пастаянны вайсковы кантынгент – прыбочныя дружыны ці сілы хуткага рэагавання. Невядомы іх колькасны склад, можна меркаваць, адна – паўтары тысячы прафесійных конных воінаў пры кожным з дуумвіраў. Пра гэта сведчаць хуткасць перамяшчэння ліцвінскіх войскаў з аднаго канца краіны ў другі пры датрыманні рэжыму поўнай сакрэтнасці. Добры прыклад, падзеі 1362 г., калі пасля няўдалай абароны Ковенскага замка ўжо праз тры месяцы войска Альгерда знаходзілася на Падоллі.

Пра прыбочныя дружыны можна знайсці згадкі ў крыніцах. Альгерд, будучы віцебскім князем, выпраўляўся ў паход з воінамі, якіх летапісцы называюць "літвой", і толькі часам ўзгадваюць віцяблянаў[315].

[315] Варонін В. Княжанне Альгерда ў Віцебску. С. 12.

# Падсумаванне

Пра вынікі гаспадарання дуумвірату Альгерда-Кейстута найлепш сведчаць гістарычныя факты. Унушальна выглядае храналогія далучэння новых земляў, асабліва ў 1359 – 1362 г. (беларускае Пасожжа, Мсціслаўская, Ржэўская, Кіеўская, Бранская і ў большасці Падольская землі).

Калі агулам ацэньваць гаспадаранне ў ВКЛ дуумвірату Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў то відныя амаль суцэльныя поспехі, толькі часам перарываныя тактычнымі паразамі. Альгерд і Кейстут амаль цалкам закончылі аб'яднанне беларускіх земляў (за выключэннем часткі Смаленшчыны), далучылі да сваёй дзяржавы большасць Украіны і некаторыя землі Паўночна-Усходняй Русі. Адсюль вынікае лагічная і наогул дакладная выснова пра паспяховае і пераможнае кіраванне ў межах працяглага перыяду тэрытарыяльнага росту ВКЛ (1316 – 1422 г.).

Але калі прыгледзецца бліжэй ды прасачыць ход падзеяў год за годам, крок за крокам, то становіцца відавочным, якімі неймавернымі высілкамі тое дасягалася, як дзяржава пастаянна балансавала на мяжы поспеху і паразы, як усё было крохка і няпэўна, як шмат залежала ад зменлівых знешніх абставінаў і ад асабістых вартасцяў манархаў. І так было не толькі ў ВКЛ, але і ва ўсёй сярэднявечнай Еўропе. Можна прыпомніць шматлікія прыклады сур'ёзных крызісаў у многіх дзяржавах пасля смерці манархаў, у тым ліку выбітных. Напрыклад, распад Сербіі пасля Стэфана Душана; упадак Галіцка-Валынскай дзяржавы пасля выгасання ўласнай дынастыі; аслабленне польскай дзяржавы пасля смерці Казіміра Вялікага, ці Маскоўскага княства пасля адыходу ў лепшы свет Івана Іванавіча. Часта смерць манарха станавілася сігналам для атакі з боку суседзяў, прагных у паўзе міжкаралеўя пашырыць свае ўладанні. Так было пасля смерці апошняга галіцка-валынскага князя (польскі і венгерскі напады), польскага караля Казіміра III (ліцвінскі контрнаступ на Валыні), Альгерда (венгерскі напад) і інш.

У другой палове 14 ст. істотна павялічаная тэрыторыя ВКЛ пры тагачасных марных сродках камунікацыі стварыла сур'ёзныя праблемы ў арганізацыі абароны і кіраванні агромністай краінай. Падзел працы і кампетэнцыі ўлады па тэрытарыяльным прынцыпе на аснове братэрскай згоды паміж дуумвірамі аказаўся эфектыўным спосабам іх вырашэння.

Абодва браты былі падрыхтаваныя да дзяржаўнай працы яшчэ бацькам – вялікім Гедымінам. Таксама заранёў клапаціліся пра сваю змену, рыхтавалі працяг сістэмы дуумвірату ў асобах выбраных сыноў Ягайлы Альгердавіча і Вітаўта Кейстутавіча ("гадавалі ў вялікай дружбе"), але як і іх бацька, не змаглі прадухіліць крызіс пераемнасці цэнтральнай улады, які ўскалыхнуў краіну пасля смерці аднаго з дуумвіраў.

Пры вялікім Гедыміне ВКЛ стала супердзяржавай Усходняй Еўропы і сягнула па дамінацыю ў рэгіёне. Яго сыны Альгерд і Кейстут гэтую дамінацыю здабылі і паднялі ВКЛ да супердзяржавы ў маштабах не толькі Усходняй але і Цэнтральнай Еўропы.

## СПІС СКАРОТАЎ

НПЛ — Новгородская первая летопись
ПСРЛ — Полное собрание русских летописей
AW — Ateneum Wileńskie
KH — Kwartalnik Historyczny
PH —Przegląd Historyczny

## КРЫНІЦЫ

Духовные и договорныя грамоты великих и удельных князей XIV – XVI вв. Москва-Ленинград: Изд-во АН СССР, 1950.
Летапіс вялікіх князёў літоўскіх [у:] Беларускія летапісы і хронікі. Мн.: "Беларускі кнігазбор". С. 47 – 68.
Ливонская хроника Германа Вартберга [в:] Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Е. В. Чешихин-Ветринский. Рига, 1879. Т. 2. С. 81 – 155.
Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. Москва-Ленинград, 1950.
Псковская летопись / изд. М.Погодин. Москва: Университетская типография, 1837.
Псковские летописи. Москва, 1955. Вып. 2.
ПСРЛ. Т. 2. Санкт-Петербург, 1843. Густинская летопись.
ПСРЛ. Т. 4: Новгородская четвертая летопись. Петроград, 1915. Ч. 1. Вып. 1.
ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. Санкт-Петербург, 1856.
ПСРЛ. Т. 8. Продолжение летописи по Воскресенскому списку. Санкт-Петербург, 1859.
ПСРЛ. Т. 10. Никоновская летопись. Санкт-Петербург, 1885.
ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Рогожский летописец. Петроград, 1922.
ПСРЛ. Т. 32.Москва, 1975.
Русская историческая библиотека. Санкт-Петербург. 1880. Т. VI.
Русская летопись по Никонову списку. Ч. 3. До 1362 г. Санкт-Петербург, 1786.
Русская летопись по Никонову списку. Ч. 4. До 1407 г. Санкт-Петербург, 1788.
Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. Санкт-Петербург, 1882.
Хроніка Быхаўца [у:] Беларускія летапісы і хронікі. Мн. "Беларускі кнігазбор", 1997. С. 69 – 166.
http://starbel.narod.ru — Гісторыя Беларусі IX—XVIII стагоддзяў. Першакрыніцы

* * *

Die Chronik Wigands von Marburg /Hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863: Beilage I. Die littauischen Wegeberichte. S. 662 — 711.
Fragmenty Kroniki katedralnej krakowskiej [w:] Kronika Jana z Czarnkowa. Kraków: Universitas, 2001.
Hermanni de Wartberge Chronikon Livoniae / herausgegeben von Ernst Strehlke [in:] Scriptores rerum prussicarum. Leipzig, 1863. B. II. S. 9 – 116.
Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów polskich ksiąg dwanaście. Kraków, 1868. T. 3 Ks. 9 10.
Kronika Jana z Czarnkowa. Kraków: Universitas, 2001.
Scriptores rerum prussicarum. Leipcig, 1863. Bd. 2.
Scriptores rerum prussicanim. Leipcig, 1866. Bd. 3.
Stryjkowski Maciej. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi.Warszawa: Nakład Gustawa Leona Glücksberga, Księgarza, 1846. T. II.
Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae. Ed. A.Theiner. Roma, 1860. T. 1.
Wigandi Marburgensis. Chronicon seu Annales \wyd. J. Voigt, E.Raczyński. Poznań, 1842.

## БІБЛІЯГРАФІЯ


Антонович В.Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти великого князя Ольгерда [у:] Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885. Т. 1.

Брагина Л.М. Итальянский гуманизм. Этические учения 14 – 15 веков. Москва: Высшая школа, 1977.

Бродель Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV – XVIII вв. Т. 3. Москва: Прогресс, 1992.

Бродель Ф. Динамика капитализма. Смоленск: «Полиграмма», 1993.

Бэрк П. Рэнесанс. Мн.: Бел. гуманіт. адукац.-культ. цэнтр, 1997.

Варонін В. Княжанне Альгерда ў Віцебску // Беларускі гістарычны часопіс. 2013. №7. С. 4 – 14.

Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: "Экаперспектыва", 2008.

Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі 16 – 18 ст. Мн.: Беларуская навука, 2008.

Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы (конец XIII – начало XV в.) // Средневековая Русь. Москва, 1996. Вып. 1. С. 76 – 110.

Горский А.А. Москва и Орда. Москва: Наука, 2001.

Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV – XV вв.). Москва: Наука, 1975.

Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы 14 – 16 вв. Москва: Издательство восточной литературы, 1963.

Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 3. До року 1340. Київ: Наукова думка, 1993.

Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. 14 – 16 віки – відносини політичні. Київ: Наукова думка, 1993.

Гудавичюс Э. По поводу так называемой "диархии" в Великом княжестве Литовском // Feodalisms Baltijas regiona. Riga, 1985. L. 35 – 44.

Гуревич А.Я. Средневековый мир: культура безмолвствующего большинства. Москва: Искусство, 1990.

Дыбковская А., Жарын М., Жарын Я. История Польши с древнейших времен да наших дней. Варшава: Научное издательство ПВН, 1995.

Егоров В.Л. Золотая Орда перед Куликовской битвой [у:] Куликовская битва. Москва: Наука, 1980. С. 174 – 213.

Егоров В.Л. Историческая география Золотой Орды в XIII – XIV вв. Москва: Наука, 1985.

Знаменский П.В. История Русской Церкви. С. 57: http://www.mpda.ru/data/245/644/1234/Istoria%20russkoy%20Cerk.pdf

Иглз Р. История Англии. Москва: АСТ: Астрель, 2008.

История Византии в 3 т. Т. 3. Москва: Наука, 1967.

История Европы. Т. 2. Средневековая Европа. Москва: Наука, 1992.

История средних веков. В 2 т. Т. 1: Л.М.Брагина, Е.В.Гутнова, С.П.Карпов и др.; Под ред. З.В.Удальцовой и С.П.Карпова. Москва: Высш. шк., 1990.

История Франции /под общей ред. Ж.Карпантье, Ф. Лебрена в сотрудничестве с Э. Карпантье и др. Санкт-Петербург: Евразия, 2008.

История Франции в 3 т. Т. 1. /ред. А.З. Манфред, В.М. Далин, В.В. Загладин, С.Н.Павлова, С.Д. Сказкин. Москва: Наука, 1972.

История Чехии /под ред. В.И.Пичеты. Москва: Гос. издат. политической литературы, 1947.

История южных и западных славян: В 2 т. Т. 1. Средние века и Новое время: Учебник / Под ред. Г.Ф.Матвеева и З.С. Ненашевой. Москва: Изд-во МГУ, 2001.

Карташев А.В. История Русской Церкви, 1948 // http://krotov.info/history/11/smo/kart103.html#_Toc530282040)

Киприанович Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1899.
Китс Д. История Италии /пер. с англ. Т.М. Котельниковой. Москва: Астрель, 2012.
Клюг Э. Княжество Тверское (1247 – 1485). Тверь: «РИФ ЛТД», 1994.
Костомаров Н.И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Москва: Мысль, 1991.
Краткая история Болгарии с древнейших времен до наших дней /ред. Г.Г.Литаврин. Москва: Наука, 1987.
Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 – 1341 г.). Гародня-Уроцлаў, 2013.
Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст.: планіроўка, культурны слой. Мн.: Навука і тэхніка, 1991.
Кушнярэвіч А.М. Мураваная дабастыённая фартыфікацыя Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Беларуская навука, 2014.
Ле Гофф Ж. Герои и чудеса Средних веков. Москва: Текст, 2011.
Ле Гофф Ж. Рождение Европы. Санкт-Петербург: Alexandria, 2008.
Ле Гофф Ж. Средневековье и деньги: очерк исторической антропологии. Санкт-Петербург: Евразия, 2010.
Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. Москва: Прогресс, Прогресс-Академия, 1992.
Ліцкевіч А. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове 13 – 14 ст.: назва і межы [у:] Гарадзенскі палімпсест 2012. Людзі даўняй Гародні. 15 – 20 ст. Гродна, 2013. С. 10 – 59.
Любавский М. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода в 14 и 15 вв. [в:] Издания Исторического общества при Императорском Московском университете. Рефераты, читанные в 1895 году. Москва.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1893.
Новейший философский словарь /Сост. А.А.Грицанов. Мн.: Изд. В.М.Скакун, 1998.
Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. Москва: Наука, 1982.
Русская митрополия (861 – 1997 гг.). Хронология. http://www.ortho-rus.ru/titles/hronology.htm
Сагановіч Г. Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) [у:] З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Мн.:Беларуская навука, 1997. Вып. 2. С. 116 – 133.
Смирнова Е.Д. и др. Средневековый мир в терминах, именах и названиях: Словарь-справ. Мн.: Беларусь, 1999.
Соболь В.Е. О хронологии культурного слоя Минска позднефеодального периода [в:] Древнерусское государство и славяне. Мн.: Наука и техника, 1983. С. 75 – 76.
Соловьев С.М. Сочинения. В 18 кн. Кн. II. Т. 3 – 4. История России с древнейших времен. Москва: Голос, 1993.
Супотницкий М. В., Супотницкая Н. С. Очерк V. «Чёрная смерть» — второе пришествие чумы в Европу (1346 – 1351) // Очерки истории чумы: В 2-х кн. Кн. I: Чума добактериологического периода Москва: Вузовская книга, 2006. С. 78 – 131. http://supotnitskiy.ru/book/about.html
Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю [в:] Российские и славянские исследования. Вып. 1. Мн.: БГУ, 2004. С. 71 – 80.
Федоров-Давыдов Г.А. Общественный строй Золотой Орды. Москва: Издательство Московского университета 1973.
Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за галицко-владимирское наследие. Санкт-Петербург: Типография В.С.Балашева, 1890.
Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле [у:] Куликовская битва. Мо-

сква: Наука, 1980. С. 142 – 173.
Цемушаў В.М. Ржэўская зямля // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2: Кадэцкі корпус–Яцкевіч. Мн.: БелЭн., 2006. С. 512 – 513.
Шаблюк В.У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння: 14 – 18 ст. Мн.: Беларуская навука, 1996.
Шабульдо Ф. Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретації [у:] Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях/ НАН України. Інститут історії України. Наук. ред. Ф.М.Шабульдо. Упор. О.Д.Брайченко. Київ., 2005. С. 9 – 27.
Шабульдо Ф.М. Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти // Український історичний журнал. 1996. Вип. 2. (№407). С. 3 - 15.
Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. Киев: Наукова думка, 1987.
Яковенко Н. Нарис історії середньовічної та ранньомодерної України. Київ: Критика, 2006.
Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. Москва: Изд-во Московского университета, 1998.

***

Abraham W. Powstanie organizacji Kościoła łacińskiego na Rusi. Lwów, 1904.
Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1: Trudne początki. Poznań: Wydawnictwo naukowe UAM, 1998.
Bułgaria. Zarys dziejów. Warszawa: Książka i Wiedza, 1986.
Chodynicki K. Legenda o męczeństwie czternastu Franciszkanów w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1927. T. IV. S. 53 – 78.
Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // PH. 1914. T. 18. S. 215 – 319.
Chodynicki K.Geneza i rozwój legendy o trzech męczennikach wileńskich // Ateneum Wileńskie. 1927. T. IV. S. 417 – 451.
Czuczyński A. Traktat książąt litewskich z Kazimierzem Wielkim z r. 1366 // KH.1890. R.4. S. 513 – 515.
Dąbrowski J. Ostatnie lata Ludwika Węgierskiego 1380 – 1382. Kraków, 1918.
Fijałek J. Średniowieczne biskupstwa Kościoła wschodniego na Rusi i Litwie na podstawie źródeł greckich // KH. 1896. R. 10. S. 487 – 521; 1897. R. 11. S. 1 – 63.
Gumowski M. Pieczęcie Książąt Litewskich // AW. 1930. R. 7. S. 684 – 725.
Historia Europy Środkowo-Wschodniej. /red. Jerzy Kłoczowski. Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2000. T. 1.
Izdebski Hubert. Historia administracji. Warszawa: Liber, 2000.
Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1: 1377 – 1499. Warszawa, 1930.
Korczak L. Litewska Rada Wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków: Polska Akademia Umiejętności, 1998.
Kosman M. Krwawa przysięga [w:] Kosman M. Litwa pierwotna. Mity, legendy, fakty. Warszawa, 1989. S. 204 – 243.
Kotzebue A. Preußens ältere Geschichte. Hamburg, 1811. B. 2.
Kowalczyk E. Topografia granicy mazowiecko-krzyżackiej w świetle ugody granicznej z listopada 1343 r. // KH. R. 99. 1992. Nr 1. S. 33 - 58.
Kowalczyk-Heyman E. Rajgród 1360 r. Przyczynek do dziejów granicy mazowiecko-krzyżackiej // KH. R. 113. 2006. Nr.3. S. 5 – 18.
Łowmiański H. Agresja zakonu krzyżackiego na Litwę w wiekach 13-15 // Przegląd Historyczny. 1954. T.45. S. 338-371; перавыдадзена ў: Łowmiański H. Prusy-Litwa-Krzyżacy. Warszawa: PIN, 1989. S. 179-226.
Łowmiański H. Uwagi w sprawie podłoża społecznego i gospodarczego unii jagiellońskiej [w:] Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań: Wy-

dawnictwo Naukowe Uniwersytetu im. A.Mickiewicza, 1983. S. 365 – 454.
Manteuffel T. Historia Powszechna. Średniowiecze. Warszawa: PWN, 1995. Manteuffel G. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. Kraków: Universitas, 2007.
Mierzyński A. Przysięga Kiejstuta [w:] Odbitka z: Roczniki Towarzystwa Przyjaciół Nauk Poznańskiego. T. XX. Poznań, 1894.
Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. T. V. Wilno, 1839.
Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. T. VII. Dodatki. Wilno, 1840.
Nazarowa J.L. Inflanckie interesy zakonu krzyżackiego (ideologiczne aspekty problemu) w XIII – XIV w. [w:] Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Materiały z konferencji historyków radzieckich i polskich w Toruniu z r. 1988. Toruń, 1990. S. 93 – 101.
Nikodem J. Jedynowładztwo czy diarchia? Przyczynek do dziejów ustroju Wielkiego Księstwa Litewskiego do końca XIV wieku // Zapiski Historyczne. Poświecone historii Pomorza i krajów bałtyckich. T. LXVIII. Rok 2003. Zeszyt 4. Toruń, 2003. S. 7 – 30.
Nikžentaitis A. Lietuvos ir Lenkijos santykiai 1340 – 1345 m. (Pietvakarių Rusios žemių prijungimo prie Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės laiko problema) [y:] Iš Lietuvos istorijos tyrinėjimų. Vilnius, 1991. P. 31–36.
Nikžentaitis A. Litwa i zakon krzyżacki w końcu XIII i w pierwszej połowie XIV w. (1283 – 1345) [w:] Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Materiały z konferencji historyków radzieckich i polskich w Toruniu z r. 1988. Toruń, 1990. S. 127 – 142.
Nowak T. W sprawie najazdu litewskiego na ziemię łęczycką w 1350 r. // Acta Universitatis Lodziensis. Folia Historica. 1983. Nr 14. S. 83-96.
Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T. 1: Litwa a Moskwa w 13 — 14 wieku.
Paszkiewicz H. Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925.
Puzyna J. Korjat i Korjatowicze // Ateneum Wileńskie. Wilna, 1930. T. VII. Zesz. 3 – 4. S. 425 – 454.
Samsonowicz H. Gospodarcza ekspansja zakonu krzyżackiego nad Bałtykiem w XIV i początku XV w. [w:] Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Materiały z konferencji historyków radzieckich i polskich w Toruniu z r. 1988. Toruń, 1990. S. 143 – 158.
Samsonowicz H. Kazimierz III Wielki [w:] Poczet królów I książąt polskich. Warszawa: Czytelnik, 1980. S. 247 – 254.
Smolka S. Kiejstut i Jagiełło // Pamiętnik Akademii Umiejętności w Krakowie. Wydziały Filologiczny i Historyczno-Filozoficzny. 1889. T. 7.
Stadnicki K. Olgierd i Kiejstut synowie Gedymina W. Księcia Litwy. Lwów-Kraków, 1870.
Śliwa T. Kościół prawosławny w państwie litewskim w 13 – 14 wieku [w:] Chrzest Litwy. Geneza, przebieg, konsekwencje. Lublin 1990. S. 15 – 32.
Śliwiński J. Grodzieńszczyzna i Podlasie w XV – XVI wieku w Wielkim Księstwie Litewskim (wielkoksiążęce puszcze i włości, eksploatacja, pożary). Olsztyn: Uniwersytet Warmińsko-Mazurski w Olsztynie, 2010.
Tęgowski J. Chronologia urodzeń dzieci Giedymina // Genealogia. № 5. 1995. S. 145 - 148.
Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań – Wrocław: Wydawnictwo Historyczne, 1999.
Voigt J. Geschichte Preussens. Königsberg, 1827. B. 1.
Wolf J. Ród Gedymina. Kraków, 1886.
Wyrozumski J. Kazimierz Wielki. Wrocław-Warszawa-Kraków, 2004.
Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Historia 26. Toruń, 1992. S. 55 – 65.
Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. Warszawa: Trio, 2008.

# ХРАНАЛОГІЯ ГАСПАДАРАННЯ ДУУМВІРАЎ

1340 – 1392 г. – змаганне паміж Польшчай і ВКЛ за галіцка-валынскія землі (дэталёва гл. раздзел 1.3.2.).

1340 г. – пачатак ліцвінска-польскай вайны за галіцка-валынскую спадчыну: спробы палякаў і венграў захапіць Галіччыну.

1341 – 1344 г. – гаспадаранне Яўнута Гедымінавіча

1342 г. – Альгерд з Кейстутам дапамаглі Пскову ў вайне з Інфлянцкім ордэнам. Андрэй Альгердавіч стаў пскоўскім князем.

1344 г. – Любарт Гедымінавіч заняў Галіччыну пасля смерці яе галоўнага баярына Дзмітрыя Дзедзька.

зіма 1344/1345 г. – дзяржаўны пераварот, прыход да ўлады дуумвірату Альгерда-Кейстута. Яўнут і Нарымунт ратаваліся ўцёкамі.

**1345 – 1377 г. – гаспадаранне дуумвірату Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў**.

1345 г., пачатак – няўдача буйнога крыжовага паходу супраць Літвы з удзелам магістра Тэўтонскага ордэна, чэшскага караля, венгерскага караля, графа Галандыі, герцага Бурбона і інш.

каля 1346 г. – вяртанне з эміграцыі Яўнута (атрымаў Заслаўе) і Нарымунта (у свой Пінск) Гедымінавічаў.

1348 г., 2 лютага – буйная параза войскаў ВКЛ ў бітве з крыжакамі каля ракі Стрэве.

1348 г. – выбух пандэміі "Чорнай смерці" ў Заходняй Еўропе. (летапісы паведамляюць пра мор у Полацку пад 1348 г., у Смаленску, Кіеве, Чарнігаве і інш. – 1351 г., у Літве – 1365 г.).

1349 г. – спроба польскага караля ахрысціць Кейстута Гедымінавіча.

1349 г., між вераснем - пачаткам снежня – польскі кароль Казімір III захапіў частку Падляша і амаль усю Галіцка-Валынскую зямлю, акрамя усходняй часткі Валыні.

1349/1350 г. – шлюб Альгерда з цверскай князёўнай Уллянай і Любарта з дачкой растоўскага князя.

1350 г. – войскі ВКЛ вярнулі Берасце, Уладзімір-Валынскі, Белз, інш. гарады і пустошылі польскія землі: Лукаўскую, Сандомірскую і Радамскую.

1351 г., лета – венгерска-польскі паход на ВКЛ; дамова Кейстута з венгерскім каралём Людовікам пра саюз і хрышчэнне (прысяга Кейстута 15 жніўня).

1352 г., верасень – польска-ліцвінскае перамір'е замацаваўшае падзел галіцка-валынскай спадчыны (Галіччына да Польшчы, Валынь у ВКЛ) на наступныя паўтары дзесяцігоддзі.

1352 г. – пасвячэнне манаха Феадарыта на кіеўскага мітрапаліта Тарноўскім (балгарскім) патрыярхам, пасля адмовы з боку патрыярха канстанцінопальскага.

1354 г. – аднаўленне Літоўскай мітраполіі (дэталёва гл. раздзел "Рэлігійная палітыка").

1355 г. – польска-венгерска-мазавецкі паход на Літву, перапынены ў выніку атакі ордэнскіх войскаў на Мазовію.

1356 г., першая палова – польска-ліцвінская мірная дамова, верагодна, замацавала падзел галіцка-валынскіх земляў з 1352 г.

1357 – 1358 г. – спробы хрышчэння ліцвінскіх князёў з боку польскага караля і германскага імператара. Альгерд абвясціў праграму ўсходняй палітыкі ВКЛ – аб'яднанне Літвой усходнеславянскіх земляў.

1358 г., 14 жніўня – гарадзенска-мазавецкая памежная дамова (дакладнае акрэсленне паўднёва-заходняй мяжы гістарычнай Літвы).

1359 г. – далучэнне да ВКЛ Мсціслава, земляў басейна дняпроўскай Бярэзіны, Сярэдняга Дняпра і Сожа з гарадамі Прапойск, Чачэрск, Рэчыца і Любеч.

каля 1360 – далучэнне да ВКЛ Бранскай зямлі.

пасля 1360 г. – узмацненне ордэнскай экспансіі супраць ВКЛ.

канец 1361 – пачатак 1362 г. – далучэнне да ВКЛ Кіеўскай зямлі.

1362 г., красавік – ордэнскія войскі захапілі і разбурылі Ковенскі замак.

1362 г., канец лета – паход Альгерда на Чарнігаўшчыну, далучэнне да ВКЛ Чарнігаўска-Северскай і большай часткі Пераяслаўскай зямлі.

1362 г., канец верасня – пачатак кастрычніка – бітва на Сініх Водах, далучэнне да ВКЛ большай часткі Падольскай зямлі.

1366 г., лета – восень – захоп польскім каралём большай часткі Валыні.

1368 г., лета – Кейстут правёў буйны паход у Мазовію, ліцвінскія войскі захапілі замак у Пултуску, спустошылі ваколіцы Плоньска, Чэрвінска, Ловіча і вывелі вялікі палон.

1368 г., лістапад – першы паход Альгерда на Маскву, ліцвінскае войска тры дні стаяла ля Крамля.

1370 г., 17 лютага – Альгерд з Кейстутам пад час паходу ў Прусію правялі жорсткую бітву з крыжакамі каля Рудавы.

1370 г., 5 лістапада – памёр кароль Польшчы Казімір III, пасля чаго Любарт з Кейстутам адным паходам вярнулі землі, страчаныя ў 1366 г.

1370 г., канец лістапада – другі паход Альгерда на Маскву, каля якой ён прастаяў восем дзён і заключыў перамір'е з маскоўскім князем.

канец 1370 – пачатак 1371 г. – пасланне Альгерда да канстанцінопальскага патрыярха з абвінавачваннямі мітрапаліта Алексія ў падтрымцы Масквы.

1372 г., ліпень – трэці паход Альгерда супраць Масквы, заключэнне міру каля Любуцка.

1376 г. – ліцвінскія войскі пад началам Кейстута, Ягайлы, Вітаўта, Любарта і Юрыя Нарымонтавіча правялі спусташальны паход на Польшчу.

1377 г., травень – смерць вялікага князя Альгерда.

1377 г. – венгерскі і польскі кароль Людовік захапіў Белз, Холм, Гародлу. Яго леннікам стаў Любарт Гедымінавіч.

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

# ПАКАЗАЛЬНІК ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ



**Краўцэвіч Аляксандр Канстанцінавіч**, археолаг, гісторык-медыевіст, доктар гістарычных навук (1999 г.), сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (2005 г.). Даследуе сярэднявечную і новачасную гісторыю Беларусі.

Нарадзіўся 13.09.1958 г. у вёсцы Лупачы Мастоўскага раёна на Гарадзеншчыне. Закончыў гістфак БДУ (1981 г.), аспірантуру Інстытута археалогіі АН СССР, г. Масква (1984 г.), дактарантуру БДУ (1999 г.). У 1996 – 1997 г. праходзіў навуковую стажыроўку ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Ад 1999 г. выкладае ў беларускіх і польскіх ВНУ.

**Асноўныя працы:**

1. **“Майстар – наш продак”** (Менск: Народная асвета, 1990. – 88 с. іл.);
2. **“Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 ст.: Планіроўка, культурны слой”** (Менск: Навука і тэхніка, 1991. – 171 с. іл.);
3. **“Стары Мір”** (Менск: Навука і тэхніка, 1993, у сааўтарстве з Г.М.Якшук. – 85 с. іл.);
4. **“Тэўтонскі ордэн ад Ерусаліма да Грунвальда”** (Менск: Навука і тэхніка, 1993. – 46 с. іл.);
5. **“Гродзенскі замак”** (Менск: Юнацтва, 1993. – 47 с. іл.);
6. **“Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка”** (Менск: Навука і тэхніка, 1994. – 152 с. іл., у сааўтарстве з Н.І.Здановіч і А.А.Трусавым);
7. **“Вялікі князь Вітаўт”** (Менск: Юнацтва, 1998. – 48 с. іл.);
8. **“Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага”** (Менск: Беларуская навука, 1998. – 208 с.; другое выданне: Жэшаў 2000; польскае выданне: Powstanie Wielkiego Księstwa Litewskiego. Białystok, 2003; чацвёртае выданне, на беларускай мове: Беласток, 2008);
9. **“Міндаўг – Mindauh. Пачатак гаспадарства”** (Менск: Мастацкая літаратура, 2005. – 163 с. іл.);
10. **“Рыцары і дойліды Гародні”** (Уроцлаў, 2009. – 105 с. іл., увайшлі тры ранейшыя, наноў адрэдагаваныя: “Гарадзенскі замак”, “Вялікі князь Вітаўт”, “Майстар – наш продак”);
11. **“Белорусы: нация Пограничья”** (Вильнюс: ЕГУ, 2011. – 212 с., у сааўтарстве з А.Смалянчуком і С.Токцем);
12. **“Гедымін (1316 – 1341). Каралеўства Літвы і Русі = Hiedymin. (1316 – 1346). Kingdom of Lithuania and Rutenia”** (Менск: Татарнікава С.Ю., 2012. – 152 с. іл.);
13. **“Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. Ад пачатку гаспадарства да каралеўства Літвы і Русі (1248 – 1341 г.)”.** (Гародня-Уроцлаў: Гарадзенская бібліятэка, 2013. – 184 с. карта);
14. **“Краіна пагранічча: выбраныя творы”.** Смаленск: Інбелкульт, 2014. – 518 с.

**Шукайце кнігі з лагатыпам "ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ" ў кнігарнях, інтэрнэт-кнігарнях, а таксама ў прыватных распаўсюднікаў:**

Юры ГАРДЗЕЕЎ "Тапанімія старажытнай Гародні (XII-XVIII стст.)"
Аляксандр КРАЎЦЭВІЧ "Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248-1341)"
Зоська ВЕРАС "Я помню ўсё"
Наталля МАЛІНОЎСКАЯ-ФРАНКЕ "Забыты вернісаж". Творчасць мастакоў Гарадзеншчыны 1860-х – 1930-х гг.
Зянон ПАЗЬНЯК "Добрая фатаграфія"
Ларыса ГЕНІЮШ "Лісты з Зэльвы"
"Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада"
Біяграфія гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы
Васіль БЫКАЎ. "Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі"
Юры ГАРДЗЕЕЎ "Магдэбургская Гародня"
Данута БІЧЭЛЬ "Хадзі на мой голас"
Пётр СЯЎРУК "Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху"
Аляксей КАРПЮК "Развітанне з ілюзіямі"
"Зрабаваны народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі"
Алесь КРАЎЦЭВІЧ "Рыцары і дойліды Гародні"
Сяргей ШАПРАН "Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця" Т. 1-2
Апанас ЦЫХУН "...Улюбёны я ў сваю зямлю"
Дзмітры ЛЮЦІК "Нёманскі Фронт. 12-25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна ў данясеннях, успамінах, статыстыцы"
Юры ГУМЯНЮК "Назаві мяне геніем"
Гародня. 50 год без Фары Вітаўта (мультымедыйны дыск)
Гародня X-XX ст. Каралеўскі горд з правінцыйным лёсам
Апанас ЦЫХУН "Скарбы народнай мовы" (слоўнік Гарадзеншчыны)
Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ "Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны"
Мікалай Быхаўцаў "Паўстанне 1863-1864 гадоў у Ваўкавыскім павеце"

**Серыя "Сучасная гарадзенская проза"**
Віктар ШАЛКЕВІЧ "Рэквіем па непатрэбных рэчах"
Аркадзь ЖУКОЎСКІ "Галс"
Віктар САЗОНАЎ "Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі"
Валянцін ДУБАТОЎКА "Чорная воля"
Віктар САЗОНАЎ "Паэзія прозы"

**Матэрыялы міжнароднай навуковай гістарычнай канферэнцыі "Гарадзенскі палімпсест"** - 2008, 2009, 2010, 2011, 2012

**Гарадскі гістарычна-культуралагічны часопіс**
"Гарадзенскі гадавік - 2012"
"Гарадзенскі гадавік - 2013"
"Гарадзенскі гадавік - 2014"



# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ПРЫ ГЕДЫМІНЕ (1341 г.)




пачатковая тэрыторыя ВКЛ

ВКЛ пры канцы гаспадарання Гедыміна

незаселенае пруска-ліцвінскае пагранічча

саюзныя і залежныя землі

мяжа ўплываў ВКЛ пры Гедыміне

межы дзяржаў і земляў

замкі Взаходняга шчыта Літвыш
*(некаторыя ў працэсе будовы)*